# Змест

# Вяртанне наратыву: развагі пра новую старую гісторыю*

**Лорэнс Стоўн**

## I

Гісторыкі заўсёды апавядалі гісторыі. Ад Фукідыда з Тацытам да Гібона з Маколеем іхная найвялікшая амбіцыя заўжды палягала ў тым, каб выкласці свае аповеды жывою, элегантнаю прозаю. Гісторыя лічылася галіною рыторыкі. Аднак у апошнія пяцьдзесят гадоў дзеячы т. зв. „новае гісторыі“, якія займаліся перыядам пасля II сусветнай вайны[1], і ўважалі сябе за авангард свае прафесіі, зняславілі гэтую апавядальніцкую функцыю. У Францыі апавядальніцтва адрынулі як *l'histoire événementielle* („гісторыю падзеяў“). Цяпер, аднак, я заўважаю прыкметы падводнае плыні, якая зноў зацягвае шмат каго з вядомых „новых гісторыкаў“ у тую ці іншую форму наратыўнасці.

Перш чым разбірацца ў прыкметах такое змены і разважаць пра магчымыя яе прычыны, варта праясніць некаторыя паняцці. Па–першае — што мы будзем называць „наратывам“ (*narrative*)[2] . Наратыў азначае арганізацыю матэрыялу ў храналагічнай паслядоўнасці і канцэнтрацыю зместу вакол аднаго звязнага сюжэту, хоць бы і з пабочнымі лініямі. Два асноўныя адрозненні структурнае гісторыі ад наратыўнае

*Я вельмі абавязаны маёй жонцы і маім калегам — прафесарам Робэрту Дэрнтану, Наталі Дэйвіс, Фэліксу Джыльбэрту, Чарльзу Джыліспі, Тэадору Рабу, Карлу Шорске і многім іншым за каштоўныя заўвагі да першага варыянту гэтага нарысу. Бальшыню іхных прапановаў я прыняў, аднак адказнасць за канчатковы вынік нясу толькі я.*

* Stone, Lawrence. The revival of narrative: reflections on a new old history, — Chapter 3 from his book: The past and the present. Boston, London and Henley, 1981. P. 74—96.

[1] Гэтых „новых гісторыкаў“ апошняга часу не след блытаць з амерыканскімі „новымі гісторыкамі“ ранейшага пакалення, такімі, як Чарльз Бэрд і Джэймз Гарвэй Робінсан.

[2] Пра гісторыю наратыву гл.: Gossman L. Augustin Thierry and Liberal Historiography // History and Theory, Beiheft 15, 1979, і White H. Metahistory: the Historical Imagination in the Nineteenth Century. Baltimore, 1973. Я ўдзячны прафэсару Р.Стэрну за тое, што ён звярнуў маю ўвагу на апошнюю з названых кніг.

наступныя: яна будуецца апісальна, а не аналітычна, і ў цэнтры яе зацікаўленняў знаходзіцца чалавек, а не абставіны. Таму яна мае справу не столькі з калектыўным і статыстычным, колькі з асабістым і канкрэтным. Наратыў — адзін з спосабаў гістарычнага пісьма, але ён уплывае на змест і метад гісторыі і ў сваю чаргу знаходзіцца пад іхным уплывам.

Я маю тут на ўвазе не такі наратыў, які ўжываецца звычайным хранікёрам–антыкварыем або аналістам. Той выклад, пра які кажу, зыходзіць з пэўнага „ўнутранага прынцыпу“ (*pregnant principle*), мае сваю тэму і аргументацыю. Для Фукідыда такою тэмаю былі Пэлапанэскія войны і іхнае катастрафічнае ўздзеянне на грэцкае грамадства і палітыку; для Гібона — тое, што стаіць у назове ягонае працы; для Маколея — нараджэнне ў бурах рэвалюцыйнае палітыкі ліберальнага дзяржаўнага ладу, пры якім насельніцтва бярэ чынны ўдзел у дзяржаўным жыцці (*liberal participatory constitution*). Біёграф апавядае гісторыю жыцця пэўнага чалавека ад нараджэння і да смерці. Ніхто з гісторыкаў, якія згодна з маім вызначэннем належаць да наратыўнае плыні, не можа цалкам пазбегнуць аналізу, але аналіз ніколі не бывае тым каркасам, вакол якога будуецца ягоная праца. І, нарэшце, такому гісторыку надта рупіць рытарычны аспект выкладу. З поспехам ці не, але ён імкнецца да стылістычнае зграбнасці, дасціпнасці і афарыстычнасці. Яму мала абы–як паскідаць словы на старонку і пакінуць іх там, як тыя каровячыя праснакі на полі, — маўляў, раз гісторыя ёсць навука, дык яна выдатна можа абысціся і без дапамогі з боку мастацтва.

Не трэба лічыць, што вызначаныя тут тэндэнцыі закранаюць пераважную бальшыню гісторыкаў. Я хачу толькі звярнуць увагу на значны зрух у змесце, метадзе і стылі працы, які адбыўся сярод надта вузкае, але і надта ўплывовае праслойкі прафесійных гісторыкаў. Гісторыя заўсёды жыла на шмат дамоў, і так мусіць быць і надалей, калі мы хочам, каб у будучыні яна таксама квітнела. Трыумф кожнага жанру і ўсялякае школы на справе заўжды вядзе да вузкага сектанцтва, нарцысізму і самахвальства, да падазронасці або тыраніі ў дачыненні да іншадумцаў і да іншых прыкрых і самагубных праяваў. Такія выпадкі знаёмыя нам усім. У некаторых краінах і навуковых установах „новыя гісторыкі“ за апошнія 30 г. гэтак перарабілі ўсё на свой капыл, што стан справаў там нельга назваць здаровым; але не здаравей будзе і тады, калі недзе гэтаксама запануе новая тэндэнцыя (пры ўмове, што гэта сапраўды тэндэнцыя).

Важна таксама зазначыць раз назаўжды, што гэты нарыс мае на мэце акрэсленне заўважаных аўтарам зменаў, якія адбыліся ў гістарычным стылі, а не ацэнку таго, які спосаб пісаць гісторыю лепшы, а які горшы. У кожным гістарыяграфічным доследзе цяжка пазбег-

нуць ацэначных меркаванняў, але гэты нарыс не мае на мэце ўзняць нейкі сцяг або распачаць нейкую рэвалюцыю. Аўтар не будзе нікога змушаць выкінуць свой калькулятар і ўзяцца распавядаць сюжэтныя гісторыі.

## II

Перш чым пачаць разгляд апошніх тэндэнцыяў, трэба азірнуцца назад, каб патлумачыць: чаму каля паўстагоддзя таму шмат хто з гісторыкаў адмовіўся ад 2000–гадовае традыцыі, згодна з якою наратыў прызнаваўся за ідэальны спосаб пісаць гісторыю. Перадусім, насуперак палкім запэўненням у адваротным, у гістарычных колах пашырылася не пазбаўленая слушнасці думка, што адказы на пытанні „Што?“ і „Як?“, дадзеныя ў храналагічным стылі і нават аб’яднаныя логікай пэўнае стрыжнёвае аргументацыі, на справе не надта дапамагаюць адказаць на пытанне „Чаму?“. Апроч таго, тагачасныя гісторыкі знаходзіліся пад магутным уздзеяннем як марксісцкае ідэалогіі, так і метадалогіі грамадскіх навук. Таму яны цікавіліся грамадствамі, а не асобамі, і былі перакананыя, што можна распрацаваць нейкую „навуковую гісторыю“, якая з цягам часу сфармулюе абагульненыя законы гістарычных зменаў.

Тут мы мусім яшчэ раз прыпыніцца, каб вызначыць, што маецца на ўвазе пад „навуковай гісторыяй“. Упершыню паняцце „навуковае гісторыі“ сфармуляваў у XIX ст. Ранке. У яго аснове ляжала вывучэнне матэрыялаў з новых крыніц. Лічылася, што пільная тэкстуальная крытыка нераскрытых дагэтуль дакументаў, пахаваных па дзяржаўных архівах, раз назаўжды ўсталюе факты палітычнае гісторыі. У апошнія 30 г. у гістарычнай навуцы пашырыліся тры вельмі адрозныя плыні навуковай гісторыі, якія грунтаваліся не на новых матэрыялах, а на новых мадэлях ці метадах: марксісцкая эканамічная мадэль, французская экалагічна–дэмаграфічная мадэль і амерыканская „кліяметрычная“ метадалогія. Згодна са старою марксісцкаю мадэллю, гісторыя рухаецца ў дыялектычным працэсе ад тэзісу да антытэзісу, цераз барацьбу класаў, якія ўтвараюцца шляхам зменаў у кантролі над сродкамі вытворчасці. У 1930–я г. гэтая канцэпцыя спарадзіла надта спрошчаны эканамічна–сацыяльны дэтэрмінізм, які закрануў багата тагачасных маладых навукоўцаў. Менавіта паняцце навуковае гісторыі марксісты моцна баранілі аж да канца 1950–х г.; пра гэта сведчыць той факт, што часопіс *Past and Present* аж да 1959 г. не мог змяніць свой падзагаловак з „Часопісу навуковай гісторыі“ на „Часопіс гістарычных даследаў“. Варта зазначыць, што цяперашняе пакаленне „неа–марксістаў“, здаецца, адмовілася ад бальшыні падставовых дагматаў традыцыйнага марксізму

1930–х. Цяпер яны гэтаксама як і іхныя калегі — не–марксісты, цікавяцца дзяржавай, палітыкай, рэлігіяй і ідэалогіяй і, здаецца, перасталі прэтэндаваць на імкненне да „навуковае гісторыі“.

У іншым сэнсе выразам „навуковая гісторыя“ карыстаецца з 1945 г. французская гістарычная школа „Аналаў“, галоўным прадстаўніком якое, хоць і даволі скрайным, можа лічыцца прафесар Э. Ле Руа Лядуры. Згодна з гэтаю школай, ключавая зменная ў гісторыі — зрухі ў экалагічнай раўнавазе паміж запасамі харчавання і колькасцю насельніцтва; гэтая раўнавага павінна вызначацца шляхам квантытатыўнага вывучэння прадукцыйнасці сельскае гаспадаркі, дэмаграфічных зменаў і цэнаў на ежу на працягу даўжэйшага часу. Такую разнавіднасць „навуковае гісторыі“ спарадзіла камбінацыя квантыфікацыйнае метадалогіі з даўнымі французскімі зацікаўленнямі гістарычнай геаграфіяй і гістарычнай дэмаграфіяй. Ле Руа Лядуры наўпрост казаў, што „гісторыя, якая не паддаецца квантыфікацыі, не можа прэтэндаваць на навуковасць“[3] .

Трэцяе значэнне тэрміну „навуковая гісторыя“ характэрнае перадусім для Амерыкі. Тамтэйшыя „кліаметрысты“ на ўвесь голас цвердзяць, што толькі іхная адмысловая квантытатыўная метадалогія мае права звацца навуковаю[4]. Згодна з імі, уся супольнасць гісторыкаў падзяляецца на дзве часткі. Ёсць „традыцыяналісты“, у лік якіх уваходзяць як старамодныя гісторыкі–наратывісты, што займаюцца найбольш дзяржаўнай палітыкай і гісторыяй дзяржаўнага ладу, так і „новыя“ гісторыкі школаў „Аналаў“ і *Past and Present*, што спецыялізуюцца на эканамічнай, дэмаграфічнай і сацыяльнай гісторыі — нягледзячы на тое, што апошнія таксама карыстаюцца квантыфікацыяй і што абедзве групы, асабліва ў Францыі, ужо некалькі дзесяцігоддзяў зацята варагуюць міжсобку. Зусім асобна ад іх стаяць навуковыя гісторыкі — кліаметрысты, якіх яднае метадалогія, а не той ці іншы прадмет даследу або разуменне прыроды гістарычных зменаў. Яны будуюць парадыгматычныя (часам супярэчныя фактам) мадэлі светаў, якія ніколі не існавалі ў рэальным жыцці, і правяраюць валіднасць сваіх мадэляў з дапамогай найскладанейшых матэматычных і алгебраічных формулаў, апрацоўваючы паводле іх электронным чынам велізарныя масы звестак. Іхная спецыяльнасць — эканамічная гісторыя, і ў Злучаных Штатах яны фактычна запанавалі ў гэтай галіне; апроч таго, яны рабілі маштабныя наезды

[3] Le Roy Ladurie E. The territory of the Historian. New York, 1979. P. 15 і Part I, у розных месцах.

[4] У сваім неапублікаваным дакладзе „Навуковая гісторыя і традыцыйная гісторыя“ (1979) Р.У.Фогель падае найпераканаўчую аргументацыю, што яна павінна лічыцца адзінай і адзіна праўдзівай „навуковай“ гісторыяй. Але я застаюся пры сваёй думцы.

ў гісторыю дэмакратычнае палітыкі апошняга часу, стасуючы свае метады да выбарчых паводзінаў — як выбаршчыкаў, так і выбіраных. Гэтыя праекты, грандыёзныя, як будоўля пірамідаў, непазбежна патрабуюць калектыўнае працы: пад аўтакратычным наглядам кіраўніка групы цэлыя брыгады руплівых асістэнтаў збіраюць зыходныя звесткі, кадуюць іх, праграмуюць і прапускаюць праз кампутар. Вынікі гэтае працы не паддаюцца праверцы ніводным з традыцыйных метадаў, бо ўсе зыходныя звесткі не паведамляюцца ў заўвагах, а застаюцца пахаванымі ў кампутарных стужках, якімі распараджаюцца толькі самі даследчыкі. Але ў кожным разе гэтыя вынікі часта выступаюць у настолькі цёмнай матэматычнай форме, што застаюцца незразумелымі для бальшыні прафесійных гісторыкаў. Адзінае суцяшэнне для збянтэжаных прафанаў у тым, што самі сябры гэтага святарскага ордэну заўзята і публічна адмаўляюць адзін аднаму ў слушнасці сваіх знаходак.

Тры гэтыя тыпы „навуковае гісторыі“ да некаторае ступені перакрываюцца, аднак, прынамсі ў вачох сваіх прыхільнікаў, кожны з іх мае досыць адметных рысаў, каб апраўдаць існаванне гэтае траістае тыпалогіі.

Іншыя „навуковыя“ тлумачэнні гістарычных зменаў, здабыўшы на нейкі час прыхільнасць навукоўцаў, неўзабаве выходзілі з моды. Французскі структуралізм даў бліскучыя ўзоры тэарэтычнага мыслення, але ніводнае значнае гістарычнае працы — калі не лічыць творы Мішэля Фуко працамі па гісторыі, а не па філасофіі маралі з гістарычнымі прыкладамі. Парсаніянскі функцыяналізм, якому папярэднічала „Навуковая тэорыя культуры“ Маліноўскага, праіснаваў даволі доўга, нягледзячы на тое, што яму не ўдалося вытлумачыць ні зменаў, якія адбываюцца з цягам часу, ні таго відавочнага факту, што матэрыяльныя і біялагічныя патрэбы грамадства, з аднога боку, і ягоныя інстытуты і каштоўнасці, з другога, заўсёды адпавядалі адно аднаму далёка не дасканала, а часта нават вельмі слаба. Як структуралізм, так і функцыяналізм прапаноўвалі каштоўныя канцэпцыі, але ніводзін з іх і блізка не падыйшоў да таго, каб даць гісторыкам усеабдымнае навуковае тлумачэнне гістарычных зменаў.

Усе гэтыя тры асноўныя групы навуковых гісторыкаў, росквіт якіх прыпадаў на перыяды адпаведна з 1930–х да 1950–х, з 1950–х да сярэдзіны 1970–х і на 1960–я ды пачатак 1970–х, былі цалкам пераканаными ў вырашальнасці асноўных праблемаў гістарычнага тлумачэння і ў тым, што з цягам часу яны патрапяць іх вырашыць. Яны спадзяваліся, што некалі, напэўна, удасца знайсці адназначныя рашэнні такіх цяжкіх праблемаў, як прычыны „вялікіх рэвалюцыяў“, пераходу ад феадалізму да капіталізму, ад традыцыйных грамадстваў да сучасных. Гэты палкі аптымізм, так відавочны паміж 1930–мі і 1960–мі г. у першых дзвюх групах „навуковых гісторыкаў“, падтрымліваўся і верай у тое, што матэ-

рыяльныя ўмовы, такія, як змены ў суадносінах паміж колькасцю насельніцтва і запасамі харчавання, у сродках вытворчасці і класавай барацьбе, ёсць вядучыя сілы гісторыі. Шмат для каго, хоць і не для ўсіх, інтэлектуальныя, культурныя, рэлігійныя, псіхалагічныя, юрыдычныя, а нават палітычныя падзеі былі не больш чым эпіфеноменамі. Паколькі змест новага жанру гістарычнага даследу дыктаваўся ў значнай меры эканамічным і/ці дэмаграфічным дэтэрмінізмам, то для арганізацыі і падачы звестак аналітычны спосаб выкладу быў зручнейшы за наратыўны, а самі звесткі мусілі, пакуль магчыма, насіць колькасны характар.

Французскія гісторыкі, якія сталі ў 1950–х і 1960–х г. на чале гэтага смелага пачыну, распрацавалі стандартную іерархічную класіфікацыю: на першым месцы, як па парадку, так і паводле значнасці, выступалі факты эканомікі і дэмаграфіі, далей сацыяльная структура, і нарэшце — інтэлектуальныя, рэлігійныя, культурныя і палітычныя падзеі. Тры гэтыя ярусы разглядаліся як нешта накшталт паверхаў у доме: кожны з іх абапіраўся на ніжэйшы, але верхнія зусім або амаль не мелі ніякага зваротнага ўплыву на ніжнія. У руках некаторых гісторыкаў новая метадалогія і новыя пытанні прыносілі плён амаль што сенсацыйны. Першыя кнігі Фэрнана Брадэля, П'ера Губэра і Эмануэля Ле Руа Лядуры вартыя стаць нароўні з найвялікшымі гістарычнымі працамі ўсіх вякоў і народаў[5]. Ужо толькі яны адны цалкам апраўдваюць прыняццё цэлым пакаленнем аналітычнага і структурнага падыходу.

У выніку, аднак, узнялася магутная хваля гістарычнага рэвізіянізму. Паколькі рэальную значнасць меў толькі першы з трох ярусаў, а галоўным прадметам даследу была не культура эліты, а матэрыяльнае становішча масаў, то зрабілася магчымым казаць пра гісторыю кантынентальнай Еўропы ад XIV да XVIII ст. як пра „нерухомую гісторыю“ (*l'histoire immobile*). Прафесар Ле Руа Лядуры даводзіў, што за гэтыя пяць стагоддзяў не змянілася нічога — абсалютна нічога! — паколькі грамадства ўпарта заставалася ў вязніцы сваёй традыцыйнай і нязменнай „экадэмаграфіі“ (*éco–démographie*)[6] . Для гэтае новае мадэлі гісторыі такія рухі, як Рэнесанс, Рэфармацыя, Асветніцтва і ўзнікненне сучаснае дзяржавы папросту не існавалі. Яна цалкам ігнаравала грандыёзныя трансфармацыі культуры, мастацтва, архітэктуры, літаратуры, рэлігіі, адукацыі, навукі, права, дзяржаўнага ладу, дзяржаўнага будаўніцтва, бюракратыі, вайсковае арганізацыі, фіскальных захадаў і г.д., якія

[5] Braudel F. La Mediterranée au Temps de Philippe II. Paris, 1949; Goubert P. Beauvais et le Beauvaisis de 1600 a 1730. Paris, 1966; Le Roy Ladurie E. Les Paysans du Languedoc. Paris, 1966.

[6] Le Roy Ladurie E. „L'histoire immobile“, у яго Le Territoire de l'Historien, II, 1978 (напісана ў 1973 г.).

адбываліся ў гэтыя пяць стагоддзяў у вышэйшых эшалонах грамадства. Такая дзіўная слепата вынікала з цвёрдага перакanання, што ўсе гэтыя сферы належаць да трэцяга ярусу, да чыста павярхоўнае надбудовы. Калі некаторыя навукоўцы гэтае школы пачалі апошнім часам стасаваць свае выпрабаваныя статыстычныя метады да такіх праблемаў, як пісьменнасць, змесціва бібліятэк і ўздым і заняпад хрысціянскае пабожнасці, гэтую сваю дзейнасць яны назвалі стасаваннем квантыфікацыйных метадаў да *le troisiume niveau*.

## III

Першая прычына цяперашняга адраджэння наратыву — распаўсюджанае расчараванне ў дэтэрмінісцкай эканамічнай мадэлі гістарычнага тлумачэння і ў той трохяруснай іерархічнай структуры, якую яна стварыла. Раскол паміж сацыяльнай і інтэлектуальнай гісторыяй прынёс надта прыкры плён. Абедзве яны апынуліся ў ізаляцыі адна ад адной, засяродзіліся кожная сама на сабе і надта звузілі свой абсяг. У Амерыцы інтэлектуальнай гісторыі, якая некалі была флагманам гістарычнае навукі, прыйшлося так нялёгка, што на нейкі час яна нават страціла веру ў сябе[7]; сацыяльная гісторыя тым часам расквітнела як ніколі раней, але як толькі вера ў чыста эканамічныя і сацыяльныя тлумачэнні пачала слабець, то выявілася, што гонар гэтае галіны гістарычнае навукі за свае ізаляваныя дасягненні быў толькі прадвеснікам заняпаду жыццёвых сілаў. Факты гісторыі (*the historical record*) прымусілі сёння шмат каго з нас прызнаць, што паміж такімі рэчамі, як лік насельніцтва, клімат, забяспечанасць ежай, каштоўнымі металамі, цэны і г. д., з аднаго боку, і каштоўнасцямі, ідэямі і звычаямі, з другога, існуюць надзвычай складаныя двухбаковыя сувязі. Разам з сацыяльнымі — статуснымі або класавымі — адносінамі яны ўтвараюць адзіную семантычную структуру (*web of meaning*).

Шмат хто з гісторыкаў цяпер лічыць, што культура групы і нават воля асобы патэнцыйна становяць не менш, калі не больш, важныя прычыннікі зменаў, чым безасабовыя сілы матэрыяльнае вытворчасці і дэмаграфічнага росту. Няма ніякіх тэарэтычных прычын, чаму першыя заўсёды павінны дыктавацца апошнімі, а не наадварот; і сапраўды, факты падаюць багата прыкладаў адваротнае залежнасці[8]. Так, кантрацэп-

[7] Darnton E. „Intellectual and Cultural History“, History in our Time, ed. M.Kammen. Ithaca, 1980.

[8] Zuckerman M. Dreams that Men dare to dream: the Role of Ideas in Western Modernizaton // Social Science History. V.2,3.1978.

цыя — прадукт яўна не толькі эканамічных абставінаў ці тэхнічнае вынаходлівасці, але не ў меншай меры і стану свядомасці. Доказ слушнасці такога меркавання можна ўбачыць у шырокім распаўсюджанні гэтае практыкі па ўсёй Францыі задоўга да эпохі індустрыялізацыі, амаль за стагоддзе да таго, як гэты звычай пашырыўся ў іншых заходніх краінах, і пры адсутнасці моцнага папуляцыйнага ціску (хіба што на дробных фермах). Гэтаксама мы цяпер ведаем, што нуклеарная сям'я ўзнікла раней за індустрыяльнае грамадства, а паняцці прыватнасці, кахання і індывідуалізму ўзніклі падобным жа чынам напрыканцы XVII і на пачатку XVIII ст. у Англіі ў найтрадыцыйнейшых сектарах традыцыйнага грамадства і не былі вынікам пазнейшых эканамічных і сацыяльных працэсаў мадэрнізацыі. Пурытанская этыка нарадзілася з рэлігійнага руху, які паўстаў у англасаксонскіх супольнасцях Англіі і Новай Англіі за стагоддзі да таго, як з'явілася патрэба ў руцінных мадэлях працы і была збудавана першая фабрыка. Тым часам паміж пісьменнасцю і урбанізацыяй, з аднаго боку, і індустрыялізацыяй, з другога, існуе (прынамсі што да Францыі XIX ст.) і адваротная карэляцыя. Узровень пісьменнасці аказваецца кепскім індыкатарам „сучаснага" ладу думак (*attitudes*) або „сучасных" прафесіяў[9]. Вось жа, повязі паміж культурай і грамадствам сапраўды надта складаныя, і яны, як выглядае, варыююцца ад часу да часу і ад месца да месца.

Цяжка ўстрымацца ад падазрэння, што сваю ролю тут адыграла і аслабленне ідэалагічнай заангажаванасці заходніх інтэлектуалаў. Калі зірнуць на тры самыя палкія гістарычныя дыскусіі 1950–х і 1960–х г. — пра тое, на ўздыме ці ў заняпадзе знаходзілася шляхта ў Англіі XVII ст., рос ці падаў на ранніх этапах індустрыялізацыі рэальны прыбытак рабочага класу, а таксама аб прычынах, прыродзе і наступствах амерыканскага рабства, — дык мы пабачым, што ўсе гэтыя спрэчкі ў сваёй аснове падаграваліся бягучымі ідэалагічнымі клопатамі. На той час здавалася страшэнна важна ведаць, ці мае слушнасць марксісцкая інтэрпрэтацыя гісторыі, і таму гэтыя пытанні набылі актуальнасць і выклікалі вялікае ўзрушэнне. Інтэлектуальны заняпад марксізму і прыняццё на Захадзе мяшанае эканомікі прыглушылі ідэалагічную кантраверсію; адначасна з гэтым гістарычны доследстраціў імпэт да вялікіх пытанняў „Чаму?". Праўдападобна, паміж дзвюма гэтымі тэндэнцыямі існуе некаторая залежнасць.

Эканамічны і дэмаграфічны дэтэрмінізм падрываўся не толькі прыняццём ідэяў, культуры і нават індывідуальнае волі за незалежныя зменныя. Яго падрывала і адраджэнне прызнання таго факту, што структу-

[9] Furet F., Ozouf J. Lire et Ecrire. Paris, 1977. Гл. таксама Lockridge K. Literacy Colonial New England. New York, 1974.

ра грамадства, размеркаванне багацця, аграрная сістэма і нават культура эліты вельмі часта дыктаваліся палітычнай і вайсковай уладай з дапамогаю грубай сілы. Класічныя прыклады — нарманская заваёва Англіі ў 1066 г. і, магчыма, тыя розныя шляхі, якія абралі сабе ў XVI—XVII ст. Усходняя Еўропа, Паўночна–Усходняя Еўропа і Англія[10]. „Новых гісторыкаў“ 1950–х і 1960–х г., несумненна, будуць жорстка крытыкаваць за тое, што яны, захопленыя сацыяльнымі, эканамічнымі і дэмаграфічнымі сіламі гісторыі, не аддалі належнае ўвагі палітычнай арганізацыі, працэсу прыняцця рашэнняў і акалічнасцям бітваў і аблогаў, разбурэнняў і заваёваў. Праз флуктуацыі палітычнае ўлады і перамены ваеннае фартуны паўставалі і гінулі цывілізацыі. Надта дзіўна, што тыя, хто ўважаў сябе за авангард гістарычнае навукі, так доўга не звярталіся да гэтых рэчаў. На практыцы бальшыня гісторыкаў надалей працягвала займацца палітычнай гісторыяй, што, праўда, ужо не лічылася верхам наватарства. Запозненае прызнанне важнасці ўлады, асабістых палітычных рашэнняў асобнага чалавека і ваенных выпадковасцяў прымусіла некаторых гісторыкаў, хочучы–няхочучы, вярнуцца да апавядальнага стылю выкладу. Кажучы словамі Макіявэлі, ні з *virtu*, ні з *fortuna* нельга даць сабе рады інакш, як толькі праз наратыў ці нават анекдот, бо першае з двух гэтых паняццяў — індывідуальны атрыбут, а другое — шчаслівы ці няшчасны выпадак.

Трэці сур'ёзны ўдар па структурнай і аналітычнай гісторыі быў нанесены тым фактам, што ў выкарыстанні свайго найбольш характэрнага метаду — а менавіта квантыфікацыі — яе заслугі аказаліся дагэтуль досыць спрэчнымі. Квантыфікацыя, бясспрэчна, метад цалкам даспелы, і ў шмат якіх галінах гістарычнага доследу без яе не абысціся — асабліва ў дэмаграфічнай гісторыі, гісторыі сацыяльнай структуры і сацыяльнай мабільнасці, эканамічнай гісторыі і гісторыі мадэляў галасавання і выбарчых паводзінаў у дэмакратычных палітычных сістэмах. Выкарыстанне квантыфікацыі значна павысіла агульную якасць гістарычнага дыскурсу, патрабуючы дакладных лічбаў, а не агульных словаў, як дагэтуль. Гісторык больш не можа абысціся словамі, якія лагічна прадугледжваюць колькаснае параўнанне, накшталт „больш“, „менш“, „рост“, „спад“ і падобнымі, не падаючы статыстычнага абгрунтавання сваіх цверджанняў. Квантыфікацыя, апрача таго, здыскрэдытавала звычай будаваць аргументацыю выключна на паасобных прыкладах. Цяперашнім часам крытыкі патрабуюць статыстычных доказаў тыповасці пададзеных прыкладаў, каб быць пэўнымі, што гэта

[10] Я спасылаюся на дыскусію, распачатую Р.П.Брэнэрам: Brenner R.P. Agrarian Class Structure and Economic Development in Pre–Industrial Europe // Past and Present. 70 (1976).

не проста выключэнні з агульнага правіла. Такія працэдуры, бясспрэчна, павысілі лагічную сілу і пераканаўчасць гістарычнае аргументацыі. Цяпер усе згодныя, што гісторык павінен займацца падлікамі заўжды, калі гэта магчыма і плённа, і калі захаваныя крыніцы гэта дазваляюць.

Аднак паміж працаю кліяметрыстаў і рамесніцкай квантыфікацыяй асобнага даследчыка, які складае простыя табліцы і падлічвае працэнтныя суадносіны на кішэнным калькулятары, існуе вялізная розніца. Спецыяльнасць кліяметрыстаў — збор каласальных масіваў дадзеных вялізнымі калектывамі асістэнтаў, апрацоўка іх на кампутарах і стасаванне да вынікаў надта складаных матэматычных працэдураў. Але кожная стадыя гэтага працэсу родзіць сумненні. Шмат для каго застаецца пытаннем, ці дастатковую надзейнасць маюць гістарычныя звесткі для такіх працэдураў; ці можна верыць, што ўся вялізная каманда асістэнтаў будзе аднастайна кадаваць усе дакументы, часта вельмі розныя і нават двухсэнсоўныя; ці не губляецца пры кадаванні мноства вырашальных падрабязнасцяў; ці магчыма ўвогуле быць упэўненым у беспамылковасці кадавання і праграмнага забеспячэння; і ці не аказваецца складанасць матэматычных і алгебраічных формулаў урэшце самагубнаю, бо перад імі большасць гісторыкаў становіцца ў тупік. Нарэшце, шмат каго бянтэжыць, што праверыць канчатковыя вынікі фактычна немагчыма, бо пры гэтым давялося б зыходзіць не з апублікаваных падрадковых заўвагаў, а з кампутарных стужак, якія застаюцца прыватнай уласнасцю і ў сваю чаргу грунтуюцца на гэтаксама прыватных кодавых аркушах, звесткі ў якіх здабытыя з сырога матэрыялу.

Пытанні гэтыя рэальныя, і самі сабою яны не здымуцца. Усім нам знаёмыя доктарскія дысертацыі, артыкулы і манаграфіі, у якіх з дапамогай як найбольш тонкай тэхнікі або даказваецца відавочнае, або робіцца спроба давесці непраўдападобнае, прычым ужытыя для гэтага формулы і мова робяць немагчымым для звычайнага гісторыка праўджванне выкарыстанай аўтарам метадалогіі. У выніку такая праца часам спалучае ў сабе заганы як нечытэльнасці, так і трывіяльнасці. Кожны з нас ведае пра доктарскія дысертацыі, якія чэзнуць недаконччанымі, бо даследчык не ў стане апанаваць розумам таўшчэзныя тамы кампутарных раздрукоўак або страціў столькі сілаў, рыхтуючы дадзеныя для машыны, што вычарпаў і час, і цярпенне, і грошы. Ясна адно: дзе калі магчыма, падаваць прыклады ручным спосабам — лепш, хутчэй і не менш надзейна, чым прапускаць праз машыну цэлы сусвет. Усім нам вядомыя праекты, у якіх лагічная памылка ў аргументацыі або няўменне скарыстаць звычайны здаровы сэнс сказілі ці паставілі пад сумнеў шмат якія з высноваў. Ведаем мы і пра іншыя праекты, у якіх на стадыі

кадавання не ўдалося занатаваць нейкі адзін кавалак інфармацыі, а ў выніку страціліся важныя высновы. Чуваць і пра іншыя праекты, дзе самі крыніцы інфармацыі настолькі ненадзейныя, што высновам, якія грунтуюцца на колькасных маніпуляцыях з імі, ніяк нельга даць добрае веры. Класічны прыклад — парафіяльныя рэгістры. На працу з імі цяпер у шмат якіх краінах трацяцца велізарныя намаганні, але плёну ад іх варта чакаць толькі ў асобных і нешматлікіх выпадках.

Нягледзячы на неаспрэчныя дасягненні квантыфікацыйнага метаду, нельга адмаўляць, што ён не апраўдаў вялікіх спадзяванняў, якія ўскладаліся былі на яго дваццаць гадоў таму назад. Большыня вялікіх праблемаў гісторыі застаецца сёння гэтаксама неразвязанаю, як і раней, а то і яшчэ больш заблытанаю. Як і раней, у пытанні аб прычынах ангельскае, французскае або амерыканскае рэвалюцыяў яшчэ надта далёка да згоды, нягледзячы на вялізныя намаганні, прыкладзеныя, каб высветліць іх сацыяльныя і эканамічныя перадумовы. За тры дзесяткі гадоў інтэнсіўных даследаванняў эканамічнае гісторыі непаразуменняў не паменела, а паболела. Мы не ведаем, чаму паміж 1640 і 1740 г. рост насельніцтва на большай частцы Еўропы спыніўся; не ведаем, чаму пасля 1740 г. ён аднавіўся зноў; не ведаем нават, што сталася прычынаю гэтага аднаўлення: ці рост ураджайнасці, ці зніжэнне смяротнасці. Квантыфікацыйныя метады могуць даць нам у гістарычнай дэмаграфіі багата адказаў на пытанні „Што?“, але пакуль адносна мала — на пытанні „Як?“. Асноўныя пытанні, звязаныя з амерыканскім рабствам, застаюцца, як і дагэтуль, без адказу, нягледзячы на самыя складаныя і маштабныя ў гісторыі навукі квантыфікацыйныя доследы. Публікацыя іхных вынікаў не столькі развязала большыню праблемаў, колькі ўзняла тэмпэратуру палемікі[11]. Яны прыцягнулі ўвагу да такіх істотных пытанняў, як дыета, гігіена, здароўе і структура сям'і амерыканскіх неграў у рабстве, але адначасна і адцягнулі ўвагу ад не менш, калі не больш, важных псіхалагічных уплываў рабства на рабаўладальнікаў і рабоў — і толькі з тае прычыны, што такія рэчы немагчыма вымерыць кампутарам. Працы з гісторыі гарадоў перапоўненыя разнастайнаю статыстыкай, але тэндэнцыі мабільнасці дагэтуль застаюцца нявысветленымі. Ніхто сёння не можа быць цалкам упэўнены, ці было ў XVII і XVIII ст. ангельскае грамадства больш адкрытым і мабільным за французскае, ці менш, і нават — што перажывала перад Грамадзянскаю вайною ангельская шляхта, уздым ці заняпад. У гэтых пытаннях мы не пайшлі далей за Джэймза Гарынгтана з XVII ст. або дэ Таквіля з XIX ст.

[11] Fogel R., Engerman S. Time on the Cross. Boston, 1974; David P.A. et al., Reckoning with Slavery. New York, 1976; Gutman H. Slavery and the Numbers Game. Urbana, 1975.

Найбольш расчараванняў дагэтуль прыносілі якраз тыя праекты, якія мелі найшчадрэйшае фінансаванне, пад якія найамбітнейшым чынам збіраліся вялізныя масы звестак з дапамогай цэлых арміяў даследчыкаў (праца якіх аплочвалася), якія апрацоўваліся самым навуковым чынам паводле апошняга слова кампутарнае тэхналогіі і мелі найскладанейшае матэматычнае афармленне. Сёння, калі мінулі два дзесяцігоддзі і выдаткаваныя мільёны даляраў, фунтаў і франкаў, відаць, што гэтыя вялізныя траты часу, сілаў і грошай прынеслі даволі сціплы плён. У кабінетах навукоўцаў пыляцца велізарныя стосы зеленаватых раздрукавак, мноства пухлых і страшэнна нудных тамоў, поўных лічбавымі табліцамі, цяжказразумелымі алгебраічнымі раўнаннямі і працэнтавымі суадносінамі, падлічанымі з дакладнасцю да другога знаку пасля коскі. Апроч таго, дасягнута багата новых важных вынікаў, а некалькі кніг папоўнілі сабою адносна нешматлікі корпус гістарычных працаў, якія з цягам часу не трацяць свае каштоўнасці. Але ўскладненне метадалогіі прывяло ў цэлым да завышанай ацэнкі надзейнасці зыходных звестак, тым часам як карыснасць атрыманых вынікаў, здаецца, апынулася ці не ў адваротным стасунку да матэматычнае складанасці метадалогіі доследу і грандыёзнасці размаху пры зборы зыходных звестак.

Як бы ні падлічваць тут кошты і здабыткі, але дагэтуль шырокамаштабная кампутарызацыя гісторыі надта рэдка апраўдвала выдаткі часу і грошай, і гісторыкі мусілі шукаць іншыя спосабы даследавання мінуўшчыны, якія пралілі б на яе больш святла з меншай фатыгаю. У 1968 г. Ле Руа Лядуры напрарочыў, што ў 1980–х г. „гісторык будзе або праграмістам, або нікім“[12]. Прароцтва гэтае не споўнілася, і найперш не стаў яго спаўняць сам прарок.

Вось жа гісторыкі мусяць вярнуцца да прынцыпу індэтэрмінізму — прызнаць, што ў гісторыі так багата пераменных, што абагульненні магчымыя максімум у сярэднім маштабе, як казаў быў шмат гадоў таму Робэрт Мэртан. Макраэканамічная мадэль — паветраны замак, а „навуковая гісторыя“ — проста міф. Тлумачэнні, якія выводзяць усё з адзінае прычыны, проста не працуюць. Здаецца, тлумачэнне з дапамогай мадэляў са зваротнаю сувяззю, збудаваных вакол Вэбэравых „абіральных схільнасцяў“ (*elective affinities*), паслужыла б лепшым інструментам, каб хоць часткова адкрыць няўлоўную праўду аб прычынах гістарычных падзеяў, асабліва калі адмовіцца ад усіх прэтэнзіяў на навуковасць (у якім заўгодна сэнсе) нашае метадалогіі.

Расчараваўшыся як у монакаўзальным дэтэрмінізме эканомікі і дэмаграфіі, так і ў квантыфікацыйнай метадалогіі, гісторыкі пачалі задаваць зусім новыя пытанні, якіх дагэтуль, засяродзіўшыся на адмыс-

[12] Le Roy Ladurie E. Le Territorie de l'Historien. V.I. Paris, 1973. P.14 (пераклад мой).

ловай метадалогіі — структурнай, калектыўнай і статыстычнай — збольшага не заўважалі. Усё больш лік „новых гісторыкаў“ спрабуе цяпер зразумець, што адбывалася ў мінулым у галовах людзей і як ім тады жылося, — а гэтыя пытанні непазбежна прымушаюць вярнуцца да выкарыстання наратыву.

Значная падгрупа вялікае французскае школы гісторыкаў на чале з Люсьенам Фэўрам заўсёды лічыла інтэлектуальныя, псіхалагічныя і культурныя трансфармацыі незалежнымі пераменнымі падставовай важнасці. Доўгі час гэтыя даследчыкі заставаліся ў меншыні, пакуль паўз іхную ціхую затоку кацілася хваля навуковае гісторыі, эканамічнай і сацыяльнай паводле зместу, структурнай паводле арганізацыі і квантытатыўнай паводле метаду. Ажно цяпер тэмы, якімі цікавіліся яны, раптоўна ўвайшлі ў моду. Праўда, крыху змяніўся характар задаваных пытанняў: цяпер яны часта бяруцца з антрапалогіі. Антрапалогія заўжды заставалася адною з самых агістарычных дысцыплінаў, прынамсі на практыцы, калі не ў тэорыі, бо змены, якія адбываюцца з цягам часу, яе не цікавілі. Тым не менш яна прадэманстравала, як з дапамогай пражэктарнага метаду (*the searchlight method*) можна бліскуча раскрыць сутнасць цэлае сацыяльнае сістэмы і сістэмы каштоўнасцяў, дэталёва аднатаваўшы адну асобную падзею пры ўмове пільнага ўліку ўсяго яе кантэксту і аналізу яе культурнага сэнсу. Архетыповая мадэль такога „разгорнутага апісання“ (*‘thick description’*) — класічнае паведамленне Кліфарда Гірца (Geertz) пра бойкі пеўняў на выспе Балі[13]. Мы, гісторыкі, на жаль, не можам апынуцца на месцы падзеі з нататнікам, магнітафонам, фота– і кінакамерамі, але дзе–нідзе знаходзім цэлыя натоўпы сведкаў, ад якіх можна даведацца, як ім жылося.

Адна з найвыдатнейшых зменаў, якія адбыліся за апошні час са зместам гісторыі, — раптоўны ўздым цікавасці да пачуццяў, эмоцыяў, мадэляў паводзінаў, каштоўнасцяў і псіхічных станаў (*states of mind*). У гэтым дачыненні ўплыў такіх антраполагаў, як Эванс–Прычард, Кліфард Гірц, Мэры Дуглас і Віктар Цёрнэр, сапраўды стаўся вялізарным. І таму першая прычына адраджэння наратыву некаторымі з „новых гісторыкаў“ была тая, што месца сацыялогіі ці эканомікі як найбольш уплывовай з грамадскіх навук заняла антрапалогія. Хоць псіхагісторыя дагэтуль застаецца ў значнай меры тэрыторыяй бедства — пустыняй, усеянай рэшткамі выштукаваных экіпажаў, якія паразвальваліся, ледзьве паспеўшы ад’ехаць ад зыходнага пункту, — але свой уплыў на гэтае пакаленне зрабіла і псіхалогія, так што ягоныя прадстаўнікі звяртаюць цяпер сваю ўвагу на сэксуальную пажаду, сямейныя стасункі і эмацыйныя сувязі,

[13] Geertz C. Deep play: Notes on the balinese Cock–fight // яго ж The Interpretation of Cultures. New York, 1973.

паколькі тыя ўздзейнічаюць на чалавека, і на ідэі, погляды і звычаі, паколькі тыя ўздзейнічаюць на групу. Магчыма, гэтая змена ў характары пытанняў звязаная яшчэ і з тагачаснай (1970–х г.) грамадскаю сітуацыяй. Гэта было дзесяцігоддзе, калі над грамадскімі пытаннямі ўзялі верх больш персаналізаваныя ідэі і зацікаўленні, бо пашырылася расчараванне ў перспектывах змены становішча шляхам палітычнае дзейнасці. Таму праўдападобна, што раптоўны ўздым цікавасці да гэтых пытанняў у мінулым звязаны з сучаснаю заклапочанасцю аналагічнымі рэчамі.

Новае зацікаўленне ментальнымі структурамі было стымулявана крахам традыцыйнае інтэлектуальнае гісторыі, трактаванай як прасочванне гісторыі ідэяў на працягу стагоддзяў (зазвычай спыняючыся на Арыстоцелі або Платоне). „Вялікія кнігі“ вывучаліся ў гістарычным вакууме, прычым даследчыкі амаль ці зусім не спрабавалі ставіць ні саміх аўтараў, ні іхнае слоўніцтва ў рэальны гістарычны кантэкст. Сёння гісторыя палітычнае думкі на Захадзе перапісваецца нанова (галоўным чынам такімі даследчыкамі, як прафесары Дж.Г.Э.Покак, Квэнтын Скінэр і Бэрнард Бэйлін). Яны з вялікімі намаганнямі рэканструююць дакладны кантэкст і значэнне словаў і ідэяў у мінулым і паказваюць, як з цягам часу тыя змянялі, бы хамелеоны, сваю форму і афарбоўку, прыстасоўваючыся да новых абставінаў і новых патрэбаў.

Адначасна з гэтым традыцыйная гісторыя ідэяў скіравала свае намаганні на вывучэнне зменаў у сродках камунікацыі і ў іхнай аўдыторыі. Паўстала новая, квітучая дысцыпліна — гісторыя друку, кнігі і пісьменства і іхнага ўплыву на распаўсюджванне ідэяў і трансфармацыю каштоўнасцяў.

Яшчэ адна прычына вяртання шмат каго з „новых гісторыкаў“ да наратыву палягае, відаць, на жаданні зноўку зрабіць свае знаходкі даступнымі не толькі для вузкіх спецыялістаў, але і для шырокае адукаванае публікі — для тых, хто прагне ўведаць, што новага адкрыта з дапамогаю гэтых наватарскіх пытанняў, метадаў і звестак, але не можа адолець нястраўныя статыстычныя табліцы, сухую аналітычную аргументацыю і нашпігаваную навуковым жаргонам прозу. Спецыялісты ў структурнай, аналітычнай, квантытатыўнай гісторыі што далей то болей мусілі размаўляць толькі між сабою — і болей ні з кім. Іхныя знахады публікаваліся ў прафесійных часопісах або ў манаграфіях, якія мелі настолькі высокую цану і настолькі малыя наклады (менш за 1000 паасобнікаў), што на практыцы амаль увесь наклад такога выдання разыходзіўся па бібліятэках. Аднак поспех такіх папулярных гістарычных часопісаў, як *History Today* і *L’Histoire*, сведчыць пра існаванне ў іх вялікай і цікаўнай аўдыторыі, і новыя гісторыкі імкнуцца сёння звяртацца да гэтае аўдыторыі, а не пакідаць яе жывіцца папулярнымі біяграфіямі

і падручнікамі. Новыя гісторыкі задаюцца перадусім тымі пытаннямі, якія хвалююць сёння кожнага з нас. Гэта прырода ўлады (*power*), валадарства (*authority*) і харызматычнага лідарства; адносіны палітычных інстытутаў да сацыяльных мадэляў і сістэмаў каштоўнасцяў, якія ляжаць у іх аснове; погляды на маладосць, старасць, хваробу і смерць; сэкс, шлюб і канкубінат (няшлюбнае сужыццё); народзіны, контрацэпцыя і аборты; праца, вольны час і спажыванне (*conspicuous consumption*); суадносіны рэлігіі, навукі і магіі як мадэляў тлумачэння рэальнасці; сіла і накіраванасць пачуццяў кахання, страху, пажады і нянавісці; уплыў пісьменнасці і адукацыі на жыццё і светапогляд людзей; адносная важнасць розных сацыяльных згрупаванняў, такіх, як сям’я, род, абшчына, нацыя, клан і раса; моц і значэнне рытуалу, сімвалу і звычаю як спосабаў мацавання супольнасці; маральныя і філасофскія падыходы да злачынства і пакарання; мадэлі шанавання і выбухі эгалітарызму; структурныя канфлікты паміж статус–групамі або класамі; сродкі, магчымасці і абмежаванні сацыяльнае мабільнасці; прырода і сэнс народнага пратэсту і хіліястычных спадзяванняў; зрух экалагічнае раўнавагі паміж чалавекам і прыродаю; прычыны і наступствы хваробаў. Усё гэта надзвычай пякучыя пытанні. Яны датычаць масаў, а не эліты, і маюць большае дачыненне да нашага ўласнага жыцця, чымся справы памерлых каралёў, прэзідэнтаў і генералаў.

## IV

У выніку ўсіх гэтых збежных плыняў шмат хто з вядомых прадстаўнікоў „новае гісторыі“ вяртаецца цяпер да пагарджанага раней наратыўнага стылю. І ўсё ж гісторыкі — і нават іхныя выдаўцы — чуюцца пры гэтым, здаецца, крыху няўпэўнена. У 1979 г. *Publishers’ Weekly* — выдавецкі тыднёвік — хваліў новую кнігу (гісторыю суду над Луі XVI) наступным цікавым чынам: „Выбраны Джорданам *наратыўны*, а не *навуковы* падыход (курсіў мой) ... становіць узор яснасці і сінтэзу“[14]. Крытыку кніга відавочна падабаецца, аднак, на ягоную думку, наратыў паводле азначэння не можа быць навуковым. Калі выдатны прадстаўнік школы „новае гісторыі“ піша наратыў, ягоныя сябры нібы апраўдваюцца за яго: „Вядома, ён зрабіў гэта толькі дзеля грошай“. Але нягледзячы на гэткія сарамяжлівыя апраўданні, новыя тэндэнцыі ў гістарыяграфіі — і ў змесце, і ў метадзе, і ў стылі доследу — відавочныя, куды ні зірні.

[14] Jordan D.P. The King’s Trial: Louis XVI v. the French Revolution. Berkeley, 1979. Рэцэнзія ў: Publisher’s Weekly. 13 August, 1979.

Наватарскую кнігу Норбэрта Эліаса пра гісторыю нораваў *The Civilising Process* сорак гадоў ніхто не чытаў, ажно раптам з'явіліся яе ангельскі і французскі пераклады[15]. Др. Зэльдзін напісаў для серыі стандартных падручнікаў бліскучую двухтамовую гісторыю сучаснае Францыі, якая ігнаруе ці не ўсе чыста аспекты традыцыйнае гісторыі і засяроджваецца амаль выключна на эмоцыях і псіхічных станах[16]. Прафесар Філіп Арыес вывучаў рэакцыі, якія на працягу доўгіх часоў выклікала ўсеагульная траўма — смерць[17]. Гісторыя чараўніцтва раптоўна пачала расці ва ўсіх краінах, як на дражджах. Тое самае адбылося і з гісторыяй сям'і, у тым ліку з гісторыяй дзяцінства, юнацтва, старасці, жанчын і сэксуальнасці (прычым апошнія дзве тэмы рызыкуюць рухнуць пад напорам навуковых сілаў, скіраваных на іх распрацоўку). Выдатны прыклад траекторыі тэндэнцыяў гістарычнага даследавання на працягу апошніх дванаццаці гадоў становяць навуковыя зацікаўленні прафесара Жана Дэлюмо. Пачаўшы ў 1962 г. з кнігі пра эканамічны прадукт (квасцы), ён у 1969 г. апублікаваў даследаванне пра грамадства (Рым), у 1971 — пра рэлігію (каталіцтва), у 1976 — пра калектыўныя паводзіны (*Les Pays de Cocagne*), і нарэшце, у 1979 г., — пра эмоцыі (страх)[18].

У французскай мове існуе назва для гэтае новае тэматыкі — *mentalité*, але, на жаль, гэтае слова не вызначана як мае быць, і яго цяжка перакласці на ангельскую мову. І ўсё ж, як бы там ні было, апавядальніцтва — дэталёвы выклад усіх акалічнасцяў аднае ці некалькіх падзеяў ('*happenings*') на падставе сведчанняў відавочцаў і ўдзельнікаў, — бясспрэчна дае магчымасць прасачыць некаторыя з вонкавых праяваў *mentalité* мінулага. Вядома, калі антрапалагічная інтэрпрэтацыя культуры, на якой грунтуецца такая праца, прэтэндуе на сістэматычнасць і навуковасць, то аналіз павінен заставацца яе істотным складнікам. Але гэта не можа засланіць ролю вывучэння *mentalitй* ў адраджэнні неаналітычных спосабаў пісаць гісторыю, сярод якіх знаходзіцца і апавядальніцтва.

Вядома, наратыў — толькі адзін са спосабаў пісаць гісторыю *mentalité*, якія сталіся магчымымі дзякуючы расчараванню ў структурным аналізе. Возьмем, напрыклад, такую бліскучую рэканструкцыю

[15] Elias N. The Civilizing Process. New York, 1978.

[16] Zeldin T. France 1848—1945. V. I—II. Oxford, 1973, 1979 (у французскім перакладзе — Histoire des Passions Francaises. Paris, 1978). Гл. таксама: Mandrou R. Introduction a la France Moderne (1500—1640). Paris, 1961.

[17] Aries P. L'Homme devant La Mort. Paris, 1977.

[18] Delumeau J. L'alun de Rome. Paris, 1962; La Vie économique et sociale de Rome dans la seconde moitié du XVI siècle. Paris, 1969; Le Catholicisme entre Luther et Voltaire. Paris, 1971; La Mort des Pays de Cocagne: Comportments Collectifs de la Renaissance a l'Age Classique. Paris, 1976; L'Histoire de la Peur. Paris, 1979.

зніклага настрою свядомасці (*mind set*), як узнаўленне свету позняе антычнасці, зробленае Пітэрам Браўнам[19]. Звычайныя ясныя аналітычныя катэгорыі — насельніцтва, эканоміка, сацыяльная структура, палітычная сістэма, культура і г.д. — тут ігнаруюцца. Замест гэтага Браўн малюе партрэт веку ў манеры мастака–постімпрэсіяніста, кідаючы тут і там грубыя мазкі, якія, калі стаць на добрай адлегласці, твораць ашаламляльнае па рэальнасці відовішча, але як прыгледзішся бліжэй — распадаюцца на бессэнсоўныя плямы. Свядомая цьмянасць, жывапісны падыход, цеснае збліжэнне гісторыі, літаратуры, рэлігіі і мастацтва, цікавасць да таго, што адбываецца ў галовах людзей — усё гэта характэрныя рысы аднаго з новых поглядаў на гісторыю. Гэткі спосаб пісаць гісторыю ўжо не наратыўны, а хутчэй „пуантылісцкі“. Але і яго таксама стымулявала новая цікавасць да *mentalité*, і ён таксама стаўся магчымым дзякуючы заняпаду аналітычнага і структурнага падыходу, які непадзельна панаваў апошнія трыццаць гадоў.

Адбылося нават адраджэнне расповеду пра адну асобную падзею. Прафесар Жорж Дубі адважыўся на тое, пра што яшчэ колькі гадоў таму нельга было і падумаць: ён прысвяціў цэлую кнігу разбору аднае–адзінае бітвы (Бувінскае) і раскрыў праз яе асноўныя характарыстыкі французскага феадальнага грамадства пачатку XIII ст.[20]. Карла Гінзбург даў падрабязны разгляд касмалогіі сціплага і нікому не вядомага млынара з паўночнай Італіі пачатку XVI ст., імкнучыся такім чынам прадэманстраваць узрушэнні, якія на народным узроўні выклікала пранікненне рэфармацыйных ідэяў у ніжэйшыя слаі грамадства[21]. Прафесар Эмануэль Ле Руа Лядуры стварыў унікальны і незабыўны абраз жыцця і смерці, працы і сэксу, рэлігіі і звычаяў у пірэнейскай вёсцы пачатку XIV ст. Ягоная кніга *Montaillou* значная ў двух дачыненнях: па–першае, яна зрабілася ў Францыі адным з найвялікшых гістарычных бэстсэлераў XX ст., а па–другое, аўтар у ёй не выкладае нейкі просты сюжэт — сюжэту там увогуле няма — а бязмэтна блукае па свядомасці тагачасных людзей. Нездарма такое блуканне становіць адно з адрозненняў сучаснага раману ад колішняга. Пазней Ле Руа Лядуры распавёў яшчэ гісторыю асобнага крывавага эпізоду, які адбыўся ў маленькім паўднёвафранцузскім мястэчку ў 1580 г., раскрыўшы праз яго лініі ўзаемнае нянавісці, якія раздзіралі сацыяльную тканіну мястэчка[22]. Прафесар Карла М. Чыполля, дагэтуль адзін з самых зацятых у эканоміцы і дэмаграфіі струк-

[19] Brown P.R.L. The Making of Late Antiquity. Cambridge, Mass., 1978.

[20] Duby G. Le Dimanche de Bouvines: 27 Juillet 1214. Paris, 1973.

[21] Ginzburg C. The Cheese and the Worms. Baltimore, 1980.

[22] Le Roy Ladurie E. Montailou, Village occitan de 1294 a 1324. Paris, 1975; Le carnaval de Romans. Paris, 1979.

туралістаў, апублікаваў кагадзе кнігу, дзе ў сувязі з жахлівым крызісам пандэміі ідзецца не столькі пра статыстыку захворванняў і смяротнасці, колькі пра ўзнаўленне і рэканструкцыю асабовых рэакцыяў на яго. Так з–пад ягонага пяра ўпершыню выйшаў аповед[23]. Прафесар Эрык Хобсбаўм, апісваючы брыдкае, грубае і нядоўгае жыццё паўстанцаў і бандытаў з цэлага свету, вызначае ў гэтай працы прыроду і задачы сваіх „прымітыўных паўстанцаў“ і „сацыяльных бандытаў“[24]. Містэр Эдуард Томпсан распавёў гісторыю змагання паміж браканьерамі і ўладамі ў Віндзорскім лесе ў Англіі на пачатку XVIII ст., каб падмацаваць сваю тэзу, паводле якое ў Англіі ў той час адбывалася сутыкненне плябеяў з патрыцыямі[25]. Апошняя кніга прафесара Робэрта Дарнтана апавядае, як ажыццяўлялася публікацыя вялікае французскае Энцыклапедыі, кідае багата новага святла на працэс распаўсюджвання асветніцкае думкі ў XVIII ст. і праблемы насычэння нацыянальнага і міжнароднага рынку ідэяў[26]. Прафесар Наталі Дэвіс распавяла пра чатыры *charivaris* — рытуальныя працэдуры публічнага ганьбавання — якія адбыліся ў Ліёне і Жэневе ў XVII ст., ілюструючы гэтым намаганні супольнасці ўсталяваць грамадскія стандарты годнасці і ўласнасці[27].

Новая цікавасць да *mentalité* сама па сабе стымулявала вяртанне да старых спосабаў гісторыяпісання. Разгляд канфлікту паміж магіяй і рэлігіяй, прапанаваны Кіт Томас, будуецца вакол пэўнага „ўнутранага прынцыпу“, на які аўтарка нанізвае процьму сюжэтаў і прыкладаў[28]. Паводле калі не дасягненняў, то прынамсі задумы і метаду гэтую працу вельмі нагадвае і мая нядаўняя кніжка пра змены ў эмацыйным жыцці ангельскае сям’і[29].

Усе названыя дагэтуль гісторыкі — даспелыя навукоўцы, даўно звязаныя з „новаю гісторыяй“. Задаючыся новымі пытаннямі, выпрабоўваючы новыя метады і шукаючы новых крыніцаў, яны цяпер вяртаюцца да сюжэтнага апавядальніцтва. Аднак паміж іхнымі аповедамі і прозаю традыцыйных гісторыкаў–наратывістаў існуе пяць адрозненняў. Па–першае, усе яны амаль без вынятку займаюцца жыццём, пачуццямі і паводзінамі людзей бедных і нікому не вядомых, а не вялікіх і моцных.

[23] Cipolla C.M. Faith, Reason and the Plague in Seventeenth Century Tuscany. Ithaca, 1979.

[24] Hobsbawm E.J. Primitive Rebels. Manchester, 1959; Bandits, New York, 1969; Captain Swing, New York, 1969.

[25] Thompson E.P. Whigs and Hunters. New York, 1975.

[26] Darnton E. The Business of the Enlightenment. Cambridge, Mass., 1979.

[27] Davis N.Z. Charivari, Honneur et Communauté à Lyon et à Genève au XVII$^{e}$ Siècle // Le Charivari, ed. J.Le Goff and J.C.Schmitt (у друку).

[28] Thomas K.V. Religion and the Decline of Magic, New York, 1971.

[29] Stone L. Family, Sex and Marriage in England 1500–1800. New York, 1978.

Па–другое, для іхнае метадалогіі аналіз застаецца не менш істотным за апісанне падзеяў, так што іхныя кнігі пераскокваюць з аднаго стылю на другі, часам даволі няўклюдна. Па–трэцяе, яны ўводзяць ва ўжытак новыя крыніцы, часта — пратаколы крымінальных судоў, якія дзейнічалі паводле працэдураў рымскага права, бо ў іх змяшчаюцца поўныя тэксты паказанняў сведкаў на допытах і на следстве. (Іншы модны спосаб выкарыстання крымінальных пратаколаў — картаграфаванне росту і зніжэння колькасці розных тыпаў адхіленняў — я лічу справаю ці не цалкам марнаю, бо ўлічваюцца пры гэтым не зробленыя злачынствы, а арыштаваныя і пакараныя злачынцы, а гэта ж зусім іншая рэч. Няма падставаў меркаваць, што суадносіны паміж імі з цягам часу застаюцца нязменнымі.) Па–чацвертае, часта яны апавядаюць свае гісторыі зусім не так, як Гамер, Дыкенс ці Бальзак. Пад уплывам сучаснага раману і фрэйдысцкіх ідэяў яны не столькі стараюцца трымацца простых фактаў, колькі ўважліва даследуюць падсвядомасць, а пад уплывам антрапалогіі — спрабуюць выкарыстоўваць паводзіны дзеля раскрыцця сімвалічных сэнсаў. І, па–пятае, яны распавядаюць пра пэўнага чалавека, судовы працэс або драматычны эпізод не дзеля іх як такіх, а дзеля таго, каб праліць святло на ўнутраныя мэханізмы колішняе культуры і грамадства.

## V

Калі я маю рацыю, то пераход „новых гісторыкаў“ да наратыву адзначае сабою канец пэўнай эпохі: канец пошукаў звязнага навуковага тлумачэння зменаў, якія адбываліся ў мінулым. Мадэлі гістарычнага дэтэрмінізму, грунтаваныя на эканоміцы, дэмаграфіі або сацыялогіі, абрынуліся перад абліччам фактаў, але больш ніякая развітая дэтэрмінісцкая мадэль, грунтаваная на нейкай іншай сацыяльнай навуцы — палітыцы, псіхалогіі ці антрапалогіі — не прыйшла ім на змену. Структуралізм і функцыяналізм паказалі сябе не нашмат лепшымі. Квантытатыўная метадалогія аказалася досыць слабым інструментам, здатным развязаць толькі абмежаваны шэраг праблемаў. Мусячы выбіраць паміж апрыёрнымі статыстычнымі мадэлямі людскіх паводзін і канцэпцыямі, грунтаванымі на назіранні, досведзе, меркаванні (*judgement*) і інтуіцыі, некаторыя з „новых гісторыкаў“ схільныя цяпер вярнуцца да гэтага апошняга спосабу інтэрпрэтавання мінуўшчыны.

Хоць адраджэнне „новымі гісторыкамі“ наратыўнага стылю — праява самага апошняга часу, іхны даробак — усяго толькі тонкі струменьчык у параўнанні з няспыннай шырокай плынню не менш выдатных апісальных палітычных аповедаў, якія выходзяць з–пад пяра больш тра-

дыцыйных гісторыкаў. Нядаўні прыклад — кніга Сімона Шамы пра палітыку Галандыі ў XVIII ст.[30], якую навуковы свет сустрэў бурнай авацыяй. Да працаў падобнага кшталту новыя сацыяльныя гісторыкі дзесяцігоддзямі ставіліся абыякава ці з ледзь прыхаванай пагардай. Такі падыход быў не надта апраўданы, але ў апошнія гады ён падштурхнуў сяго–таго з традыцыйных гісторыкаў прыстасаваць свой апісальны стыль да пастаноўкі новых пытанняў. Некаторыя з іх цікавяцца ўжо не толькі пытаннямі ўлады і адпаведна асобамі каралёў і прэм'ер–міністраў, войнамі і дыпламатыяй, але, як і „новыя гісторыкі“, аддаюць увагу прыватнаму жыццю зусім невядомых людзей. Чым выклікана гэтая тэндэнцыя (калі гэта сапраўды тэндэнцыя), не зусім ясна, але, як здаецца, яе натхняе жаданне распавесці цікавую гісторыю, у якой бы раскрываліся адметныя рысы асабовасці і ўнутраны сэнс (*inwardness*) рэчаў іншага часу і іншае культуры. Некаторыя традыцыйныя гісторыкі ўжо пэўны час гэтым займаюцца. У 1958 г. прафесар Дж.Р.Эльтан апублікаваў кнігу, складзеную з гісторыяў бунтаў і гвалту (*mayhem*) у Англіі XVI ст., узятых з пратаколаў Зорнае Палаты[31]. У 1946 г. прафесар Х'ю Трэвар–Роўпэр зрабіў бліскучую рэканструкцыю апошніх дзён Гітлера[32]. А зусім нядаўна ён жа даследаваў незвычайную кар'еру адносна малавядомага ангельскага збіральніка рукапісаў, аматара старасвеччыны і патаемнага парнографа, які жыў у Кітаі на пачатку нашага стагоддзя. Пішучы гэтую розрыўку, аўтар, відаць, меў на мэце чыстую асалоду ад апавядання самога па сабе, імкнучыся прасачыць і зафіксаваць адмысловую гістарычную цікавінку. Амаль тую ж самую тэхніку за шмат гадоў перад тым выкарыстаў Э.Дж.-Э.Сайманз у сваёй класічнай працы *Quest for Corvo*[33], а матывацыя вельмі нагадвае тую, што натхніла была Рычарда Коба апісваць з самымі брыдкімі падрабязнасцямі ўбогае жыццё і смерць злачынцаў, прастытутак і іншых сацыяльных няўдаліцаў з дна рэвалюцыйнае Францыі[34].

Творы новае брытанскае школы маладых антыкварыяў–эмпірыкаў кардынальна адрозніваюцца ад тых, пра якія ішлося вышэй, і сваім зместам, і метадамі, і задачамі. Іхныя дэталёвыя палітычныя аповеды зыходзяць з імпліцытнае тэзы, што ў гісторыі няма ніякага глыбокага прыхаванага сэнсу, адно выпадковая прыхамаць фартуны і асабовасці. На чале з прафесарам Конрадам Расэлам і Джонам Кэн'енам і пад уплывам

[30] Schama S. Patriots and Liberators: Revolution in Netherlands. New York, 1977.
[31] Elton G.R. Star Chamber Stories. London, 1958.
[32] Trevor–Roper H.R. The Last Days of Hitler. London, 1947.
[33] Trevor–Roper H.R. The Hermit of Peking. New York, 1977; Symons A.J.A. Quest for Corvo. London, 1934.
[34] Cobb R. The Police and the People. Oxford, 1970; Cobb R. Death in Paris. New York, 1978.

прафесара Джэфры Эльтана яны цяпер спрабуюць пазбавіць якога–колечы ідэалагічнага ці ідэалістычнага сэнсу абедзве ангельскія рэвалюцыі XVII ст.[35] Няма сумневу, што неўзабаве яны ці ім падобныя звернуць сваю ўвагу яшчэ некуды. Хоць яны ні разу не фармулявалі сваю мэту адкрыта, тым не менш іхны падыход — гэта чысцюткі нэа–нам'ерызм, і гэта акурат тады, калі ўласна нам'ерызм, як спосаб разгляду ангельскае палітыкі XVIII ст., канае. Магчыма, іхнае стаўленне да палітычнае гісторыі карэніцца ў падсвядомым пачуцці расчаравання, звязаным з тым, што сучасная парламенцкая сістэма выглядае няздатнаю даць рады няўхільнаму заняпаду эканомікі і ўлады Брытаніі. Але як бы там ні было, гэтыя гісторыкі — надзвычай абазнаныя і дасведчаныя хранікёры дробных падзеяў, *l'histoire événementielle*, і, т. ч., яны становяць адну з шматлікіх плыняў, якімі жывіцца адраджэнне наратыву.

Фундаментальная прычына пераходу „новых гісторыкаў" ад аналітычнага стылю да дэскрыптыўнага палягае ў карэннай змене погляду на тое, што ёсць цэнтральным прадметам гісторыі. А гэта ў сваю чаргу залежыць ад папярэдніх філасофскіх дапушчэнняў пра ролю свабоднае волі чалавека ва ўзаемадзеянні з сіламі прыроды. Два процілеглыя полюсы думкі найяскравей выяўляюцца ў пададзеных ніжэй цытатах — адной з аднаго боку і дзвюх з другога. Так, у 1973 г. Эмануэль Ле Руа Лядуры назваў адзін з раздзелаў у зборніку сваіх артыкулаў „Гісторыя без людзей". З іншага боку, за паўстагоддзя да гэтага Люсьен Фэўр абвясціў адваротнае: „*Ma proie, c'est l'homme*" („На што я палюю — гэта чалавек"), а за чвэртку стагоддзя — Х'ю Трэвар–Роўпэр у сваёй інаўгурацыйнай лекцыі заклікаў гісторыкаў да „вывучэння не абставінаў, а чалавека ў гэтых абставінах"[36]. Сёння ідэал гісторыі, абвешчаны Люсьенам Фэўрам, шмат у якіх колах увайшоў у моду, а з выдавецтваў надалей ліюцца ракою аналітычныя і структурныя даследаванні безасабовых сілаў. Таму сённяшнія гісторыкі падзяліліся на чатыры групы: гісторыкі старой наратыўнай школы, перадусім спецыялісты з палітычнае гісторыі і біёграфы; кліяметрысты, якія застаюцца надалей статыстычнымі наркаманамі; сацыяльныя гісторыкі, якія працягваюць займацца аналізам безасабовых структураў; і гісторыкі *mentalité*, якія цяпер прасочваюць з дапамогай наратыву ідэалы, каштоўнасці, настроі свядомасці і мадэлі асабістых інтымных паводзінаў — і чым інтымнейшых, тым лепш.

[35] Russel C. Parliaments and English Politics 1621–29. Oxford, 1979; Kenyon J.P. Stuart England. London, 1978; гл. таксама артыкулы ў Journal of Modern History, vol. 49(4), 1977.

[36] Le Roy Ladurie E. The Territory of the Historian. P.285; Trevor–Roper H.R. History, professional and lay. Oxford, 1957. P. 21.

Аднак пераход апошняе з гэтых чатырох групаў да падрабязнага апісальнага наратыву ці да індывідуальнае біяграфіі не пазбаўлены сваіх праблемаў. Цяжкасць тут даўняя: аргументацыя з дапамогай выбраных прыкладаў застаецца непераканаўчаю з філасофскага пункту гледжання, бо гэта ўсё ж інструмент рыторыкі, які не можа служыць навуковым доказам. Пра асноўную гістарыяграфічную пастку, у якую мы тут трапляем, нядаўна добра сказаў Карла Гінзбург:[37]

> „Квантытатыўны і анты–антрапацэнтрычны падыход, прыняты навукамі аб прыродзе ад Галілея да нашых дзён, паставіў гуманітарныя навукі перад прыкраю дылемай: яны мусяць прыняць або слабыя навуковыя стандарты, каб атрымаць значны плён, або моцныя навуковыя стандарты — і атрымаць вынікі, пазбаўленыя вялікае значнасці“.

Расчараванне ў другім падыходзе прымушае вярнуцца да першага. У выніку сёння адбываецца ператварэнне метаду выбраных прыкладаў — не часта, праўда, унікальных і дэталізаваных — у модны спосаб пісання гісторыі. У пэўным сэнсе гэта толькі лагічнае наступства велізарнага поспеху даследаванняў лакальнае гісторыі, прадметам якіх служыць не ўсё грамадства ў цэлым, а толькі нейкі адзін з ягоных сегментаў — правінцыя, места ці нават вёска. Татальная гісторыя здаецца магчымаю толькі тады, калі ўзяць нейкі мікракосм, і вынікі такога доследу часта даюць для асвятлення і тлумачэння мінуўшчыны больш, чым усе ранейшыя ці сучасныя працы, грунтаваныя на архівах цэнтральнага ўраду. Праўда, новая плынь выступае і як антытэза даследаванню лакальнае гісторыі, бо адмаўляе татальную гісторыю грамадства, нават найменшага, як немагчымую і бярэцца за гісторыю асобнай яго ячэйкі.

Другая праблема, якая паўстае пры ілюстраванні *mentalité* падрабязнымі прыкладамі, — як адрозніць нармальнае ад эксцэнтрычнага? Паколькі цяпер нас цікавіць перадусім чалавек, то падрабязны аповед пра асобны выпадак ці канкрэтную асобу можа стаць не толькі цікавай, але і карыснай чытанкай. Але дзеля гэтага трэба, каб выбраныя намі эпізоды тычыліся не проста нейкага ашаламляльнага, але, па сутнасці, нехарактэрнага (*irrelevant*) драматычнага выпадку, мяцяжу або гвалту, або жыцця нейкага эксцэнтрычнага злодзея, нягодніка або містыка. Крытэрыем адбору павінна быць тое, ці могуць яны праліць святло на пэўныя аспекты мінулае культуры. Гэта азначае, што яны мусяць быць тыповымі; аднак шырокае выкарыстанне судовых пратаколаў робіць праблему тыповасці надта складанай. Людзі, прыцягнутыя

[37] Ginzburg C. Roots of a Scientific Paradigm // Theory and Society. V. 7 (1979). P. 276.

да суду, атыповыя ці не паводле самога азначэння; аднак гэта не канечне павінна тычыцца таго свету, які так яскрава раскрываецца ў паказаннях сведкаў. Вось жа, бяспека палягае ў тым, каб вывучаць дакументы не столькі дзеля пошуку звестак пра эксцэнтрычныя паводзіны абвінавачанага, колькі дзеля таго святла, якое дакументы праліваюць на жыццё і погляды датычных да справы асобаў.

Трэцяя праблема — гэта праблема інтэрпрэтацыі, і яна яшчэ цяжэй паддаецца вырашэнню. Апавядальніцтва, мабыць, не горш за любы іншы спосаб можа дапамагчы нам залезці ў голаў да чалавека мінуўшчыны і стварыць ягоны інтымны вобраз — пры ўмове, што гісторык усведамляе звязаную з гэтым рызыку. Цяжкасць у тым, што апавядальніку, як толькі ён туды дападзе, спатрэбіцца ўсё майстэрства, досвед і веды, здабытыя ў практыцы аналітычнае гісторыі грамадства, эканомікі і культуры, каб даць праўдападобнае тлумачэнне некаторых надта дзіўных рэчаў, на якія ён можа натрапіць. Магчыма, яму спатрэбіцца і крыху аматарскае псіхалогіі, але паспяхова аперуваць з аматарскаю псіхалогіяй надта складана, а сёй–той стаў бы нават даводзіць, што гэта ўвогуле немагчыма.

Яшчэ адна відавочная небяспека палягае ў тым, што адраджэнне наратыву можа прывесці да вяртання чыстага антыкварыянізму, да апавядання дзеля апавядання. І яшчэ адна — у тым, каб, засяроджваючыся на сенсацыйным, не выпусціць з поля зроку нуду і аднастайнасць жыцця пераважнае большасці людзей. І Трэвар–Роўпэр, і Рычард Коб чытаюцца з захапленнем, але па абодвух гэтых пунктах яны адкрытыя для крытыкі. Шмат хто з прыхільнікаў новага стылю, у тым ліку Коб, Хобсбаўм, Томпсан, Ле Руа Лядуры і Трэвар–Роўпэр (дый я сам), відавочна захапляюцца аповедамі пра гвалт і сэкс, якія запэлююць да вуайерыстычных інстынктаў у кожным з нас. З іншага боку, можна даводзіць, што сэкс і гвалт — інтэгральныя складнікі ўсяго досведу чалавецтва, і таму вывучаць іхны ўплыў на людзей у мінулым гэтаксама слушна і апраўдана, як чакаць такога матэрыялу ад сучасных раманаў, кіно і тэлебачання.

Тэндэнцыя да наратыву ўздымае нявырашаныя пытанні адносна таго, як нам вучыць у будучыні нашых студэнтаў — калі яшчэ застанецца каго вучыць. Вучыць іх старажытнаму мастацтву рыторыкі? Крытыцы тэксту? Семіётыцы? Сімвалічнай антрапалогіі? Псіхалогіі? Або тэхніцы аналізу сацыяльных і эканамічных структураў, якою мы займаемся ўжо цэлае пакаленне? Таму застаецца адкрытым пытанне: дабро ці зло прынясе нашай прафесіі гэтае нечаканае адраджэнне наратыву такім мноствам вядучых прадстаўнікоў „новае гісторыі“?

У 1972 г. Ле Руа Лядуры ўпэўнена пісаў[38]:

[38] Le Roy Ladurie E. The Territory of the Historian. P.111.

„Сучасная гістарыяграфія, аддаючы перавагу колькаснаму (quantifiable), статыстычнаму і структурнаму, мусіць дзеля выжывання прыгнятаць іншыя гістарыяграфічныя накірункі. За апошнія дзесяцігоддзі яна фактычна асудзіла на смерць як наратыўную гісторыю падзеяў, так і індывідуальную біяграфію“.

Але сёння, калі з таго часу пайшло ўжо трэцяе дзесяцігоддзе, як наратыўная гісторыя, так і індывідуальная біяграфія падаюць выразныя прыкметы свайго ўваскрошання. Ніводная з іх не засталася такою сама, як перад сваім „сконам“, але і ў першай, і ў другой лёгка пазнаць варыянт таго самага роду. І нягледзячы на іхнае ўваскрошанне, спраўляць хаўтуры над смярдзючым трупам аналітычнае, структурнае, квантытатыўнае гісторыі яшчэ зарана; яна надалей квітнее і нават развіваецца, калі пр нешта могуць сведчыць амерыканскія доктарскія дысертацыі[39].

Ясна, што праз адно слова„наратыў“, асабліва калі за ім стаіць такая складаная гісторыя, немагчыма раскрыць змест цэлага шэрагу зменаў, якія адбыліся ў характары гістарычнага дыскурсу. Існуюць прыкметы зрухаў у цэнтральным пытанні гісторыі — з акалічнасцяў, што атачаюць чалавека, да чалавека ў акалічнасцях; у праблемах, якія падлягаюць доследу — з эканамічных і дэмаграфічных да культурных і эмацыйных; у галоўных крыніцах уплыву на гісторыю — з сацыялогіі, эканомікі і дэмаграфіі да антрапалогіі і псіхалогіі; у самім яе прадмеце — з групы да асобы; у мадэлі тлумачэння гістарычных зменаў — з стратыфікаваных і монакаўзальных да ўзаемазвязаных і мультыкаўзальных; у арганізацыі выкладу — з аналітычнае да дэскрыптыўнае; а ў разуменні функцыі гісторыка — з навуковае да літаратурнае. Гэтыя шматгранныя змены ў змесце, задачы, метадзе і стылі пісання гісторыі адбываюцца адначасова і маюць адны да адных выразныя „абіральныя схільнасці“: усе яны шчыльна ўзаемазвязаныя паміж сабою. Дагэтуль не знойдзена адзінага слова, якое ахапіла б іх усе, і таму стэнаграфічным значком для ўсіх гэтых працэсаў пакуль што павінен служыць „наратыў“.

Спадзяюся, што гэты артыкул прыцягне ўвагу да адраджэння наратыву і падштурхне да далейшага асэнсавання ягонага значэння для будучыні гісторыі і да змены адносінаў (цяпер усё менш значных) паміж гісторыяй і роднаснымі ёй сацыяльнымі навукамі, — улічваючы, што гісторыя належыць перадусім да сацыяльных навук.

*З ангельскай пераклаў Мікола Раманоўскі*

[39] Darnton R. Intellectual and Cultural History, дадатак.

# „Вялікі наратыў“ і гістарычная навука*

**Алан Мэгіл**

## Ці ўсёпрымальная прафесійная гістарыяграфія?

Ва ўводзінах да зборніка артыкулаў „Новыя перспектывы гісторыяпісання“ Пітэр Бёрк заўважае, што „прыкладна цягам жыцця апошняга пакалення сусвет гісторыкаў пашыраецца з хуткасцю, ад якой галава кругам ідзе“[1]. У гэтым артыкуле мне хацелася б — хоць я і вітаю такое пашырэнне — адзначыць некаторыя яго абмежаванні. Задоўга да з’яўлення самых першых „новых“ гісторыяў у міфалогіі гістарычнай навукі прысутнічала ідэя, што гістарыяграфія — справа, здатная ўбіраць у сябе новае і нязвыклае, адкрытая для любых плённых падыходаў, метадаў і г.д., якія толькі знойдуцца ў іншых галінах навукі[2]. Але пры ўсёй эклектычнасці гістарычнай навукі яе ўсёпаглынальнасць і яе адкрытасць маюць суровыя абмежаванні. Вера ў тое, што гісторыя здатная ўспрымаць новыя падыходы, грунтуецца на пэўным дапушчэнні, у аснове сваёй онталагічным. Найсціслей кажучы, яно палягае на тым, што сусвет у рэшце рэшт мае еднасць. Гэтае дапушчэнне стаіць за вялікімі наратывамі, якія пануюць у заходняй гістарыяграфіі[3]. У сваім артыкуле я прапаную агляд розных мадыфікацыяў канцэпцыі вялікага наратыву, якія назіраюцца ў традыцыі сучаснай заходняй прафесійнай гістарыяграфіі.

* Allan Megill. „Grand Narrative“ and the Discipline of History // A New Philosophy of History. Ed. by Frank Ankersmit and Hans Kellner. London, 1995. P. 151—173.

[1] Burke P. Overture: The New History, its Past and its Future // *New Perspectives on Historical Writing,* ed. Peter Burke. Cambridge, University Park, 1991. C. 1.

[2] Гл., напр., пра „History the Great Catch–All“: Barzun J., Graff H. F. *The Modern Researcher*. San Diego, 4/1985. C. 8—13.

[3] З пэўнымі агаворкамі і мадыфікацыямі я запазычваю тэрмін „вялікі наратыў“ у Жана–Франсуа Ліятара: Lyotard J.–F. *The Postmodern Condition: A Report on Knowledge* (1979). Trans. Geoff Bennington, Brian Massumi. Minneapolis, 1984. C. XXIII. Тэрмін гэты лёгка можна было б прыняць для азначэння ўсёабдымнага аповеду, арганізаванага паводле прынцыпу „пачатак–сярэдзіна–канец“ — гэта самае відавочнае яго значэнне, калі ўлічыць уплыў Арыстоцеля на нашыя ўяўленні пра наратыў. Не канечне адкідаючы Арыстоцелеў погляд (бо да тае часткі гісторыі, пра якую тут ідзе гаворка, ён пасуе), я ўжываю гэты тэрмін шырэй, азначаючы ім звязны погляд — у прыватнасці, дастаткова шырокі, каб падтрымліваць прэтэнзіі на аб’ектыўнасць.

Я раблю гэта з тым, каб праліць святло на цяперашнюю сітуацыю ў гістарыяграфіі — сітуацыю, якая мае і дыяхранічны аспект, звязаны з працяглаю традыцыяй, і сінхранічны, звязаны з канкрэтнымі ўмовамі сучаснага жыцця і культуры.

Мая задача — разгледзець глыбейшыя інтэлектуальныя падваліны падзелу гісторыі на паасобныя дысцыпліны або галіны. Навуковыя дысцыпліны, у тым ліку і гісторыя, маюць свае межы. Навукоўцы, добра абазнаныя ў той ці іншай дысцыпліне, найчасцей не задумваюцца пра іх. Наадварот, яны ўспрымаюць такія абмежаванні проста як неад'емную рысу ўсялякай сапраўднай навукі. На тое ёсць інстытуцыйныя прычыны: гэта пытанне супольнасці і спосабаў сацыялізацыі ў ёй. Можа, толькі ў нешматлікіх шматдысцыплінарных галінах — такіх, напрыклад, як гісторыя жанчын, культуры або навукі — спецыялісты ў адной гуманітарнай дысцыпліне звычайна пазбаўлены сур'ёзнага кантакту з спецыялістамі ў іншых галінах. Хоць пры нагодзе яны і могуць нешта запазычваць з іншых дысцыплінаў, у іх няма досведу пераходу на ўласцівы тым іншым дысцыплінам спосаб аргументацыі. Часта выглядае так, што чым буйнейшая акадэмічная ўстанова, чым больш яна прэстыжная, тым вышэй у ёй уздымаюцца міждысцыплінарныя бар'еры. Установы, пра якія тут ідзе гаворка, найчасцей характарызуюцца глыбокай дысцыплінарнасцю. Спецыялізаваны семінар гісторыка дзейнічае ў ізаляцыі ад усіх іншых семінараў па гуманітарных і грамадскіх навуках, і ўсе астатнія семінары гэтаксама ізаляваныя. (На справе такі семінар часта сам аказваецца глыбока фрагментаваным, так што ўдзел у ім бяруць толькі спецыялісты з нейкай канкрэтнай сферы. Падобная вузкасць часта нясе з сабою прыкрыя наступствы, і каб выправіць такое становішча, трэба аддаваць больш увагі тэорыі.) Працэс прызначэння на акадэмічныя пасады таксама характарызуецца глыбокай спецыялізаванасцю.

Я свядома аперую ў гэтым артыкуле вельмі шырокімі абагульненнямі, добра ўсведамляючы, што разгляд іншых узроўняў мог бы спарадзіць думкі, нашмат больш складаныя і больш спецыфічныя для гісторыі[4]. Я іду на гэта, бо мая задача — здзейсніць нешта накшталт *Grundlagenreflexion* пра лагічныя падставы і агульны характар гістарычнай дысцыпліны. Загадзя выбачаюся за абстрактнасць, якая вынікае адгэтуль, і прашу з пільнай увагай ставіцца да дэфініцыяў. Разважанні, якія я спрабую тут будаваць — хоць гэта, відавочна, толькі малая частка таго, што могуць і павінны рабіць гісторыкі — важныя таму, што выводзяць на святло рэчы, якія інакш засталіся б недаследаванымі заба-

[4] Гл., напрыклад: Blanke H. W. *Historiographiegeschichte als Historik.* Stuttgart—Bad Cannstatt, 1991 — агляд нямецкай традыцыі гістарыяграфіі, пачынаючы ад 1750 г., на 809 старонках.

бонамі. Коратка кажучы, яны маюць тэарэтычную значнасць. Больш за тое, я перакананы, што гэтая аргументацыя мае і практычную карысць для вывучэння і пісання гісторыі. Так, у гістарыяграфічных дыскусіях апошнім часам пачалі ўсплываць пытанні сінтэзу[5], гэтаксама як і літаратурнай формы — напрыклад, белетрыстычнасці і наратыўнай „звязнасці“. І ў тыя, і ў другія пытанні лёгка можна ўнесці яснасць, калі трымаць на думцы схему, якая будзе выкладзена ў гэтым артыкуле.

Відавочна, „звязнасць“ аказваецца тут важным пытаннем, калі не найважнейшым. У адным даследаванні нельга вычарпаць увесь гэты прадмет, але можна прынамсі правесці некаторыя важныя размежаванні. Здаецца, будзе плённым разглядаць „звязнасць“ на чатырох адрозных узроўнях канцэптуалізацыі, а менавіта: (1) *уласна наратыў*, (2) *майстар–наратыў* — сінтэз, які прапануе аўтарытэтны выклад нейкага канкрэтнага сегмента гісторыі; (3) *вялікі наратыў*, які прэтэндуе на аўтарытэтны выклад гісторыі ў цэлым, і (4) *метанаратыў* (звычайна вера ў Бога або ў рацыянальнасць, так ці інакш іманентную нашаму свету). У гэтым артыкуле я спынюся на ўзроўні *вялікага наратыву*. Гэта дазволіць распрацаваць канцэптуальныя асновы пастаўленай праблемы, якія, на маю думку, дапамогуць асэнсаванню не толькі пэўных больш спецыфічных пытанняў, але і таго факту, што апошнія ўзніклі *як* пытанні менавіта ў гэты канкрэтны (постмадэрновы?) гістарычны момант, у якім мы жывём. Па сутнасці, мяне цікавяць прэтэнзіі „прафесійнай“ або „міждысцыплінарнай“ гістарыяграфіі на асабліва аўтарытэтную ролю пры разуменні мінулага — то бок на „аб’ектыўнасць“ у шырэйшым сэнсе гэтага тэрміна[6].

[5] Асабліва гл. шырока вядомы артыкул Томаса Бэндэра: Bender T. Wholes and Parts: The Need for Synthesis in American History // *Journal of American History.* LXXIII (1986). С. 110—136; водгукі Нэла Ірвіна Пэйнтэра, Рычарда Ўайтмана Фокса і Роя Розэнцвэйга [Nell Irvin Painter, Richard Wightman Fox and Roy Rosenzweig] і адказ Бэндэра на гэтыя водгукі былі апублікаваныя пад загалоўкам: A Round Table: Synthesis in American *History // Journal of American History.* LXXIV (1987). С. 107—30. Пра „майстар–наратыў“ для нямецкае гісторыі гл. таксама: Geyer M., Jarausch K. H. The Future of the German Past: Transatlantic Reflections for the 1990s // *Central European History.* XXII (1989). С. 229—259 (асабліва с. 234—247).

[6] Выклад на больш спецыфічным узроўні менавіта амерыканскае гістарыяграфіі гл. у важнай і смелай кнізе Пэтэра Новіка: Novick P. *That Noble Dream: The „Objectivity Question“ and the American Historical Profession.* Cambridge, 1988. Гэты артыкул можна прачытаць як спробу сягнуць да яе глыбейшых падвалінаў. Пра шматдысцыплінарны падыход да аб’ектыўнасці гл.: Megill A. (ed.). *Rethinking Objectivity.* Durham, NC, 1994, асабліва: Megill A. Introduction: Four Senses of Objectivity // Ibid. С. 1—10.

## Чатыры ідэальныя тыпы падыходаў да глабальнае звязнасці гісторыі

Назіральнікі і ўдзельнікі традыцыі сучаснай заходняй прафесійнай гістарыяграфіі, як правіла, уважаюць, што кожная канкрэтная гістарычная праца павінна арыентавацца на гісторыю ў цэлым — г.зн. на адзіную гісторыю, якую я буду тут называць Гісторыяй (з вялікай літары)[7]. Праўдападобна, традыцыя лучыць гістарыяграфію з Гісторыяй чатырма рознымі спосабамі, у якіх выяўляюцца чатыры „падыходы“ да Гісторыі. Гэтыя падыходы можна размеркаваць паводле храналогіі, хоць яны могуць і суіснаваць — як, на маю думку, і бывае ў найлепшай гістарыяграфіі. Яны з'яўляюцца канцэптуальнымі тыпамі. Спачатку мы бачым веру ў канкрэтны „вялікі наратыў“, які прэтэндуе на асэнсаванне гісторыі ў цэлым. Сутнасць „падыходу 1“ у тым, што існуе адзіная звязная Гісторыя і што яе можна расказаць (або пераказаць) *цяпер*. „Падыход 2“ таксама кажа, што існуе адзіная звязная Гісторыя, аднак яе выклад адтэрміноўваецца на пазнейшы час, пасля таго як будуць праведзеныя „далейшыя даследаванні“. Згодна з „падыходам 3“, адзіная звязная Гісторыя існуе, але распавесці яе немагчыма. Відавочна, мыслячы ў наратывісцкіх катэгорыях, мы ўбачым тут парадокс, бо вялікі наратыў, які немагчыма распавесці, не мае самой *формы* наратыву. Замест гэтага ён знаходзіць сваё выяўленне ў тым, як моцна гісторыкі трымаюцца за аўтаномнасць сваёй дысцыпліны. Гэтая адданасць забяспечвае чысціню і звязнасць дысцыпліны пры тым, што апошняя не зводзіцца ні ў які адзіны аповед. А „падыход 4“ ставіць пад пытанне нават такую форму звязнасці.

Той факт, што прафесійная гістарыяграфія прадугледжвае ў якасці сваёй перадумовы існаванне, хоць не канечне выклад, пэўнага звязнага вобраза, застаецца для саміх гісторыкаў амаль незаўважным. Вядома ж, гісторыкі, як правіла, добра ўсведамляюць праблему звязнасці на больш спецыфічных узроўнях, — ці гэта будзе пабудова адзінага (і звязнага паводле вызначэння) наратыву, ці зварот да імпліцытнага або эксплліцытнага „майстар–наратыву“ нейкай канкрэтнай галіны гісторыі

[7] Яскравае выключэнне сярод гісторыкаў, якіх іначай была б спакуса назваць „прафесійнымі“ — становіць Якаб Буркхарт. Кажучы на пачатку сваёй працы „Цывілізацыя Рэнесансу ў Італіі“ (нямецкі арыгінал, 1860), што „тыя самыя даследаванні, якія далі матэрыял для напісання гэтае працы, лёгка маглі б у іншых руках не толькі атрымаць цалкам адрозную трактоўку і стасаванне, але і прывесці да істотна іншых высноў“, Буркхарт фактычна адмаўляў паняцце Гісторыі (гл.: Burckhardt J. *The Civilization of the Renaissance in Italy.* Trans. S. G. C. Middlemore. Harmondsworth, 1990. Part I. Introduction. С. 19).

(як робяць Гаер і Ярауш, гл. спасылку 5). Пытанне тут, аднак, палягае ў звязнасці на ўзроўні „сусвету“. Паколькі фармуляваць канцэптуальныя прэзумпцыі — задача хутчэй тэарэтычная, чым гістарыяграфічная, гісторыкі бяруцца за яе вельмі рэдка. Больш за тое, даследчыкі, у тым ліку гісторыкі гістарыяграфіі, схільныя абмінаць якраз тыя рысы апісанай намі сітуацыі, якія аказваюцца для іх найбольш „натуральнымі“.

І ўсё ж *некаторыя* з гісторыкаў гістарыяграфіі патрапілі ўбачыць тыя рэчы, пра якія я тут кажу. Усе яны без выключэння прыйшлі да сваіх высноў праз экстрадысцыплінарныя даследаванні. Рэйнгарт Козэлек, спецыяліст па *Begriffsgeschichte,* адзначыў, што ў Нямеччыне ў канцы XVIII ст. тэрмін „*Geschichte*“ пачынае ўжывацца як „зборны назоўнік адзіночнага ліку“, і сцвердзіў, што для аўтараў, якія пісалі ў гэтых рамках, „гісторыя ў адзіночным ліку, як зборны назоўнік, прадвызначала ўмовы ўсіх магчымых індывідуальных гісторыяў“[8]. Знаёмства з літаратурнай тэорыяй прывяло Роберта Э. Бэркгофэра–малодшага да думкі, што цікаўнасць прафесійных гісторыкаў да кантэксту зыходзіць з дапушчэння пра мінуўшчыну як пра „складаную, але аднастайную плынь падзеяў“, „Вялікі аповед“[9]. Філосаф Луі Мінк выявіў, што характэрнае для XVIII ст. паняцце „усёагульнай гісторыі“ захоўваецца і ў гістарыяграфіі XX ст.[10] Нарэшце, зыходзячы з кантыянскага светапогляду, Леа-

[8] Гл.: Koselleck R. Die Entstehung des Kollektivsingulars // Otto Brunner, Werner Conze, Reinhart Koselleck, eds. *Geschichtliche Grundbegriffe: Historisches Lexikon zur politisch–sozialen Sprache in Deutschland.* Stuttgart, 1972—. II. С. 652. Кароткі выклад па–англійску гл.: Koselleck. On the Disposability of History // Koselleck. *Futures Past: On the Semantics of Historical Time.* Trans. Keith Tribe. Cambridge, MA, 1985. С. 200—202 (параўн. заўв. 28 ніжэй). Козэлек развівае тэзу свайго настаўніка Карла Лёвіта, які супастаўляў нямецкае *die Geschichte* як назоўнік адзіночнага ліку з адсутнасцю эквівалентнага тэрміна ў грэцкай мове. Гл.: Löwith K. Mensch und Geschichte (1960) // *Der Mensch inmitten der Geschichte: Philosophische Bilanz des 20. Jahrhunderts.* Ed. Bernd Lutz. Stuttgart, 1990. С. 228.

[9] Berkhofer R. F., Jr. The Challenge of Poetics to (Normal) Historical Practice // Paul Hernadi, ed. *The Rhetoric of Interpretation and the Interpretation of Rhetoric.* Durham, NC, 1989. С. 188—189. Якім чынам ад зацікаўленасці кантэкстам прыходзяць да ідэі, што ў рэшце рэшт існуе толькі *адзіны* кантэкст? Ад назірання, што гістарычная праца „багатая на кантэкст“, на практыцы бывае лёгка перайсці да высновы, што аповед, які ў ёй выкладаецца, „улічвае і інтэгруе ўсё значнае, усіх асобаў ці ўсе рашэнні“; гл.: Kammen M. Historical Knowledge and Understanding // *Selvages and Biases: The Fabric of History in American Culture.* Ithaca, 1987. С. 37.

[10] Mink L. O. Narrative Form as a Cognitive Instrument // *Historical Understanding.* Ed. Brian Fay, Eugene O. Golob, Richard T. Vann. Ithaca, 1987. С. 194—195.

нард Крыгер зрабіў акцэнт на няспынным пошуку звязнасці, які вядзецца ў прафесійнай гістарыяграфіі[11].

Крыгераў выклад атрымаўся асабліва паказальным. Аўтар прадэманстраваў у ім, што калі ў гісторыкаў няма фундаментальнай згоды наконт характару людской гісторыі, звязнасць гістарыяграфічнай справы апынаецца пад пагрозаю — і наадварот. Развіваючы Крыгераву тэзу, мы з сённяшняга пункту гледжання бачым, што прафесійная гістарыяграфія пры сваім узнікненні ў XIX ст. вызначалася прыкметнай еднасцю ў стаўленні да людской гісторыі. Як бы ні розніліся нацыянальныя і ідэалагічныя пазіцыі, амаль усе прафесійныя гісторыкі пагаджаліся, што гісторыя мае палітычны, еўрапейскі і мужчынскі характар. Але ў апошнія гады прафесійная гістарыяграфія атрымала імпульс да большага плюралізму. Кідаючы выклік колішняй аднароднасці, гэтая перамена аслабляе надзею на дасягненне еднасці ў поглядах на мінуўшчыну. Аслабляе яна і той погляд, згодна з якім гістарыяграфія можа і павінна быць аўтаномнаю ад іншых дысцыплін. Крыгер быў з крыві і косці прафесійным гісторыкам, глыбока адданым аўтаномнасці сваёй дысцыпліны. Ён уважаў, што гісторыку, хоць той і вучыцца ў суседніх дысцыплінаў, тым не менш належыць выступаць як „чыстаму гісторыку“ (то бок не атручанаму характэрным для іншых дысцыплінаў ладам думак), бо звязнасць „спецыфічна гістарычных ведаў“ гарантуе „звязнасць мінулага“[12]. Аднак сам Крыгер падкрэслівае суадноснасць паміж суб’ектыўным і аб’ектыўным аспектамі, якая кожны раз, калі ў грамадстве назіраецца раз’яднанне, ставіць пад сумнеў перспектывы звязнасці вобраза, які ствараецца гістарычнаю дысцыплінаю.

*Падыход 1: Існуе адзіная Гісторыя, і мы ўжо ведаем, у чым яна заключаецца.*

Падыход 1 увасабляецца ў традыцыі „усеагульнай гісторыі“. Усеагульная гісторыя мае дачыненне да нашай праблемы — праблемы бар’ераў паміж дысцыплінамі — таму, што ў сваёй секулярызаванай форме яна мела велізарны ўплыў на прафесійную гістарыяграфію. Хоць яе карані сягаюць яшчэ часоў патрыстыкі, упершыню яна зрабілася тры-

[11] Krieger L. *Time’s Reasons: Philosophies of History Old and New.* Chicago, 1989. С. XI і *passim.* Прыхільнасць Крыгера да „традыцыйнай гістарычнай дысцыпліны“ прывяла яго да некаторых аблудных прачытанняў, калі ён звярнуўся да гістарыяграфіі 1960–х і 1970–х г. (гл. асабліва с. IX—XII, 1—6), але гэта не адмаўляе вялікіх заслугаў ягонае кнігі. Гл. таксама: Krieger L. *Ranke: The Meaning of History.* Chicago, 1977, у якой развіваецца падобная аргументацыя, хоць і ў менш агульнай форме.

[12] Krieger. *Time’s Reasons…* С. 170.

валаю традыцыяй навукі і адукацыі ў нямецкіх пратэстанцкіх універсітэтах, пасля таго як у сярэдзіне XVI ст. гуманіст–рэфарматар Філіп Меланхтон адчытаў на гэтую тэму цыкл лекцыяў ва універсітэце Вітэнберга. У век, калі нацыянальная дзяржава ў Нямеччыне, у адрозненне ад Францыі і Брытаніі, яшчэ не склалася, усёагульная гісторыя давала немцам–пратэстантам вобраз еднасці і славы, якіх у іншых дачыненнях ім бракавала[13].

Хрысціянская ўсеагульная гісторыя рабіла акцэнт на гістарычнай ролі габрэяў; храналогію і перыядызацыю яна запазычвала з Бібліі. На пачатку Новага часу бібліяцэнтрызм быў аспрэчаны і ўрэшце адкінуты. Але падрыў хрысціянскай усеагульнай гісторыі не разбурыў ідэі самой усеагульнай гісторыі, якая прадоўжыла сваё існаванне ў секулярызаванай (г.зн. небіблійнай) форме. У Нямеччыне, вядома, гэтую ідэю падмацоўвала існаванне прысвечаных ёй універсітэцкіх кафедраў.

Секулярызаваная традыцыя ўсеагульнае гісторыі становіць самы пачатак таго сюжэту, які я тут выкладаю. Хоць секулярызаваная традыцыя не пакідала за Бібліяй ніякіх адмысловых прывілеяў, асноўная ідэя ранейшай канцэпцыі, грунтаванай на Бібліі, заставалася непарушнаю — менавіта, ідэя, што ў канчатковым рахунку існуе адзіная гісторыя, еднасць якое гарантуецца Богам. У канцэптуальным сэнсе пераход ад універсальнае гісторыі, грунтаванай на Святым Пісьме, да такой гісторыі, якая хоць і мела перадумовай тэізм, але не адводзіла перавагаў Святому Пісьму, стварыў новую праблему. У першым выпадку вялікі наратыў можна распавесці цяпер, бо гэты расповед фактычна ёсць пераказам; аднак у другім выпадку расповед не мае ўзору, які існаваў бы раней за яго. Як пазнаць вялікі наратыў, калі ён больш не прадпісваецца Бібліяй? Ці магчыма ведаць вялікі наратыў? Да якой ступені і якімі сродкамі?

Адказ прапанаваў Іммануіл Кант. Ягоны артыкул „Ідэя ўсеагульнай гісторыі ў сусветна–грамадзянскім плане“ (1784) наўпрост прычыніўся да традыцыі ўсеагульнай гісторыі. Яшчэ раз Кант звярнуўся да гэтае справы ў тэксце „Новы разгляд старога пытання: ці адбываецца няс-

[13] Стандартны агляд усеагульнай гісторыі на пачатку Новага часу гл.: Klempt A. *Die Säkularisierung der universalhistorischen Auffassung im 16. und 17. Jahrhundert: Zum Wandel des Geschichtsdenkens im 16. und 17. Jahrhundert.* Göttingen, 1960. Гл. таксама: Universal History: A Troubled Tradition // Breisach E. *Historiography: Ancient, Medieval, and Modern.* Chicago, 1983. С. 177—185. Апошнім часам усеагульная гісторыя была ўваскрошана ў зусім інакшым, але па–ранейшаму квазітэалагічным кантэксце, гл.: Fukuyama F. *The End of History and the Last Man.* New York, 1992, асабліва раздзел 5, „An Idea for a Universal History“, с. 55—70.

пынны прагрэс людскога роду?“ (1795)[14]. У першай з гэтых дзвюх працаў Кант выказаў думку, што можна напісаць „філасофскую гісторыю“ чалавецтва. Такая філасофская гісторыя паказала б, якім парадкам хаатычныя на погляд дзеянні індывідуальнае свабоды, калі разглядаць іх „з пункту гледжання людскога роду як цэлага“, могуць трактавацца як прычынак да „нязменна паступальнага, хоць і маруднага, развіцця“, заканчэннем якога будзе „грамадзянскае адзінства людскога роду“. Напісанне такой гісторыі сапраўды дапамагло б дасягнуць жаданае мэты[15]. Але Кант ведаў, што такую гісторыю нельга было б апраўдаць эмпірычна, і адмаўляў усякія намеры зруйнаваць свет „эмпірычных гісторыкаў–практыкаў“[16].

У артыкуле 1795 г. Кант зноў падкрэсліў, што „праблему прагрэсу немагчыма развязаць непасрэдна шляхам досведу“; аднак поруч з гэтым ён сцвердзіў, што нешта ў досведзе павінна прынамсі *паказваць* на „схільнасць і здатнасць людскога роду быць прычынай свайго ўласнага руху да лепшага“[17]. Аналізуючы сваю эпоху, Кант убачыў гэткі эмпірычны паказчык у „спосабе мыслення назіральнікаў“ найвялікшай яе падзеі — Французскае рэвалюцыі. Назіральнікі, якім рэвалюцыя не несла ніякіх выгодаў, віталі яе з кранальным энтузіязмам — нават у Прусіі, дзе іхні энтузіязм быў небяспечны. Такая сімпатыя да рэвалюцыі, меркаваў Кант, магла быць выклікана толькі пэўнай „маральнай схільнасцю“, наяўнасць якое ў людскога роду дае падставу верыць, што гісторыя чалавецтва мае прагрэсіўны характар[18]. Таксама і Гегель браўся вылучыць і сфармуляваць істотны абрыс гісторыі, якую ён бачыў як паступовую рэалізацыю свабоды: спачатку вольным бывае адзін чалавек, потым некаторыя, нарэшце ўсе[19].

[14] Kant I. Idea for a Universal History from a Cosmopolitan Point of View (1784). Trans. Lewis White Beck // Kant. *On History.* Ed. Lewis White Beck. Indianapolis, 1963. С. 11—26; Kant. An Old Question Raised Again: Is the Human Race Constantly Progressing (1795). Trans. Robert E. Anchor // Kant. *On History.* С. 137—154. Падрабязны дэканструкцыйны разбор твораў Канта пра ўсеагульную гісторыю гл.: Fenves P. D. *A Peculiar Fate: Metaphysics and World–History in Kant.* Ithaca, 1991.

[15] Kant. Idea for a Universal History… С. 11, 23—36.

[16] Kant. Op. cit. С. 25.

[17] Kant. An Old Question Raised Again. С. 141—142.

[18] Kant. Op. cit. С. 143—145. Пра стаўленне Канта да Французскае рэвалюцыі гл.: Krieger. *The German Idea of Freedom.* Boston, 1957. С. 104—105.

[19] Самую дэталёвую фармулёўку гэтага погляду гл.: Hegel G. W. F. *The Philosophy of History.* Trans. J. Sibree. New York, 1956. Сціслы выклад гл.: Hegel. *Philosophy of Right.* Trans. T. M. Knox. Oxford, 1952. С. 216—223. У Гегеля тэалагічнае абгрунтаванне вялікага наратыву асабліва відавочнае. Адзначма яго вядо-

Але распавяданне вялікага наратыву нясе рызыку, таму што будучыя падзеі могуць адступаць ад запраектаванага сюжэта. Вось прыклад: у траўні 1789 г. Фрыдрых Шылер, заняўшы пасаду прафесара гісторыі Енскага універсітэта, чытаў сваю інаўгурацыйную лекцыю. Натхнёны Кантавай „Ідэяй усеагульнай гісторыі", ён абраў тэму „У чым палягае вывучэнне сусветнай гісторыі і якую мэту яно мае?" і абмаляваў перад слухачамі рух ад варварства, дагэтуль відочнага ў прымітыўных расаў, да цывілізацыі Еўропы XVIII ст., дзе маральнасць і свабода набіраюць усё большую моц. На ягоны погляд, „грамада еўрапейскіх дзяржаваў ператварылася як бы ў адну вялікую сям'ю", члены якое „могуць яшчэ варагаваць міжсобку, але трэба спадзявацца, што яны ўжо не будуць рваць адзін аднаго на шматкі"[20]. Пра разбежнасць паміж сваім аптымістычным выкладам еўрапейскай гісторыі ў інаўгурацыйнай лекцыі і падзеямі, якія выбухнулі ў Францыі ўсяго праз два месяцы і скаланулі цэлы свет, Шылер, здаецца, не выказаўся ні разу[21].

Звязаная з гэтым праблема тычыцца ўзроўню дэталізацыі ў вялікім наратыве. У рэцэнзіі 1772 г. на „Усеагульную гісторыю" Аўгуста Вільгельма фон Шлёцэра Ёган Готфрыд Гердэр скрытыкаваў Шлёцэра за тое, што той не рэалізаваў план ўсеагульнае гісторыі, прапанаваны ім у у гэтай кнізе. У адказ Шлёцэр пагадзіўся з Гердэравым назіраннем, што прапанаваць лягчэй, чым зрабіць (*dass sich etwas leichter sagen als thun lasse*), але заявіў: „што да сусветнае гісторыі,… [то] яна павінна быць *сфармулявана* (*gesagt*) перш, чым *рэалізавана*… трэба скласці *план, тэорыю, ідэал* гэтае навукі"[22]. Іншымі словамі, Шлёцэр сцвярджаў, што абрыс аповеду можна распавесці ўжо цяпер, але яго *поўны* выклад адносіў на пазнейшы час. Гэтае пазнейшае апавяданне Шлёцэр напэўна ўяўляў сабе проста як дапаўненне абрысу. Але можна задаць пытанне:

мую заяву: „У тым, што сусветная гісторыя ёсць гэты працэс развіцця… палягае сапраўдная тэадыцэя, апраўданне Бога ў гісторыі" (*Philosophy of History.* С. 457). Пра ролю „хрысціянскай тэалогіі гісторыі" ў Гегеля гл.: Dickey L. *Hegel: Religion, Economics, and the Politics of Spirit, 1770—1807.* Cambridge, 1987. С. 149.

[20] Schiller F. von. Was heisst und zu welchem Ende studiert man Universal–Geschichte? // Wolfgang Hardtwig, ed. *Über das Studium der Geschichte.* Munich, 1990. С. 18—36 (27).

[21] Гэта адзначае Mink. Op. cit. (сп. 10). С. 189.

[22] Гл. Herder J. G. A. L. Schlözers Vorstellung seiner Universal–Historie // Herder. *Sämmtliche Werke.* Ed. Bernhard Suphan. 33 vols. Berlin, 1877—1913. V. С. 436, 438. Гл. таксама: Schlözer A. W. von. *Vorstellung seiner Universal–Historie.* 2 vols. Göttingen, 1772—73. 11. „Vorbericht". Цытата з Шлёцэра пададзена паводле: Reill P. H. *The German Enlightenment and the Rise of Historicism.* Berkeley, 1975. С. 47, 232—233, сп. 59.

што, калі пазнейшы аповед будзе не столькі дапаўняць, колькі папраўляць той абрыс? У такім выпадку нельга было б сказаць, што мы ўжо спазналі адзіную Гісторыю.

*Падыход 2: Існуе адзіная Гісторыя, але мы яе спазнаем толькі пасля дадатковых даследаванняў.*

Падыход 2 адносіць выклад аповеду на пазнейшы час. Выйшаўшы на арэну гісторыі ў адказ на забурэнні рэвалюцыйных і напалеонаўскіх войнаў, гэты падыход быў звязаны з узнікненнем прафесійнай гістарыяграфіі. Кананічны заснавальнік гэтае дысцыпліны, Леапольд фон Ранке, крытычна ставіўся да такіх усеагульных гісторыкаў, як Гатэрэр, Ёганэс Мілер і Фрыдрых Хрыстаф Шлёсэр[23]. Яшчэ крытычней ён ставіўся да філосафаў накшталт Гегеля, якія пастулявалі ход людской гісторыі апрыёрна. Але ягонае стаўленне да ўсёагульнай гісторыі як такой крытычным не было; наадварот, яна заўсёды заставалася прадметам ягонага перакanання[24].

Разгледзім наступнае месца з фрагмента, напісанага Ранке ў 1860–х г.:

> Вывучэнне нечага прыватнага заўсёды стаіць у шырэйшым кантэксце. Лакальная гісторыя звязаная з гісторыяй краіны; біяграфія — з шырэйшымі падзеямі ў дзяржаве і царкве, з пэўнай эпохаю нацыянальнай ці агульнай гісторыі. Але ўсе гэтыя эпохі, як мы сказалі, самі толькі частка большае цэласці (*Ganzen*), якую мы завём усеагульнай гісторыяй. Чым большы абсяг яе даследавання, тым большая ў яго, адпаведна, і вартасць. Канчатковаю ж мэтай, яшчэ не дасягнутай, заўсёды будзе заставацца асэнсаванне і складанне гісторыі чалавецтва… Аднак ахапіць усё цалкам і ўсё ж аддаць справядлівасць патрабаванням даследавання — гэта заўсёды будзе заставацца толькі ідэалам. Перадумова такога ідэалу — разуменне людское гісторыі ў цэлым на трывалым грунце[25].

[23] Гл. дадатак Ранке да ўводзінаў у ягоны курс летняга семестра 1848 г. [„Erster Teil der Weltgeschichte oder Geschichte der alten Welt"], пад рэдакцыйнай назваю: Die Universalgeschichtsschreibung seit dem 16. Jahrhundert // Ranke L. von. *Aus Werk und Nachlass.* Ed. Walther Peter Fuchs and Theodor Schieder. 4 vols. Vienna, 1964—175. IV: *Vorlesungseinleitungen.* Ed. Volker Dotterweich, Walther Peter Fuchs. C. 208—210.

[24] Гэта з мноствам падрабязнасцяў паказаў Крыгер. Гл. ягоную працу: Krieger. *Ranke…* (цытаваную ў заўв. 11). С. 103, 107, 112—115, 124, 151—152 і *passim.* Дакументацыю зацікаўленняў Ранке ўсёагульнай гісторыяй гл. пад „Universalgeschichte, –Historie" у прадметным паказніку: op. cit. (сп. 23). IV.

[25] Ranke. [Die Notwendigkeit universalgeschichtlicher Betrachtung]. Ibid. IV. C. 297—298. Trans. Wilma A. Iggers, пад назваю: The Role of the Particular and the General in the Study of Universal History (A Manuscript of the 1860s) // Ranke.

Тут Ранке разглядае тры розныя ўзроўні цікаўнасці гісторыка. Першы, „даследаванне прыватнага, нават адзінкавага пункту“, спараджае тое, што гісторыкі сёння завуць мікрагісторыяй. Другі паказвае, як прыватнае робіцца часткаю „шырэйшага кантэксту“; ён таксама назіраецца ў сучаснай гістарыяграфіі. Трэці ўзровень, які займаецца „вялікай цэласцю“ — з „асэнсаваннем цэлага“ — прыхаваны, але *ідэя* яго нам знаёмая: гэта ідэя вялікага наратыву, адзінай гісторыі чалавецтва.

Кажучы пра „канчатковую мэту, яшчэ не дасягнутую“, Ранке прызнаваў, што апавяданне такое гісторыі адкладаецца. Падобныя сцверджанні ў яго трапляюцца і ў іншых месцах; напрыклад, у канспекце лекцыі 1867 г. ён пісаў: „Гістарычная навука яшчэ недастаткова саспела, каб перабудаваць усеагульную гісторыю на новых асновах“[26]. Насамрэч, патрабаванне адтэрмінаваць выклад вялікага наратыву было неабходна для таго, каб гісторыя паўстала як навуковая дысцыпліна. Кант, Шылер і Гегель лічылі, што ім ужо вядомы асноўны абрыс людской гісторыі — або, прынамсі, што ім вядома, які яе абрыс найлепш пастуляваць як праўдзівы. Такая ўпэўненасць пазбаўляла гістарычны дослед лагічнага абгрунтавання, бо, перакана765ны падобнымі выкладамі, даследчык стаў бы „дашуквацца ведаў толькі пра тое, наколькі магчыма выявіць у гісторыі філасофскі прынцып… было б увогуле нецікава корпацца ў падзеях, якія адбыліся… або хацець даведацца, як людзі жылі ці думалі ў той ці іншы час“. Больш за тое, „калі б гэтая працэдура [пабудовы „гісторыі як цэлага“ на апрыёрнай аснове] была карэктнаю, гісторыя (*Historie*) страціла б сваю самастойнасць (*Selbständigkeit*)[27]. Калі праз Святое Пісьмо, або праз веданне людскоe натуры, ці нейкім іншым шляхам мы можам выкласці гэты аповед цяпер, дык што за патрэба тады ў быццам бы спецыфічных метадах прафесійнага гістарычнага даследавання?[28]

*The Theory and Practice of History.* Ed. Georg G. Iggers, Konrad von Moltke. New York, 1983. С. 58—59.

[26] Ranke L. Neuere Geschichte seit dem Anfang des 17. Jahrhunderts (28. Oktober 1867—10. März 1868) // Op. cit. (сп. 23). IV. С. 411. Як слушна зазначыў Крыгер, „раз за разам [Ранке] настойліва паўтарае, што поспех гісторыка ў спасціжэнні аб’ектыўнае звязнасці ўсёагульнае гісторыі — толькі справа часу“ (Op. cit., сп. 11). С. 103.)

[27] Ranke L. Idee der Universalhistorie [тэкст лекцыі 1831—32] // Op. cit. (сп. 23). С. 74—75. Скарочаны перакл. — Wilma A. Iggers, пад назваю: On the Character of Historical Science (A Manuscript of the 1830s) // Ranke L. Op. cit. (сп. 25). С. 36.

[28] Козэлек даводзіць што ўзнікненне тэрміна „гісторыя“ (*die Geschichte*) як „зборнага назоўніка ў адзіночным ліку“, ужыванага без дапаўнення, датуецца канцом XVIII ст.: „Толькі прыкладна ад 1780 г. можна казаць пра «гісторыю ўвогуле», «гісторыю ў сабе і для сябе», «чыстую і простую гісторыю»“ — у адроз-

Для Ранке абгрунтаванне веры ў рэальнасць адзінае Гісторыі, нават пры адсутнасці яе сучаснага выкладу, было рэлігійным. Бог стварыў свет і даглядае за ўсім, што ў ім ёсць, адзін Бог — адна і гісторыя, якую Ён творыць. Прыкметы гэтага погляду можна знайсці ў Ранке ў „Ідэі ўсеагульнай гісторыі“, дзе, разглядаючы „канцэпцыю татальнасці“ (*Auffassung der Totalität*) — адну з рысаў усеагульнай гісторыі — ён сцвердзіць, што для нас немагчыма спасцігнуць усёагульную гісторыю ў цэласці: „Сусветная гісторыя вядома толькі Богу“[29]. Але найясней гэтая повязь паміж ідэяй Бога і ідэяй еднасці Гісторыі выказана ў лісце маладога Ранке да свайго брата ад 1820 г.:

> Бог перабывае, жыве і можа быць спазнаны ўва ўсёй гісторыі. Пра Яго сведчыць кожны ўчынак, Яго імя прапаведуецца кожным момантам, але найбольш, як мне здаецца, злучнасцю гісторыі ў цэлым. Яна [злучнасць] выступае тут, як нейкі святы іерогліф… Каб жа нам расчытаць гэты святы іерогліф! Якраз гэткім чынам мы служым Богу. Якраз гэткім чынам мы святары. Якраз гэткім чынам мы настаўнікі[30].

Вось жа, паміж Ранке і ранейшаю, хрысціянскаю канцэпцыяй усеагульнай гісторыі існуе відавочная пераемнасць.

Адданасць паняццю вялікага наратыву зусім не канечне патрабавала рэлігійнае веры: формы секулярнае веры пасавалі для яе таксама. Звернемся да інаўгурацыйнае лекцыі Дж.Б.Б'юры „Навука гісторыі“ (1902 г.), прачытанае пры атрыманні ім пасады прафесара каралеўскае кафедры сучаснай гісторыі ў Кембрыджы. Тут Б'юры выказаў думку, што

> ідэя будучага развіцця чалавека… служыць… апраўданнем для значнае часткі цяжкой гістарычнай працы, якая ўжо зроблена і якая робіцца цяпер. Збіранне матэрыялаў пра дробныя мясцовыя падзеі, супастаўленне рукапісаў і рэгістрацыя дробных разыхо-

ненне ад гаворкі пра „гісторыю X“ і „гісторыю Y“; гл.: Koselleck, перакл. Tribe. Op. cit. (сп. 8). С. 200. Можна меркаваць, што пашырэнне ўяўлення пра гісторыю як пра "зборны назоўнік у адзіночным ліку“, якое адбылося ў XIX ст., сталася кампенсацыяй за адтэрмінаванне тае будучыні, на якую планавалася апавяданне вялікага наратыву. Калі ўважалася, што вялікі наратыў можна распавесці або пераказаць сёння, не было патрэбы семантычна настойваць на еднасці Гісторыі. Аднак сітуацыя змянілася, калі апавяданне вялікага наратыву было адкладзена.

[29] Ranke L. Op. cit. (сп. 27). С. 82—83. Trans. Iggers. С. 44.

[30] Леапольд Ранке — Гайнрыху Ранке, ліст ад сакавіка 1820 г. // Ranke, Leopold von. *Das Briefwerk.* Ed. Walther Peter Fuchs. Hamburg, 1949. С. 18. Перакл. з: Krieger. Op. cit. С. 361.

> джанняў паміж імі, цярплівая руцінная праца ў дзяржаўных і муніцыпальных архівах, усе мікраскапічныя даследаванні, якія вядуцца арміямі руплівых навукоўцаў… Рабіць гэтую працу — секчы дровы і насіць ваду — трэба з вераю: вераю ў тое, што поўны збор найдрабнейшых фактаў людской гісторыі ўрэшце загаворыць. Гэтая праца робіцца дзеля будучыні — дзеля далёкае будучыні[31].

Апраўданне веры, якую меў Б'юры, ляжыць у глабальнай экспансіі заходняй цывілізацыі напрыканцы XIX ст. і ідэалаў навукі і супрацоўніцтва, якія, на думку Б'юры, зрабілі гэткую экспансію магчымаю. Пазіцыя Б'юры была структурна ідэнтычнаю пазіцыі Ранке, нягледзячы на яе секулярны фокус. Як і Ранке, Б'юры трымаўся падыходу 2, адносячы выклад вялікага наратыву на будучыню. Ягонай процілегласцю выступаў адкрыты прыхільнік падыходу 1, Томас Арнальд, які ў сваёй інаўгурацыйнай лекцыі 1841 г. пры атрыманні пасады прафесара каралеўскае кафедры сучаснай гісторыі ў Оксфардзе выказаў думку, што „сучасны век“ супаў з „апошнім крокам“ у гісторыі чалавека — што ён мае прыкметы „паўнаты часу, як быццам за ім не мае быць далейшай гісторыі“[32]. Б'юры запярэчыў на гэта, але не таму, што быў супраць ідэі адзінай Гісторыі *per se*. Ягоная думка палягала ў тым, што ведаць абрыс гісторыі яшчэ зарана, а не ў тым, што такога адзінага абрысу, які можна спазнаць, няма ўвогуле.

Спакушальна было б думаць, што адклад такога аповеду рэзка зніжае рэлевантнасць веры ў адзіную гісторыю для пісання гісторыі. Гэтая рэлевантнасць, аднак, нікуды не знікае, бо вера ва ўсеагульную гісторыю (хоць апошнюю пакуль што і не выпадае распавесці) цягне за сабой важнае эпістэмалагічнае наступства. Такая вера дазваляе гісторыкам уважаць гістарычны аповед за аб'ектыўнае прадстаўленне, звязанае з пазіцыяй самой Гісторыі. Як заўважыў Крыгер, характэрная для Ранке „ўпэўненасць у аб'ектыўнасці гісторыка“ грунтавалася на веры ў „адзіны працэс“, які служыць повяззю паміж мінуўшчынай і будучыняй[33]. У „Навуцы гісторыі“ Б'юры даводзіў дакладна тое самае. Пачаў ён з заявы, што гісторыя — гэта навука, „не менш і не больш“[34]. „Навука“ для Б'юры азначала чыста аб'ектыўнае прадстаўленне: яе „не выпадае кантраляваць або накіроўваць паводле суб'-

[31] Bury J. B. The Science of History // Fritz Stern, ed. *The Varieties of History from Voltaire to the Present.* New York, 2/1972. С. 219.

[32] Ibid. С. 217. Цытуецца: Thomas Arnold. *Lectures on Modern History.* New York, 1874. С. 46.

[33] Krieger. Op. cit. (n. 11). С. 242.

[34] Bury. Op. cit. (n. 31). С. 210.

ектыўнага інтарэсу“[35]. Адкідаючы суаднесенасць са сваім часам і месцам, гісторык прэтэндуе на тое, каб суадносіцца з гістарычным працэсам як цэлым. Б’юры лічыў, што ў гісторыі існуюць „прынцыпы еднасці і цэласнасці“[36]. Гэтыя прынцыпы падказваюць ідэю будучага развіцця чалавека, якая служыць „абмежавальнай рэгуляцыйнай канцэпцыяй“ і кажа гісторыку, што належыць да гістарычнага аповеду, а што з яго трэба выключыць[37].

*Падыход 3: Ёсць адзіная Гісторыя, аднак распавесці яе ніколі не будзе магчыма. Яна існуе толькі ў ідэале, як недасяжная мэта аўтаномнае дысцыпліны. Носьбітам звязнасці цяпер выступае не аповед, ужо выкладзены або толькі чаканы ў будучыні, а спосаб мыслення, адзіны для ўсяе дысцыпліны.*

Падыход 3 адмаўляецца ад думкі, што адзіную гісторыю калі–небудзь можна будзе апавесці, але не ад ідэі самога існавання „адзінай гісторыі“, пад якой разумеецца адзіны аўтарытэтны спосаб даследавання мінуўшчыны. Гісторык і тэарэтык гістарыяграфіі Ёган Густаў Дройзэн, які чытаў лекцыі па тэорыі і метадалогіі гісторыі з 1857 да 1883 г., вельмі блізка падышоў да фармулёўкі гэтае пазіцыі. У сваіх лекцыях ён цвердзіў, што вялікі наратыў ніколі нельга распавесці, прынамсі на аснове гістарычнага доследу. „Найвышэйшая мэта“ гісторыі, сцвярджаў ён, „не можа быць адкрыта шляхам эмпірычнага даследавання“[38]. Як паказвае згадка пра „найвышэйшую мэту“, Дройзэн лічыў, што звязная Гісторыя існуе. Але калі Ранке з Б’юры меркавалі, што гісторык можа выявіць унутраную звязнасць у аб’ектыўным гістарычным працэсе, Дройзэн перанёс увагу ў сферу суб’ектыўнага. Не адмаўляючы існавання аб’ектыўнае звязнасці, ён пастанавіў „вызначаць не

[35] Параўн. вядомае выказванне Ранке: „Я імкнуўся, так бы мовіць, прыглушыць сваё «я» і толькі пераказваць рэчы, якім магутныя сілы дазволілі ўзнікнуць і якія паўставалі і мацнелі цягам стагоддзяў адна з аднае і адна праз адну“. Ranke. *Englische Geschichte, vornehmlich im Siebzehnten Jahrhundert.* Fünftes Buch. „Einleitung“ // *Sämtliche Werke.* 2 Gesammtausgabe. 54 vols. Leipzig, 1867—1890. XV. C. 103.

[36] Bury. Op. cit. (сп. 31). С. 213, 216.

[37] Ibid. С. 219.

[38] Droysen J. G. *Outline of the Principles of History.* Trans. E. Benjamin Andrews (пераклад працы: Droysen. *Grundriss der Historik.* Rev. 3/1882). Boston, 1893. Sect. 81. C. 47. Гэтая праца змяшчае ў сціслым выглядзе развагі, якія былі разгорнутыя шырэй у пасмяротна апублікаваным рукапісе Дройзэнавых лекцыяў: Johann Gustav Droysen. *Historik.* Ed. Peter Leyh. 3 vols. Stuttgart, 1977 [тамы II і III чакаюць выхаду]. У гэтае апошняе выданне ўключана (с. 413—488) узнаўленне *Grundriss* паводле публікацыі 1882 г.

законы аб'ектыўнае Гісторыі, а законы гістарычнага даследавання і ведаў“[39]. Далей, „гістарычнае даследаванне і веды“ могуць увасабляць законы, якія гарантуюць звязнасць, толькі ў тым выпадку, калі гістарыяграфія сама па сабе ёсць унутрана звязным заняткам, выразна адасобленым ад спаборных з ёю заняткаў і клопатаў. Як вынік, Дройзэн настойваў на аўтаномнасці гістарыяграфіі; і сапраўды, паводле словаў Гэйдэна Ўайта, ён прапанаваў „самую трывалую і сістэматычную абарону аўтаноміі гістарычнае думкі, якая была калі–небудзь сфармуляваная“[40].

Ранке таксама падкрэсліваў аўтаномнасць гісторыі, баронячы гэты прадмет ад тых, хто хацеў бы падыходзіць да яго з гатовым вялікім наратывам, запазычаным з філасофіі. Адстойванне ж аўтаномнасці Дройзэнам выконвала, апрача гэтага, яшчэ адну ролю: яно бараніла гістарыяграфію не толькі ад першаснага, дапрафесійнага перакананння, што аповед нам ужо вядомы, але і ад іншай пагрозы — памнажэння і фрагментавання. Як на гісторыка сярэдзіны XIX ст., Дройзэн (прускі нацыяналіст ліберальнага толку) вельмі ясна адчуваў, што гістарычныя факты можна пераказваць, тлумачыць і інтэрпрэтаваць самым розным чынам. Здаецца, ён усведамляў — чым бы гэтае ўсведамленне ні было выклікана, — што прыхільнікі спаборных тоеснасцяў будуць прэтэндаваць на легітымнасць сваіх гісторыяў гэткім жа парадкам, як сам ён прэтэндаваў на легітымнасць прускае тоеснасці[41]. Ранке ад сутыкнення з гэткімі пагрозамі бараніла перакананне, што Еўропа становіць адзіную палітычную сістэму, а таксама вера, што задача гістарыяграфіі ў тым, каб напісаць гісторыю гэтай (еўрапейскай) сі-

[39] Droysen. Trans. Andrews. Appendix II. Art and Method. C. 118. Пар.: Droysen. *Historik*. C. 69: „дзеі, якімі займаецца нашая навука, …гістарычныя толькі таму, што мы лічым іх гістарычнымі: не самі па сабе і аб'ектыўна, а ў нашым доследзе [*Betrachtung*] і праз яго“ [з рукапісу Дройзэнавых лекцыяў 1857 г.].

[40] White H. den. Droysen's *Historik:* Historical Writing as a Bourgeois Science // *The Content of the Form.* Baltimore, London, 1987. C. 99. Гл. таксама: Jörn Rüsen. *Begriffene Geschichte: Genesis und Begründung der Geschichtstheorie J. G. Droysens.* Paderborn, 1969. C. 119.

[41] Звернем увагу на заяву Дройзэна (Trans. Andrews. Part I. C. 6): „Назіранне над сучаснасцю вучыць нас, што кожны факт з розных пунктаў гледжання разумеецца, апісваецца і звязваецца з іншымі па–рознаму; што кожная справа і ў прыватным, і ў грамадскім жыцці атрымлівае самыя разнастайныя тлумачэнні. Чалавеку, асцярожнаму ў меркаваннях, цяжка будзе выснаваць з мноства настолькі розных выказванняў хоць бы збольшага надзейны і трывалы малюнак таго, што адбывалася і якія пры гэтым ставіліся мэты“. Гл. таксама, на тую ж тэму, рукапіс ягоных лекцыяў 1857 г.: *Historik*. C. 113—114, 236—238.

стэмы[42]. Дройзэн, як выглядае, ясней адчуваў канфлікт паміж інтарэсамі і тоеснасцямі. Адпаведна ён быў і больш здатны ўбачыць множнасць як *праблему*; ён прызнаваў множнасць законнаю, але ў той жа час настойваў на яе абмежаванні[43].

Падыход 3 развітваецца з надзеяй на тое, каб хоць некалі сфармуляваць аб'ектыўны вялікі наратыў (аўтарытэтны агляд Гісторыі як цэлага), вызнаючы ў той жа час звязнасць на ўзроўні самой гістарычнай справы, якая разглядаецца як адзіная таму, што трымаецца супольных метадаў і мэтаў. Падыход 3 — ідэалізаваная версія пазіцыі, якая ўяўляецца паноўнаю ў гістарычнай прафесіі паміж 1914 і 1991 г.[44]. Пасля кры-

[42] Ranke L. The Great Powers (1833). Trans. Hildegarde Hunt Von Laue // Ranke. Op. cit. (сп. 25). С. 65—101, асабліва 99—101. Тут Ранке цвердзіць, што „сусветная гісторыя не прадстаўляе такой хаатычнай, бурнай, супярэчлівай і бессістэмнай чарады дзяржаў і народаў, як выглядае на першы погляд“ (С. 100). Выявіць гэтую падставовую еднасць Ранке памагло перакананне, што *еўрапейская* гісторыя павінна разглядацца як *сусветная* — гэткі пункт гледжання быў пашыраны сярод еўрапейскіх інтэлектуалаў XIX ст. Пра універсалізм Ранке ў агульным плане гл.: Krieger. Elements of Early Historicism: Experience, Theory, and History in Ranke // *History and Theory.* XIV (1975). С. 1—14, асабліва 9—14. Пра тое, як Дройзэн адмаўляў канцэпцыю еўрапейскай сістэмы вялікіх дзяржаў, гл.: Iggers G. G. *The German Conception of History: The National Tradition of Historical Thought from Herder to the Present.* Rev. ed. Middletown, CT, 1983. С. 106—107. Пра „дысідэнцкі“ статус Дройзэна ў нямецкай гістарычнай традыцыі гл.: Michael J. MacLean, „Johann Gustav Droysen and the Development of Historical Hermeneutics“, *History and Theory,* XXI (1982), С. 364—365.

[43] Гл.: Droysen. Trans. Andrews. Op. cit. (n. 38). Sect. 73. С. 44: „Нават самыя прыватныя з людскіх дачыненняў, імкненняў, чыннасцяў і г.д. маюць пэўную працягласць, маюць сваю гісторыю, і для людзей, уключаных у іх, з'яўляюцца гістарычнымі. Адгэтуль — сямейныя гісторыі, мясцовыя гісторыі, спецыяльныя гісторыі. Але па–над усімі гэткімі гісторыямі ёсць *Гісторыя*“.

[44] Новік (Novick, op. cit., сп. 6) у асноўным падтрымлівае маю тэзу, што прафесійныя гісторыкі XX ст. (прынамсі амерыканскія) пераважна згаджаюцца з трэцім падыходам. Пра тое, як гэта адбываецца, можна было б напісаць салідную працу, але адзначым наступныя моманты: (1) Новік вызначыў, што настойванне на аўтаномнасці шырока распаўсюджана ў гістарычнай прафесіі (с. 361—411). Яно — ці не самая характэрная пазіцыя для „трэцяга падыходу“, бо дапускае, што гісторыкі ў прынцыпе могуць прыйсці да погляду на гісторыю, не заплямленага ірэлевантнымі знешнімі ўплывамі, але не патрабуе, каб яны гэта сапраўды рабілі. (2) Ён вызначыў, што гісторыкі, як правіла, дбаюць пра „канвергентнасць“ гістарычнай інтэрпрэтацыі, хоць і сустракаюць на гэтым шляху перашкоду за перашкодай (с. 206—207, 320—321, 438, 457—458, 465 і *passim*). Прага адзінага аўтарытэтнага наратыву, спалучаная з заўсёднай немагчымасцю яго ўзнікнення, —

вавага людабойства Першай сусветнай вайны — як выглядала тады, бессэнсоўнага, бальшыня прафесійных гісторыкаў ужо не бачыла сваёй задачай ні расшыфроўку святога іерогліфа, ні выклад вялікага аповеду аб прагрэсе. Хоць шмат хто працягваў верыць у фундаментальную дабратворнасць гісторыі, але партрэтаванне гэтае дабратворнасці перастала лічыцца задачай *гісторыка*[45]. Перавага падыходу 3 у тым, што ён дазваляе трымацца адзінага ідэалу, не патрабуючы ўвасаблення апошняга ў канкрэтным гістарычным змесце.

Аднак падыход 3 нясе ў сабе глыбокую парадаксальнасць і вялікі патэнцыял унутраных канфліктаў: за адданасцю гістарыяграфіі як адзінай, звязнай справе лунае здань надзеі на аб'ектыўны вялікі наратыў, але апавесці гэты вялікі наратыў немагчыма. Паколькі Дройзэн — вучань Гегеля — зазнаў глыбокі ўплыў нямецкай ідэалістычнай філасофіі і працягваў верыць у „маральны свет… які прыводзіцца ў рух мноствам мэтаў, і ўрэшце… найвышэйшаю мэтай“, мы не ўбачым у яго канчатковай рэалізацыі падыходу 3 у той форме, якая выразна адрознівалася б ад падыходаў 1 і 2[46]. Сярод тэарэтыкаў гістарыяграфіі найлепш рэалізаваў трэці падыход Р.Дж.Колінгвуд, і таму ў яго ж найлепш відаць унутраныя супярэчнасці такога падыходу. (Можна, відаць, звярнуць увагу і на Вільгельма Дыльтэя або Майкла Оўкшота, якія, як

характэрная рыса трэцяга падыходу. (3) Ён вызначыў шырокую распаўсюджанасць погляду на фрагментацыю як на нешта кепскае (с. 577—591 і *passim*). Гэта наводзіць на думку, што адзіны аўтарытэтны наратыў — рэч добрая, нават калі яго ніколі немагчыма распавесці. (4) Ён вызначыў, што ідэя і ідэал „аб'ектыўнасці“ (с. 1) — паняцця, якое гісторыкі з гатоўнасцю прызнаюць недасяжным — трывае з даўніх часоў. Вялікі наратыў, зноў жа, адносіцца на ідэальны ўзровень.

[45] Разгледзім працу: Wells H. G. *The Outline of History, Being a Plain History of Life and Mankind.* 2 vols. London, 1920; New York, 1921, якая рашуча пярэчыць адзначанаму тут погляду (гл. асабліва раздзел 41, „The Possible Unification of the World into One Community of Knowledge and Will“, II, с. 579—589). Збянтэжаная рэакцыя прафесійных гісторыкаў на Уэлса, якая назіраецца ад самых 1920–х г., дэманструе іхняе перакананне, што такіх рэчаў у гістарыяграфіі проста не прынята рабіць.

[46] Droysen. Trans. Andrews. Op. cit. (сп. 38). Sect. 15. C. 15. Гл. таксама: Droysen. *Vorlesung über das Zeitalter der Freiheitskriege.* 1/2. Gotha, 1886. Ñ. 4: „Нашая вера дае нам суцяшэнне, што боская рука падтрымлівае нас, што яна накіроўвае лёсы вялікіх і малых. І гістарычная навука не мае вышэйшае задачы, чым апраўдваць гэтую веру: праз гэта яна стаецца навукаю. Яна шукае і знаходзіць у гэтых бурных хвалях [*wüsten Wellengang*] напрамак, мэту, план“. Рузэн (Rüsen, op. cit., сп. 40) адмыслова падкрэслівае прыхільнасць Дройзэна да вялікага наратыву свабоды паводле Гегеля (гл. асабліва с. 116—130).

Дройзэн і Колінгвуд, засяроджваюцца на суб'ектыўным вымярэнні, то бок на *мысленні* гісторыка[47], але з іх усіх Колінгвуд мысліць найясней, і ягоная яснасць выяўляе тое, што ў іншых аўтараў застаецца прыхаваным[48].)

Колінгвуд сфармуляваў дзве важныя тэзы датычна гістарыяграфіі з пазіцыі „трэцяга падыходу“. Яны былі з гатоўнасцю прынятыя прафесійнымі гісторыкамі, бо адпавядалі таму, што гісторыкі ў XX ст. „ужо заўсёды“ думалі пра сваю справу.

Па–першае, Колінгвуд сцвердзіў, што гістарыяграфічная звязнасць карэніцца ў свядомасці гісторыка. Агулам кажучы, Колінгвуд займаў у гэтым пытанні кантыянскую пазіцыю. Кант прымаў сцвярджэнне Дэвіда Х'юма, што мы не можам успрыняць прычыннасць (хоць можам успрымаць блізіню ў прасторы, паслядоўнасць у часе і трывалую сувязь, якія звычайна асацыююцца з прычыннасцю). Х'юмаў погляд пагражаў прывесці ў выніку да скептыцызму, на што Кант адказаў: прычыннасць нельга спазнаць эмпірычна, яна — арганізацыйны прынцып свядомасці. Калі ў сваёй „Ідэі гісторыі“ Колінгвуд абрынуўся на пасіўную „гісторыю з нажніцамі і клеем“, даводзячы, што гісторык, які спадзяецца на дакументы, каб забяспечыць звязнасць, будзе чакаць вечна, ён проста давёў да лагічнага канца тыя наступствы, якія несла гістарыяграфіі „Капернікава рэвалюцыя“ Канта ў філасофіі[49].

Па–другое, Колінгвуд раз за разам падкрэсліваў „аўтаномнасць“ гісторыі[50]. Кажучы пра аўтаномнасць, ён фактычна меў справу з двума

[47] Гл.: Dilthey W. *Introduction to the Human Sciences* (нямецкі арыгінал, 1883). Ed. Rudolf A. Makkreel and Frithjof Rodi. Trans. Michael Neville. Princeton, 1989. С. 50; Oakeshott M. *Experience and its Modes.* Cambridge, 1933. Асабліва с. 92—96; і Oakeshott. The Activity of Being an Historian // *Rationalism in Politics and other Essays.* New York, 1962. С. 137—167.

[48] Філасофія Колінгвуда ўвогуле і ягоная тэорыя гістарыяграфіі ў прыватнасці задаюць нямала цікавых тэарэтычных і экзэгетычных загадак, якія тут разбіраць не выпадае. Сярод даследаванняў ягонае працы гл. асабліва: Mink L. O. *Mind, History, and Dialectic: The Philosophy of R. G. Collingwood.* Bloomington, 1969; Van Der Dussen W. J. *History as a Science: The Philosophy of R. G. Collingwood.* The Hague, 1981; Reassessing Collingwood // *History and Theory.* XXIX. 1990 [essays by James Patrick, James Connelly, W. Jan Van Der Dussen, Leon J. Goldstein, Michael A. Kissell and G. S. Couse].

[49] Абмеркаванню гэтае тэзы прысвечана значная частка „Эпілегаменаў“ [*Epilegomena*] да працы *The Idea of History*: Collingwood R. G. *The Idea of History.* Oxford, 1946. С. 205—334, асабліва 266—302. Кантыянскія карані сваёй тэорыі ён адзначае ў гэтай кнізе некалькі разоў (с. 60, 236, 240).

[50] Некаторыя звязаныя з гэтым пасажы гл.: Collingwood R. Op. cit. С. 209, 236, 256.

рознымі паняццямі. Найперш яму рупіла падкрэсліць, што гісторыку трэба быць аўтаномным ад „крыніцаў“ і прымаць уласныя рашэнні наконт мінулага, а не спадзявацца на прыпісаны крыніцам аўтарытэт. Гэтае першае — проста іншы спосаб сказаць, што звязнасць зыходзіць са свядомасці гісторыка. Але „аўтаномнасць“ у Колінгвуда мае і іншы сэнс: згодна з ім, гісторыкам належыць быць аўтаномнымі ад іншых дысцыплінаў. Тут Колінгвудаў аргумент палягае на тым, што гістарыяграфія — незалежная дысцыпліна з уласнымі правіламі (адрознымі ад правілаў іншых дысцыплінаў), якія выпрацаваліся з цягам часу праз шэраг спробаў і памылкаў[51]. Ясна, чаму мы хочам падкрэсліць аўтаномнасць гісторыі ад іншых дысцыплінаў: ад гістарычнага мыслення можна чакаць звязнасці толькі тады, калі мы лічым гістарыяграфію галінай навукі з выразна акрэсленымі межамі і са сваім адмысловым наборам правілаў. Іншымі словамі, суб'ектывізацыя звязнасці, г.зн. перанос яе ў свядомасць гісторыка, надала вялікую важнасць той тэзе, што гістарыяграфія — справа аўтаномная.

Аднак у шэрагу пунктаў Колінгвуд падрываў і нават наўпрост адмаўляў думку, што гістарыяграфія павінна быць аўтаномнай справаю ў адзначаным вышэй сэнсе. Так, у сваёй „Аўтабіяграфіі“ ён заявіў, што справай ягонага жыцця, як бачыцца яму цяпер, на 50–м годзе, „было перадусім дамагчыся збліжэння паміж філасофіяй і гісторыяй“[52]. Сучасныя Колінгвуду філосафы — ягоныя апаненты — жорстка адмяжоўвалі гістарычныя пытанні (прыклад: у чым палягала Арыстоцелева тэорыя абавязку?) ад філасофскіх (прыклад: ці была яна слушнаю?) і важнымі лічылі толькі філасофскія пытанні[53]. Колінгвуд скрытыкаваў гэты падзел. Далей ён даводзіў, што „галоўная справа філасофіі XX ст. — аддаць належнае гісторыі XX ст.“; гэтае сцверджанне было звязанае з ягоным жаданнем дамагчыся збліжэння яшчэ ў адной сферы — паміж тэорыяй і практыкай[54]. На яго думку, не толькі філасофія павінна стаць гістарычнаю, але і гісторыя павінна стаць філасофскаю, прычым і тую, і другую трэба пісаць з глыбокай увагай да сучасных праблемаў — бо ход падзеяў, паводле ягоных словаў, разбурыў занятую ім „пазіцыю бесстаронняга прафесійнага мысляра“ і штурхнуў яго да заангажаванасці[55].

[51] Ibid. С. 210, 231.
[52] Collingwood R. *An Autobiography.* Oxford, 1939. С. 77.
[53] Ibid. С. 59.
[54] Ibid. С. 79, 147—167.
[55] Ibid. С. 167. У гэтым раздзеле Колінгвуд вылучае трох Р. Дж. Колінгвудаў, адзін з якіх жыў „як прафесійны мысляр“ (с. 151), а двое астатніх адпаведна верылі ў еднасць тэорыі і практыкі і агітавалі за яе.

У „Ідэі гісторыі“ аўтаномнасць гісторыі дэкларуецца Колінгвудам не так выразна[56]. Тым не менш, яе прысутнасць там відавочная. Выяўляецца яна, па–першае, у ягоным сцвярджэнні, якое інакш выглядала б зусім загадкавым, што гісторыя ёсць „узнаўленне [re–enactment] мінулага досведу“[57] — гэты выраз, здаецца, мацней, чым „перадумванне“, „прадумванне нанава“ [re–thinking], падкрэслівае актыўнасць гісторыка. Падобным жа чынам ягоная заява, што „ў кожнай сучаснасці — свая мінуўшчына, і кожная рэканструкцыя мінуўшчыны сродкамі ўяўлення нацэлена на тое, каб рэканструяваць мінуўшчыну *гэтае* сучаснасці“, мае разбуральныя наступствы, якія патэнцыйна абвяргаюць яго ж больш кансерватыўны тэзіс пра тое, што „ўсялякая гісторыя павінна быць унутрана несупярэчліваю“[58].

*Падыход 4: Дапушчэнне, згодна з якім існуе адзіная Гісторыя, не выпадае адстойваць ні суб'ектыўна (разумеючы яе як занятак, якім займаецца даследчык), ні аб'ектыўна (разумеючы яе як актуальны вялікі наратыў, які мае апавядацца ці цяпер, ці ў будучыні). Такім чынам, адказная гістарыяграфія будзе ставіць дапушчэнне наконт адзінай Гісторыі пад сумнеў. Аднак падыходы 1, 2 і 3, якія дапускаюць адзіную Гісторыю, усё яшчэ могуць рэалізоўвацца: рэгулятыўна — у выпадку падыходу 1; эўрыстычна ці іранічна — у выпадках падыходаў 2 і 3. Чацвёрты падыход ахоплівае ўсе астатнія і адначасна ставіць іх пад пытанне.*

[56] Гісторыкі, чытаючы Колінгвуда, як правіла, прамінаюць ягоную „Аўтабіяграфію“; гэта — у спалучэнні з іхняй, характэрнай для „трэцяга падыходу“, перадузятай прыхільнасцю да дакладна вызначаных бар'ераў паміж дысцыплінамі — можа патлумачыць, чаму адмаўленне Колінгвудам аўтаномнасці гістарыяграфіі так часта ігнаравалася. Так, метадалогія гісторыі палітычнае думкі, звязаная з Скінэрам, Покакам [Quentin Skinner, J. G. A. Pocock] і некаторымі іншымі гісторыкамі, часткова натхнялася „аўтанамісцкім“ прачытаннем Колінгвуда; гл.: Skinner Q. Meaning and Understanding in the History of Ideas // *History and Theory.* VIII. 1969. C. 3—53. Аднак калі Покак, напрыклад, пісаў, што „шлюб“ паміж гісторыяй і тэорыяй спараджае псеўдагісторыю, так што абедзве яны, як тыя сава і арол, не павінны „залятаць на тэрыторыю адна аднае“, або — скарыстаўшы іншае яскравае параўнанне — што гісторыя і тэорыя быццам караблі ноччу: яны могуць абменьвацца між сабой інфармацыяй, але павінны трымацца радыкальна розных курсаў! Пішучы ўсё гэта, ён фармуляваў пазіцыю, рэзка супярэчную Колінгвудавай. Гл.: Pocock J. G. A. Political Theory, History, and Myth: A Salute to John Gunnell // *Annals of Scholarship.* 1. 1980. C. 23, 24. Стандартнае герменеўтычнае назіранне: інтэрпрэтатар знаходзіць у інтэрпрэтаваным толькі тое, што сам гатовы ўбачыць. У гэтым артыкуле паказваецца такі Колінгвуд, да якога гісторыкі не былі гатовыя.

[57] Collingwood R. Op. cit. (n. 49). C. 282—302.

[58] Ibid. C. 247 [курсіў мой], 246.

Чатыры падыходы да адзінае Гісторыі

| | |
|---|---|
| *Падыход 2:* Адзіная Гісторыя існуе, але мы яе спазнаем толькі пасля правядзення „далейшых даследаванняў“. | *Падыход 3:* Адзіная Гісторыя існуе: гэта аўтаномная і ўнутрана звязная гістарычная дысцыпліна. |
| *Падыход 1:* Адзіная Гісторыя існуе, і мы цяпер яе ведаем. | *Падыход 4:* Адзіная Гісторыя не мае пад сабой ніякіх падстаў, тым не менш узяцца за яе стварэнне можна. Пераход межаў і парушэнні метадалогіі *могуць* аказацца абгрунтаванымі. |

Каб зразумець сутнасць чацвёртага падыходу, мабыць, найлепш будзе разгледзець табліцу, якая паказвае, у чым кожны з вылучаных намі падыходаў збліжаецца з астатнімі. Як ідэальныя тыпы ўсе чатыры падыходы розняцца адзін ад другога. У рэальнасці, аднак, пераходы паміж імі размытыя; могуць яны і суіснаваць адзін з адным, прычым „ранейшыя“ погляды ўлічваюцца „пазнейшымі“. Усяго драбок недаверу да магчымасці распавесці Гісторыю „тут і цяпер“ патрабуецца дзеля таго, каб падыход 1 набыў рысы падыходу 2, як паказвае цытаваны вышэй абмен думкамі паміж Гердэрам і Шлёцэрам[59]. Усяго драбок недаверу да магчымасці распавесці Гісторыю ў будучыні патрабуецца, каб падыход 2 перайшоў у падыход 3: прыгадайма Ранке, які ў адным і тым жа фрагменце цвердзіў, што апавесці Гісторыю — гэта „канчатковая мэта, яшчэ не дасягнутая“, і побач — што „спасціжэнне цэласнасці… заўсёды будзе заставацца ідэалам“[60]. Падобным чынам у Колінгвуда падкрэсліванне аўтаномнасці гістарыяграфіі, якая захоўвае суб’ектыўную звязнасць нават перад абліччам перманентнай немагчымасці распавесці аб’ектыўны вялікі наратыў, абарочваецца, калі мацней націснуць, у думку, што той час, у які адбываецца гістарычнае мысленне, мае гэткую ж важнасць, як і час мінуўшчыны — і то настолькі, што ў кожны дадзены момант мінуўшчына перафармоўваецца з пункту гледжання цяпершчыны. Карацей кажучы, існуе канцэптуальная нестабільнасць, якая абяртае кожны тып у адзін або некалькі іншых.

Дакладней кажучы, *па–за падыходам 1* пануе канцэптуальная нестабільнасць. Па сутнасці, падыход 1 — адзіная стабільная пазіцыя. Яна паўстае з лакалізаванага ў гісторыі і падтрыманага аўтарытэтам Пісанняў монатэізму (юдаізм, хрысціянства, іслам) і, здаецца, не мае прычы-

[59] Schlözer. Op. cit. (сп. 22). 11. „Vorbericht“.
[60] Ranke L. Op. cit. (сп. 25). С. 297.

наў для краху, пакуль застаецца трывалым яе рэлігійнае апраўданне. З астатнімі падыходамі інакш. Падыход 2 вагаецца паміж магчымасцю таго, што „далейшыя даследаванні“ *ніколі* не прынясуць аб’ектыўнае ўсеагульнае гісторыі, і поглядам, які зыходзіць з эўрыстычных ці дагматычных меркаванняў — што аб’ектыўную ўсеагульную гісторыю мы ўжо ведаем, прынамсі ў агульным абрысе. Падыход 3 апынаецца ў пастцы паміж задаволенасцю працэдурамі гістарычнае дысцыпліны і трывогаю, што гэтыя працэдуры ніколі не адкрыюць аб’ектыўнай усеагульнай гісторыі. Што да падыходу 4, то ён стаіць на нялёгкай скептычнай пазіцыі Піронавага ці Мантэневага кшталту, якая імкнецца захоўваць скепсіс нават у дачыненні да свайго ўласнага скептыцызму. З пункту гледжання падыходу 3, падыход 4 супярэчыць звязнаму спосабу мыслення, які ёсць асновай сапраўднай гістарыяграфіі. Затое з пункту гледжання падыходу 4 ніводнага спосабу разумення мінуўшчыны не след адкідаць з апрыёрных прычын, ці то метадалагічных ці онталагічных. Таму падыход 4 — не аргумент супраць (прыкладам кажучы) падыходу 3, хіба што ў той меры, у якой падыход 3 імкнецца абвергнуць падыход 4. Аднак падыход 4 усцяж застаецца пад небяспекаю збочыць у той ці іншы варыянт дагматызму — ці то праз дагматычную прыхільнасць да погляду, што „адзінае Гісторыі не існуе“ (погляду, які сам па сабе ёсць сцвярджэннем пра агульны характар тае Гісторыі), ці то праз дагматычнае адкіданне прынятых у дысцыпліне стандартаў і ўмоўнасцяў.

У гэтым нарысе я засяроджваюся, вядома, на канцэптуальных прэзумпцыях. Даследаванне інстытуцыйных падвалінаў дысцыпліны дало б больш разнастайны малюнак. Аднак *grosso modo* мой цэнтральны аргумент здаецца слушным і на інстытуцыйным узроўні таксама. Інстытуцыйныя структуры інтэлектуальнага жыцця ўключаюць у сябе, сярод іншага, прафесійныя арганізацыі, спецыялізаваныя часопісы і факультэцкую будову універсітэтаў, і ўсё гэта знаходзіць інтэлектуальнае абгрунтаванне ў прэзумпцыі, што гісторыкі працуюць над нейкім адзіным праектам. Мая тэза тут тая, што ў цяперашняй сітуацыі і самі інстытуцыйныя структуры, і тыя прэзумпцыі, што апраўдваюць іх існаванне, павінны разглядацца не толькі як сродкі забеспячэння вытворчасці ведаў, чым яны відавочна ёсць, але і як пэўныя абмежавальнікі. Далей нам трэба пільна прыгледзецца да характару гэтых абмежавальнікаў.

Прэзумпцыя, паводле якой гістарыяграфія ўрэшце становіць адзіны праект, аддае перавагу працам, якія пішуцца з наступнай перакананасцю: існуе адзіны, аўтаномны гістарычны спосаб мыслення — падыход, нават метад, які імкнецца да „уніфікацыі“ ў „гісторыі і гістарычнай прафесіі“ насуперак відавочнай раз’яднанасці на ўзроўнях суб’ектаў і суб’ектыўных пытанняў. (Прыгадайма тэму штогадовага з’езду Амеры-

канскай гістарычнай асацыяцыі ў снежні 1992 г.[61]) Задача ў тым, каб „гістарызаваць“ аб’екты гісторыі — то бок падпарадкаваць іх адзінаму гістарычнаму мысленню. З прэзумпцыі еднасці родзіцца прадузятасць да працаў, дзе ў развагах пра мінуўшчыну выкарыстоўваецца не аўтаномна гістарычны, а іншыя спосабы разумення. Наколькі гісторыя такога кшталту ўваходзіць у стасункі з іншымі спосабамі разумення, настолькі яна „прысвойвае“ іх гісторыі. Я не адкідаю такое практыкі, бо гэта не адпавядала б майму адмаўленню апрыёрных метадалагічных крытэрыяў ацэнкі навуковае працы. Хутчэй я прапанаваў бы — паколькі мы так доўга зыходзілі з „аўтаномнага“ пункту гледжання (падыходаў 2 і 3) — зміріцца са змяншэннем „гранічнай плённасці“ нашай працы і з тым, што знаходзіць новыя і нечаканыя веды тут робіцца цяжэй. Гэта *меркаванне*, а не катэгарычнае сцверджанне пра пэўны факт, паколькі будучыня кожнае навукі па сваёй прыродзе непрадказальная.

На карысць частковага зніжэння ўзроўню спецыялізаванасці ў гісторыі можна прапанаваць і іншыя аргументы. Яны збольшага ўжо распрацаваны, і часам даволі дэталёва, хоць найчасцей у такіх кантэкстах, якімі гісторыкі не займаюцца. Гаворачы канкрэтна пра гістарыяграфію, гісторык і тэарэтык гістарыяграфіі Ф.Р.Анкерсміт звяртае ўвагу на тое, што ён называе „перавытворчасцю, якая назіраецца цяперашнім часам у нашай дысцыпліне… Мы ўсе добра ведаем: …штогод з’яўляецца такое незлічонае мноства кніг і артыкулаў, што ахапіць іх усе робіцца немагчымым“[62]. Вынікам, як даводзіць Анкерсміт, становіцца адыход ад „эсенцыялісцкай традыцыі ў заходняй гістарыяграфіі“, якая канцэнтруе ўвагу на „ствале дрэва [гісторыі]“. Яе месца цяпер заступае „цяга“ да маргіналіяў; апошняя выяўляецца ў формах гістарыяграфіі, якія больш не засяроджваюцца на „сэнсе“ (французскае *sens* — г.зн. кірунак, напрамак), затое звяртаюцца да такіх аспектаў мінуўшчыны (ментальнасці, гендэр і пад.), якія раней лічыліся ўсяго толькі „пабочнымі нататкамі“ [„notations“], пазбаўленымі значнасці для агульнага сюжэту гісторыі[63].

[61] American Historical Association. *Program of the One Hundred Seventh Annual Meeting, December 27—30, 1992, Washington, D.C.* Washington, DC, 1992. С. 40.

[62] Ankersmit F. R. Historiography and Postmodernism // *History and Theory*. XXVIII. 1989. С. 137. (*Рэд.:* беларускі пераклад гл.: Анкерсміт Ф. Гістарыяграфія і постмадэрнізм // БГА. Т. 9. (2002). Сш. 1—2 (16—17). С. 105—128).

[63] Ibid. С. 149. Разважанні Анкерсміта пра паняцці „*the pull of the frame*“ і „*notation*“ гл. у ягонай працы: Ankersmit F. R. *The Reality Effect in the Writing of History; the Dynamics of Historiographical Topology.* Amsterdam, 1989, асабліва с. 27—30, 32. Пра паняцце „notation“ гл.: Barthes R. The Reality Effect (фр. арыгінал 1974) // *The Rustle of Language.* Trans. Richard Howard. New York, 1984. С. 141—142.

Апрача гістарыяграфіі, існуе філасофская лінія аргументацыі, знакаміта прадстаўленая ў некаторых аспектах ранніх працаў Жака Дэрыды; яна відавочна мае пэўныя наступствы для любых прэтэнзіяў навуковых дысцыплінаў на еднасць (я маю на ўвазе галоўным чынам Дэрыдова паняцце „адпачаткавай адрознасці“ [originary difference] або „дыфэрансу“ [différance], якое мы можам прыняць у лік аргументаў супраць [міждысцыплінарнае] канвергенцыі)[64]. Нікалас Рэшэр, спецыяліст у галіне аналітычнай філасофіі, даводзячы законнасць „плюралізму арыентацыяў“ у філасофіі, бароніць ідэю, якая, здаецца, стасуецца да сінтэзу ў гістарыяграфіі гэтаксама, як і да кансенсусу ў філасофіі[65]. Палітолагі Матэл Доган і Робэрт Парэ дэманструюць, на аснове эмпірычнага доследу, што самай надзейнай дарогай да новых ведаў цяпер служыць „гібрыдызацыя“ паміж навуковымі дысцыплінамі, а не спецыялізацыя ў іх рамках або уніфікацыя іх на адзін узор. Аргументы Догана і Парэ прадугледжваюць змяшаныя ці гібрыдныя метады і суіснаванне іх са спецыялізацыяй, якая працягвае існаваць надалей[66].

Усе гэтыя аргументы сведчаць пра нешта нашмат шырэйшае, чым гістарыяграфія ці нават гуманітарныя навукі ўвогуле. Яны кажуць пра стан культуры, які вызначаецца як „постмадэрн“. Тут не месца аглядаць вялізную літаратуру, якая спрабуе высветліць, што ж такое „постмадэрн“ як паняцце і як рэальнасць[67]. Сам гэты тэрмін недасканалы, але ў той жа час (прынамсі на сённяшні момант) неабходны. Глабальнае яго азначэнне здаецца немагчымым (ёсць падазрэнні, што глабальная дэфініцыя азначала б адмаўленне ад самога тэрміна). І ўсё ж адна рыса цяперашняй грамадскай і культурнай сітуацыі здаецца асабліва характэр-

[64] Гл.: Derrida J. „Différance“, *Margins of Philosophy* (фр. арыгінал 1971). Trans. Alan Bass. Chicago, 1982. С. 1—27. Паняцце „адпачаткавай адрознасці“ [originary difference] не зводзіцца да радыкальнага тэкстуалізму, які часам — хоць, я думаю, пераважна памылкова — выносяць з твораў Дэрыды.

[65] Гл. Rescher N. *The Strife of Systems: An Essay on the Grounds and Implications of Philosophical Diversity.* Pittsburgh, 1985. С. XI, 276—277 і *passim.*

[66] Dogan M., Pahre R. *Creative Marginality: Innovation at the Intersections of Social Sciences.* Boulder, CO, 1990. Гл. таксама: Geertz C. Blurred Genres: The Refiguration of Social Thought (першая публікацыя 1980) // *Local Knowledge: Further Essays in Interpretive Anthropology.* New York, 1983. С. 19—35. Тэрмін „*blurred genres*“ [*размытыя жанры*], аднак, патэнцыйна памылковы, бо „размытасць“ можа ўспрымацца як нястача яснасці, а „жанр“ — як адзнака таго, што змена, пра якую ідзе гаворка, ёсць справа ўсяго толькі *літаратурнага* модусу.

[67] Мабыць, цэнтральны яе тэкст — калі тэрмін „цэнтральны“ сюды пасуе — гэта Lyotard. Op. cit. (сп. 3). Гл. таксама: Megill A. What Does the Term „Postmodern“ Mean? // *Annals of Scholarship.* VI. 1989. С. 129—151.

наю для таго, што звычайна называецца „постмадэрнам“. Гэтая рыса — збліжэнне адрознасцяў. Не тое каб сацыяльна–культурная сітуацыя цяпер зрабілася больш „разнастайная“, чым калі раней, — але, дзякуючы сучасным спосабам камунікацыі, адлегласць паміж адрознасцямі вельмі зменшылася, так што агульная сітуацыя стварае ўражанне незвычайнай раз’яднанасці ўсяго з усім.

Як гамагенізацыя, так і сінтэз гэтай разнастайнасці здаюцца немагчымымі і, у кожным разе, непажаданымі. Найчасцей назіраецца сінкрэтызм, але нават ён не вырашае „праблемы“ разнастайнасці ні ў акадэмічных колах (амерыканскіх), ні ў нацыянальных дзяржавах, ні ў свеце ў цэлым. „Стан постмадэрну“ ясна відаць у навучальнай аўдыторыі, запоўненай універсітэцкімі кансерватарамі і лібераламі; удзельнікамі альянсу геяў, лесбіянак і бісексуалаў; некалькімі гатункамі хрысціянскіх актывістаў; амерыканцамі азіяцкага, еўрапейскага і афрыканскага паходжання і рознага кшталту мяшанцамі; людзьмі, чые родныя мовы — іспанская, кітайская, нямецкая і ангельская; не забудзьма і пра тое, што іхнія густы ў музыцы і забавах разбягаюцца ў шырокім дыяпазоне ад панку да соўлу і класікі. У кантэксце выкладання задача палягае ў тым, каб неяк утрымаць гэтую сумесь разам, не дапусціўшы ні выбуху, ні выключэння з яе тых ці іншых складнікаў.

Існуе шчыльная паралель паміж збліжэннем сацыяльных адрознасцяў і збліжэннем навуковых дысцыплінаў. У абодвух выпадках мы маем справу з бар’ерамі — бар’ерамі, якія, на маю думку, нішчыць не след. Недавер да прэтэнзіі нейкае навуковае спецыяльнасці на аўтаномнасць (бо якраз да гэтага ўрэшце і зводзіцца „недавер да вялікага наратыву“) азначае аспрэчванне межаў, але не адмову ад іх. Коратка кажучы, я не бараню ні уніфікацыі паміж дысцыплінамі, ні „сінтэзу“ на ўзроўні, шырэйшым за гістарыяграфічны. Бо „адкрытасць“ мае свае межы. Чым больш чалавек даведваецца пра тое, як будуюць сваю аргументацыю спецыялісты ў іншых галінах, чым больш ён спрачаецца з імі на іхняй тэрыторыі, тым менш верагодна, што ён будзе лічыць гэтыя спосабы аргументацыі дастаткова сумяшчальнымі, каб адзін і той жа чалавек мог ужываць іх адначасова[68]. І ўсё ж гэтыя іншыя спосабы аргумента-

[68] Гл., напрыклад, заўвагі універсітэцкага адміністратара, які займаецца справамі кафедральных пасадаў, павышэння па службе і атэстацыяў: „Мы рэдка прызнаём, што „мультыкультурныя“ напружанні можна знайсці не толькі ў этнічных і расавых пытаннях, але і ў нашых дысцыплінах і паміж імі… Мяне ўражвае, як радыкальна адрозніваецца светапогляд у выкладчыкаў розных дысцыплінаў“. Rodrigues R. J. Rethinking the Cultures of Disciplines // *Chronicle of Higher Education.* 29 April 1992. С. B1—2.

цыі, калі карыстацца імі карэктна, таксама прыносяць новыя веды. Я заклікаў бы хутчэй да *пераходу* межаў, да часовага „перасялення“ ў іншыя галіны, да спробаў гаварыць на замежнай мове ці прынамсі разумець яе (справа, не раўназначная перакладу) і да адкрытага прызнання пажаданасці *ў рамках* гістарычнае дысцыпліны такіх праектаў, якія замянілі б аблудныя погляды пра дзівосную ўсёпрымальнасць прафесійнае гістарыяграфіі і пра еднасць гістарычнага метаду[69]. Таксама гэта і аргумент за тое, каб вынаходзіць паміж існуючымі краінамі гібрыдныя — па магчымасці, часовыя Андоры.

## Чатыры пастулаты, што вынікаюць з разгледжанага

Паколькі выкладзены тут аповед завяршаецца не ў мінулым, хай сабе і блізкім, а ў цяперашнім і будучым часе, ён непазбежна набывае прэскрыптыўнае вымярэнне. Бясспрэчна, адзіны рэальна здавальняючы адказ на пытанне „Як займацца сёння дакладнымі і гуманітарнымі навукамі?“ — гэта „займацца імі“, і кожны такі адказ заўсёды нясе пэўную рызыку. Але з гэтага аповеду, здаецца, ясна вынікаюць некалькі прэскрыптыўных пастулатаў. У большай ці меншай ступені яны стасуюцца і да сучаснае сітуацыі (хоць у мае сённяшнія мэты не ўваходзіць фармулёўка яе аўтарытэтнага апісання — такая задача ў кожным разе была б невырашальнаю).

Пастулат разнастайнасці*: Ніколі нельга меркаваць, што гісторыя мае адзіны аўтарытэтны метад або прадмет.*

Феномен гістарыяграфіі трэцяга падыходу ў сваёй найбольш інтэлектуальна прывабнай форме заклікаў да „татальнай гісторыі“; гэты заклік найшчыльней звязаны з імем Фернана Брадэля. Брадэль разглядаў сваё „Міжземнамор’е і міжземнаморскі свет“ як „спробу напісаць“ такую „гісторыю новага кшталту“[70]. Але імкненне да „татальнай гісто-

[69] Гл., сярод іншага: Traweek S. Border Crossings: Narrative Strategies in Science Studies and among Physicists in Tsukuba Science City, Japan // Andrew Pickering, ed., *Science as Practice and Culture.* Chicago, 1992. С. 429—465. Тэма маргінальнасці або стану неадпаведнасці (*bachigai*) у Трэвік нашмат шырэйшая, чым можна выснаваць з загалоўка; аўтарка прапануе цэлае інтэлектуальнае падарожжа. Пра эпістэмалагічны выйгрыш ад заняткаў маргінальнасцю гл.: Harding S. After the Neutrality Ideal: Science, Politics, and „Strong Objectivity“ // *Social Research.* LIX. 1992. С. 567—587, асабліва 577—585.

[70] Braudel F. *The Mediterranean and the Mediterranean World in the Age of Philip II* (2/1966). Trans. Siân Reynolds. 2 vols. New York, 1973. II. С. 1238.

рыі“ непазбежна спараджае сваю процілегласць[71]. Найвялікшы помнік такога няўдалага аб’яднання — часопіс „*Annales: Economies, Sociétés, Civilisations*“. Можна ўспомніць таксама пра само „Міжземнамор’е і міжземнаморскі свет“ — працу, сцэментаваную ў рэшце рэшт грандыёзным літаратурным вобразам[72]. І пра пазнейшую Брадэлеву працу „Цывілізацыя і капіталізм“ — буйны збор слаба звязаных між сабою фрагментаў[73]. Не дзіва, што цяпер сярод назіральнікаў гістарыяграфічнае сцэны стала агульным месцам адзначаць „размножванне“ або „расплоджванне“ гісторыі, яе ператварэнне з аднае „гісторыі“ ў шматлікія „гісторыі“[74].

Адна з прычынаў таго, што гэтая множнасць набрала размах, — сацыялагічныя змены. У гістарычную прафесію прыйшлі людзі, для якіх занядбаныя дагэтуль прадметы даследавання выглядалі цікавымі. Так, у Злучаных Штатах узнікненне сацыяльнае гісторыі было ў некаторых важных дачыненнях прыспешана наплывам у прафесію людзей з іншых этнічных групаў, чым „белыя англасаксы–пратэстанты“ — людзей, чые бацькі, адпрэчаныя раней ад палітычнае ўлады, прысвяцілі сваю энергію асіміляцыі ў амерыканскім грамадстве і дасягненню поспеху ў ім. Узнікненне жаночай гісторыі было відавочна звязана з тым, што ў прафесію прыйшло болей жанчын (можна шмат чаго сказаць пра глыбока мужчынскі характар прафесійнае традыцыі; прынамсі, у Злучаных Штатах рост спецыялізацыі акадэмічных галін навукі цягам аднаго–двух пакаленняў пасля 1920 г. карэлюе са спадам долі жанчын сярод навукоўцаў). Члены адпрэчаных раней групаў знайшлі сабе новыя прадме-

[71] Гэта ж тычыцца і характэрнага для трэцяга падыходу стандарту аўтаномнасці, якім прынята ганарыцца. Бо калі аўтаномія гісторыі становіць вартасць, то чаму немагчыма „аўтаномія інтэлектуальнае гісторыі“? Гл.: Krieger. The Autonomy of Intellectual History // *Journal of the History of Ideas.* XXXIV. 1973. С. 499—516. А калі аўтаномія інтэлектуальнай гісторыі будзе вартасцю, то чаму немагчыма аўтаномія любых іншых гісторыяў, такіх, як гісторыя Францыі напачатку Новага часу або Амерыкі напрыканцы Новага часу?

[72] Гэта прадэманстравана ў працы: Kellner H. Disorderly Conduct: Braudel’s Mediterranean Satire // *Language and Historical Representation: Getting the Story Crooked.* Madison, 1989. С. 153—187.

[73] Braudel. *Civilization and Capitalism: 15th—18th Century* (фр. арыгінал 1979). Trans. Siân Reynolds. 3 vols. New York, 1981—84.

[74] Veyne P. *Writing History: Essay on Epistemology* (фр. арыгінал 1971). Trans. Mina Moore–Rinvolucri. Middletown, CT, 1984. С. 26: „Гісторыя з вялікай літары… не існуе. Існуюць толькі „гісторыі [таго ці гэтага]“ (вядома, гэта адваротна таму працэсу, які, паводле назірання Козэлека (op. cit., n. 8), адбываўся ў канцы XVIII ст.). Гл. таксама Фурэ, чый пераход ад „наратыўнай гісторыі“ да „праблемна–арыентаванай гісторыі“ меў на мэце пераадолець сучаснае „памнажэнне гісторыяў“; гл. ягоную працу: Furet. *In the Workshop of History* (фр. арыгінал 1982). Trans. Jonathan Mandelbaum. Chicago, 1982. С. 16.

ты даследавання, цікавыя для іх часткова таму, што асабісты і сямейны досвед выпрацаваў у іх асаблівую чуйнасць да такіх рэчаў — гэтаксама як ранейшыя гісторыкі з падобных жа прычын засяроджваліся ў сваіх гісторыях на адносна вузкім коле прывілеяваных палітычных дзеячаў.

Вось жа, даследчыкі прафесійна займаюцца прадметамі, якія „відавочным“ цяпер чынам звязаныя з іх уласнымі сацыяльнымі інтарэсамі і досведам (раней такія повязі, як правіла, не былі „відавочнымі“ — з прычыны меншае сацыяльнае разнастайнасці). Каб даць рады гэтаму факту, яны маюць некалькі стратэгіяў. Адна з іх — асіміляцыя. Рэалізуючы стандарт аўтаномнасці, характэрны для „трэцяга падыходу“, гісторык можа прызнаваць, што мае свае сацыяльныя погляды, і ў той жа час заяўляць, што ў ягонай гістарыяграфіі пануе „аб'ектыўнасць“ і прафесіяналізм. Тут нічога не змяняецца, прынамсі навідавоку. Смялейшы варыянт працягвае трымацца прафесіяналізму, але імкнецца ўдасканаліць „вялікі“ ці прынамсі „паноўны“ наратыў, уключаючы ў яго тое, што раней выключалася — скажам, той жа гендэр. Можна нават дэкляраваць, што ўрэшце будзе створаны аўтарытэтны выклад мінуўшчыны, „поўная гісторыя“. Тут мы таксама відавочна апынаемся ў межах падыходу 3. Калі браць той жа прыклад з гендэрам, далейшы рух тут павядзе ад „жаночай гісторыі“ да „феміністкай гісторыі“, дзе заяўлены аўтарытэт будзе мець ужо хутчэй непрафесійны, чым прафесійны характар. Рух да феміністкае гісторыі можа ўключаць у сябе прыняцце агульнапрызнанае догмы, як пры падыходах 1 і 2, або дыялектычныя адносіны да мінуўшчыны і да сваёй асабістай пазіцыі. У апошнім выпадку можа ўзнікнуць спакуса разглядаць гэта як увасабленне падыходу 4.

Пастулат гібрыдызацыі*: Заўжды трэба засноўваць сядзібы па–за межамі сваёй дысцыпліны.*

Гісторыя ў духу трэцяга падыходу, якая трымаецца аўтаномнасці гістарычнае дысцыпліны, паводле вызначэння (чытач павінен усведамляць, што значная частка маёй аргументацыі тут будзе *per definitionem*) не дапускае *на практыцы* існавання іншых формаў аргументацыі пра чалавечы свет, апрача свайго ўласнага. Пры падыходзе 3 іншыя дысцыпліны разглядаюцца, сама больш, як „дадатковыя“ галіны. Так, у 1950–х і 1960–х г. развіццё сувязяў паміж гісторыяй і паліталогіяй прывяло да імпарту ў гісторыю статыстычных метадаў вывучэння людскіх паводзінаў, а ў 1970–х аналагічныя сувязі паміж гісторыяй і антрапалогіяй спрычыніліся імпарт новых, культурацэнтрычных спосабаў глядзець на грамадствы мінулага[75]. У абодвух

[75] Пра першае гл.: Aydelotte W. O., Bogue A.G., Fogel R. W., eds. *The Dimensions of Quantitative Research in History.* Princeton, 1972. Асабліва с. 3—14. Пра апошняе гл.: Hunt L., ed. *The New Cultural History.* Berkeley, 1989. Асабліва с. 1—12.

выпадках міждысцыплінарныя кардоны вакол гістарыяграфіі заставаліся нязменнымі, якія б адкрыцці ні былі прынесеныя гэтымі рэйдамі „паўзверх бар'ераў“[76]. Пры падыходзе 3 іншыя дысцыпліны разглядаюцца не як самастойныя формы аргументацыі, сама адрознасць якіх ад гістарычнага мыслення можа выявіць рэчы, незаўважныя для апошняга, але як крыніцы метадаў і вынікаў, якія імпартуюцца ў гісторыю без правядзення ў ёй фундаментальных зменаў.

Гісторыя ў духу чацвёртага падыходу, наадварот, адказвае на фрагментацыю дысцыпліны і яе прадметаў частковым ці часовым асяленнем у іншых інтэлектуальных супольнасцях. Узнікаюць міждысцыплінарныя гібрыды, сцэментаваныя пэўнай камбінацыяй тэорыі і досведу. Часта гэтыя супольнасці аказваюцца прынагоднымі і лакальнымі; яны залежаць ад выпадковасцяў характару, геаграфіі і інтэлектуальнай культуры; перашкодамі для іх узнікнення служаць міждысцыплінарныя муры і іерархічнасць, а падмацоўваюць іх таварыскасць і эгалітарызм. Але ўсе яны маюць агульны клопат — каб як навесці масты паміж рознымі дысцыплінамі, часова заняўшыся нейкім супольным падыходам ці аб'ектам вывучэння. У кожнай такой групе ўзнікае новая „моўная гульня“, *lingua franca,* адрозная ад моўных гульняў паасобных дысцыплінаў, з якіх паходзяць яе ўдзельнікі (бо ўдзел *у* пэўнай дысцыпліне ўсцяж застаецца перадумоваю ўступу ў шматдысцыплінарную моўную гульню)[77]. У кожнай „гібрыднай“ галіне ствараецца праца новага тыпу, адрознага ад таго, што робіцца ў дысцыплінах, якія да яе прычыніліся.

Цяперашнім часам шматдысцыплінарнае ўзаемадзеянне трансфарматыўнага кшталту ў гуманітарных навуках сустракаецца рэдка. Яно, мабыць, больш характэрна для фізікі і біялогіі, дзе бар'еры паміж дысцыплінамі крыху больш рухомыя і ў адказ на ўзнікненне новых даследчыцкіх задач даволі часта змяняюцца[78]. Невыпадкова самы слынны вы-

[76] Гл.: Novick. Op. cit. (сп. 6). С. 591, сп. 20 — пра гістарычны факультэт Чыкагскага ўніверсітэта: „У Чыкагскім універсітэце… на 1987 г., агулам беручы, палова выкладчыкаў… займала таксама пасады ў іншых аддзяленнях універсітэта, а іншыя актыўна ўдзельнічалі ў праграмах рэгіянальных даследаванняў, якія не прадугледжвалі адмысловых прызначэнняў. І тым не менш пераважная бальшыня без ваганняў і недвухсэнсоўна называла сябе гісторыкамі, а іншыя заняткі стаялі для іх на другім месцы“.

[77] Тут наводзіць на думкі праца Ліятара, гл.: Lyotard. Op. cit. (п. 3). Асабліва sect. 13, „Postmodern Science as the Search for Instabilities“. С. 53—60.

[78] Разгледзім наступную абвестку з Чыкагскага ўніверсітэта: „Ад 1 ліпеня [1984 г.] факультэты біяхіміі і малекулярнай біялогіі, а таксама факультэт малекулярнай генетыкі і клеткавай біялогіі заступаюць месца факультэтаў мікрабіялогіі, біяхіміі, а таксама біяфізікі і тэарэтычнай біялогіі“. *University of Chicago Magazine.* VII. 1984. С. 3—4; цыт. з працы: Novick. Op. cit. С. 585 сп. 13. Агуль-

падак „гістарыяграфіі ў духу чацвёртага падыходу“ адносіцца да гісторыі навукі: гэта „Структура навуковых рэвалюцыяў“ Томаса С. Куна[79]. Напісаная фізікам, які заняўся гісторыяй навукі, гэтая кніга была натхнёная важнымі пытаннямі філасофіі навукі. Прабіваючыся скрозь бар’еры паміж дысцыплінамі, яна адмовілася ад выгодаў, якія нясе з сабою пэўная спецыялізацыя; адвага завяла яе ў праблемныя абшары. Але, часткова з гэтых жа прычын, Кунава кніга прынесла і значныя адкрыцці; і сапраўды, ніводная іншая праца хоць якога гісторыка, напісаная ў XX ст., не ўзняла столькі новых праблемаў і не прапанавала столькі новых падыходаў да старых праблемаў[80].

Пастулат літаратурнасці: *Заўжды трэба адкрыта процістаяць вымыслу ў любой гістарычнай працы.*

Колінгвуд у „Ідэі гісторыі“ сцвердзіў, што хоць „чыста ўяўныя светы не могуць канфліктаваць міжсобку і не маюць патрэбы адпавядаць адзін аднаму“, бо „кожны з іх — свет сам па сабе“, існуе „толькі адзін гістарычны свет“[81]. Беручы агульна, Колінгвудава сцвярджэнне пра гістарычны свет некарэктнае (бо адзіны гістарычны свет азначае, што светаў, якія супярэчаць фактам, бясконцае мноства), але яно збольшага слушнае як назіранне над гістарыяграфіяй трэцяга падыходу, у якой прывязанасць да аднаго спосабу мыслення мае тэндэнцыю спараджаць адзіны гатунак гістарычнага аб’екта і абмяжоўваць магчымыя спосабы тлумачэння. Акрамя таго, Колінгвудава думка азначае, што чым больш

ная прыхільнасць да „навуковага метаду“ аблягчае перанос бар’ераў, якія з гэтай прычыны пачынаюць успрымацца як усяго толькі *ўнутраныя*. Гл. таксама: Noiriel G. Foucault and History: The Lessons of a Disillusion. *Journal of Modern History.* LXVI. 1994. C. 567.

[79] T. S. Kuhn, *The Structure of Scientific Revolutions* (першае выданне, 1962; перагледжанае і дапоўненае, Chicago, 2/1970). Іншая, больш даступная гібрыдная праца — Hawthorn G. *Plausible Worlds: Possibility and Understanding in History and the Social Sciences.* Cambridge, 1991.

[80] Паколькі папулярнасць гісторыі дыскутуецца, варта, мабыць, адзначыць, што „Структура навуковых рэвалюцыяў“ разышлася нашмат большым накладам, чым любая іншая акадэмічная праца гісторыка на памяці людзей і чым любая праца з гісторыі, акрамя некаторых „папулярных“. Ад яе першага выпуску 5 сакавіка 1962 г. да студзеня 1991 г. было прададзена 768 774 асобнікі. (За гэтыя звесткі дзякую Дугласу Мітчэлу [Douglas Mitchell], рэдактару аддзела сацыялогіі і гісторыі ў выдавецтве Чыкагскага ўніверсітэта). Больш за тое, звесткі пра цытаванне ясна сведчаць, што шмат хто з навукоўцаў сапраўды *прачытаў* гэтую кнігу, прынамсі часткова.

[81] Collingwood. Op. cit. (сп. 49). С. 246. Ён, вядома, не адзначае (гл.: Hawthorn. Op. cit., сп. 79), што гістарычны свет суправаджаецца несканчоным мноствам такіх, якія супярэчаць фактам — то бок белетрыстычных.

гісторыкі аддаляюцца ад Гісторыі, тым больш выступае на першы план „літаратурны“ аспект іхняе працы.

Я закранаю тут пытанні, якія наўрад ці будуць лёгка вырашаны — што ў тэорыі, што на практыцы — але ўзняць іх трэба. Дуалізм „гісторыя — літаратура“ адносіцца да тых, якія маюць абмежаваную аналітычную вартасць: імі асабліва лёгка злоўжываць у палеміцы, як з боку тых, хто ўяўляе, што як ні пішы, усё будзе добра, так і тых, хто пазірае на гэтую пазіцыю з жахам. Пры сутыкненні з дуалізмам такога кшталту часта бывае карысным правесці яго ўскладненне. Нават на першы погляд здаецца ясным, што ў межах агульнага абсягу „літаратурнасці“ трэба адрозніваць прынамсі, назавём іх так, „літаратурнае“ і „белетрыстычнае“. Пад „літаратурным“ я маю на ўвазе сродкі літаратурнага рамяства: яны, як правіла, кідаюцца ў вочы, але ў гістарыяграфіі, прафесійны гатунак якое выпрацаваў для сябе нейтральны тон, мы часта лічым іх ненармальнымі і падазронымі. Пад „белетрыстычным“ я разумею ўсе тыя вымярэнні, у якіх гістарычныя працы адыходзяць ад праўды ў сэнсе адпаведнасці эмпірычнай рэальнасці. У гэтым сэнсе любы прычынна–выніковы аналіз будзе белетрыстычным, бо ён заўсёды уключае ў сябе элементы, супярэчныя фактам. Гэтаксама белетрыстычнаю будзе ўсякая тыпалагізацыя, бо тып — заўсёды ідэалізацыя менш упарадкаванай рэальнасці. Улічваючы складанасць рэальнасці, само азначэнне рызыкуе стаць у гэтым сэнсе таксама белетрыстычным.

Пра літаратурнае вымярэнне шмат пісалі такія тэарэтыкі гістарыяграфіі, як Гэйдэн Ўайт, Стэфэн Бан, Ганс Келнэр, Філіп Карар і Фрэнк Анкерсміт[82]. Варта згадаць таксама невялікі корпус стылістычна „эксперыментальных“ гістарычных працаў, якія пачалі з'яўляцца з пачатку 1970–х г. і свядома ці несвядома ідуць у тропы „чацвёртага падыходу“[83].

[82] Гл.: White H. *Metahistory: The Historical Imagination in Nineteenth–Century Europe.* Baltimore, 1973; Bann S. *The Clothing of Clio: A Study of the Representation of History in Nineteenth–Century Britain and France.* Cambridge, 1984; White H. Op. cit. (сп. 40); Kellner. Op. cit. (сп. 72); Carrard P. *Poetics of the New History: French Historical Discourse from Braudel to Chartier.* Baltimore, I992; і артыкулы Ф.Р.Анкерсміта, асабліва: Ankersmit F. R. The Dilemma of Contemporary Anglo–Saxon Philosophy of History // *History and Theory.* XXV. 1986. C. 1—27; Ankersmit F. R. The Use of Language in the Writing of History // Hywell Coleman, ed. *Working with Language: A Multidisciplinary Consideration of Language Use in Work Contexts.* Berlin, 1989. C. 57—81; Ankersmit F. R. Op. cit. (сп. 62 і 63).

[83] Гл., напр.: Spence J.D. *The Death of Woman Wang.* New York, 1978. Davis N. Z. *The Return of Martin Guerre.* Cambridge, MA, 1983. Davis. *Fiction in the Archives: Pardon Tales and their Tellers in Sixteenth–Century France.* Stanford, 1987. Rosenstone R.A. *Mirror in the Shrine: American Encounters with Meiji Japan.* Cambridge, MA, 1988. Farber D. *Chicago '68.* Chicago, 1988.

У шмат якіх працах, для якіх характэрны вышэйшы ўзровень эксперыментальнасці, важным фактарам становіцца „голас“; поруч з ім набірае моцы разрыў з агульнапрынятай умоўнасцю гладкапісу і тэндэнцыя гісторыка адкрыта ўмешвацца ў выкладаны ім гістарычны аповед. Такія літаратурныя эксперыменты падказваюць глыбейшую, онталагічную тэзу: гістарычны аб’ект сам па сабе ёсць твор „белетрыстыкі“, нешта, канстытуяванае *як „аб’ект“* праз свядомасць гісторыка і ягоных чытачоў. Гэта не значыць, што „там няма ніякага *„там“*“; але гэта значыць, што канкрэтныя гістарычныя аб’екты, прадстаўленыя ў працы гісторыка, творацца гэтым апошнім (хоць і не з нічога).

Пастулат тэарэтычнасці: *Трэба заўжды будаваць тэорыі.*

У свеце, які больш не верыць у адзіную Гісторыю, гісторык можа абудзіць усёагульнае зацікаўленне толькі ў той ступені, у якой ягоная праца закранае тэарэтычныя пытанні. Так, у Амерыцы, якая больш не лічыць сваю гісторыю непасрэдным працягам палітычнай і канстытуцыйнай гісторыі Вялікай Брытаніі, аповед, скажам, пра „парахавы закалат 1605 г.“ можа мець цікавасць толькі ў той ступені, у якой ён уздымае пытанні тэарэтычнага кшталту, адцягненыя ад канкрэтных падзеяў 1605 г. Аднак, у той жа час, пераўтварэнне аднае „гісторыі“ ў шматлікія „гісторыі“, праблематызуючы бар’еры паміж гісторыяй і белетрыстыкай, гэтаксама праблематызуе і бар’еры паміж гісторыяй і тэорыяй. Прыгадайма, як Колінгвуд спадзяваўся, што філасофія стане гістарычнай, а гісторыя — філасофскай. Пры цяперашнім размежаванні — размежаванні, якое характарызуецца разнастайнасцю і раз’яднанасцю — гэткі ўдалы сінтэз, свайго роду сярэдні шлях, не здаецца магчымым. Замест гэтага можна прагназаваць, што паміж гісторыяй і тэорыяй будуць узнікаць больш лакальныя і абмежаваныя повязі.

Вось жа, прагназуецца ўзнікненне (1) гістарыяграфіі, якая будзе здатная прыйсці (лакальна) на дапамогу тэорыі, сур’ёзна ўключаючыся ў разгляд тэарэтычных пытанняў[84]. Ясна, што распавядацца будуць *адрозныя* адна ад адной гісторыі, залежна ад розных тэарэтычных мэтаў. Прагназуецца (2) рост увагі з боку гісторыкаў да тэарэтычных пытанняў; вядома, тэорыі розныя, і быць уважлівым да іх таксама можна па–рознаму. Прагназуецца (3), што гістарыяграфія стане больш самаіранічнаю, чым прынята ў сучасным стылі, сціплейшаю і больш рэф-

[84] Відавочны прыклад — Кун (Kuhn. Op. cit., сп. 79). Прыйсці на дапамогу тэорыі было свядомым намерам з ягонага боку: „Гісторыя, калі разглядаць яе не проста як сховішча анекдотаў ці фактаў, размешчаных у храналагічным парадку, магла б стаць асновай для рашучай перабудовы тых уяўленняў пра навуку, якія склаліся ў нас на цяперашні момант“ (с. 1).

лексіўнаю ў дачыненні да ўласных дапушчэнняў і высноваў. За свой пачатак яна стане браць не столькі Фукідыда, колькі Герадота. Апавядаючы пра параду, якую даў Салон Крэзу, Герадот сфармуляваў прынцып напісання сваёй гісторыі — і, мабыць, нашых таксама: згодна з ім, гісторыю нельга спазнаць з пэўнасцю, пакуль не прыйдзе той момант, калі больш не стане гісторыі і не застанецца чаго спазнаваць[85]. Нарэшце, уважаючы на вялізныя маштабы корпусу першаснай гістарыяграфіі — корпусу, управіцца з якім ніяк немагчыма, — прагназуецца таксама развіццё (4) гістарыяграфіі ў выглядзе развагаў ці каментароў, якія вытрыманыя ў Мантэневым духу і выкладзеныя ў эсэістычнай форме, будуць дэманстраваць, які сэнс мае гэты корпус для нас цяпер. У такім медытацыйным рэжыме гістарыяграфія чацвёртага падыходу будзе займацца не адкопваннем новых фактаў — то бок не гістарычным даследаваннем у звычайным разуменні, — а філасофскаю задачай асэнсоўвання фактаў, ужо ў пэўным сэнсе „вядомых“.

Цытуючы — здаецца, па памяці — неназванага аўтара неназванага англійскага перыёдыка, Ранке напісаў аднаго разу: „Гісторыя пачынаецца на хроніцы і канчаецца на эсэ, то бок на развагах пра гістарычныя падзеі, якія знаходзяць адмысловы розгалас“[86]. Гэтае назіранне нагадвае, што чатыры падыходы — якія ў заходняй традыцыі варыююцца ад дапрафесійнай хронікі (з яе вераю ў звязнасць усёагульнай гісторыі, быццам ужо вядомаю) да постпрафесійнага эсэ — ужо прысутнічаюць у самой дысцыплінарнай традыцыі. Калі чытаць традыцыю пэўным чынам — з пільнай увагаю да супярэчнасцяў — мы можам угледзець выцесненыя пытанні, якія яна ставіць сама перад сабою. У гэтым сэнсе мы проста развіваем нешта такое, што ўжо ёсць у мінулым. Але канкрэтная сацыяльная сітуацыя нашага ўласнага часу — на „Захадзе“ і паза ім — штурхае да такога чытання і надае яму аўтарытэтнасці.

*Аргументацыяй, прадстаўленай у гэтым артыкуле, я ў значнай меры абавязаны свайму ўдзелу ў Праекце універсітэта Аёвы па рыторыцы доследу (Project on Rhetoric of Inquiry [POROI]) у 1980—90 г.; асабліва я ўдзячны Доналду Н.Мак–Клоскі і Джону С. Нэлсану [Donald N. McCloskey, John S. Nelson]. Цягам некалькіх га-*

[85] Herodotus. *The History.* Trans. David Grene. Chicago, 1987. 1.32, c. 47—48; 1.91, c. 76—77; 1.5, c. 35.

[86] Ranke. Op. cit. (ńď. 26). IV. Ń. 412: „Geschichte beginnt mit Chronik und endet mit Essay, das ist, in der Reflexion über die historischen Ereignisse, die dort besonders Anklang findet“. (Падобна, што гэты пасаж Ранке выкарыстаў яшчэ ў праспекце курса летняга семестра 1853 г. — крыніцы я не знайшоў.)

*доў да гэтай працы прычыняліся наступныя навукоўцы: Лоры Брант, Кевін Бэрнэт, Эн Галахер, Кэры Гудман, Эдысан Гаў, С'юзэн Пібады, Трэнт Уатс і Гарвэл Уэлс [Lori Brandt, Kevain Burnett, Ann Gallagher, Carey Goodman, Addison Hoe, Susan Peabody, Trent Watts and Harwell Wells]. Я таксама ўдзячны шэрагу аспіранцкіх групаў на маіх курсах гістарыяграфіі ў універсітэтах Аёвы і Вірджыніі. Варыянты гэтай аргументацыі, па меры яе распрацоўкі, прапаноўваліся на семінары прафесійнай рыторыкі (Універсітэт Аёвы); у Цэнтры гуманітарных даследаванняў (Мемфіскі дзяржаўны універсітэт); у Цэнтры культурных доследаў (Універсітэт Райса); на семінары гістарычнага факультэта ў Універсітэце Джона Гопкінса; на аспіранцкім семінары Джорджа Ігерса (Універсітэт штата Нью–Ёрк у Буфала); на гістарычным факультэце Верманцкага універсітэта; а таксама ў майстэрні па рыторыцы сацыяльнай гісторыі, арганізаванай POROI і N.E.H. ва Універсітэце Аёвы. За запрашэнні дзякую Дэвіду Гілі, Томасу Гаскелу, Дораці Рос, Джорджу Ігерсу, Патрыку Хатану, Джэфры Коксу і Шэлтану Стромквісту [David Hiley, Thomas Haskell, Dorothy Ross, Georg Iggers, Patrick Hutton, Jeffrey Cox and Shelton Stromquist]. Я ўдзячны яшчэ шмат каму за карысныя заўвагі.*

*Пераклад Міколы Раманоўскага*

# Гістарыяграфія і постмадэрнізм*

**Фрэнк Анкерсміт**

Пачну гэты артыкул з той перавытворчасці, якая назіраецца цяперашнім часам у нашай дысцыпліне. Мы ўсе добра ведаем: у кожнай галіне гістарыяграфіі, якую толькі можна сабе ўявіць, па любой гістарычнай спецыяльнасці штогод з'яўляецца такое незлічонае мноства кніг і артыкулаў, што ахапіць іх усе робіцца немагчымым. Гэта застаецца слушным, нават калі гаворка ідзе пра асобныя тэмы ў межах аднае і тае ж спецыяльнасці. Дазвольце мне праілюстраваць гэта прыкладам з палітычнай тэорыі — галіны, з якой я добра знаёмы. Кожнаму, хто гадоў дваццаць таму хацеў заняцца палітычнай філасофіяй Томаса Гобса, патрэбныя былі толькі два важныя даследаванні пра яго: працы Ўоткінса і Ўорэндэра. Вядома, нават у тыя часы падобнай літаратуры было болей, але, прачытаўшы гэтыя дзве кнігі, вы ўжо як мае быць апыналіся „ў курсе". Аднак кожны, хто важыцца сказаць нешта істотнае пра Гобса ў 1989 г., павінен спярша пералапаціць 20—25 даследаванняў, якія ў роўнай меры адзначаюцца і стараннасцю апрацоўкі, і вялізным аб'ёмам; я выбаўлю вас ад іх пералічэння. Мала таго, гэтыя даследаванні звычайна аказваюцца такой высокай якасці, што пакінуць іх непрачытанымі ніяк немагчыма.

Вынікі гэтай перавытворчасці даволі нечаканыя, і то ў двух дачыненнях. Па–першае, даследаванне Гобса часта ператвараецца ў развагі пра яго *інтэрпрэтацыю*, а не пра ягоную творчасць *саму па сабе*. Часам можа здацца, што пра Гобсаву творчасць усе забыліся, і яна засталася толькі нагодаю для сённяшняй вайны інтэрпрэтацыяў. Па–другое, паколькі Гобсаў арыгінальны тэкст, відавочна, дапускае разнастайныя інтэрпрэтацыі, ён паступова зрабіўся няздатны выконваць ролю арбітра ў гістарычнай дыскусіі. З–за ўсіх гэтых інтэрпрэтацыяў *сам* тэкст размыўся, ператварыўся ў акварэль, дзе лініі перацякаюць адна ў адну. Вось жа, наіўная вера ў тое, што рашэнне нашых інтэрпрэтацыйных праблемаў можа прынесці сам тэкст, выявілася гэткаю ж абсурднаю, як і вера ў дарожны ўказальнік, прымацаваны да флюгера. У выніку, як ні парадаксальна, сам тэкст больш не мае ніякага аўтарытэту ні ў якай інтэрпрэтацыі, і мы нават ловім сябе на тым, што вымушаны раіць нашым студэнтам не чытаць „Левіяфана" самастойна; ім лепш спярша прабіцца скрозь джунглі інтэрпрэтацыяў. Сло-

* Frank Ankersmit. Historiography and Postmodernism // History and Theory. Vol. 28. 1989. P. 127—153.

вам, у нас больш няма ні тэкстаў, ні мінуўшчыны, а толькі іх інтэрпрэтацыі.

Чытаючы кніжныя агляды і анонсы новых кніжак у *Times Literary Supplement*, у *New York Review of Books* альбо ў прафесійных часопісах, колькасць якіх расце трывожнымі тэмпамі, я пераконваюся, што ў іншых галінах гістарыяграфіі справа стаіць збольшага гэтаксама. Стан рэчаў, пры якім сама гістарыяграфія перашкаджае нам зазірнуць у мінуўшчыну (тое, чаго Ніцшэ баяўся больш як сто гадоў таму), зрабіўся, як падаецца, рэальнасцю. Навала гістарычнай літаратуры не толькі прыводзіць нас усіх у глыбокую роспач: у гэтай перавытворчасці бясспрэчна ёсць нешта варварскае. Мы звязваем цывілізацыю, сярод іншага, з пачуццём памяркоўнасці, з залатой сярэдзінаю паміж збыткам і недахопам. Але ў сённяшнім інтэлектуальным запоі ўсялякае пачуццё памяркоўнасці, здаецца, страцілася. Гэтае параўнанне з запоем яшчэ таму трапнае, што найноўшая кніга альбо артыкул на пэўную тэму заўсёды прыкідваецца самай апошняй інтэлектуальнаю чаркай.

Вядома, гэткае становішча не новае, і таму няма нястачы ў спробах захаваць для разгубленых гісторыкаў нейкія абнадзейлівыя перспектывы на будучыню. Галандскі гісторык Рамэн бачыў у гэтай перавытворчасці тэндэнцыю да спецыялізацыі; таму ён заклікаў да тэарэтычнае гісторыі, якая ліквідавала б расцярушанасць нашага разумення мінуўшчыны, выкліканую спецыялізацыяй. Тэарэтычная гісторыя ўзняла б нас на вышэйшы пункт гледжання, з якога мы зноўку змаглі б агледзець хаос, спрычынены спецыялізацыяй і перавытворчасцю, і ўпарадкаваць яго[1]. Але Рамэнава кніга пра мяжу XIX—XX ст. сведчыць, што гэта лягчэй сказаць, чым зрабіць. Галоўная праблема, здаецца, палягае ў тым, што і на гэтым вышэйшым узроўні, якога патрабуе Рамэн, па–ранейшаму цяжка ажыццявіць сапраўднае ўзаемадзеянне паміж рознымі спецыяльнасцямі. Інтэгральная гістарыяграфія вядзе не да інтэграцыі, а да пералічэння.

Яшчэ адзін спосаб выхаду з гэтае дылемы — стратэгія, прынятая школаю „Аналаў“. Яе прыхільнікі скіравалі свае намаганні галоўным чынам на адкрыццё новых аб’ектаў даследавання ў мінуўшчыне; гэтая стратэгія, сапраўды, дае ім шанс заспець гісторыю ў яе першабытнай чысціні. Вядома, палёгка тут толькі часовая: неўзабаве на гэтыя новыя тэмы набяжыць плойма іншых гісторыкаў, як з Францыі, так і з іншых краін, і на іх хутка нарасце тоўсты і непразрысты слой інтэрпрэтацыяў. Аднак той спрыт, з якім школа „Аналаў“ знаходзіць новыя цікавыя тэмы, варты пільнейшай увагі. Далей я яшчэ вярнуся да гэтага.

[1] Romein J. „Het vergruisde beeld“ і „Theoretische geschiedenis“, у кн.: *Historische Lijnen en Patronen* (Amsterdam, 1971).

Ключавое пытанне цяпер — як нам паставіцца да гэтай перавытворчасці гістарычнае прадукцыі, якая шырыцца, нібы ракавая пухліна, па ўсіх галінах гісторыі. Рэакцыйная туга па той яснасці, што панавала ў гістарычным свеце пяцьдзесят гадоў таму, гэтаксама не мае сэнсу, як і панылая пакора перад лёсам. Трэба зразумець, што дарогі назад няма. Падлічана, што сёння мінуўшчынай займаецца болей гісторыкаў, чым за ўсе часы ад Герадота да 1960 г. Само сабой зразумела, што немагчыма забараніць усім гэтым сённяшнім навукоўцам ствараць новыя кнігі і артыкулы. Скаргі на страту непасрэднай сувязі з мінуўшчынаю нікуды нас не прывядуць. Што мае сэнс у гэткім становішчы і што можа даць яму рады — гэта вызначэнне новай, інакшай повязі з мінуўшчынаю на аснове поўнага і сумленнага прызнання таго стану рэчаў, у якім мы як гісторыкі сёння апынуліся.

Акрамя таго, для намаганняў у гэтым напрамку ёсць яшчэ адна прычына. Сучасную перавытворчасць гістарычнае прадукцыі сапраўды можна назваць пачварнаю, калі зыходзіць з *традыцыйных* уяўленняў пра задачу і сэнс гістарыяграфіі. Але сённяшняя гістарыяграфія вырвалася з сваіх традыцыйных тэарэтычных строяў, якія самі сабе вызначалі законы, і таму патрабуе новага ўбрання. Яно патрэбна не дзеля таго, каб навучыць гісторыка, як яму працаваць як гісторыку, і не дзеля таго, каб распрацаваць тэорыю *Vom Nutzen und Nachteil der Historie für das Leben* („Пра карысць і шкоду гісторыі для жыцця“). Што да першай паловы гэтага цверджання, дык па–за гістарыяграфіяй самой па сабе не існуе такога пункту, з якога высноўваліся б правілы для метаду працы гісторыка; калі гісторыкі лічаць нешта значным, то яно і ёсць значнае, і ўсё тут. Што да другой ягонай паловы — я не веру ні ў карыснасць гістарыяграфіі, ні ў яе істотную заганнасць. Я не хачу сказаць, што гістарыяграфія — рэч бескарысная, але ставіць пытанне пра яе карыснасць ці шкоднасць — справа недарэчная, „катэгарыяльная памылка“, кажучы словамі Райла. Гісторыя і гістарычная свядомасць — разам з паэзіяй, літаратурай, жывапісам і да т.п. — належаць да культуры, а пра карыснасць культуры немагчыма задаць ніякага сэнсоўнага пытання. Культура, часткаю якой выступае гістарыяграфія, — гэта хутчэй той фон, *на якім* — або *зыходзячы з якога* — могуць фармавацца меркаванні пра карыснасць, напрыклад, пэўных навуковых даследаванняў альбо палітычных мэтаў. Таму навука і палітыка не належаць да культуры; тое, што вызначаецца карыснасцю або шкоднасцю, тое, што дае нам магчымасць уздзейнічаць на свет, у цывілізацыю не ўваходзіць. Культура і гісторыя вызначаюць выкарыстанне, але іх саміх нельга вызначыць у тэрмінах карыснасці. Яны належаць да сферы „абсалютных прэсупа-

зіцыяў“[2], калі скарыстаць выраз Колінгвуда. Гэтым тлумачыцца і тое, чаму палітыка не павінна ўмешвацца ў культуру.

Вось чаму пры спробах падабраць для гістарыяграфіі новыя строі, пра неабходнасць якіх была гаворка вышэй, наша найважнейшая задача — вызначыць месца гістарыяграфіі ў сённяшняй цывілізацыі як цэлым. Гэта праблема або культурна–гістарычная, або інтэрпрэтацыйная; яе можна параўнаць з задачамі, з якімі мы часам сутыкаемся, разважаючы над месцам і значэннем той ці іншай падзеі для нашага жыцця ў цэлым. Увогуле дзіўна, што гісторыкі і філосафы гісторыі ў апошнія сорак гадоў так мала ўвагі звярталі на паралелі паміж развіццём сучаснае гістарыяграфіі, з аднаго боку, і развіццём літаратуры, літаратурнае крытыкі, друку — карацей кажучы, цывілізацыі, — з другога. Здаецца, гісторык бачыў не болей падставаў, каб падазраваць існаванне гэткіх паралеляў, чым хімік альбо астраном.

Гэткае вызначэнне месца гістарыяграфіі не ўваходзіць у мае задачы. Я хацеў бы пайсці далей і высветліць, ці не мае тая перавытворчасць, якая назіраецца ў гістарыяграфіі, свайго адпаведніка ў значнай частцы сучаснай цывілізацыі і грамадства. Каму не знаёма фраза, што мы жывём у век лішку інфармацыі? У гэткім тэарэтызаванні пра інфармацыю — часам больш, а часам і менш глыбокім — выяўляюцца дзве рэчы, важныя для астатняе часткі майго артыкула. Дзіўна, перадусім, тое, што часта пра інфармацыю гавораць як пра нешта амаль фізічнае. Інфармацыя „плыве“, „рухаецца“, „распаўсюджваецца“, ёю „абменьваюцца“, яе „захоўваюць“ альбо „арганізуюць“. Ліятар кажа пра Дзяржаву як пра арганізацыю, якая абмяжоўвае або распаўсюджвае інфармацыйныя плыні[3]. Інфармацыя нагадвае цякучую вадкасць; яна залівае нас, і нам увесь час пагражае вось–вось патануць у ёй. Па–другое, калі мы гаворым пра інфармацыю, інфармацыя як такая займае відавочна больш выразнае месца ў параўнанні з самім яе зместам. Звычайна было наадварот. Возьмем цверджанне, якое нясе інфармацыю, напрыклад: „У 1984 г. Рональд Рэйган быў абраны на прэзідэнта ЗША“. Само гэтае інфарматыўнае цверджанне схавана за станам справаў, які ім апісваецца. Аднак у рамках нашага цяперашняга спосабу гаварыць пра інфармацыю тая рэальнасць, якой інфармацыя тычыцца, ператвараецца ў фон. Рэальнасцю становіцца сама інфармацыя, а не рэальнасць, якая за ёю стаіць. Гэта надае інфармацыі аўтаномны статус, уласную рэальнасць. Як існуюць законы для апісання паводзінаў рэчаў у рэальнасці, гэтаксама, здаецца, можа існаваць і навуковая сістэма для апісання паводзінаў той дзіўнай вадкасці, што мы завём інфармацыяй. Дарэчы, я хацеў бы

[2] Colingwood R.G. *An Essay on Metaphysics*. Oxford, 1940.
[3] Lyotard J.F. *La condition postmoderne*. Paris, 1979, 15.

дадаць тут, што з пункту гледжання Остынавай тэорыі маўленчых актаў (speech act theory) інфармацыю можна адначасова назваць і чыста перфарматыўнай, і зусім не перфарматыўнай. Гэта, бясспрэчна, адзін з найцікавейшых аспектаў феномена інфармацыі[4].

У апошнія гады шмат хто заўважыў, што нашае стаўленне да гэтага феномена змянілася. Вакол яго сфармаваліся цэлыя тэорыі, і навукоўцы, якія ім заняліся, як зазвычай, парабілі сабе на ім імёны. У гэтым кантэксце мы часта згадваем постмадэрністаў і постструктуралістаў, натуральна, супрацьпастаўляючы іх мадэрністам і структуралістам нядаўняй мінуўшчыны. У 1984 г. постмадэрнізму была прысвечана вельмі цікавая канферэнцыя ў Утрэхце, і кожны, хто слухаў чытаныя там даклады, пагодзіцца, што даць канцэпцыям постмадэрнізму ці постструктуралізму здавальняючае вызначэнне нялёгка[5]. Тым не менш генеральную лінію прасачыць магчыма, што і зрабіў у сваёй нядаўняй кнізе Джонатан Кулер[6]. Для мадэрністаў і структуралістаў альфаю і амегаю была навука; яны разглядалі яе не толькі як найважнейшую дадзенасць, але разам з тым і як асноўную дадзенасць сучаснасці. Для постмадэрністаў жа і постструктуралістаў навуковая рацыянальнасць як такая не складае праблемы; яны глядзяць на яе, так бы мовіць, звонку ці згары. Яны не крытыкуюць навуку і не адкідаюць яе; яны не ірацыяналісты, аднак выказваюць да навукі тую ж абыякавасць, якую мы назіралі вышэй у нашым сучасным стаўленні да інфармацыі. Гэта не справа метакрытыкі навуковага даследавання або навуковага метаду, да якіх мы звыклі ў філасофіі навукі. Для сцыентызму мадэрністаў застаецца ўласціваю філасофія навукі; яе даследчыкі прасочваюць ход думкі навукоўцаў, вывучаючы іхні шлях ад збору эмпірычных звестак да пабудовы тэорыі. Для постмадэрністаў жа і філасофія навукі, і сама навука складаюць дадзенасць, зыходны пункт для іхніх развагаў. Гэтаксама ж постмадэрністаў мала цікавіць сацыялагічнае пытанне пра тое, як даследчыкі рэагуюць адзін на аднаго альбо якія стасункі ўзнікаюць паміж навукаю і грамадствам. Увага постмадэрністаў засяроджваецца не на навуковым даследаванні і не на спосабе засваення грамадствам ягоных вынікаў, а толькі на функцыянаванні навукі і навуковай інфармацыі саміх па сабе.

[4] Інфармацыя перфарматыўная, яна мае чыста „ілакуцыйную“ і „перлакуцыйную“ сілу, бо яе канстатарны элемент страчаны; і яна не перфарматыўная, бо падпарадкоўваецца сваім уласным законам, а не законам міжлюдскае камунікацыі: камунікацыя — толькі частка жыцця інфармацыі.

[5] Reijen W. Postscriptum // *Modernen versus Postmodernen. Ed. W.Hudson and W. van Reijen. Utrecht, 1986, 9—51; Hudson W. The Question of Postmodern Philosophy?// ibid.*, 51—91.

[6] Culler J. *On Deconstruction: Theory and Criticism after Structuralism*. London, 1985, 18 ff.

Для постмадэрнізму навука і інфармацыя — самастойныя прадметы даследавання, якія падпарадкоўваюцца сваім уласным законам. Першы і асноўны закон постмадэрнісцкай тэорыі інфармацыі кажа: інфармацыя множыцца. Адна з самых падставовых характарыстык інфармацыі — тая, што важная інфармацыя ніколі не завяршае сабою інфармацыйную генеалогію; наадварот, яе сапраўдная важнасць выяўляецца праз тое інтэлектуальнае патомства, якое яна спараджае. Выдатнай ілюстрацыяй гэтага служыць сама гістарыяграфія. Вялікія працы з гісторыі гістарыяграфіі — творы дэ Таквіля, Маркса, Буркхарта, Вэбэра, Гёйзінгі ці Брадэля — кожны раз аказваліся магутнымі стымулятарамі новае хвалі публікацыяў, а не замыкалі сабою інфармацыйную генеалогію, як быццам вырашыўшы пэўную праблему раз назаўжды: „Як ні парадаксальна, чым больш моцнай і аўтарытэтнай аказваецца інтэрпрэтацыя, тым болей тэкстаў яна спараджае“[7]. З мадэрнісцкага пункту гледжання, само сабой, незразумела, якім чынам цікавая інфармацыя спараджае новую інфармацыю. Для мадэрністаў істотная інфармацыя — тая, якая кладзе канец з'яўленню новых тэкстаў; яны не могуць вытлумачыць, чаму якраз спрэчнае мае фундаментальную каштоўнасць для прагрэсу навукі, чаму, як сказаў Башляр, менавіта *спрэчныя* факты — факты *сапраўдныя* [it is the *debatable* facts which are *true* facts].

У рамках гэтага артыкула важна зірнуць больш дэталёва на той постмадэрнізм, які мае не антысцыентычны, а асцыентычны характар. Па–першае, ён можа паказаць, што трэба разумець пад постмадэрнісцкаю гістарыяграфіяй, а па–другое, — што ў гістарыяграфіі, як ні дзіўна, заўсёды было нешта постмадэрнісцкае. Добры прыклад постмадэрнісцкага крытэрыю навукі — Ніцшэва „дэканструкцыя“ (кажучы дакладна) прычыннасці, той самай, якую шмат хто лічыць адным з найважнейшых апірышчаў навуковае думкі. У каўзалістычнай тэрміналогіі прычына — гэта першасная дадзенасць, а вынік — другасная. Ніцшэ ж звяртае ўвагу на тое, што толькі назіранне вынікаў вядзе нас да пошуку прычын, і таму вынік фактычна аказваецца першаснай дадзенасцю, а прычына — другаснаю. „Калі вынік — гэта тое, што робіць прычыну прычынаю, тады першакрыніцаю трэба лічыць вынік, а не прычыну“[8]. Хто запярэчыць, што Ніцшэ зблытаў парадак рэчаў у даследаванні і рэальнасці, той не зразумеў ходу Ніцшэвай думкі, бо галоўная ідэя тут якраз у штучнасці традыцыйнай ерархіі прычыны і выніку. Нашая навуковая адукацыя, так бы мовіць, прывучыла [„stabilized“] нас трымацца гэтае традыцыйнае ерархіі, але па–за ёю нішто нас да гэтага не прымушае. Тое самае (праўда, *не болей*) можна сказаць і на карысць таго, каб перавярнуць гэтую ерархію.

[7] *Ibid.*, 90.
[8] *Ibid.*, 88.

Так заўсёды бывае ў постмадэрнізме. Навука тут „дэстабілізавана“, змешчана па–за ўласным цэнтрам; падкрэсліваецца, што лад думак і катэгорыі мыслення можна перакуліць дагары нагамі, і пры гэтым не прапануецца ніякае пэўнае альтэрнатывы. Гэта як бы здрадніцкая крытыка навукі, удар ніжэй пояса. Магчыма, ён несумленны, але якраз таму ён і цаляе навуцы ў самае балючае месца. Навуковая рацыянальнасць — не гегелеўскае *aufgehoben* да нечага іншага; гэтаксама няслушна казаць, што кожны погляд аўтаматычна спараджае свой антытэзіс; хутчэй гаворка ідзе аб прызнанні, што кожны погляд мае, акрамя свайго санкцыянаванага навукаю ўнутранага зместу, яшчэ і знешні бок, якога навука не заўважае. У сваім „Трактаце“ Вітгенштайн ужо прапанаваў нешта падобнае ў дачыненні да ўсялякага слушнага ланцуга развагаў. Насамрэч жа якраз слушны ланцуг развагаў імкнецца да збыткоўнасці і таму заўсёды аказваецца падарожжам праз тэрыторыю няслушнага — то бок вандроўкаю ад памылковых уяўленняў напачатку да слушнага разумення ў канцы. Таму праўда заўсёды застаецца прыпсавана няпраўдаю.

Да гэтага разумення можна далучыць і лагічныя, і онталагічныя высновы; разам узятыя, яны даюць уяўленне пра рэвалюцыйны характар постмадэрнізму. Зірнем перш на логіку. Для постмадэрніста несумненныя навуковыя факты, з якіх заўжды выходзілі мадэрністы, — усяго толькі разнастайныя варыяцыі парадокса хлуса. Маецца на ўвазе показка пра крыцяніна, які кажа, што ўсе крыцяне хлусы; сціслей кажучы, парадокс, звязаны з цверджаннем „гэтае цверджанне — няпраўда“, якое цвердзіць гэта само пра сябе. Вядома, уся драма постмадэрнізму палягае ў здагадцы, што гэткія парадоксы трэба разглядаць як невырашальныя. Трэба памятаць, што вырашэнне парадокса хлуса, якое Расэл, з ягонай тэорыяй тыпаў і распадзелам паміж прэдыкатамі і прэдыкатамі прэдыкатаў, прапанаваў у *Principia Mathematica*, дагэтуль прызнаецца найважнейшаю з падвалінаў сучаснае логікі[9]. Таму перад постмадэрністам паўстае задача выцягнуць дыванок з–пад ног навукі і мадэрнізму. Тут таксама найлепшую ілюстрацыю да ягонае пазіцыі падае гістарыяграфія. Гістарычныя інтэрпрэтацыі мінуўшчыны робяцца пазнавальнымі, здабываюць сваю тоеснасць праз супастаўленне з *іншымі* інтэрпрэтацыямі; яны становяцца сабою толькі на аснове таго, што ўжо стала іншым. Кожны, хто ведае толькі адну інтэрпрэтацыю, напрыклад, халоднае вайны, не ведае ўвогуле ніводнае інтэрпрэтацыі гэтага феномена. Таму кожная гістарычная інтуіцыя па сутнасці мае парадаксальны характар[10]. Несумненна, Гэйдэн Ўайт

[9] Heijenoort J. Logical Paradoxes // *The Encyclopedia of Philosophy*. Ed. P. Edwards. London, 1967, 45—51.

[10] Ankersmit F.R. *Narrative Logic: A Semantic Analysis of the Historian’s Language.* The Hague, 1983, 239, 240.

[Hayden White] у сваёй „Метагісторыі“ — найбольш рэвалюцыйнай кнізе з філасофіі гісторыі за апошнія дваццаць пяць гадоў, — называючы ўсю гістарыяграфію фундаментальна іранічнаю[11], зыходзіў з падобнага ж погляду.

Звернемся цяпер да анталогіі. У сваёй дэканструкцыі традыцыйнай прычынна–выніковай ерархіі Ніцшэ супрацьпастаўляў наш спосаб казаць пра рэальнасць, з аднаго боку, і працэсы, якія адбываюцца ў самой рэальнасці, — з другога. Сучаснае адрозніванне мовы і рэальнасці, такім чынам, страчвае свой *raison d'être*. У прыватнасці, навуковая мова ўжо не „люстра прыроды“, а такая ж частка інвентару рэальнасці, як і аб'екты тае рэальнасці, якія вывучаюцца навукаю. Мова ў навуцы выкарыстоўваецца як рэч[12], і, як даводзіў Ганс Бертэнс на Утрэхтскай канферэнцыі па постмадэрнізме[13], рэчы ў рэальнасці набываюць „мовападобны“ характар. Ізноў жа найлепшую ілюстрацыю да гэтага падае гістарыяграфія. Як мы неўзабаве пабачым, тая ж цьмянасць, якую мы звязваем з рэчамі ў рэальнасці, характэрная і для гістарычнае мовы. Больш за тое, і Гэйдэн Ўайт, і Поль Рыкёр (якога я, вядома, не збіраюся залічаць да постмадэрністаў) любяць нагадваць, што мінулая рэальнасць павінна разглядацца як тэкст, сфармуляваны на чужой мове, з тымі ж лексічным, граматычным, сінтаксічным і семантычным вымярэннямі, як і ў любога іншага тэксту[14]. Гэтаксама ж характэрна, што гісторыкі ў сваіх тэарэтычных рэфлексіях часта выказваюць прыкметную схільнасць гаварыць пра гістарычную мову, як быццам яна частка самой рэальнасці, і наадварот. Так, Маркс казаў пра *супярэчнасць* паміж прадукцыйнымі сіламі і прадукцыйнымі адносінамі, як быццам разглядаючы *цверджанні* пра рэальнасць замест *аспектаў* гэтае рэальнасці. Падобным жа чынам гісторыкам вельмі часта хацелася б, каб гістарычная мова стала гэткаю ж унікальнаю, як і гістарычныя феномены[15]. Карацей кажучы, латэнтны і часта падсвядомы супраціў дыхатаміі „мова—рэальнасць“,

[11] White H. *Metahistory: The Historical Imagination in Nineteenth Century Europe*. Baltimore, 1973, 37.

[12] Ankersmit F.R. The Use of Language in the Writing of History // *Working with Language*. Ed. H. Coleman. Berlin, 1989.

[13] Bertens H. Het 'Talige' Karakter van de Postmoderne Werkelijkheid // *Modernen versus postmodernen,* 135—153. Пазіцыя Бертэнса застаецца насамрэч мадэрнісцкаю: ягоная тэза, што мова ніколі не здатна прадставіць усю паўнату рэальнасці, прымушае яго заняць пазіцыю ў рамках палярнага проціпастаўлення мовы і рэальнасці, а не па–за ім, як патрабуюць постмадэрністы.

[14] White H. *Metahistory,* 30; Ricoeur P. The Model of the Text: Meaningful Action Considered as a Text // *Interpretative Social Science.* Ed. P. Rabinow and W.M.Sullivan. London, 1979, 73.

[15] Dunk, Von der. *De Organisatie van het Verleden*. Bussum, 1982; гл., напр., 169, 170, 344, 362, 369.

які часта выказвалі гісторыкі, насамрэч мае свае карані ў неўсвядомленым, але тым не менш слушным адчуванні гісторыкамі постмадэрнісцкага па сутнасці характару сваёй дысцыпліны.

Калі дыхатамія паміж моваю і рэальнасцю пачынае аспрэчвацца, мы апынаемся не надта далёка ад эстэтызму. Мова раманіста і мова гісторыка — ці ж не дае нам і першая і другая ілюзію рэальнасці, прыдуманае або сапраўднае? Яшчэ важней, як вучыў нас Гомбрыч у сваіх шматлікіх працах, што твор мастацтва, то бок мова мастака, — не *міметычнае ўзнаўленне* рэальнасці, а *замена* ці *сурагат* яе[16]. Мова і мастацтва не *супрацьстаяць* рэальнасці, яны самі складаюць псеўдарэальнасць, і таму іх месца — *усярэдзіне* рэальнасці. Мэгіл у сваёй бліскучай генеалогіі постмадэрнізму паказаў, па сутнасці, як моцна прагнуць постмадэрністы — ад Ніцшэ да Дэрыды ўключна — распасцерці эстэтызм на ўсю сферу прадстаўлення рэальнасці[17].

Гэты эстэтызм добра гарманіруе і з найноўшымі поглядамі на сутнасць гістарыяграфіі — то бок з прызнаннем, што гістарычны твор мае стылістычнае вымярэнне. Мадэрністы ставіліся да стылю з нянавісцю або, у лепшым выпадку, абыякава. Працытую з нядаўняе лекцыі Бертэльса: „Стылёвая вышуканасць, дэманстрацыя літаратурнага стылю не дадаюць ані каліва праўды ні да гістарычнага і ні да якага іншага навуковага доследу“[18]. Важнасць мае змест, а той спосаб, той стыль, праз які ён выказваецца, не мае значэння. Аднак пасля Куайна і Гудмэна гэты выгодны распадзел на форму або стыль, з аднаго боку, і змест — з другога, больш не выпадае прымаць на веру. Аргументацыю гэтых аўтараў можна падсумаваць наступным чынам. Калі розныя гісторыкі займаюцца рознымі аспектамі аднаго і таго ж прадмета даследавання, то розніцу ў *змесце*, якая пры гэтым атрымліваецца, можна з тым жа поспехам назваць розніцай у *стылі* трактоўкі гэтага прадмета даследавання. „Тое, *што* гаворыцца... можа быць спосабам гаварыць пра нешта іншае; напрыклад, пісаць пра рэнесансныя бітвы і пра рэнесанснае мастацтва — гэта розныя спосабы пісаць пра Рэнесанс“[19]. Як казаў Гэй, „манера“ [manner], стыль, прадугледжвае адначасна і пэўнае рашэнне адносна „прадмета“ [matter], зместу[20]. А там, дзе ёсць магчымасць адрозніць

[16] Gombrich E.H. Meditations on a Hobby Horse, or the Roots of Artistic Form // *Aesthetics Today*. Ed. P.J.Gudel. New York, 1980.

[17] Megill A. *Prophets of Extremity: Nietzsche, Heidegger, Foucault, Derrida.* Berkeley, 1985; гл. асабліва 2–20.

[18] Bertels C.P. Stijl: Een Verkeerde Categorie in de Geschiedwetenschap // *Groniek* 89/90 (1984), 150.

[19] Goodman N. The Status of Style // Goodman N. *Ways of Worldmaking.* Hassocks, 1978, 26.

[20] Gay P. *Style in History.* London, 1974, 3.

стыль ад зместу, мы можам нават прыпісаць стылю першынства перад зместам; бо розныя гістарыяграфічныя погляды — рэчы несувымерныя (інакш кажучы, прыроду разыходжанняў у поглядах на гісторыю немагчыма здавальняюча вызначыць у тэрмінах прадметаў даследавання), і таму, калі мы хочам забяспечыць змястоўнасць і прагрэс гістарычнай дыскусіі, нам нічога не застаецца, як толькі засяродзіцца на стылі, увасобленым у кожным гістарычным поглядзе або спосабе глядзець на мінуўшчыну. Пытанне, якое абмяркоўваецца ў такіх дыскусіях, — стыль, а не змест. Змест — вытворная ад стылю.

Постмадэрнісцкае прызнанне эстэтычнага характару гістарыяграфіі можна дакладней апісаць наступным чынам. У аналітычнай філасофіі існуе феномен так званага „інтэнсіянальнага кантэксту“. Прыклад — цверджанне „Джон верыць, што *p*“, або „Джон спадзяецца, што *p*“ (дзе *p* азначае нейкае канкрэтнае цверджанне). У гэткім інтэнсіянальным кантэксце *p* ніколі нельга замяніць іншым цверджаннем, нават калі гэтае іншае цверджанне эквівалентна *p* альбо наўпрост вынікае з яго. Урэшце, мы не ведаем, ці ўсведамляе Джон насамрэч наступствы сваёй веры альбо надзеі. Магчыма, напрыклад, Джон лічыць, што вада кіпіць, не лічачы пры гэтым, што яе тэмпература — сто градусаў паводле Цэльсія. Іншымі словамі, дакладная форма, у якой было сфармулявана цверджанне ў інтэнсіянальным кантэксце, — адна з неабходных умоваў слушнасці гэтага цверджання. Сказ, так бы мовіць, прыцягвае ўвагу да сябе самога. Вось жа, *форма* гэтага цверджання бясспрэчна мае гэткую ж важнасць, як і ягоны *змест*. Данта ў сваёй надзвычай цікавай кнізе адзначыў, што гэтая інтэнсіянальная сутнасць цверджанняў і тэкстаў (альбо прынамсі некаторых з іх) найвыразней выступае ў літаратуры: „мабыць, яна [гэты інтэнсіянальны элемент] нідзе не відаць ясней, чым у тых літаратурных тэкстах, дзе на дадатак да любога факта, які аўтар мае на мэце сцвердзіць, ён або яна *выбірае словы*, якімі яны сцвярджаюцца“, а творчая задума аўтара „правалілася б, калі б замест гэтых словаў былі выкарыстаныя іншыя“[21]. З прычыны свайго інтэнсіянальнага характару літаратурны тэкст мае пэўную непразрыстасць, здатнасць прыцягваць увагу да сябе самога, а не да тае ўяўнай ці гістарычнай рэальнасці, якая за ім стаіць. Гэтая рыса яднае мастацкі тэкст з гістарыяграфіяй; бо сутнасць погляду на мінуўшчыну, які прадстаўлены ў гістарычнай працы, дакладна вызначаецца моваю, якую выкарыстаў гісторык. Адносіны паміж гістарыяграфічным поглядам і тою моваю, праз якую гісторык выказвае гэты погляд, — адносіны, якія нідзе не

[21] Danto A.C. *The Transfiguration of the Commonplace: A Philosophy of Art.* Cambridge, Mass., 1983, 188.

перакрыжоўваюцца з сфераю мінуўшчыны — надаюць гістарыяграфіі тую ж цёмнасць і тое ж інтэнсіянальнае вымярэнне, якія ўласцівыя мастацтву.

Таму і мастацтва, і гістарыяграфія супрацьпастаўляюцца навуцы. Навуковая мова, прынамсі, прэтэндуе на празрыстасць; калі яна перашкаджае нам бачыць рэальнасць, яе належыць ачысціць альбо праясніць. Праўда, некаторыя філосафы навукі, такія, як Мэры Гесэ [Mary Hesse], хочуць і навуцы прыпісаць вышэйзгаданыя эстэтычнае і літаратурнае вымярэнні. Гэта, вядома, надало б праўдападабенства маёй пазіцыі ў дачыненні да гістарыяграфіі, але адрозненні паміж дакладнымі навукамі і гістарыяграфіяй, на маю думку, не зводзяцца толькі да адценняў. Там, дзе падыходы, прапанаваныя тою ці іншаю дысцыплінаю, маюць больш сінтаксічны, чым семантычны характар — як у выпадку з дакладнымі навукамі, — для інтэнсіянальнага кантэксту застаецца параўнальна меней прастору. Урэшце, пытанне пра наяўнасць сінаніміі (а яно ў інтэнсіянальным кантэксце найважнейшае) мае сэнс толькі з пункту гледжання семантыкі.

Калі мы згодныя з вышэйсказаным, то бок з тым, што постмадэрнісцкая інтуіцыя стасуецца да гістарыяграфіі, я хацеў бы перад заканчэннем гэтага артыкула зрабіць некаторыя высновы. Для мадэрніста ў рамках навуковай карціны свету, у рамках таго погляду на гісторыю, які мы ўсе ўспрымаем першапачаткова, гістарычныя сведчанні — гэта, па сутнасці, сведчанні пра тое, што нешта адбылося ў мінулым. Гісторык–мадэрніст вядзе ланцужок развагаў ад крыніц і сведчанняў да гістарычнай рэальнасці, схаванае за імі. На постмадэрнісцкі ж погляд, яны сведчаць не пра *мінуўшчыну*, а пра іншыя *інтэрпрэтацыі* мінуўшчыны; бо фактычна мы іх выкарыстоўваем якраз дзеля гэтага. Паўторым тое самае на прыкладзе з сферы выяўленчага мастацтва: для мадэрніста сведчанне — кафля, якую ён падымае, каб паглядзець, што пад ёю; постмадэрніст жа, наадварот, ступае на гэтую кафлю, каб перайсці да іншых кафляў: рух адбываецца па гарызанталі, а не па вертыкалі.

Гэты прыклад ілюструе не толькі тое, што адбываецца цяпер, але і тое, на чым гісторыкі маюць засяродзіцца ў будучыні. Найлепш назваць гэта асучасніваннем гістарычных крыніцаў. Іхнія сведчанні — не павелічальнае шкло, праз якое мы можам вывучаць мінуўшчыну: хутчэй гэта мазкі, з дапамогаю якіх мастак імкнецца дасягнуць пэўнага эфекту. Сведчанне не адсылае нас назад у мінуўшчыну, а спараджае пытанне, што гісторыку можна ці нельга зрабіць з ім тут і зараз. Прыклад гэтага новага стаўлення да сведчанняў падае Жорж Дубі. Калі ягоны высокаінтэлектуальны суразмоўца Гі Лярдро запытаў, якое сведчанне

будзе для яго, Дубі, найцікавейшым, той адказаў: найцікавейшае — у невымоўным, у тым, што перыяд *не* сказаў пра сябе. Таму сваю гістарычную працу Дубі параўноўвае з праяўкаю негатыва[22]. Як рыба не ведае, што яна плавае ў вадзе, так і тое, што для перыяду найбольш характэрна і найбольш паўсюдна, самому гэтаму перыяду невядома. Яно не можа выявіцца, пакуль перыяд не прыйдзе да заканчэння. Водар аднаго перыяду можна адчуць толькі ў наступным. Вядома, Гегель і Фуко ўжо зрабілі багата цікавых заўваг пра гэта. Аднак важна тут назіранне Дубі пра тое, што сутнасць перыяду вызначае *destinataire* (калі скарыстаць тэрмін французскіх постмадэрністаў): гісторык, які мае праявіць тут і цяпер свой негатыў перыяду з таго, што не было прамоўлена, ці было толькі прашаптана, ці было выказана толькі ў нязначных дэталях. Гісторык тут нагадвае такога мастацтвазнаўцу, які цэніць мастака не за тое, што для яго характэрна (і таму можа быць перанята), а за тое, што, так бы мовіць, мімаволі „выслізгвае“ з яго рук. „*Le style, c'est l'homme*“ [„Стыль — гэта чалавек“], і наш стыль якраз у тым, у чым мы бываем самі сабою, не думаючы пра саміх сябе. Вось чаму ў нашую нарцысісцкую эпоху так мала людзей, якія яшчэ захавалі ўласны стыль. Карацей кажучы, адметнасць такога спосабу аперавацьз сведчаннямі, якія прапануе Дубі, не ў тым, што сведчанне паказвае на нешта схаванае за ім ў мінуўшчыне, а ў тым, што яно набывае сэнс і значнасць толькі ў сутыкненні з ментальнасцю пазнейшага перыяду, у якім жыве і піша гісторык. Ментальнасць перыяду праяўляецца толькі ў сваім адрозненні ад ментальнасці пазнейшага перыяду; напрамак, у якім паказвае сведчанне, такім чынам паварочваецца на дзевяноста градусаў. Гёйзінга, як зазвычай, прадбачыў і гэта. Пішучы пра адчуванне гісторыі, ён кажа: „Гэты кантакт з мінуўшчынаю, які суправаджаецца поўнай перакананасцю ў сапраўднасці, праўдзівасці, могуць спарадзіць радок з граматы або летапісу, пячатка, некалькі нотаў старой песні. Гэты элемент не ўносіцца аўтарам [з мінуўшчыны] у сваю працу праз тыя ці іншыя словы... Яго прыносіць чытач — насустрач аўтару, у адказ на ягоны покліч“[23].

Не дзіва, што Дубі і Лярдро звяртаюць у звязку з гэтым увагу на суадносіны гістарыяграфіі з псіхааналізам[24]. І ў гістарыяграфіі, і ў псіхааналізе мы маем справу з інтэрпрэтацыяй у самым падставовым сэнсе

[22] Duby G.and Lardreau G. *Geschichte und Geschichtswissenschaft: Dialoge.* Frankfurt am Main, 1982, 97, 98.

[23] Huizinga J. De Taak der Cultuurgeschiedenis // Huizinga J. *Verzamelde Werken.* Bd. 7. Haarlem, 1950, 71, 72.

[24] Duby and Lardreau, 98ff.

гэтага слова. У гістарыяграфіі той спосаб працаваць са слядамі мінуўшчыны, які прапануе Дубі, прымушае нас устрымацца ад пошуку нейкай першапачаткова нябачнай машыны ў самой мінуўшчыне, якая пакінула гэтыя відочныя на паверхні сляды. Гэткім жа парадкам псіхааналіз, насуперак пазітывісцкім нотам у самога Фройда, фактычна аказваецца наборам інтэрпрэтацыйных стратэгіяў. Псіхааналіз вучыць нас разумець тое, што кажа неўротык, не дбаючы аб прычыннай сувязі ягоных словаў з мноствам элементарных і непадзельных гамункулусаў у ягонай свядомасці[25]. І псіхааналітык, і гісторык намагаюцца спраецыраваць мадэль *на* сляды і не шукаюць нечага *па–за* слядамі. У абодвух выпадках інтэрпрэтацыйная дзейнасць разумеецца строга наміналістычна: ні ў гістарычнай рэальнасці, ні ў свядомасці неўротыка няма нічога, што адпавядае зместу інтэрпрэтацыяў[26].

Аднак паміж гістарычнай і псіхааналітычнай інтэрпрэтацыяй існуе яшчэ цікавейшая паралель. Вядома, тэза Дубі, паводле якой гісторык павінен пільнавацца таго, што не прамоўлена і замоўчваецца — вар'яцтва, няпраўды і табу, калі карыстацца крытэрыямі Фуко, — гэтая тэза відавочна звязана з метадам працы аналітыка. Гэтаксама як мы аказваемся не самі сабою — не тымі, хто мы ёсць, або тымі, кім не хочам быць, — у пэўным сэнсе мінуўшчына таксама аказваецца не тым, што яна ёсць. І ў псіхааналізе, і ў гісторыі тыя рэчы, якія зазнаюць уціск, выяўляюцца толькі ў дробных і неістотных, на погляд, дэталях. У псіхааналізе гэта спараджае інтуіцыю, паводле якой чалавек не мае такой існасці альбо сутнасці, якая лёгка паддаецца назіранню і на аснове якой яго можна зразумець: таямніца асабовасці ляжыць у тым, што толькі зрэдку і мімалётна праглядаецца з–пад звыклых праяваў. Нашая асабовасць, як кажа Рорты, — калаж, а не субстанцыя: „здольнасць думаць пра сябе як пра унікальна сфармаваныя калажы, а не пра субстанцыі, вельмі памагла нам пазбыцца ідэі, што мы маем сапраўднае „я“, супольнае з усімі іншымі людзьмі... Фройд зрабіў пара-

[25] Гэта лейтматыў кнігі: Spence D.P. *Narrative Truth and Historical Truth: Meaning and Interpretation in Psychoanalysis*. New York, 1982.

[26] Лярдро выказаў гэта для гістарыяграфіі наступным чынам: „Somit gibt es nichts als Diskurse über eine Vergangenheit, die wiederum aus nichts anderem als aus diesen Diskursen besteht, in denen jeweils gegenwärtigen Interessen mobilisiert werden. Ein präzis inszeniertes Ballett von masken, die die Interessen und Konflikte der Gegenwart darstellen, mit wechselnden Rollen, aber gleichbleibenden Standorten — die Geschicht als Kleiderkammer imaginärer Inscriptionen, der Historiker als Kostümbildner, der Verkleidungen arrangiert, die nie neu gewesen sind: die Geschichte ist aus dem Stoff unserer Träume gewebt, unser Kurzes Gedächtnis von einem Schlummer umhüllt“. У гэтым кантэксце Лярдро адкрыта кажа пра наміналізм. Гл. Duby and Lardreau, 10.

дыгму самапазнання сродкам для адкрыцця дробных унікальных выпадкаў, а не нейкай сутнасці“[27].

Так стаіць справа і ў гістарыяграфіі, прынамсі ў той яе частцы, якую я назваў бы постмадэрнісцкай гісторыяй (ментальнасцяў). Калі сфармуляваць гэта ў парадаксальнай манеры, такой папулярнай сярод постмадэрністаў, сутнасць мінуўшчыны не ёсць сутнасць мінуўшчыны, альбо — не палягае у ёй. Толькі ў шматках, абмоўках, *Fehlleistungen* мінуўшчыны, у рэдкія моманты, калі мінуўшчына „папускаецца“, мы адкрываем тое, што сапраўды для нас важна. Падазраю, што тут ляжыць прынамсі частковае тлумачэнне праявы, якую Ёрн Рузэн назваў „зменаю парадыгмаў“ у сучаснай гістарыяграфіі. Гэтая змена парадыгмаў, на ягоную думку, зводзіцца галоўным чынам да пераносу ўвагі гісторыка з *makrohistorische Strukturen* [макрагістарычных структураў] на *mikrohistorische Situationen und Lebensverhältnisse* [мікрагістарычныя сітуацыі і ўмовы жыцця][28]. Магчыма, мы сталі сведкамі рашучага развітання з усімі эсенцыялісцкімі памкненнямі, якія панавалі ў гістарыяграфіі цягам усяго яе існавання. Гісторыкі заўсёды шукалі нейкай, так бы мовіць, сутнасці мінуўшчыны — такога прынцыпу, які яднаў бы ўсю мінуўшчыну (або яе частку) і на аснове якога, адпаведна, можна было б усё зразумець. Цягам стагоддзяў гэты эсенцыялізм праяўляўся ў гістарыяграфіі незлічонымі спосабамі. Ён відавочна прысутнічаў ў разнастайных спекулятыўных сістэмах, якімі кіравалася мысленне заходняга чалавека пра сваю мінуўшчыну. Аўгустынава тэалагічная канцэпцыя гісторыі і яе секулярызаваныя варыянты[29], як і ідэя прагрэсу з яе сляпою вераю ў прагрэс навукі і чаканыя ад яго сацыяльныя даброты, заўсёды былі, калі скарыстаць тэрмін Ліятара, „метанаратывамі“, праз якія легітымізавалася не толькі гістарыяграфія, але і іншыя фундаментальныя аспекты цывілізацыі і грамадства[30].

Потым надышоў гістарызм, які з дзіўнай наіўнасцю[31] лічыў, што сутнасць мінуўшчыны ўвасабляецца ў цікавай мяшанцы факта і ідэі. Эпістэмалагічная наіўнасць ягонае дактрыны пра гістарычныя ідэі была магчымаю толькі ў часы, калі вера ў спасцігальнасць сутнасці мінуўшчыны лічылася цалкам натуральнаю, так што ніхто і не падазраваў маш-

[27] Rorty R. Freud and Moral Reflection, 17. (Гэты артыкул я атрымаў у фотакопіі ад аўтара; на жаль, больш ніякіх звестак пра яго не маю.)

[28] *Programmaboek Congres „Balans en Perspectief“*. Utrecht, 1986, 50.

[29] Гэта, вядома, адсылае да тэзы К. Лёвіта [K. Löwith] сфармуляванае ў ягонай працы *Meaning in History* (Chicago, 1970).

[30] Lyotard, 49—63.

[31] Ankersmit F.R. De Chiastische Verhouding Tussen Literatur en Geschiedenis // *Spectator* (October, 1986), 101—120.

табаў сваёй онталагічнай самаўпэўненасці. Апошнім звяном у гэтым ланцугу эсенцыялісцкіх поглядаў на гісторыю была сацыяльная гісторыя, пра якую піша Рузэн. Трыумфальныя ноты, якімі суправаджалася яе з'яўленне, асабліва ў Нямеччыне, — найбольш яскравы доказ аптымістычна завышанай самаацэнкі гісторыкаў, ахопленых адчуваннем, што нарэшце знайшоўся доўгашуканы ключ, які адамкне ўсе гістарычныя дзверы. Кожны, хто ўсведамляе эсенцыялісцкі характар сацыяльнае гісторыі і знаёмы з традыцыйнай варожасцю паміж эсенцыялізмам і навукаю, не можа не заўважыць, наколькі гэтыя прэтэнзіі недарэчныя. Але найгоршых мадэрністаў дагэтуль можна знайсці сярод філосафаў гісторыі (што, дарэчы, не дзіва); яны вітаюць кожную дэманстрацыйную праяву псеўданавукі яшчэ з большай гатоўнасцю, чым гісторыкі, абы здалося, што яна пацвярджае іхнія зацяганыя пазітывісцкія ідэі.

Акрэслены вышэй рух гістарычнае свядомасці я хацеў бы праілюстраваць такой аналогіяй. Прыпадобнім гісторыю да дрэва. Эсенцыялісцкая традыцыя ў заходняй гістарыяграфіі факусавала ўвагу гісторыкаў на ствале гэтага дрэва. Спекулятыўныя сістэмы вызначалі, так бы мовіць, прыроду і форму гэтага ствала. Гістарызм і мадэрнісцкая навуковая гістарыяграфія, са сваёй (пахвальнай у аснове) увагаю да таго, што насамрэч адбывалася ў мінуўшчыне і з непрыманнем апрыёрных схемаў, месціліся на галінах гэтага дрэва. Аднак увага іхняя па–ранейшаму засяроджвалася на ствале. І гістарысты, і прыхільнікі так званай навуковай гістарыяграфіі (як і іхнія спекулятыўныя папярэднікі) спадзяваліся і дакляравалі, што ўрэшце ім удасца нешта сказаць пра той ствол. Паказальнаю ў гэтым кантэксце была шчыльная повязь паміж так званаю навуковай сацыяльнай гісторыяй і марксізмам. Ад часоў гістарызму гістарыяграфія заўсёды імкнулася да поўнае ці частковае рэканструкцыі эсенцыялісцкае лініі, што праходзіла праз усю мінуўшчыну, незалежна ад таго, у якой тэрміналогіі гэта фармулявалася — у онталагічнай, эпістэмалагічнай або метадалагічнай.

У постмадэрнісцкай гістарыяграфіі, асабліва ў гісторыі ментальнасцяў, упершыню адбываецца разрыў з шматсотгадовай эсенцыялісцкаю традыцыяй. (Тут я адразу дадам, каб пазбегнуць пафасу і перабольшванняў, што гаворка ідзе пра тэндэнцыі, а не пра радыкальныя разрывы.) Выбар падае ўжо не на ствол ці галіны, а на лісце нашага дрэва. У рамках постмадэрнісцкага погляду на гісторыю інтэграцыя, сінтэз і татальнасць больш не служаць за мэту: у цэнтры ўвагі апынаюцца гэтыя шматкі гісторыі. Возьмем, да прыкладу, *Montaillou* і пазнейшыя кнігі, напісаныя Ле Руа Лядуры, *Microhistorie* Гінзбурга, *Sunday of Bouvines* Дубі або *Return of Martin Guerre* Наталі Зэмон Дэвіс. Пятнаццаць–дваццаць гадоў таму мы здзіўлена задаваліся б пытаннем, у чым сэнс гэткага гіста-

рычнага пісьма, што яно імкнецца давесці. Гэтае зусім натуральнае непаразуменне было б выклікана, як заўсёды, нашым мадэрнісцкім жаданнем даведацца, як працуе машына гісторыі. Аднак пры анты–эсенцыялісцкім, наміналістычным падыходзе, уласцівым постмадэрнізму, гэтае пытанне страціла сэнс. А калі ўсё ж трымацца эсенцыялізму, мы можам сказаць, што сутнасць гістарычнага дрэва не ў ствале і не ў галінах, а ў лісці.

Гэта падводзіць мяне да галоўнае тэзы гэтага артыкула. Для лістоты характэрна, што яна адносна свабодна прымацавана да дрэва, а калі надыходзіць восень ці зіма, яе здзімае вецер. Шэраг прыкмет дазваляе лічыць, што ў заходняй гістарыяграфіі надышла восень. Першая з іх — постмадэрнісцкі характар сучаснай эпохі. Наш антыэсенцыялізм, альбо, як яго прынята сёння называць, „анты–фундацыяналізм“ [anti–foundationalism], аслабіў нашую адданасць навуцы і традыцыйнай гістарыяграфіі. Змена становішча Еўропы ў свеце пасля 1945 г. — другая важная азнака. Гісторыя гэтага прыдатку да еўразійскага кантынента больш не ёсць сусветная гісторыя[32]. Тое, што мы хацелі б бачыць ствалом дрэва заходняе гісторыі, стала часткаю цэлага лесу. Тыя *meta–récits* [мета–аповеды], якія мы любілі распавядаць пра сваю гісторыю, — трыумф Розуму, слаўная барацьба за эмансіпацыю пралетарыяту XIX ст., — маюць толькі мясцовую значнасць і таму больш не пасуюць на ролю метанаратываў. Сівер, які, паводле словаў Рамэна, узняўся каля 1900 г. адначасова на Захадзе і на Ўсходзе[33], у другой палове стагоддзя паздзімаў урэшце лісце і з нашага гістарычнага дрэва.

Заходняй гістарыяграфіі цяпер застаецца толькі збіраць апалае лісце і вывучаць яго незалежна ад таго, адкуль яно ўзялося. Гэта азначае, што нашая гістарычная свядомасць, так бы мовіць, вывернулася на левы бок. Калі мы збіраем лісце мінуўшчыны гэткім жа чынам, як Ле Руа Лядуры ці Гінзбург, важна ўжо не месца, якое яны займалі на дрэве, а той узор, які мы можам скласці з іх *цяпер*, той спосаб, праз які гэтую мадэль можна адаптаваць да іншых, сучасных формаў цывілізацыі. „Ад часоў Гётэ, Маколея, Карлайла і Эмерсана, — пісаў Рорты, — выпрацаваўся адмысловы гатунак пісьма. Гэта не ацэнка адносных заслугаў літаратурных твораў, не інтэлектуальная гісторыя, не маральная філасофія, не гнасеалогія, не сацыяльнае прароцтва, але ўсё гэта разам, злітае ў нейкім новым жанры“[34]. Каментуючы гэтае цверджанне Рор-

[32] Яскравыя доказы рэзкага спаду значнасці еўрапейскае мінуўшчыны падае М. Фэро: Ferro M. *Hoe de Geschiedenis aan Kinderen Wordt Verteldt.* Weesp, 1985.
[33] Romein J. *Op het Breukvlak van Twee Eeuwen*. Amsterdam, 1967, I, 35.
[34] Culler, 8.

ты, Кулер адзначае вельмі характэрную для „гэтага новага гатунку пісьма“ абыякавасць да паходжання і кантэксту, як гістарычнага, так і любога іншага:

> тыя, хто займаецца канкрэтнымі дысцыплінамі, скардзяцца, што працы, якіх патрабуе гэты жанр, вывучаюцца па–за належнай дысцыплінарнаю матрыцай: студэнты–тэарэтыкі чытаюць Фройда, не цікавячыся, ці не аспрэчылі ягоных фармулёвак пазнейшыя псіхалагічныя даследаванні; яны чытаюць Дэрыду, не авалодаўшы філасофскаю традыцыяй; яны чытаюць Маркса, не вывучаючы альтэрнатыўных апісанняў палітычных і эканамічных сітуацыяў[35].

Правільны гістарычны кантэкст страціў сваю традыцыйную важнасць, функцыю і натуральнасць у якасці фону — не дзеля таго, што некаму так ужо хочацца заняць агістарычную пазіцыю або не хапае жадання аддаць належнае ходу гісторыі, а таму, што даводзіцца „вылузвацца“ з гістарычнага кантэксту. Усё цяпер абвяшчае сябе неабвешчаным, і ў гэтым застаецца наша адзіная надзея ўтрымаць у будучыні галаву над вадою. Як лісты на дрэве не злучаны адзін з адным, а іхнія ўзаемаадносіны абумоўліваюцца толькі галінаю або ствалом, — так і вышэйзгаданыя эсенцыялісцкія дапушчэнні забяспечвалі вядучую ролю гэтага абнадзейлівага „гістарычнага кантэксту“.

Не зразумейце мяне няправільна. Я не прапаную новае формы суб’ектыўнасці, не збіраюся легітымізаваць накіданне мінуўшчыне сучасных мадэляў. Легітымацыю чаго заўгодна лепш пакінуць мадэрністам. Сутнасць постмадэрнізму акурат у тым, каб па магчымасці не звяртаць увагі на эсенцыялісцкія мадэлі ў мінуўшчыне. Таму наўрад ці мелі рацыю нядаўнія спробы ўдыхнуць новае жыццё — дбаючы пра становішча і рэпутацыю гістарыяграфіі — у стары нямецкі ідэал *Bildung*‘у[36]. Хацелася б, дарэчы, адразу дадаць, што гэтыя спробы мне нашмат больш

[35] Тамсама.

[36] У лістападзе 1985 г. факультэт мастацтваў у Гронінгене арганізаваў форум пра *Bildung*. Сярод дакладчыкаў былі М.А.Вэс [M.A.Wes], Э.Г.Косман [E.H.Kossmann] і Й.Й.А.Моэй [J.J.A.Mooij]. Гл. тс. E.H.Kossmann, De Functie van een Alpha–Faculteit (Groningen, 1985); Косман таксама заўважае, што ідэалы *Bildung*’у канца XVIII і XIX стст. больш не могуць рэалізавацца ў наш час: „Перш за ўсё само сабой відавочна, што ідэал *Bildung*'у ў сённяшняй сітуацыі не можа быць гамагеннай, прэскрыптыўнай мадэллю этычных і эстэтычных стандартаў і шаблоннай эрудыцыі. Хутчэй гэта будзе форма інвентару магчымых этычных і эстэтычных стандартаў, мэтаў, якія чалавецтва можа ставіць перад сабою і якія рэалізуюцца ім у тую ж гістарычную эпоху. Цяперашні ідэал *Bildung*’у не прэскрыптыўны, а дэскрыптыўны, не закрыты, а адкрыты“ (23).

сімпатычныя, чым тая навуковая наіўнасць, якую сацыяльныя гісторыкі дэманструюць у пытанні задач і карыснасці гістарыяграфіі. Аднак заглыбляцца ў спадзяванні, народжаныя сацыяльна–навуковай гістарыяграфіяй, — марны занятак. З іншага боку, рэанімацыя ідэалу *Bildung*'у — яскравая рэакцыя на характар сучаснае цывілізацыі, які можна параўнаць з картаю. У мінулым цывілізацыя больш нагадвала дарожны знак, які даваў адносна адназначныя дырэктывы што да грамадскіх і маральных паводзінаў; сучасная ж цывілізацыя падказвае, куды нам ісці, не больш, чым карта; а калі мы ўжо зрабілі свой выбар, яна не кажа, выбраць нам найкарацейшы шлях або маляўнічую, але дальнюю дарогу. Рэалізацыя ідэалу *Bildung*'у сама больш дасць нам добры малюнак тае дарогі, якую мы дагэтуль прайшлі. Ідэал *Bildung*'у — культурны адпаведнік славутага тэзіса Эрнста Гекеля, паводле якога развіццё індывідуума паўтарае ў скароце развіццё віду. *Bildung* — скарочаная версія гісторыі цывілізацыі ў маштабе паасобнага індывіда, праз якую ён можа стацца карысным і годным чальцом нашага грамадства.

Аднак для постмадэрніцкай гістарычнай свядомасці гэты скарочаны онтагенетычны паўтор нашага культурнага філагенезу больш не мае сэнсу. Эвалюцыйныя звёны таго шэрагу гістарычных кантэкстаў, з якіх складаецца наш культурны філагенез, урэшце разарваліся. Усё стала сучасным, але разам з тым (калі скарыстаць выраз Дубі) усё стала і гісторыяй. Калі гісторыя перакампаноўваецца ў сучаснасць, гэта азначае, што сучаснасць атрымлівае кляймо мінуўшчыны. *Bildung*, адпаведна, патрабуе арыентацыі на компас, адкінутай постмадэрнізмам. Мы павінны не прыстасоўвацца да мінуўшчыны, а вучыцца гуляць з ёю ў нашую культурную гульню. Што гэта канкрэтна азначае для паасобнага індывідуума, выславіў Жан–Жак Русо ў *Les rêveries du promeneur solitaire*: бывае такі

> стан, у якім душа знаходзіць дастаткова трываласці, каб цалкам адпачыць і сабраць усю сваю існасць, не маючы патрэбы ні ўспамінаць мінулае, ні зазіраць у будучыню; стан, у якім час для яе нішто, у якім цяпершчына доўжыцца заўсёды, але ніяк не пазначае сваёй працягласці і не мае ні знаку паслядоўнасці[37].

І далей Русо адзначае, што такое абыходжанне з часам прыносіць у нашае жыццё адчуванне паўнаты шчасця — „шчасця дастатковага, дасканалага і поўнага, якое не пакідае ў душы ніякае пусткі, якая прагнула б запоўніцца“[38].

Гісторыя тут ужо не рэканструкцыя таго, што здаралася з намі ў

[37] Rousseau J.J. *Les rêveries du promeneur solitaire*. Paris, 1972, 101.
[38] Тамсама.

розных фазах нашага жыцця, а няспынная гульня з памяццю пра гэта. Памяць мае першынство перад тым, *што* помніцца. Нешта падобнае слушна і для гістарыяграфіі. Дзікае, прагавітае і нястрымнае рыццё ў мінулым, натхнёнае жаданнем адкрыць мінулую рэальнасць і здзейсніць яе навуковую рэканструкцыю, больш не выступае бясспрэчнаю задачаю гісторыка. Замест гэтага нам варта пільней даследаваць тое, што накапана за паўтараста гадоў, і часцей пытацца ў сябе, *што* гэта ўсё нам кажа. Надышоў час, калі нам трэба не *даследаваць* мінуўшчыну, а *думаць* пра яе.

Аднак не выключана, што цяпер гістарыяграфія ўвайшла ў фазу, калі сэнс важнейшы за рэканструкцыю і генезіс; калі мэтаю, якую ставяць перад сабою гісторыкі, робіцца раскрыццё сэнсу фундаментальных канфліктаў у нашай мінуўшчыне і дэманстрацыя таго, наколькі яны аказваюцца сучаснымі. Разгледзім колькі прыкладаў. Пэўная трактоўка канфлікту паміж Сакратам і Афінскай дзяржаваю (напрыклад, Гегелева) можа сто разоў супярэчыць таму, што мы цяпер ведаем пра Афіны каля 400 г. да н.э., але тым не менш яна не страчвае сваёй сілы. Другі прыклад: рэчы, якія Фуко пісаў пра шчыльную сувязь паміж уладай і дыскурсам, які імкнецца да праўды, або пра надзвычай цікавыя суадносіны паміж моваю і рэальнасцю ў XVI ст., шмат хто скрытыкаваў на фактуальнай аснове, але гэта не азначае, што ягоныя канцэпцыі страцілі сваю прывабнасць. Я не хачу сказаць, што гістарычная праўда і верагоднасць не маюць значэння ці нават загароджваюць шлях да больш змястоўнай гістарыяграфіі. Наадварот: прыклады накшталт Гегеля і Фуко паказваюць нам (чаму, уласна, я іх і абраў), што метафарычнае вымярэнне ў гістарыяграфіі мацнейшае за вымярэнне дослоўнае ці фактуальнае. Філалагічны Віламовіц, намагаючыся абвергнуць Ніцшэва „Нараджэнне трагедыі“ [*Die Geburt der Tragödie*], нагадвае чалавека, які спрабуе толькі рукамі перакуліць чыгуначны вагон; і сапраўды, крытыка метафары на фактуальнай аснове — занятак настолькі ж бессэнсоўны, як і безгустоўны. Метафары „абвяргаюцца“ толькі метафарамі.

Гэта падводзіць нас да заканчэння. Як я казаў ужо, ёсць сэнс меркаваць, што ў будучыні нашы адносіны да мінуўшчыны і наша разуменне яе будуць насіць метафарычны, а не дослоўны характар. Вось што я маю на ўвазе. Дослоўнае цверджанне „гэты стол мае ў даўжыню два метры“ скіроўвае нашую ўвагу да пэўнага стану рэчаў па–за самою моваю, які гэтым цверджаннем выказваецца. Метафарычнае ж выказванне — прыкладам, „гісторыя — дрэва без ствала“, — пераносіць акцэнт на тое, што адбываецца паміж проста *словамі* „гісторыя“ і „дрэва без ствала“. З постмадэрнісцкага пункту гледжання, цэнтр увагі ўжо

знаходзіцца не ў самой мінуўшчыне, а ў неадпаведнасці паміж мінуўшчынай і сучаснасцю, паміж моваю, з дапамогай якой мы цяпер гаворым пра мінуўшчыну, і самою мінуўшчынай. Больш няма „адзінае лініі, якая праходзіць праз усю гісторыю“, каб нейтралізаваць гэтую неадпаведнасць. Гэта тлумачыць увагу да недарэчных, здавалася б, але непрадказальных і, можа, нават хвалюючых дэталяў, якія Фройд у сваім эсэ пра *Unheimliche* вызначыў як „*was im Verborgenen hatte bleiben sollen und hervorgetreten ist*“[39]; словам, увагу да ўсяго, што не мае сэнсу і ніяк не тычыцца прадмета з пункту погляду навуковае гістарыяграфіі. Бо гэтыя недарэчныя, *unheimliche* падзеі адпавядаюць недарэчнасці мовы гісторыка ў яе дачыненні да мінуўшчыны.

Як постмадэрнізм пасля Ніцшэ і Гайдэгера скрытыкаваў усю так званую логацэнтрычную традыцыю ў філасофіі з часоў Сакрата і Платона, то бок рацыяналістычную веру ў тое, што Розум дасць нам магчымасць раскрыць таямніцы рэальнасці, гэтаксама і постмадэрнісцкай гістарыяграфіі ўласцівая натуральная настальгія па дасакратаўскай рэальнай гісторыі. Найдаўнейшая гістарыяграфія грэкаў была эпічнаю; грэкі распавядалі адзін аднаму пра колішнія дзеі сваіх продкаў у эпічных наратыўных паэмах. Іхнія аповеды не былі ўзаемавыключальнымі, нягледзячы на супярэчнасці паміж імі, бо натхнялі перадусім да этычнага і эстэтычнага сузірання. Паколькі войны і палітычная барацьба паглыблялі сацыяльную і палітычную свядомасць, а пісанае слова нашмат менш талерантна да разыходжанняў паміж традыцыямі, чым слова прамоўленае, Гекатэй, Герадот і Фукідыд, а за імі і іншыя аўтары правялі „лагацэнтрычную“ уніфармізацыю мінуўшчыны[40]. Так малады ствол дрэва мінуўшчыны ўпершыню ўзняўся над зямлёю. Я, вядома, не хачу сказаць, што нам трэба вярнуцца ў дагекатэевы часы. Тут таксама справа метафарычнай праўды, а не даслоўнай. Постмадэрнізм не адкідае навуковае гістарыяграфіі, а толькі прыцягвае нашую ўвагу да мадэрнісцкага аблуднага кола, якое хоча пераканаць нас, быццам па–за ім нішто не існуе. Тым часам па–за ім ляжыць уся сфера мэты і сэнсу гісторыі.

*З ангельскай пераклаў Мікола Раманоўскі*

[39] Freud S. Das Unheimliche // Sigmund Freud: Studienausgabe IV. Psychologische Schriften. Frankfurt/M., 1892, 264.

[40] Гэтымі заўвагамі пра паходжанне грэцкай гістарычнай свядомасці я вельмі абавязаны спадарыні Й. Круль–Блок [J. Krul–Blok].

# Будучыня гісторыі*

## Лорэнс Стоўн

Пятнаццаць гадоў таму, у 1978 г. П'ер Нора, супрацоўнік Вышэйшай школы сацыяльных даследаванняў у Парыжы, прапанаваў наступную характарыстыку стану сучаснай гістарычнай навукі:

„Мы жывем у перыяд выбуху Гісторыі. Новыя праблемы, аплодненыя сумежнымі дысцыплінамі, і пашырэнне на ўвесь свет гістарычнай свядомасці, доўгі час уласцівай адной Еўропе, неверагодна ўзбагацілі спектр пытанняў, якія гісторыкі адрасавалі мінуламу. Гісторыя, да нядаўняга часу прысвечаная аповеду пра тыя падзеі, якія ўражвалі сучаснікаў, біяграфіям вялікіх людзей і палітычным лёсам нацыяў, змяніла свае метады, структуру і мэты.

Аналіз эканомікі і грамадстваў дапоўнены сёння вывучэннем матэрыяльных культур, цывілізацыяў і менталітэту. Палітычная гісторыя пашырыла свае гарызонты і стала займацца праблемамі механізмаў улады. Больш надзейную аснову для развіцця дэмаграфічных, эканамічных і культурных перспектываў даюць колькасныя метады. Тэкст ужо не кароль: непісаныя сведчанні (археалагічныя знаходкі, вобразы, фальклор) пашыраюць абсяг гісторыі. Увесь чалавек, яго цела, ежа, мова, уяўленні, тэхнічныя і разумовыя інструменты, якія змяняюцца больш ці менш хутка — увесь гэты матэрыял, на які раней не звярталі ўвагі, стаў хлебам гісторыка. У той жа час паскарэнне гістарычнага працэсу прыцягнула ўвагу да супрацьлеглага, стымулюючы больш дэталёвае даследаванне пастаяннага і нязменнага ў калектыўнай гісторыі“[1].

Гэта было справядліва тады, калі пісалася. Выбух сацыяльнай і пазней культурнай гісторыі пасля другой сусветнай вайны стаў сапраўды велізарным дасягненнем гістарычнай навукі. Дзякуючы яму з'явіліся некаторыя з найвялікшых працаў па гісторыі, многія з іх — прадукты парыжскай школы Аналаў, гэтага магутнага рухавіка гістарычнай інавацыі. Я вельмі рады, што быў якраз у адпаведным узросце, каб спрычыніцца да яе. Нядаўна, аднак, сацыяльная і культурная гісторыі, якія цягам пяцідзесяці гадоў інтэлектуальна, калі не колькасна, дамінавалі ў нашай прафесіі, досыць нечакана зазналі цяжкія часы. Іх самаўпэўненыя прэтэнзіі на верхавенства ў гэтай прафесіі цяпер рашуча аспрэчваюцца, і ў моду зноў уваходзяць палітычная гісторыя і наратыў. Гэтым

* Stone L. The future of history//Historia a debate. Tomo 1. P. 177—189.

[1] Le Goff J., Nora P. Making History. Paris, 1971, уступ (гэтай спасылкай я абавязаны доктару Лусэту Валенсі).

разам я прааналізую спачатку мінулае — што менавіта было не ў парадку з сацыяльнай гісторыяй. Потым звярнуся да цяпершчыны — што не так у сённяшніх плынях. І ўрэшце скончу выкладаннем прычынаў веры ў светлую будучыню для гісторыі цягам наступныя\х дзесяцігоддзяў.

## І. Мінулае: сацыяльныя гісторыкі

Яшчэ да пачатку 1980–х г. стала зразумелым, што ўнутры сацыяльнай і культурнай гісторыі майго пакалення існуюць пэўныя хібы. За некалькі апошніх гадоў у гэтым гістарычным напрамку выявіліся відавочныя адзнакі крызісу: прыкметы як узнясення да фанабэрыстага канструявання паветраных замкаў–мадэляў, так і ўпадання ў трывіяльнасць, нудоту і недарэчнасць. Структуралісцкая гісторыя, магчыма, дасягнула апагею звышнаватарства ў кнігах Фуко пра вар'яцтва, сэксуальнасць і турмы.

Фуко справядліва крытыкаваў Дэрыду за ўхіленне ад пытання ўлады, але сам пры вывучэнні ўсіх грамадскіх і індывідуальных адносінаў надаваў панаванню і падпарадкаванню абсалютнае значэнне. Гэтую догму я лічу псіхалагічна неадэкватнай. На нейкі час, аднак, Фуко змяніў наша бачанне свету, чым часова разбурыў маральныя падпоркі Асветніцтва XVIII ст. На маю думку, гэта не тое, чым можна ганарыцца.

Квантыфікацыя як навуковы інструмент гісторыі дасягнула стадыі звышновай зоркі ў спробе прафесараў Фогеля і Энгермана са Злучаных Штатаў вырашыць большасць праблемаў рабства ў Амерыцы пры дапамозе кліяметрыі, г.зн. прымяненнем у гісторыі статыстычных метадаў.

Пры асцярожным выкарыстанні квантыфікацыя з'яўляецца найвыдатнейшым навуковым інструментам для праяснення няпэўнай думкі, асабліва ў эканоміцы і дэмаграфіі. Сапраўды, у дачыненні да дэмаграфіі колькасная гісторыя дасягнула трыумфальнага поспеху ва ўстанаўленні фактаў, хоць яна паказала сябе значна менш плённай пры выпрацоўцы праўдападобных тлумачэнняў[2].

Першай памылкай было перакананне, што кліяметрыя чамусьці мае навуковы характар, у той час як на самой справе яна надзейная ўсяго настолькі, наколькі надзейныя дадзеныя, на якіх яна абапіраецца і якім не заўсёды можна давяраць. Другой памылкай было дапушчэнне, што яна здатна развязваць найважнейшыя важныя гістарычныя праблемы можа рашыць. У сапраўднасці ж сферы яе ўсёмагутнасці, — такія, як

[2] Scott Smith D. The Troubled Issue of Agency in History: British Historical Demography since 1750 // Journal of British Studies. 26 (1987). P.26—7.

эканамічная і дэмаграфічная гісторыя, — відавочна абмежаваныя. Трэцяй памылкай была ўпэўненасць, што кнігі, насычаныя лічбамі і ўраўненнямі, але цалкам пазбаўленыя чалавечых індывідуальнасцяў, могуць паслужыць хоць бы пачаткам разумення складанасцяў і супярэчнасцяў гістарычнага працэсу — не надта прыцягнуць зацікаўленага чытача.

Кліяметрысты забыліся, калі ўвогуле ведалі, правілы выкарыстання статыстыкі, прапанаваныя вялікім ангельскім палітэканомам Т.Г.Маршалам у 1906 г.[3]:

„1. Выкарыстоўвайце матэматыку як стэнаграфію, а не як рухавік даследавання;

2. Перакладзіце яе на ангельскую мову;

3. Падмацуйце прыкладамі з рэальнага жыцця;

4. Выкіньце матэматыку“.

Але калі асобныя з найлепшых сацыяльных гісторыкаў імкнуліся да зорак (і часам падалі з неба, падобна Ікару), пераважная большасць другарадных патаналі ў антыкварнай трывіяльнасці, абраўшы для даследавання тую ці іншую тэму, а таксама ў апантанай пагоні за найноўшай модай.

Прычыны заняпаду, напэўна, трэба шукаць у памылках майго пакалення, і я прымаю за іх сваю долю адказнасці:

1. Адны канцэнтравалі ўвагу ўсё больш на збяднелых маргінальных групах, а не на асноўнай плыні, рамантызавалі іх за іх беднасць і маргінальнасць;

2. Іншыя сталі ахвярамі тыраніі фактаў, якая ўзмацнілася квантыфікацыяй. Але „віну за безразважны эмпірызм не трэба звальваць на статыстыку; мы павінны разабрацца менавіта з тым, чаму не ўдаецца даць адказ гэтым ці іншым метадам даследавання, каб адказаць на важныя пытанні“[4].

3. Мы ўсе робім вялікую памылку, не звяртаючы ніякай увагі на пытанні ўтварэння дзяржавы і дзяржаўнай улады ў палітычным ці вайсковым аспекце і на палітыку як працэс. Вось канкрэтны прыклад. У сваёй велізарнай кнізе „Крызіс арыстакратыі“ (Crisis of the Aristocracy) пра Англію канца XVI ст. я не згадваў пра змену палітычнай ролі палаты лордаў. Вызначэнне сацыяльнай гісторыі, дадзенае ў 1944 г. Дж.М.Трэвэльянам — „Гісторыя народа без палітыкі“ — стала прарочым“[5].

4. Такое ігнараванне дзяржаўнай палітыкі спалучалася з аднолькава пагардлівым стаўленннем да рэлігіі, прынятым па розных прычынах усімі асноўнымі галінамі новай сацыяльнай гісторыі. І гэта пасля таго,

[3] Маршал Боўлею, 27 лютага 1906 г., у Contributions to Political Economy, уступ.
[4] Calhoun C.J., у: Social History. 3 (1978). P.371.
[5] Trevelyan G.M. The Social History of England.

як Макс Вэбэр надаў рэлігіі такую грандыёзную гістарычную вагу. Напрыклад, наўрад ці знойдзецца слова пра рэлігію ў вялізнай і плённай кнізе Брадэля пра Міжземнамор'е ў часы Філіпа ІІ, нягледзячы на той факт, што якраз тады барацьба паміж вялікімі рэлігійнымі інстытутамі каталіцкага хрысціянства і іслама за кантроль над Міжземнаморскім басейнам дасягнула кульмінацыі[6]. Такое ж грэбаванне ідэалогіяй, рэлігіяй і культурай можна ўбачыць і ў трохтамовым даследаванні Брадэля матэрыяльнай цывілізацыі Захаду[7]. Але рэлігія несумненна адыгрывала вырашальную ролю ў людскім жыцці ў перыяд паміж рэфармацыяй XVI ст. і ўздымам секулярызму ў XIX ст., і наўмыснае ігнараванне гэтай тэмы большасцю сацыяльных гісторыкаў было адным з найбольш відавочных і сур'ёзных грахоў.

5. У аснове сучаснай сацыяльнай гісторыі ляжыць адна вельмі спрэчная перадумова. Гэта дапушчэнне, што пры даследаванні масавых паводзінаў, народнай культуры ці нацыянальнай палітыкі можна праўдападобна трактаваць асобных індывідаў ці групы як істоты цалкам рацыянальныя. Гісторыя сведчыць, што людзі часта, а можа і найчасцей, змагаюцца і паміраюць за ідэю, прынцып, рэлігію, расавыя ці племянныя прымхі, чым за матэрыяльны эканамічны інтарэс. Яны будуць змагацца за інтарэс, нават забіваць за яго, але звычайна, калі гэта магчыма, за яго не паміраюць. Аднак, калі прынцып і інтарэс супадаюць, няма такіх межаў, да якіх людзі не былі б гатовыя дайсці, што нядаўна было прадэманстравана ў Босніі.

Напрыклад, усе мы трапілі пад уплыў погляду Джорджа Рудэ і Чарльза Тылі аб надзвычайнай рацыянальнасці і выбарачнасці даіндустрыяльнага паўстання натоўпу, цалкам процілеглага ранейшай ірацыянальнай мадэлі Ле Бона. Іх мадэль, па агульным прызнанні, знаходзіць у рэчаіснасці пэўнае пацверджанне, але наўрад ці пасуе да нашага сённяшняга досведу, напрыклад, да рэлігійных паўстанняў у Індыі і Іране, расавых хваляванняў 1960–х г. у Амерыцы ці футбольных бясчынстваў 1970–х і 1980–х г. у Англіі. У выніку гэтай рацыяналістычнай мадэлі мы, гісторыкі ранняга Новага часу, страцілі сон, дзівячыся, з якой гэта нагоды ў 1668 г. натоўп лонданскіх маракоў і чаляднікаў учыніў пагром публічных дамоў, не пакінуўшы ні пярыны. Карл ІІ спытаўся тады ў недаўменні: „Яны ж карысталіся імі, ці не так?“. Не выклікае ніякіх сур'ёзных сумненняў тое, што дзеянні і паводзіны людзей грунтуюцца не на рэалістычным аналізе ўласнага сацыяльнага становішча, але на іх суб'ектыўных уяўленнях пра гэтую рэальнасць.

[6] Braudel F. The Mediterranean and the Mediterranean World in the Age of Philip II.
[7] Braudel F. Civilization materiélle, Économie et Capitalisme, XVe–XVIIIe Siècles. Paris, 1979.

6. Наступнай нашай, сацыяльных гісторыкаў, вялікай памылкай было тое, што мы ігнаравалі, па–першае, выпадковасць і асобу ў гісторыі, а па–другое, значэнне чыстага выпадку. Мы змаглі заплюшчваць вочы на гэтыя фактары, зневажаючы храналагічны наратыў і высокую палітыку. Гэта змушала нас прыніжаць ролю асобы і адвольнага прыняцця рашэнняў, якія ўплывалі на ход вялікіх падзей, накшталт французскай рэвалюцыі. У гэтым моц кнігі Сімона Шамы *Citizens* („Грамадзяне“), ягонай хронікі французскай рэвалюцыі. Яна бліскуча выяўляе надзвычайную значнасць гэтых уплываў. Але на жаль, з вадой яна выплёсквае дзіця, паколькі ігнаруе шырэйшыя безасабовыя сілы імкненняў да зменаў, якія з'яўляюцца буржуазіі, ліберальнай арыстакратыі і сялянства, і структурныя слабасці *ancien régime* (старога рэжыму), вайсковую, фінансавую, бюракратычную і маральную, а таксама вялікую эмацыйную сілу словаў, накшталт „свабода, роўнасць і братэрства“.

Даўным–даўно сэр Гэрбэрт Батэрфільд казаў гэта пра значнасць свабоднай волі індывіда ў гісторыі: „Поле выбару індывідаў падобнае да маленькага сегменту вялікага круга неабходнасці. Калі даецца хоць нейкае такое поле, яго дастаткова, каб змяніць характар усёй гісторыі“. З іншага боку, ён сцвярджаў, што „ніхто не стане аспрэчваць прыналежнасць значнай часткі чалавечага жыцця да сферы закона і неабходнасці“. Пішучы гэта ў 1955 г., сэр Батэрфільд не прадбачыў з'яўлення эмпірычных наміналістаў“[8].

Такім чынам, Шама меў рацыю, калі вяртаў індывіду важкую ролю ў вялікай драме, але памыляўся, калі не прызнаваў, што кожны індывід, прынамсі ў нейкай ступені сфармаваны грамадствам і культурай, такім чынам, ёсць прадуктам свайго асяроддзя. Маркс амаль слушна ўстанавіў сувязі: „Людзі самі робяць сваю гісторыю, але яны робяць яе не так, як уздумаецца; пры абставінах, якія не самі яны выбралі, а якія ім дадзеныя і перайшлі з мінулага“[9]. З іншага боку, менавіта з–за выпадковасці, „убудаванай“ у паводзіны чалавека навуковых законаў гісторыі не існуе, і для гісторыкаў няма магчымасці паспяхова прадказваць будучыню, апроч як у самым агульным выглядзе. Нават антраполаг–структураліст Леві–Строс зусім нядаўна сказаў тое самае: „На маю думку, бліжэйшая ці аддаленая будучыня залежыць ад выпадковасці, і я не магу яе абмяркоўваць“.

7. Наступная праблема — маральнага плану. Некаторыя спецыялісты ў галіне культурнай антрапалогіі даўным–даўно сцвярджаюць, што для таго, каб адрачыся ад этнацэнтрызму, мы павінны прыняць, што

[8] McIntyre C.T., ed., Herbert Butterfield, Writings on Christianity and History. Oxford, 1979. P.30—34.

[9] Marx K. The Eighteenth Brumaire. New York, 1963. P. 15.

кожная культурная практыка ці палітычная арганізацыя, якая б жорсткая і дзікая яна ні была (у тым ліку і клітарыдыктамія ва Усходняй Афрыцы ці самагенацыд у Камбоджы), вартая павагі, як і любая іншая. Праблема этыкі ў гісторыі ўзнікла ў сувязі з неразуменнем палемічнай, але бліскучай кнігі сэра Гэрбэрта Батэрфільда, *The Whig interpretation of History* („Вігаўская інтэрпрэтацыя гісторыі“). У яе апошнім разделе рэзка крытыкуецца лорд Эктан, якім, як высвятляецца пазней, аўтар вельмі захапляўся. Эктан сцвярджаў, што абавязак гісторыка — не толькі растлумачыць і зразумець мінулае, але і даць яму ацэнку. Менавіта гэтаму дапушчэнню боскіх сілаў пярэчыў Батэрфільд, перакана|ны метадыст. Як пазней высветлілася, Батэрфільд быў аддан традыцыі вігаў, не пярэчыў, калі яго называлі новым вігам, лічыў індывідаў у гісторыі безумоўна строга адказнымі за свае дзеянні і напісаў дзве самыя „вігаўскія“ кнігі па гісторыі ў свеце: *The Englishman and his History* („Ангелец і яго гісторыя“, 1944) і *The Origins of Modern Science* („Паходжанне сучаснай навукі“, 1949)[10].

8. Апошняя праблема сацыяльнай і культурнай гісторыі — яе аморфнасць. Часткова гэта выклікана адмаўленнем ад разгляду высокай палітыкі і дзяржаўных структураў, у выніку чаго гістарычныя даследаванні пазбавіліся цэнтру прыцягнення; часткова — тым, што тэматычны спектр дасягнуў незвычайных маштабаў і разнастайнасці так што даць яму рады стала немагчымым. У выніку сацыяльная і культурная гісторыя сёння прапануе неверагодна багаты дыяпазон самых розных аспектаў даследавання жыцця чалавека, а гісторык выбірае сабе тэму ў гэтым дыяпазоне выпадкова, а не зыходзячы з нейкага лагічнага прынцыпу. Напрыклад, французы нядаўна распрацавалі шырокамаштабныя гісторыі сэксуальнасці, пахаў і чысціні. Але як звязаць гісторыю пахаў ці чысціні з гісторыяй палітыкі[11]? Гэтага не ведае ніхто.

Мы ўсе ўсведамляем тую глабальную пераарыентацыю, якая нядаўна адбылася ў сацыяльнай гісторыі. Надзвычай уражвае адыход у апошнія 10—15 гадоў ад вывучэння чыста матэрыяльных сілаў ды сацыяльных і эканамічных структур з шырокім выкарыстаннем статыстыкі. Вызначылася тэндэнцыя да новай культурнай гісторыі, г.зн. гісторыі *mentalité* (менталітэту) і даследавання на аснове антрапалагічнай метадалогіі высокай і нізкай культуры, асабліва іх выяўленне ў канкрэтных рытуалах і публічных відовішчах як сімвалах значэння. Кліфард Гірц, Мэры Дуглас, Віктар Цёрнэр і Эванз Прычард сталі нашымі ментарамі. Даследаванні такіх разумных і тонкіх асобаў, як Эмануэль

[10] McIntyre, op. cit. P.30—34.

[11] Vigarello G. Concepts of Cleanliness: Changing Attitudes in France since the Middle Ages. Cambridge, 1988.

Ле Руа Лядуры, Франсўа Фурэ і Мона Озуф у Парыжы, Карла Гінзбург у Балоны, Кэйт Томас у Оксфардзе, Наталі Дэвіс і Робэрт Дарнтан у Прынстане, Грэг Дэнінг, Інга Клендынэн і Рыс Айзек у Мельбурне (Аўстралія) могуць прынесці сенсацыйныя вынікі. Напрыклад, вельмі проста пагадзіцца з важнай, але не вызначальнай, роляй публічнага рытуала і публічнай рыторыкі ў французскай рэвалюцыі. Але тут ёсць дзве агаворкі. Па–першае, вывучэнне сімвалічнага значэння можа з лёгкасцю зайсці занадта далёка. Кожны раз паўстае праблема, ці не прыпісвае даследчык гістарычным дзеячам ідэі, якіх не было ў сапраўднасці і пра якія тыя нават не здагадваліся. Так, у мяне ёсць сумненні наконт таго, што „Вялікае кацінае пабоішча“ на самой справе для парыжскіх чаляднікаў XVIII ст., якія яе ажыццявілі, азначала тое, што кажа пра яе мой сябар Робэрт Дарнтан[12].

Па–другое, сёння, здаецца, больш намаганняў прыкладаецца для вывучэння сімвалізму, вобразнага зместу і рыторыкі, звязаных з падзеямі, якія адбыліся ў мінулым, чым для даследавання аб’ектыўнай рэальнасці. У рэшце рэшт, улада і палітыка не зводзяцца да рытуалаў, сімвалаў і словаў, хоць і яны несумненна важныя ў стварэнні гегемоніі і падтрыманні кансэнсуса і падпарадкавання. Як пісаў у сваёй грубай манеры Мао Цзэ–Дун, „улада глядзіць з дула пісталета“. Гэта паўпраўда, на якую мы, гісторыкі, ніколі не павінны забывацца, асабліва тут, на Захадзе, які заваяваў свет дзякуючы больш высокай вайсковай тэхналогіі. Дзяржавы не толькі рыхтуюць распрацаваныя тэатральныя відовішчы накшталт рытуальнага спальвання жанок. Яны таксама ваююць, падвышаюць падаткі, караюць смерцю крымінальнікаў і вызначаюць закон.

Не ўспрымайце сказанае як прамову на хаўтурах сацыяльнай і асабліва культурнай гісторыі. На працягу пяцідзесяці гадоў спачатку сацыяльная, потым культурная гісторыя заставаліся самымі наватарскімі і займальнымі цацкамі. Яны перавярнулі ўсю гісторыю дагары нагамі. А пазней, у 1980–х г., яны па частках пачалі падаць ахвярамі ўласных поспехаў. Але нават у такім стане ў гэтых сферах сацыяльнай і культурнай гісторыі ідзе вялікая і высокаякасная праца. Неабходна толькі адмовіцца ад скрайніх пазіцыяў і намагацца аднавіць пачуццё плюралістычнага адзінства ў агульнай справе. Пра гэта яшчэ будзе размова ў канцы артыкула.

[12] Darnton R. The Great Cat Massacre and other episodes in French Cultural History. New York, 1984. Крытыку гл. у: Chartier P.R. Texts, symbols and Frenchness // Journal of Modern History. 57 (1985).

## II. Сучаснасць

Прааналізаваўшы слабасці розных тыпаў даўнейшай сацыяльнай і маладзейшай культурнай гісторыі, пяройдзем да разбору не менш сур'ёзных недахопаў мыслення „сярдзітых маладых людзей“ — цяпер ужо не так ужо маладых — галоўных яе крытыкаў. Устаноўкі, метадалогія і высновы сацыяльных гісторыкаў узору 1950–х і 1960–х г. сёння падвяргаюцца сумненню з боку праціўнікаў, якіх можна падзяліць на дзве вельмі розныя групы.

Першых я назаву эмпірыкамі–наміналістамі. Іх пярэчанні найбольш яскрава выяўляюцца ў цяперашняй дыскусіі наконт ангельскай рэвалюцыі XVII ст., але іх ідэі распаўсюджваюцца амаль на ўсе сферы заходняй гісторыі, у тым ліку на амерыканскую і французскую рэвалюцыі.

Нягледзячы на тое, што яны ніякім чынам не складаюць маналітнай групы, іх усё ж лучаць пэўныя падставовыя тэзы. Яны прытрымліваюцца мадэлі пераменаў, якая не дапускае квантавых скачкоў, адмаўляе доўгатэрміновыя прычынныя змены, вышэй за ўсё ставіць прыняцце рашэнняў і выяўляе моцную прыхільнасць да „histoire immobile“ (нерухомай гісторыі) — ідэі пра тое, што цягам стагоддзяў нічога асабліва не змяняецца.

Адзін з такіх эмпірыкаў–наміналістаў сказаў: „Вялікія падзеі не маюць вялікіх прычынаў, хоць гісторыку ўласціва шукаць іх“. Але яшчэ ў XVIII ст. лорд Боўлінгброўк заўважыў, што „голых фактаў без прычынаў, якія спарадзілі іх... недастаткова для характарыстыкі дзеянняў ці рашэнняў“[13]. Іншы, Конрад Расэл, параўнаў грамадзянскія войны і рэвалюцыі з „дарожнымі здарэннямі“, відавочна маючы на ўвазе, што гэтыя падзеі — проста вынік нейкіх непрадбачаных памылак з боку аднаго ці болей кіроўцаў. Французскую, ангельскую і амерыканскую рэвалюцыі сёння многія лічаць проста выпадкамі — і да таго ж няшчаснымі.

Мы, такім чынам, маем справу з агульнай інтэрпрэтацыяй таго, як працуе гісторыя — інтэрпрэтацыяй, якая амаль цалкам адмаўляе шырокія плыні гістарычнай прычыннасці, таму што ў тэкстах, чытаных эмпірыкамі–наміналістамі, іх у гатовым выглядзе не відаць. Такая інтэрпрэтацыя звужае выбар і формы разумення, а не адкрывае новыя. Яна адмаўляе доўгатэрміновыя ўплывы эканомікі, сацыяльных зменаў, ідэалагічных перакананняў, філасофскіх і юрыдычных ідэй на штодзённую рэальнасць высокай палітыкі і прыдворныя звадкі; прыніжае ролю

[13] Bolingbroke, lord // Historical Writings. Ed. I. Kramnick. Chicago, 1972. P. 9.

ідэй і прынцыпаў у паводзінах людзей; ігнаруе ўздзеянне народных пачуццяў і дзеянняў на палітыку, якую праводзіць эліта. Гэтае звужэнне гістарычнага фокуса, часткова абумоўленае ідэалогіяй, а часткова метадалогіяй, цяпер адбіваецца на аналізе і наступстваў, і прычынаў. Так, ангельскую прамысловую рэвалюцыю зводзяць да статыстыкі вытворчасці бавоўны, працоўнай сілы і г.д. Пры гэтым губляецца ўсё тое, што адбывалася з розумамі, ладам жыцця, мараллю і паводзінамі па меры павольнай эвалюцыі Англіі, — якая, па агульным прызнанні, ішла вельмі павольна і без бачных скачкоў, — у бок самага урбанізаванага і індустрыялізаванага грамадства ў свеце. Калі вы няправільна ставіце пытанне, вы, верагодна, атрымаеце няправільны адказ, а менавіта — што не было ніякай прамысловай рэвалюцыі.

Наступная лагічная памылка эмпірыкаў–наміналістаў у тым, што яны блытаюць прызнанне значнасці доўгатэрміновых прычынаў гістарычных зменаў з верай у гістарычную непазбежнасць. Так, я заўсёды быў перакананы ў важнасці як доўгатэрміновых, так і кароткатэрміновых прычынаў у гісторыі, але я не магу згадаць ніякай вялікай падзеі, якую б я лічыў непазбежнай. Так, я не ведаю выпадку, каб хоць адзін прафесійны гісторык, ці то марксіст, ці то віг, калі–небудзь ясна і адназначна прызнаўся ў друку ў прыхільнасці да дактрыны пра непазбежнасць грамадзянскай вайны ў Англіі ў 1642 г. Звыклая мішэнь для крытыкі — „шырокая дарога да грамадзянскай вайны“ — гэта нават не горная сцежка, пратаптаная козамі. Яе ўвогуле ніколі не існавала.

Эмпірыкі–наміналісты скардзяцца, што гісторыкаў часта больш цікавяць падзеі, якія маюць доўгатэрміновае значэнне, чым тыя, якія, як высвятляецца, такога не маюць. Гэта праўда. Але чаму не? Як адзначыў Дройзэн амаль стагоддзе таму, не ўсё, што адбылося ў мінулым, аднолькава вартае вывучэння, і наш выбар павінен быць прадыктаваны неабходнасцю паглыбіць разуменне таго, як мінулае паўплывала на цяперашняе[14]. Вось чаму мы вывучаем у дробных дэталях гісторыю ранняга хрысціянства, а культам Мітры толькі цікавімся, нягледзячы на яго большую распаўсюджанасць у той час.

Адзін эмпірык сцвярджаў, што „ў навуцы, як і ўсюды, калі клапаціцца пра пенсы, фунты самі пра сябе паклапоцяцца“[15]. Але гэта якраз тое, чаго не адбываецца ні ў якай інтэлектуальнай дзейнасці. Трэба пачынаць з праблемы, і кожная гіпотэза павінна быць праверана. Як заўважыў нядаўна доктар Тэадор Зэльдзін, „уяўленне настолькі ж неабходнае

[14] Gilbert F. The New Edition of Johann Gustav Droysen’s Historik // Journal of the History of Ideas. 44 (1983). P.335.

[15] Morrill J. Proceeding Moderately // Times Literary Supplement. (24 October, 1980); гл. таксама: Elton G.R. The History of England. Cambridge, 1984.

гісторыкам, як і новыя дакументы. Новыя дакументы — лёгкі шлях стварыць ілюзію арыгінальнасці“[16]. Свядомае адмаўленне ўяўлення вядзе проста да калекцыявання антыкварыяту, гэтаксама, як і да несвядомага выкарыстання ідэалогіі, не заснаванай на тэкстах.

2. Другая група гісторыкаў, яшчэ невялікая, але вельмі шумная, пагражае, здаецца, самым падмуркам нашай дысцыпліны. Гэта новая хваля тых, каго я буду называць фактаграфічнымі рэлятывістамі. Ужо двойчы ў гэтым стагоддзі мы бачым з'яўленне скрайніх формаў гістарычнага рэлятывізму. Першы раз ён быў сцісла выкладзены ва ўражваючай прамове Карла Бэкера пры ўступленні на пост прэзідэнта Амерыканскай гістарычнай асацыяцыі ў 1931 г., названай „Кожны сам сабе гісторык“. Сёння мы жывем ў эпоху пост–мадэрнізму, пост–структуралізму, дэканструктывізму, новага гістарыцызму і новага літаратуразнаўства. Сёння выходзяць кнігі, якія з'яўляюцца ўзорам таго, што трапна названа „навукай, слепа захопленай саліпсісцкімі дэканструкцыямі, забруджанай жаргонам і крытычнымі догмамі, пазбаўленай здаровага сэнсу і здольнасці да эстэтычнага ўспрыняцця“[17]. Многія літаратуразнаўцы нашага часу, здаецца, рашуча ненавідзяць літаратуру. Рыторыка гісторыі мітуслiва імкнецца напаказ укленчыць перад загадкавымі творамі паўбагоў[18]. Сёння пералічэнне імёнаў такіх вучоных прысутнічае шмат у якіх артыкулах і кнігах, быццам само згадванне іх надае арэол і значнасць той рэчы, якую аўтары даволі пампезна любяць называць цяпер сваім „дыскурсам“. Смяціць імёнамі — амаль гэтак жа модна сярод гісторыкаў на Захадзе сёння, як было ў Расіі пры Сталіне. Напрыклад, на некалькіх старонках аднаго з нядаўніх артыкулаў у ангельскім гістарычным часопісе аўтар умудрыўся пералічыць наступных: Сасюра, Барта, Ліятара, Дэрыду, Альтусэра і Лакана з Францыі; Ніцшэ і Гайдэгера з Нямеччыны; Стэнлі Фіша, Гэйдэна Ўайта і Ля Капра з Амерыкі[19].

Дэканструктывісты сцвярджаюць, што словы могуць адвольна мяняць значэнні, незалежна ад намеру таго, хто іх выкарыстоўвае. Так, Дэрыда абвяшчае: „Не існуе нічога па–за тэкстам“, г.зн., што па–за ім няма эмпірычнай рэальнасці па–за ім, няма вопыту жывых людзей у

[16] Zeldin T. Personal History and the History of the Emotions // Journal of Social History. 15 (1982). P.341.

[17] New York Times. (Oct. 21, 1992, C21), (рэц. M.Kakutani на The Madonna Connection: Representational Politics, Subcultural Identities and Cultural Theory. Ed. Schichtenberg C. New York, 1992.

[18] Сацыялагічны аналіз фенаменальнага поспеху Дэрыды ў Злучаных Штатах гл.: Lamont M. How to become a prominent French Philosopher: the case of Jacques Derrida // American Journal of Sociology. 93 (1987).

[19] Easthope A. Romancing the Stone: History writing and Rhetoric // Social History. 18(2) (1993).

мінулым, які мы, гісторыкі, здольны праз стараннае вывучэнне гістарычнага кантэксту зразумець і апісаць. Няма, настойвае ён, ніякай лагічнай іерархіі прычын і наступстваў. У выніку ён пытаецца — зразумела, разлічваючы на станоўчы адказ, — ці „ёсць ісціны фікцыяй, чыя фіктыўнасць забытая“[20]. Калі б так, гэта азначала б канец усіх гістарычных спрэчак, паколькі не было б фактаў для падтрымкі якога–колечы аргументу. Гэта выклік факту — хоць і затуманенаму — існавання рэальнага свету. „Адзін з галоўных правалаў мадэрнізму, — напісаў Дональд МакКлоскэй, — у тым, што ён уводзіць донкіхоцкі стандарт сапраўднага значэння, які, калі яго строга прытрымлівацца, прывядзе нас усіх да ненаўмыснага глупства“. Тым часам амерыканскі даследчык Дамэнік Ля Капра нядаўна заявіў, што „і ў тэксце няма нічога“[21].

На шчасце, чуткі пра смерць гісторыі моцна перабольшаныя, як нас нядаўна запэўнілі Джойс Эплбай і Габрыэль Шпігель у гісторыі і Стэнлі Фіш у літаратуразнаўстве. Прафесар Эплбай сцвярджае, што тэкст — проста пасіўны матэрыял у руках яго аўтара. Менавіта людзі гуляюць словамі, словы не гуляюць самі з сабой. Каб усталяваць іх значэнне, нам, гісторыкам, такім чынам, трэба шукаць намеры аўтара, вывучаць сацыяльны і палітычны кантэкст, які стварыў сучасную форму мовы, унурыцца з галавой у традыцыі культуры. Гэтымі гістарычнымі сродкамі мы здолеем зноў ухапіць часовую ісціну, прынамсі, дастаткова верагодную, каб з ёй пагадзілася большасць добра інфармаваных чытачоў[22]. Нават гуру літаратуразнаўства Стэнлі Фіш нядаўна пагадзіўся са сцверджаннем, што „спрэчкі па гісторыі ў рэшце рэшт носяць не эпістэмалагічны, а эмпірычны характар, у тым ліку і дыспуты наконт зместу ведаў, гістарычных сведчанняў і іх значнасці“[23].

Мадыфікаваным рэлятывістам бадай можна зрабіць дзве саступкі. Па–першае, аўтары, якія пішуць і ў галіне гісторыі, і ў мастацкай літаратуры, залежаць ад працы ўяўлення, паколькі і тое, і другое — канструкты чалавечага розуму. Але яны прынцыпова адрозніваюцца што да сфераў, у якіх можна законна карыстацца ўяўленнем. Раманіст або аўтар гістарычнай белетрыстыкі, карыстаецца сваім уяўленнем для стварэння падставовага матэрыялу — персанажаў, дзеянняў, дыялогаў і сюжэтаў. Але для гісторыка нават найменшае ўмяшанне ў фіксаваныя архіўныя дадзеныя — адзін з недаравальных грахоў, грэх супраць Свя-

[20] Culler J. On Deconstruction (1984). P. 181.

[21] McCloskey D. The Rhetoric of Economics // Journal of Economic History. 21 (1983). P. 488.

[22] Appleby J. One good turn deserves another: Moving beyond the Linguistic: A response to David Harlan // AHR 94 (50 Dec. 1989).

[23] Fish S. The New Historicism. Ed. Veeser H.A. New York, 1989. P.13.

тога Духа нашай прафесіі. Нам няма патрэбы адмаўляцца ад старых стандартаў і метадаў ацэнкі гістарычных сведчанняў, выпрацаваных намаганнямі цэлага стагоддзя. Дзякуючы ім, гістарычныя „веды могуць мець папярэдні, але не адвольны характар“[24]. Джон Ле Карэ, раманіст, прыйшоў да высновы, што „Ісціна — нешта ўяўнае, далікатная сумесь таго, што можна прадэманстраваць, і таго, што немагчыма абвергнуць“[25].

Наш час, безумоўна, не адзіны перыяд нядоўгага росквіту скрайняга скептычнага рэлятывізму. На пачатку XVIII ст. лорд Боўлінгброўк пісаў: „Гэтаксама як чалавеку ўласціва даводзіць свае меркаванні да скрайнасцяў, так некаторыя гатовы настойваць, што гісторыя — міф і, у лепшым выпадку, праўдападобная казка, па–майстэрску складзеная і пераканаўча расказаная, у якой праўду не адрозніш ад вымыслу... Але тут здараецца нярэдкая бяда: пасылкі правільныя, а выснова памылковая“[26].

Мы таксама можам пагадзіцца, — незалежна ад таго, хто мы, „жорсткія“ вучоныя–прыродазнаўцы, ці „мяккія“ гуманітарыі, — што да кожнай праблемы мы падыходзім са сваімі ўяўленнямі і прымхамі пра яе. Найлепшая засцярога ад памылкі — паслядоўная вера ў ліберальны прынцып, што мы можам памыляцца. У канцы XVII ст.Джон Лок дэкляраваў гатоўнасць „адмовіцца ад любой сваёй думкі ці ад таго, што напісана, пры першым сведчанні пра нейкую памылку ў ім“[27].

Паўстагоддзя таму Фэргюсан адзначыў, што „калі гісторык увогуле бярэцца інтэрпрэтаваць мінулае, ён павінен мець сваю пазіцыю, але найбліжэй ён можа падысці да аб’ектыўнасці, калі толькі ўсведамляе яе наяўнасць і не абсалютызуе яе“[28]. Падобным чынам палеантолаг С.Дж.Гуд неяк заўважыў, што „аб’ектыўнасць палягае на гатоўнасці адмовіцца ад выпешчанай тэорыі, калі меркаваны вынік нельга пацвердзіць... Калі не раскідаць сетку тэорыі дастаткова шырока, не ўбачыш, што ляжыць перад табой“[29].

Безумоўна, выкарыстоўваць гісторыю ў якасці зброі для дасягнення кан’юнктурных ідэалагічных мэтаў, — будзе гэта агрэсіўны шавінізм ці вульгарны марксізм, — небяспечна. Праграма жаночых даследаванняў зрабіла велізарны ўклад у навуку апошніх пятнаццаці гадоў: былі прасочаны ўплыў і дзейнасць жанчын цягам часу — тэмы, якія мужчы-

[24] Rosenberg C. Medicine and Community in Victorian Britain // Journal of Interdisciplinary History. 11 (1981). P. 684.

[25] New York Times Magazine. (May 4, 1993).

[26] Kramnick, op. cit. P. 51.

[27] Цытуецца Д.Вутанам: Locke, John. Ed. Political Writings. London, 1993. P. IX.

[28] Ferguson W.K. The Renaissance in Historical Thought. Boston, 1948. P. 388.

[29] Gould, Stephen J. Natural History. 102. № 8 (August 1993). P. 4.

ны раней цалкам ігнаравалі. Але менавіта маючы на ўвазе фемінісцкую ідэалогію, антраполаг Джудыт Шапіра нядаўна засцерагала ад „занадта цеснай сувязі навукі з сацыяльным рэфарматарствам“. Гэтая засцярога ілюструецца сумнай гісторыяй марксісцкай гістарыяграфіі апошніх пяцідзесяці гадоў. У звязку з гэтым, я мяркую, што мараторый на ўжыванне словаў накшталт „фалацэнтрычны“, „фалакратыя“ і г.д. дапамог бы ачысціць мову даследчыкаў ад пэўнага флёру моднага жаргону, а таксама аднавіць справядлівасць у дачыненні да тых з нас, хто меў няшчасце нарадзіцца з гэтымі прыдаткамі[30]. Больш за тое, можна даказаць, што жаночая гісторыя церпіць ад „перавытворчасці“. Прафесар Лінда Колі — сама жанчына — падкрэсліла, што ў 1983 г. выйшла 231 кніга і артыкул па гісторыі жанчын у Брытаніі XVIII ст. і ўсяго 10 — па вайсковай гісторыі. Здаецца, тут трохі парушаны баланс[31].

## III. Будучае

Гэты разгорнуты аналіз таго, што я лічу памылковым у некаторых модных плынях сучаснай гісторыі, не азначае, што я змрочна гляджу на перспектывы нашай прафесіі. Наадварот, пад усёй гэтай пенай вядзецца сур’ёзная праца каласальнага аб’ёму. Калі пэўныя тэндэнцыі захаваюцца, то ў будучыню можна глядзець са сціплым аптымізмам. Што ў рэальнасці прынясе будучыня, ніхто не ведае, гісторыкі — не прарокі, але ўсе мы маем права паразважаць над тым, якім бы нам хацелася бачыць ход справаў у наступныя гадоў дваццаць.

Найперш, мы не павінны рабіць некаторых рэчаў. Не трэба збіраць фактаў без папярэдняй гіпотэзы. Як заўважыў Стэфан Джэй Гуд, гаворачы пра навуку: „Новыя факты, сабраныя старымі метадамі, паводле старых тэорыяў, рэдка вядуць да нейкага сур’ёзнага перагляду канцэпцыі. Факты не гавораць за сябе: яны чытаюцца ў святле тэорыі“[32]. Не слухайце тых, хто настойліва раіць вам пісаць гісторыю, не азіраючыся на мінулы вопыт, бо тады марна губляецца істотная частка інфармацыі[33]. Не звяртайце ўвагі на тых, хто настойліва раіць вам

[30] Напрыклад, Keuls E.C. The Reign of the Phallus: Sexual Politics in Ancient Athenes. New York, 1980.

[31] Colley L. The Politics of Eighteenth Century British History // Journal of British Studies. 25(4) (1986). P. 361.

[32] Gould S.H. Eversince Darvin, Reflections in Natural History. New York, 1977. P. 161. Сэр Пітэр Мідавор сцвярджаў, што ўсе дасягненні ў навуковым даследаванні пачынаюцца з „уяўлення таго, што можа быць ісцінай“ (Medawar P. Plato’s Republic. Oxford, 1982).

[33] Cannon J. The Historian at Work. P. 9—11.

адмовіцца ад паняццяў, невядомых сучаснікам: без абстрактных наватвораў накшталт „феадалізм“ ці „капіталізм“ мы не здолеем зразумець мінулае. Не звяртайце ўвагі на тых, хто сцвярджае, што гісторык па сваім прызванні абавязаны займаць пазіцыю маральнага нейтралітэту, абыякавасці і да свабоды, і да тыраніі, старанна пазбягаючы якасных ацэнак. Каля стагоддзя таму Дройзэн з пагардай гаварыў пра тых, хто прапаведуе „аб’ектыўнасць еўнуха“. Ён цвёрда верыў, што гісторыкі не павінны трубіць пра свае асабістыя погляды, але заклікаў іх прызнаць, што „быць чалавекам — значыць мець прыхільнасці“[34].

Таксама пазбягайце тых, хто падбухторвае вас разбурыць мост, упершыню ўзведзены Эдвардам Гібонам у XVIII ст. паміж філосафамі і эрудытамі, маралістамі і даследчыкамі. Ігнаруйце тых, хто змушае вас надзець на гісторыю жорсткую аброць дэтэрмінізму, будзе гэта вульгарны марксіст, ці структурны функцыяналіст, ці радыкальны фемініст. Не слухайце тых, хто кажа вам, што ваша праца — проста артэфакт вашага розуму, а таму яе няма як адрозніць ад казкі. Ваша праца — сапраўды артэфакт, разумовая канструкцыя, але яе складнікі істотна адрозніваюцца ад складнікаў літаратурнага твора. Ігнаруйце тых, хто цвердзіць вам, што гісторык не мае абавязку спрабаваць нешта растлумачыць.

Нам трэба супрацьстаяць, наколькі магчыма, „гетаізацыі“, разгароджванню комплекснага прадмету гісторыі на эканамічную, культурную гісторыю, гісторыю рэлігіі, гісторыю жанчын і г.д. Цягам стагоддзяў палова чалавецтва, — жанчыны, — была фактычна выключаная з сур’ёзных гістарычных прац. Гэта было і ганебна, і неразумна, і дзеля таго, каб выправіць сітуацыю, вылучэнне жаночых даследаванняў у асобную галіну гісторыі, характэрнае для Амерыкі, было цалкам апраўдана. Гэта дало свой плён — у нашым разуменні роляў жанчын у гісторыі адбыўся вялікі зрух наперад. Але ў далёкай перспектыве вывучэнне гісторыі жанчын без мужчын стане, верагодна, такім жа неадэкватным, як і вывучэнне гісторыі мужчын без жанчын.

Перадусім мы павінны пазбягаць дзвюх рэчаў. Па–першае, трымайцеся далей ад вузкай спецыялізацыі і дробных тэмаў — што мой сябар сэр Морыс Боўра звычайна называў „Вязаннем манашкі ў паўднёвым Лінкальншыры паміж 1351 г. і 1364 г.“. Па–другое, пазбягайце таго, што іншы сябар, Джэк Гэкстэр, называе „тунэльнай гісторыяй“, яшчэ адной формай зашоранай гісторыі, якая канцэнтруецца выключна на адзіным аспекце шматбаковай праблемы. У гісторыі вельмі неразумна давярацца монакаўзальным тлумачэнням. Мы павінны рашуча адкінуць рэлятывізм у стаўленні да ісціны, але быць плюралістычнымі ў пошуку гэтай самай няўлоўнай з усіх узнагарод. Толькі так мы атрымаем шанец

[34] Gilbert F. P. 332—333.

зразумець мінулае і зможам пераадолець разрыў паміж так званымі „дзвюма культурамі“[35].

Якi б метад ні быў прыняты, аналітычны ці наратыўны, прынцыпова важна вярнуцць адзін са складнікаў добрай гістарычнай працы, як лічылася да нядаўняга часу. Трэба імкнуцца да яснасці мовы і выразу. Гэтая каштоўнасць сёння відавочна мала шануецца ў культуры, якая абдорвае ўхваламі і суперзаробкамі цэлы шэраг неразборлівых гуру. Ператварыць прозу ў непралазны зараснік цяпер стала справай гонару. Як неяк заўважыў адзін раздражнёны амерыканскі аглядальнік: „Пісаць проста прозу, ясную і даступную разуменню, азначае страціць свой твар. Вы не станеце вядомым, пакуль не дадасцё нечага да возера жаргону, чые воды (на экспарт у Злучаныя Штаты) разліваюцца паміж Нант'ерам і Сарбонай і да чыіх багністых берагоў кожную ноч прыходзяць на вадапой статкі бляючых постструктуралістаў“. Апроч чыста эстэтычнага, асноўнае пярэчанне пісанню кепскай і змрочнай прозы даўно добра сфармулявана Джорджам Оруэлам: „Калі вы спросціце сваю ангельскую мову, то вызваліцеся ад найгоршага глупства артадоксіі... Калі вы зробіце тупую заўвагу, тупасць будзе відавочная нават вам самым“. У скептычнага чытача стварэнне незразумелых новых тэрмінаў выклікае падазронасць, што за дымавой завесай жаргону можа хавацца адсутнасць сур'ёзнага інтэлектуальнага зместу.

Мы, гісторыкі, сёння, такім чынам, апынуліся ва ўнікальным становішчы — мы аточаныя прадстаўнікамі дзвюх новых моваў, якіх шмат хто з нас проста не разумее: па–першае, гэта дэгуманізаваныя, матэматычныя і алгебраічныя формулы кліяметрыстаў, па–другое, туманны жаргон крытычнай тэорыі і постмадэрнізму.

Калі вярнуцца да канкрэтных меркаванняў наконт будучыні, то па–мойму, ёсць сведчанне, што ўсе тыя плыні, якія б хацелася бачыць у развіцці, ужо фактычна існуюць. У апошняе дзесяцігоддзе некалькі першакласных прац ужо з'явілася ў накірунках, пра якія я збіраюся весці гаворку. Разам з тым, аднолькава першакласныя працы ствараюцца ў такіх традыцыйных галінах, як гісторыя палітычнай думкі, навукі, рэлігіі, заканадаўства, а таксама ў новых абласцях — крымінальнай гісторыі і гісторыі полаў. Амерыка мае выгоднае становішча для лідарства, паколькі ўжо валодае не менш як паўтузінам найвялікшых у свеце універсітэтаў і бібліятэк. Навука ў Амерыцы, такім чынам, арганізацыйна рассяроджана, пазбаўлена канцэнтрацыі ўсіх талентаў у адным месцы, як у Парыжы. Да таго ж, большасць тутэйшых элітарных установаў да гэтага часу спраўлялася з фінансавымі цяжкасцямі 1990–х г. нашмат лепш, чым іх еўрапейскія канкурэнты.

[35] Гл.: Gould S.J. у: Natural History (July 1990).

Першая вялікая задача гісторыкаў у наступным дзесяцігоддзі — у тым, каб даць больш пераканаўчае тлумачэнне зменам, якія адбываюцца цягам часу. Гэтай мэты можна дасягнуць, толькі выканаўшы дзве рэчы. Па–першае, звязаць сацыяльную і эканамічную гісторыю з гісторыяй культуры. І народная і высокая культура вывучаліся і вывучаюцца цяпер надзвычай дэталёва, хоць у вялікай ступені ізалявана адна ад адной і ад іншых фактараў. Але, як адзначыў Пітэр Бёрк, культурная гісторыя нядаўна атрымала новае жыццё, павярнуўшыся ад сацыяльнай гісторыі культуры да культурнай гісторыі соцыуму. Атрымаўшы стымул ад правалу святкавання ў 1992 г. першага кантакту Еўропы з Амерыкай, гісторыкі культуры цяпер займаюцца іншымі прыкладамі сутыкненняў культураў, часта з пункту гледжання параможаных, а не толькі пераможцаў. Наступная неабходная ўмова, калі мы хочам узяцца за праблему змены ў часе, — каб у сацыяльную і культурную гісторыю, а таксама ў аналіз глыбокіх структур было ўведзена даследаванне бядотаў вайны і зменлівасці палітычнай улады і высокай палітыкі: гэта повязь, якая ганебна ігнаравалася цягам двух пакаленняў. Урэшце, менавіта сам Марк Блок неяк пратэставаў: „Шмат што трэба сказаць пра слова „палітычны“. Чаму яго заўсёды лічаць сінонімам павярхоўнасці[36]?“ Вырашэнне пытання — у тым, каб трактаваць палітыку як арэну сацыяльнага, культурнага і эканамічнага канфлікту.

На шчасце, аснова гэтых кірункаў ужо заснаваная гісторыкамі многіх краін. Я думаю, напрыклад, пра нядаўнюю кнігу майго калегі Шона Ўіленца, якая спрабуе навесці такія масты ў гісторыі рабочага класу Нью–Ёрка XIX ст.; або аб працы Джона Бруэра пра Англію XVIII ст.; або П’ера Губэра і Даніэля Роша пра Францыю XVIII ст., або Інгі Клендынен пра ацтэкаў. Па–трэцяе, рэлігіі трэба вярнуць цэнтральнае месца як незалежнай пераменнай гістарычных трансфармацыяў. Асабліва гэта істотна для ранняга Новага часу, калі Захад перажываў перыяд такіх інтэнсіўных рэлігійных жарсцяў і нянавісці, што яны разрывалі Еўропу на шматкі.

Важна таксама пакінуць у тлумачальных схемах месца выпадку і ролі выключнай асобы — і тое і другое было адціснута на ўзбочыну ў пошуках псеўданавуковых законаў гісторыі. Выдатны прыклад адноўленай увагі да асобы і выпадку знаходзім у кнізе Дж.Г.Эліата *Richelieu and Olivares* („Рышэлье і Аліварэс“). Гэтую задачу можна ажыццявіць у даследаваннях любога ўзроўню: агульнага, лакальнага, мікракасмічнага, але заўсёды павінна прысутнічаць ясна пастаўленая мэта — растлумачыць змены.

[36] Цытуецца Ле Гофам у: Historical Studies Today. Ed. Gilbert F. and Graubard S. New York, 1971. P.341.

Параўнальны метад прыносіць асабліва вялікі плён пры вывучэнні цалкам адасобленых культурных выспаў, напрыклад Гішпаніі ці Англіі. Гэта адзіны шлях вызначыць, што сапраўды адрознага і што фактычна агульнага было ў іх з іншымі еўрапейскімі краінамі ў адзін і той жа перыяд. Гэты метад гістарычнага даследавання, вядома, рызыкоўны, цяжкі і шмат у чым занядбаны, але патэнцыйна вельмі плённы.

Апрача даследавання пераменаў у часе, другая задача гісторыка — быць гісторыкам–этнографам, даследчыкам мікра–гісторыі асобы ці асобаў або месца, найперш для таго, каб уваскрасіць імгненне мінулага і потым прааналізаваць, інтэрпрэтаваць і растлумачыць яго. Я думаю, напрыклад, пра працы Ле Руа Лядуры *Montaillou: The Promissed Land of Error* („Манталю: Абяцаная зямля памылкі“) (1978), Карла Гінзбурга *The Cheese and Worms* („Сыр і чэрві“) (1980), Наталі Дэвіс *The Return of Martin Guerre* („Вяртанне Марціна Гера“) (1984). Тлумачэнне ўключае рэканструкцыю дзяржаўнага ладу, грамадства, эканомікі, звычаяў, законаў, маралі і культуры ў іхным уплыве на мысленне групы ці індывіда. Існуе шмат спосабаў ухапіць і ажывіць мінулае, калі аўтар стаіць па слушны бок мяжы, якая аддзяляе паказальны прыклад ад анекдатычнай трывіяльнасці. Але так ці іначай, жывых людзей ва ўсёй іх супярэчлівай складанасці трэба вярнуць у гісторыю, з якой іх выцягнулі вульгарны марксізм, структуралізм і квантыфікацыя.

Нарэшце мы можам і абавязаны зноў вярнуцца да нявырашаных пытанняў эвалюцыі сучаснай заходняй цывілізацыі, упершыню пастаўленых Марксам і Максам Вэбэрам, пазней гісторыкамі–вігамі, а зусім нядаўна — амерыканскімі тэарэтыкамі мадэрнізацыі. Каб дамагчыся поспеху, гісторыкі павінны перастаць драбіцца на ўсё меншыя і меншыя групы, кожная са сваім спецыяльным часопісам і імпрэзамі, а замест гэтага павінны прыкласці свядомыя намаганні і пераадолець рост гэтых штучных бар'ераў. Калі нам не ўдасца пераадолець гэтую раздзеленасць, дык нас, як і нашых палітычных гістарычных папярэднікаў пяцьдзесят гадоў таму, чакае лёс усё вузейшай спецыялізацыі і, такім чынам, трывіялізацыі. Мы апынемся тады ў смяротнай небяспецы, што ўрэшце будзем весці размовы з самымі сабой на тэмы, якія на самой справе больш нікога не цікавяць.

Што да зместу даследаванняў, то адным з найвялікшых прабелаў у гістарыяграфіі любой заходняй краіны, які толькі цяпер пачынае запаўняцца, з'яўляецца сярэдні клас, сярэдняе звяно, буржуазія. Здарылася так, што эліта, асабліва зямельная арыстакратыя, якая карысталася да нядаўняга часу найбольшай уладай, прэстыжам і багаццем у грамадстве, была мецэнатам мастацтва, высока адукаваная, і пакінула пра сябе масы дакументаў, — заўсёды знаходзілася ў цэнтры ўвагі гісторыка. На

працягу апошніх трыццаці гадоў тэндэнцыя да вывучэння „гісторыі знізу“ выявіла велізарную колькасць новай інфармацыі пра сялянаў, гарадскі пралетарыят і беднату, а ўвага да жаночай гісторыі ўжо прынесла масу новай інфармацыі пра жанчын. Аднак, хоць сярэднія класы, пачынаючы з Арыстоцеля, уважаліся за „сховішча ўсіх дабрачыннасцяў“, за вялікі рухавік эканамічнай і сацыяльнай змены, іх да гэтага часу, можна сказаць, ігнаравалі. Другая недастаткова раскрытая тэма, як вызначыў Пітэр Бёрк, — гэта параметры, межы і наступствы культурнага канфлікту і абмену.

Запазычаючы ад іншых дысціплін, што, вядома, трэба рабіць, мы павінны заняць гнуткую і ўзважаную пазіцыю: быць гатовымі выкарыстоўваць любыя дадзеныя, выкарыстоўваць любы метад, прымяняць любую мадэль — і ўзірацца сабе пад ногі, шукаючы найменшага намёка на нешта новае, што паходзіць з сумежных дысцыплінаў.

Калі мы будзем прытрымлівацца прапанаваных мною прынцыпаў і развіваць тэндэнцыі, якія ўжо маюць месца, мы, гісторыкі, будзем больш здольныя выконваць нашу падвойную функцыю — усё тую ж, якую прапанавалі і якой прытрымліваліся больш двух тысячагоддзяў таму Фукідыд і Герадот. Па–першае, развіваць больш складаныя і пераканаўчыя мультыкаўзальныя тлумачэнні таго, як мы прыйшлі „адтуль сюды“. Па–другое, зноў ухапіць дух, адчуванне і тэкстуру таго, як нашыя продкі жылі ў традыцыйным свеце, страчаным для нас. Мы павінны таксама неяк пранікнуць да іх у галовы, каб зразумець і растлумачыць іх сістэму перакананняў і лад мыслення. Калі мы дасягнем поспеху ў гэтых дзвюх мэтах, то зможам сказаць, што наша дзейнасць і існаванне граюць важную ролю ў культурным жыцці грамадства, у якім мы жывем. Бо толькі дэманструючы палітыкам і грамадскасці, што ў нас ёсць што сказаць важнага, цікавага: мы, прафесійныя гісторыкі, зможам квітнець у грамадстве, якое ў пошуках хуткага вырашэння ўсіх праблемаў усё больш паварочваецца да тэхнікі, а ў пошуку веры і надзеі — да хлуслівых міфатворцаў злева і справа.

*Пераклала Ірэна Ганецкая*

# Канцэпцыя мовы і *métier d'historien*: некаторыя практычныя меркаванні*

**Джон Г. Э. Покак**

Мая задача ў гэтым эсэ — распавесці аб практыцы і некаторых рэчах, якія з яе вынікаюць. Вербалізаваць практыку, не прапаноўваючы ніякай тэорыі, немагчыма, і ўсё ж я спадзяюся — улічваючы, што ўсіх нас у той ці іншай ступені яднае супольная практычная дзейнасць — як найдаўжэй не заходзіць у абсяг мэтатэорыі. Я не хачу ні сцвярджаць і адстойваць агульную тэорыю мовы і яе функцыянавання ў палітыцы і гісторыі, ні — тым менш — выстаўляць такога, як я, гісторыка актарам або чыннікам, які дзейнічае ў гісторыі[1]. Усе гэтыя пытанні — рэальныя, і час ад часу над імі трэба задумвацца; я прапаную, аднак, каб яны — калі ўжо паўстануць — то паўсталі з імплікацыяў таго, чым мы займаемся як гісторыкі і пра што я павяду гаворку далей. *Métier d'historien*, як я ўжываю гэты тэрмін, — гэта перадусім рамяство, практычная дзейнасць гісторыка. Пакліканне гэтага апошняга, значнасць ягонага пакліkання, досвед або дзейнасць у сферы гісторыі, — для мяне гэта справа самаспазнання, якое трэба здзейсніць у нашым часе — пакуль ён яшчэ наш. Такім парадкам я спадзяюся нешта высветліць пра наш супольны дыскурс.

Гэтае апошняе слова паслужыць мне ў якасці зыходнага пункта. Канцэпцыя палітычнай мовы, як на мой розум, прадугледжвае, што тое, што раней звалася — і ўмоўна завецца дагэтуль — гісторыяй палітычнай думкі, сёння больш дакладна будзе называць гісторыяй палітычнага дыскурсу. Актары нашай гісторыі, вядома, мыслілі, і часта вельмі глыбока; шмат хто з іх належаў да інтэлігенцыі, да інтэлектуалаў, якіх спецыяльна вучылі мысліць так ці інакш; але каб „даць“ гісторыю ім самім або іх думкам, мы павінны паказаць актыўнасць або неразрыўнасць дзеяння, складзеную з рэчаў, якія нехта робіць і якія самі адбыва-

* Pocock J.G.A. The concept of a language and the *métier d'historien*: some considerations on practice // The languages of political theory in Early Modern Europe. Ed. by A.Pagden. Cambridge University Press, 1987. P. 19—38.

[1] Мне добра вядома, што англійскія займеннікі схільныя быць мужчынскага роду, і прымальнага спосабу, каб абысці гэта, пакуль што не існуе. Кажучы так я цалкам усведамляю існаванне Джудыт Шкляр, Кэралайн Робінс, Нанэрл Кэогэйн, Маргарэт Джэйкаб, Джойс Эплбай, Луі Швёрэр, Корын Ўэстан і шматлікіх іншых даследчыц, чые імёны патрабуюць роўнасці, хоць іхняя колькасць не дазваляе абыйсціся проста сімвалічным жэстам.

юцца, з дзеянняў і ўчынкаў, а таксама з тых умоваў, у якіх гэтыя дзеянні і ўчынкі дзеюцца і ўчыняюцца; нарэшце, самі гэтыя ўмовы наўпрост ці ўскосна мадыфікуюцца дзеяннямі, якія здзяйсняюцца ў гэтых умовах або фармуюць самі гэтыя ўмовы. Такім чынам, у нас утвараецца галіна даследаванняў, складзеная з актаў маўлення — вуснага, пісьмовага ці друкаванага — і з умоваў кантэкстаў, у якіх гэтыя акты здзяйсняюцца. Пераходзячы далей ужо непасрэдна да канцэпцыі мовы, мы тым самым вызнаем сваё перакананне, што адзін з асноўных кантэкстаў, у якіх здзяйсняецца акт прамаўлення, — кантэкст інстытуцыяналізаванага спосабу маўлення, спосабу, дзякуючы якому сам гэты акт робіцца магчымым. Каб нешта было прамоўлена, напісана ці надрукавана, павінна існаваць мова, на якой гэта будзе зроблена; мова прадвызначае, што на ёй будзе сказана, але можа і мадыфікавацца тым, што на ёй гаворыцца; узаемадзеянні паміж *parole* і *langue* самі складаюць цэлую гісторыю. Мы не кажам, што моўны кантэкст — адзіны, які дае маўленчаму акту сэнс і гісторыю, хоць нас напэўна папракнуць за такі падыход. Мы кажам толькі, што гэты кантэкст дастаткова шматабяцальны, каб з яго і пачынаць. Што нам прынясе гэты выбар — пачаць адсюль, а не аднекуль яшчэ, — мы высветлім пазней. Цвердзячы, што думка павінна быць выказана, каб мець гісторыю, і што такая гісторыя можа разглядацца як узаемадзеянне маўленчага акта і мовы, мы робім першы і ключавы, хоць і не апошні, крок — *le premier pas qui coûte* — на шляху да канстытуявання нашае гісторыі як гісторыі дыскурсу.

Канцэпцыя мовы, з аднаго боку, характарызуецца шматстайнасцю, а з другога — паддаецца далейшаму падраздзяленню. „Моваю" [language] можна назваць якую-небудзь з буйных, этнічна дыферэнцыяваных структураў людскога маўлення — англійскую, хопі, кітайскую, хоць гісторык палітычнага дыскурсу звычайна не думае пра іх як пра „палітычныя мовы" — мовы з гісторыяй, якая складаецца са здзейсненых на іх палітычных актаў прамаўлення. Магчыма, больш увагі трэба аддаваць таму факту (і ягоным імплікацыям), што палітычны дыскурс у ранне–сучаснай Еўропе характарызаваўся шматмоўнасцю. Не дзіва знайсці трактат пра палітыку, напісаны часткова на народнай мове, часткова на лаціне, часткова па–грэцку, а часткова па–габрэйску, так што можна запытаць, ці дыферэнцыяваліся гэтыя мовы ў палітычным сэнсе. Варта таксама прысвяціць больш увагі феномену перакладу — і запытаць, ці тую ж самую гісторыю меў Гобсаў „Левіяфан" на англійскай мове, што і на лаціне; адказ будзе — і так, і не. Але, агулам беручы, этнічна дыферэнцыяваныя мовы не выступаюць ключавымі катэгорыямі ў нашым даследаванні, і, кажучы пра „мовы палітычнай думкі" або „мовы палітыкі", мы маем на ўвазе нешта іншае. Загалоўкі раздзелаў

гэтага тома (The languages of political theory in Early Modern Europe. Ed. by A.Pagden. Cambridge University Press, 1987. — *Рэд.*) паказваюць, што нас цікавяць ідыёмы, рыторыка, спецыялізаваны лексікон і граматыка, формы дыскурсу або спосабы гаварыць пра палітыку, створаныя — і, што нашмат важней, ужываныя — у палітычным дыскурсе Еўропы ранняга Новага часу. Дазвольце мне прыпыніцца, каб адзначыць відавочную небяспеку. Мы хочам вывучаць мовы, на якіх здзяйсняюцца маўленчыя акты, а не тыя прамаўленні, якія на іх ажыццяўляюцца; аднак калі размыць межы паміж *parole* і *langue*, то кожнае прамаўленне, якое захоўвае індывідуальны стыль, можна будзе прыняць за мову, на якой яно прамоўлена. Калі мы хочам пастуляваць „мову“, то ў прынцыпе трэба, каб на ёй маглі выступаць хоць бы два аўтары; мы спадзяёмся, што мова будзе для нас кантэкстам, а не тэкстам.

Таму, кажучы пра „мовы“, мы маем на ўвазе збольшага пад–мовы: ідыёмы, рыторыку, спосабы гаварыць пра палітыку, моўныя гульні, якія адрозніваюцца адна ад другой і для кожнай з якіх можа існаваць свой уласны лексікон, свае правілы, папярэднія ўмовы і далейшыя наступствы, тон і стыль. У асобнай канкрэтнай мове можна знайсці несканчоную колькасць такіх пад–моваў, і таму несканчоную іх колькасць можна знайсці і ў адзінкавым аднамоўным тэксце; бо гэтыя спосабы маўлення, — пры ўсіх іх, нярэдка глыбокіх, разыходжаннях, — як правіла, адзін аднаго не выключаюць. Хоць мы і можам лічыць, што яны маюць характар парадыгмаў (бо яны пэўным чынам структуруюць думку і маўленне і перашкаджаюць ім структуравацца іншым чынам), але называць іх парадыгмамі нельга. <…> Некаторым мовам удаецца выцясняць іншыя; тым не менш, палітычны дыскурс мае прынцыпова шматмоўны характар, ці то будзе апавяданне пра Платонаву пячору, ці пра Вавілонскае стоўпатварэнне.

Гісторык палітычнага дыскурсу, чый вобраз паўстае з такога акрэслення яго практыкі[2], займаецца вывучэннем „моваў“, ідыёмаў, рыторыкі або парадыгмаў, на якіх і ў якіх вядзецца такі дыскурс; у той жа час ён даследуе акты прамаўлення, якія адбываюцца на гэтых „мовах“ або на мове, якая ўтвараецца як іх сумесь. Вельмі часта (хоць і не абавязкова) аказваецца, што гэтыя акты на мове арганізуюцца ў тэксты; амаль настолькі ж часта (хоць яшчэ менш абавязкова) аказваецца, што ў гэтых тэкстаў ёсць аўтары, звесткі пра якіх могуць быць ці не быць

[2] Прыкладна адсюль і ў 5—6 наступных абзацах, а таксама яшчэ ў адным–двух месцах тэксту я карыстаюся матэрыялам, падрыхтаваным для семінараў, што праводзіліся на факультэце паліталогіі Каліфарнійскага універсітэта ў Сан–Дыега ў вясновай чвэрці 1983 г. Хачу падзякаваць Трэйсі Стронг, Чарлзу Натансану [Tracy Strong, Charles Natanson] і іншым за заўвагі і крытыку.

дступнымі з крыніц, якія абмяжоўваюцца або не абмяжоўваюцца гэтымі тэкстамі. Гісторык можа перайсці ад *langue* да *parole*, ад вывучэння мовы да выяўлення актаў прамаўлення, якія здзяйсняюцца „на“ ёй. Далей ён пачынае задавацца пытаннем пра ўздзеянне гэтых актаў: як у агульным плане (на абставіны, у якіх іншыя агенты карысталіся мовамі або ўспрымалі іх, і на паводзіны гэтых агентаў), так і ў больш канкрэтным („на“ тыя мовы, „на“ якіх гэтыя акты здзяйсняліся).

Адсюль вынікаюць пэўныя наступствы. Першае: *histoire*, якую піша наш гісторык, аказваецца ў значнай меры *événementielle*, паколькі ён цікавіцца здзейсненымі ўчынкамі і тымі кантэкстамі, у якіх і адносна якіх яны здзяйсняюцца. *Moyenne durée* ўваходзіць у моўны кантэкст, хоць і не зводзіцца да яго; *longue durée* цікавіць яго толькі пастолькі, паколькі яно вербалізуецца і такім чынам уваходзіць у *moyenne durée*.

Другое: гісторыя, якую ён піша, аказваецца ў значнай меры тэкстуальнай — то бок знітаванай з пісьмовым і друкаваным прамаўленнем і водгукамі на яго (як мы пабачым, большыня чытачоў, якіх ён даследуе, вядомая яму з тае прычыны, што яны самі ў сваю чаргу сталі аўтарамі). Гэта гісторыя дыскурсу і дзейнасці, а не станаў свядомасці — хоць, як мы пабачым, яна іх і не выключае. Гісторыю *mentalités* ён піша толькі пастолькі, паколькі яны артыкулююцца ў дыскурсе, у публіцыстычным і палемічным прамаўленні і водгуку: г. зн. на ўзроўні адносна складаных паводзінаў і адносна дынамічных зменаў. Пошук *mentalités* (гэтае шляхетнае паляванне) завядзе яго глыбей у *moyenne*, аж да *longue durée*; у гэтых глыбінях могуць апынуцца элементы, якія ўвогуле не ўсплываюць на ўзровень дыскурсу; але сведчанні, якія кажуць пра іх існаванне, могуць належаць да такога гатунку, які найлепшым чынам даследаваны іншымі прафесіяналамі. Такому гісторыку няма ганьбы ў тым, каб заклікаць да падзелу працы.

Трэцяе: такая гісторыя, апроч усяго, будзе гісторыяй рыторыкі, а не граматыкі, гісторыяй афектыўнага і эфектыўнага зместу маўлення, а не яго структуры. Тут гаворка ідзе пра акцэнты і прыярытэты; гісторык можа апынуцца ў сітуацыі, калі трэба мець справу з граматыкай і структурай; але ён пагаджаецца, што павінна існаваць такая глыбіня, на якой структуры ўжо не ўсведамляюцца, не выкарыстоўваюцца рыторыкай і не абмяркоўваюцца тэорыяй. На гэтай глыбіні існуе *longue durée*, але нічога болей там няма, і ён туды не спускаецца — не таму, што лічыць гэта немагчымым, а таму, што лічыць гэта не сваёй справай. У глыбінях, куды не заплывае нішто жывое, наўрад ці, на яго думку, існуе гісторыя, — толькі глыбакаводная фізіка, а ў яго тым часам ёсць і свае заняткі і інтарэсы — эквівалентныя ў ягоным сусвеце таму, што рабіў і цярпеў Алківіяд, таму, што адзін офісны кур’ер пераказаў другому.

Такі гісторык аказваецца ў значнай меры археолагам; ён выяўляе схаваную прысутнасць розных моўных кантэкстаў, у якіх час ад часу вядзецца дыскурс. На падставе свайго ўласнага досведу я магу засведчыць (і пазней гэтая тэза будзе развітая шырэй), што для яго робіцца звыклай справаю знаходзіць багата слаёў такіх кантэкстаў у адным і тым жа тэксце, і яго заўжды дзівіць і цешыць, калі ён адкрывае знаёмыя яму з іншых крыніц мовы ў знаёмых тэкстах, дзе на іх прысутнасць дагэтуль не звярталі ўвагі. Такія адкрыцці не заўсёды падвышаюць яго павагу да спосабаў, якімі тэксты чыталіся раней. З мовамі, якія ён адкрывае, ён знаёміцца праз начытанасць у разнастайных тэкстах, у выніку чаго распазнае іх прысутнасць і пачынае „вучыць“ іх, як „вучаць“ мову: гэта значыць, прызвычайваючыся чытаць (але не прамаўляць або пісаць) іх, ён даведваецца, што на іх можна прамовіць і як гэта на іх будзе выслоўлівацца. Тут узнікаюць сур'ёзныя праблемы, звязаныя з інтэрпрэтацыяй і гістарычнасцю, якія трэба будзе разгледзець; але цэнтральная тэма гэтага зборніка (The languages of political theory in Early Modern Europe.— *Рэд.*) патрабуе спярша звярнуцца да пытання: якім чынам можна вызначыць гэтыя мовы, ідыёмы або рыторыкі як гістарычныя феномены?

Калі пашукаць прыкладаў моваў, якія я маю на ўвазе, найперш на розум можа прыйсці — не як прывілеяваны або парадыгматычны, а як тыповы выпадак — мова сярэднявечнай схаластыкі, рэнесанснай эмблематыкі, біблійнай экзегезы, агульнага права, цывільнага права, класічнага рэспубліканства ці рэспубліканскага радыкалізму [commonwealth radicalism]; гэты спіс мае ўхіл у бок маіх уласных даследаванняў, якія, аднак, адразу штурхаюць мяне да спробы выйсці па–за яго межы. Сярод элементаў, якія складаюць яго на гэты момант, некаторыя, вядома, маюць вельмі інстытуцыйны характар; у іх адразу можна прызнаць мовы, якія ўжываюцца канкрэтнымі супольнасцямі ў сваім прафесійным дыскурсе — артыкуляцыю дзейнасці і інстытуцыйнай практыкі гэтых супольнасцяў. Важна, што палітычны дыскурс падтрымліваецца ў значнай меры святарамі і юрыстамі, прычым у такіх модусах, якія яны праз сваё службовае становішча могуць накідаць іншым; бо інтэлектуальныя колы [clerisies] звяртаюцца не толькі да свайго асяроддзя, — яны накідаюць свае эзатэрычныя мовы разнастайным фракцыям шырокае публікі [laities], часам спараджаючы ў гэтай апошняй выразную незадаволенасць. Стварэнне і распаўсюджванне моваў, такім чынам, — у значнай меры справа вучоных аўтарытэтаў [clerical authority]; гэта гісторыя таго, як адукаваныя прафесіяналы пачалі спрычыняцца да кіравання справамі іншых людзей і забавязалі іх весці дыскурс на мовах, якія яны самі выпрацавалі; але ў той жа час — гісторыя таго, як

шырокая публіка прыўлашчыла сабе прафесійныя ідыёмы дзеля непрафесійных мэтаў, пачала выкарыстоўваць ідыёмы з іншых крыніц, змяняючы іх уздзеянне, або выпрацавала рыторыку варожасці да накідання сабе мовы. Такім чынам, мы заўважаем антынамічнае выкарыстанне мовы: сітуацыю, калі падначаленыя выкарыстоўваюць мову тых, хто іх падначаліў, пазбаўляючы яе ўласцівых ёй сэнсаў і абяртаючы яе ўздзеянне на адваротнае. Экспрапрыяцыя і прыўлашчванне — важныя аспекты прадмета нашых даследаванняў; я кажу гэта таму, што тыя, перад кім я ніколі не змагу дастаткова падкрэсліць, наколькі яны важныя, вечна абвінавачваюць мяне, быццам я адмаўляю іх важнасць.

Істотна, што даследаванне палітычнае мовы пачынаецца з моваў кіраўнічых групаў — моваў, якія артыкулююць клопаты гэтых групаў і вызначаюцца адпаведнай тэндэнцыйнасцю; але важна і тое, што чым больш мова інстытуцыяналізуецца і робіцца публічнаю, тым больш яна робіцца даступнаю для задач самых розных моўцаў, якія артыкулююць самыя розныя клопаты. Гэтая дыверсіфікацыя ўзнікае ў рамках кіраўнічай групы, дзе звычайна вядзецца багата дыскусій; але застацца ў межах зыходнай адукаванай, прафесійнай і г.д. групы яна не можа. Здараецца, што мова пашыраецца па–за межы зыходнай мадэлі ўзаемаадносін „кіраўнічыя — кіроўныя", адкуль яна ўзяла свой пачатак. Так бывае, калі на ёй прамаўляюць іншыя кіраўнікі іншым падданым; кіраўнікі, не ўпэўненыя, кім яны кіруюць; падданыя, не ўпэўненыя, хто імі кіруе або па якім праве імі кіруюць; і нават рэвалюцыянеры, якія выкарыстоўваюць яе, каб зрынуць кіраванне ўвогуле. У Еўропе ранняга Новага часу сустракаецца мноства прыкладаў усіх гэтых варыянтаў, нават апошняга з пералічаных. Распаўсюджванне мовы і яе стварэнне часта аказваюцца зусім рознымі рэчамі.

Гісторык палітычнай мовы адкрые, што мова мае сваю ўласную палітыку; але спыніцца на гэтым пункце, пры ўсёй яго важнасці, значыць пакінуць убаку досвед адкрыцця гісторыкам моваў, схаваных у тэкстах, якія ляжаць перад ім, — а гэта якраз тое, што я бяруся акрэсліць. Разглядаючы ідыёмы, якія паўстаюць з тэксту, гісторык пазнае ў некаторых з іх мовы прафесійных карпарацый: праз гэтыя мовы артыкулююцца практыкі, якія надаюць гэтым карпарацыям моц, а іх маўленню аўтарытэт — і здатнасць накідацца іншым; але яго досвед на гэтым не спыніцца. Так, побач з толькі што дапушчаным намі выпадкам ён можа напаткаць мовы святых ці аўтарытэтных кніг — Бібліі, Арганона, Кодэкса, Талмуда, Карана, Шасцікніжжа — і тых, хто карыстаецца імі ў сваім дыскурсе. Калі б яму рупіла моўная актыўнасць экзегетаў, якія ўваходзяць у прафесійную карпарацыю або маюць у ёй аўта-

рытэт, справа не вельмі б змянілася; але паступова можа выявіцца, што ён, замест гэтага, мае справу з сеткай або супольнасцю літаратараў — прафесіяналаў ці аматараў, прызнаных аўтараў ці *arriviste* — якія карыстаюцца мовамі прафесійных карпарацый, не канечне самі належачы да апошніх, і здатныя, па-першае, прыстасоўваць гэтыя ідыёмы або рыторыку да мэтаў свайго ўласнага дыскурсу, а па–другое, — тварыць і развіваць, пераследуючы гэтыя мэты, свае ўласныя ідыёмы і сваю ўласную рыторыку. Выявіцца, што ён мае справу з ідыёмамі, якія генеруюцца не столькі прафесійнай практыкай, колькі рыторыкай дыскурсу: са спосабамі дыскурсу, якія фармулююцца ў рамках абмеркавання паасобных тэмаў і праблемаў, або са стылямі дыскурсу, у якіх замацаваўся стыль вядомых і адметных аўтараў — Бёрка ці Гегеля, Строса ці Оўкшота. Некаторыя з гэтых аўтараў інстытуцыяналізуюцца як аўтарытэтныя для прафесійных экзегетаў, іншыя — не. Пры гэтым гістарычная значнасць аўтара вымяраецца далёка не толькі тым, ці ўдалося яму стварыць адмысловы спосаб дыскурсу — ці можам мы ўявіць каго–колечы, хто карыстаўся б Гобсавай ідыёмаю, прынамсі пішучы па–англійску? Рэч у тым, што гісторык цяпер мае справу не з узаемазвязанымі мовамі шэрагу практыкуючых інтэлектуальных групаў, а з адзінай, хоць і складанай, дыскурсіўнай супольнасцю, чыю дзейнасць можна вызначыць толькі як рыторыку або літаратуру; рэч таксама ў тым, што хоць мову палітычнага дыскурсу ўсё яшчэ магчыма разбіць на мноства падмоваў або ідыёмаў, аднак цяпер трэба ўлічваць, што яна можа генераваць гэтыя ідыёмы з рамак свайго ўласнага дыскурсу, а таксама рабіць — самастойна ці прымусова — запазычанні з ідыёмаў, народжаных у іншых дыскурсіўных супольнасцях. На пачатку XVIII ст. у тканку англійскага палітычнага дыскурсу глыбока ўпляліся журналістыка і прыгожае пісьменства, напрыканцы яго — класічная эканоміка; але ў той жа час узнікла ідыёма Бёрка і (створаная больш свядома) ідыёма Бэнтама, і пра абедзве (пра першую, калі заўгодна,— з нашмат большай вiдавочнасцю) можна сказаць, што яны ўзніклі як мутацыі ў ходзе змены мадэляў палітычнай рыторыкі або дыскурсу.

Такім чынам, слаі моўных кантэкстаў, якія выяўляе наш гісторык–археолаг, маюць вельмі неаднародны характар. Некаторыя з іх — мовы прафесійнай практыкі, якія з тых ці іншых прычын увайшлі ў мову палітыкі, так што палітыка цяпер вядзецца на гэтых ідыёмах; іншыя — ідыёмы, рытарычныя спосабы або стылі — лепш будзе лічыць створанымі ў рамках палітычнага дыскурсу, палітычнай рыторыкі, вынікам зрухаў або падзеяў, якія здзяйсняюцца аўтарамі і суб’ектамі дзеянняў у гэтых рамках. Падкрэсліваць першае — значыць рабіць націск на сацыяльнай структуры: перад намі маўленне, артыкуляванае святарамі,

юрыстамі, гуманітарыямі, прафесарамі, магчыма — рознага кшталту групамі, якія існуюць у шырокай публіцы, а часам — ерасямі, якія вызначаюцца праз той факт, што яны выключаныя з гэтых групаў. Падкрэсліваць другое — значыць рабіць націск на дыскурсе: перад намі маўленне, артыкуляванае дыскурсантамі, якія дзейнічаюць у рамках працяглых дыскусій і спрэчак, працяглай рытарычнай і тэарэтычнай дзейнасці, і кантэкст учынкаў, якія яны здзяйсняюць, — гэта кантэкст самога дыскурсу. Сэнс, які мы ўкладаем у паняцце „стварэнне і пашырэнне палітычных моваў“, будзе варыявацца ў залежнасці ад таго, першы ці другі мы прымем з гэтых, аднолькава законных, пунктаў гледжання; сацыяльны шлях тварэння моваў цягне за сабой адзін набор прыярытэтаў, рытарычны — іншы. Аднак гісторык–археолаг, які слой за слоем выяўляе схаваныя ў тэксце мовы, аказваецца вымушаны прыняць абодва падыходы; на яго погляд, паміж імі прынамсі няма радыкальных адрозненняў.

Мы прымаем, што гэтыя мовы можна размеркаваць на шкале ад інстытуцыйнага і знешняга да асабістага і своеасаблівага — хоць два гэтыя полюсы, як мы пабачым, не канечне будуць узаемавыключальнымі. Але па меры набліжэння да другога з названых полюсаў перад намі ўсё вастрэй паўстае праблема: што значыць гаварыць пра мову як пра гістарычны феномен, які магчыма неяк ідэнтыфікаваць? Інакш кажучы, чым больш мы маем справу з індывідуальнымі стылямі прамаўлення, з стварэннем асабовасцяў, якія паддаюцца ідэнтыфікацыі, у сітуацыях, якія таксама паддаюцца ідэнтыфікацыі, — тым большаю робіцца небяспека блытаніны паміж *parole* і *langue*, паміж інтэрпрэтацыяй і ідэнтыфікацыяй. Калі мы проста напаткалі вельмі індывідуальны стыль прамаўлення, які цягне за сабой свае імплікацыі і прапануе сваю практыку, не варта казаць, што мы адкрылі новую „мову“. Пагатоў не варта так казаць, калі мы проста напаткалі новы стыль, каб нам самім чытаць прамаўленні дыскурсантаў мінулага і прыпісваць ім пэўныя формы і ўзроўні сэнсу: бо рабіць гэта — значыць зводзіць усю гісторыю да тэксту, які існуе роўна настолькі, наколькі мы можам яго інтэрпрэтаваць. Гісторык, пра якога ідзе гаворка, імкнецца быць упэўненым — прынамсі як мага больш упэўненым — што „мова“ ці „моўны кантэкст“, на адкрыццё ці выяўленне якога ён прэтэндуе, існаваў *eigentlich*, перш чым ён яго адкрыў; ён шукае спосабу паказаць, што гэта не проста яго ўласная вынаходка [*invention*], бо ведае, што дзеяслоў *invenire* можа азначаць і 'знайсці' і 'выдумаць'. Да гэтай мэты можна ісці рознымі шляхамі.

Упэўненасць гісторыка ў тым, што „мова“ — не яго ўласная выдумка, мацнее: а) калі ён можа паказаць, што на гэтай мове розныя аўтары

здзяйснялі разнастайныя ўчынкі, адказваючы на ёй адзін аднаму і выкарыстоўваючы яе як сродак зносін і як спосаб дыскурсу; b) калі ён можа паказаць, што яны абмяркоўвалі паміж сабою, як яна ўжываецца, выпрацоўвалі мовы другога парадку дзеля крытыкі яе выкарыстання і вербальна, эксплiцытна вызначалі, што яны карыстаюцца менавіта гэтаю мовай (гэта можна назваць тэстам спадара Журдэна); c) калі ён можа прадказаць, якія наступствы (выразныя і прыхаваныя), якія парадыгматычныя эфекты, праблематыкі і г. д. пацягне за сабой выкарыстанне канкрэтнай мовы ў канкрэтных умовах, і можа прадэманстраваць, што ягоныя прадказанні пацвярджаюцца або, што цікавей, абвяргаюцца (гэта можна назваць эксперыментальным тэстам); d) калі ён адчувае здзіўленне, а потым асалоду, сустракаючы знаёмую мову там, дзе не спадзяваўся яе знайсці (гэта можна назваць тэстам на радасную неспадзяванку [serendipity test]); e) калі ён выключае з разгляду мовы, недаступныя аўтарам, якіх ён даследуе (тэст на анахранізм).

Гісторык вучыць мову, каб чытаць на ёй, а не пісаць. Яго ўласныя творы будуць складацца не з мяшанкі розных вывучаных ім моваў, як раман Джона Барта „*The Sotweed Factor*“, а з моваў інтэрпрэтацыі, на якіх ён навучі, якія сам распрацаваў, прычым кожная з іх мае на мэце выяўленне і артыкуляванне, — так бы мовіць, парафразіс, — дапушчэнняў, намёкаў і г.д., якія выразна або схавана прысутнічаюць у адной ці некалькіх мовах, на якіх ён здольны чытаць. Ён уступае ў свайго роду дыялог з славутай формулай Колінгвуда: так, ён можа вывучыць мову іншага чалавека, каб „нанава прадумаць ягоныя думкі“, але мова, на якой ён будзе выказваць думкі гэтага іншага чалавека, прадумаўшы іх нанава, будзе моваю гісторыка, а не таго чалавека. Гэта пакідае прастору і для крытычнай, і для гістарычнай аб'ектыўнасці [detachment]; у склад мовы гісторыка ўваходзяць рэсурсы, якія дазваляюць яму пацвердзіць як адэкватнасць інтэрпрэтацыі, якую ён прапануе для чужой *parole*, так і той факт, што гэтая *parole* фактычна вядзецца на той *langue* — або на зборцы і выбарцы тых розных *langues*, — з якімі гісторык яе звязаў. Гэта ягоны адказ на любыя радыкальныя заявы наконт неперакладальнасці або нечытэльнасці тэкстаў; гісторык прэтэндуе на ўменне выяўляць спектр моваў, на якіх тэкст пісаўся і чытаўся, і адрозніваць гэтыя мовы ад тых, на якіх ён не пісаўся і не мог быць напісаны ў пэўны канкрэтны час.

Але перадумова ўсяго гэтага — яго ўменне рэінстытуцыяналізаваць мовы: г. зн. паказваць, што вельмі своеасаблівыя, на першы погляд, спосабы прамаўлення ўжо былі раней (або зрабіліся пазней) вядомымі і прызнанымі як рэсурсы дыскурсіўнай супольнасці („даступныя мовы“ [available languages], калі гаварыць на гэтым жаргоне), што імі

карыстаўся — і ў той ці іншай меры лічыў магчымым карыстацца — больш як адзін з дзеячаў гэтай супольнасці. Мова, у адрозненне ад стылю, абавязкова павінна лічыцца гульнёю, адкрытаю больш як для аднаго гульца. Але як толькі мы прызнаем гэта, праведзенае намі раней адрозненне паміж сацыяльным і рытарычным аспектамі тварэння і пашырэння моваў робіцца яшчэ важнейшым. Калі мы можам паказаць, што канкрэтная мова ўзнікла па–за сусветам палітычнага дыскурсу, у пэўнай сацыяльнай або прафесійнай практыцы, а пасля прыйшла ў наш сусвет пры больш ці менш спецыфічных акалічнасцях, — у гэтым выпадку сказаць, што яна мела інстытуцыйны характар і была даступная для мэтаў розных удзельнікаў моўнай гульні, лягчэй, чым калі мы назіраем узнікненне мовы ўнутры гэтага сусвету, у моўных актах, рытарычных хадах і стратэгіях удзельнікаў гэтае гульні. Бо ў апошнім выпадку мы сутыкаемся з праблемаю — нам трэба паказаць, якім чынам хады ўдзельніка гульні даюць пачатак моўным інстытутам, прычым заўсёды знойдзецца нехта, хто будзе падкрэсліваць унікальнасць кожнага ходу аж да поўнага знікнення самога інстытута, у якім гэты ход здзяйсняўся і складанню якога спрыяў. Цяперашнім часам ставіцца пад пытанне[3] — ці была насамрэч англійская „звычаёва–праўная свядомасць" ['common–law mind'] настолькі замкнутаю, маналітна астраўною (як дапускалася ў маёй працы *The Ancient Constitution and the Feudal Law*, апублікаванай у 1957 г.)? Я думаю, што пытанне гэтае слушнае, і сам асабіста не схіляюся ні да якага канкрэтнага адказу. Але крытыка гэтая вядзе да таго, што дактрыну старажытнага дзяржаўнага ладу робіцца нашмат цяжэй тлумачыць праз *mentalité* і нашмат лягчэй праз паняцце руху [a move]. Калі, як цяпер лічыцца, англічане XVII ст. не былі настолькі зашораныя сваім астраўным становішчам, каб не ўсведамляць, што ў Англіі існуе і можа (або працягвае) дзейнічаць рымскае і феадальнае права, — то меркаванне, што яны гэтым правам ніколі не карысталіся, павінна хутчэй быць суджэннем [assertion], а не пасылкаю [assumption]: аргументам, на які можа існаваць контраргумент, парадыгмай, якая павінна ўсталёўвацца праз выключэнне іншай, адваротнай. Сэр Эдвард Коўк [Coke], гэты вялікі карыфей права, выглядаў бы не столькі рупарам, праз які артыкулявала сябе *mentalité*, колькі магутным прапагандыстам і ўдалым агітатарам, які праз вуснае маўленне, пяро і друк заахвочваў сваіх слухачоў і чытачоў заняць пазіцыі, да якіх тыя, несумненна, шмат у якіх сэнсах былі ўжо загадзя гатовыя (ніхто ж

[3] На гэтую тэму можна сабраць цэлую бібліяграфію з працаў Доналда Келі, Дж. Р. Элтана, Кевіна Шарпа [Donald R.Kelley, G. R. Elton, Kevin Sharpe] і іншых аўтараў. Я абмяжуюся толькі адной працай: Richard Tuck. Natural Rights Theories: Their Origin and Development. Cambridge. 1980.

не кажа, што *mentalité* або ідэалогія не існуюць), але ведалі, што ім можа існаваць альтэрнатыва, і павінны былі адмаўляць гэтую магчымасць. Моўны акт выступіў бы тады на першы план адносна моўнай сітуацыі.

На карысць такога перагляду апошнім часам прыводзілася багата аргументаў, і я гэта вітаю, бо не адчуваю сябе абавязаным заўсёды трымацца тлумачэнняў праз паняцце *mentalité* і схіляюся да таго, каб разглядаць моўныя сітуацыі ранняга Новага часу як шматмоўныя, а не маналітныя. Калі пакінуць убаку праблему замкнутасці (астраўнога становішча), то відавочна, што думаючы толькі пра нармальнае функцыянаванне мовы, а не пра маўленчыя акты, якія здзяйсняюцца на ёй і над ёю, занядбоўваючы *parole* на карысць *langue,* прыплятаць *mentalité* аж занадта лёгка. Але сям і там у дыскусіях пра англійскую гістарыяграфію я сутыкаюся з той магутнай гістарычнай школай, для якой адзіная рэальнасць — гэта рэальнасць высокай палітыкі, і ўсе гістарычныя феномены зводзяцца да хадоў „сваіх людзей“, якія разыгрываюць бясконцую прыгодніцкую гульню алігархічнага ўрадавання[4]. Калі б гэтыя даследчыкі мелі рацыю, заўсёды існавала б толькі *parole* і ніколі — *langue*; поспех і няўдача кожнага ходу вызначаліся б у рамках *durée bien moyenne* бягучага стану гульні, а не ў больш трывалых кантэкстах, якія ўтвараюцца сацыяльнымі або лінгвістычнымі структурамі. Я хацеў бы абгрунтаваць такую трактоўку гісторыі дыскурсу, якая змяшчае дыскурс паміж *parole* і *langue*, паміж моўным актам і моўным кантэкстам. Прапанаваны перагляд маёй даўнейшай інтэрпрэтацыі мяне да гэтага толькі заахвочвае, бо дзякуючы яму робіцца выразнейшым ракурс, у якім за праявою, якую я дагэтуль трактаваў як мову, можна назіраць у працэсе яе мадыфікацыі або нават усталявання праз здзяйсненне маўленчых актаў.

Але гэта вяртае нас да тэзы, згодна з якой працэс „стварэння і пашырэння моваў“ павінен разглядацца як у рамках дыскурсіўнай дзейнасці, так і ў разнастайным узаемадзеянні паміж дыскурсам і іншымі сацыяльнымі феноменамі. Наш гісторык, заняты ідэнтыфікацыяй моўных кантэкстаў, у якіх адбываюцца маўленчыя акты, павінен мець магчымасць вывучаць, як мовы твораца ў тых ці іншых сацыяльных кантэкстах і пашыраюцца на дзейнасць палітычнага дыскурсу; але ён павінен таксама мець у сваім арсенале сродкі, каб паказаць, якім чынам здзяйсненне маўленчых актаў не проста мадыфікуе мову, а вядзе да стварэння і пашырэння новых моваў у нашым разуменні гэтага тэрміна.

[4] The Endless Adventure — назва ранняга (1912) прыкладу гэтага жанра, які належыць пяру Ф. С. Олівера [F. S. Oliver], даследчыка англійскай палітыкі ў перыяд ад Гарлі [Harley] да Ўолпала [Walpole]. Сярод аўтараў, якія карысталіся такім падыходам пасля Нам’е [Namier], — Дж. Р. Элтан [G. R. Elton] (часам) і Морыс Коўлінг [Maurice Cowling] (часцей).

Мовы генеруюцца праз разнастайную дзейнасць, практыку і кантэксты ў грамадстве; мовы генеруюцца таксама і праз узаемадзеянне паміж *langue* і *parole* у доўгатрывалым кантынууме дыскурсу. Другі выпадак мы можам разглядаць як асобны варыянт першага, але не як яго эпіфеномен (калі ўжо мы пагадзіліся, што мова?— доўгатрывалая дзейнасць, якая ўсталёўвае свае ўласныя правілы і нават прадвызначае, якім чынам гэтыя правілы могуць змяняцца). *Métier* нашага гісторыка — вывучыць шэраг моваў і ўсталяваць іх як кантэксты, у якіх здзяйсняюцца акты прамаўлення; далей яму спатрэбяцца спосабы, каб зразумець, якім чынам гэтыя акты мадыфікуюць свае кантэксты і якім чынам некаторыя з гэтых мадыфікацыяў вядуць да стварэння і пашырэння новых моваў і новых кантэкстаў. Больш таго, звычайна, хоць не канечне, ён паглыбляецца ў вывучэнне гісторыі той ці іншай літаратуры — то бок формы дыскурсу, звязанага са стварэннем пісаных і друкаваных тэкстаў, і бярэцца вытлумачваць апошнія як падзеі гэтай гісторыі — як вельмі складаныя *paroles* або акты прамаўлення, зразумелыя ў тэрмінах тых *langues*, адкуль яны былі ўзятыя, іх уздзеянняў на гэтыя *langues* і на свет, у якім яны пісаліся і прамаўляліся. Дэманстрацыя таго, якім чынам падобныя *paroles* мадыфікуюць *langue* і ў некаторых выпадках памагаюць ствараць і пашыраць новыя ідыёмы дыскурсу, — важны складнік ягонае справы.

Апошнім разам мы бачылі нашага гісторыка ў ролі археолага, які выяўляе мовы або ідыёмы дыскурсу ў выглядзе кантэкстуальных слаёў, якія можна паказаць як складнікі тэксту — і ў такой колькасці, каб дыскурс здзяйсняўся на іх усіх адначасова. Гэтыя ідыёмы ўзнікаюць з разнастайных крыніц і могуць браць пачатак у грамадствах і гістарычных момантах, якіх ужо больш няма (калі аказваецца менавіта так, гэта можа быць важным момантам у працэсе росту гістарычнага самаспазнання). Кожная з іх спецыялізавалася на здзяйсненні актаў і перадачы звестак, характэрных менавіта для яе; але кваліфікаваныя дыспутанты і рытары былі здатныя змешваць слаі, сплятаць розныя ідыёмы ў адзіны тэкст і ў адзіны, хоць і складаны, кантынуум дыскурсу. Калі мы назіраем такі суплёт ідыёмаў, трэба разумець, што ў тэксце здзяйсняецца адначасова шмат прамаўленняў, і гісторык — перастаючы тут быць археолагам — павінен запытаць: ці адзіны шэраг актаў здзяйсняецца ягоным тэкстам — або шматлікія гетэрагенныя шэрагі? З некаторых пунктаў гледжання, у тым ліку з гістарычнага, гэтыя магчымасці не выключаюць адна адну. Мы можам, напрыклад, думаць пра дастаткова ўплывовага аўтара як пра „Пенелопу ўдзень“, якая тчэ з розных ідыёмаў адзінае палатно з адзіным малюнкам на ім; але і пра чытачоў тэксту (якія зусім не канечне павінны быць такімі ж глыбакадумнымі, як аўтар), варта думаць

як пра „Пенелопу ўначы“, якая распускае натканае і зводзіць яго да набору ідыёмаў і прамаўленняў. Бываюць аўтары настолькі спрытныя, што ўмеюць прадбачыць і эксплуатаваць разнастайныя чытацкія рэакцыі, але, мабыць, ніхто і ніколі не патрапіў прадбачыць усе рэакцыі, якія выкліча яго тэкст. І мінуўшчына, і будучыня тэксту, калі глядзець гістарычна, даюць нам падставы, каб падкрэсліваць разнастайнасць і гетэрагеннасць ягоных прамаўленняў — тых, якія ён можа здзяйсняць, і тых, здзяйсненне якіх выявіцца толькі пазней. Для палітолага гэта азначае, што мова палітыкі вызначаецца ўнутранай амбівалентнасцю; як выказаўся Ўільям Коналі[5], яна складаецца з прамаўлення істотна спрэчных тэзаў. Для гісторыка ж гэта азначае, што кожны тэкст можа выступаць актарам у бясконцым шэрагу лінгвістычных працэсаў, узаемадзеянняў паміж прамаўленнем і кантэкстам. Квэнтын Скінэр слушна спалучыў імперфект і працяглы мінулы час у сваёй фармулёўцы, згодна з якой мы павінны ведаць, што аўтар „рабіў“ [was doing], публікуючы [when he published] канкрэтны тэкст[6]; бо калі ў тое, што ён „рабіў“, уваходзіць — і нават на прыярытэтных правах — тое, што ён імкнуўся здзейсніць, то не толькі яго намеры і здзяйсненні могуць адрозніваццa і нават разыходзіцца між сабою, але і тое, што ён „урэшце, як выявілася, зрабіў“ [would turn out to have done], можа ў канчатковым выніку ці не экспаненцыяльна аддаляцца ад любых яго намераў. Гісторыя складаецца пераважна з непраднамераных здзяйсненняў, і пераход ад намеру да здзяйснення патрабуе як імперфекту, так і перфекту ва ўмоўным ладзе.

Наш гісторык, цалкам перастаючы быць археолагам, шукае спосабу выявіць, якім чынам *parole* ўздзейнічае на *langue*. Мы прымаем, што ён здатны паказаць разнастайнасць моваў, на якіх быў сфармуляваны і здзейснены які заўгодна тэкст, прычым кожная з гэтых моваў — канвенцыйны спосаб прамаўлення, які дзейнічае як парадыгматычная сіла. Адсюль, а таксама са сваіх ведаў пра гістарычныя сітуацыі і кантэксты, у якіх знаходзіўся аўтар і да якіх звярталася ягонае прамаўленне, ён можа выснаваць канкрэтны малюнак той разнастайнасці, якую складаюць меркаваныя — або і здзейсненыя — тэкстам і аўтарам маўленчыя акты. Гэтыя акты, задуманыя і здзейсненыя на кожнай з некалькіх ідыёмаў тэксту або на іх усіх разам, ён далей размяркоўвае на больш руцінныя (прамаўленне канвенцый) і на больш спецыфічныя (стасаванне канвенцый).

Калі канвенцыі, парадыгмы і дырэктывы, якія могуць лічыцца складнікамі палітычнае мовы, дастасоўваюцца да такіх палітычных і гіста-

[5] Connolly W. E. The Terms of Political Discourse. 2nd ed. 1983.

[6] Skinner Q. The Foundations of Modern Political Thought. Cambridge, 1978. I, introduction.

рычных абставін — і ў такіх палітычных і гістарычных абставінах, якіх гэтая мова канвенцыйна не прадугледжвае, могуць назірацца два працэсы. Па–першае, новае віно будзе ўлівацца ў старыя мяхі: і новыя абставіны, і народжаныя імі новыя задачы для мыслення і дзеяння будуць прыпадабняцца да абставінаў і задач, прадугледжаных старымі канвенцыямі, — якія, магчыма, надалей захаваюць сваю паноўную ролю. „На старых палетках павінна ўрадзіць новае збожжа“, — казаў у свой час сэр Эдвард Коўк, які добра разумеў гэты працэс. І гісторыку назіраць за гэтым працэсам будзе цікава, бо апошні высвечвае прэсупазіцыі старой мовы, паведамляе, да якога светапогляду заахвочваліся яе карыстальнікі, і дае магчымасць фармуляваць сцвярджэнні адносна гістарычных сітуацый, у якіх яна фармавалася і выкарыстоўвалася. Ён не настолькі строгі гістарыцыст, каб меркаваць, што спроба наліць новае віно ў старыя мяхі непазбежна абернецца няўдачай або ўтварэннем фальшывай свядомасці; часам бывае так, а часам і не, а некаторыя парадыгмы і мовы захоўваюць кантынуітэт сярод пераменаў цягам доўгіх перыядаў. Але, вядома, ідзе і адваротны працэс; новыя абставіны спараджаюць напружанні ў старых канвенцыях, мова пачынае ўжывацца па–новаму, ва ўжыванай мове адбываюцца змены, і гэты працэс можна прадставіць як шлях да стварэння і пашырэння новых моваў — хоць дакладнае значэнне гэтай фразы патрабуе яшчэ ўдакладнення. Наш гісторык будзе імкнуцца даследаваць, у якой паслядоўнасці адбываюцца гэтыя рэчы, і тут варта згадаць два прынцыпы.

Адзін з іх той, што новая мова можа ўтварацца не толькі пры спробе змяніць старую мову, але і — з не меншым поспехам — пры спробе яе захаваць; можна знайсці выпадкі, калі свядомы і мэтанакіраваны акцэнт на змену, працэс і мадэрнасць апынаецца сярод стратэгій, прынятых абаронцамі традыцыйнага ладу, як і павінна быць згодна з логікаю самога паняцця традыцыі. Другі — што паколькі любая мова можа ўжывацца больш ці менш шырока, колькасць актараў і разнастайнасць іхніх актаў, уключаных у гэтыя працэсы, можа таксама шырока варыявацца. Некаторыя моўныя змены бываюць на погляд выкліканы супадзеннем ці згодаю маўленчых актаў такога мноства актараў, у гэтулькіх моўных сітуацыях і з такімі разнастайнымі намерамі, што пра гэтыя змены ў мове лягчэй думаць як пра [выпадкова] спрычыненыя, а не [свядома] задуманыя; лягчэй бачыць у іх вынік разнароднасці мэтаў, а не працу вядучых актараў, якіх можна ідэнтыфікаваць і пра якіх можна паказаць, як яны здзяйсняюць новаўвядзенні ў *langue* праз агрэгатыўныя ці дызагрэгатыўныя *paroles* і накідаюць іншым свае новаўвядзенні разам з новай мовай. З іншага боку, у гісторыі, як выглядае, такія прыкметныя актары сустракаюцца; яны здабываюць, часам досыць шпар-

ка, статус аўтарытэтаў, якіх трэба слухацца, або праціўнікаў, якіх трэба абвяргаць; і не будзе зусім немагчымым уявіць, што некаторая змена ў мове выклікана прамаўленнямі канкрэтных актараў і рэакцыямі на іх прамаўленні іншых актараў, не менш канкрэтных. Часам, праўда, гэты малюнак аказваецца гістарыяграфічнай ілюзіяй; мы схільныя выбіраць прыкметных асобаў і адводзіць ім вядучыя або прадстаўнічыя ролі, якія ім належаць не заўсёды; але калі б іх прызначалі на гэтыя ролі не самі гісторыкі, а тыя, каго гісторыкі вывучаюць, — то справа стаяла б інакш. Вядома, нам трэба ўмець запытвацца, ці гралі Макіявелі, Гобс або Лок тую ролю ў гісторыі, якую ім прынята адводзіць; але гэтаксама нам трэба ў нейкі спосаб разумець, якім чынам змены ў палітычнай мове можна разглядаць як выкліканыя прамаўленнем і рэакцыяй паасобных актараў. Нам патрэбная і марфалогія *langue*, і дынаміка *parole*.

Уявім сабе, далей, чалавека, якому ёсць што сказаць пра нейкую вельмі спецыфічную, у пэўных дачыненнях беспрэцэдэнтную сітуацыю, але яго прамаўленне вызначаецца і абмяжоўваецца правіламі або канвенцыямі некалькіх да-ступпных яму моваў. Патрабаванні, якія ставяць гэтыя мовы, разыходзяцца з імпульсамі і абмежаваннямі, якія вынікаюць з аўтаравага становішча — прычым вынікаюць, вядома, вельмі паразнаму. У сітуацыі можа прысутнічаць нешта такое (вядомае, невядомае або больш ці менш вядомае прамоўцу), пра што цяжка гаварыць любым звыклым чынам; або прамоўца можа стаяць перад казуістычнай ці судовай дылемай (магчыма, навязанай яму ў ходзе дыскусіі маўленчымі актамі апанента); або ягоная рэфлексія (магчыма, маральная, эпістэмалагічная або метафізічная, ва ўсёй яе глыбіні і складанасці) пра сваё або чыёсьці становішча, якое абумоўлена наяўнай сітуацыяй або выявілася дзякуючы ёй — пераканала яго ў неабходнасці правесці нейкую змену, дробную ці радыкальную, у моўных канвенцыях і прэсупазіцыях. Мы можам думаць пра ягоную *parole* як пра адказ на ціск, які ён адчувае з боку чужых *paroles*; але калі пісаць гісторыю ў тэрмінах узаемадзеяння *parole* і *langue*, то важна разглядаць ягоную *parole* як адказ на канвенцыі тае *langue*, якою ён карыстаецца і якую больш ці менш ведае. Гульцы здзяйсняюць маўленчыя акты згодна з правіламі гульні; часам яны абмяркоўваюць гэтыя правілы і выпрацоўваюць дзеля гэтага мовы другога парадку; гэтыя апошнія маюць свае правілы, у якіх могуць здарацца інавацыі, і змена ў гэтых правілах можа цягнуць за сабою змену ў правілах, паводле якіх маўленчыя акты здзяйсняюцца на мовах першага парадку. Змена ў правілах моўнай гульні, спрычыненая некаторым маўленчым актам, можа адбыцца і раней, і пазней за любое ўздзеянне гэтага акта на любога гульца ў гэтай гульні; усе акты, аднак, здзяйсняюцца гульцамі.

Але мы яшчэ не патлумачылі, як такія інавацыі могуць адбывацца, і пагатоў — як яны могуць прыводзіць да стварэння і пашырэння новых моваў. Якім чынам аўтар-наватар спараджае вусную ці пісьмовую *parole*, якая аказваецца новаю, — гэта вельмі цяжка катэгарызаваць, і прычына не толькі ў неакрэсленасці тэрміна „новая", але і ў вялізнай гнуткасці самой мовы. Квентын Скінер прывучыў нас да тэрміналогіі, паводле якой аўтар робіць „ход", а колькасць і разнастайнасць магчымых „хадоў" не меншая за багацце рэсурсаў самой рыторыкі; раннемадэрная Еўропа была вельмі рытарычнай цывілізацыяй. Але магчымасць такога „ходу" не толькі задаецца, хай сабе і нечакана для апанента, правіламі некаторай гульні; паколькі мы знаходзімся ў гісторыі, такі „ход" можа і сам мяняць правілы — так здаралася, калі Ўільям Ўэб Эліс падабраў мяч з зямлі і пабег з ім у руках, або калі Сакрат і Томас Гобс абвясцілі, што гульня ідзе па няслушных правілах. Таму мы можам даць азначэнне: вербальная інавацыя — такая, якая прапануе і па меры магчымасці накідае некаторую змену правілаў або ўмоўнасцяў палітычнай мовы. Яна можа прапанаваць змяніць сімволіку каштоўнасцяў, трактаваць тое, што было дрэнным, як добрае, і наадварот; або яна можа прапанаваць вынесці абмеркаванне нейкага тэрміна ці праблемы з моўнага кантэксту, у якім яго дагэтуль было прынята абмяркоўваць, у нейкі іншы кантэкст — які, хоць і вядомы сам па сабе, дагэтуль не лічыўся прыдатным для такога абмеркавання. Прыклад абодвух гэтых тыпаў „ходу" — Макіявелева ўжыванне тэрміна *virtu*; існуе, вядома, яшчэ багата іншых тыпаў. Адзначым, што такія акты, якія прапануюць навацыі ў правілах або парадыгмах, могуць здзяйсняцца эксплiцытна або імпліцытна, адкрыта ці схавана, з намерам ці без намеру; шмат што залежыць ад *Rezeption* і чытацкай рэакцыі; і чытач, і інтэрпрэтатар таксама могуць мець у сваім распараджэнні пэўныя рытарычныя рэсурсы. Шмат якія аўтары ўрэшце аказаліся больш радыкальнымі інаватарамі, чым мелі на мэце або чым прызнаваліся.

Якім чынам такія інавацыйныя *paroles* могуць пакласці пачатак тварэнню новых моваў? Гэтае пытанне трэба абмеркаваць, калі мы гатовыя разглядаць гэты працэс у яго ўзнікненні з канкрэтных актаў канкрэтных асобаў. Адказваць на яго можна вельмі па–рознаму. Будзем лічыць, што наш аўтар прапанаваў унесці некаторыя змены ў правілы моўнай гульні; у выніку — пры дастатковай публічнасці — не выключана, што гульня ўжо ніколі не стане ранейшай, бо тыя, хто хоча бараніць старыя правілы, робяць гэта не паўтараючы іх, як быццам інаватара ніколі не існавала, а адказваючы яму і адрынаючы яго прапановы; а паколькі той, хто адказвае праціўніку, мусіць тым самым прымаць яго мову і яго прэсупазіцыі, хай сабе толькі як прэлюдыю, перад тым як

аспрэчыць іх і абвясціць непрымальнымі, то дастаткова галосны або скандальны інаватар непазбежна накіне астатнім і новую мову, і новыя правілы моўнай гульні, хоць часта і не так, як сам гэта сабе ўяўляў. Некаторыя вялікія інаватары, як Платон або Маркс, твораць і шыраць новыя мовы, робячыся аўтарытэтамі; іншыя, як Макіявелі або Гобс, — робячыся праціўнікамі, дзеля барацьбы з якімі ўзнікаюць новыя мовы. Такія аўтары, трэба памятаць, бываюць наватарамі як у тэкстуальнай, так і ў кантэкстуальнай сферы. Яны прапануюць новыя спосабы дыскурсу, якія ўспрымаюцца як наватарскія для моўных кантэкстаў, адрозных ад тых, на якіх дыскурс вёўся першапачаткова; таму іх чытаюць, на іх адказваюць, а наступствы іхніх *paroles* уздзейнічаюць на *langue* ў кантэкстах, якія не канечне фігуравалі ў іх намерах. Адцурацца намеру не значыць прадухіліць эфект.

Але я кажу тут пра змены ў мове — пра тварэнне і пашырэнне новай мовы ў абстрактным сэнсе і ў адзіночным ліку; і паколькі мы прызнаём тэрмін „стварэнне і пашырэнне моваў“, то выкарыстанне множнага ліку або адзіночнага, але неазначальнага „*a language*“ прымушае нас разгледзець больш канкрэтны феномен. Мовы ў гэтым множным сэнсе павінны і шырыцца, і стварацца; яны павінны рабіцца рэсурсамі, даступнымі для здзяйснення іншых маўленчых актаў, чым тыя, якімі яны ствараліся, рабіцца самімі ўмоўнасцямі, падлеглымі інавацыям і зменам — карацей, быць *langues*, а не проста шэрагамі паасобных *paroles*. Якім чынам макіявеліянская ці антымакіявеліянская рыторыка зрабілася ў гэтым сэнсе інстытуцыяналізаванаю, якім чынам яна стала ідыёмай — мовай, даступнай для мэтаў іншых людзей, акрамя самога Макіявелі і яго непасрэдных рэспандэнтаў (калі такія былі), — пытанне нялёгкае. Шукаць адказу на яго, здаецца, можна прынамсі ў двух напрамках. Адзін дыскурсіўны: праз „навучанне мове“ ў тым сэнсе, які я спрабаваў апісаць вышэй — чалавек вучыцца пазнаваць яе там, дзе яна выступае, і адзначаць яе прысутнасць у разнастайных тэкстах і кантэкстах, часам, магчыма, вельмі адрозных ад тых, дзе мы ўпершыню пабачылі яе фармулёўку. Такім чынам можа выявіцца, што наш гісторык вывучае пашырэнне мовы па ўсім полі дыскурсу (якое само шырыцца і змяняецца), даходзячы да пункту, дзе такую мову ўжо можна назваць не проста супольнай ідыёмай шэрагу дыспутантаў, а даступным рэсурсам, настолькі пашыраным, што яго ведаюць і могуць уключыць у свой дыскурс нават людзі, якія вядуць не тыя дыскусіі, для якіх ён прызначаўся першапачаткова, а зусім іншыя. Тут мова прымае на сябе як метафарычную, так і парадыгматычную ролю; трэба задацца пытаннем, якія наступствы цягне за сабою абмеркаванне пэўнай праблемы на мове, якая ўзнікла ў сацыяльным маўленні на іншай глебе і якая падказвае,

што гэтая праблема належыць да пэўнага гатунку? А наступствы гэтыя адаб'юцца і на мове, і на праблеме.

Перавага такога падыходу да пашырэння і стварэння моваў у тым, што ён дае гісторыку магчымасць акрэсліць поле дыскурсу і назіраць за тым, якія дзеянні і змены тут адбываюцца. Загана — у тым, што ён фактычна абмяжоўвае даследчыка (перад якім, аднак, ляжыць настолькі шырокае поле для даследавання, што абмежаванасць можа і не адчувацца) гісторыяй занатаванага дыскурсу: гісторыяй тэкстаў, літаратуры і дыскусій, якія вядуцца ў межах пэўнай дысцыпліны, то бок у сферы, дзе рэакцыю на акт пісьма і публікацыі можна заўважыць толькі тады, калі яна сама будзе яшчэ адным такім актам. Не канечне адсюль вынікае, што адзіныя актары гэтай гісторыі — публіцысты, хоць звычайна так і бывае; мовы, якія вывучае наш даследчык, могуць аказацца прыватным пісьмовым дыскурсам, калі нейкі захаваецца (публічнае робіцца складнікам прыватнага) або пісьмовай фіксацыяй прыкладаў вуснага дыскурсу, якіх, на шчасце, у англійскай гісторыі ранняга Новага часу багата: гэта парламенцкія стэнаграмы, матэрыялы палітычных судовых працэсаў або нарады ў Патні [Putney debates]. Стэнаграфіі мы абавязаныя, трэба адзначыць, не менш, чым друкарскаму варштату. Але гісторыя дыскурсу, які вядзе між сабой адукаваная публіка, — гісторыя тэксту, які звяртаецца да тэксту, — не дае нам таго, што можа прынесці гісторыя *langue* і *parole* ў сферы тае мовы, якая пераказваецца з вуснаў у вусны. Сведчанні гэтага знайсці нялёгка, але яны існуюць; і калі гісторык, пра якога я тут вяду гаворку, іх мае, ён будзе задавацца пытаннямі такога кшталту: якім чынам вусны дыскурс можа ўзаемадзейнічаць з друкаваным? дыскурс народнай культуры?— з дыскурсам культуры адукаванай? Застаючыся гісторыкам пісанага дыскурсу, ён пагодзіцца, што прадмет ягонага доследу — маўленне моцных і абмежаваных сацыяльных групаў; апроч таго, ён адзначыць, што ў іх дыскурсе, які трансфармуецца пад ціскам друку, палемікі і высокіх узроўняў самасвядомасці, публічнае маўленне выяўляецца ва ўсёй сваёй разнастайнасці. Дыскусіі сярод адукаваных прадстаўнікоў паноўнага класа даюць усё ж (пры ўсіх відавочных абмежаваннях) плённую крытыку каштоўнасцяў гэтага класа, якая шмат што тлумачыць, і наш гісторык, магчыма, наважыцца прысвяціць вывучэнню гісторыі такіх дыскусій большы час.

Тут мы сутыкаемся з яшчэ адным тыпам інструментарыю, які дазваляе вывучаць пашырэнне і інстытуцыяналізацыю моваў: гэты інструментарый — даследаванне матэрыяльных і сацыяльных структураў, праз якія мовы распаўсюджваюцца. Вельмі плённымі тут могуць аказацца такія метады, як *l'histoire du livre*. Са звестак пра тое, колькі

асобнікаў „Энцыклапеды“ было куплена, калі, дзе, а калі пашчасціць — то і кім, можна выснаваць нямала, але яны нічога не скажуць нам пра тое, ці чыталі пакупнікі самое выданне, і пагатоў пра тое, *як* яны яе чыталі; або, калі яны неяк рэагавалі на прачытанае, — як яны выказвалі свае рэакцыі; гэта нагадвае нам, што яны маглі купляць гэтае выданне з зусім іншымі мэтамі. Важнасць такога падыходу для гісторыка, чыё *métier* я апісваю, — у тым, што ён паглыбляе абазнанасць даследчыка пра камунікацыйныя прасторы, сферы і структуры, у якіх тварыліся і шырыліся палітычныя мовы. Даследчыку патрабуецца, нагадаю, нашмат лепшая геаграфія палітычнага маўлення ў ранне–мадэрнай Еўропе: трэба ўяўляць сабе тэрыторыі і межы, паводле якіх размяркоўваліся пэўныя мовы і карысталіся аўтарытэтам пэўныя парадыгмы, так што публічны дыскурс аднае *pays* (дзяржавы або правінцыі) мог спараджаць граматыку, метафізіку і ідэалогію, падобныя — а часцей непадобныя — да тых, якія спараджаліся іншым дыскурсам. Вядома, перспектыва тут дваістая; два аблічча меў нават англійскі Янус; палітычная культура была як інтэрнацыянальнаю, так і рэгіянальнаю, так што мы павінны ўлічваць і такую сітуацыю, якая мела месца, калі Гроцыя чыталі ў Лондане, Гобса — у Лейдэне, Лока — у Неапалі або Мантэск'ё — у Філадэльфіі. Але каб даваць рады такім праблемам, трэба рэфлексаваць не толькі пра гісторыю адной культуры ў параўнанні з другой, але і пра той факт, што палітычны дыскурс адбываецца ў разнастайных камунікацыйных прасторах і сітуацыях. Тыя, хто чытаў „Левіяфана“ ў Лондане ў 1650–я г., спаткаліся з ім у свеце Джорджа Томасана, у сітуацыі друкарскага і сацыяльнага выбуху і рэвалюцыйнага крызісу ў маўленні і свядомасці; тыя ж, хто чытаў яго ў Нідэрландах, спаткаліся з ім (насуперак усім доказам адваротнага) у інакшым, зусім не прыязным і нават не нейтральным асяроддзі універсітэцкай аўдыторыі, дзе яго чыталі і абмяркоўвалі на лаціне (я проста не ведаю, ці існаваў галандскі памфлетны дыскурс — англійскі то напэўна існаваў, — у якім Гобс адыгрываў бы нейкую ролю). Гэта азначае толькі тое, што „Левіяфан“ мае багата гісторый і ў працэсе тварэння і пашырэння моваў фігуруе ў разнастайных кантэкстах.

Гісторык тварэння і пашырэння палітычных моваў — гэта, паводле майго азначэння, гісторык узаемадзеянняў паміж *parole* і *langue*. *Parole* цікавіць яго пераважна тым, як яна ўздзейнічае на *langue*, як яна абумоўлівае трансфармацыі ў *langue*, — пры тым, што апошняя разглядаецца як інстытуцыянальная структура публічнага маўлення, якую шматлікія актары дыскурсіўнага сусвету могуць выкарыстоўваць дзеля розных і часта супярэчлівых мэтаў. Гэта не задавальняе і, думаю, ніколі цалкам не задаволіць тых, хто патрабуе ад гісторыка *parole* прадэман-

страваць функцыяванне прадмета ягонага даследавання ў дачыненні да канкрэтнай сітуацыі, укладзенай з сацыяльных адносінаў і гістарычных актаў: паказаць, як прадмет даследавання вынікае з гэтай сітуацыі, уплывае на яе і функцыянуе ў ёй. Але трэба асцерагацца памылкі, пры якой патрабуюць непасрэднага, калі хапае і апасродкаванага. Маўленне ўздзейнічае на людзей, тэкст — на чытачоў, але гэтая дзейнасць ажыццяўляецца часам у сінхраніі, праз дастаткова непасрэдныя рэакцыі слухачоў і чытачоў, а часам — у дыяхраніі, калі *parole* прымушае іх прыняць змены ва ўжыванні мовы, правілаў і наступстваў (непасрэдных або імплікаваных), якія цягне за сабой ужыванне пэўнай *langue*. Даследуючы тварэнне і пашырэнне моваў, мы маем справу з працэсамі, якія належыць разглядаць дыяхранічна, нягледзячы ні на якую сінхранічнасць учынкаў, з якіх гэтыя працэсы складаюцца. Мовы — магутныя пасярэдніцкія структуры; дзейнічаць у іх і ўздзейнічаць на іх азначае ўздзейнічаць на людзей. Магчыма, гэтае ўздзеянне само па сабе і непасрэднае, але яно адбываецца шляхам змены саміх сродкаў пасярэдніцтва, што нярэдка робіцца не наўпрост і патрабуе часу. Вядома, мы павінны даследаваць змены ў маўленні, бо яны выклікаюць змены і ў практыцы, але тут заўсёды існуе нейкі часавы інтэрвал, дастатковы, каб спарадзіць у выніку неаднароднасць.

*Пераклад Міколы Раманоўскага*

# Гісторыя «знізу»*

## Джым Шарп

18 чэрвеня 1815 г. паблізу сяла Ватэрлоа ў Бельгіі адбылася бітва. Кожнаму, хто вучыў гісторыю Вялікай Брытаніі, вядома, што ў выніку гэтай бітвы саюзніцкія войскі пад камандаю герцага Ўэлінгтана пры аказанай пазней, але вырашальнай падтрымцы прускіх сілаў на чале з Блюхерам перамаглі французскую армію Напалеона Банапарта, і гэткім чынам быў вырашаны далейшы лёс Еўропы. У наступныя пасля бітвы дні адзін з тых людзей, што дапамагалі вызначыць долю нашага кантынента, шараговец 51–га пяхотнага палка Ўільям Ўілер напісаў некалькі лістоў дадому сваёй жонцы: «Трохдзённая бойка скончаная. Я жывы–здаровы, і таго досыць. Цяпер пры кожным выпадку я буду апісваць дэталі вялікай падзеі — тое, што мне ўдалося назіраць на свае вочы... Калі надышла раніца 18 чэрвеня, можна было бачыць нас, наскрозь прамоклых ад дажджу, скарчанелых да калатуна... Калі я летась быў дома, Ты часцяком мяне лаяла за тое, што я палю, але мушу Табе сказаць: калі б тады ў мяне не было ладнага запасу тытуню, дык я проста аддаў бы Богу душу»[1].

Ўілер працягнуў апісанне бітвы пад Ватэрлоа для сваёй жонкі ў самых вострасюжэтных момантах: пра тое, як ён трываў агонь французскай артылерыі; пра тое, як ягоны полк адным залпам знішчыў аддзел кірасіраў праціўніка; пра тое, як ён убачыў горы спаленых целаў брытанскіх выбранцаў у руінах замка Ўгумон; пра тое, як марадзёр забраў грошы ў афіцэра французскіх гусараў, забітага жаўнерам з Ўілеравага падраздзела. У кнігах па гісторыі гаворыцца, што бітву пад Ватэрлоа выйграў Ўэлінгтан. У пэўным сэнсе, яе выйгралі таксама Ўільям Ўілер ды тысячы такіх, як ён.

Цягам апошніх двух дзесяцігоддзяў шматлікія сярод тых гісторыкаў, што даследуюць розныя гістарычныя перыяды, краіны і працэсы, усвядомілі той вялікі патэнцыял, перспектывы новых даследаванняў, якія раскрываюцца дзякуючы вывучэнню такіх крыніцаў, як ліставанне шарагоўца Ўілера са сваёй жонкай; і іх пачала моцна вабіць сама ідэя даследавання гісторыі з гледзішча, як у вышэйзгаданым выпадку, шарагоўца, а не высокапастаўленага вайсковага камандзіра. Традыцый-

* Jim Sharpe. History from Below // Burke P. (ed.) New Perspectives on Historical writing. Oxford, 1992. P. 24—41.

[1] The Letters of Private Wheeler 1809—1828 (ed. B.H.Liddell Hart). London, 1951, 168—72.

на, з часоў антычнасці, гістарычная навука разглядалася як расповед пра чыны знакамітых людзей. Цікавасць да больш дэталёвага вывучэння сацыяльнай ды эканамічнай гісторыі выявілася ў XIX ст., але галоўным аб'ектам гістарычнай навукі па–ранейшаму заставалася палітычная дзейнасць элітаў. Натуральна, існавала пэўная колькасць асобаў, што была незадаволеная гэткім станам рэчаў, і яшчэ ў 1936 г. Бэртальт Брэхт у сваім вершы «Пытанні чытача–рабочага», напэўна, з гранічнай яснасцю сфармуляваў наяўнасць патрэбы ў альтэрнатыўным поглядзе на тое, што можна назваць «гісторыяй славутых асобаў»[2] . І ўсё–такі, відаць, было б справядліва зазначыць, што па–сур'ёзнаму пытанне наконт ператварэння гэтай ідэі ў рэальнасць не было пастаўлена аж да 1966 г., калі Эдвард Томпсан апублікаваў артыкул пра «погляд на гісторыю знізу» ў літаратурным дадатку да газеты *The Times*[3]. Пасля згаданай публікацыі канцэпцыя «погляду на гісторыю знізу» зрабілася папулярнай тэмай для абмеркавання сярод гісторыкаў. У 1985 г. быў апублікаваны зборнік артыкулаў пад назваю «Гісторыя: погляд знізу»[4], а ў 1989 г. у новым выданні кнігі, у якой асвятлялася гістарыяграфія грамадзянскіх войнаў у Англіі і наступнага перыяду часу, утрымліваўся раздзел пра вытокі падзеяў эпохі, названы «Гісторыя: погляд знізу»[5]. Гэткім чынам, цягам апошніх 20—30 гадоў было знойдзена слова–азначэнне для таго погляду на мінулае, якое ўтрымліваецца ў лістах Ўільяма Ўілера.

Гэты погляд знайшоў імгненны водгук сярод гісторыкаў, заклапочаных праблемай пашырэння межаў сваёй дысцыпліны, знаходжан ня новых сфераў даследаванняў і, перш за ўсё, тым, каб выкарыстаць гістарычны досвед тых людзей, чыё існаванне гэтак часта ўвогуле ігнаравалася, лічылася само сабою зразумелым або пабежна згадвалася ў кантэксце галоўных падзеяў гісторыі. Нават цяпер у курсе гісторыі, што выкладаецца ў старэйшых класах брытанскіх гімназіяў ды ва універсітэтах (і, можна меркаваць, што і ў аналагічных установах па ўсім свеце) досвед масаў людзей у мінулым усё яшчэ разглядаецца або як неда-

[2] Brecht B. Poems (ed. Willett J. and Manheim R.). London, 1976, 252—3. (Беларускі пераклад верша гл. у: Брэхт Б. На шалях праўды. Мінск, 1988. С. 55—56).

[3] Thompson E.P. History from Below // *The Times Literary Supplement*, 7, April 1966, 279–80. Абмеркаванне крыніцаў Томпсанавых высноваў гл. у: Kaye H.J. The British Marxist Historians: an Introductory Analysis. Cambridge, 1984.

[4] History from below: Studies in Popular Protest and Popular Ideology (ed. Krantz F.). Oxford, 1988. Першапублікацыя зборніка на французскай мове: Манрэаль, 1985.

[5] Richardson R.C. The Debate on the English Revolution Revisited. London, 1988, chapter 10, «The twentieth Century: History from Below».

ступны для вывучэння, або як неістотны, або ён увогуле не разглядаецца ў якасці гістарычнай праблемы, ці, у самым лепшым выпадку, на простых людзей існуе погляд як на «адну з праблемаў, з якой мусіў сутыкацца ўрад»[6]. Адваротны пункт погляду быў з усёй выразнасцю сфармуляваны Эдвардам Томпсанам у 1965 г. у прадмове да адной з галоўных прац па англійскай гісторыі:

«Я хацеў бы выбавіць няшчаснага панчошніка, жняца–лудыта, „устарэлага» ткача за кроснамі, „утапічнага» рамесніка і нават уведзеных у зман наступнікаў Джааны Саўткот ад залішняй паблажлівасці з боку іх нашчадкаў. Іхнія прылады працы ды традыцыі могуць адміраць. Іх варожае стаўленне да індустрыяльнай рэвалюцыі можа выглядаць рэтраградным. Іхнія камунітарныя ідэалы могуць здавацца фантазіяй. Але ж яны жылі ў тыя часы вострых сацыяльных закалотаў, а мы — не»[7].

У сувязі з гэтым Томпсан не толькі вызначыў агульную праблему ўзнаўлення досведу «простага» чалавека. Ён таксама засведчыў неабходнасць высілкаў для разумення людзей мінулага часу, у той меры, у якой гэта магчыма для сучаснага гісторыка з гледзішча яго ўласнага досведу і ягонай уласнай рэакцыі на такі досвед.

Мэтай напісання гэтага нашага артыкула з’яўляецца даследаванне — у той ступені, у якой гэта магчыма ў дачыненні да таго, што можа разглядацца як пэўная колькасць ключавых апублікаваных працаў — пэўнага патэнцыялу і праблемаў, што паўстаюць пры напісанні «погляду знізу» на гісторыю. Пры гэтым намі ўсведамляецца існаванне дзвюх надта розных — а ў значнай ступені і невырашальных — задачаў. Першая з іх палягае ў тым, каб пазнаёміць чытача з тым велізарным аб’ёмам тэматыкі, які паўстаў у выніку працы над тым, што можа быць, агулам кажучы, апісана як падыход да вывучэння «гісторыі знізу». Дыяпазон гэтай тэматыкі распасціраецца ад узнаўлення досведу сярэднявечных пірэнейскіх аўчароў да вывучэння сведчанняў нядаўніх індустрыяльных рабочых, чые ўспаміны фармуюць касцяк вуснай гісторыі. Другая наша задача палягае ў тым, каб адасобіць некалькі відавочных канцэптуальных ды ідэалагічных праблемаў, што ўзнікаюць пры фармаванні навуковага погляду на гісторыю «знізу». Акрэсліванне такога падыходу да гісторыі з’яўляецца шматабяцальным, але, як гэта часта бывае ў падобных выпадках, праблемы, звязаныя з вывучэннем мінуўшчыны, выявілі сябе больш складанымі, чым гэта здавалася напачатку.

Перспектыва стварыць погляд на гісторыю знізу, вывесці досвед большыні насельніцтва як з сітуацыі яго суцэльнага адмаўлення з боку

[6] Thompson, History from Below, 279.

[7] Thompson E.P. The Making of the English Working Class. London, 1965, 12—13.

гісторыкаў, гэтак і пазбавіць яго «паблажлівасці з боку нашчадкаў», паводле Томпсана, у сувязі з вышэйсказаным з'яўляецца прывабнай. Але, як мы ўжо зазначылі, вывучэнне гісторыі ў гэткі спосаб сутыкаецца з пэўнай колькасцю цяжкасцяў. Тое, што здавалася відавочным, перастае быць такім. Варта толькі прачытаць Томпсанава даследаванне перыяду фармавання рабочага класа ў Англіі, каб усвядоміць сабе, што — як бы крытычна ні ставіцца да ягонай інтэрпрэтацыі гэтай тэмы — цяжка сумнявацца ў тым, што яно заснаванае на вельмі вялікай і багатай зместам колькасці крыніцаў. Увогуле, аднак, чым далей гісторыкі пры рэканструяванні досведу простага люду імкнуцца зазірнуць у мінуўшчыну, тым болей абмежаванаю робіцца ступень даступнасці крыніцаў у іхнім распараджэнні. Як мы ўбачым далей, выдатная праца была зроблена на падставе такіх матэрыялаў, што адносяцца да ранейшых перыядаў гісторыі, але рэальнай праблемай застаецца тое, што дзённікі, мемуары ды палітычныя маніфесты, з якіх можна ўзнавіць жыцці і памкненні ніжэйшых слаёў, надта скупыя, калі гаворка ідзе пра гістарычны перыяд да канца XVIII ст. — калі не браць пад увагу некалькі адрэзкаў часу (напрыклад, 1640–я — 1650–я г. у Англіі). Па–другое, паўстае шэраг праблемаў да канцэптуалізацыі тэмы: дзе дакладна мусіць быць размешчанае гэтае «знізу» і што трэба будзе рабіць з поглядам на гісторыю «знізу», калі яна будзе некалі напісаная?

Складанасці, якія вынікаюць з пастаноўкі пытання: што ж за гісторыя ўзнікае «ўнізе», могуць быць выразна праілюстраваныя на прыкладзе адной з галінаў сацыяльнай гісторыі, якая бурна развіваецца ў апошнія гады — вывучэнні народнай культуры Еўропы ранняга Новага часу. Наколькі мы можам бачыць — калі не разглядаць яе як асаблівага кшталту астаткавую катэгорыю — ніводзін з гісторыкаў яшчэ не даў яснай дэфініцыі таго, чым жа была названая культура ў згаданую эпоху[8]. Галоўнай прычынай гэтага ёсць тое, што «народ», нават у далёкім ад нас шаснаццатым стагоддзі, утвараў сабою даволі разнастайную групу, падзеленую эканамічным расслаеннем, дамінавальнымі культурамі і полам. З гэтых меркаванняў нядзейсным з'яўляецца якое–кольвечы спрошчанае вызначэнне таго, *што* можа значыць слова «ўнізе» ў большыні гістарычных кантэкстаў[9].

[8] Гл., напрыклад, абмеркаванне гэтай праблемы ў: Burke P. Popular Culture in Early Modern Europe. London, 1978, 23—64; (Беларускі пераклад гэтай працы гл.: Бэрк П. Народная культура Эўропы ранняга Новага часу. Мінск, 1999. С.20—21); і Reay B. Introduction: Popular Culture in Early Modern England // Popular Culture in Seventeenth–Century England (ed. Reay B.). London, 1985.

[9] Шляхам падыходу да вывучэння гэтай праблемы ёсць вывучэнне досведу розных элементаў ніжэйшых слаёў грамадства, часам праз адасобленае вывучэнне канкрэтнай падзеі. З працаў, дзе мае месца такі падыход, абедзьве з

Пытанне большай значнасці або мэтаў выкарыстання погляду на гісторыю «знізу» — гэткае самае важнае. Найлепш гэтыя праблемы маглі б быць унавочненыя са спасылкаю на працы тых гісторыкаў, што працуюць у рэчышчы марксісцкай традыцыі або традыцыі брытанскай лейбарысцкай гісторыі. Відавочна, што ўнёсак марксісцкіх гісторыкаў — тут, як і ўсюды — быў надзвычайны: насамрэч, адзін філосаф–марксіст сцвярджаў, што ўсе тыя, хто піша гісторыю «знізу», робяць гэта ў ценю Марксавай канцэптуалізацыі гісторыі [10]. Хоць гэткія сцвярджэнні могуць выглядаць крыху перабольшанымі, трэба прызнаць, што навукоўцы, якія займаюцца сацыяльнай гісторыяй, павінны аддаць даніну Марксавым ідэям ды гісторыкам–марксістам; і, вядома, я не маю намеру далучацца да моднай цяпер схільнасці выступаць супраць адной з найбагацейшых у свеце інтэлектуальных традыцыяў. І ўсё ж нам здаецца, што гісторыкі–марксісты — перш чым прадстаўнікі розных традыцый стварэння сацыяльнай гісторыі выказалі меркаванне пра маштабнасць аб'екту яе вывучэння — прыхіліліся да тэндэнцыі абмежавання вывучэння гісторыі «знізу» тымі эпізодамі і грамадскімі рухамі, праз якія масы людзей былі ўцягнутыя ў адкрытую палітычную барацьбу або ў вядомыя сферы эканамічнай дзейнасці. Хоць у сваёй працы 1966 г. Томпсан імкнуўся пераступіць праз названыя абмежаванні, яны ўсё ж былі зыходным пунктам гэтага яго даследавання. Гістарычнае абгрунтаван не гэткага спосабу мыслення было пазней апісана Эрыкам Хобсбаўмам (Eric Hobsbawm). Хобсбаўм аспрэчваў само дапушчэнне, нібыта тое, што ён называе «гісторыяй просталюдзінаў» («grassroots history»), рэальна не выяўлялася да 1789 г. ці прыблізна таго часу. «Гісторыя простага люду як адмысловая галіна вывучэння, — пісаў ён, — пачынаецца з гісторыі масавых рухаў васемнаццатага стагоддзя... Бо зацікаўле насць марксістаў, або — калі сказаць больш агульна — сацыялістаў у гісторыі просталюдзінаў мацнела па меры росту рабочага руху». Як ён вызначыў далей, гэтая тэндэнцыя «сям–там моцна зашорыла вочы сацыялістычным гісторыкам» [11].

Пэўныя аспекты прыроды ўзнікнення згаданых шораў на вачах гісторыкаў былі асветленыя ў апублікаванай у 1957 г. кнізе Рычарда Хогарта

якіх ёсць істотным унёскам у гісторыю, разгляданую «знізу», гл.: Davis N.Z. Society and Culture in Early Modern France. London, 1975; Sabean D. Power in the blood: Popular Culture and Village Discourse in Early Modern Germany. Cambridge, 1984.

[10] Callinicos A. The Revolutionary Ideas of Karl Marx. London, 1983, 89. Варта, наадварот, зазначыць, што няма падставаў меркаваць, чаму марксісцкі падыход не можа мець вынікам вельмі эфектыўнае даследаванне гісторыі «зверху»: гл. каментары ў Anderson P. Lineages of the Absolutist State. London, 1979, 11.

[11] Hobsbawm E.J. History from below // History from Below (ed. Krantz), 15.

пад назвай «Карысць ад пісьменнасці» (Richard Hoggart. *The Uses of Literacy*), да якой можна было б дадаць падзагаловак «Разбурэнне англійскага рабочага класа». Ведучы размову пра розныя падыходы да вывучэння рабочага класа, Хогарт выказаў засцярогі да чытачоў гісторыяў рухаў рабочага класа. Як і шмат хто яшчэ, Хогарт пасля прачытання многіх з гэтых працаў вынес уражанне, «што іх аўтары пераацэньваюць тую ролю, якую палітычная дзейнасць займала ў жыцці рабочага класа, што яны не заўсёды адэкватна разумеюць асновы гэтага жыцця»[12]. У сваёй працы 1966 г. Томпсан адзначыў адыход ад ранейшай канцэнтрацыі ўвагі з боку гісторыкаў працы на інстытуцыях працы і на выпрабаваных лідэрах ды ідэалогіі, хоць адначасова ім было заўважана, што названы працэс меў тэндэнцыю да выключэння з гісторыі працы яе пэўных істотных кампанентаў[13]. Хобсбаўм, разглядаючы пытанне ў святле пашырэння аб'екта вывучэння гісторыі працы, здолеў зрабіць на гэтую тэму больш грунтоўныя каментары. Праблема палягала ў тым (як меркаваў Хогарт), што гісторыкі рабочага руху — марксісцкія або іншыя — вывучалі «не ўвесь просты люд, а толькі той просты люд, які мог лічыцца папярэднікам названага руху — да прыкладу, чартысты, трэйд–юніяністы, рабочыя актывісты». Гісторыя рабочага руху ды іншых інстытуцыяналізаваных утварэнняў, сцвярджаў ён далей, не павінна «замяніць сабою гісторыі самога простага люду»[14].

Іншае самаабмежаванне, створанае галоўнай плынню гісторыі працы ў дачыненні да погляду на гісторыю «знізу», звязанае з перыядам часу, які аналізуецца. Той, хто знаёмы з ранейшай працай Томпсана і пазнейшай — Хобсбаўма, можа мець уражанне, што погляд на гісторыю «знізу» можа выказвацца толькі ў дачыненні да эпохі пасля Французскай рэвалюцыі. Як намі ўжо было адзначана, Хобсбаўм адчуваў, што менавіта развіццё масавых рухаў у канцы XVIII ст. прыцягнула ўвагу даследчыкаў да магчымасці стварэння погляду на гісторыю знізу; далей жа ён працягваў сцвярджаць, што «Французская рэвалюцыя, найперш пасля таго як якабінства было адроджана ў сацыялізме, а Асветніцтва — у марксізме, стала выпрабавальным палігонам для гэткага кшталту гісторыі». Ставячы неўзабаве пасля гэтага пытанне, «чаму ў такой вялікай ступені гісторыя просталюдзінаў мела сваім падмуркам вывучэнне Французскай рэвалюцыі», Хобсбаўм спасылаўся на масавыя акцыі насельніцтва і архівы, створаныя «шматлікай і рупнай бюракратыяй», якая зафіксавала на паперы акцыі простага люду, а потым занялася класіфі-

[12] Hoggart R. The Uses of Literacy: Aspects of Working–Class Life with Special Reference to Publications and Entertainments. Harmondsworth, 1958, 15.
[13] Thompson, History from Below, 280.
[14] Hobsbawm, Some Reflections, 15.

каваннем і ўпарадкаваннем сваіх запісаў «на карысць гісторыкаў». Гэтае дакументаванне стварыла магчымасць узнікнення вялікай колькасці пазнейшых даследаванняў, і таксама было, як зазначыў Хобсбаўм, «лёгка чытэльнае, у адрозненне ад неразборлівых почыркаў аўтараў з шаснаццатага або семнаццатага стагоддзяў»[15].

Погляд на гісторыю знізу, аднак, не проста не быў выкладзены ў дачыненні да вядомай сучаснай палітычнай гісторыі тымі гісторыкамі, што няздольныя справіцца з палеаграфічнымі цяжкасцямі. Насамрэч, нягледзячы на тое, што канцэпцыя гісторыі «знізу» ў сваіх найважней шых момантах была распрацаваная англійскімі гісторыкамі–марксістамі, якія ў межах традыцыйных храналагічных рамак пісалі пра гісторыю працы ў Вялікай Брытаніі, усё–такі, напэўна, кніга, у якой утрымліваец ца гэткае бачанне мінулага і якая мела найбольшы ўплыў, была напісана французскім навукоўцам, што зрабіў аб'ектам свайго разгляду сярэднявечную пірэнейскую сялянскую супольнасць. Кніга Эманюэля Ле Руа Лядуры «Манталю», упершыню апублікаваная ў Францыі ў 1975 г., прыцягнула больш увагі, лепш разыходзілася і мела шырэйшы чытацкі водгук, чым бальшыня працаў па сярэднявечнай гісторыі[16]. Вядома, яна выклікала і пэўную крытыку з боку навукоўцаў: былі пастаўленыя пэўныя пытанні пра метадалогію даследавання, ужытую Ладзюры, ды яго падыход да скарыстаных ім крыніцаў[17]. Гісторыкі, што вывучаюць свой прадмет «знізу», натуральна, павінны быць гэткімі самымі дакладнымі ў гэтых пытаннях, як і любыя іншыя гісторыкі, і «Мантайю» ўяўляе сабою штосьці кшталту арыенціра пра напісанні гісторыі з гэтага гледзішча. Як падкрэсліваў аўтар названай кнігі, «хоць маюцца апісальныя гістарычныя працы пра сялянскія супольнасці, але нам даступна зусім няшмат матэрыялу, які можна разглядаць як сведчанне беспасярэдне саміх сялян»[18]. Ле Руа Лядуры абышоў гэтую праблему, засна-

[15] Тамсама, с. 16. Нягледзячы на скептыцызм, які можна мець у дачыненні да унікальнага характару даробку гісторыкаў Французскай рэвалюцыі, застаецца зразумелым, што працы, дзе гаворка ідзе пра названы перыяд, сталі важкім унёскам у кананічную гісторыю «знізу», пачынаючы ад такіх наватарскіх працаў, як: Lefebvre G. Les Paysans du Nord. Paris, 1924; idem, The Great Fear of 1789. Paris, 1932 (ангельскі пераклад, New York, 1973), і аж да апошняй працы Рычарда Коба (Richard Cobb).

[16] Па–ангельску выйшла як: Montaillou: Cathars and Catholics in a French Village 1294–1324. London, 1978.

[17] Глядзі напрыклад: Boyle L.E. Montaillou Revisited: Mentalité and Methodology // Pathways to Medieval Peasants (ed. Raftis J.A.). Toronto, 1981; Rosaldo R. From the Door of his Tent: the Fieldworker and the Inquisitor // Writing Culture: the Poetics and Politics of Ethnography (ed. Clifford J. and Marcus G.). Berkeley, 1986.

[18] Ladurie, Roy Le. Montaillou, vi.

ваўшы сваё даследаванне на інквізітарскіх нататках, зробленых біскупам Пуацье Жакам Фурнье пад час яго расследаванняў ерасі ў перыяд паміж 1318 і 1325 г. Але, як бы тое ні было, праца «Мантайю» прадэманстравала не толькі тое, што погляд на гісторыю знізу можа зацікавіць чытачоў наогул, але і таксама тое, што пэўныя гатункі афіцыйных запісаў могуць быць скарыстаныя для даследавання ментальнасці і матэрыяльных дачыненняў мінулых пакаленняў.

Насамрэч, даследчыкі сацыяльнай ды эканамічнай гісторыі ўсё ў большай ступені пачынаюць выкарыстоўваць тыя дакументы, чыя асаблівая праўдзівасць у якасці гістарычных сведчанняў палягае ў тым, што іх складальнікі знарок і свядома не ставілі сабе за мэту рабіць свае запісы для нашчадкаў. Можна сабе ўявіць, што шмат хто з гэтых складальнікаў дакументаў быў бы ўражаны, а нават, магчыма, устрывожаны выкарыстаннем сучаснымі гісторыкамі тых судовых справаў, прыходскіх рэгістрацыйных кніг, тастамантаў ды манарыяльных актаў перадачы зямлі, якія былі імі складзеныя. Гэткая верагоднасць згаданых дакументаў можа быць у неабходных выпадках выкарыстаная пры разглядзе адкрытых акцыяў і публічна выказаных ідэяў або пры даследаванні няяўных дапушчэнняў, а таксама з мэтай забеспячэння колькасна грунтоўнага дакументавання досведу мінулага. Як зазначаў Эдвард Томпсан, «людзі абкладаліся падаткамі: спісы збору падаткаў з кожнага котлішча былі скарыстаныя не даследчыкамі гісторыі падаткаабкладання, а гісторыкамі дэмаграфіі. Людзі абкладаліся царкоўнай дзесяцінаю: пазямельныя кнігі выкарыстоўваліся ў якасці сведчанняў гісторыкамі дэмаграфіі. Людзі былі звычайнымі арандатарамі або трымальнікамі права арэнды: іх дакументы аб тэрмінах арэнды далучаліся да справаў манарыяльнага суда: на гэтыя важныя крыніцы маецца ўсё больш і больш попыт з боку гісторыкаў, не толькі дзеля знаходжання імі нейкіх новых доказаў, але і дзеля распачынання дыскусіяў, пад час якіх ставяцца новыя пытанні»[19].

Як відаць з вышэйсказанага, гэткія матэрыялы вельмі разнастайныя. У пэўных выпадках, як гэта мела месца ў дачыненні да матэрыялаў, на якіх грунтуецца кніга «Манталю», яны дазваляюць аднавіць выказванні людзей амаль гэтаксама дакладна, як тое робяць гісторыкі, што карыстаюцца магнітафонным запісам вусных выказванняў. У сваёй бальшыні вусныя крыніцы выкарыстоўваюцца гісторыкамі, якія робяць спро-

[19] Thompson E.P. The Poverty of Theory and Other Essays. London, 1978, 219—20. Пра больш дэталёвае абмеркаванне праблемы запісаў, на якіх даследчыкі гісторыі Англіі маглі б угрунтоўваць погляд на гісторыю знізу, гл.: Macfarlane A., Harrison S., Jardine Ch. Reconstructing Historical Communities. Cambridge, 1977.

бы вывучэння досведу простага люду, хоць, вядома ж, няма нейкай відавочнай прычыны сцвярджаць, што такі гісторык не павінен занатоўваць успаміны графіняў, плутакратаў ды біскупаў у той ступені, як і ўспаміны гарнякоў ды фабрычных рабочых[20] . У кожным разе гісторык, які збірае вусныя сведчанні, мае відавочныя праблемы ў апытанні людзей, якія або памерлі да таго, як іх паказанні былі запісаныя, або іх сведчанні былі страчаныя для наступнікаў, і наўпроставыя звесткі гэткага кшталту, якія яны здольныя атрымаць, адмаўляюцца ў дачыненні да гісторыкаў ранейшых часоў. З іншага боку, як мы ўжо выказваліся на гэты конт, існуюць крыніцы, што дазваляюць гісторыкам такіх эпохаў вывучаць глыбей досвед ніжэйшых слаёў грамадства.

Ле Руа Лядуры выкарыстаў адну такую крыніцу — нататкі Жака Фурнье. Іншая праца, што дэманструе, якім чынам гэты тып нататак прадстаўніка правасуддзя можа быць скарыстаны для стварэння іншага кшталту гісторыі «знізу», выйшла ў 1976 г.; гэта было італьянскае выданне кнігі Карла Гінзбурга (Carlo Ginzburg) «Сыр і чарвякі»[21]. Мэтаю Гінзбурга было не рэканструяванне ментальнасці ды ладу жыцця сялянскай супольнасці, а хутчэй даследаванне інтэлектуальнага і духоўнага свету пэўнай асобы — млынара, чыё імя было Даменіка Скандэла (мянушка Мэнок'ё), народжанага ў 1532 г.; гэты чалавек жыў у Фрыулі (паўночна–ўсходняя Італія). Мэнок'ё зрабіўся ахвярай падкопаў інквізіцыі (урэшце, ён быў пакараны смерцю, хутчэй за ўсё ў 1600 г.), і вялікі том дакументаў, прысвечаных дадзенай справе, дазволіў Гінзбургу рэканструяваць шмат якія кампаненты сістэмы ягонай веры. Сама па сабе гэтая кніга ёсць прыкметным дасягненнем; пры гэтым Гінзбурга ва прадмова ўтрымлівае карысную дыскусію пра канцэптуальныя ды метадалагічныя праблемы рэканструявання культуры падпарадкаваных класаў у даіндустрыяльным свеце. У прыватнасці, ён сцвярджаў, што «з таго факта, што нейкая крыніца не ёсць *аб'ектыўнаю* (у дадзеным пытанні, ані не ёсць таксама пералікам праблемаў), не вынікае, што яна бескарысная... Карацей кажучы, нават скупыя, фрагментарныя ды невыразныя дакументы могуць знайсці

[20] Пэўныя ўражанні, што закранаюць сферу зацікаўлення гісторыкаў, якія запісваюць вусныя сведчанні, могуць быць здабытыя ў выніку прачытання рэгулярных справаздачаў пра ход гэтай працы ў перыядычным выданні *Oral History: the Journal of the Oral History Society*, якое выходзіць з 1972 г.

[21] Выйшла па–ангельску як: The Cheese and the Worms: the Cosmos of a Sixteenth–Century Miller (trans. Tedeschi A. and J.). London, 1980. Іншая праца Гінзбурга, Ginzburg. The Night Battles: Witchcraft and Agrarian Cults in the Sixteenth and Seventeenth Centuries. London, 1983. Італьянскае выданне — 1966, таксама паказвае, якім чынам нататкі інквізітараў могуць быць выкарыстаныя для высвятлення характару народнай веры.

добры ўжытак»[22] , і адпаведнае вывучэнне асобаў, праведзенае на такім узроўні, тым больш каштоўнае, чым болей агульнымі з'яўляюцца сінтэтычныя падыходы да сацыяльнай гісторыі. Праблема, натуральна, застаецца ў дачыненні да тыповасці такіх асобаў, але, пры належнай увазе да гэтага, працы гэткага кшталту на дадзеную тэму могуць ва ўсё большай ступені набліжаць нас да сутнасці праблемы, што вырашаецца.

Але ў сваіх спробах сфармаваць погляд на гісторыю знізу гісторыкі выкарыстоўвалі афіцыйныя і паўафіцыйныя дакументы, іншыя, чым паасобныя багатыя крыніцы. Адным з такіх прыкладаў ёсць Барбара А. Ханаўолт, якая найактыўнейшым чынам выкарыстоўвала адну з найгалоўнейшых раней занядбаных крыніц англійскай сацыяльнай гісторыі, пратакол дазнання коранера (следчага, што вядзе справы аб гвалтоўнай смерці. — *Заўвага перакладчыка* ), пры рэканструяванні ладу жыцця сярэднявечнай сялянскай сям'і[23]. Гэтая даследчыца аспрэчвае сцвярджэнне, нібы дадзеныя дакументы пазбаўленыя ўхілаў, знойдзеных ў дакументах каралеўскіх, царкоўных або манарыяльных судоў, і робіць важную выснову (калі браць пад увагу вышэй абмеркаваную тэму), што асаблівасці матэрыяльнага існавання і сямейнага жыцця, зафіксаваныя ў гэтых дакументах, неістотныя ў дачыненні да галоўнай мэты, з якою рабіліся гэтыя нататкі, і таму не было ніякай неабходнасці іх скажаць. Як гэта часта бывае, калі маеш справу з афіцыйнымі паперамі, яны аказваюцца найбольш карыснымі пры ўжыванні іх дзеля мэтаў, пра якія іх складальнікі ніколі не мелі ўяўлення. Разам з іншымі гатункамі дакументаў Барбара Ханаўолт выкарыстала пратаколы дазнанняў дзеля стварэння ўяўлення пра матэрыяльнае асяроддзе, эканоміку хатняй гаспадаркі, перыяды жыццёвых цыклаў, спосабы гадавання дзяцей ды іншыя бакі штодзённага жыцця сярэднявечных сялян. У пэўным сэнсе яе праца дэманструе стратэгію, альтэрнатыўную той, якой прытрымліваліся Ле Руа Лядуры ды Гінзбург: тут у большай ступені мы бачым дэталёвы аналіз вялікай колькасці дакументаў, чым стварэнне даследавання канкрэтнай падзеі, заснаванага на адной, надзвычай багатай крыніцы. Але бясспрэчным вынікам гэтага з'яўляецца тое, што праз гэта было прадэманстравана, якім чынам усё–такі іншы гатунак афіцыйнай дакументацыі можа быць выкарыстаны для фармавання погляду на гісторыю знізу.

[22] Ginzburg. The Cheese and the Worms, xvii.

[23] Hanawalt B.A. The Ties that Bound: Peasant Families in Medieval England. New York–Oxford, 1986. Больш сціслае апісанне мэтаў працы Б.Ханаўолт можна знайсці ў: idem, Seeking the Flesh and Blood of Manorial Families // Journal of Medieval History. 14 (1988), 33—45.

Гэтае пашырэнне храналагічных межаў гісторыі, разгляданай знізу, і імкненне прыцягнуць больш шырокі спектр гістарычных з'яваў, чым палітычныя акцыі ды палітычныя рухі масаў, прывяло да пошуку іншых парадыгмаў, чым тыя, што прапаноўваліся традыцыйным марксізмам або даўнейшай канцэпцыяй гісторыі працы. Істотнай з'яўляецца патрэба ў дыялогу з марксісцкімі даследчыкамі, але факт застаецца фактам: ужыванне нават такога базавага паняцця марксізму, як клас, у дачыненні да даіндустрыяльнага грамадства выглядае праблематычным; пры гэтым цяжка ўяўляецца выразна марксісцкая пазіцыя наконт працэсу шаснаццатага стагоддзя ў Ёркшыры аб дыфамацыі або наконт Ўілтшырскіх падзеяў XVII ст. На жаль, пошукі альтэрнатыўнай парадыгмы (хутчэй за ўсё яны толькі ледзьве пачаліся) пакуль што дасягнулі зусім невялікага поспеху. Шмат хто з гісторыкаў, найперш у кантынентальнай Еўропе, адчуў на сабе вялікі ўплыў французскай школы «аналаў»[24]. Без усялякага сумневу, шмат якія з разнастайных даследаванняў, створаных аўтарамі, што працавалі ў традыцыях школы «аналаў», не толькі паглыбілі нашы веды пра мінулае, але і зрабілі велізарныя метадалагічныя адкрыцці, прадэманстраваўшы, якім чынам па–новаму можна выкарыстоўваць звыклыя гатункі дакументаў і якім чынам можна сфармуляваць новыя пытанні пра мінулае. Болей за тое, праясненне прадстаўнікамі названай школы канцэпцыі ментальнасці (*mentalité*) аказала неацэнную дапамогу гісторыкам, што рабілі спробы рэканструя вання разумовага свету прадстаўнікоў ніжэйшых слаёў грамадства. Мы, аднак, узялі б на сябе смеласць сцвярджаць, што найвялікшы ўнёсак у развіццё метадалогіі школы «аналаў» палягаў у дэманстраванні спосабу стварэння кантэксту, у межах якога можа быць напісаная гісторыя «знізу». Да прыкладу, веданне дынамікі руху цэнаў на збожжа ў канкрэтнай супольнасці цягам пэўнага перыяду часу істотным чынам дапамагае зразумець жыццё беднага люду: аднак гэткая выяўленая ў лічбах фактура не можа стварыць поўную карціну.

Іншыя даследчыкі заняліся пошукамі патрэбнай парадыгмы ў сферах сацыялогіі ды антрапалогіі. У гэтых выпадках таксама дасягненні тых, хто мае добрую падрыхтоўку і тонкае адчуванне, былі вялікімі, хоць нават тут пэўныя праблемы заставаліся; іншым жа давялося сутыкнуцца з няўдачамі. Сацыялогія (з гэтым нехта можа і спрачацца) мае больш істотнае значэнне для гісторыкаў індустрыяльнага грамадства, хоць некаторыя з яе гіпотэзаў не заўсёды з вялікай ахвотай былі ўжываныя ў дачыненні да таго кшталту даследаванняў, якім на практыцы аддаюць перавагу тыя, хто займаецца стварэннем погляду на гісто-

[24] Найлепшыя ўводзіны ў працу гэтай школы гл.: Stoianavitch T. French historical method: the Annales Paradigm. Ithaca—London, 1976.

рыю знізу[25]. Антрапалогія прываблівае да сябе пэўную колькасць гісторыкаў, што займаюцца Сярэднявеччам ды пачаткам Новага часу, хоць і ў гэтым выпадку не ўсё дагэтуль атрымлівалася беспраблемным[26]. Паасобныя з названых праблемаў асвятляюцца ў працы Алана Макфарлэйна, прысвечанай працэсам над чараўнікамі ў Эсэксе за часы Цюдораў і Сцюартаў[27]. Макфарлэйн меў намер напісаць тое, што можа быць акрэсленым як погляд знізу на гісторыю чараўніцтва. У дачыненні да знакамітых асобаў спробу распрацоўкі гэтай тэмы раней зрабіў Х'ю Трэвар–Роўпэр, які ў сваёй манаграфіі пра гісторыю чараўніцтва ў Еўропе ранняга Новага часу абвясціў, што яго не цікавіць «проста вера ў чараўнікоў: гэтая звычайная лёгкавернасць вясковага люду, якую антраполагі фіксуюць для ўсіх часоў і ў кожным месцы»[28]. Макфарлэйн, наадварот, захапіўся «проста верай у чараўнікоў» і стварыў кнігу, што стала паваротным пунктам у нашым разуменні гэтай тэмы. Адным з найбольш уражвальных момантаў у ягоным праекце было ўжыванне вынікаў антрапалагічных доследаў у дачыненні да гістарычнага матэрыялу. Вынікам было паглыбленне нашага разумення функцыі чараўніцтва ў сельскай грамадзе і таго, як найчасцей абвінавачванні ў вядзьмарстве прадукавалі ся фактычна выбудаванай сістэмай міжасабовых канфліктаў. Але ўсё–такі і антрапалагічны падыход мала дапамагаў чытачам у разуменні значна большага дыяпазону актуальнасці дадзенай тэмы па–за вясковай супольнасцю: чаму магло здарыцца так, што ў 1563 г. у парламенце быў прыняты закон, які дазваляў пакаранне за шкоднае вядзьмарства і чаму ў 1736 г. быў прыняты іншы заканадаўчы акт, згодна з якім легальнае пакаранне за чараўніцтва рабілася немажлівым. Мікрагістарыч ны падыход, якому аддаецца перавага пры выкарыстанні антрапалагі чных мадэляў, можа лёгка затушаваць больш агульную праблему таго, дзе

[25] Агульнае абмеркаванне суадносінаў абедзвюх дысцыплінаў можна знайсці ў: Burke P. Sociology and History. London, 1980; Abrams Ph. Historical Sociology. Shepton Mallet, 1982.

[26] Дзве класічныя працы, прысвечаныя разгляду мажлівых сувязяў паміж гісторыяй і антрапалогіяй, гэта: Evans–Pritchard. Anthropology and History. Manchester, 1961; Thomas K. History and Anthropology // *Past and Present*. 24 (1963), 3—24. ... Thompson E.P. Anthropology and the Discipline of Historical Context // *Midland History*. 3 no. 1 (Spring 1972), 41—56.

[27] Macfarlane A. Witchcraft in Tudor and Stuart England: a Regional and Comparative Study. London, 1970. Працу Макфарлэйна трэба чытаць у спалучэнні з кнігай Thomas K. Religion and the Decline of Magic: Studies in Popular beliefs in Sixteenth and Seventeenth–Century England. London, 1971, больш маштабнай працай, у якой утрымліваюцца істотныя высновы з антрапалогіі.

[28] Trevor–Roper H.R. The European Witch–Craze of the Sixteenth and Seventeenth Centuries. Harmondsworth, 1967, 9.

знаходзіцца ўлада ў грамадстве, узятым як цэлае, і як функцыянуе гэтае грамадства.

Па–за межамі ўсяго нашага абмеркавання засталося фундаментальнае пытанне: ці гісторыя «знізу» ўяўляе сабою *падыход* да вывучэння гісторыі, або гэта асаблівы *тып* гісторыі? Любое гледзішча можа быць аспрэчанае з розных бакоў. Разгляданая як падыход, гісторыя «знізу» заканамерна выконвае дзве вельмі істотныя функцыі. Першая палягае ў тым, каб выконваць карэктавальную ролю ў дачыненні да гісторыі знакамітых асобаў — паказваць, што ў бітве пад Ватэрлоа браў удзел шараговец Ўілер, гэтаксама як і герцаг Ўэлінгтан, або што эканамічнае развіццё Вялікай Брытаніі, якое каля 1815 г. набірала тэмп, уключала ў сябе тое, што было апісана Томпсанам як «няшчасная, уся скрываўленая пяхота Прамысловай рэвалюцыі, без чыёй працы і без чыйго ўмельства яна засталася б адно няспраўджанай гіпотэзай»[29]. Па–другое, прапаноўваючы названы альтэрнатыўны падыход, гісторыя «знізу» стварае магчымасці больш плённага сінтэзавання разумення гісторыі, злучэння гісторыі сённяшняга досведу людзей з аб'ектам даследавання больш традыцыйных тыпаў гісторыі. У той жа час, варта было б аспрэчыць тэзу, нібыта аб'ект вывучэння гісторыі «знізу», праблемы яе дакументавання і, магчыма, палітычныя погляды шмат каго з яе даследчыкаў утвараюць нейкі асаблівы тып гісторыі. Натуральна, што ў пэўным сэнсе бывае цяжка правесці выразную рысу паміж тыпам гісторыі ды падыходам да гэтай дысцыпліны ў цэлым: эканамічная гісторыя, інтэлектуальная гісторыя, палітычная гісторыя, ваенная гісторыя і г.д. прыносяць найменшы эфект, калі яны разглядаюцца паасобку, нібы ў герметычна замкнёных скрынях. Любы тып гісторыі выйграе ад шырыні поглядаў таго гісторыка, што яе стварае.

У сувязі з вышэйсказаным можна было б меркаваць, што погляд на гісторыю знізу сам па сабе выглядае найбольш эфектыўна, калі ён змяшчаецца ў пэўны кантэкст. Гэтак, у першым нумары перыядычнага выдання «History Workshop Journal», у вялікай ступені прысвечанага даследаванням менавіта гэтага тыпу гісторыі, рэдакцыйная калегія абвясціла, што «наш сацыялізм вызначае нашу заклапочанасць простым людам у мінулым, іх жыццё і працу, і думку, і індывідуальнасць, гэтаксама як кантэкст ды чыннікі, што фармуюць яго класавы досвед» і што «ў гэткай самай меры ён вызначае тую ўвагу, якую мы будзем аддаваць капіталізму»[30]. Як мы бачым, такія эмацыйныя сцвярджэнні нагадваюць нам, што тэрмін «гісторыя знізу» імплікуе, што існуе нейкае паняц-

[29] Thompson, History from Below, 280.
[30] Editorial // *History Workshop*. 1 (1971), 3.

це вышэйшага парадку, з якім ён суадносіцца. Гэтае дапушчэнне, у сваю чаргу, падразумявае, што гісторыя «простага люду», нават калі да вывучэння прыцягваюцца тыя бакі яго мінулага досведу, якія маюць выразна палітычны характар, не можа быць адлучана ад шырэйшага разгляду грамадскай структуры і грамадскай улады. Гэтая выснова, зноў–такі, сутыкае нас з праблемаю вызначэння таго, якім чынам гісторыя, разгляданая «знізу», можа быць дапасаваная да шырэйшых канцэпцыяў гістарычнай навукі. Ігнараваць гэтае гледзішча, маючы дачыненні з поглядам на гісторыю знізу або з любым іншым тыпам сацыяльнай гісторыі — значыць рызыкаваць апынуцца пад пагрозаю моцнай фрагментарызацыі гістарычных доследаў — мажліва, нават пэўнай нядаўна паўсталай іх *антыкварыятызацыі*. На гэтую небяспеку ў 1979 г. паказваў Тоні Джат. Няма неабходнасці цалкам падзяляць гледзішча Джата, каб адначасна сімпатызаваць яго клопату наконт таго, «што ў найноўшай сацыяльнай гісторыі няма месца палітычнай ідэалогіі — у якой–кольвечы большай ступені, чым гэта адносілася да сацыялогіі, з якой апошняя паходзіла; ...сацыяльная гісторыя, як намі выказвалася меркаванне вышэй, трансфармавалася ў пэўны гатунак рэтраспектыў най культурнай антрапалогіі»[31].

Гісторыя «знізу» як тып гісторыі ставіць іншае пытанне — пашырэння чытацкай аўдыторыі прафесійнага гісторыка, стварэння больш шырокага доступу да гісторыі прафесійнага ўзроўню, чым яна звычайна мела дзякуючы акадэмічным даследчыкам гісторыі ды іх вучням. У вышэйназваным артыкуле 1966 г. Томпсан адзначаў, што Тоні ды іншыя гісторыкі яго пакалення мелі «надзвычайна шырокі, актыўны кантакт з аўдыторыяй па–за магільным склепам акадэмічнай установы» і, відавочна, шкадавалі з тае прычыны, што гэта было чымсьці такім, чаго не хапала самым сучасным даследчыкам гісторыі [32]. Апошнім часам гэтае самае пытанне ўздымалася яшчэ адным аўтарам, чые ідэалагічныя пазіцыі надта розняцца з пазіцыямі Томпсана, — Дэвідам Кэнадайнам. Адзначаючы масавае пашырэнне гісторыі як універсітэцкай дысцыпліны ў пасляваеннай Вялікай Брытаніі, Кэнадын пракаментаваў гэты факт, сцвярджаючы, што «шмат якія аспекты гэтай новай, прафесійнай версіі брытанскай гісторыі былі цалкам недаступныя для шырокай аматарскай аўдыторыі, хоць задавальненне цікаўнасці апошняй да свайго нацыянальнага мінулага некалі было першаснай функцыяй гістарычнай навукі. Адным з парадаксальных вынікаў гэтага беспрэцэдэнтнага часу пашырэння дыс-

[31] Judt T. A Clown in Regal Purple: Social History and the Historian // *History Workshop*. 7 (1979), 87.
[32] Thompson, History from Below, 279.

цыпліны было тое, што ўсё болей і болей акадэмічных гісторыкаў пачало пісаць усё болей і болей акадэмічную гісторыю, якую чытала ўсё меней і меней людзей»[33] .

Адной з найгалоўнейшых мэтаў гісторыкаў, што займаюцца стварэннем гісторыі, разгляданай «знізу», а асабліва тых, хто піша з сацыялістычнага або лейбарысцкага гледзішча, была спроба выправіць гэтае становішча праз пашырэнне сваёй аўдыторыі і, магчыма, праз стварэнне народнай версіі гэтага новага варыянту нашай сінтэзаванай нацыянальнай гісторыі, наконт знікнення якой выказваў шкадаванне Кэнадын. Пакуль што іх намаганні не былі паспяховымі, і гісторыя знакамітых людзей, здаецца, па–ранейшаму валодае грамадскім густам. Сам Хобсбаўм без асаблівага поспеху імкнуўся пашырыць кола чытачоў біяграфіямі вядучых палітыкаў[34].

Пры ўсім тым, імкненне да павелічэння доступу да ўсведамлення нашага мінулага праз погляд на гісторыю «знізу» ўсё яшчэ з'яўляецца прыцягальным. Аднак застаецца небяспека ўзнікнення чагосьці кшталту вышэйзгаданай фрагментарызацыі гістарычных ведаў і вышэйзгаданай дэпалітызацыі гісторыі, якая гэтак раздражняла Т.Джата. Масавая цікавасць да гісторыі знізу — як гэта вядома любому, хто сутыкаўся з гэтымі пытаннямі пад час галіновых сустрэч Гістарычнай асацыяцыі — часта абмяжоўваецца тым, што можа быць абазначана як погляд на мінулае грамадства *«знізу ўверх, зверху ўніз»*. Пры гэтым названая праблема пэўным чынам абвастраецца праз тое, што мы цяпер прывыкаем апісваць як грамадскую гісторыю. Гэткае гледзішча грунтуецца на ўсведамленні, што людзі рабілі ў мінулым розныя (і таму, як падразумяваецца, выпадковыя) рэчы, і што шмат хто з іх цярпеў матэрыяльныя страты ды трываў цяжкія выпрабаванні, якія дазваляюць нам сёння параўноўваць колішняе цяжкое існаванне з нашымі сучаснымі лягчэйшымі ўмовамі. Але ў надта малой ступені робяцца спробы пайсці далей ці разгледзець гістарычныя праблемы на ўзроўні, вышэйшым за нейкія моманты прыватнага жыцця або за ізаляваны мясцовы досвед. Нават тыя даследчыкі, якія маюць досыць шырокі погляд на мінулае народа,

[33] Cannadine D. British History: Past, Present — and Future // Past and Present. 116 (1987), 177. Частка Кэнадайна падказала «Каментары» Косаб Лэманта і Эванса: Coss P.R, Lamont W., and Evans N. Comments // Past and Present. 119 (1988), 171—203. Твор Кэнадайна выклікаў узнікненне «Каментароў»: Погляды Ламонта, найбольш сцісла выкладзеныя на с. 186—193 гэтай працы, толькі імплікуюць ужыванне падыходу «знізу» да новай нацыянальнай гісторыі, у той час як Эванс (с. 1970) выразна фармулюе, што «гісторыя Вялікай Брытаніі ... мае патрэбу ў поглядзе на яе знізу і ў выпрацоўцы адпаведнага гэтаму разумення дзяржавы».

[34] Hobsbawm, Some Reflections, 13.

не пазбеглі тых уплываў антыкварыятызму, якія акадэмічныя гісторыкі ставяць у дакор сваім канцэптуальна ці ідэалагічна добра ўзброеным калегам. Гэтак, Родэрык Флаўд, крытыкуючы пазіцыю групы, што мае выразнае ўяўленне пра важнасць гісторыі народа, змог выказаць прэтэнзію, што «раз–пораз, насамрэч, стыль працы гістарычнай лабараторыі набліжаўся да левага антыкварыятызму — збіранне і публікаванне малаістотных звестак пра жыццё рабочага класа»[35]. Хоць не кожны можа пагаджацца з агульнай тэндэнцыяй пошуку аргументаў, што выкарыстоўваюцца Флаўдам, ёсць мала сумневаў у тым, што ён акрэсліў сапраўдную праблему.

Магчымым адказам на гэтую крытыку, вядома, магло б быць сцвярджэнне, што датуль, пакуль пэўны «левы антыкварыятызм» дазваляў будаваць салідны корпус адпаведных матэрыялаў — нават праз збіранне і публікацыю малаістотных звестак, — можа заставацца крыху спадзяванняў на стварэнне грунтоўнага сінтэзу іх або значна шырэйшага погляду на праблему. Па–другое — і гэта, мажліва, больш істотна — можна было б адказаць, што даследаванні асобных выпадкаў і да т.п., змешчаныя ў адпаведны кантэкст, могуць прывесці да фармавання куды больш грунтоўнага падыходу, чым «антыкварыятызм». Пры адпаведных варунках (праца Карла Гінзбурга пра Даменіка Скандэлу, здаецца, неблагі прыклад гэтага) даследчык гісторыі, разгляданай знізу, можа ў вялікай ступені займець выгаду ад выкарыстання таго, што антраполагі маглі б акрэсліць як *тоўстая праца*[36]. Інтэлектуальная праблема, што вынікае з ужывання гэткай методыкі, павінна быць вядомая сацыяльным гісторыкам — а менавіта праблема змяшчэння грамадскай падзеі ў яе ўсеабдымны культурны кантэкст, гэтак, каб яе можна было вывучаць хутчэй на аналітычным, чым проста на апісальным узроўні. Відавочна, аднак, што гэты працэс можа быць зваротным, і калі ўсталюецца пэўнае разуменне дадзенага канкрэтнага грамадства, ізаляваная грамадская падзея або асоба (як гэта мела месца ў адзінкавым, але ўдакументаваным выпадку з фрыульскім млынаром) можа быць скарыстаная для таго, каб пракласці шлях для глыбейшага разумення гэтага грамадства. Гісторыку няма патрэбы прыстасоўваць семіятычную парадыгму культуры, прыхільнікамі якой з'яўляюцца такія антраполагі, як Кліфард Гірц, каб ацаніць патэнцыйную бескарыснасць гэтай метадалогіі. І карэнная праблема, да якой звяртаецца Гірц — праблема разумення людзей, якія сваёй культурай адрознiва юцца ад нас саміх, і праб-

[35] Floud R. Quantitative History and People's History // *History Workshop*. 17 (1984), 116.

[36] Глядзі: Geertz C. The Interpretation of Cultures. New York, 1973, chapter 1, «Thick Description: Toward an Interpretative Theory of Culture».

лема выкладу грамадскай рэчаіснасці навуковай мовай кніг, артыкулаў або лекцыяў — вядома ж, належыць да тых, што добра вядомыя даследчыку гісторыі «знізу».

Мы спадзяемся, што папярэдняй часткай нашага артыкула (калі не чым–кольвечы яшчэ) чытач ужо быў перакананы, што стварэнне гісторыі «знізу» з'яўляецца праектам, які даказаў сваю надзвычайную плённасць. Ён прыцягнуў увагу гісторыкаў, што вывучаюць розныя грамадствы мінулых часоў — як геаграфічна, гэтак і храналагічна: ад трынаццатага да дваццатага стагоддзя. Гэтыя гісторыкі паходзяць з розных краінаў і з розных інтэлектульных традыцыяў ды ідэалагічных асяродкаў. Ствараючы гісторыю «знізу», гэтыя гісторыкі ў найскладаней шых выпадках шукалі падтрымкі з усіх бакоў — да прыкладу, рабілі падлікі з дапамогай кампутара, выкарыстоўвалі антрапалагічную тэорыю — і іх здабыткі з'явіліся ў самых разнастайных формах: ад сухога навуковага артыкула да кнігі–бэстсэлера. Цяпер надышоў той момант, калі можна зрабіць пэўныя высновы адносна той працы, што была здзейснена ў плодным, хоць і неўпарадкаваным закутку сада багіні Кліо.

Самае меншае, зразумелым стала тое, што пэўная колькасць гісторыкаў дасягнула поспеху ў пераадоленні немалых перашкодаў, што ўскладняюць практычную працу па стварэнні погляду на гісторыю знізу. Канкрэтней кажучы, шэраг даследчыкаў усвядоміў неабходнасць канцэптуальнага якаснага скачка ў стымуляванні свайго разумення ніжэйшых слаёў насельніцтва ў грамадствах мінулых часоў і ў выніку гэтага паспяхова прадоўжыў інтэлектуальную атаку ў гэтым кірунку. Эдвард Томпсан, Карла Гінзбург, Эманюэль Ле Руа Лядуры ды астатнія, знаходзячыся на розных стартавых пазіцыях і маючы на мэце розныя навуковыя задачы, здолелі прадэманстраваць, якім чынам уяўленне можа ўзаемадзейнічаць з даследчыцкімі метадамі дзеля пашырэння нашага погляду на мінулае. Болей за тое, праца гэтых ды іншых гісторыкаў паказала, якім чынам гістарычнае ўяўленне можа стасавацца не толькі да фармавання новых канцэпцыяў разумення аб'екту вывучэння гісторыі, але і да пастаноўкі новых пытанняў у дачыненні да дакументаў да разнастайнага іх выкарыстання. Два або тры дзесяцігоддзі таму шмат хто з гісторыкаў з відавочных прычынаў адмаўляў мажлівасць стварэння сур'ёзнай гісторыі тых рэчаў, што сталі сёння для нас звыклымі, — злачынстваў, народнай культуры, народнай рэлігіі, сялянскай сям'і. Ад тых даследчыкаў Сярэднявечча, што імкнуцца рэканструяваць жыццё сялянскіх супольнасцяў да гісторыкаў сучаснасці, што робяць запісы вусных сведчанняў прадстаўнікоў ранейшых пакаленняў дваццатага стагоддзя, усе гісторыкі, што распрацоўваюць погляд на гісторыю знізу, прадэманстравалі, якім чынам узбагачанае

ўяўленнем выкарыстанне крыніцаў можа праясніць шмат якія сферы гісторыі, што лічыліся асуджанымі на тое, каб заставацца ў непраглядНасці.

Пры гэтым значэнне гісторыі, разгляданай знізу, палягае значна глыбей, чым у тым, каб проста ствараць для гісторыкаў магчымасць дэманстраваць, што яны могуць быць багатыя на ўяўленне ды па–наватарску падыходзіць да справы. Гісторыя «знізу» таксама дае магчымасць узнавіць сваю гісторыю тым сацыяльным групам, якія лічылі яе ўжо назаўсёды страчанай або і не ўсведамлялі яе існавання. Як намі ўжо было адзначана, першпачатковае апісанне погляду знізу на гісторыю Французскай рэвалюцыі або на гісторыю рабочага руху ў Вялікай Брытаніі выклікае пэўныя праблемы, хоць праўдай застаецца тое, што даследаванне гісторыі масаў васемнаццатага стагоддзя або рабочага класа дзевятнаццатага стагоддзя дало некалькі самых пераканаўчых прыкладаў нечаканага адкрыцця гісторыі рэальных класаў насельніцт ва. Задачы гістарычнай навукі розныя, але адною з іх з'яўляецца стварэнне адчування самаідэнтыфікацыі для тых, хто піша і хто чытае, — адчування таго, адкуль яны паходзяць. На больш агульным узроўні гэта можа набываць форму ролі гісторыі (хоць яна сама ёсць часткай нацыянальнай культуры) у нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Гісторыя, разгляданая знізу, можа адыгрываць істотную ролю ў гэтым працэсе праз напамінак нам, што наша ідэнтычнасць была сфармаваная не толькі манархамі, прэм'ер–міністрамі ды генераламі. Гэтае гледзішча вядзе да іншых меркаванняў. У кнізе па гісторыі групы насельніцтва, што, без сумневу знаходзілася «знізу» — чарнаскурых нявольнікаў у Злучаных Штатах перыяду да Грамадзянскай вайны, — Юджын Д. Джэнавэзе адзначаў, што яго галоўнай мэтаю было даследаваць «пытанне нацыянальнай прыналежнасці — *ідэнтычнасці* , якое ўплывала на афра–амерыканскую гісторыю ад самых яе каланіяльных пачаткаў»[37]. Апроч таго, як гэта мае месца з даследаваннем Томпсана пра рабочы клас Англіі, выкарыстанне гісторыі для самаідэнтыфікацыі народа з'яўляецца фундаментальным. Разам з тым, варта звярнуць увагу, што названая кніга Джэнавэзе мае падзагаловак: «Свет, пабудаваны нявольнікамі». Паводле Джэнавэзе, людзі, якія былі аб'ектам яго даследавання, хоць без сумневу і стаялі на ніжэйшай прыступцы сацыяльнай лесвіцы, выявілі сябе здольнымі стварыць свой свет: гэткім чынам, яны былі гістарычнымі *дзейнымі асобамі*, яны *стваралі* гісторыю, а не былі проста «праблемаю», праз якую белыя палітыкі ды жаўнеры былі ўцягнутыя ў грамадзянскую вайну і якую белыя палітыкі ў дадзеным выпадку меліся «вырашаць». Бальшыня з тых, хто займаўся гісторыяй

[37] Genovese E.D. Roll, Jordan, Roll: the World the Slaves Made. London, 1975, xv.

«знізу», у агульным сэнсе павінна падзяляць меркаванне, што адным з вынікаў таго, што яны мелі гэткі падыход да гісторыі, была дэманстрацыя таго, што прадстаўнікі ніжэйшых слаёў грамадства былі дзейнымі асобамі, чые ўчынкі мелі уплыў (часам абмежаваны) на свет, у якім яны жылі. Мы вяртаемся да палемічнага сцвярджэння Эдварда Томпсана пра тое, што просты люд не быў толькі «адной з праблемаў, з якімі сутыкаўся ўрад».

Але мы павінны, на жаль, прызнаць, што, хоць канцэпцыя гісторыі «знізу» вядомая нам ужо цягам больш як двух дзесяцігоддзяў, яна пакуль што мае адносна нязначны ўплыў на галоўную плынь гістарычнай навукі або на эвалюцыю поглядаў гісторыкаў — прадстаўнікоў згаданай плыні. Для таго, каб заняцца гэтай праблемай пэўным грунтоўным чынам, уводныя курсы гісторыі могуць няшмат распавесці пра сутнасць аб’екта яе вывучэння. Жадаючы даведацца, пра што пішацца гісторыя або як яна пішацца, большыня тых, хто яе вывучае, звяртаецца (ці яе скіроўвае) да пэўным чынам ужо састарэлай працы Э.Г.Кара «Што такое гісторыя?». Там яны могуць знайсці досыць абмежаваны выклад таго, якім мог бы быць адказ на гэтае інтрыгоўнае пытанне. Напрыклад, яны высветляць, што ў Кара не было той глыбіні ўяўлення пра аб’ект вывучэння гісторыі, якую дэманструюць сучасныя гісторыкі і якую прадэманстравалі ўжо Брадэль і іншыя аўтары з ранняй школы «аналаў» раней, чым была напісана кніга Кара. Вось жа, яго сцвярджэнне, што «пераправа Цэзара цераз невялікую рэчку Рубікон з’яўляецца фактам гісторыі, а пераправа цераз Рубікон мільёнаў людзей перад тым ці пасля таго не цікавіць анікога», можа быць патлумачана так, што яму нічога не было вядома пра гісторыю транспарту, міграцыяў, геаграфічных перамяшчэнняў. Аналагічным чынам, тыя праблемы, што ён мае з прызнаннем забіцця насмерць прадаўца імберцавых пернікаў у Стэйлібрыдж Ўэйкс (Staleybridge Wakes) у 1850 г. у якасці факта гісторыі (існуе падазрэнне, што ў прадаўца пернікаў быў больш выразны погляд на дадзеную праблему) сведчаць пра тое, што Кар не разглядаў гісторыю злачынстваў як частку гісторыі[38]. Калі будзе напісана кніга, якая б замяніла Караву працу ў якасці ўводзінаў у вывучэнне гісторыі, відавочна трэба, каб яе аўтар, у святле гісторыі, разгляданай «знізу» і нядаўніх больш аб’ёмных даследаванняў па сацыяльнай гісторыі, меў шырэйшы погляд на мінулае.

Наша заключная заўвага датычыць таго, што якой бы ні была каштоўнай гісторыя «знізу» з гледзішча яе патрэбнасці ў вызначэнні ідэнтычнасці ніжэйшых слаёў грамадства, яна павінна быць выведзеная з гета (або прасёлка, вуліцы рабочага прадмесця, трушчобаў ці шматква-

[38] Carr E.H. What is History? Harmondsworth, 1961, 11, 12.

тэрных дамоў) і выкарыстоўвацца для крытыкі, удакладнення і ўзмацнення галоўнай плыні гістарычнай навукі. Даследчыкі гісторыі «знізу» не толькі прарабілі вялікі аб'ём працы, які дазваляе нам больш ведаць пра мінулыя часы: яны таксама давялі, што ёсць нашмат больш працы, што шмат якія з яе таямніцаў усё яшчэ акрытыя змрокам няведання, якія мусіць быць развеяны. Гэткім чынам, погляд на гісторыю «знізу» захоўвае сваю падрыўную аўру. У аддаленай перспектыве можна прадчуваць небяспеку — як гэта мела месца ў дачыненні да школы «аналаў», — што яна можа стаць новай догмай, але на сённяшні дзень яна ўсё яшчэ паказвае свой доўгі нос галоўнай плыні гістарычнай навукі. Натуральна, надалей будуць існаваць гісторыкі — як акадэмічныя, гэтак і папулярныя, — якія будуць прымудрацца пісаць кнігі, дзе адкрыта ці прыхавана будзе адмаўляцца магчымасць істотнага гістарычнага перагляду жыцця масаў; але іхнія аргументы на карысць такога падыходу будуць рабіцца ўсё болей і болей хісткімі. Гісторыя, разгляданая знізу, дапамагае пераканаць тых з нас, што былі народжаныя не ў арыстакратычных варунках, што мы маем сваё мінулае, што мы аднекуль з'явіліся на гэтым свеце. Але з цягам часу яна таксама будзе выконваць важную ролю ў карэктаванні і ўзмацненні той плыні ў палітычнай гісторыі, што ўсё яшчэ лічыцца агульнапрынятай і кананічнай у даследаваннях брытанскіх гісторыкаў.

*Пераклаў з ангельскай Лявон Баршчэўскі*

# Сіла гісторыі*

## Джойс Эплбай

На другім курсе коледжу, прыблізна гэтай сама парой у 1948 г., я пастанавіла спецыялізавацца ў гісторыі. З таго часу мінула пяцьдзесят гадоў. Я хацела б узгадаць гэтыя гады і памеркаваць, якое тады было нашае становішча як групы навукоўцаў і выкладчыкаў і, што важней, як мы маглі б павялічыць свой уплыў на сучаснасць. Можа, гэта гучыць прэтэнцыёзна, але гісторыя мае вялізарную моц, а мы, гісторыкі, знаходзімся з ёй у адмысловых дачыненнях.

Я не думаю, што наш час — час асабліва шпаркіх зменаў. Нашая старая планета і людскі род на ёй на працягу вякоў зазналі багата драматычных трансфармацыяў. Калі хто думае, што ягоны час — час асабліва хуткіх зменаў, гэта адно фанабэрыя. З такім падыходам я не магу пагадзіцца. Гэтаксама ж і набліжэнне дваццаць першага стагоддзя не выклікала ўва мне міленарыстычных прадчуванняў. Усё ж я перакананая, што ў любыя часы — добрыя ці кепскія, крытычныя, пераходныя ці нармальныя — гісторыя можа дапамагчы людзям думаць лепш, жыць багацей і дзейнічаць разумней.

Маёй улюбёнай цытатай з Карла Бэкера я звычайна сканчаю свае развагі, але гэты артыкул я хачу з яе пачаць. Насуперак непарушнай пе-

Джойс Эплбай пачала сваю кар'еру гісторыка ў Дзяржаўным Універсітэце Сан Дыега ў 1967 г. З 1981 г. яна выкладала ў UCLA раннюю амерыканскую гісторыю. Апрача ранняе гісторыі Амерыкі, яна піша пра Англію і Францыю XVII і XVIII ст. Яе заўжды цікавіла, якім чынам змены ў эканамічных сістэмах спараджаюць новыя ўяўленні пра людскую натуру і сацыяльную чыннасць. Галоўныя працы: «*Economic Thought and Ideology in Seventeen–Century England*» («Эканамічная думка і ідэалогія ў Англіі семнаццатага стагоддзя») (1978), «*Capitalism and a New Social Order: The Republican Vision of the 1790s*» («Капіталізм і новы грамадскі лад: Рэспубліканскі погляд на 1790–я гады») (1984), «*Liberalism and Republicanism in the Historical Imagination*» («Лібералізм і рэспубліканства ў гістарычным уяўленні») (1992) і «*Telling the Truth about History*» («Гаворачы праўду пра гісторыю», разам з Лін Хант і Маргарэт Джэйкаб — *Lynn Hunt and Margaret Jacob*) (1994). Цяпер сп. Дж. Эплбай з'яўляецца прэзідэнтам Амерыканскай Гістарычнай Асацыяцыі. Гэты артыкул свайго прэзідэнта АГА дазволіла Беларускаму Гістарычнаму Агляду апублікаваць у беларускай мове *gratis*.

* Appleby, Joyce. The Power of History // American Historical Review. V.102 (1998) Nr.1. P.1—14.

ракананасці шмат каго з ягоных калегаў у навуковых падставах гісторыі, Бэкер лічыў, што гісторыя мае не навуковую, а маральную каштоўнасць: „Разнявольваючы розум, паглыбляючы спагаду, умацоўваючы волю, гісторыя, — цвердзіў ён, — дазваляе нам панаваць не над грамадствам, а, што нашмат важней, над сабою; яна рыхтуе нас да таго, каб жыць у сучаснасці па–людску і сустракаць будучыню, а не прадказваць яе“[1]. Вядома, гэтае пачуццё нам сёння добра знаёмае, але з Бэкеравых да нашых часоў гістарычная навука спатыкалася з многімі выклікамі, якія карэнным чынам змянілі наш спосаб мыслення пра мінуўшчыну і пра людскі досвед.

Правёўшы адрозненне паміж маральнай і навуковай каштоўнасцю гісторыі, Бэкер робіць крытычную заўвагу пра ўздзеянне гісторыі на жыццё: каб здабываць карысць з поспехаў навукі, людзі не канечне мусяць іх разумець. Яны, можа, з цяжкасцю адрозняць мікроба ад пылінкі, але пакуль гэтую розніцу разумеюць дактары, людзі будуць вылечвацца ад хваробаў. Тое самае льга сказаць пра сацыяльна–навуковыя доследы рэцыдывізму, цяжарнасці непаўналетніх або фінансавых прагнозаў: тыя, хто карыстаецца з гэтых ведаў, не канечне мусяць іх разумець. Не так з гісторыяй. Каб споўніць сваё заданне, яна павінна быць набыткам асобы, і таму на нас — тых, хто навучае гісторыі, дэманструе яе, захоўвае, даследуе і піша, — ляжыць абавязак, які значна адрозніваецца ад абавязкаў іншых навукоўцаў: каб рабіць уплыў, мы павінны ўсталяваць з сваёй аўдыторыяй інтэлектуальную повязь.

Сёння мы сутыкаемся з выклікам, які радыкальна адрозніваецца ад выкліку Бэкеравых часоў. Застой у нашым дыялогу з публікай паходзіць не ад лішне пазітывісцкага погляду на гісторыю, а зусім наадварот — з блытаных уяўленняў пра прыроду гістарычных ведаў і таго, наколькі яны вартыя даверу. Такая блытаніна лёгка можа спараджаць абыякавасць, нават антаганізм да прадмету. Нельга пазнаць, што мае паведаміць гісторыя, зыходзячы з няслушных уяўленняў пра сутнасць гісторыі і метады, якімі гісторыкі — як аматары, так і прафесіяналы — здабываюць веды пра мінуўшчыну. І што яшчэ горш, без такога разумення вы лёгка купляецеся на плёткі пра вайну культураў і пра акадэмічныя змовы. Калі сумненні ў грунтоўнасці гістарычных ведаў былі выказаныя, трэба адказаць на іх.

Недавер публікі да гістарычных ведаў нагадвае мне эпістэмалагічныя крызісы, пра якія піша ў сваім задзірлівым артыкуле Аласдэйр МакІнтайр[2]. „Эпістэмалагічны крызіс“ — гучная назва таго, што адбы-

[1] Carl Becker, *Dial* 59 (September 2, 1915): 148.

[2] Alasdair MacIntyre, „Epistemological Crises, Dramatic Narratives, and the Philosophy of Science,“ *The Monist* 60 (1977): rpt. in Gary Gutting, ed., *Paradigms and Revolutions* (Notre Dame, Ind., 1974).

ваецца ў свядомасці чалавека, калі абрынаецца ўся ягоная сістэма прыпушчэнняў, звычайна тады, калі ён неспадзявана даведваецца, напрыклад, пра здраду сябра або карупцыю ў паважанай установе. У гэты момант, тлумачыць МакІнтайр, мы можам або ўхапіцца за новы набор прыпушчэнняў, як за ратавальнае кола, або падысці больш па–філасофску і задумацца над адносінамі нашых прэсупазіцыяў да практычных учынкаў. Апошні, інтраспекцыйны адказ МакІнтайру выразна даспадобы; адгэтуль робіцца выснова, што становішча ў гэтым выпадку можа паправіць наратыў, бо гістарычны наратыў дазваляе чалавеку або цэлай галіне, якія зазналі эпістэмалагічны крызіс, растлумачыць, чаму ранейшыя, памылковыя меркаванні аказаліся непрыдатнымі, адале праз гэтае тлумачэнне глыбей зразумець, як гэтыя меркаванні ўплываюць на ўчынкі. Наратыў, які ўключае ў сябе пераход ад бяздумнае веры да ўражанае няверы, адале да найпаўнейшага разумення, аднаўляе каштоўнасць людскога разумавання.

На маю думку, шмат хто з адукаванае публікі церпіць сёння на эпістэмалагічны крызіс у дачыненні да гісторыі. Яны, можа, не скажуць, у якім стагоддзі была Трыццацігадовая вайна, але напэўна чулі пра рэвізіянізм. Яны ведаюць, што прадмет, самая пэўнасць якога знудзіла іх да глыбіні душы, раптам затрэсся як у трасцы. Супярэчлівыя звесткі пра Галакост, спрэчкі адносна выкарыстання атамнае бомбы, з'яўленне ў школьных падручніках Гарыет Табмэн, апісанні дэмаграфічнае катастрофы, якая надышла пасля высадкі Калумба ў Новым Свеце, выклікі, кінутыя міфу пра межы, не кажучы пра гаворкі аб дэканструкцыі і шматпогляднасці, — усё гэта прывяло да таго, што мінулае стала радыкальна менш знаёмым.

Гісторыкі, на маю думку, складаюць групу, ідэальна здатную растлумачыць публіцы, як мы пераходзім ад фактаў да наратываў. Мы здатныя на гэта часткова таму, што працэсы, шляхам якіх мы рэканструюем падзеі, не надта далёкія ад штодзённага мыслення. Што яшчэ важней, мы прайшлі доўгі шлях самавывучэння, якое дало нам моцную свядомасць канцэптуальных падставаў гісторыі. Мы ведаем цяпер, якім чынам на нашую навуку ўздзейнічаюць мова, логіка і сацыяльныя прадпісанні. Мы даследавалі сваю працу як рамяство, як культурны артэфакт і як сродак улады. З цягам нашага эпістэмалагічнага крызісу звычайныя словы, накшталт „рэпрэзентацыя“, „тэксты“, „інтэрпрэтацыя“, „жанры“ і „досвед“, набралі дэльфійскіх абертонаў. Гэтая праца, не заўжды прыемная, узняла і свядомасць, і гнеў, зрабіўшы з нас добрых навігатараў для плавання праз неспакойныя інтэлектуальныя воды. Пра гэта я і хачу гаварыць — пра курс, які мы трымалі апошнім часам, і пра тое, як уключыць наш позірк на мінулае свае прафесіі ў шырэйшую публічную дыскусію.

Мой аповед абыймае раманы, якія нашая дысцыпліна мела спярша з новай сацыяльнай гісторыяй 1960–х і 1970–х, далей з канцэпцыяй сацыяльнае будовы рэальнасці, а нарэшце з усюдыіснымі ўплывамі постмадэрнізму. Іх эфекты розніліся між сабою, але часткова супалі ў часе і ў спрычыненых імі наступствах. Яны адзначылі рэзкі адыход ад таго разумення гісторыі, якому я навучалася студэнткаю пяцьдзесят гадоў назад. Што важней, як я паказваю ў заключэнні, — стварэнне гістарычнага наратыву пра наш уласны эпістэмалагічны крызіс якраз дазволіла б нам павярнуць публіку тварам да гісторыі, а разам з тым выйсці з закасцянелых катэгорыяў думкі, выбіцца з палітычных выкарыстанняў мінуўшчыны і здабыць рэалістычнае ўяўленне пра тое, як мы творым веды.

Вернемся на хвілінку да таго, з чаго я пачынала ў 1948 г. Хоць скептыцызм Карла Бэкера адносна гістарычных фактаў шырыўся паўсюль — у прыватнасці, і то вельмі выразна, у ягонай прамове 1931 г. у якасці прэзідэнта АГА „Кожны сам сабе гісторык“ — але калі ў сярэдзіне стагоддзя я падалася ў навуку, гістарычныя тэксты ўсё яшчэ насілі ўпэўнена эмпірычны характар і выразна прэтэндавалі на боскую ўсеабдымнасць і ўсяведнасць. Улюбёнаю класнаю забаўкаю было выкрывальніцтва, а паколькі пільная ўвага аддавалася палітыцы і яе дапаможным тэмам — дынастыям, выбарам, дыпламатыі і вайне, — то матэрыялу для выкрыцця хапала. Несумненна, у Бэкера заставаліся дасведчаныя нашчадкі, але не яны ставілі мне адзнакі на іспытах.

Толькі напрыканцы 1960–х г., атрымаўшы ступень доктара філасофіі, я ўпершыню балюча сутыкнулася з эпістэмалагічным крызісам. Ён надышоў праз майго мужа. Калі ў 32 гады я вярнулася ў аспірантуру, усе мае прафесары былі нашмат старэйшыя за мяне. А калі праз шэсць гадоў мой муж пачаў сваю доктарскую працу, усё было якраз наадварот. Усе ягоныя прафесары былі нашмат маладзейшыя і поўныя маладатуркаўскага імпэту. Прагнучы падзяліцца сваёю навукаю, ён прынес навіну пра нейкую так званую „мадэль“.

— Што такое мадэль? — запытала я.

— Ну, гэта спосаб, каб зрабіць свае меркаванні дакладнымі. Ты ўтвараеш іхную мадэль.

— Дык гісторыкі збіраюцца пачаць пісаць пра мадэлі?

— Гэта не прадмет; гэта канцэпцыя ў тваёй галаве.

— Толькі не ў маёй.

Сказаць, што гэтая гутарка пра мадэлі мяне раз’юшыла, значыць яшчэ недаацаніць трывогу новаспечанага доктара, які адчувае, што ўжо састарэў, і дзіву даецца, гледзячы, як лёгка гісторыя можа сумяшчацца з чаравікамі з каляровымі саюзкамі і з шлягерамі Сінатры.

У адным з сваіх эсэ („Гісторык і Даследчык грамадства“) Г. Стуарт Х'юдж добра перадае пачуццё *Zeitgeist* (духу часу), якое панавала ў нашай прафесіі ў 1963 г. і якое я мімаволі адбіла. Гэтае эсэ — не толькі шэдэўр яснага розуму, але і адзнака свайго часу. Правёўшы год у Стэнфардзкім Цэнтры перадавых доследаў у навуках пра паводзіны, Х'юдж з запалам нованаверненага пачаў намаўляць гісторыкаў пераняць некаторыя мэтады сацыяльных навук, у тым ліку пабудову мадэляў. Пахваліўшы сваіх калегаў за абачлівасць, з якой яны адкінулі метагісторыі Освальда Шпэнглера і Арнольда Тойнбі, ён адразу ж нагадаў, што існуюць і ніжэйшыя ўзроўні абагульнення, ужо ўжываныя гісторыкамі і закладзеныя ў такіх тэрмінах, як „індустрыялізацыя“, „адукацыя“ або „рэвалюцыя“. За імі, нагадаў ён, стаяць мадэлі — зноў тое самае слова, — якія гісторыкі мусяць канкрэтызаваць. Далей Х'юдж перайшоў да апісання дэскрыпцыйных мэтадаў — доследаў грамадскае думкі, выбарачных мэтадаў (*sampling techniques, próbkowanie*), праекцыйных тэстаў, кантэнт–аналізу і маштабавання (*scaling*) — якія маглі б надаць гістарычным доследам дакладнасць і аналітычную строгасць. Х'юдж спадзяваўся, што гэтыя стрэлы з калчана сацыяльных навук зваляць улюбёныя гісторыкамі гегелеўскія дыхатаміі, расчышчаючы месца для градацыяў і плаўных пераходаў[3].

Аднак сацыёлагі падрыхтавалі для гісторыкаў нешта іншае. Яны намагаліся выпрацоўваць усё шырэйшыя абагульненні адносна людскіх паводзінаў, і сярод прапанаваных імі гіпотэзаў шмат якія чакалі для свае праверкі якраз такіх людзей, як гісторыкі з іх эмпірычнымі схільнасцямі: напрыклад, гіпотэзы пра фармаванне сям'і, выбарчыя паводзіны, выбар мадэляў рассялення і выбарчыя цыклы. Гістарычныя сведчанні маглі даць матар'ял для гіпотэз географаў пра канцэнтрычныя колы росту местаў або праведзенага сацыёлагамі адрознення паміж стымуляванай і вымушанай мабільнасцю *(sponsored and challenged mobility)*.

Нельга не рассмяяцца (і не падзівіцца), гледзячы, з якой асцярожнасцю Х'юдж усхваляў трыумфы схематызацыі і правяральных гіпотэзаў, ведаючы, што плойма знаўцаў квантыфікацыі ўжо стаіць напагатове, каб перакуліць дагары нагамі ўсю дысцыпліну праз свае статыстычныя чарадзействы. Можна вобразна ўявіць сабе, як у 1963 г. Х'юдж прыціскаецца да сценкі, каб яго не затаптаў натоўп студэнтаў, бегучы да сваіх перфакартаў. Праца гэтых маладых квантыфікатараў адразу прынесла істотныя канцэптуальныя і ідэалагічныя наступствы. Дагэтуль метады гісторыкаў грунтаваліся на сведчаннях *(evidence),* а не на звест-

[3] H. Stuart Hughes, „The Historian and the Social Scientist“, y Alexander V. Riasanovsky and Barnes Riznik, eds., *Generalizations in Historical Writing* (Philadelphia, 1963), 30, 37, 47—49, 51.

ках *(data),* і засяроджваліся на дапытванні нежывых сведкаў або вызначэнні сапраўднасці дакументаў. Здаецца, ніколі дагэтуль гісторыкі не фармулявалі адкрыта прыпушчэнняў, якія стаяць за іхнымі доследамі, і не прызнавалі, што аналіз для іх важнейшы за апісанне. Дзвюма гэтымі рэчамі сацыяльныя гісторыкі ўзнялі свядомасць усяе дысцыпліны.

Змяніліся і аб’екты ўвагі. Гадамі традыцыйныя метады гістарычнае навукі выключалі даследаванне звычайных людзей. Цяпер гэты недахоп запоўніўся дзякуючы выкарыстанню кампутараў разам з сацыяльна–навуковымі метадамі, што пацвердзіла слушнасць досціпу Эрнэста Гомбрыча: „Дзе ёсць спосаб, ёсць і воля“. Сапраўды, узнікла магчымасць адкрыць нешта значнае пра звычайных людзей мінулага, якія запалілі ў вучонага даследніцкі шал. Палаючы сацыяльнай цікаўнасцю, яны імкнуліся да такой усеабдымнасці ведаў пра мінулае, каб Томаса Джэфэрсана можна было ўспомніць у атачэнні ягоных дачок і ўнукаў, рабоў у Монтычэла, бедных фермерскіх сем’яў у графстве Олбемарл і ўсяго спектру выбаршчыкаў, што абралі яго на прэзідэнта. Неўзабаве зрабілася дзіўным, як можна было дагэтуль адрываць Джэфэрсана і іншых славутых людзей ад іхнага жыццёвага досведу. Гэтае здзіўленне дапамагло нам усвядоміць, якім чынам пэўная канвенцыя ў пісанні гісторыі — цяпер дзіўная нам — набыла натуральнасць, якая не патрабуе доказаў.

Новая сацыяльная гісторыя змятала ўсё перад сабою на працягу дзесяцігоддзя ці больш. Тыя, хто ёю займаўся, вызначаліся дзёрзкасцю, смеласцю і, бадай, празмернай ўпэўненасцю, што ім удасца змяніць аблічча гістарычнага выкладу, але яны выдавалі прадукцыю — прынамсі шмат хто з іх. Яны абвясцілі паўсюдны вышук асобаў з мінуўшчыны, якіх дагэтуль неставала, і ў хуткім часе атрымалі поўны пастарунак нахабных персанажаў, якія пхнуліся ў гістарычныя кнігі. Новыя постаці — працуючыя жонкі, мяцежныя рабы, роспачныя імігранты, страйкоўцы–рабочыя — шумна патрабавалі ўвагі, і неўзабаве зрабілася ясна, што яны, зусім як няпрошаныя госці на вечарынцы, не збіраюцца захоўваць прыстойнасць. Мала таго, што нававынайдзеныя суб’екты не былі апранутыя як мае быць, але і іхныя каштоўнасці былі відавочна варожыя тым, якія абвяшчаў звыклы аповед пра няспынны поступ нацыі да „свабоды і справядлівасці для ўсіх“. Іхныя жыцці нельга было загнаць у старыя аповеды, бо дагэтуляшняя гісторыя развівалася лішне прасталінейна, лішне наіўна ўсхваляла індывідуальныя дасягненні і лішне самазадаволена настойвала на супольных нацыянальных каштоўнасцях.

Ідэалагічныя наступствы гэтых доследаў прагучалі як гром з яснага неба. Даследуючы паводзіны групаў, сацыяльныя гісторыкі набрылі на групавыя вынікі! Яны паведамлялі пра свае знахады праз паняцці

нормаў, мадэляў і стандартных адхіленняў. Квантытатыўны аналіз непазбежна раскрывае мадэлі, сістэмы і працэсы. Ад гэтых артэфактаў доследу заставаўся толькі крок да высновы, што жыццё велізарнае бальшыні амерыканцаў вяжуць па руках і нагах такія безасабовыя сілы, як забеспячэнне рэсурсамі, капіталаўкладанні, расавыя прэферэнцыі і катэгарычныя памылкі накшталт меркавання, што для жанчыны натуральна заставацца дома. Натуючы звесткі за доўгія часавыя перыяды, шкалюючы (*scaled*) іх, аналізуючы і параўноўваючы, амерыканская гісторыя атрымала тое, што заўжды катэгарычна адмаўляла — структуру. І структураў было багата — яны закраналі такія аспекты амерыканскага мінулага, як адукацыя, шлюб, працягласць жыцця, мабільнасць і сацыяльныя магчымасці.

Цяпер можна было прабіцца праз старыя формы, якія зводзілі даследчыцкія ініцыятывы на нішто. Узнікла магчымасць вывучаць як рабства, так і рабоў, не іміграцыю, а імігрантаў, рабочых, а не толькі прафсаюзы, і любых жанчын, а не толькі славутых. І паколькі статыстыка можа разглядаць структуры безадносна да іхнага рэальнага існавання, у гэтым выпадку статыстыка выканала ролю вагара, які зрушыў гістарычнае ўяўленне з індывідуалістычнае восі. Але новае багацце прынесла новы клопат: дакументацыя жыцця жанчын, рабочых, фермераў, рабоў і індзейцаў выкрыла трывожную сувязь паміж гісторыяй і нацыянальнай тоеснасцю. Нацыя залежала ад казкі пра сацыяльны поступ і чакала яе, але ў новых аповедах было замала поспеху, каб яны маглі паяднацца без швоў з гэтым усталяваным наратывам. Інкарпарацыя новае навукі ў старую станавіла больш як выклік тэхніцы сінтэзавання, яна прымушала прызнаць магутнасць таго, што можна назваць метагісторыяй матар'ялу і маральнага прагрэсу краіны.

Новая сацыяльная гісторыя, са сваімі нікім не апетымі героямі і дакументаванай разнастайнасцю, угрызлася ў амерыканскую душу як бормашына і натрапіла на балючае месца. Што здарылася з бясспрэчнымі фактамі, якія злучалі амерыканскае мінулае з прагрэсіўнай будучыняй? Чаму старая сацыяльная алхімія, якая ператварыла розныя этнічныя спадчыны ў аднастайную культуру, больш не працуе? Калі горкія жальбы аб фрагментацыі амерыканскае гісторыі вырваліся з аўдыторыяў на газетныя старонкі, пачало напрошвацца пытанне: „Што стаіць за заклікамі да адзінае *(unitary)* гісторыі?“

Гістарыяграфічныя сілы не больш аднаскіраваныя, чым сама гісторыя. Новая сацыяльная гісторыя, хоць і кіруючыся ў розных напрамках, фактычна падмацавала пазітывісцкі падыход, з якога кпіў Карл Бэкер, насуперак выкліканаму ёю ідэалагічнаму спусташэнню, бо прынесла процьму свежых фактаў. Больш за тое, ягоная статыстыка — на-

працаваная гадамі карпатлівае працы — часта падавалася сама па сабе, нібыта мадэлі кар'ераў, фармаванне сям'і ці выбарчыя паводзіны самі сябе тлумачаць. Не намагаючыся раскрыць за статыстыкай людскую дзейнасць, навукоўцы ішлі на рызыку натуралізацыі існуючых сацыяльных установаў, інакш кажучы, бяздумна прыпісвалі законнасць існуючаму парадку, ігнаруючы сілавыя стасункі, якія стварылі гэтую мадэль. Шчырая радасць ад безлічы новых эмпірычных знахадаў пагражала зноў ператварыць гісторыю ў фактазбіральніцтва.

Рух ад інфармацыі пра звычайных людзей да разумення таго, што азначаюць гэтыя звесткі, аказаўся таксама нялёгкім. Паколькі чытачы ўсцяж хацелі ведаць, чаму людзі дзейнічалі менавіта так, а не інакш, на інтэрпрэтацыю былі пакліканыя тропы з старое нацыянальнае гісторыі. Прафесійная мабільнасць — гэта было добра; імігранцкія групы, якія ашчаджалі грошы на адукацыю сваіх дзяцей, былі больш амерыканскімі, чым тыя, што адкладалі ўсе заробкі на куплю дому; галасаванне, прадвеснік утварэння партыяў, спрыяла палітычнаму прагрэсу нацыі[4]. Некаторыя практыкі грэбліва казалі пра „дслоўныя сведчанні" і ганілі доследы, якім неставала квантытатыўнага падмацавання, новай крыўднай мянушкай — „імпрэсіяністычныя"; але, як часта здараецца ў гістарычнай навуцы, тэмы, адсунутыя імі ўбок, толькі выйгралі з іхнае абыякавасці.

Паколькі сацыяльная гісторыя базавалася ў Сярэднявеччы, яе разбуральны патэнцыял выдаткаваўся пад канец 1970–х г., тым часам як старая элітная гісторыя, інтэлектуальная гісторыя — якая паспела трансфармавацца ў гісторыю ментальнасцяў *(mentalités)* і ідэалогіяў — адрадзілася з новымі сіламі. Ідэалогія як тэрмін пазбылася свайго марксісцкага радаводу і сталася арганізоўным паняццем для свежага погляду на суадносіны поглядаў і паводзінаў, рыторыкі і рэальнасці. У адрозненне ад фармальных сістэмаў думкі, ідэалогіі пачалі разглядацца як сродак мабілізацыі эмоцыяў і структурызацыі поглядаў, з якіх генеруюцца агіда, энтузіязм, абавязкі і прымхі. У сваёй адноўленай форме гэтая канцэпцыя ідэалогіі дала навукоўцам магчымасць казаць пра мысленне як сацыяльную дзейнасць. Калі гісторыкі Злучаных Штатаў упершыню ўжылі яе да нацыятворчых актаў гэтае краіны — каланіяльнага супрацціву, рэвалюцыі, канстытуцыйнае творчасці і стварэння партыяў — яна аджывіла палітычную гісторыю. Як новая сацыяльная гісторыя, „Рэспубліканская Рэвізія" 1960–х наўпрост кінула выклік асвечанаму вякамі прыпушчэнню, што Амерыка нарадзілася вольнаю, багатаю і сучаснаю[5].

[4] James Henretta, „The Study of Social Mobility: Ideological Assumptions and Conceptual Bias," *Labor History* 18 (1977): 165—78.

[5] Daniel T. Rodgers, „Republicanism: The Career of a Concept," *// Journal of American History,* 92 (June 1992): 11—38.

Неўзабаве ідэалогія ператварылася ў палітычнае падмноства глыбейшага гістарычнага доследу, які пачаў з цверджання, што нашае адчуванне рэальнасці мае сацыяльную будову[6]. Тыя, хто пачынаў сваю навуку пад гэтым новым уплывам, пайшлі нашмат далей, чым проста пашана да кантэксту: на іх думку, сацыяльным чынам будуецца нашае пачуццё самой рэальнасці. Гэта ў сваю чаргу вяло да шэрагу усё вастрэйшых пытанняў, які яшчэ не знайшоў супыну. Дзе раней панавалі нематар'яльныя ідэі накшталт свабоды і класу, цяпер матрыцай пазнання і разумення стала нематар'яльнае грамадства. Грамадства, згодна з гэтым поглядам, кшталтуе людскую свядомасць, так што любую канкрэтную структуру свядомасці можна разглядаць як вынік гістарычных працэсаў.

Сацыяльную дынаміку навуковага адкрыцця раскрыла „Структура навуковых рэвалюцыяў" Томаса Куна — кніга, якая сама сталася нечым накшталт сацыяльнае сілы[7]. Сіла, якая дазваляе грамадству выкарыстоўваць прыроду ў сваіх мэтах, змяніла фокус канцэпцыяў, на якіх грунтаваліся доследы жаночае праблематыкі, перасунуўшы рэферэнт паняцця „пол" з граматычнае класіфікацыі на культурную распрацоўку таго, што значыць быць жанчынай. Неўзабаве за гэтым надышлі сацыяльныя канструкцыі хваробы, адхілення, досведу, святасці і, што найбольш драматычна, суб'екта — таго суб'екта, мысляра *par excellence,* які некалі спраўдзіў існаванне для Дэкарта[8]. Навукоўцы загаварылі пра кантэкст як пра нешта большае, чым амальгама эканамічных і сацыяльных асаблівасцяў, робячы націск на пераканальнай сіле „парадыгмаў" — слова, чый гук, разнёсшыся па гаях Акадэму, засведчыў, што змена парадыгмы ідзе поўным ходам.

Насуперак таму, што асноўны ўпор цяпер рабіўся на грамадства, вялікі нямецкі сацыёлаг Макс Вэбер даў для ідэі сацыяльнае будовы рэальнасці (як ні дзіўна) псіхалагічнае абгрунтаванне. Кожная людская істота, цвердзіў Вэбэр, мае „унутраную патрэбу разумець свет як сэнсоўны космас і ведаць, як да яго паставіцца". Следам за ім Пэтэр Бэргер заявіў, што „чалавечая прага сэнсу мае сілу інстынкту"[9]. Вось жа, кан-

[6] Bernard Bailyn, *The Ideological Origins of the American Revolution* (Cambridge, 1967); Peter Berger and Thomas Luckmann, *The Social Construction of Reality: A Treatise in the Sociology of Knowledge* (New York, 1966); Joyce Appleby, „Republicanism and Ideology," *American Quarterly* (Fall 1985): 1—13.

[7] Thomas S. Kuhn, *The Structure of Scientific Revolutions* (Chicago, 1962).

[8] Joan W. Scott, „The Evidence of Experience," *// Critical Inquiry* 17 (1991): 773—97.

[9] Norman Birnbaum, „Conflicting Interpretations of the Rise of Capitalism: Marx and Weber," *// British Journal of Sociology* 4 (1953): 134; Peter Berger, *The Sacred Canopy: Elements of a Sociological Theory of Religion* (New York, 1967), як цытавана ў Rhys Isaac, „Order and Growth, Authority and Meaning in Colonial New England," *// AHR* 76 (June 1971): 730.

цэпцыя сацыяльнае будовы рэальнасці прадугледжвала людскую прагу, каб грамадства адпавядала свайму рэпертуару міфаў, навукаў, законаў, мастацтва і літаратуры — прывабная прапанова, якую нехта некалі мусіць праверыць.

Прыцішанае абмеркаванне такіх ідэяў у 1970–х неўзабаве заглушыў гвалт, які ўзнялі ў 1980–х г. Мішэль Фуко і Жак Дэрыда. Фуко распрацаваў новую тэорыю гістарычнага развіцця, у якой месца ўлюбёнае руховае сілы сучаснасці — аўтаномнага чалавека — заняў постмадэрновы прывід усяведнага грамадства, якое здзяйсняе праз дыскурс глыбокую, паўсюдную ўладу[10]. Канкрэтней кажучы, Фуко пільна заняўся вывучэннем сучасных мэханізмаў здзяйснення ўлады, злучыўшы навуковую рэвалюцыю, рынак, гуманітарную рэформу і камунікацыйную сістэму, грунтаваную на друку, у адзіны кангламерат сацыяльнага валадарства *(authority)*. Па ўсёй гісторыі ён шукаў прыхаваныя арганізатары свядомасці — дыскурсіўныя імператывы, якія кантралююць думкі і ўчынкі. Адначасна, даследуючы мінуўшчыну, ён знайшоў істотныя знакі тых спосабаў, з дапамогай якіх новыя метады накшталт адзіночнага зняволення або каталіцкае спавядальні рэструктурызавалі сацыяльнае мысленне. Вастрыні ідэям Фуко дадала ягонае глыбока скептычнае стаўленне да ўсіх катэгорыяў сучаснае думкі — дзяржавы, прыроды, індывідуальнае асобы, рацыянальнасці. Яны сталі для яго дыскурсіўнымі аб’ектамі гутаркі, але ні ў якім разе не падставамі або крыніцай паходжання чаго б там ні было. А сацыяльная ўлада, якая яго цікавіла, паходзіла не ад людзей са штыкамі і палкамі, а ад нас, звычайных бяздумных карыстальнікаў тых дыскурсаў штодзённага жыцця, якія размяркоўваюць прэстыж, пагарду, апраўданне і паўнамоцтвы *(authority)*.

Дэрыда, яшчэ радыкальнейшы скептык за Фуко, засяродзіў свой агонь на рэалістычных прыпушчэннях, закладзеных у заходнім перакананні, што словы могуць прадстаўляць рэальнасць. З гэткім жа падазрэннем ён ставіўся і да зневажальных дыхатоміяў белага/каляровага, мужчынскага/жаноцкага, рэальнага/фікцыйнага, хваробы/здароўя, сакральнага/прафаннага[11]. Хоць пісьмовыя творы заходняе традыцыі выразна прызнаюцца да рацыянальнасці, але ў іх, паводле Дэрыды, заўсёды можна знайсці падрыў гэтых катэгорыяў, бо яны насамрэч не процілегласці, якія тлумачаць свет, а складнікі герменеўтычнае сістэмы. Дэканструкцыя тэксту — вычварны Дэрыдоў мэтад чытання з маргінэсу — прапанавала спосаб пранікнення ў недагаворкі і супярэчнасці тэк-

[10] Michel Foucault, *Madness and Civilization,* Richard Howard, trans. (1965; New York, 1973); *The Order of Things: An Archeology of the Human Sciences* (New York, 1970); *The History of Sexuality,* Vol. 1, Robert Hurley, trans. (New York, 1978).

[11] Jacques Derrida, *Of Grammatology,* Gayatri Spivak, trans. (Baltimore, Md., 1976).

стаў, аднак без надзеі на канчатковую інтэрпрэтацыю, бо тэксты для яго дзейнічаюць хутчэй як механічны більярд, чым як бяспечны сейф. Слізкасць словаў і неўсвядомленасць намераў іх ужывальнікаў адкрываюць усе тэксты для шэрагу паслядоўных прачытанняў. Нам відаць, як улюбёная філосафамі яснасць знікае ў тумане моўнае цьмянасці. Прападае і сустрэча з грубай рэальнасцю, якую ўслаўляла Асветніцтва. Узнікла затое няяўнае навучанне з боку грамадства, якое інтэрпрэтуе свет, катэгарызуючы яго і кадыфікуючы, ганаруючы і пагарджаючы, мяняючы і арганізуючы, перш чым мы адкрыем яго самі.

Менавіта ў гэтым сэнсе постмадэрністы кажуць пра „тэкстуальнасць“ у дачыненні да ўсяго, што існуе. Усё ёсць тэкст, бо ўсё перадаецца сацыяльна. Мы кажам пра канкрэтную гару, а выклікаем шматлікія горныя дыскурсы ад гары Сінай да тэктонікі плітаў. Для постмадэрніста тэкстуальнасць тлумачыць нашмат болей, чым пісаныя дакументы. Яна сінонім інтэрпрэтацыі, гэтага магутнага сацыяльнага настаўніка. Постмадэрністы разглядаюць мову, як у яе структуры, так і ў яе канкрэтнасці, як сродак (або магію), каб надаць сэнс бессэнсоўнаму свету. Пакуль усе дзівіліся заявам пра „смерць аўтара“, у свядомасці незаўважна запанавала шырэйшая тэза: вызначыць, якім чынам праца набывае сэнс, дапамагае не столькі тоеснасць аўтара, колькі веданне пратаколаў, правілаў і дыскурсіўных канвенцыяў, якія і дазваляюць аўтару мець нешта на ўвазе. Постмадэрністам удалося паставіць культуру на месца прыроды як першаснае сілы людскога існавання.

Постмадэрніцкае ўяўленне ішло ў гістарычных доследах следам за новай сацыяльнай гісторыяй на маргінэсы жыцця: яго цікавіла ўсё занядбанае, замоўчванае, эксцэнтрычнае і грахоўнае[12]. Па гэтых шчылінах паміж гістарычна значным постмадэрністы прасочвалі, як няўлоўна культура служыць уладзе. Гэты рух заслугоўвае вялікай пашаны тым, што ён звярнуў нашую ўвагу на маўклівую дзейнасць людскога выказу і перасцярог нас ад таго, як шчыльна ўзаемапераплятаюцца ў мове інтэрпрэтацыя і аб'ект. Але, падкрэсліваючы рассейванне ўлады па шматлікіх ўзроўнях сацыяльнага ўзаемадзеяння, яны не патрапілі звязаць уладу з нейкай акрэсленай групай. А іхная тэза, што менавіта ўлада заўсёды

[12] Pauline Rosenau ў сваёй кнізе *Postmodernism and the Social Sciences* (Princeton, N.J., 1992), 8, памятна падсумавала іхныя тэмы такім чынам: „што было ў занядбанні… забытае, ірацыянальнае, нязначнае, рэпрэсаванае, пагранічнае, класічнае, святое, традыцыйнае, эксцэнтрычнае, сублімаванае, падпарадкаванае, адкінутае, неістотнае, маргінальнае, перыфэрыйнае, выключанае, нязначнае, замоўчванае, выпадковае, раскіданае, нyздатнае, адкладзенае, раскіданае на часткі — усё тое, чаго сучасны век ніколі не стараўся зразумець колькі–небудзь дэталёва і канкрэтна.“

творыць веды, а не наадварот, ігнаруе эфектыўнасць заходніх тэхналогіяў, рызыкуючы страціць праўдападобнасць.

Дамогшыся самі немалое сацыяльнае ўлады, постмадэрністы перабсталявалі наш канцэптуальны рыштунак і далі новаму пакаленню зіхоткае лексічнае ўбранне для ягоных тэкстаў. Іхныя аналізы дыскурсу, мовы, рыторыкі, суб'ектыўнасці і інтэртэкстуальнасці завялі нас туды, дзе ўява і выказ спатыкаюцца з фізічнасцю свету. Нават выкарыстанне ўнутрана супярэчлівых аксімаронаў і нязвыклых неалагізмаў дапамагло ім у гэтай справе, бо ў ім былі закладзеныя кпіны з яснай і выразнай ідэі бесстароннага разважнага чалавека.

Кожны навуковы рух стварае свае бадзячыя паняцці. У сацыяльнай гісторыі і постмадэрнісцкіх культурных доследах гэтая роля выпала дзейнасці *(agency)*. Як усе функцыянальныя доследы, яны з большым плёнам вывучалі рэплікацыю думкі і паводзінаў, чымся ўвядзенне інавацыяў. Яны дакладна прадэманстравалі тое, *як* дзейнічаюць культурныя сістэмы рэпрэзентацыі і камунікацыі, але не тое, *чаму* яны страчваюць прывабнасць або нават бяруць інакшы абарот. Задаўшыся пытаннем, чаму той ці іншы дыскурс больш не задавальняе патрэбаў жыцця, мы мусілі б заглыбіцца ва ўзаемадзеянне людзей з іхнымі тэкстамі і высветліць, што робіцца, калі тэкстам, якія складаюць рэальнасць, кідаюць выклік знадворныя рэальнасці, як, напрыклад, пры з'яднанні Старога і Новага Свету. Зрух гістарычнага фокусу з грамадства на культуру дакляруе даследаваць механізмы, праз якія здзяйсняецца сацыяльная ўлада (праўда, гэтага свайго абяцання ён пакуль што не споўніў). Як заўважыў шмат гадоў таму Карл Поланы, той факт, што правячы клас жадае правіць, яшчэ недастатковае тлумачэнне ягонага поспеху: „Лёс класаў у нашмат большай меры вызначаецца патрэбамі грамадства, чым лёс грамадства — патрэбамі класаў"[13]. Тое самае можна сказаць і пра дыскурсы.

Да таго самааналізу, якім займаюцца апошнім часам гісторыкі, іх падштурхнулі некаторыя пераканальныя крытыкі нашых інтэлектуальных звычаяў. Асабліва вялікі розгалас набыў дослед абыходжання заходнікаў з людзьмі, якіх яны спатыкалі доўгім цягам даследавання зямнога шару і вайсковых заваёваў, праведзены Эдуардам Сэйдам ў ягонай кнізе „*Orientalism*"[14]. Праца Сэйда натхніла даследчыкаў на вывучэнне таго, як у заходняй літаратуры набыло значнасці паняцце „іншы". Парта Чатэрджы і Эйшыс Нанды прааналізавалі заходнюю культуру з пункту гледжання ўспрымання „іншага". Нанды лічыць трывожным амерыканскае ўяўленне пра сябе як пра „узор для астатняга свету, гавань, у якую прыбылі з іншых краін бедныя, слабыя і адрынутыя, свядома перарабілі

[13] Karl Polanyi, *The Great Transformation* (New York, 1944), 152—53.
[14] Edward W. Said, *Orientalism* (New York, 1978).

тут сваё жыццё і стварылі культуру, якая цяпер мае транскультурнае значэнне“. Гэта, піша Нанды, „дзяржава… перасяленцаў, якія страцілі і/ці змянілі сваю культуру… і грамадскія каштоўнасці, магчымыя ў такім грамадстве людзей без каранёў, якое вызначае сёння сусветны культурны парадак“. Але, далёкі ад усхвалення гэтага ўцякацкага ладу жыцця, Нанды баіцца яго агрэсіўнае прысутнасці і характэрнае для яго панаднае сумесі секулярызму, бэканаўскага рацыяналізму і няспыннага бяздумнага развіцця. Такая культура, папярэджвае ён, з пэўнасцю вядзе да заняпаду супольнасці і „зводзіць асобу да цалкам аўтаномнае, нічым не стрыманае адзінкі“[15]. Пры маёй вялізнай сімпатыі да „цалкам аўтаномнае адзінкі“ я мусіла перачытаць гэтую фразу колькі разоў, перш чым зразумела яе сэнс.

З асаблівай праніклівасцю ўсходнія крытыкі ацэньваюць ролю гісторыі ў фармаванні заходняе свядомасці. Гісторыя, да якой на Захадзе ставяцца як да ўніверсальнае формы доследу, для іх выступае як нармалізатар шпаркіх зменаў і як сродак евангелічнага нацыяналізму. Як патлумачыў Прасэнджыт Дуара, заходнікі натуралізавалі нацыянальную дзяржаву, зрабіўшы з яе начынне для досведаў мінулага. Людзі Захаду, адзначыў ён, вучаць гісторыю, каб зрабіцца чальцамі свайго грамадства: „Яна павінна выклікаць пачуццё гонару і/ці помсты за нацыю, а не тлумачыць граматыку яе катэгорыяў“. Навучанне гісторыі — гэта кшталтаванне тоеснасці[16]. Падобным жа чынам выказаўся і Ўільям МакНіл. Гісторыя, нагадаў ён, „прыйшла ў школьны клас, каб зрабіць нацыі з сялянаў, з рэгіяналізмаў *(localities),* з сырога людскога матар'ялу, які існаваў у краінах Еўропы, а таксама ў Штатах, не надта і Злучаных“[17]. Звязаная адпачатку з паняццем цывілізацыі, гісторыя, як танцор у танга, праслізнула на службу заходнім нацыям, калі тыя пачалі свой узыход да сусветнае ўлады.

Мысляры звонку Захаду дапамаглі нам зразумець, наколькі глыбока нашыя катэгорыі думкі ўкарэненыя ў наратыве пра людскі досвед, які доўжыцца ад Адама і за Адама Сміта. Нацыянальныя гісторыі, — часткова прапаганда і часткова свістанне па могілках, — надалей захоў-

[15] Ashis Nandy, „Themes of State, History, and Exile in South Asian Politics: Modernity and the Landscape of Clandestine and Incommunicable Selves,“ Emergencies, nos. 7—8 (1995—96): 109—14.

[16] Prasenjit Duara, „Why Is History Anti–Theoretical?“ Paper presented at the symposium „Theory and Practice in Modern Chinese Research History,“ at the Center for Chinese Studies, UCLA, May 10, 1997, quoted with permission, to be published in *Modern China* (April 1998). See also Duara, „Transnationalism and the Predicament of Sovereignty: China, 1900—1945,“ *AHR* 102 (October 1997): 1032.

[17] William H. McNeill, Symposium at the Library of Congress, March 1—2, 1996, as reported in *Occasional Papers of the National Council for History Education, Inc.* (September 1996): 1.

ваюць аднолькава пралептычны характар: яны не толькі тлумачаць змены, але і прапагандуюць іх. Ажыўляючы мінуўшчыну прадбачаннем будучых рэчаў, такіх, як індустрыялізацыя, нацыянальная дзяржава, дэмакратыя, — яны пазбаўляюць паходжанне гэтых падзеяў усялякае выпадковасці. Нашыя гісторыі служаць таксама за аўтарытэтныя дакумэнты для суду над людзьмі без гісторыі[18]. Трактуючы еўрапейскую гісторыю як універсальны працэс, яны зрабілі з павароту гісторыі „назад“ нейкі жупел.

Тым часам як усходнікі накшталт Нанды імкнуцца падкрэсліць адметнасць Захаду, каб падмацаваць альтэрнатыўныя дыскурсы, нам у іхнай пазіцыі відаць рэшткі адвольных прыпушчэнняў. Так, натуралізаваць эканамічныя падзеі значыць вывесці тэму са сферы палітыкі і перадаць яе ў распараджэнне навукі, гэтаксама як натуралізаваны „рацыянальны выбаршчык“ належыць не да маральнага парадку, а да пэўнага тыпу аналізу ў грамадскіх навуках. Стаяць знадворку філіяцыі гісторыі і нацыянальнае дзяржавы ў 1998 г. — значыць не пагарджаць ёю, а хутчэй знайсці апірышча ў магутных прэсупазіцыях, што сфармавалі нашую свядомасць. Амерыканскае гістарычнае пісьменства адыграла немалую ролю ў тварэнні „амерыканскага народу“. Але як бы важным ні было яно некалі для нацыянальнага будаўніцтва як трымальнік калектыўнага досведу нашае „ўяўнае“ супольнасці, цяпер гэты троп лішне перагружаны, каб трываць надалей[19]. Сучасная палітыка тоеснасці паўстала менавіта ў адказ на прэтэнзіі нацыі прадстаўляць гамагенізаваны народ. Выклік цяпер палягае ў тым, каб думаць пра сябе па–за рамкамі гэтых старых катэгорыяў, — не дзеля таго, каб паслабіць краіну, да якой мы захоўваем палітычную лаяльнасць, а каб вызваліцца з пэўных інтэлектуальных путаў.

Вяртаючыся да маёй зыходнай тэзы, што гісторыя мае сваю незаменную ролю ў сучасных дэбатах, я не прапаную, каб мы ўсе кінуліся тлуміць публіцы галаву канцэптуальнымі галаваломкамі постмадэрнізму. Лепш мы будзем рабіць тое, што гісторыкам выдатна ўдаецца — дзейнічаць як перакладчыкі. Сапраўды, можна нават сказаць, што мы ўвесь час былі міжкультурнымі перакладчыкамі, заглыбляючыся ў чужую краіну — мінуўшчыну, — каб падтрымаць сувязь з ёю. Мы маглі б даць рады пашыраным сёння збянтэжанасці і цынізму, тлумачачы нашай публіцы, як цікаўнасць, інтэрпрэтацыя і культура твораць узаемадзейную сетку любых ведаў.

[18] Vinay Lal, „On the Perils of Historical Thinking: The Case, Puzzling as Usual, of India,“ *// Journal of Commonwealth and Post–colonial Studies* 3 (Fall 1995): 79—112.

[19] Benedict Anderson, *Imagined Communities: Reflections on the Origin and Spread of Nationalism* (London, 1983).

За мяжой шырока распаўсюджаная ідэя, што мінуўшчына так ці сяк стымулюе дзейнасць сваіх рэканструктараў. Але мы ведаем, што мінуўшчына як шэраг падзеяў цалкам адышла; у сучаснасць пранікаюць толькі яе наступствы. Застаюцца некаторыя парэшткі, накшталт смецця ад пікніку, але гэтыя матар'яльныя рэшткі ніколі не гавораць за сябе самі. Яны застаюцца інэртнымі слядамі, пакуль нечае пытанне не аберне іх у сведчанні. Трэба гаварыць пра жыццёва важную повязь цікаўнасці і доследу ў навуцы, бо атакі на заходнія веды прывялі, між іншым, да папулярызацыі скептыцызму, адарванага ад сваіх крытычных каранёў. Нашае грамадства грунтуецца на ведах, але людзі лёгка гатовыя даць веры, што веды змяняюцца адвольным чынам, і нават што існуюць цэлыя закалаты навукоўцаў–аднадумцаў, якія ставяць сабе на мэце труціць калодзеж ведаў. Мы жывем у век, пазбаўлены аднадушнасці, але, як ні парадаксальна, у той жа час людзі па ўсім свеце горнуцца да адных і тых жа меркаванняў. Гісторыя можа даць рады абедзьвюм праблемам, не толькі захоўваючы разнастайнасць людскога досведу, якая апынулася пад пагрозай, але і дэманструючы, як фармуюцца навуковыя погляды. Паўсюль, дзе мы сустракаемся з нашаю аўдыторыяй — у класе, на музейнай выставе, пры чытанні нашых кніг або на публічных форумах, — мы мусім тварыць альтэрнатыву цынізму, робячы даступным нашае рэканструяванне мінуўшчыны. А паколькі нашая праца будуецца гэтаксама, як і любыя іншыя веды, то разуменне таго, як прапаноўваюцца і правяраюцца гістарычныя праўды, можа прыдацца дзе заўгодна.

Мы мусім растлумачыць адносіны, якія існуюць паміж фактам і інтэрпрэтацыяй. Карл Бэкер казаў, што не гісторыкі былі вернымі фактам, а факты захоўвалі вернасць гісторыкам. Аднак шмат хто з нашых крытыкаў шчыра верыць, што мы можам развязаць гэтую праблему праз вернасць фактам — такім, напрыклад, як несумненны пераход Юліем Цэзарам Рубікону. Але голыя факты не задавольваць ні іх, ні нас. Тысячы людзей кожны дзень пераходзяць Рубікон; факту Цэзаравага пераходу мы трымаемся таму, што ён звязаны з інтэрпрэтацыяй Рымскае імперыі[20].

Публіка прагне гістарычных ведаў і таму шторазу жахаецца, калі гісторыкі парушаюць ранейшыя аповеды пра пэўную падзею. У Каліфорніі нядаўна перапісалі падручнікі, у якіх распавядалася пра францішканскіх місіянераў і карэнныя народы, якія яны імкнуліся пахрысціць, увёўшы ў іх звесткі пра ўздзеянне хваробаў, якія манахі, самі таго не ведаючы, занеслі з сабою на поўнач. За гэтым пераглядам стаіць актыўны індзейскі рух і гады пільных доследаў і навуковых спрэчак пра дэ-

[20] Carl Lotus Becker, „What Are Historical Facts," *// Detachment and the Writing of History: Essays and Letters of Carl L. Becker,* Phil L. Snyder, ed. (Westport, Conn., 1972).

маграфічную дынаміку таго перыяду, калі адбывалася змяшанне еўрапейцаў, афрыканцаў і азіятаў з індзейцамі. Новы выклад — цікавы выпадак сілы як ведаў і ведаў як сілы — напэўна выкліча спрэчкі.

Мы прызнаем, што цікаўнасць стымулюе дослед, але ў пытанні пра тое, што стымулюе цікаўнасць, такое пэўнасці няма. Пра шмат якія рэчы, звязаныя з мінуўшчынай, мы нічога не ведаем і не будзем ведаць датуль, пакуль нехта не задасць пытанне, якое падвядзе нас да гэтага канкрэтнага лапіку матар'яльных парэшткаў. Мы мусім растлумачыць, што гістарычныя веды, як і любыя іншыя, пераглядаюцца тады, калі паўстаюць новыя пытанні, якія стымулююць новыя доследы. Тая самая публіка, якая не любіць і баіцца рэвізіяў гісторыі, рэдка бядуе па аналагічных падзеях у хіміі ці медыцыне, якія таксама спрычыняюцца новымі даследаваннямі. Перад публікай гэты пункт трэба ўсяляк падкрэсліваць.

Мы можам таксама выразней паказаць, як глыбока гісторыя ўгрунтаваная ў сучаснасць. Як ні парадаксальна на першы погляд, іскра доследу, якую прабівае ток цікаўнасці, атрымлівае сэнс толькі тады, калі чалавек адмаўляецца ад думкі, што гісторыкі дзейнічаюць як пыласосы: высмоктваюць з мінуўшчыны металалом, каб пазней сабраць да кучы. Гэтае ўражанне можна выправіць, звярнуўшыся да ўсім знаёмага досведу індывідуальнае памяці. Мы ведаем, што ў нашым жыцці адбыліся пэўныя рэчы; мы ведаем, што ў нас пра іх захавалася выбарачная памяць і, нарэшце, што розныя пытанні могуць прымусіць нас аднавіць забытае і, такім чынам, паглядзець на цэлае пад іншым вуглом. Зачыніўшы дзверы перад папулярным поглядам на гісторыю як на неінтэрпрэтаваны корпус фактаў, мы зможам адчыніць іх перад нязмерна цікавейшай праблемай: як пытанні вядуць праз прамежкавы фільтр — культуру — да ведаў.

Гісторыя магутная таму, што мы жывем сярод яе рэшткаў, парэшткаў, і напамінкаў. Больш за тое, вывучаючы грамадствы, непадобныя да нашага, мы спрацiўляемся хронацэнтрызму, які слепіць зрок нашым сучаснікам. Вось чаму мы не можам ні адмовіцца ад інтэлектуальнае строгасці, ні знецаніць дакладнасць. У гісторыі нязводна прысутнічае элемент пазітывізму, бо яе суб'ект рэальны, нават калі рэальнасць яго мімалётная і грунтаваная на тэкстах. Гістарычнае пісьмо творыць аб'екты для нашых думак, прамаўляючы гучна тое, што было змоўкла, выцягваючы з аб'ектаў, збудаваных людзьмі, прыхаваную інфармацыю. Гэтая матар'яльнасць гістарычных сведчанняў стрымлівае нашую сваволю. Уявіце сабе, што нацысты выйгралі II сусветную вайну і загадалі забыць пра Галакост. Рана ці позна нехта напаў бы на след схаванага або спатыкнуўся б на супярэчнасцях у дакументах, пакінутых пераможцамі. На змену адным тэкстам тады прыйшлі б іншыя, але стымул да гэтае змены прыйшоў бы з самое мінуўшчыны; гэтаксама як навукоў-

цы, якія рэканструявалі шэраг паслякалумбавых дэмаграфічных няшчасцяў, як толькі іхная цікаўнасць звярнулася ў гэтым кірунку, атрымалі процьму адпаведных сведчанняў. Менавіта канкрэтнасць дае гісторыі моц прыцягваць увагу, напружваць уяўленне і змяняць думкі.

Аднак гісторыкі падыходзяць цяпер да мінуўшчыны інакш. Возьмем, напрыклад, Злучаныя Штаты. На працягу ХІХ ст. амерыканская гісторыя насіла збольшага кампенсатарны характар: яе выклад апраўдваў яскравую адметнасць гэтае краіны — яе адносны эгалітарызм у свеце, дзе прывілеі ўсё яшчэ асацыяваліся з перавагамі, яе дэмакратычную палітыку ў сусветным парадку, утвораным ваяўнічымі манархіямі, яе гетэрагеннасць у эпоху, калі ідэалам дзяржавы былі адна вера, адна мова, адзін гаспадар і адзін збор меркаваных продкаў. Амерыканская гісторыя абярнула нацыянальныя нястачы ў каштоўнасці.

Гэты выклад рэзка змяніўся ў ХІХ ст., калі гісторыкі, нанава даследуючы эру заснавання, узялі на сябе ролю сацыяльных крытыкаў. Чарлз Бэрд у сваёй кнізе «Эканамічная інтэрпрэтацыя Канстытуцыі Злучаных Штатаў» *(«An Economic Interpretation of the Constitution of the United States»)* сцягнуў айцоў–заснавальнікаў з п'едэсталаў, каб, выставіўшы напаказ іх людскія слабасці, апраўдаць імі гнуткасць інтэрпрэтавання канстытуцыі. За Бэрдавым прыкладам гісторыкі ва ўсе наступныя эпохі шукалі ў палітыцы „зацікаўленыя групы“ *(„interest groups“)*. З цягам часу захопленасць прагрэсістаў *(Progressives)* класавай барацьбой спалучылася з пошукам занядбаных амерыканцаў, папулярным у 60–я г. Якая б цудоўная ні была гэтая праца, у выніку яна ўдоўжыла веку прагрэсісцкай парадыгме, адно што ранейшыя заклікі да «разграбання бруду» змяніліся баявым клічам «раса, клас і пол».

Рэфармісцкі імпульс прагрэсістаў пакінуў па сабе спадчыну, якая трывае дагэтуль: яшчэ і цяпер мала хто з гісторыкаў чуецца ўтульна, паказваючы капіталізм у прывабным святле або нават проста падыходзячы да яго як да надзвычай маштабнай і плённай праявы. Куды часцей капітал і капіталісты выступаюць як прывідныя прысутнасці або, яшчэ горш, як увасабленне людское сквапнасці. Хоць капіталізм — тая самая руховая сіла, што стаіць за заходняй мадэрнасцю, але навукоўцы часта разглядалі яго паходжанне як экзагеннае, а ягоныя эфекты — як сведчанне падупаласці чалавецтва. Ад вывучэння першапачатковага назапашвання і аж да доследаў рэкламнае стымуляцыі спажывецкіх густаў капіталізм разглядаўся як нешта накінутае звонку, адарванае ад сваіх культурных каранёў. Правёўшы ладную частку жыцця ў роздумах пра тое, як рынкавая эканоміка раскрывае закладзеныя ў людзях магчымасці, я пераканалася, што такі згодны паказ рынкавых дачыненняў не дазваляе нам зразумець сутнасці найвыдатнейшага ў гісторыі спосабу

арганізацыі людскога таленту. Страта гэтая не маральная, а інтэлектуальная — паноўная ідэалогія не дазваляе здзейсніць і нават задумаць дзесяткі даследчыцкіх праектаў.

Складанасць рэакцыі гісторыкаў на капіталізм нельга аднесці выключна на рахунак састарэлае парадыгмы. Тут нешта большае. Як даўно заўважыў Р. Н. Кэр'ю Хант *(R.N.Carew Hunt)*, «амаль дзве тысячы гадоў еўрапейская цывілізацыя грунтавалася на супярэчнасці — паміж філасофіяй і рэлігіяй, якія вучаць, што ўсе людзі браты, і эканамічнай сістэмай, якая арганізуе іх як гаспадароў і слугаў»[21]. У Злучаных Штатах гэтая супярэчнасць сталася яшчэ вастрэйшаю, бо тут надзвычай важнае значэнне надаецца палітычнай роўнасці. Пазіраючы з недаверам на еўрапейскую сістэму спадкавання статусу, амерыканцы пачатку XIX ст. часта пагаджаліся, што эканамічная свабода падмацоўвае палітычную і наадварот. Гэтыя квазі–утапічныя спадзяванні вялі да непазбежнага расчаравання. І расчароўваца было ў чым.

Сто пяцьдзесят гадоў таму гісторыкі ўсхвалялі гандлёвы спрыт гэтае нацыі як доказ дэмакратычнае энергіі; ад часоў прагрэсістаў яны ўсё больш засяроджваліся на групах, якім не ўдавалася скарыстаць з эканомікі, стымуляванае прыбыткам. Можа цяпер, пад канец XX ст., мы нарэшце патрапім даследаваць сацыяльную складанасць нашае прадпрымальніцкае сістэмы, пазбыўшыся хвалебных і кампенсатарных цяжараў нашых папярэднікаў.

Сіла гісторыі вызваляецца. Калі гэта патрабуе доказаў, дастаткова азірнуцца на чатыры апошнія дзесяцігоддзі. Спярша сацыяльныя гісторыкі вылучылі і даследавалі групы, раней ігнараваныя гістарычнай навукай. Потым вывучэнне ідэалогіяў і парадыгмаў з наступнай постмадэрнісцкай крытыкай і культурнымі даследаваннямі глыбока ўвайшлі ў працэс фармавання грамадствам арганізацыі чалавечай свядомасці праз мадэлі, дыскурсы і няяўныя (*insinuating*) моўныя коды. Сёння нам, навукоўцам, музейшчыкам, захавальнікам і даследчыкам мінулага, даводзіцца думаць праз акты прысваення і ўспаміну. Мы больш не можам рабіць выгляд, быццам не ведаем іх наступстваў. Мы цяпер усведамляем свае дапушчэнні, свае формы, свае галасы. Калі мы здолеем жыць з гэтай няпэўнасцю, шукаць сэнс, аспрэчваць значэнне, зноў і зноў прыводзіць сведчанні цуду імкнення чалавека спасцігаць і дзяліцца гэтымі актамі з грамадскасцю, можна быць упэўненым, што гісторыя — галоўны з заходніх дыскурсаў — не будзе мець канца.

*З ангельскай пераклаў Мікола Раманоўскі*

[21] R. N. Carew Hunt, *The Theory and Practice of Communism* (New York, 1951), 3.

# Вусная гісторыя*

## Гўін Прынз

Гісторыкі, якія спецыялізуюцца на новай гісторыі, масавай літаратуры, індустрыяльных грамадствах — г.зн. найлепшыя прафесіяналы — звычайна вельмі скептычна ставяцца да каштоўнасці вусных крыніцаў у рэканструкцыі мінулага. «Наконт гэтага я амаль цалкам скептык», — рэзка выказаўся Тэйлар. «Лухта, якую нясуць старыя пра сваю маладосць. Не!» Цяпер, пэўна, многія выяўляюць крыху большую зычлівасць і прызнаюць вусную гісторыю — гісторыю, напісаную на аснове сведчанняў жывых людзей, а не пісьмовых дакументаў — прыемнай і карыснай ілюстрацыяй, але мала хто згаджаецца, што такія матэрыялы могуць стаць галоўнымі ў вывучэнні сучасных грамадстваў, якія пакідаюць па сабе пісьмовыя дакументы. Створаныя Стадам Тэркелем «гісторыі людзей» перыяду дэпрэсіі і II сусветнай вайны ніколі не змогуць, на іх думку, сфармаваць агульныя гістарычныя гіпотэзы, што датычацца маштабных падзей.

Мяркуемая слабасць вусных крыніцаў лічыцца універсальнай і непазбежнай, скажам, для грамадстваў, пазбаўленых пісьмовых крыніц, а традыцыйны дыяпазон для разважання вузкім. З аднаго боку, Артур Марвік у *The Nature of History* («Прырода гісторыі») прызнае, што «гісторыя, заснаваная выключна на недакументальных крыніцах, як, напрыклад, гісторыя афрыканскага грамадства, можа быць не такой, як хацелася б, больш фрагментарнай параўнальна з гісторыяй, выведзенай з дакументаў, але гэта таксама гісторыя». З другога боку, пакуль ёсць дакументы, не можа быць сапраўднай гісторыі. З часоў узнікнення гісторыі (г.зн. гісторыі, напісанай паводле метаду Ранке) Афрыку лічылі агістарычным кантынентам *par excellence*. Гэты погляд прывёў паслядоўна ад гегелеўскага пастулата 1831 г., што «гэта не гістарычная частка свету», да высновы Трэвара–Роўпэра ў 1965 г., якая тады абражала хутка разрастальныя кланы антыкаланіяльна скіраваных афрыканістаў, што Афрыка не мае гісторыі, ёй проста ўласцівы безвыніковыя цыркуляцыі варварскіх плямёнаў[1]. Не быў гэта толькі погляд на права ці толькі на Афрыку. Індыйскія вёскі, як прыклад азіяцкага спосабу вытворчасці,

* Gwyn Prins. Oral History // Burke P. (Ed.) New Perspectives on Historical Writing. Cambridge, 1992. P. 114—139.

[1] Пра погляд з іншага боку, які пачынаецца з гэтага ж пункта, гл.: Henk Wesseling, «What is overseas history», p. 67—92.

проста пакутвалі ад сонца, з характэрным для іх непрадукцыйным узнаўленнем, «некранутыя штармавымі хмарамі палітычнага небасхілу», паводле вядомага выказвання Маркса. З той пары прыхільнікі марксізму, якія стаялі на пазіцыі антыкаланіяльных рухаў, пакутвалі над гэтым палажэннем, спрабуючы растлумачыць, што стары на самой справе меў на ўвазе зусім не тое, што ён проста меў на ўвазе.

Ранкеанскі тэст працаваў ва ўсіх выпадках: і з прыхільнікамі, і з апанентамі. Паводле ранкеанскай ерархіі дадзеных, калі ў наяўнасці ёсць афіцыйныя пісьмовыя крыніцы, перавагу аддаваць трэба ім. Калі ж такіх няма, даводзіцца мірыцца з другараднымі, напаўняючы сваё вядро далей ад чыстай крыніцы афіцыйнага тэксту. Вусная інфармацыя ў гэтым кантэксце разглядаецца несумненна як непаўнавартасная, горшая, таму яе роля — спрыяць напісанню гісторыі грамадстваў, бедных на крыніцы. Па гэтых крытэрах Гегель, Трэвар–Роўпэр і Маркс проста добрасумленныя даследчыкі.

Сярод тых, хто выкарыстоўвае вусныя крыніцы, адны даюць рэзкі адказ на такі скептыцызм, другія — не такі рэзкі. Пол Томпсан, лідэр «руху» вуснай гісторыі (самавызначэнне, якое ўжо набыло евангелічнае гучанне), абараняе каштоўнасць вусных крыніц у сучаснай гісторыі грамадства, бо яны дазваляюць выйсці на сцэну гісторыі тым, чые погляды і каштоўнасці пазбаўлены правоў «гісторыяй зверху». Томпсан злосна напісаў у сваім маніфесце *The Voice of the Past* («Голас мінулага»), што

> апазіцыя вусным сведчанням засноўваецца як на пачуцці, так і на прынцыпе. Старэйшае пакаленне гісторыкаў, якія трымаюць старшынства і завязкі капшука, інстынктыўна баіцца прыходу новага метаду. Гэта значыць, што яно больш не валодае ўсімі прафесійным метадамі, таму і прыніжае сваімі рэплікамі маладых людзей, якія тупаюць па вуліцах з магнітафонамі[2].

Такім чынам, нястрыманасць у выказваннях у бітве за месца вусных крыніц у сучаснай гісторыі сведчыць пра выбух пачуццяў з абодвух бакоў. А што да значэння вусных крыніц для гісторыі грамадстваў без пісьменнасці, найбольш выбітны прадстаўнік вуснай гісторыі ў Афрыцы Ян Вансіна адкрыта прызнае пазіцыю Марвіка ў сваім маніфесце *Oral Tradition as History* («Вусная традыцыя як гісторыя»):

> Там, дзе няма ці амаль няма пісьма, вусная традыцыя мусіць браць на сябе асноўны ўдар у гістарычнай рэканструкцыі. Яна не выканае гэтую місію так, як гэта робяць пісьмовыя крыніцы. Пісьмо — тэхналагічны цуд... Даследчык павінны поўнасцю

[2] Thompson P. The Voice of the Past: Oral History. Oxford, 1978, 63.

> аціаніць і ўсвядоміць абмежаванасць вуснай традыцыі, каб урэшце не напаткала расчараванне, што ў выніку доўгіх гадоў працы стала рэканструкцыя, далёка не дэтальная. Рэканструкцыя, створаная на падставе вусных крыніцаў, можа мець меншую ступеню надзейнасці, калі няма незалежных крыніц для ўзаемнай праверкі[3].

І ўсё ж нельга сцвярджаць, што прымяненне вусных крыніц апраўдана толькі ў абставінах, калі яны вымушана застаюцца адны. Сам Вансіна паказвае і ў названай кнізе, і ў іншых сваіх манаграфіях, што часта гэта не так, галоўны акцэнт яго довадаў, насамрэч, нашмат больш рашучы. Адносіны пісьмовых крыніц да вусных не ёсць адносінамі «опернай прымадоны і яе дублёршы: калі зорка спяваць не можа, з'яўляецца дублёрша: калі церпіць няўдачу пісьменнасць, на сцэну выходзіць традыцыя. Гэта не так. [Вусныя крыніцы] папраўляюць іншыя перспектывы, як і тыя ў сваю чаргу папраўляюць іх саміх».

Чаму ўсё ж выкарыстанне вусных крыніц настолькі супярэчлівае? Пол Томпсан выказаў меркаванне, што старыя прафесары не хацелі навучацца новым хітрасцям і супраціўляліся таму, што адчувалі пагрозу асабліваму статусу метаду Ранке. Можа гэта і так, але я падазраю, што прычыны глыбейшыя і не такія просталінейныя. Гісторыкі жывуць у грамадствах, якія валодаюць пісьменнасцю, і, падобна многім насельнікам такіх грамадстваў, несвядома імкнуцца пагарджаць вымаўленым словам. Гэта вынік нашага гонару пісьмом і нашай пашаны да пісьмовага слова. А чаму не? Як адзначыў Вансіна, камунікацыя праз сімвалічную, пісьмовую мову — найвялікшае дасягненне. Пісьменны чалавек звычайна забываецца пра гэта. Новазеландскі народ маоры дае сумны, але яскравы прыклад распаўсюджанай з'явы ў перыяд экспансіі Еўропы: непісьменны народ спачатку назіраў, потым ухапіўся са страшэннай сілай за гэты інструмент улады, але не здолеў кантраляваць яго.

Канкрэтныя факты несумненна ўражваюць. У 1833 г. можа 500 маоры ўмелі чытаць; праз год — 10 000. У 1840 г., калі была заключана дамова ў Вайтангі, паводле якой правадыры маоры згубілі сваю зямлю (або атрымалі выгоды ад брытанскай анексіі, у залежнасці ад пункту гледжання чытача), адзін падарожнік выказваў заклапочанасць фізічным здароўем маоры, што не ўласціва *pakeha* (беламу чалавеку) таго часу. Замест фізічных практыкаванняў (як належыць высакародным дзікунам), цяпер яны сядзелі, «зрабіўшыся чытачамі». У 1837 г. друкар Ўільям Каленса са знакамітай місіянерскай сям'і скончыў першае выданне Новага запавету для маоры, і да 1845 г. пратэстанцкія місіянеры распаў-

[3] Vansina J. Oral Tradition as History. Madison, Wisconsin, 1985, 199.

сюдзілі колькасць асобнікаў Новага запавету на мове маоры, якая складала палову колькасці народа маоры. У 1849 г. губернатар Джордж Грэй лічыў, што працэнт пісьменных сярод маоры быў большым у параўнанні з любым еўрапейскім народам. Якую ж сілу бачылі маоры ў пісьме і якой з такім імпэтам дамагаліся?

Гэтая сіла мела тры ўзроўні, але падобна многім толькі заваяваным і толькі часткова пісьменным народам, маоры паспяхова авалодалі ўсяго малой часткай яе. Першы аспект улады кнігі быў татэмічны. У непісьменных маоры любыя кнігі асацыяваліся з царквой, і яны засоўвалі старонкі ў павялічаныя дзіркі ў вушах. Гэта была спроба, звычайна характэрная для ранніх стадый каланіяльнага сутыкнення, атрымаць уладу асацыяцыйна, праз далучанасць. Другі аспект маніпуляцыйны. Той жа Каленса (на тым самым варштаце, дзе ён друкаваў Святое пісанне) у 1840 г. набраў тэксты Вайтангскай дамовы. На сходзе, дзе абмяркоўвалася дамова, яму не ўдалося пераканаць губернатара, што пакуль усе маоры адно чулі, і толькі некаторыя маглі чытаць словы перакладзенага ангельскага праекта, яны не маглі зразумець і не разумелі юрыдычнага значэння дакумента, не маглі засвоіць падставовых паняццяў уласнасці, зразумець наступствы подпісу. Дон МакКензі настойвае, што бітву за кантроль над зямлёй маоры прайгралі рашуча і надоўга менавіта таму, што іх імкненне да пісьменнасці ў папярэдняе дзесяцігоддзе стварыла ўражанне, што яны могуць і ўжо прынялі правілы гульні, усталяваныя пісьмовым узроўнем, на самай жа справе яшчэ былі няздольныя паспяхова маніпуляваць ім[4].

Трэці аспект улады — фармальны і актыўны, чыёй функцыяй ёсць надаваць матэрыяльную форму, акумуляваць і фіксаваць веды — і складае самую сутнасць цуда пісьма і (ва ўсіх грамадствах) сведчыць пра магчымасць пераадолець перашкоду і перайсці ад пасіўнага да актыўнага, ад ахвяры да гаспадара пісьмовага слова. Менавіта авалоданне такой функцыяй пісьма з'яўляецца найбольш рэвалюцыйным па сваіх наступствах, хоць вельмі няўлоўным. Маоры ж не авалодалі ёй у палітычна значным маштабе ажно да наступнага пакалення.

У пячорных роспісах Ласко ў Францыі сярод выяваў жывёл можна ўбачыць шэрагі спараных кропак. Гэта, магчыма, самыя раннія прыклады камунікацыі пры дапамозе сімвалаў: камунікацыя, сляды якой пакінуты індывідам, хоць сама яна існуе ў часе і прасторы незалежна ад яго. Здольнасць да гэтага — галоўны крытэр адрознення *Homo sapiens* — чалавека разумнага — ад яго біялагічных папярэднікаў: першы вялікі

[4] McKenzie D.F. The sociology of a text: oral culture, literacy and print in early New Zealand // Burke P., Porter R. (eds). *The Social History of Language.* Cambridge, 1987, 161—97.

бар'ер у гісторыі чалавецтва. Можа быць, кропкі Ласко разам з паліраванымі ручнымі сякерамі з'яўляюцца першымі прадвеснікамі нэалітычнай рэвалюцыі, якая стала падмуркам усёй наступнай цывілізацыі.

Старажытныя жыхары Блізкага Ўсходу навучыліся выплаўляць жалеза, вырошчваць пшаніцу і прыручылі жывёл[5]. Ім жа належыць галоўнае вынаходніцтва, якое раскрыла патэнцыял пісьма. Сімвалічнае пісьмо мела рашучае значэнне ў тым, каб прымусіць чалавека пераадолець нефіксаванасць вуснай мовы, але яно было нязручным. Менавіта стварэнне *алфавітнай* сістэмы спрыяла канчатковаму развіццю пісьменнага па сутнасці грамадства, якое ўпершыню дасягнула росквіту ў Грэцыі ў VII ст. да н. э. Бэртран Расэл казаў, што ўздым цывілізацыі ў Грэцыі — рэч самая дзіўная і самая цяжкая для тлумачэння ва ўсёй гісторыі. Гэта несумненна быў другі водападзел, хоць, можа, не такі важны, як нэалітычная рэвалюцыя, і, можа, не заслугоўвае такіх высокіх словаў.

Джэк Гуды ў *The Domestication of the Savage Mind* («Прыручэнне дзікага розуму») мяркуе, што ў імкненні спасцігнуць уладу пісьменнасці карысна, прыстасоўваючы тэрміналогію Маркса, вылучыць дзве часткі ўнутры *спосабу* камунікацыі: сродкі і адносіны камунікацыі, фізічнае і сацыякультурнае вымярэнні адпаведна. У наступнай працы, гаворыць ён, заўсёды трэба памятаць пра абедзве. У гэтым святле Грэцыю можна ўпісаць у пэўны кантэкст.

Мы апынуліся ў гушчы пісьменнага грамадства, якое валодае алфавітнай сістэмай пісьма і, азіраючыся назад, можна вылучыць тры спосабы камунікацыі:

1. Вусныя культуры, дзе мова мае чыста вусную форму. Лакальныя мовы даюць іх тыповыя прыклады. Дадзены тып ёсць цяпер і быў на працягу доўгага часу адносна рэдкім.

2. Пісьмовыя культуры, дзе мова мае толькі пісьмовую форму, таму што вусная форма знікла. Гэты тып прадстаўлены класічнымі мовамі.

3. Змешаныя культуры, дзе мова мае і вусную і пісьмовую формы, даступныя для ўсяго насельніцтва ці яго часткі. Мусім пайсці далей і вылучыць унутры іх *універсальна пісьменныя* культуры, якія занадта лёгка прымаюцца за дадзенасць, але гістарычна нетыповыя, і *абмежавана пісьменныя* культуры, дзе большасць насельніцтва жыве на мяжы, але пад уплывам, пісьмовага выяўлення.

Існаванне ў асяроддзі змешанай культуры, фактычна, тыповае сёння для ўсіх вялікіх сусветных моваў. Людзьмі, асабіста непісьменнымі ці напаўпісьменнымі, усё яшчэ кіруе кніга, як у выпадку з маоры XIX ст.,

[5] Жалеза было таксама незалежна атрымана ў Тайландзе і, верагодна, у раёне Вялікіх Азёраў у Цэнтральнай Афрыцы; велізарнае значэнне блізкаўсходняга адкрыцця ў спалучэнні з прыручэннем каня і земляробствам.

большай часткай ісламскага свету, ці пост–пісьменнымі ў новым свеце масавай электроннай камунікацыі: над імі пануюць радыё, тэлебачанне і тэлефон. Але гісторыкі — людзі пісьменныя, *par excellence*, і для іх пісьмовае слова мае першаступеннае значэнне. Яно фармуе іх стандарты і метады. Яно зніжае каштоўнасць вуснага слова, якое атаясамліваецца з утылітарным і простым у параўнанні з канцэнтраваным значэннем тэксту. Яны не бачаць нюансаў і тыпаў вусных дадзеных.

Адно з наступстваў жыцця ва ўмовах культуры, дзе пануе пісьмо, — выцясненне вуснага слова праз яго прыніжэнне. Мы павінны мець поўнае ўяўленне пра шматлікія складовыя часткі асобных пісьмовых моваў: у гісторыі ангельскай мовы існуюць узоры Чосэра і Шэкспіра, асобная мова Бібліі караля Джэймса ці Агульнага малітоўніка, кожная з якіх працягвае жыць. Звяртаючыся да вуснай ці змешанай культуры, трэба свядома прыкласці намаганне, каб паспрабаваць і запаволіць свой крок, і паглядзець на вусную спадчыну як на патэнцыйна такую ж складаную з'яву. Мы павінны бачыць розніцу паміж важнай і банальнай гутарковай мовай, як у Томаса Гардзі Тэс з д'Убэрвіля пераходзіла з дорсэтскага дыялекта на літаратурную ангельскую мову ў залежнасці ад суразмоўцы, як карыбскія растафары захоўвалі асаблівы стыль для рэлігійных спеваў. Адзін з найстарэйшых і добра вядомых прыкладаў таго, як асобныя віды мовы вуснага і пісьмовага ўзроўняў пераплятаюцца ў змешанай культуры — вусная традыцыя, звязаная з Каранам, *hadith*. У выдатным даследаванні змешанай ісламскай культуры Эрнэст Гельнэр паказаў, як *baraka* (харызматычны аўтарытэт) «святых» ці Святых людзей Атласных гор Марока паходзіць (дзеля непісьменных суседзяў) з вуснага тлумачэння ісламскага закону, *shari'a*. Але *shari'a* — пісаны закон, у той час як самі гэтыя святыя маглі быць непісьменнымі, тым не менш, іх харызма грунтуецца на асацыяцыі з уладай кніжнага слова.

Паводле традыцыйных гісторыкаў–дакументалістаў крыніцы павінны валодаць трыма якасцямі, ніводная з якіх, відавочна, не ўласціва вусным дадзеным, таму іх не ўспрымаюць сур'ёзна. Ад крыніц патрабуецца дакладнасць формы. Важна бачыць стабільную прыроду сведчання. Дакумент ёсць артэфактам. Няма ніякіх сумненняў наконт таго, што такое спадчына, фізічна: форма фіксаваная. Яе таксама можна праверыць рознымі спосабамі, фізічна (зноў жа), ды і шэрагам параўнальных, тэкстуальных, структурных і іншых сродкаў. Гэта прыводзіць да другой якасці, якой прагна шукаюць: дакладнасць храналогіі.

Гісторыкі мысляць у паслядоўным часе, адлічаным календаром і гадзіннікам. Дакумент у гэтым плане можа даць цудоўныя дэталі і, такім чынам, магчымасць вывесці з яго тонкія аргументы. Аб'ектыўнасць, на якой настойваюць больш традыцыйныя сябры гістарычнага цэху, па-

лягае шмат у чым на мяркуемай сіле дэдукцыі, атрыманай з стараннага вывучэння логікі выдатна тэкставанага наратыву. Але, як мы хутка ўбачым, паслядоўны час — не адзіны від часу, якім карыстаюцца людзі, і апроч змены ёсць яшчэ іншыя рэчы, якія трэба тлумачыць.

Трэцяе, паколькі ты пісьменны, пісьмо не выклікае цяжкасцяў і пакідае фіксаваны след, таму мы жывем у акіяне пісьмовых пасланняў і разлічваем на разуменне зместу праз чытанне дадатковых тэкстаў. *Testis unus, testis nullus*: адно сведчанне не ёсць сведчаннем. Мы даказваем павелічэннем колькасці. Па кожнай з гэтых прычын непадмацаваныя вусныя сведчанні цэняць мала. Форма нефіксаваная, храналогія часта недакладная, камунікацыя можа часта быць непадмацаванай. Для гісторыкаў, якія не любяць вуснай гісторыі, усяго гэтага дастаткова, каб адмовіцца ад яе. Але часта дадаюцца яшчэ два фактары, якія маюць дачыненне да аб'екту яе даследавання. Пра адзін з іх ішла размова ў пачатку: вусная гісторыя паблажліва дазваляе сабе займацца ўскоснымі пытаннямі. Сутнасць другога фактара ў тым, што вусная гісторыя не можа быць іншай — яна замыкаецца ў неадпаведнасці малога маштабу.

Я думаю, што агульная незадаволенасць метадалагічнымі перадумовамі ў дачыненні да дакладнасці часта адлюстроўвае перакананне, што вусныя дадзеныя не могуць патлумачыць змену, і што змена — гэта тое, чым у асноўным займаюцца гісторыкі. Але гэта не зусім так. У некаторых сітуацыях, пераважна ў не– або квазі–пісьменных грамадствах, кантынуітэт значна больш цікавы і больш складаны для тлумачэння, чым змена. Незадаволенасць наконт самапаблажлівасці адлюстроўвае або прымхі ў дачыненні да гісторыі знізу, або страх, што паколькі вусныя дадзеныя атрыманы ў маштабе ўспрымання індывіда, гісторык апынецца ў пастцы маламаштабнасці, магчыма, будзе падманута і, значыць, няздольны да адэкватнай экстрапаляцыі. Карацей, мы рызыкуем быць бездапаможна перагружанымі. Вусная гісторыя распавядае нам толькі дробязі пра важных людзей і важныя рэчы (паводле іх уласнага разумення) пра дробных людзей.

Ці сапраўды гэта так? Менавіта для таго, канешне, каб прарваць тую пазіцыю ігнаравання, на поле бітвы была выведзена артылерыя «руху вуснай гісторыі». Яна, верагодна, была ахоплена звышэнтузіязмам пад час першых стрэлаў, але пытанні ў адказ былі рэальныя і аднолькава ясна звязаныя з функцыямі памяці і мэтамі гісторыі ў грамадствах з рознымі спосабамі камунікацыі. Апроч ранкеанскіх існуюць і іншыя крытэры, і імі трэба карыстацца.

Для таго каб ацаніць гэтыя прэтэнзіі і ўбачыць, хто як разумее мэты гісторыка, трэба дакладна вызначыцца з тэрміналогіяй,

што дазволіць пазбегнуць памылак і блытаніны ў паняццях. Таму адразу, услед за Вансінам, вылучым два тыпы вусных дадзеных, а ўнутры аднаго тыпу чатыры розныя формы іх, будзем гатовыя сустрэць розныя аргументы наконт кожнага з іх ў розных тыпах грамадства.

Што такое вуснае сведчанне больш дакладна? У пачатку я вызначыў яго як сведчанне, атрыманае ад жывых людзей, а не ад неадушаўлёных крыніц, але гэтага яшчэ недастаткова. Існуе вусная традыцыя. У *De la tradition orale* («Вусная традыцыя»), кнізе, што больш за якую іншую рэвалюцыянізавала нашы адносіны да вуснай традыцыі, Ян Вансіна даў ёй наступнае вызначэнне: гэта «вусная спадчына, якая перадаецца вербальна *ад аднаго пакалення наступнаму ці далей*» [вылучанана аўтарам]. Такі матэрыял — субстанцыя для рэканструкцыі мінулага грамадства пры дапамозе вуснай культуры. Вусная традыцыя прамаўляецца ўсё менш і менш, паколькі культура рухаецца да масавай пісьменнасці, хоць частка вуснай традыцыі можа захоўвацца і ў пераважна пісьменным асяроддзі.

Другі тып вусных крыніц — асабістая памяць. Гэтае вуснае сведчанне звязана з жыццёвым досведам інфарманта. Яно калі і перадаецца ад пакалення пакаленню, то выключна ў надзвычай збедненай форме, напрыклад, у форме асобных сямейных паданняў. У 1870–я г. мой дзед па мацярынскай лініі працаваў памочнікам садоўніка ў вялікай сядзібе ў Корнўэле. Дварэцкі быў садыстам, які часта садзіў кацянят на гарачую кухонную пліту і атрымліваў асалоду, назіраючы за іх агоніяй. Можна зразумець, чаму мой дзед не забыўся на такія ўчынкі, менавіта з–за гэтага чалавека пакінуў сядзібу і пайшоў працаваць на шахты. Гэта я чуў ад сваёй маці. Уласна асабістая памяць фармуе велізарны аб'ём вусных сведчанняў, якія выкарыстоўвае ў сваёй працы Пол Томпсан і рух вуснай гісторыі ўвогуле.

Вусная традыцыя адрозніваецца ад успамінаў па–іншаму. Перадача вялікай колькасці і спецыяльных формаў вусных дадзеных ад пакалення пакаленню патрабуе часу і значных інтэлектуальных намаганняў; такім чынам, павінна існаваць нейкая мэта. Прынята думаць, што мэта структурная. Некаторыя тэарэтыкі, такія, як Дуркгайм, лічаць, што мэта — стварэнне і перадача вуснай традыцыі, якая сістэмна адносіцца да ўзнаўлення грамадскай структуры і залежыць ад яе. Іншыя бачаць шырэйшыя і больш аўтаномныя кагнітыўныя мэты. Але якімі б яны ні былі, перш, чым улічваць іх, вусную традыцыю трэба падзяліць яшчэ на чатыры тыпы[6].

[6] Запазычана ў Я.Вансіны, гл.: Vansina J. Once upon a time: Oral traditions as history in Africa // Daedalus. Nr. 2. 1971 (Spring), 442—68, на с. 451.

Калі паведамленне механічна завучана, тады словы належаць традыцыі. Калі форма прадстаўлення фіксаваная, тады структура належыць традыцыі. Разгледзім усе катэгорыі адна за адной.

Завучаныя, у застылай форме матэрыялы фактычна прыносяць гісторыку найменшы клопат з праверкай, бо строгі тэкстуальны аналіз версій адной і той жа традыцыі дасць магчымасць дабрацца да агульнага ядра формы і словаў. Правілы формы і мовы можна ідэнтыфікаваць. Афрыканскія ўхвальныя вершы, найлепш вядомыя з іх зулускія *isibongo*, даюць добрыя прыклады гэтага жанру. Словы, форма і інтанацыя — усё строга рэгламентавана. Часта ўхвальныя вершы характарызуюць адносіны паміж правіцелем і падданымі: яны з'яўляюцца прамежкавым звяном адносінаў, якія не могуць быць рэалізаваны праз непасрэдную размову. Іх структура, такім чынам, адлюстроўвае іх мэту. Вось урывак з такога ўхвальнага верша народа лозі, запісаны мной у заходняй Замбіі. Ён выконваўся на мове луяна, старажытнай мове, якая амаль гэтаксама блізкая да сучаснай мовы сілозі, як англа–саксонская да сучаснай ангельскай.

> Хоць я блізка ад цябе, не магу размаўляць з табой. Але ў гэтым няма бяды, таму што я ведаю, калі прыйдуць мае родзічы. Я адыходжу ад правілаў, якіх мусіш трымацца ты. Кожная песня мае сваё паходжанне ...
>
> Калі кароль у двары, ён як слон у калючых хмызах; як буйвал у гушчары; як кукрузнае поле на ўзвышшы ў пойме Забезі. Добра кіруй краінай! Калі краіна памрэ, адказным будзеш ты. Калі яна будзе працвітаць, гонар і хвала табе.

Вывучэнне формул асабліва дае плён у спробе раскрыць вымярэнні народнай культуры дзякуючы таму, што цяжка ўмешвацца ў іх, бо калі нешта змяніць — то нельга не заўважыць гэтую змену. Вось яшчэ ілюстрацыя, зноў звязаная з інстытутам караля ў лозі ў Замбіі. Каланіяльная эпоха ў Афрыцы была ў пэўным сэнсе бурнай. Вецер пераменаў закрануў грамадства лозі, як і большасць іншых, таму, калі знаходзяцца элементы, якія застаюцца пастаяннымі, нягледзячы на моцны ціск, гэта асабліва цікава. Менавіта такую з'яву як раз і дэманструе наступны прыклад.

У 1974 г. я жыў сярод булозі і займаўся збіраннем прымавак, спачатку пераважна з цікаўнасці. Адна з іх на мове луяна, вельмі распаўсюджаная, па аналогіі звязваецца з інстытутам караля.

> Nengo minya malolo wa fulanga mei matanga, musheke ni ku onga. (Гіпапатам [Кароль] калыша глыбокія воды ракі; белыя пяскі водмеляў выдаюць яго.)

Праз пару гадоў я натрапіў на яе зноў, але ў іншым кантэксце: культ лекараўператварыў прымаўку ў антыфанальную песню, мяшаючы сучасную мову сілозі з старажытнай луяна.

Лекар ( рэчытатывам): Mezi mwa nuka ki tapelo! (Вада з ракі — малітва!)

Лекар (спявае): Kubu, mwana lilolo. (Гіпа, дзіця вадаварота.)

Хор: Itumukela mwa ngala! (Ён усплывае ў сярэдзіне плыні!)

Лекар: Musheke ni mu konga. (Пяскі выдаюць яго.)

Хор: Itumukela mwa ngala!

Такім чынам, тут мы маем два варыянты з той самай галоўнай тэмай, якія абодва існуюць у пост–каланіяльнай эпосе. Гэты прыклад яскрава паказвае, як крышталікі фармавыяўлення застаюцца нязменнымі ў калейдаскопе структур, адаптаваных да пэўных мэтаў.

Сіла формулы бачна, калі гэтыя сучасныя версіі змясціць за прымаўкамі, але ў формах, запісаных французскімі місіянерамі ў самым пачатку каланіяльнай дзейнасці ў 1890–х г.: «wa fulanga meyi matungu, musheke ni mu k'onga» і «Mbu ku mwan'a lilolo, wa twelanga matungu, musheke ni mu k'onga»[7]. Такі яскравы прыклад захоўвання ў форме вуснай крыніцы сведчыць пра яе перманентнае ўзнаўленне ў народнай культуры, а гэта, у сваю чаргу, гаворыць пра тое, што яна працягвае валодаць нейкай ахоўнай культурнай функцыяй[8]. Апошняя акалічнасць уздымае важнае пытанне селектыўнай памяці ў вусных крыніцах, пра што крыху ніжэй.

Некаторыя формулы менш схільныя да такой селектыўнай памяці, чым іншыя. Напрыклад, нейчая тоеснасць ў рамках нейчай асабістай культуры часта перадаецца і выказваецца публічна ў семіятычным апісанні фізічных межаў. Так, расшыфроўка апісання краявіду сядзібы, дадзенага мігрантам, можа прадэманстраваць культурнае ўзнаўленне больш яскрава. Гэта бліскуча паказана ў даследаванні іншай афрыканскай з'явы. Кніга *Siyaya: The Historical Anthropology of an African Landscape* («Сіяя: Гістарычная антрапалогія афрыканскага ландшафту») робіць такую дэшыфроўку і выкарыстоўвае яе, каб аспрэчыць

[7] Яшчэ для ілюстрацыі яўнага і схаванага ў гісторыі лозі гл.: Prins G. The Hidden Hippopotamus. Reappraisal in African History: the Early Colonial Experience in Western Zambia. Cambridge, 1980.

[8] Больш падрабязна праблема важнасці і плённасці вывучэння прымавак разгледжана ў: Obelkevich J. Proverbs and social history // Burke and Porter (eds). The Social History of Language, p. 43—72.

распаўсюджанае меркаванне, што міграцыя прыводзіць да разрыву адносінаў[9].

Галоўныя праблемы слушнага і няслушнага выкарыстання вуснай традыцыі звязаны з традыцыямі, якія не завучваюцца механічна: эпас і наратыў. Фіксаваная форма эпасу азначае, што большасць афрыканскіх эпасаў паводле гэтай схемы наратыўныя. Пад «эпасам» тут я маю на ўвазе гамераўскі эпас: гераічная паэзія, складзеная вусна ў адпаведнасці з пэўнымі правіламі. Канешне, пазней вершы былі запісаны, і мы не можам ведаць, наколькі яны былі змененыя, у момант першага запісу ці пазней; але структура дастаткова моцная для таго, каб адлюстраваць гэты працэс. Вобразна кажучы, атрымліваецца коўдра, пашытая з шматкоў, своеасаблівая рапсодыя — у перакладзе з грэцкай літаральна «сшыты разам» — так што паўтарэнне формулы служыць своеасаблівым рабочым інструментам як для песняра, так і для аўдыторыі. Каля трэці «Іліяды» складаецца з радкоў ці блокаў радкоў, якія паўтараюцца не адзін раз. Тое ж справядліва і для «Адысеі». Дваццаць пяць формульных выразаў сустракаецца ў першых дваццаці пяці радках «Іліяды». Напрыклад, світанак амаль заўжды «кранутый ружовым», Афіна «савінавокая», востраў Ітака «акружаны морам» і, самае вядомае, мора «бы цёмнае віно». Але гэта не манатоннае паўтарэнне. Існуе трыццаць шэсць розных эпітэтаў для Ахілеса, падабраных і размешчаных паводле жорсткіх правілаў[10]. У выніку, з такіх вось кавалачкаў пясняр будуе новы твор, хоць асобныя выразы могуць быць старымі і добра вядомымі. Праўда, гэтая катэгорыя і гэты метад зноў уздымаюць відавочныя пытанні наконт абмежаванасці аб'ёму ведаў, якія вусная традыцыя можа ўтрымліваць ці перадаваць. Хіба ўсе гэтыя абмежаванні не вядуць да дэфармацыяў?

Нават з усімі альтэрнатывамі такая вусная творчасць не можа палепшыць веды ці павялічыць дакладнасць. Яе скоўвае мінучасць прамоўленага слова і абмежаваныя магчымасці чалавечай памяці нават з дапамогай мнеманічных сродкаў. Такім чынам, вусныя культуры не могуць уводзіць новае і павінны нешта забывацца. Гэтая тэза — галоўны аргумент прафесара Джэка Гуды ў *The Domestication of the Savage Mind* («Прыручэнне дзікага розуму»). «Дзікі» розум становіцца «прыручаным» тады, калі *сродкі* камунікацыі дазваляюць змяніць *спосаб* камунікацыі:

Пісьмо, асабліва алфавітнае, дае магчымасць глыбока даследаваць размову інакш — шляхам надання вуснай камунікацыі напаўстабільнай формы; такое ўважлівае вывучэнне спрыяла актывізацыі аналітыч-

[9] Cohen D.W., Odhiambo E.S.A. Siyaya, the Historical Anthropology of an African Landscape. London, 1988; рэцэнзія ў: *African Affairs.* 188 (October 1989), 588—9.
[10] Finley M.I. The World of Odysseus. Penguin edition, 1962, 34.

най дзейнасці, а значыць, узмацненню рацыянальнасці, скептыцызму, логікі. Яно адкрыла шлях узрастанню патэнцыялу аналізу, таму што пісьмо перадавала разважанні наглядна рознымі спосабамі, адначасова пашыраючы магчымасці кумулятыўных ведаў, асабліва ведаў абстрактнага характару... Праблема аб'ёму чалавечай памяці перастае адыгрываць вырашальную ролю ў інтэлектуальным жыцці чалавека. Чалавечы розум быў вольны вывучаць статычны тэкст, а не абмяжоўвацца ўдзелам у дынамічным выказванні[11].

Паколькі частка вусных гісторыкаў не згодныя з поглядам прафесара Гуды на ролю пісьма ў інтэлектуальным вызваленні, многія, і асабліва Вансіна ў *Oral Tradition as History* («Вусная традыцыя як гісторыя»), будуць аспрэчваць распаўсюджванне палажэння Гуды на тэзу, што вусная традыцыя, такім чынам, таксама гомеастатычная: тое, што нязручна ці больш не мае функцыянальнага значэння, забываецца. Ён мяркуе, што структурная амнезія пашкоджвае вусныя культуры, якія, такім чынам, вымушаныя быць селектыўнымі з–за абмежаванасці памяці, а значыць, традыцыя не можа служыць добрым гістарычным матэрыялам.

Фактычна, такая структурная амнезія рэдка бывае татальнай. Шмат у якіх ранейшых працах, і асабліва ў шэдэўры па дакаланіяльнай гісторыі цэнтральнай экватарыяльнай Афрыкі пад назовам *Paths in the Rain–forest* («Сцежкі ў лесе дажджу»)[12] , Вансіна паказвае, як можна разблытаць і дэшыфраваць некалькі патокаў традыцыі, прысутнай у канцы ланцуга трансмісіі, у тым ліку параўнаннем варыянтаў і злучэннем вусных крыніц з крыніцамі іншага паходжання. Методыка ўнутранага тэкстуальнага параўнання па пераадоленні гомеастатычнасці добра вядомая. Ісламскія даследчыкі ацэньваюць версіі *hadith* праз аналіз кожнага звяна ланцуга (*isnâd*) і не прымаюць ніводную традыцыю, для якой дадзеныя пра *isnâd* цяпер адсутнічаюць ці недастаткова поўныя. Але нават калі перамагчы гомеастатычнасць і вызначыць, якія традыцыі захаваліся ў спадчыне, г.зн. імкнуцца да дакладнасці формы, то як іх датаваць?

Дакладнасць храналогіі была другой з трох якасцяў, на якіх настойваюць гісторыкі–дакументалісты. Менавіта імкненне адпавядаць гэтаму патрабаванню і, такім чынам, атрымаць знешнія атрыбуты рэспектабельнасці найчасцей прыводзіла ў выкарыстанні вусных дадзеных да сур'ёзных памылак. Гэтую праблему лёгка праілюстраваць.

Наратыўная катэгорыя часта ўтрымлівае тры віды трансмісіі: традыцыі паходжання, дынастычныя паданні і звесткі пра грамадскую арганізацыю. Цяпер гэтыя тры віды наратыву не ўсе існуюць у адной і той

[11] Goody J. The Domestication of the Savage Mind. Cambridge, 1977, 37.
[12] Vansina J. Paths in the Rain–forest. Madison, Wisconsin, 1990.

жа канцэпцыі часу, хоць, ускладняючы справу, сама падача сведчання можа змешваць тыпы матэрыялу, як змешваюцца розныя гатункі мяса ў каўбасе.

**НЕСТРУКТУРАВАНЫ ЧАС**
Традыцыі паходжання
**«ТРАДЫЦЫЙНЫ» ЧАС (узгоднены, але не серыйны)**
Дынастычныя паданні
Звесткі пра структуру дзяржавы
**СЕРЫЙНЫ ЧАС**

Эдвард Эванс–Прычард, вялікі антраполаг, які даследаваў народ нуэр у паўднёвым Судане перад другой сусветнай вайной, напісаў цікавы і карысны нарыс, дзе апісаў тое, што ён назваў «ойкалагічным часам», г.зн. цыклічны час, калі людзі бачаць яго адрэзкі ў змене пораў года, а не ў чарадзе гадоў. Развіваючы гэтую тэзу, сацыяльны гісторык Э.П.Томпсан сцвярджаў, што пераход ад успрымання часу ў залежнасці ад віду дзейнасці — за адзінку часу бралася, напрыклад, у Мадагаскары «гатаванне рысу» (паўгадзіны); у заходняй Нігерыі «смажанне маісу» (пятнаццаць хвілін); у каталіцкім Чылі XVII ст. «па́ра сімвалаў веры» — да агульнага, культурна аўтаномнага і свядомага адмервання часу гадзіннікам быў часткай грамадскай свядомасці, які адбыўся пад уплывам і служыў падмуркам індустрыяльнага грамадства[13]. Адразу можна здагадвацца пра злоўжыванне вуснымі дадзенымі: адукаваныя гісторыкі спрабавалі атрымаць храналогію серыйнага часу па–за межамі традыцыі, якая існуе ў «традыцыйным» часе. Тут на пазіцыю прадмета можа ўплываць мінулая ці цяперашняя яго значнасць. Напрыклад, пра вельмі важныя рэчы можа быць сказана, што яны вельмі даўнія ці вельмі новыя, павялічваючы ці падаўжаючы іх у залежнасці ад кантэксту і канкрэтных мэтаў.

Але гісторыкі–даследчыкі, якія гоняцца за храналагічнай дакладнасцю з перакананасцю і зацятасцю калекцыянера XIX ст., не думаюць пра гэта. Яны бяруць, скажам, каралеўскую легенду. Палічылі колькасць згаданых у ёй каралёў. Сфармулявалі гіпотэзу наконт колькасці генеалагічных адгалінаванняў, напрыклад, за трыццаць гадоў. Памножылі адно на другое, гатова! — даты для вуснай культуры! Адзін гісторык, а менавіта Дэйвід Геньдж, праверыў і абвергнуў такую просталінейнасць. *The Chronology of Oral Tradition* («Храналогія вуснай традыцыі»), з краса-

[13] Evans–Pritchard E.E. The Nuer. Oxford, 1940; Thompson E.P. Time, Work Discipline and Industrial Capitalism // Flinn M.W. and Smout T.C. (eds). Essays in Social History. Oxford, 1974, 40—41. Гл. таксама: Le Goff J. Au Moyen Age: temps de l'Église et temps du marchand // *Annales*. 15 (1960), 417—33.

моўным падзагалоўкам *Quest for a Chimera* («Пытанне хімеры»), ахоплівае аналіз спісаў правіцеляў, пачынаючы ад афрыканскіх правадыроў да асірыйскіх цароў. Сеючы іканаборства і скептыцызм, Геныдж таксама выказвае і пэўную надзею[14]. На гэты раз ясна, з якім відам часу маем справу і якія мэты захавалі традыцыю ў памяці. У дадзеным выпадку можна, хай сабе прыблізна, з пэўнай доляй верагоднасці вымераць час. Такія веды амаль заўсёды кантэкстуальныя.

Адно вымярэнне надзвычай важнае. Раздзел Геныджа, названы «Гісторыя і сучасная палітыка», мае ў кнізе ці не найбольшае значэнне. Прызнанне факта вынаходніцтва традыцыі адыграла вельмі дэструктыўную ролю ў поглядзе апошняй генерацыі даследчыкаў на нееўрапейскую гісторыю і ў прымяненні гэтай ідэі, скажам Дэйвідам Кэнадайнам, для перагляду міфаў брытанскай манархіі. У гэтай з'яве бачыцца важнае метадалагічнае запазычанне еўрапейскай гістарыяграфіі з нееўрапейскай гісторыі, дзе больш жорсткія міждысцыплінарныя і лінгвістычныя патрабаванні паспрыялі ў вялікай ступені метадалагічным навацыям у гістарычнай навуцы апошняга пакалення даследчыкаў[15].

Вынаходніцтва традыцыі не ёсць дзівам ці несумленнасцю, асабліва ў культурах, дзе няма аніякага крытэру ісціны. Гэта тое ж, што самаабарона вязня пры дапамозе недагаворак або маўчання, добра выкарыстаная Аляксандрам Салжаніцыным у рамане «Адзін дзень з жыцця Івана Дзянісавіча». Каланіяльная сітуацыя падобная тым, што і яна характарызуецца скрайнімі пазіцыямі сілы і бяссілля. У пэўных асобных умовах ніякае выздараўленне немагчымае; у атмасферы таталітарызму сама паслядоўнасць і тэмп часу могуць скажацца; у каланіяльным кантэксце звесткі пра грамадскую структуру і дынастычную традыцыю найчасцей вынаходзяцца нанова.

Існуюць пэўныя віды памяці, якія немагчыма аднавіць з–за спосабу іх страты. Такі выпадак быў апісаны італьянскім аўтарам Прыма Леві, які сам прайшоў праз Аўшвіц у сувязі з Галакостам. *The Drowned and the Saved* («Патанулыя і ўратаваныя»), яго апошняя кніга, з'яўляецца адным з найлепшых пранікненняў у прыроду жыцця і спосаб псіхалагічнай дзейнасці лагераў смерці, пакінутых нашчадкам. Леві ў ёй дэманструе эксцэнтрычнасць сваіх успамінаў і адпаведна непаўнавартасную прыроду сваіх інтэрпрэтацыяў. Па вызначэнні, ён не мог уваскрасіць памяць з тых глыбіняў, куды канула большасць, адкуль практычна ніхто не вярнуўся, і ён быў адным з нямногіх уратаваных. Урэшце высветлі-

[14] Henige D. The Chronology of Oral Tradition: Quest for Chimera. Oxford, 1974.

[15] Cannadine D. The Context, Performance and Meaning of Ritual: the British Monarchy and the «Invention of Tradition» // Ranger T.O. and Hobsbawm E. (eds). The Invention of Tradition. Cambridge, 1983, 101—64.

лася, што для яго, як і для вялікага псіхааналітыка–фрэйдыста Бруна Бэтэльгайма, які таксама прайшоў праз лагеры, цяжар выжывання быў завялікі, і абодва ў старасці скончылі жыццё самагубствам. Для іх, верагодна, мінулае не магло быць ні вынайдзеным нанова, ні перададзеным. Гэта немагчыма было выказаць пісьмова[16].

На крок бліжэй да нас, чым цішыня, стаіць аднаўленне рэчыва. Гісторык–саветолаг Джофры Госкінг у якасці ілюстрацыі да таталітарнай сітуацыі прывёў цытату з «армянскага радыё»: «Усе фундаментальныя ісціны наконт савецкага жыцця адлюстраваны ў показках, многія з якіх звязаны з міфічным армянскім радыё. Ну вось, армянскае радыё спыталі: „Ці можна прадказаць будучыню?» Адказ: „Так, няма праблем: якой будзе будучыня, мы добра ведаем. Праблема з мінулым: яно мяняецца»[17]. З надыходам *галоснасці* ў СССР за кантроль над памяццю разгарнулася жорсткая барацьба. Адна групоўка нават назвалася «Памяць», другая, абсалютна супрацьлеглая скрайняму славянскаму нацыяналізму і антысемітызму «Памяці», называецца «Мемарыял». Андрэй Сахараў падтрымліваў «Мемарыял» як шлях вяртання сталінскіх ахвяраў з нябыту маўчання. Вызваленне народнай памяці ад «сібіры свядомасці» стала прыкметным і ні ў якіх адносінах не маргінальным кірункам палітычнай дзейнасці ў часе другой рускай рэвалюцыі. Рэфарматарскія сілы стварылі на з'ездзе народных дэпутатаў у канцы 1989 г. камісію па падрыхтоўцы справаздачы па высвятленні і пераглядзе аднаго з вырашальных эпізодаў — пакта Гітлера—Сталіна[18].

У Брытаніі прырода гісторыі таксама была аб'ектам жорсткай барацьбы. У 1985 г. Інспекцыя Яе Вялікасці надрукавала свае погляды на змест таго, што павінны вывучаць школьнікі. «Сіняя кніга» Інспекцыі абагульніла асноўнае з школьных новаўвядзенняў за папярэднія дваццаць гадоў. Праект Школьнай рады па гісторыі стаяў на тым, каб вучыць дзяцей ва ўзросце ад 11 да 14 гадоў адрозніваць добрыя сведчанні ад кепскіх, прызнаваць правамоцнасць розных тыпаў крыніц, у тым ліку і вусных, правяраць усе атрыманыя высновы, спачуваць цяжкаму становішчу людзей у мінулым, што з'яўляецца важным стымулам развіцця гістарычнага ўяўлення [19]. Падобна сучасным рэвалюцыянерам у

[16] Levi P. The Drowned and the Saved. London, 1988; Ignatieff M. A cry for help — or of release // *Observer*, 1 April, 1990 (пра самагубства Бруна Бэтэльгайма 13 сакавіка 1990).

[17] Hosking G.A. Memory in a totalitarian society: the case of the Soviet Union // Butler T. (ed.). Memory. Oxford, 1988, 115.

[18] «Пра палітычную і юрыдычную ацэнку савецка–германскага пакта аб ненападзенні 1939 г.», даклад другому з'езду народных дэпутатаў старшыні камісіі Аляксандра Якаўлева 23 снежня 1989 г. Масква, 1990.

[19] History in the Primary and Secondary Years: an HMI View. London, 1985.

СССР, інспектары добра разумелі палітычнае значэнне грунтоўнага вывучэння гісторыі і таму змясцілі на вокладцы кнігі наступнае выказванне Мікіты Хрушчова: «Гісторыкі — небяспечныя людзі. Яны могуць разбурыць усё».

Урад Тэтчар распуціў Школьную раду. Гэта была злосная, працяглая і няўдалая спроба Тэтчар і радыкальных правых надаць выключныя паўнамоцтвы створанай у 1990–х г. Рабочай групе па гісторыі пад кіраўніцтвам Сондэрза Ўотсана, якая давала парады Дэпартаменту адукацыі і навукі наконт зместу брытанскіх нацыянальных навучальных праграм, прапагандуючы трыумфалістычны, вігаўскі, заснаваны на дакументах і абмежаваны курс брытанскай палітычнай і канстытуцыйнай гісторыі, робячы акцэнт на бяздумным завучванні датаў і «фактаў» і выяўляючы антыпатыю да гістарычнага ўяўлення. У пазіцыі Рабочай групы можна адшукаць і адмаўленне правоў вуснай гісторыі.

Даклад Рабочай групы быў вытрыманы ў духу Інспекцыі Яе Вялікасці 1985 г., але быў раптоўна адкінуты міністэрскім указам адразу, як толькі Кенэт Кларк, заняўшы пасаду міністра, увёў погляды, адкінутыя Рабочай групай, падобныя да пазіцыі выкладчыкаў і інспектарскай «Сіняй кнігі». У час напісання дадзенага артыкула (люты 1991 г.) у стане прафесіяналаў пануе разгубленасць і крыўда на такія дзеянні[20] .

З усіх гэтых гісторыяў вынікае дзве рэчы. «Сібір розуму» — зона не толькі мёртвага маўчання, але і жывога адмаўлення легітымнасці. Яна змушае розум маўкліва здавацца на міласць сухой паблажлівасці і прадвызначанага панавання цяперашніх кіраўнікоў. У гэтым брытанскія спрэчкі перагукаюцца з савецкімі. Па–другое, сведчанне шчырасці і, пад ціскам сучаснасці, падатлівасць мінулага недаацэньваюцца. Маштаб такога вынаходніцтва можа быць велізарны.

Прадстаўнікі народу ців у цэнтральнай Нігерыі не былі інтэлігентамі. У пачатку ХХ ст. яны змагаліся супраць пракладвання белымі жаўнерамі тэлеграфных ліній праз сваю зямлю і з–за гэтага атрымалі рэпутацыю незаконапаслухмяных, падступных і, канешне ж, закаранелых язычнікаў. Больш за тое, ад іх смярдзела анархіяй, бо не было дасканалай ерархіі правадыроў. Таму, калі ў 1907 г. брытанскі намеснік Чарльз Форбз Гордан першым апісваў іх грамадства, ён бачыў і адлюстраваў сегментарную прыроду іх кланаў. Але да першай сусветнай вайны брытанская адміністрацыя ў Нігерыі была кепска развіта і лічыла нязручным глядзець на ців як на ціў, а ставіла іх у шэраг з больш шматлікімі суседзямі гауза. Правадыры ціў прыслужліва «гаузаваліся» дзеля таго, каб дагадзіць каланіяльнаму воку: размаўлялі, як гауза, апраналіся, як гауза і г.д. Але пазней, у 1930/31 г. народ ціў наведаў з мэтай вывучэння

[20] Kettle M. The great battle of history // *Guardian,* 4 April, 1990, 23.

Абрагам, урадавы антраполаг. Яму дапамагаў Даўнз, які ўзначальваў акругу.

Справаздача Абрагама–Даўнза прапанавала новы погляд на ціў. Аўтары ўбачылі грамадства без вярхоўнага правіцеля, якое Форбз Гордан ахарактарызаваў у чыста ерархічным кантэксце, увасобленым у новаўвядзенні шматпалатных радаў. Але легітымацыя гэтых радаў і іх членаў адсякла маладзейшае пакаленне адукаваных ціў ад патэнцыйнай палітычнай дзейнасці. Тады моладзь, у сваю чаргу, з мэтай абысці рады пачала змагацца за новую справу, справу Тора ціў (вярхоўны правадыр ціў), што (так супала) дакладна адпавядала «нармальнай» мадэлі туземнай улады, якую ўвасаблялі брытанскія чыноўнікі (яны навучаліся непрамому кіраванню ў школе лорда Лугарда). Другое антрапалагічнае даследаванне, праведзенае ў 1940 г., прыходзіць да высновы, што супольнасцю ціў фактычна кіравалі патрыярхі, якія ўтваралі піраміду ўлады. Можа, сапраўды існаваў нейкі туземны вярхоўны правадыр? За сорак гадоў успрыманне сацыяльнай структуры ціў цалкам змянілася. Тады, у канцы 1940–х г., з'явіліся яшчэ два антраполагі, Баганансы. Пазіцыя, сфармуляваная ў іх класічнай працы, трымаецца і да сёння. Даследчыкі разглядалі супольнасць ціў як сегментарнае лінейнае грамадства накшталт таго, як яго апісваў Гордан пад час першага знаёмства белых з гэтым народам.

Кожны еўрапейскі даследчык шукаў рэальных ціў, і кожны раз тыя чужакі падыходзілі да іх з новым вобразам, з пэўнымі стэрэатыпамі. Прышлыя аўтсайдэры лічылі, што ўсё робяць у інтарэсах ціў, прыдумвалі іх мінулае з перакананнем, што робяць ласку ім. Мы разумеем гэта дзякуючы таму, што гісторык Д.Дорвард усвядоміў: самі вучоныя інтэрактыўна былі часткай гісторыі, і таму, што ён ведаў: грандыёзна прыдуманая традыцыя была магчымасцю[21]. Зразумела, абараніцца ад вынайдзенай традыцыі можна — менш давяраць надзейнасці як непацверджанай вуснай спадчыны, так і сваім папярэднікам у навуцы, нягледзячы на тое, што яны прадэманстравалі разуменне праблемы. Ды і праблема не абмяжоўваецца выключна вуснай гісторыяй.

Іншы афрыканскі прыклад пацвярджае слушнасць нязгоды Вансіны з вобразам прымадоны і дублёршы. Ён паказвае, што залішне даверлівы погляд на непацверджаныя *пісьмовыя* крыніцы ў спалучэнні з занадта вялікай павагай да гісторыкаў можа стварыць і памылковую камбінацыю. Падвяргаючы ўсё сумненню, Джуліан Кобінг пераканаўча паставіў пад пытанне тры асноўныя дагматы паўднёваафрыканскай гісторыі: распаўсюджаны погляд на матабэле ў Зімбабвэ як на культуру ваяроў; галоў-

[21] Dorward D.C. Ethnography and administration: the study of Anglo–Tiv «working misunderstanding» // *Journal of African History* 15 (1974), 457—77.

ны міф зімбабвійскага нацыяналізму, што яго прамым папярэднікам былі паўстанні 1896 г. (погляд, які ў значнай ступені мае карані ў поглядах брытанскага гісторыка–дакументаліста Т.Рэйнджэра); і, зусім новы, значэнне і само існаванне *Mfecane* — рассялення народаў, прычынай якога лічылася разбурэнне дзяржавы Зулу ў сярэдзіне XIX ст.[22] Разгледзім выпадак з паўстаннямі. Культура сучаснай Зімабвэ з'яўляецца змешанай культурай. Нацыяналістычная інтэрпрэтацыя Рэйнджэра ўвайшла ўжо ў вусны рэгістр асабіста непісьменнага і стала, такім чынам, адказам на пытанні пра тыя падзеі, якія перакрываюць любую іншую традыцыю. Паколькі пэўна карысна будзе высветліць прычыны, чаму традыцыі выходзяць, таксама цяжка засведчыць страту магчымасці калі–небудзь стварыць надзейную справаздачу пра важныя падзеі, падобныя гэтым, з–за неадэкватнай гістарыяграфічнай методыкі. І не можа тут служыць апраўданнем прызнанне неабходнасці задаволіць патрэбу такога грамадства ў, як некалі выказаўся Рэйнджэр, «прыкладной гісторыі»[23].

Прызнанне магчымасці такой няўдачы гісторыкаў–дакументалістаў павялічвае занепакоенасць наконт няслушнага выкарыстання вусных дадзеных у пытанні серыйнай храналогіі. У абодвух выпадках рашэнне трэба шукаць у тым, што прывяло Вансіну да адмаўлення опернай аналогіі: выкарыстанне шматлікіх, канвергентных, незалежных крыніц. Што да храналогіі, з унутранага аналізу фармальнай вуснай традыцыі можна атрымаць паслядоўную, але неабавязкова добра датаваную гісторыю. Для большай дакладнасці трэба імкнуцца да карэляцыі з вонкавымі крыніцамі. Археалагічныя сведчанні, экліптыка сонца і месяца ці буйныя прыродныя катастрофы — звычайныя арыенціры. Міфы паходжання, дынастычныя паданні, сямейныя гісторыі простых людзей, прымаўкі, ухвальная паэзія, эпас і наратыў могуць неяк адкрыць доступ ва ўнутраны свет культуры і часу. Маючы ключы да вонкавых крыніц, можна абараніцца ад вынайдзенай традыцыі, атрымаць некаторыя даты серыйнага часу і, такім чынам, рэканструяваць мінулае такога кшталту.

Засталося разгледзець адзін від наратыву. Ён свядома вылучаны ў асобную катэгорыю, бо датычыцца досведу асобнага індывіда, яго ці яе. Такая асабістая памяць — асноўныя дадзеныя, якімі карыстаюцца гісторыкі пры вывучэнні грамадстваў, дзе пануе пісьмовае слова. Сфе-

[22] Cobbing J. The evolution of the Ndebele Amabutho // *Journal of African History* 15 (1974), 607–31; *idem*. The absent priesthood: Another look at the Rhodesian Risings of 1896—7 // *Journal of African History* 18 (1977), 61–84; *idem.* The Mfecane as Alibi: Thoughts on Dithakong and Mbolompo // *Journal of African History* 29 (1988), 487—519; Ranger T.O. Revolt in Rhodesia, 1896—7, выданне ў мяккай вокладцы: London, 1979.

[23] Ranger T.O. Towards a usable African past // Fyfe C. (ed.). African Studies since 1945: A Tribute to Basil Davidson. London, 1976, 17—30.

ра ўплыву асабістай памяці распаўсюджваецца ад пачатку біялагічнай магчымасці — каля 80 гадоў — і далей.

Паколькі гэта першапачатковы від вусных дадзеных, памяць — не адзіны тып у грамадствах з пісьменнасцю. Фармальная традыцыя, у толькі што разгледжаным сэнсе, захоўваецца. Класічны прыклад бачым у працы Іоны і Пітэра Оўпі. У працы *The Lore and Language of Schoolchildren* («Веды і мова школьнікаў») яны ўстанавілі, што загадкі школьнага двара могуць перадавацца ў нязменным выглядзе праз доўгія ланцугі. Дзякуючы таму, што час навучання школьнікаў карацейшы за час жыцця лозі, носьбітаў каралеўскіх прымавак, тое сугучча, якое ў лозі перадаецца праз 130 гадоў, пройдзе праз дваццаць пакаленняў школьнікаў, скажам 300 апавядальнікаў: гэта адпавядае перыяду больш за 500 гадоў сярод дарослых[24]. Гэты разлік узмацняе пункт гледжання, што кантынуітэт, падмацаваны энергіяй такога бесперапыннага аднаўлення, патрабуе большага тлумачэння, чым змена. З 137 рэчытатываў, запісаных у 1916 г. у працы Нормана Дугласа *London Street Games* («Гульні лонданскай вуліцы»), Оўпі знайшлі 108, якія былі распаўсюджаны і ў 1950–я г. Вось прыклад з вершыкам пра грэнадэра: у Оўпі была версія, якая мае стабільныя асноўныя элементы, прасочаныя да 1725 г. З іншага боку, асабістая памяць прысутнічае і ў грамадстве без пісьменнасці, але найбольшы клопат і інтарэс выклікае менавіта яе роля ў пісьменным грамадстве. Ці з'яўляецца асабістая памяць проста старэчым балбатаннем пра лепшыя і горшыя дні? І так і не.

Найбольшую крытыку гісторыкаў–дакументалістаў выклікае тое, што памяць вядомых людзей занадта лёгка адкрыта зручнаму самаапраўданню *ex post facto,* а памяць малазначных персонаў схільная да правалаў. У кожным выпадку памяць — сумнавядома ненадзейнае скляпенне, якому нельга давяраць і якое можна параўнаць з неадушаўлёнымі і нязменнымі запісамі дакументаў цягам усіх мінулых гадоў. Першы аспект, наколькі могуць сведчыць паліцы палітычнай аўтабіяграфіі, добра выкарыстаны, другі — не вельмі, бо дакументальныя крыніцы перададзены нам у спадчыну не настолькі ўжо адвольна і несвядома, як можна падумаць.

Дні, калі пяты граф Роўзбэры даверыў свае самыя патаемныя думкі дзённіку, калі кіраванне дзяржавай азначала, што прадстаўнікі асобнай групы, склад якой можна вызначыць, думалі і пісалі рукой на паперы, калі гісторык мог бы абгрунтавана спадзявацца знайсці і прачытаць усе такія дакументы і вырашыць, што ён мог бы верыць ім, скончыліся стагоддзе таму. З таго часу рост аб'ёму афіцыйных папер зрабіў іх паток некантраляваным. Узнікла патрэба ў адборы для захавання. У

[24] Opie I. and P. The Lore and Language of Schoolchildren. Oxford, 1959, 8.

выніку «чысцільшчыкі» сістэматычна робяць сваю працу, і таму тое, што ўтрымліваюць афіцыйныя архівы, свядома ці не, часта скажонае з–за намеранага ці няслушнага адбору (што захаваць, а што спаліць), можа маўчаць, гэтаксама ўводзячы ў зман, як і іншыя крыніцы. Доўга будзе служыць урокам поўная неадпаведнасць паміж адвольнымі і ўсё больш закрытымі фондамі палітыкі дэпартаментаў брытанскага ўраду і адкрытым доступам да брытанскіх спраў праз амерыканскія архівы на падставе Акта аб свабодзе інфармацыі. У час вайны за Фолклэнды ў 1982 г., напрыклад, паперы, датычныя ранейшых спрэчак за астравы, і асабліва пазіцыі міністэрства замежных спраў у 1930–х г., якія кідаюць цень сумнення на непахіснасць законнасці брытанскіх прэтэнзій на суверэнітэт над Фолклэндамі, былі раптоўна выведзеныя з кола даступных грамадскасці, хоць пільныя і, як высветлілася, карэктна недаверлівыя гісторыкі паспелі зрабіць копіі, якія, вядома, трапілі ў прэсу да вялікай незадаволенасці місіс Тэтчар.

Судовы працэс Олівэра Норта, памочніка прэзідэнта Рэйгана, які ўладкоўваў цёмныя справы іранскіх і нікарагуанскіх контрас, паслужыў сенсацыйнай ілюстрацыяй фіяска, што пацярпелі распаўсюджаныя меркаванні традыцыйных гісторыкаў наконт дакументаў. Цудоўная зала судовых паседжанняў з фантастычнай назвай «Fawn Hall» [Слова fawn мае ў ангельскай мове некалькі значэнняў, у тым ліку: ‘жаўтавата–карычневы’ і ‘прыслужвацца’, што дае нагоду разумець назву залы не толькі па колеры ейнага інтэр’еру, але і як месца, дзе прыслужываюцца. — *Заўв. перакл.*] была сведкам позніх сесій, чула абаяльную сакратарку містэра Норта, што цішком выносіла дакументы з Пентагона ў чаравіках і ніжняй бялізне, і даведалася пра спробу Норта не пакінуць ніякіх дакументальных слядоў з дапамогай кампутарных сетак пры адпраўленні пасланняў. На ягоную бяду, сталася магчымым аднавіць сцёртыя з кампутарнай базы пасланні. Але справа проста ў вяртанні назад да вуснага, да чаго прывяло прымяненне электроннай інфармацыйнай тэхналогіі на этапе прыняцця першапачатковага рашэння. Калі дакументы ўсё ж захоўваюцца і з’яўляецца магчымасць прачытаць іх, яны часта вяртаюць нас да рашэнняў, прынятых у тэлефонных размовах.

Час ад часу розніца паміж вусным арыгіналам і адпаведным яму напісаным афіцыйным тэкстам выплывае наверх выпадкова. У Брытаніі пад час вялікай дэпрэсіі пад старшынствам суддзі Макмілана засядала камісія па фінансаванні. Апублікаваныя матэрыялы камісіі шырока цытуюцца ў стандартных працах па тым перыядзе. Адна з іх — *Politicians and the Slump* («Палітыкі і спад») Робэрта Скідэльскі[25]. Асабліва важным

[25] Skidelsky R. Politicians and the Slump: the labour Government of 1929—31. London, 1967.

у працы камісіі было сведчанне Мантэгю Нормана, кіраўніка Банка Англіі. Публічная версія выступлення Нормана не супадала са зместам таго, што ён сказаў на самай справе. Вуснае выказванне Нормана было моцна перапрацавана для пратакола. Мы даведаліся пра гэта выпадкова. Асобнік даслоўнага запісу ў Дзяржаўным архіве быў знішчаны, але другі асобнік захоўваўся ў архіве Банка Англіі, дзе гісторык эканомікі, шукаючы нешта іншае, выпадкова натрапіў на яго.

Добра вядома, да якой ступені чыноўнікі Дзярждэпартамента Злучаных Штатаў мусілі перапрацаваць вусныя прамовы вялікага палкаводца халоднай вайны і дзяржсакратара Джона Фостэра Далеса. У Архіве Кангрэса лічылася апалітычным выносіць такія вострыя меркаванні наконт саюзнікаў Злучаных Штатаў, якія ўтрымліваліся ў адказе Далеса фінансавай камісіі, дзе было сказана, што «ўсе французы маюць каханак і прадаюць непрыстойныя паштоўкі», але тым не менш, «Францыя ўяўляе сабой добры кавалак нерухомай маёмасці». (Яго *obiter dicta* пра Нямеччыну і Брытанію таксама сталася адкрыццём.)

Цяпер вернемся да табліц. Можна сцвярджаць, што на самай справе вусная спадчына, ці то запісаная на стужку (без купюр Ніксана), ці то здабытая ў экпедыцыях па вывучэнні плямёнаў адміралаў і дзяржсакратароў, бліжэй да першакрыніцы. Ёй, канешне, пагражаюць тыя ж сур'ёзныя праблемы, што і сучасным дакументальным крыніцам, але па–іншаму. Агульным з'яўляецца тое, што і вусную традыцыю, і афіцыйныя паперы можна сказіць (як адбылося з вывядзеннем з Дзяржаўнага архіва часткі інфармацыі наконт Фолклэндскіх астравоў), але праблемы няслушнага выкарыстання вусных дадзеных лягчэй убачыць і вырашыць.

У дадатак да няслушнага выкарыстання, чаго можна пазбегнуць, ёсць дзве агульныя праблемы крытычнага падыходу да крыніц, якія ўплываюць на вусную спадчыну, і пазбегнуць якіх немагчыма. Па–першае, несвядомы ўплыў пісьменнай формы на вусную спадчыну непазбежны, як уяўляецца, у змешаных культурах. Існуе герменеўтычнае новаўвядзенне пісьмовага пункту гледжання ў вусную спадчыну непісьменнага чалавека. Гэтая з'ява найбольш характэрна ў моцна перагружаных кантэкстах, такіх, як кантэкст каланіяльных сутыкненняў або вышэйзгаданы зімбабвійскі прыклад увядзення ў вусную культуру інтэрпрэтацыі Рэйнджэра. Другі аспект такога ўплыву абсалютна шкодны. Справа ў тым, што панаванне пісьмовай формы разбурае і фактычна сцірае вусныя спосабы існавання ўспамінаў. Найбольш вядомыя прыклады дае музыка. Ральф Ваган Ўільямз, Пэрсі Грэйнджэр і Бэнджамін Брытэн былі ў шэрагу іншых кампазітараў пачатку дваццатага стагоддзя, хто збіраў і/ці выкарыстоўваў народныя песні ў сваіх уласных тво-

рах, якія адаптавалі і зафіксавалі для нашчадкаў арыгінальныя песні якраз у момант спынення іх існавання ў аўтэнтычным выглядзе. Некаторыя з найбольш шаноўных сучасных збіральнікаў, такіх, як Эван Макхол, якія ўратавалі і надалі новае дыханне вялікай колькасці шатландскіх і паўночна–ангельскіх народных рабочых песняў і баладаў, пайшлі далей і сталі яшчэ стваральнікамі жанраў. Яны рабілі гэта па–майстэрску: слухачы і іншыя выканаўцы не могуць адрозніць наватворы і запісаныя песні. Такім чынам, тое, што цяпер можна пачуць у бары ў Кэры ці Гэлаўэй, амаль абавязкова прайшло праз цыкл герменеўтычнай апрацоўкі. Але гэтыя праблемы можна прадугледзець і даць ім рады пры дапамозе крытычнай методыкі, прычым зрабіць гэта нават лягчэй, чым у дачыненні да дакументальных крыніц, паколькі ранкеанская крыніца апаганьваецца вынаходніцтвам традыцыі нават яшчэ да таго, як заб'е з–пад зямлі. Што да агульнай памяці пра жыццё інфарманта, якая будуецца вакол таго, што ён сам лічыць важным, мы можам атрымаць тое, што з'яўляецца несумненна запісам у чысцейшым выглядзе.

Біяхімія памяці ўсё яшчэ слаба вывучана. Але даследаванні розных відаў памяці ўсё больш сыходзяцца на тым, што доўгатэрміновая памяць, асабліва індывідаў, якія ўступілі ў фазу, якую псіхолагі называюць «агляд жыцця», можа быць неверагодна дакладнай. Людзі авалодваюць «сукупным інфармацыйным фондам», напоўненым асабістымі адносінамі. Ён абмяжоўваецца іх сацыяльным кантэкстам, відавочна формамі сутнасці асобы і валодае выключнай стабільнасцю. Гэта, заўважае Дэйвід Лоўэнтал, асабліва справядліва для моцных, несвядомых успамінаў з дзяцінства, калі чалавек бачыць і запамінае менавіта тое, што адбываецца, а не што чакаецца, як гэта робяць дарослыя[26]. Агляд жыцця — канчатковы прадукт перыяду існавання памяці. Стабільны наратыў жыццёвага агляду ў сукупнасці інфармацыі ёсць пачаткам доўгатрывалай вуснай традыцыі. Прыведзены раней сюжэт пра побыт майго дзеда ў вялікай сядзібе ў Корнішы — адна з такіх складовых частак традыцыі.

Выкарыстанне вось такіх успамінаў і стала найбольшым унёскам, зробленым да гэтага часу гісторыкамі накшталт Пола Томпсана. Гэта сацыяльныя гісторыкі, і яны выкарыстоўваюць вусныя дадзеныя для таго, каб надаць голас тым, хто ў дакументальных запісах пазбаўлены голасу. Вусныя дадзеныя, хоць яны па сутнасці не з'яўляюцца радыкалізуючым інструментам, у сучасным грамадстве шырока выкарыстоўваліся гісторыкамі з радыкальнымі намерамі, як кажа Томпсан у першых радках сваёй працы *The Voice of the Past* («Голас мінулага»): «Уся гісторыя ўрэшце залежыць ад яе грамадскай мэты», і вусная гісторыя най-

[26] Lowenthal D. The Past is a Foreign Country. Cambridge, 1985, 202—3.

лепшым чынам рэканструюе імгненні і дэталі жыццяў простых людзей для тых, хто хоча гэтым займацца. Гэта ў традыцыі Мэйх'ю, які запісваў жыцці лонданскіх беднякоў у 1850–х г., Чарльза Бута, які вывучаў жыццё і працу лонданцаў паміж 1889 і 1903 г., і даследаванне беднасці ў Ёрку ў 1901 г. Сібама Роўнтры. Такая мэта пачала панаваць у практыцы вуснай гісторыі, заснаванай на памяці, у сучаснай італьянскай гісторыі[27].

Што можа даць асабістая памяць, дык гэта свежасць і багацце дэталяў, якія іншым шляхам атрымаць немагчыма. Яна дае магчымасць ствараць гісторыю малых груп, як у працы Біла Ўільямза пра манчэстэрскіх жыдоў, а таксама геаграфічна малых тэрыторый: лакальныя гісторыі вёсак ці нават асобных вуліц. Яна дае гісторыкам магчымасць ствараць тое, што антраполаг Кліфард Гірц назваў «насычаным апісаннем»: тэксты, насычаныя фактурай з глыбінёй і абрысамі, якія дазваляюць рабіць грунтоўны антрапалагічны аналіз.

Але калі пакінуць убаку ідэалагічныя сімпатыі ці патэнцыял структурнага аналізу, нават улічваючы, што вусная гісторыя, заснаваная на памяці, уяўляе сабой наймагутнейшы рэсурс сацыяльнай гісторыі, скептыкі ўсё роўна зададуць пытанне, згаданае ў пачатку артыкула. Вусная гісторыя можа быць плённай, можа быць ілюстрацыйнай, нават гістарычна вызвольнай, але ці служыць яна фармавальным фактарам тлумачэння? Вусная спадчына дае магчымасць глыбокага дэскрыптыўнага аднаўлення напрыклад таго, чым ёсць бедны мексіканец, пры дапамозе шэдэўра Оскара Люіса *The Children of Sanchez* («Дзеці Санчаса»), але менавіта яно па логіцы толькі што выкладзенага аналізу трапляе ў вузкія рамкі; і не тут трэба шукаць рухальныя сілы тлумачальных тэорый гісторыка[28].

Добрай праверкай гэтага сцверджання будзе звярнуцца да манаграфіі самога Пола Томпсана *The Edwardians* («Эдвардыянцы»)[29]. Праца ўяўляе сабой спробу ўзнавіць тканіну і адчуванне жыцця ў гады перад самай вялікай вайной. Гэта перыяд ружовага рамантызму ў народнай памяці, калі яшчэ быў мёд да гарбаты, калі царкоўны гадзіннік у Грэнчэстэры яшчэ паказваў без дзесяці тры, калі Бог спачываў на сваіх ня-

[27] Levi G., Passerini L., Scaraffini L. Vita quotidiana in un quartiere operatio di Torino fra le due guerre: l'opporto della storia orale, p. 209—24; Bergonzini L. Le fonti orale come verifica della testimonianze scritte in una ricerca sulla antifascismo e la resistenza bolognese, p. 263–8 // Bernardi B., Poni C., Triulzi A. (eds). Fonti Orale: Antropologiae Storia. Milan, 1978.

[28] Lewis O. The Children of Sanchez: Autobiography of a Mexican Family. London, 1962.

[29] Thompson P. The Edwardians: the Remaking of British Society. London, 1975.

бёсах і ўсё было ў парадку са светам, які вайна ўжо была гатова разбурыць дашчэнту. Але, Томпсан хоча сказаць: проста нішто не выдавала на гэта, за выключэннем нейкіх зусім нязначных дробязяў.

Аснова кнігі — нізка з пяці віньетак, захаваных у памяці эдвардыянскіх дзяцінстваў. Яны адабраны з такім разлікам, каб паказаць кожны пласт грамадства — ад вельмі багатых да зусім бедных. Сюжэты цесна прывязаны да архіўных запісаў працэдурай адбору, якая прывяла да выбару тых ці іншых індывідаў. Яны надзвычай яркія, але не нясуць асноўнага цяжару бачання гэтых гадоў Томпсанам, які вызначае той перыяд як эдвардыянскі крызіс: час панавання кансерватыўных класаў у падыходзе да ірландскага пытання і сур'ёзных і шырокіх рабочых хваляванняў 1911—1914 г. Але ў той час, як віньеткі ўяўляюць сабой цудоўную ілюстрацыю, адчуваецца, што даследаванне Томпсанам аспектаў няроўнасці ў грамадстве, яго пазіцыя ў дачыненні да рухальнай сілы крызіса і ўсіх буйнамаштабных дадзеных, на якіх грунтуецца гэты ўзровень кнігі, засноўваецца на пісьмовых крыніцах.

Так, у гэтым сэнсе я прымаю пазіцыю крытыка. *The Edwardians* — не апраўданне надзвычай перабольшаных патрабаванняў да вуснай гісторыі, напісанай на аснове асабістай памяці. Але тады, як паказаў выпадак з вуснай традыцыяй, перабольшаныя патрабаванні церпяць крах. Сіла вуснай гісторыі — гэта сіла кожнага метадалагічна кампетэнтнага гісторыка. Яна паходзіць з таго шэрагу і з таго кшталту разважання, дзе шмат тыпаў крыніц мусяць злучацца ў адзін ланцуг. Гэта не ёсць абавязкам, які ляжыць толькі на вусных гісторыках як практыках другараднага мастацтва. Я паказаў вышэй, што рух да пост–пісьменнай, па–новаму глабальнай, электроннай вуснай і візуальнай культуры абвяргае прафесійную самаацэнку традыцыйнай гістарыяграфіі, заснаванай на дакументах. Усе гісторыкі роўныя перад гэтым выклікам.

Асабістая памяць дае магчымасць гісторыку зрабіць дзве рэчы. Першае: досыць відавочна яна дазваляе быць паўнавартасным гісторыкам — гісторыкам, які можа чэрпаць з адпаведных крыніц для вывучэння сучаснай гісторыі ў поўным маштабе і з улікам усіх праблем. Ніводзін гісторык, які займаецца сучаснай вышэйшай палітыкай, з галавой акунуўшыся ў афіцыйныя паперы, не можа чакаць, што яго будуць чытаць з даверам, калі некранутымі засталіся вусныя крыніцы (і, кожны можа дадаць, фатаграфічныя і кінематаграфічныя крыніцы). У дадзеным выпадку ён нічым не адрозніваецца ад сацыяльнага гісторыка, які вывучае цыганоў. Як сказаў Вансіна, вусныя сведчанні служаць для праверкі іншых крыніц, і наадварот, апошнія служаць для праверкі першых. Яны ў дадатак могуць паказаць нейкія імгненныя дэталі, якія іншым шляхам недаступныя і, такім чынам, стымуляваць гісторыка да праверкі

іншых дадзеных новымі метадамі. Вось гэта і адбылося ў разважаннях Пола Томпсана наконт класа ў *The Edwardians*. Гэта здарылася і тады, калі Дональд Рэйган, які загадваў штатам Белага дома пры прэзідэнце Рэйгане, апублікаваў у сваё апраўданне справаздачу пра перыяд сваіх паўнамоцтваў і барацьбу з місіс Нэнсі Рэйган. У выніку, сярод іншых канкрэтных дэталяў высветлілася, што выбар часу падпісання Прамежкавага пагаднення пра ядзернае ўзбраенне на саміце ў снежні 1987 г. фактычна быў прадыктаваны асабістым астролагам місіс Рэйган, факт, якога вы не знойдзеце ў афіцыйных паперах. Тое ж адбылося ў праведзеным Крыстоферам Лі даследаванні фармавання брытанскай палітыкі па абароне, пачынаючы з 1945 г.

Менавіта з гэтай прычыны афіцыйныя дакументальныя запісы, у любым выпадку, закрыты на падставе гнуткага брытанскага правіла «трыццаці з нечым», паводле якога паўнамоцны ўрад можа паводле свайго жадання вызначаць даўжэйшы за трыццаць гадоў перыяд закрытасці для пэўнага кола ўрадавых папер, найлепшым прыкладам якіх з'яўляюцца справы абароны. Місіс Тэтчар прыпісваюць пазіцыю, што нічога, звязанага з разведвальнай дзейнасцю брытанскіх агентаў у царскай Расіі, не павінна быць апублікавана, каб не аказаць дапамогі ворагам. Так хацела яна і папраўкі 1989 г. да Афіцыйнага акта пра сакрэты. Згадаем Крыстофера Лі. Шмат гадоў папрацаваўшы ў якасці карэспандэнта Бі–Бі–Сі па абароне, ён дасягнуў становішча, якое дазваляла атрымліваць інфармацыю ад уласных крыніц і карыстацца ў іх даверам. Запісы яго інтэрвію з усімі галоўнымі дзейнымі асобамі ў дадзенай галіне самі па сабе набудуць статус жывой дакументальнай крыніцы. Яго кніга будзе кнігай, якую не змог бы напісаць ніводзін гісторык — універсітэцкі выхаванец. Яна надасць радыкальна новы погляд нашаму разуменню жывой змены ў перыяд страты Брытаніяй былой магутнасці. Вусныя матэрыялы ўваходзяць у тое, што прафесар Гэкстар называе «другім запісам», хутчэй за іншыя віды дадзеных. Здольнасць Лі прасачыць, прачытаць і інтэрпрэтаваць «першы запіс» у значнай ступені засноўваецца на яго валоданні вельмі своеасаблівым і незвычайным «другім запісам»[30]. Гэта не робіць яго гісторыкам новага тыпу, а наадварот. Многія гісторыкі XIX ст. былі аматарамі ў тым сэнсе, што пісалі і жылі пераважна па–за сценамі Акадэміі. І ў мінулым, і цяпер экспедыцыйная праца — частка працы над кнігай, якую немагчыма пераацаніць.

Па–другое, існуе адваротны эфект. Валоданне багатым і разнастайным «другім запісам» — напрыклад, праз асабісты досвед, а не праз інтэрвію — можа зрабіць гісторыка незвычайным чалавекам. Прывя-

[30] Lee C.R. Whitehall Warriors: Postwar Defence Policy Decision–making (у друку).

дзем у прыклад гісторыкаў, якія вывучалі чыгунку. Адрыян Вогэн працаваў сігнальшчыкам на вялікай лініі паміж Лонданам і Ўэст Кантры. Ён перажыў перыяд скарачэння і закрыцця ў 1960–х г., назіраў выцясненне старых метадаў працы і адвяржэнне майстэрства, некалькі разоў сам быў звольнены і потым вырашыў запісаць той свет, які страціў. Яго першыя працы *Signalman's Morning* («Раніца сігнальшчыка») і *Signalman's Twilight* («Прыцемкі сігнальшчыка») з'яўляліся творамі ўспамінаў. Але паколькі ў яго развіліся навыкі гісторыка, Ваган паглыбіў сваё даследаванне і зрабіўся цяпер аўтарам выдатнай новай біяграфіі самога Брунэля, узбагачанай інфармаванасцю і кампетэнтнасцю Вагана ў сферы чыгуначных ліній[31].

Наступны і апошні прыклад, які мае ў аснове крыўду і зніжэнне прафесіяналізму, знаходзім у кнізе майстра–цесляра, прысвечанай архітэктуры. Роджэр Коўлмэн паходзіць з сям'і высокапрафесійных майстроў з паўночнага Лондана. Ён стаў цесляром, але ў працэсе сваёй працы пакутваў ад зніжэння патрабавальнасці да кваліфікацыі ў справе будаўніцтва. Коўлмэн быў раззлаваны пыхай і тэхнічнай некампетэнтнасцю архітэктараў, ад чыёй працы ён залежаў, і якім ніколі не прыходзіла ў галаву пацікавіцца яго думкай. Такім чынам разгарнулася змрочная бітва, падобная да каланіяльных бітваў з вынайдзенай традыцыяй, у якой майстар рабіў выгляд, што цёмны і забіты, і ўхіляўся ад супрацоўніцтва, а дыктавалі ўзгадваныя на кнігах архітэктары–белаunion.

Ці заўсёды было так? Выкліканы сваім «другім запісам», Коўлмэн пачаў доўгае даследаванне мастацтва і працы. Заняўшыся тэмай, як і Ўільям Морыс, ён авалодаў агульнымі навыкамі майстэрства гісторыі і крытыкі. Але ў яго пякучай кнізе *The Art of Work: an Epitaph to Skill* («Мастацтва працы: Эпітафія майстэрству») канструктыўныя ўрыўкі нельга аддзяліць адно ад аднаго. Вось аўтар ставіць пытанне, чаму Ўільям з Сэнса быў адзіным, хто пацярпеў у няшчасным выпадку пад час рэстаўрацыі Кэнтэрбэрыйскага сабора. Адказ — ён быў адначасова і галоўным падрадчыкам, і таксама самым кваліфікаваным майстрам — паказвае, што падзел працы не быў тады такім, як цяпер. Гэтая думка праходзіць праз справаздачу, у якой Коўлмэн спрабуе аднавіць занядбаную культуру цесляроў. Праца грунтуецца на яго ўласнай кваліфікацыі, на ведах, перанятых у вуснай форме ад старых. Коўлмэн апісвае практычную працу па стварэнні новага акна: як маркіраваць і выкарыстоўваць «брусы» (даўжыня драўніны, з якой цясляр пераводзіць дакладныя памеры адтуліны ў муры на раму акна). Такога прыёму я не сустракаў раней. Усё гэта гучыць празаічна, але карысна. Да таго ж,

31 Vaughan A. Signalman's Morning. London, 1981; idem, Signalman's Twilight. London, 1983; idem, Isambard Kingdom Brunel (у друку).

справаздача Коўлмэна дзіўным чынам робіць большую справу. «Брусы» цесляра злучаюць разам у адно братэрства Ўільяма з Сэнсу, Віляра дэ Ганкура (аўтар праекта і будаўнік, чые сярэднявечныя падручнікі з'яўляюцца свайго роду прамымі папярэднікамі прац самога Коўлмэна), ананімных цесляроў XVIII ст., якія працавалі для Ванбру, і Джона Малодшага (ананімныя да таго часу, пакуль не даведаешся, дзе шукаць іх схаваныя знакі), сваіх старых настаўнікаў і новае акно. Апісанне працэсу працы над сучасным акном размяшчае гістарычна і аналітычна кожны аспект аперацый, якія звычайна нябачныя, таму што іх недаацэньваюць[32].

Некаторыя гісторыкі думаюць, што іх праца — апісваць і, магчыма, тлумачыць, чаму тое ці іншае адбылося ў мінулым. Гэта неабходнае, але недастатковае апраўданне. Існуе яшчэ два важных кампаненты рамяства гісторыка. Павінны быць патлумачаны кантынуітэт. Гістарычны кантынуітэт, асабліва ў вусных культурах, патрабуе больш увагі, чым змена. Традыцыя — гэта працэс, яна жыве толькі ў няспынным аднаўленні. Яна жывая ў сваёй відавочнай стабільнасці. Па–другое, задача гісторыка — пераканаць чытача ў сваёй метадалагічнай кампетэнтнасці. Прадэманстраваць усведамленне пастак, расстаўленых вынайдзенай традыцыяй, і, значыць, у прапанаваных тлумачэннях гісторык павінны таксама паказаць, як гэта было знаходзіцца там — барду ў гамераўскай Грэцыі; вяскоўцу ў Афрыцы да прыходу туды белых; знясіленаму машыністу віктарыянскай эпохі; загадчыку па кадрах у Белым Доме пры Рэйгане; а калі гэта немагчыма, сказаць пра гэта і растлумачыць чаму.

Вусная гісторыя з яе дэталямі, гуманнасцю, часта з яе эмоцыямі і заўсёды з развітым скептыцызмам наконт паўнаты гістарычнай працы найперш адрасавана менавіта гэтым сутнасным элементам задачы гісторыка — традыцыя і памяць, мінулае і сучаснасць. Без доступу да такіх рэсурсаў гісторыкі ў сучасных індустрыяльных грамадствах з масавай пісьменнасцю, г.зн., самыя прафесійныя гісторыкі, будуць сумаваць у агульным аб'ёме разумення, абмежаванага іх уласнай культурай, як пакінутыя каханкі, стоячы ў трапяткім коле святла пад самотным ліхтаром на адкрытай усім вятрам цёмнай вуліцы.

*З ангельскай пераклала Ірэна Ганецкая*

[32] Coleman R. The Art of Work: An Epitaph to Skill. London, 1988.

# Прычыннасць у гісторыі*

## Эдвард Гэлет Кар

Калі малако кіпяціць у патэльні, яно выбяжыць. Я не ведаю і зусім не хачу ведаць, чаму так адбываецца. Калі б нехта стаў патрабаваць адказу, я мог бы спісаць гэта на ўласцівасць малака выбягаць. Дастаткова справядліва, але гэта нічога не тлумачыць. Відавочна, такі адказ сведчыць, што я не прыродазнавец. Гэтаксама нехта можа казаць і нават пісаць пра падзеі мінулага без ніякага жадання даведацца, чаму яны адбыліся. Нехта пагодзіцца са сцверджаннем, што II сусветная вайна пачалася з прычыны таго, што Гітлер хацеў вайны. Гэта дастаткова справядліва, але не тлумачыць нічога. Тады той нехта не мае ніякага права называць сябе даследчыкам гісторыі або гісторыкам. Вывучэнне гісторыі ёсць вывучэннем прычынаў. Гісторык пастаянна задае сабе пытанне „Чаму?“, і пакуль ёсць надзея знайсці адказ, ён не можа супакоіцца. Вялікі гісторык — ці я б сказаў шырэй, вялікі мысляр —гэта чалавек, які задае пытанне „Чаму?“ у дачыненні да новых рэчаў, або да старых рэчаў у новых кантэкстах.

Герадот, бацька гісторыі, пачынаючы сваю працу, вызначыў мэту: захаваць памяць пра справы грэкаў і варвараў, „і асабліва, найперш, паказаць прычыны іх барацьбы“. Герадот меў паслядоўнікаў у старажытным свеце: нават Фукідыда абвінавачвалі ў адсутнасці яснай канцэпцыі прычыннасці[1]. Але калі ў XVIII ст. пачалі закладвацца асновы сучаснай гістарыяграфіі, Мантэск’ё ў сваёй працы „Considerations on the Causes of Greatness of the Romans and of their Rise and Decline“ („Меркаванні аб прычынах велічы рымлянаў і іх уздыму і заняпаду“) прыняў за аснову, што „існуюць агульныя прычыны, маральныя ці фізічныя, якія дзейнічаюць у любой манархіі на этапах станаўлення, умацавання і заняпаду“, і „усё, што адбываецца, ёсць вынікам гэтых прычынаў“. Праз некалькі гадоў у „Esprit des lois“ ён развіў і абагуліў гэтую ідэю. Было б абсурдам дапускаць, што „сляпы лёс вядзе да ўсяго, што мы бачым у свеце“. Людзьмі „не кіруюць выключна іх фантазіі“, іх паводзіны падпарадкоўваюцца пэўным законам і прынцыпам, якія вынікаюць з „самой прыроды рэчаў“[2]. Потым цягам амаль 200 гадоў гісторыкі і філосафы гісторыі актыўна спрабавалі ўпарадкаваць мінулы досвед чалавецтва, адшукваючы прычыны гістарычных падзей і законы, што кіруюць імі. Прычыны і законы часам асэнсоўвалі ў механічных,

* Carr, Edward H., Causation in History // What is History? Pinguin Books 1990, 87–108.

[1] Cornford, F.M., Thucydides Mythistoricus, passim.

[2] De l’esprit des lois, Уступ і разд. I.

часам у біялагічных паняццях, а часам трактавалі як метафізічныя, эканамічныя, або псіхалагічныя. Але агульнапрынятай была дактрына, што гісторыя складаецца з падзей, злучаных строгай прычынна–выніковай сувяззю. „Калі вы не маеце што сказаць, як толькі тое, што адзін варвар перамог другога, то што нам з таго? — пісаў Вальтэр у артыкуле пра гісторыю для Энцыклапедыі. У апошнія гады карціна крыху змянілася. Сёння мы больш не гаворым пра гістарычныя „законы“. Нават слова „прычына“ выйшла з моды: часткова дзякуючы пэўнай філасофскай неакрэсленасці, кранаць якую няма патрэбы, а часткова дзякуючы яго меркаванай сувязі з дэтэрмінізмам. Да апошняга я і пераходжу. Такім чынам, некаторыя гавораць не пра „прычыну“ у гісторыі, а пра „тлумачэнне“ ці „інтэрпрэтацыю“, або пра „логіку сітуацыі“ ці „унутраную логіку падзей“ (гэта ідзе ад Дысея), адмаўляючыся ад прычыннага падыходу (чаму адбылося?) на карысць функцыянальнага (як адбылося?), хоць гэта, здаецца, непазбежна цягне за сабой пытанне „як здарылася, што гэта адбылося“, і, такім чынам, вяртае нас да пытання „Чаму?“. Іншыя вылучаюць розныя віды прычыны — механічныя, біялагічныя, псіхалагічныя і г. д. — і лічаць гістарычную прычыну катэгорыяй самастойнай. Хоць некаторыя з гэтых адрозненняў у пэўнай ступені выяўляюцца, можа ўсё ж больш плённа было б у гэтым сэнсе падкрэсліць агульнае для ўсіх відаў прычыны, а не тое, што іх раздзяляе. Што да мяне, то я пагадзіўся б выкарыстоўваць слова „прычына“ ў агульнапрынятым сэнсе і не зважаць на гэтыя тонкасці.

Давайце пачнем з пытання, што на практыцы робіць гісторык, калі сутыкаецца з патрэбай вызначыць прычыны падзеяў. Першае ў падыходзе гісторыка да праблемы прычыны, гэта тое, што ён, як правіла, вызначае некалькі прычын адной падзеі. Эканаміст Маршал некалі пісаў, што „людзей трэба перасцерагаць усімі магчымымі сродкамі ад уліку толькі нейкай адной прычыны ... без увагі да іншых, вынікі якіх наступаюць разам з ёй“[3]. Той, хто здае іспыт і адказвае на пытанне „Чаму ў Расіі ў 1917 г. адбылася рэвалюцыя?“, і назаве толькі адну прычыну, мае шанец быць залічаным толькі да трэцяга разраду. Гісторык мае справу з мноствам прычын. Калі б яго папрасілі пералічыць прычыны бальшавіцкай рэвалюцыі, ён мог бы назваць вайсковыя паразы Расіі, калапс эканомікі, якая не вытрымала цяжару вайны, эфектыўную прапаганду бальшавікоў, няўдачы царскага ўраду ў вырашэнні аграрнай праблемы, канцэнтрацыю на фабрыках у Пецярбурзе збяднелага і прыгнечанага пралетарыяту, а таксама факт, што Ленін цвёрда ведаў, чаго хоча, у адрозненне ад апанентаў — карацей, рэдкае спалучэнне эканамічных, палітычных, ідэалагічных і асабовых прычынаў, доўга– і кароткатэрміновых.

[3] Memorials of Alfred Marshall, Ed. A.C.Pigou, 1925, 428.

А гэта адразу падводзіць нас да другой асаблівасці падыходу гісторыка. Той, хто, адказваючы на нашае пытанне, задаволіцца пералікам дзесятка прычынаў расійскай рэвалюцыі і спыніцца на гэтым, можа быць аднесены да другога разраду, але не да першага. „Добра інфармаваны, але без творчага ўяўлення“ — такі будзе вердыкт экзаменатараў. Сапраўдны гісторык, гледзячы на складзены ім спіс прычынаў, адчуе прафесійны абавязак яго ўпарадкаваць, устанавіць нейкую ерархію, якая адлюструе іх узаемадачыненні, а можа і вырашыць, якую прычыну ці катэгорыю прычынаў трэба разглядаць „апошнім сродкам“ або „апошняй кропляй“, як асноўную, прычыну прычынаў. Гэта яго інтэрпрэтацыя ягонай тэмы. Гісторыка ведаюць па прычынах, якія ён абвяшчае. Гібон тлумачыў дэградацыю і падзенне Рымскай імперыі трыумфам варварства і рэлігіяй. У Ангельшчыне гісторыкі–вігі ў XIX ст. тлумачылі ўздым брытанскай улады і працвітанне развіццём палітычных інстытутаў, якія ўвасабляюць прынцыпы канстытуцыйнай свабоды. Гібон і ангельскія гісторыкі XIX ст. сёння выглядаюць старамодна, бо яны ігнаруюць эканамічныя прычыны, якія сучасныя гісторыкі выставілі наперад. Кожны гістарычны аргумент кружляе вакол пытання прыярытэту прычынаў.

Анры Пуанкарэ заўважыў, што навука развіваецца адначасова і „да разнастайнага і складанага“, і „да цэлага і простага“, і што гэты дуалістычны і відавочна супярэчлівы працэс з'яўляецца неабходнай умовай ведаў[4]. Гэта аднолькава справядліва і для гісторыі. Гісторык, пашыраючы і паглыбляючы свае даследаванні, пастаянна акумулюе больш і больш адказаў на пытанне „Чаму?“ Памнажэнне ў апошнія гады накірункаў эканамічнай, сацыяльнай, культурнай і прававой гісторыі — не кажучы ўжо пра свежыя погляды на праблемы палітычнай гісторыі, а таксама новыя метады псіхалогіі і статыстыкі — неверагодна павялічыла колькасць і ўзровень нашых адказаў. Назіранне Бэртрана Расэла, што „кожнае дасягненне ў навуцы аддаляе нас ад прымітыўнай аднастайнасці першых даследаванняў і вядзе да большай дыферэнцыяцыі папярэдняга і наступнага, да пастаяннага пашырэння кола мінулага, якое прымаецца за адпаведнае“[5], дакладна характарызуе сітуацыю. Але ў ахвяру свайму імкненню зразумець мінулае гісторык адначасова вымушаны, як вучоны, спрашчаць множнасць сваіх адказаў, каб падпарадкаваць іх адзін аднаму, унесці нейкі парадак і цэласнасць у хаос здарэнняў і хаос асобных прычынаў. „Адзін Бог, адзін Закон, адзін Элемент і адна аддаленая Боская Падзея“ або патрабаванне Генры Адамса „якога–небудзь вялікага абагульнення, што пакладзе ка-

[4] Poincare, H., La Science et l'hypothese, 1902, 202—203.
[5] Russell, B., Mysticism and Logic, 1918, 188.

нец нечыйму гучнаму дамаганню адукацыі“[6], гучыць сёння як старамодны жарт. Але факт, што гісторык мусіць працаваць і праз спрашчэнне, і праз памнажэнне прычынаў. Гісторыя як навука развіваецца шляхам гэтага дуалістычнага і відавочна супярэчлівага працэсу.

Тут я мушу без асаблівага жадання спыніцца, каб разабрацца з двума пахамі чырвоных селядцоў, якія скрозь цягнуцца за намі — адзін пад этыкеткай „Дэтэрмінізм у гісторыі, або Шкоднасць Гегеля“, другі — „Выпадковасць у гісторыі, або Нос Клеапатры“. Спачатку некалькі слоў пра тое, як яны трапілі сюды. Прафесар Карл Попэр у 1930–я гады напісаў у Вене вялікую кнігу пра новы погляд у навуцы (нядаўна перакладзена на ангельскую мову пад назвай „The Logic of Scientific Enquiry („Логіка навуковага даследавання“), у час вайны надрукаваў па–ангельску дзве кнігі больш папулярнага характару: The Open Society and its Enemies („Адкрытае грамадства і ягоныя ворагі“) і The Poverty of Historicism („Убоства гістарыцызму“)[7]. Яны пісаліся пад моцным эмацыйным уздзеяннем адмоўнай рэакцыі на Гегеля, якога разам з Платонам трактавалі як духоўнага папярэдніка нацызму, а таксама на павярхоўны марксізм, што стварыў інтэлектуальны клімат брытанскіх левых у 1930–я гады. Асноўнымі мішэнямі былі быццам бы дэтэрміністкія філасофіі гісторыі Гегеля і Маркса, аб’яднаныя пад зняважлівай назвай „гістарыцызм“[8].

[6] The Education of Henry Adams, Boston 1928, 224.

[7] „The Poverty of Historicism“ упершыню выйшла кнігай у 1957 г., але яна складаецца з артыкулаў, апублікаваных паміж 1944 і 1945 гадамі.

[8] Я пазбягаў слова „гістарыцызм“, за выняткам аднаго–двух выпадкаў, дзе не патрабавалася дакладнасць, пакуль шырокачытаныя працы прафесара Попэра па гэтай тэме не пазбавілі тэрмін дакладнага значэння. Упартае настойванне на дэфініцыі паняццяў — педантызм. Кожны павінен ведаць, пра што ён гаворыць, а прафесар Попэр выкарыстоўвае „гістарыцызм“ як пастку для любога меркавання пра гісторыю, якое яму не падабаецца, улучна з тымі, якія, здаецца, гучаць, і тымі, якія, думаю, ніводзін сур’ёзны аўтар сёння не падтрымае. Як ён сам прызнае (The Poverty of Historicism, 3), ён прыдумляе „гістарыцысцкія“ аргументы, якія не выкарыстоўваліся ніводным вядомым „гістарыцыстам“. У ягоных працах гістарыцызм ахапляе і дактрыны, што ператвараюць гісторыю ў навуку, і дактрыны, якія рашуча розняць іх. У „Open Society“ Гегель, які пазбягаў прароцтваў, называецца вярхоўным жрацом гістарыцызму; ва ўводзінах да „The Poverty of Historicism“ гістарыцызм паказваецца як „падыход да грамадскіх навук, які лічыць гістарычнае прадказанне сваёй галоўнай мэтай“. Да гэтага часу „гістарыцызм“ звычайна прымалі за ангельскую версію нямецкага „гістарызму“, цяпер прафесар Попэр раздзяляе „гістарыцызм“ і „гістарызм“, уносячы, такім чынам, яшчэ больш блытаніны ва ўжо і так заблытанае паняцце. У кнізе M.C.d’Arcy The Scene of History: Secular and Sacred (1959), 11 слова „гістарыцызм“ выкарыстоўваецца як „ідэнтычнае філасофіі гісторыі“.

У 1954 г. сэр Ісая Бэрлін надрукаваў сваё эсэ „Гістарычная непазбежнасць“. Магчыма ён завяршыў атаку на Платона, дзякуючы рэшткам некаторай павагі да гэтага старажытнага слупа оксфардскага істэблішмэнту[9], і дадаў да абвінавачання аргумент, якога не было ў Попэра, што „гістарыцызм“ Гегеля і Маркса выклікае пярэчанні, бо, тлумачачы людскія ўчынкі прычыннасцю, ён пастулюе адмаўленне свабоднай волі чалавека, арыентуе гісторыкаў на ўхіленне ад абавязку агалошваць маральны прысуд гістарычным Карлам Вялікім, Напалеонам і Сталіным. Інакш мала што зменіцца. Але сэр Ісая Бэрлін — заслужана папулярны і шырока чытаны аўтар. На працягу апошніх пяці–шасці гадоў амаль кожны ў гэтай краіне і Злучаных Штатах, хто пісаў артыкул пра гісторыю або сур’ёзны агляд гістарычных даследаванняў, паказваў доўгі нос і Гегелю, і Марксу, і дэтэрмінізму, і пальцам тыкаў на абсурднасць недаацэнкі ролі выпадковага ў гісторыі. Можа быць несправядліва ўскладаць віну на сэра Ісаю за яго вучняў. Нават калі ён гаворыць глупства, ён заслугоўвае даравання, бо гаворыць гэта захапляльна і прывабна. Паслядоўнікі паўтараюць глупства, і ў іх гэта не атрымліваецца прыцягальна. У кожным разе, ва ўсім гэтым няма нічога новага. Чарльз Кінгзлі, не самы выбітны сярод нашых прафесараў каралеўскіх кафедраў Новай гісторыі, які, верагодна, ніколі не чытаў Гегеля і не чуў пра Маркса, прымаючы пасаду ў 1860 г., казаў у сваёй лекцыі пра ўласцівую чалавеку „таямнічую сілу парушэння законаў свайго быцця“ як доказ таго, што ў гісторыі не можа існаваць ніякіх „непазбежных наступстваў“[10]. Але, на шчасце, мы забылі Кінгзлі. Менавіта прафесар Попэр і сэр Ісая Бэрлін паміж сабой зноў надалі гэтай здохлай кабыле нейкае падабенства жыцця. Патрабуецца пэўнае цярпенне, каб разабрацца ў гэтай блытаніне.

Давайце спачатку возьмем дэтэрмінізм, які я вызначу (спадзяюся без супярэчнасцяў) як веру, што ўсё, што адбываецца, мае прычыну ці прычыны, і нічога не можа змяніцца, пакуль што–небудзь не зменіцца ў прычыне ці прычынах[11]. Дэтэрмінізм — праблема не гісторыі, а паводзінаў чалавека. Чалавек, чые дзеянні не маюць прычыны, а значыць недэтэрмінаваныя, такая ж абстракцыя, як і індывід па–за грамадствам. Сцверджанне прафесара Попэра, што „усё магчыма ў спра-

[9] Атака на Платона як першага фашыста пачалася, аднак, з серыі радыёперадачаў супрацоўніка Оксфардскага ўніверсітэту, R.H.Crossman, Plato Today (1937).

[10] Kingsley, C., The Limits of Exact Science as to Applied to History, 1860, 22.

[11] „Дэтэрмінізм... азначае... што, факты ёсць такімі, якімі яны ёсць. Што ні адбываецца, адбываецца прадвызначана, і не можа быць інакш. Дапускаць, што нешта магло б адбыцца, азначае толькі, што яно б адбылося, калі б факты былі іншыя“ (Alexander, S.W., Essays Presented to Ernst Cassirer, 1936, 18).

[12] Popper, K.R., The Open Society (2–е выданне, 1952), II, 197.

вах чалавека“[12], або бессэнсоўнае, або фальшывае. Ніхто ў звычайным жыцці не верыць і не можа верыць гэтаму. Аксіёма, што ўсё мае сваю прычыну, ёсць умовай нашай магчымасці зразумець, што адбываецца вакол нас[13]. Жах раманаў Кафкі палягае на факце, што ўсё, што адбываецца, не мае ніякай відавочнай прычыны, або наогул ніякай прычыны, якую б можна было вызначыць: гэта вядзе да татальнай дэзінтэграцыі чалавечай асобы, якая засноўваецца на дапушчэнні, што падзеі маюць прычыны, і што адпаведная колькасць гэтых прычынаў можа быць выяўленая, што чалавек можа ў свядомасці сканструяваць мадэль мінулага і сучаснага настолькі адэкватную, каб кіравацца ёй у дзеяннях. Штодзённае жыццё было б немагчымае без прызнання, што паводзіны чалавека абумоўлены прычынамі, якія ў прынцыпе можна вызначыць. Некалі людзі лічылі багахульствам цікавасць да прычынаў прыродных з’яў, бо імі відавочна кіруе боская воля. Пярэчанне сэра Ісаі Бэрліна нашаму тлумачэнню, чаму людзі дзейнічалі так, як дзейнічалі, на той падставе, што гэтымі дзеяннямі кіруе воля чалавека, належыць да таго ж парадку ідэй, і, відаць, азначае, што сацыяльныя навукі знаходзяцца сёння на той самай стадыі развіцця, на якой знаходзіліся прыродазнаўчыя навукі, калі супраць іх гучалі падобныя аргументы.

Давайце паглядзім, як мы вырашаем гэтую праблему ў штодзённым жыцці. Калі вы ходзіце па сваіх штодзённых справах, вы звычайна сустракаеце Сміта. Вы вітаеце яго прыемнай, але фармальнай рэплікай пра надвор’е, або пра стан каледжа ці ўніверсітэцкія справы. Ён адказвае вам такой самай прыемнай і фармальнай рэплікай пра надвор’е ці пра справы. Цяпер уявім, што аднойчы Сміт замест звычайнага адказу на вашую рэпліку раптам узарвецца знішчальнай крытыкай вашага знешняга выгляду або характару. Хіба вы, паціснуўшы плячыма, спішаце гэта на рахунак пераканаўчай дэманстрацыі свабоды волі Сміта і таго факта, што ўсё магчыма ў справах людскіх? Падазраю, што не. Наадварот, вы напэўна скажаце што–небудзь накшталт: „Бедны Сміт! Вы ж ведаеце, канешне, што ягоны бацька памёр у вар’ятні,“ або „Бедны Сміт! Пэўна ў яго абвастрыліся праблемы з жонкай!“ Інакш кажучы, вы паспрабуеце патлумачыць прычыну відавочна беспрычынных паводзінаў Сміта з цвёрдым перакананнем, што нейкая прычына ўсё ж павінна быць. Робячы так, вы, баюся, наклічаце на сябе гнеў сэра Ісаі Бэрліна, які з горыччу паскардзіцца, што, прычынна тлумачачы паводзіны Сміта,

[13] „Закон прычыннасці не ёсць нашым абавязкам перад светам“, але „ёсць для нас пэўна самым зручным метадам адаптацыі да свету“ (Rueff, J., From the Phisical to the Social Sciences, Baltimore 1929, 52). Сам прафесар Попэр (Logic of Scientific Enquiry, 248) называе веру ў прычыннасць „метафізічнай гіпастатызацыяй добра сцверджанага метадалагічнага правіла“.

вы праглынулі дэтэрмініcцкае дапушчэнне Гегеля і Маркса і ўхіляецеся ад абавязку абвясціць Сміта хамам. Але ў штодзённым жыцці ніхто не прытрымліваецца такога погляду і не думае, што на карту пастаўлены або дэтэрмінізм, або маральная адказнасць. Лагічная дылема пра свабодную волю і дэтэрмінізм у рэальным жыцці не ўзнікае. Не бывае так, што некаторыя дзеянні чалавека свабодныя, а іншыя — дэтэрмінаваныя. На самай справе, дзеянні чалавека і свабодныя, і дэтэрмінаваныя, у залежнасці ад пункту гледжання. На практыцы ўсё інакш. Паводзіны Сміта мелі прычыну або шэраг прычынаў; але паколькі іх выклікаў не нейкі знешні прымус, а прымус ягонай уласнай асобы, ён нясе маральную адказнасць. Бо ёсць умова грамадскага жыцця, што нармальны дарослы чалавек нясе маральную адказнасць за сябе. Ці ўскладаць на яго адказнасць у гэтым канкрэтным выпадку — справа вашага практычнага меркавання. Але, калі вы ўскладаеце адказнасць, то гэта не значыць, што вы лічыце, што гэтае дзеянне не мела ніякай прычыны: прычыны і маральная адказнасць — розныя катэгорыі. Я ўпэўнены, нікому, хто займаецца даследаваннем прычын злачынства, не прыйдзе ў галаву, што гэта прымушае яго адмаўляць маральную адказнасць злачынца.

Цяпер давайце паглядзім на гісторыка. Як просты чалавек, ён думае, што дзеянні чалавека маюць прычыны, якія ў прынцыпе можна выявіць. Гісторыя, як і штодзённае жыццё, была б немагчымая без такога дапушчэння. Менавіта даследаванне гэтых прычынаў і ёсць спецыяльнай функцыяй гісторыка. Можна падумаць, што гэта дае яму асаблівую зацікаўленасць у дэтэрмінаваным выяўленні чалавечых паводзінаў: але ён не адвяргае свабодную волю — за выняткам нелагічнай гіпотэзы аб беспрычыннасці свядомых дзеянняў. Гэтаксама яго не хвалюе праблема непазбежнасці. Гісторыкі, як і ўсе людзі, часам захапляюцца рыторыкай і гавораць пра выпадак як „непазбежны“, калі яны маюць на ўвазе толькі спалучэнне фактараў, якое стварае ўражанне, што яно было надзвычай моцнае. Нядаўна я аналізаваў сваю гісторыю, шукаючы грахоў, і не змог даць сабе яснай карціны: у адным месцы я пісаў, што пасля рэвалюцыі 1917 г. канфлікт паміж бальшавікамі і праваслаўнай царквой быў „непазбежны“. Несумненна, мудрэй было б сказаць „вельмі верагодны“. Але ці можна мне дараваць недакладнае адценне? На практыцы, пакуль падзеі не адбыліся, гісторыкі не дапускаюць, што яны непазбежныя. Яны часта абмяркоўваюць альтэрнатыўныя дзеянні персанажаў сюжэта, дапускаючы, што выбар быў адкрыты. У той самы час яны працягваюць досыць слушна тлумачыць, чаму быў рэалізаваны той выбар, а не іншы. У гісторыі няма нічога непазбежнага па–за фармальным сэнсам. Для таго, каб падзея адбылася інакш, іншымі павінны былі б быць папярэднія прычыны. Як гісторык,

я абсалютна гатовы абыходзіцца без „непазбежнага“. Так, жыццё без гэтага слова будзе шэрым, але давайце пакінем гэтае слова паэтам і метафізікам.

Такой бясплённай і бессэнсоўнай аказваецца гэтая заклапочанасць непазбежнасцю і апантанасць, з якой яна навязваецца ў апошнія гады, што я думаю, мы павінны шукаць матывы, якія хаваюцца за гэтым. Галоўнай крыніцай з'яўляецца школа, якую б я назваў школай „магло б быць“ — школай думкі ці, хутчэй, школай эмоцый. Яна тычыцца амаль выключна сучаснай гісторыі. Нядаўна тут, у Кембрыджы, я бачыў аб'яву нейкага таварыства пра лекцыю пад назвай „Ці была расійская рэвалюцыя непазбежнай?“ Я ўпэўнены, што яна задумлялася як сур'ёзная лекцыя. Але калі б вы ўбачылі аб'яву пра лекцыю „Ці былі войны ружаў непазбежнымі?“, вы б адразу падумалі, што тут хаваецца нейкі жарт. Гісторык піша пра нарманскае завяванне, або пра амерыканскую вайну за незалежнасць як пра тое, што адбылося, тое, што фактычна абавязкова павінна было адбыцца, жадаючы проста растлумачыць, што адбылося і чаму; і ніхто не абвінаваціць яго ў дэтэрмінізме і адмове абмеркаваць альтэрнатыўную магчымасць, што Вільгельм Заваёўнік ці амерыканскія паўстанцы маглі б пацярпець паразу. Аднак, калі я пішу пра расійскую рэвалюцыю 1917 г. дакладна такім чынам (адзіны правільны шлях для гісторыка), я аказваюся пад агнём апанентаў за паказ таго, што адбылося, як таго, што мусіла адбыцца, і не аналізую ўсяго іншага, што магло б адбыцца. Дапусцім, кажуць, калі б Сталыпіну хапіла часу завяршыць аграрную рэформу, або калі б Расія не ўступіла ў вайну, магчыма рэвалюцыя не адбылася б, ці дапусцім, што ўрад Керанскага дасягнуў бы поспеху, і што рэвалюцыю ўзначалілі б меншавікі ці сацыял–рэвалюцыянеры, а не бальшавікі. Гэтыя дапушчэнні тэарэтычна памылковыя: заўсёды можна пагуляць у гульню гістарычных „магло б быць“. Але гэта не мае нічога агульнага з дэтэрмінізмам, бо дэтэрмініст толькі адкажа наступнае: каб гэтыя падзеі адбыліся, трэба, каб і прычыны былі іншыя. І гэта не мае нічога агульнага з гісторыяй. Справа ў тым, што сёння ніхто ўсур'ёз не хоча пераглядаць вынікі нарманскага завявання ці амерыканскай незалежнасці, або апантана пратэставаць супраць тых падзей, і ніхто не пярэчыць, калі гісторык трактуе іх як закрытую старонку. Але многія людзі, якія пацярпелі непасрэдна ці ўскосна ад вынікаў бальшавіцкай перамогі ці яшчэ баяцца яе аддаленых наступстваў, хочуць выказаць сваю нязгоду. Калі яны чытаюць гісторыю, пратэст набывае форму поўнай свабоды ўяўлення ўсяго, што толькі магло б здарыцца, і раздражнення гісторыкам, які працягвае спакойна сваю работу па тлумачэнні, што адбылося і чаму іхныя жаданні–мары засталіся нерэалізаваныя. Няшчасце найноўшай гісторыі

ў тым, што людзі помняць час, калі ўсе магчымасці былі яшчэ адкрытыя, і з цяжкасцю прымаюць стаўленне гісторыка, для якога яны ўжо закрытыя *fait accompli*. Гэта чыста эмацыйная і негістарычная рэакцыя. Але менавіта яна больш за ўсё жывіла нядаўнюю кампанію супраць падманлівай дактрыны „гістарычнай непазбежнасці“. Давайце пазбавімся гэтых чырвоных селядцоў раз і назаўсёды.

Наступнай сыходнай пазіцыяй атакі з'яўляецца знакамітая праблема носа Клеапатры. Гэтая тэорыя палягае на тым, што гісторыя ўвогуле ёсць непрадбачаны збег акалічнасцяў, серыя падзей, якія ёсць вынікам выпадковых супадзенняў, і вызначаюцца толькі самымі выпадковымі прычынамі. Сыход бітвы пры Акцыі быў вынікам прычынаў не таго кшталту, якія звычайна прыводзяць гісторыкі, але сляпога захаплення Антонія Клеапатрай. Калі прыступ падагры утрымаў Баязэта ад паходу ў Цэнтральную Эўропу, Гібон заўважыў, што хвароба „аднаго адзінага чалавека, можа спыніць або аддаліць пакуты народаў“[14]. Калі кароль Грэцыі Аляксандр памёр восенню 1920 г. ад укусу ўлюбёнай малпы, гэты выпадак пацягнуў за сабой цэлую чараду падзей, пра якія сэр Ўінстан Чэрчыль казаў, што „чвэрць мільёна людзей памерла ад гэтага ўкусу малпы“[15]. Ці возьмем, зноў жа, заўвагу Троцкага з нагоды прастуды, якую ён падхапіў пад час палявання на качак, у выніку чаго не змог актыўна дзейнічаць у крытычны момант сваёй сваркі з Зіноўевым, Каменевым і Сталіным увосень 1923 г.: „Можна прадбачыць рэвалюцыю і вайну, але немагчыма прадказаць наступствы восеньскага палявання на дзікіх качак“[16]. Першае, што тут трэба высветліць, гэта тое, што такое пытанне не мае нічога агульнага з сутнасцю дэтэрмінізму. Захапленне Антонія Клеапатрай, прыступ падагры ў Баязэта або прастуда Троцкага былі настолькі ж прычынна абумоўленыя, наколькі і ўсё, што адбываецца. Меркаванне, што захапленне Антонія ня мела прычыны, надта няветлівае ў дачыненні да прыгажосці Клеапатры. Сувязь паміж жаночай прыгажосцю і закаханасцю мужчыны — адна з найбольш відавочных прычынна–выніковых сувязяў, якія можна назіраць і сёння. Гэтыя так званыя выпадковасці ў гісторыі прадстаўляюць сувязь прычыны і наступства, якая пераходзіць у паслядоўнасць, якую гісторык зацікаўлены даследаваць у першую чаргу. Б'юры досыць справядліва гаворыць пра „калізію двух незалежных прычынных ланцугоў”[17]. Сэр Ісая Бэрлін, які адкрывае свой нарыс „Historical Inevitability“ („Гістарычная непазбежнасць“) ухвальным цытаваннем артыкула Бэр-

[14] Decline and Fall of the Roman Empire, LXIV.

[15] Churchill, W., The Word Crisis: The Aftermath, 1929, 386.

[16] Trotsky, L., My Life (engl. trans. 1930), 425.

[17] Аргумент Б'юры на гэты конт гл.: The Idea of Progress, 1920, 303–304.

нарда Бэрэнсана „The Accidental View of History“ („Гісторыя з пункту гледжання выпадковасці“), адзін з тых, хто змешвае выпадковасць у гэтым сэнсе з адсутнасцю прычыннай дэтэрмінаванасці. Але, і без гэтага змешвання, мы сутыкаемся з сапраўднай праблемай. Як можна адшукаць у гісторыі ясную прычынна–выніковую сувязь, як нам знайсці якое–небудзь значэнне ў гісторыі, калі нашую сувязь у любы момант можа разбурыць або змяніць якая–небудзь іншая, з нашага пункту погляду малавартая сувязь?

Тут мы можам на хвіліну спыніцца, каб адзначыць паходжанне нядаўна распаўсюджанай увагі да ролі выпадку ў гісторыі. Здаецца, Палібій быў першым гісторыкам, хто больш–менш сістэматычна займаўся гэтай праблемай. Хутка сарваў маску з прычыны Гібон. „Грэкі, — заўважыў ён, — пасля таго, як іхная краіна стала правінцыяй, прыпісвалі трыумф Рыму не яго вартасцям, а лёсу іх рэспублікі“[18]. Тацыт, таксама гісторык перыяду заняпаду краіны, быў наступным старажытным гісторыкам, хто ўволю наразважаўся пра выпадак. З нарастаннем настрояў няўпэўненасці і перасцеражэнняў, якія з’явіліся ў бягучым стагоддзі і пасля 1914 г. былі ўжо зусім відавочныя, пачынаюць цвердзіць пра значнасць выпадку ў гісторыі і брытанскія гісторыкі. Першым гэтую тэзу пасля доўгага перапынку агучыў, здаецца, Б’юры. У артыкуле „Darvinism in History“ („Дарвінізм у гісторыі“) у 1909 г. ён звярнуў увагу на „элемент выпадковага супадзення“, які ў вялікай ступені „дапамагае дэтэрмінаваць падзеі сацыяльнай эвалюцыі“. Асобны артыкул пад назвай „Cleopatra’s Nose“ („Нос Клеапатры“) быў прысвечаны гэтай тэме ў 1916 г.[19]. У цытаваным ужо ўрыўку, адлюстраваўшым крах ілюзіяў у сувязі з правалам ліберальных мараў пасля І сусветнай вайны, Г.Э.Фішэр просіць сваіх чытачоў прызнаць „гульню выпадковага і непрадбачанага“ у гісторыі[20].

[18] Decline and Fall of the Roman Empire, XXXVIII. Цікава адзначыць, што грэкі, пасля таго, як былі заваяваныя рымлянамі, таксама захапіліся гульнямі ў гістарычныя „магло б быць“ — улюбёнае суцяшэнне пераможаных: калі б Аляксандр Вялікі не памёр малады, казалі яны адзін аднаму, „ён заваяваў бы Захад, і Рым быў бы падпарадкаваны грэцкім каралям“ (Fritz, K. von, The Theory of the Mixed Constitution in Antiquity, New York 1954, 395).

[19] Абодва артыкулы перадрукаваныя ў кн.: Bury,J.B., Selected Essays (1930); каментары Колінгвуда адносна поглядаў Б’юры гл.: The Idea of History, 148—50.

[20] Гэты ўрывак гл. вышэй. Цытаванне Тойнбі выказвання Фішэра ў „A Study of History“, V, 313, сведчыць пра поўнае неразуменне: ён расцэньвае яго як прадукт „сучаснай заходняй веры ва ўсемагутнасць выпадку“, якая „спараджае“ неўмяшанне. Тэарэтыкі неўмяшання вераць не ў выпадак, а ў нябачную руку, якая ажыццяўляе дабрадзейны лад шматстайных чалавечых паводзінаў; а заўвага Фішэра была прадуктам не неўмяшальніцкага лібералізму, а яго краху ў 1920–х і 1930–х гадах.

Папулярнасць у гэтай краіне тэорыі гісторыі як ланцугу выпадковасцяў супала з росквітам у Францыі філасофскай школы, якая прапаведавала, што экзістэнцыя — я цытую знакамітую „L'Etre et le neant" Сартра — не мае „ні прычыны, ні мэтазгоднасці, ні неабходнасці". У Нямеччыне гісторык–ветэран Майнэке, як мы ўжо адзначылі, да канца свайго жыцця заставаўся пад уражаннем ролі выпадку ў гісторыі. Ён папракаў Ранке за недастатковую ўвагу да выпадку, і пасля II сусветнай вайны вызначыў нацыянальныя катастрофы апошніх сарака гадоў як серыю выпадковасцяў: амбітнасць кайзера, абранне Гіндэнбурга прэзідэнтам Вэймарскай рэспублікі, апантанасць Гітлера і г.д. Усё гэта ёсць сведчаннем банкруцтва розуму вялікага гісторыка пад ціскам няшчасцяў яго краіны[21]. У групе ці нацыі, што знаходзіцца на схіле, а не на вяршыні гістарычных падзей, пераважаюць тэорыі, якія акцэнтуюць увагу на выпадку і выпадковасці ў гісторыі. Такі погляд, што вынікі даследавання — гэта абсалютная латэрэя, заўсёды будзе папулярны сярод тых, хто знаходзіцца ў трэцім класе.

Але знайсці вытокі веры ў гэта не азначае пазбавіцца яе, і нам трэба яшчэ разабрацца, што робіць нос Клеапатры на старонках гісторыі. Мантэск'ё несумненна быў першым, хто паспрабаваў абараніць законы гісторыі ад падобных нападкаў. „Калі адна асобная прычына, як і выпадковы сыход бітвы, разбурыла дзяржаву, — пісаў ён у працы пра веліч і заняпад рымлянаў, — значыць, была агульная прычына таго, што заняпад гэтай дзяржавы залежаў ад адной бітвы." Марксісты таксама мелі пэўныя цяжкасці з гэтай праблемай. Маркс кранаў яе толькі аднойчы, ды і тое ў лісце:

*Сусветная гісторыя набыла б надзвычай містычны характар, калі б у ёй не знайшлося месца для выпадку. Сам гэты выпадак арганічна становіцца часткай агульнай тэндэнцыі развіцця і кампенсуецца іншымі формамі выпадку. Але паскарэнне і запавольванне залежаць ад такіх „выпадковасцяў", улучна з „выпадковым" характарам асобаў, якія адпачатку ўзначальваюць рух*[22].

Маркс, такім чынам, прапануе тры апраўданні выпадковасці ў гісторыі. Па–першае, яна не такая ўжо і значная, яна можа „паскараць" або „тармазіць", але не сутнасна, не радыкальна змяняць ходу падзей. Па–другое, адзін выпадак кампенсуецца іншым, так што ўрэшце рэшт выпадковасць сама сябе ануллюе. Па–трэцяе, выпадковасць асабліва выяўляецца ў характары асобаў[23].

[21] Адпаведныя ўрыўкі цытуе Старк ва ўводзінах да кнігі Meinecke, F., Machiavellism, XXXV—XXXVI.

[22] Marx K., Engels, F., Works, XXVI, 108.

[23] Талстой у „Вайне і міры", эпілог I, ставіць знак роўнасці паміж „выпадковасцю" і „геніяльнасцю" як тэрмінамі, што выяўляюць няздольнасць чалавека зразумець першасныя прычыны.

Троцкі падмацаваў тэорыю кампенсацыі і самаліквідацыі выпадковасці арыгінальнай аналогіяй:

*Увесь гістарычны працэс ёсць прасейваннем гістарычнага закону праз выпадковасць. Мовай біялогіі можна сказаць, што гістарычны закон рэалізуецца праз натуральны адбор выпадковасцяў*[24].

Прызнаюся, што мяне гэтая тэорыя не задавальняе і не пераконвае. Роля выпадку ў гісторыі сёння сур'ёзна перабольшваецца тымі, хто зацікаўлены падкрэсліць яго значнасць. Аднак ён існуе, і сказаць, што ён адно паскарае ці стрымлівае, але не змяняе, значыць гуляць словамі. Я не схільны таксама бачыць якую–небудзь прычыну, каб думаць, што выпадковая падзея — заўчасная смерць Леніна ва ўзросце пяцідзесяці чатырох гадоў, напрыклад, — аўтаматычна кампенсавалася якім–небудзь іншым здарэннем такім чынам, каб аднавіць баланс гістарычнага працэсу.

У роўнай ступені неадэкватны погляд, што выпадак у гісторыі — усяго толькі мера нашага няведання, адно назва таго, што нам не ўдалося зразумець[25]. Несумненна, часам так і ёсць. Нябесныя целы атрымалі назву „планеты“, што значыць „вандроўнікі“, калі лічылася, што яны вандруюць па небе хаатычна, і заканамернасць іхнага руху не разумелася. Назваць нешта няўдачай — выдатны спосаб вызваліцца ад цяжкага і надакучлівага абавязку даследаваць прычыны з'явы; і, калі нехта кажа мне, што гісторыя — ланцуг выпадковасцяў, я падазраю яго ў інтэлектуальнай ляноце і невысокіх інтэлектуальных здольнасцях. Для сур'ёзных гісторыкаў звычайнае сцверджанне, што нешта, уважанае выпадковым да цяперашняга часу, зусім не ёсць такім, але рацыянальна тлумачыцца і выдатна ўпісваецца ў шырэйшы кантэкст падзей. Але і гэтым не вычэрпваецца наша праблема. Выпадак — гэта не проста нешта, што нам не ўдалося зразумець. Вырашэнне праблемы выпадковасці ў гісторыі, я думаю, трэба шукаць у зусім іншым парадку ідэй.

Раней мы бачылі, што гісторыя пачынаецца з адбору і ўпарадкавання фактаў гісторыкамі, якія робяць гэтыя факты гістарычнымі. Не ўсе факты гістарычныя. Але розніца паміж гістарычнымі і негістарычнымі фактамі не абсалютная і не пастаянная; усялякі факт можа, так бы мовіць, дасягнуць статусу гістарычнага, калі вызначаны яго дарэчнасць і значнасць. Цяпер мы бачым, што ў нечым падобны да гэтага і падыход гісторыка да прычынаў. Стаўленне гісторыка да сваіх прычынаў мае таксама дваісты і ўзаемны характар, як і стаўленне гісторыка да ягоных фактаў. Прычыны абумоўліваюць ягоную інтэрпрэтацыю

[24] Trotsky, L., My Life, 1930, 422.

[25] Гэтую пазіцыю заняў Талстой: „Мы вымушаныя зноў скаціцца да фаталізму як тлумачэння ірацыянальных падзей, гэта значыць падзей, рацыянальнасць якіх мы не разумеем“ („Вайна і мір“, кн. IX, разд. I).

гістарычнага працэсу, а яго інтэрпрэтацыя абумоўлівае адбор і ўпарадкаванне прычынаў. Ерархія прычынаў, адносная значнасць той ці іншай прычыны або шэрагу прычынаў, ёсць сутнасцю ягонай інтэрпрэтацыі. І гэта дае ключ да вырашэння праблемы выпадковасці ў гісторыі. Форма носа Клеапатры, прыступ падагры Баязэта, укус малпы, што забіў караля Аляксандра, смерць Леніна — гэта былі выпадковасці, якія змянілі курс гісторыі. Дарэмна замоўчваць іх або рабіць выгляд, быццам яны так ці інакш не мелі наступстваў. З іншага боку, паколькі гэтыя здарэнні былі выпадковымі, яны не ўплываюць ні на якое рацыянальнае тлумачэнне гісторыі або на ерархію значнасці прычынаў. Прафесар Попэр і прафесар Бэрлін — я звяртаюся да іх яшчэ раз як да найбольш яркіх і шырока чытаных прадстаўнікоў гэтай школы — лічаць, што спроба гісторыка знайсці сутнаснае ў гістарычным працэсе і зрабіць з яго высновы роўнацэнная спробе звесці „ўвесь вопыт“ да парадку сіметрыі, і што прысутнасць выпадковасці ў гісторыі асуджае любую такую спробу на няўдачу. Але ніякі нармальны гісторык не прэтэндуе зрабіць што–небудзь такое фантастычнае, як ахапіць „увесь вопыт“; ён не можа ахапіць больш, чым нязначную частку фактаў нават з выбранага сектару ці аспекту гісторыі. Свет гісторыка, як і свет навукоўца, не ёсць фотаздымкам рэальнага свету, а рабочая мадэль, якая дае магчымасць больш–менш эфектыўна зразумець і авалодаць ім. Гісторык здабывае сутнасць з вопыту мінулага, або з такога аб’ёму вопыту мінулага, які даступны для яго, і частка якога, на яго думку, падлягае рацыянальнаму тлумачэнню і інтэрпрэтацыі. З гэтага апошняга ён робіць высновы, якія могуць паслужыць інструкцыяй да дзеяння. Нядаўна адзін папулярны аўтар, гаворачы пра дасягненні навукі, прыводзіць як прыклад працэс чалавечага розуму, які з кучы вядомых „фактаў“ адбірае фрагменты і камбінацыі, адкідаючы непатрэбныя, пакуль яны не складуцца ў лагічную і рацыянальную сістэму „ведаў“[26]. З пэўнымі агаворкамі, напрыклад, пра небяспеку празмернага суб’ектывізму, я б прыняў такую карціну механізму разумовай працы гісторыка.

Гэтая працэдура можа азадачыць і шакаваць філосафаў і нават некаторых гісторыкаў. Але яна дакладна вядомая простым людзям з практыкі іх штодзённага жыцця. Дазвольце праілюстраваць. Джоўнз вяртаўся на машыне з вечарыны, дзе ён выпіў крыху больш звычайнага. Тармазы, як высветлілася, былі няспраўныя. На цёмным павароце, дзе бачнасць, зразумела, кепская, Джоўнз збівае і забівае Робінсана, які пераходзіў дарогу, каб купіць цыгарэты ў краме на рагу. Пасля высвятлення на месцы здарэння, мы сустракаемся — скажам, у мясцовым аддзяленні паліцыі, каб разабрацца з прычынамі таго, што адбылося. Калі справа была ў напаўатручаным стане кіроўцы, у такім выпадку

[26] Paul, L., The Annihilation of Man, 1944, 147.

магчыма крымінальная адказнасць. Калі віной усяму няспраўныя тармазы, — нараканні можна выказваць у адрас гаража, дзе ўсяго тыдзень таму рамантавалі машыну. Ці прычына ў цёмным павароце? У гэтым выпадку можна папрасіць дарожную адміністрацыю звярнуць увагу на інцыдэнт. Пакуль мы абмяркоўваем гэтыя практычныя пытанні, два джэнтэльмэны — не буду спрабаваць назваць іх — урываюцца ў пакой і пачынаюць вельмі хутка і ўпэўнена казаць нам, што калі б Робінсан не выбег за цыгарэтамі ў той вечар, яму не давялося б пераходзіць праз дарогу і ён застаўся б жыць. Такім чынам, прычынай смерці Робінсана было ягонае жаданне папаліць, і што ўсялякае расследаванне без уліку гэтай прычыны — марнаванне часу, а ўсялякія высновы з яго — пустыя і бессэнсоўныя. Дык што нам рабіць? Як толькі нам ўдаецца спыніць краснамоўства джэнтэльмэнаў, мы мякка, але рашуча скіроўваем іх да дзвярэй, перадаем швейцару, папрасіўшы ні пад якім выглядам не прапускаць зноў, і працягваем расследаванне. Але што адказаць тым, што перабілі нас? Канешне, Робінсан загінуў таму, што паліў. Усё, што кажуць прыхільнікі выпадку і выпадковасці ў гісторыі, абсалютна праўдзіва і абсалютна лагічна. Усё гэта мае выгляд бязлітаснай логікі, якую мы сустракаем у „Алісе ў краіне цудаў“ і ў „За люстэркам“. Але, не менш за іншых захапляючыся класічнымі ўзорамі оксфардскай навукі, я ўсё ж захоўваю ўласны спосаб логікі.

Гісторыя, такім чынам, ёсць працэс адбору з пункту гледжання гістарычнай значнасці. Яшчэ раз карыстаючыся выказваннем Талькота Парсана, скажам, што гісторыя — „сістэма адбору“ не толькі пазнавальных, але і прычынных арыенціраў на рэчаіснасць. Гэтаксама, як з неакрэсленага акіяну фактаў гісторык выбірае тыя, якія маюць значнасць для ягонай мэты, так і з множнасці прычынна–выніковых сувязяў ён бярэ тыя і толькі тыя, якія маюць гістарычную значнасць, а ўзровень гістарычнай значнасці вымяраецца ягонай здольнасцю змясціць іх у кантэкст рацыянальнага тлумачэння і інтэрпрэтацыі. Іншыя прычынна–выніковыя сувязі павінны быць адкінуты як выпадковыя не таму, што сувязь паміж прычынай і наступствам іншая, а таму, што сама сувязь не да месца. Гісторык нічога не можа зрабіць з ёй; яна не падлягае рацыянальнай інтэрпрэтацыі і не мае значэння ні для мінулага, ні для сённяшняга. Гэта праўда, што нос Клеапатры, падагра Баязэта, укус Аляксандра малпай, смерць Леніна ці паленне Робінсана мелі наступствы. Але няма сэнсу рабіць агульныя высновы, што генералы прайграюць бітвы праз сваё захапленне прыгожымі каралевамі, войны пачынаюцца праз тое, што каралі трымаюць малпаў, што людзі гінуць на дарогах таму, што паляць. Калі, з іншага боку, вы скажаце простаму чалавеку, што Робінсан загінуў таму, што кіроўца аўтамабіля быў п’яны, ці не спрацавалі тарма-

зы, ці на дарозе было цёмна, ён прыме гэта за цалкам разумнае і рацыянальнае тлумачэнне; калі ён захоча адабраць галоўнае, то можа нават сказаць, што менавіта гэта, а не жаданне Робінсана набыць цыгарэты, было „сапраўднай“ прычынай ягонай смерці. Падобным чынам, калі вы скажаце студэнту гісторыі, што прычынай барацьбы ў Савецкім Саюзе ў 1920–я гады былі дыскусіі пра тэмпы індустрыялізацыі, лепшыя сродкі прымусіць сялян вырошчваць хлеб і карміць гарады, нават асабістыя амбіцыі лідэраў–супернікаў, ён адчуе, што гэта рацыянальныя і гістарычна значныя тлумачэнні, у сэнсе , што іх можна прымяніць да іншых гістарычных сітуацыяў, і што гэта „сапраўдныя“ прычыны таго, што адбылося ў тым сэнсе, у якім не можа выступаць выпадак заўчаснай смерці Леніна. Яму можна нават, калі ён памяркуе над гэтымі рэчамі, нагадаць пра шматкроць цытаванае і шматкроць няправільна зразуметае выказванне Гегеля ва ўступе да „Philosophy of Right“ („Філасофіі права“): „што разумнае, тое рэальнае, і што рэальнае, тое разумнае“.

Давайце на хвілінку вернемся да прычынаў смерці Робінсана. Мы без цяжкасцяў прызнаем, што некаторыя прычыны былі рацыянальныя і „рэальныя“, а іншыя былі ірацыянальныя і выпадковыя. Але па якім крытэрыі мы адрозніваем? Да катэгорыі прычыны звычайна звяртаюцца з нейкай мэтай. Вучоныя  могуць часам паразважаць, або думаць, што разважаюць, дзеля пацехі. Але ўвогуле чалавек разважае да выніку. І калі мы прызналі нейкія тлумачэнні рацыянальнымі, а іншыя тлумачэнні нерацыянальнымі, мы, мяркую, падзяляем тлумачэнні на тыя, што прыводзяць да якога–небудзь выніку, і на тлумачэнні, якія не прыводзяць да яго. У разгляданым выпадку быў сэнс думаць, што больш строгае стаўленне да нецвярозых кіроўцаў, больш пільны кантроль за станам тармазоў, паляпшэнне стану дарог можа прывесці да змяншэння колькасці транспартных здарэнняў. Але зусім няма падстаў лічыць, што колькасць аўтакатастрофаў можна зменшыць забаронаю паліць цыгарэты. Гэта і быў крытэрый, па якім мы ажыццявілі падзел. Тое ж з нашым стаўленнем да прычын у гісторыі. Тут мы гэтаксама вылучаем рацыянальныя і выпадковыя прычыны. Першыя, паколькі іх патэнцыяльна можна прымяніць да іншых краін, іншых перыядаў і іншых умоў, вядуць да плённых абагульненняў, яны могуць стаць урокамі; яны прыводзяць у выніку да пашырэння і паглыблення нашага разумення[27]. Выпадковыя пры-

[27] Прафесар Попэр у нейкі момант сутыкаецца з гэтай праблемай, але ніяк не бачыць яе. Прыняўшы „множнасць інтэрпрэтацый, якія па сутнасці на тым самым узроўні і дапушчальнасці, і ўмоўнасці“ (і што яны дакладна тое і азначаюць), ён дадае ў дужках, што „некаторыя з іх можна адрозніць па эфектыўнасці — аднаму з момантаў некаторай значнасці“ (The Poverty of Historicism, 151). Гэта не адзін з момантаў некаторай значнасці: гэта той мо-

чыны нельга абагуліць; і, паколькі яны ў поўным сэнсе слова унікальныя, яны не даюць урокаў і не прыводзяць ні да якіх высноў. Але тут я мушу закрануць іншы момант. Дакладна такое разуменне выніку дае ключ нашай трактоўцы прычыннасці ў гісторыі; і яно абавязкова ўлучае меркаванні пра каштоўнасці. Інтэрпрэтацыя ў гісторыі заўсёды пераплятаецца з ацэначнымі меркаваннямі, а прычыннасць пераплятаецца з інтэрпрэтацыяй. Па словах Майнэке — вялікага Майнэке, Майнэке 1920–х гадоў, „пошук прычыннасці ў гісторыі немагчымы без уліку каштоўнасцяў... за пошукам прычыннасці заўсёды стаіць, непасрэдна або ўскосна, пошук каштоўнасцяў“[28]. Гэта нагадвае тое, што я казаў раней пра падвойную і ўзаемную функцыю гісторыі — развіваць нашае разуменне мінулага ў святле сённяшняга і сённяшняга ў святле мінулага. Усё астатняе, накшталт захаплення Антонія носам Клеапатры, не можа служыць гэтай падвойнай мэце, і з пункту гледжання гісторыка яно мёртвае і бессэнсоўнае.

Тут мне час прызнацца, што я разыграў вас, хоць, паколькі гэта вам не замінала, а мне дало магчымасць у шэрагу выпадкаў скараціць і спрасціць тое, пра што казаў, вы напэўна даруеце мне, прыняўшы гэта за зручны спосаб быць сціслым. Да гэтай пары я паслядоўна ўжываў умоўны выраз „мінулае і сённяшняе“. Але, як мы ўсе ведаем, сённяшняе ёсць нішто іншае, як абстрактнае існаванне ўяўнай лініі падзелу паміж мінулым і будучым. Гаворачы пра сённяшняе, я моўчкі ўносіў у аргументацыю іншае часавае вымярэнне. Мяркую, было б лёгка паказаць, што, паколькі мінулае і будучае ёсць часткамі аднаго і таго ж часавага перыяду, цікаўнасць да мінулага і цікаўнасць да будучага ўзаемазвязаныя. Лінія падзелу паміж дагістарычнымі і гістарычнымі часамі руйнуецца, калі людзі перастаюць жыць толькі ў цяперашнім, калі ў іх з'яўляецца свядомы інтарэс і да свайго мінулага, і да сваёй будучыні. Гісторыя пачынаецца з трансляцыі традыцыі. А традыцыя азначае перанос звычак і ўрокаў мінулага ў будучыню. Дакументы мінулага зберагаюць дзеля будучых пакаленняў. „Гістарычнае мысленне“, — піша галандскі вучоны Гейзінга, — „заўсёды тэлеалагічнае“[29]. Сэр Чарльз Сноў напісаў нядаўна пра Разэрфорда (Rutherford), што той „як усе вучоныя ... заўсёды, амаль не думаючы, што гэта значыць, насіў будучыню ў сваіх касцях“[30]. Па–мойму, добрыя гісторыкі, незалежна ад таго, думаюць яны пра гэта ці не, носяць будучыню ў сваіх касцях.

*З ангельскай пераклала Ірэна Ганецкая*

мант, які даказвае, што „гістарыцызм“ (ў пэўных значэннях гэтага слова) усё ж не такі ўбогі.

[28] Kausalitäten und Werte in der Geschichte, 1928, перакл. у: F.Stern (Ed.), Varieties of History, 1957, 268, 273.

[29] Huizinga, J., перакл. у: Varieties of History, 293.

[30] The Baldwin Age, Ed. John Raymond, 1960, 246.

# Пра мікрагісторыю*

## Джавані Леві

*Бясконцае сумненне — ужо нават не сумненне.*
Л.Вітгенштайн, 1969.

Спрэчкі вакол мікрагісторыі не маюць у сваёй аснове тэарэтычных тэкстаў і праграм. І гэта невыпадкова. Мікрагісторыя з'яўляецца пасутнасці гістарыяграфічнай практыкай, паколькі яе тэарэтычныя вытокі надзвычай разнародныя і, у пэўным сэнсе, эклектычныя. Дадзены метад у першую чаргу і па большай частцы мае справу з рэальнымі канкрэтнымі прыёмамі, з якіх складаецца праца гісторыка, а таму мікрагісторыю нельга вызначыць праз мікрапараметры аб'екта яе даследавання. У такім разе натуральным будзе здзіўленне чытача ступенню тэарэтычнай прыроды прадстаўленага артыкула. Сапраўды, многія гісторыкі, з'яўляючыся прыхільнікамі мікрагісторыі, апынуліся ў вадавароце пастаяннага ўзаемаабмену з іншымі грамадскімі навукамі і ўсталяванымі гістарыяграфічнымі тэорыямі. Яны, аднак, не адчуваюць ніякай патрэбы ў выпрацоўцы якой–небудзь уласнай паслядоўнай сістэмы паняццяў і прынцыпаў. Мікрагісторыя, як і кожная эксперыментатарская праца, не мае ў сваім арсенале непарушнай артадаксальнасці. Бясконцая разнастайнасць прадукту яе творчасці з усёй відавочнасцю дэманструе, наколькі абмежаванае кола агульных элементаў, якія аб'ядноўваюць розныя даследаванні ў гэтай галіне. Аднак, на мой погляд, малалікасць агульных элементаў у мікрагісторыі мае вырашальнае значэнне, і менавіта пра гэта я паспрабую тут паразважаць.

Няма нічога незвычайнага ў тым, што мікрагісторыя паўстала з шырокай палітычнай і культурнай палемікі менавіта ў 1970–я г. 1970–я і 1980–я былі гадамі амаль суцэльнага крызісу панавальнай тады аптымістычнай веры ў хуткую і радыкальную трансфармацыю свету рэвалюцыйным шляхам. Стала відавочным, што многія спадзяванні і міфы, якія ў папярэдні перыяд стымулявалі большую частку культурнай палемікі, уключаючы абшары каралеўства гістарыяграфіі, былі не столькі памылковымі, колькі неадэкватнымі перад наступствамі палітычных падзей і сацыяльных рэаліяў, якія немагчыма было спрагназаваць — падзей і рэаліяў, якія далёка не адпавядалі аптымістычным мадэлям, прапанаваным вялікімі марксісцкімі ці функцыяналісцкімі сістэмамі.

*Levi, Giovanni. On Microhistory // Burke P. (Ed.) New Perspectives on Historical Writing. Cambridge, 1992. P.93—113.

Мы яшчэ і цяпер не пераадолелі пачатковых драматычных фазаў гэтага працэсу. Гісторыкі былі вымушаны ставіць новыя пытанні наконт уласнай метадалогіі і інтэрпрэтацыі. Перадусім, была падарвана вера ў аўтаматызм пераменаў: калі казаць больш канкрэтна, пад сумненне была пастаўлена сама ідэя паступальнага прагрэсу, а не аднародныя і прадказальныя стадыі, у якіх, як лічылася, сацыяльныя фактары ўзаемадзейнічаюць у адпаведна іх сумяшчальнасці і канфліктнасці, у нейкім сэнсе зададзеных, натуральных, непазбежных.

На паняційны апарат, пры дапамозе якога грамадазнаўцы самых розных перакананняў інтэрпрэтуюць бягучыя ці мінулыя змены, ціснуў груз спадчыны пазітывізму. Рабілася відавочным, што прагнозы сацыяльных паводзінаў былі яўна памылковымі, і гэтая параза існуючых сістэм і парадыгмаў патрабавала не столькі пабудовы новай агульнай сацыяльнай тэорыі, колькі поўнага перагляду наяўных інструментаў даследавання. Падобнае ўспрыманне крызісу было настолькі агульным, што выйсце з сітуацыі, здавалася б, відавочнае. Тым не менш, крызіс выклікаў цэлы шэраг рэакцый. Сама мікрагісторыя з яе засяроджанасцю на новым вызначэнні старых паняццяў і дэталёвым аналізе тагачасных інструментаў і метадаў даследавання ёсць таксама нічым іншым, як адным з магчымых адказаў. У той жа час былі прапанаваны і іншыя, у цэлым больш радыкальныя рашэнні, якія часта вялі да скрайняга рэлятывізму, неа–ідэалізму ці нават вярталіся да філасофіі, наскрозь прасякнутай ірацыяналізмам.

Гісторыкі, што звязалі сваю дзейнасць з мікрагісторыяй[1], як правіла, выйшлі з марксізму, маюць левую палітычную арыентацыю і прытрымліваюцца радыкальнага секулярызму з невялікім ухілам да метафізікі. Як бы па–рознаму ні выяўляліся гэтыя рысы, яны, думаю, служылі ім своеасаблівым якарам, які дапамагаў цвёрда трымацца пастулату, што гістарычнае даследаванне не ёсць чыста рытарычнай і эстэтычнай дзейнасцю.

У сваёй працы гэтыя гісторыкі заўжды канцэнтраваліся на пошуку больш рэалістычнай характарыстыкі паводзінаў чалавека праз выкарыстанне мадэлі дзеяння і канфлікту, якая прызнае ягоную — адносную — свабоду па–за рамкамі абмежаванняў, прадпісанняў і ціску нарматыўных сістэм, хоць і не ігнаруе іх. Такім чынам, уся грамадская дзейнасць разглядаецца як вынік перманентных узгадненняў, маніпуляцый, выбару і рашэнняў індывіда ва ўмовах нарматыўнай рэчаіснасці, якая, хоць і ўсеабдымная, тым не менш прапануе шматлікія магчымасці для асабістай інтэрпрэтацыі і свабоды. Пытанне ў тым, як вызначыць рамкі (якімі б вузкімі яны ні былі) свабоды, што атрымлівае індывід, дзякуючы прабелам і супярэчнасцям у нарматыўных сістэмах, якім ён падпа-

[1] Маюцца на ўвазе ў асноўным дзве публікацыі: серыя Microstory, якая друкавалася Эйнодзі ў Турыне з 1981 г. і, часткова, агляд Quaderni Storici, выдадзены ў Балонні.

радкоўваецца. Інакш кажучы, аб’ектам вывучэння з’яўляецца прырода і ступень свабоднай волі асобы ў межах агульнай структуры грамадства. У даследаванні такога тыпу гісторык не проста мае справу з інтэрпрэтацыяй значэнняў, а сутыкаецца з праблемай вызначэння няпэўнага сімвалічнага свету, множнасці магчымых інтэрпрэтацыяў яго і той барацьбы, якая адбываецца як у сімвалічных, так і ў матэрыяльных сферах.

Мікрагісторыя, такім чынам, займае вельмі спецыфічнае становішча ў так званай новай гісторыі. Пытанне было не проста ў выпраўленні тых аспектаў акадэмічнай гістарыяграфіі, якія больш не маглі працаваць. Важней было абвергнуць рэлятывізм, ірацыяналізм і спробы звесці працу гісторыка да чыста рытарычнай дзейнасці па інтэрпрэтацыі тэкстаў, а не саміх падзей.

«Бясконцае сумненне — ужо нават не сумненне», казаў Вітгенштайн[2]. Праблема ляжыць у пошуку шляху і ў прызнанні абмежаванасці ведаў і розуму з адначасовым стварэннем гістарыяграфіі, здольнай упарадкаваць і патлумачыць свет мінулага. Такім чынам, галоўным з’яўляецца не канфлікт паміж новай і традыцыйнай гісторыяй, а канфлікт у самім паняцці гісторыі, зразуметай як практыка інтэрпрэтацыі[3].

Мікрагісторыя як практыка, па–сутнасці, палягае на змяншэнні маштабу назірання, на мікраскапічным аналізе і інтэнсіўным вывучэнні дакументальнага матэрыялу. Такое вызначэнне таксама спрыяе ўзнікненню магчымых двухсэнсоўнасцяў. Справа не проста ў звароце да прычын і наступстваў таго факта, што большыя і меншыя параметры суіснуюць у кожнай сацыяльнай сістэме, інакш кажучы, у праблеме апісання велізарных складаных сацыяльных структур з улікам маштабу сацыяльнай прасторы кожнага індывіда, а значыць людзей і іх жыццёвых умоваў. Такім чынам, само паняцце маштабу як фактару, уласцівага ўсім сацыяльным сістэмам, і як важнай характарыстыкі кантэкстаў грамадскага ўзаемадзеяння, у тым ліку розных колькасных і прасторавых параметраў, не з’яўляецца аб’ектам канцэптуалізацыі. Праблема шмат абмяркоўвалася антраполагамі, якія сфармулявалі паняцце маштабу вось у такім аспекце: маштаб — гэта аб’ект даследавання, які слу-

[2] Wittgenstein L. On Certainty. Oxford, 1969, § 625.

[3] Тут я не згодны з пазіцыяй Джоан Скот («History in Crisis? The Others’ Side of Story» у: American Historical Review 94 (1989), 680—92), якая лічыць усе авангардныя гістарычныя працы пазітыўнымі. Яе артыкул завяршаецца заклікам да абнаўлення без аніякіх акрэсленых перспектыў: «Калі шматлікія разнастайныя гісторыі пра мінулае, заснаваныя на рознай гістарычнай практыцы, сапраўды несумяшчальныя, ці існуе ўвогуле магчымасць паслядоўна і сістэматычна асэнсоўваць мінулае?... На гэтыя пытанні можна адказаць, але толькі тады, калі мы пагодзімся, што сама гісторыя — дысцыпліна, якая мяняецца» (с. 691—92). Але ж які адказ тут па–за рамкамі «творчага даследавання»?

жыць для вымярэння ў сферы адносінаў. Напрыклад, Фрэдрык Барт, які арганізаваў грунтоўны семінар па дадзенай тэме, лічыў, што гэтая праблема ёсць праблемай нашай «здольнасці апісваць розныя камбінацыі маштабу ў розных эмпірычных сацыяльных арганізацыях, вымяраць іх ролю ў розных сферах жыцця, якія яны фармуюць»[4]. Для мікрагісторыі змяншэнне маштабу — працэдура аналітычная, якую можна прымяніць дзе заўгодна і незалежна ад параметраў аб'екта даследавання.

Хацелася б крыху спыніцца на гэтай праблеме і разгледзець яе падрабязней. Справа ў тым, што погляд на маштаб як на аб'ект даследавання ёсць крыніцай непаразумення для многіх людзей у дыскусіях вакол мікрагісторыі. Часта думаюць, напрыклад, што лакальныя супольнасці можна вывучаць адэкватна, прымаючы іх за аб'екты маламаштабных сістэм, а для выяўлення сувязяў паміж супольнасцямі ў рамках рэгіёна, паміж рэгіёнамі ў межах краіны і г.д. трэба выкарыстоўваць большыя маштабы. На самай справе, канешне, адразу высвятляецца, што нават ідавочна прыватны ўчынак (скажам, нехта пайшоў купіць бохан хлеба) фактычна закранае нашмат шырэйшую сістэму (у нашым выпадку — увесь сусветны зерневы рынак). І толькі істотнае скажэнне перспектывы прыводзіць да высновы, што гандаль адной вёскі не ўяўляе інтарэсу па–за межамі значнасці лакальнага маштабу. Прыклад такога кшталту перспектывы можна назіраць у забаўнай выкрывальнай прамове Франка Вэнтуры, скіраванай супраць даследаванняў супольнасцяў і асабліва супраць мікрагісторыі[5]:

> Вывучэнне хронікаў асобнай вёскі, як гэта занадта часта робіцца сёння, — занятак, абсалютна пазбаўлены сэнсу. Абавязкам гісторыка ёсць вывучаць паходжанне тых ідэй, якія фармуюць наша жыццё, а не пісаць раманы. Прывяду толькі адзін прыклад: сёння шмат гавораць пра неабходнасць вяртання да рынку. Хто вынайшаў рынак? Людзі XVIII стагоддзя. А каго гэта хвалявала ў Італіі? Мысляроў Асветніцтва Джэнавэзі і Вэры. Важна катэгарычна паставіць у цэнтры нашых даследаванняў пошук вытокаў таго, што ўтварае сучаснае жыццё.

Можна адказаць на гэта, змяніўшы крыху цытату з Гірца: «Гісторыкі вывучаюць не вёскі, яны вывучаюць у вёсках»[6].

Натуральна, апісанне адрозных, хоць і кангруэнтных камбінацый маштабаў у грамадскіх з'явах важнае толькі як сродак прыпісаць унутраныя параметры аб'екту даследавання. Аднак само сабой зразумела,

[4] Barth F. (ed.). Scale and Social Organization. Oslo–Bergen–Tromso, 1978, 273.

[5] Venturi F. Lumi di Venezia // La Stampa. Turin, 27 January 1990.

[6] Поўны тэксты гучыць так: «Антраполагі вывучаюць не вёскі (плямёны, гарады, суседзяў...); яны вывучаюць у вёсках». Гл.: Geertz C. The Interpretation of Cultures. New York, 1973, 22.

нават банальна канстатаваць, што канкрэтныя параметры аб'екта даследавання неабавязкова адлюстроўваюць маштаб, уласцівы пастаўленай праблеме. Думку, што маштаб існуе ў рэальнасці самастойна, падзяляюць нават тыя, хто лічыць, што мікрааналіз працуе чыста па прыкладзе, г.зн. як спрошчаны аналітычны працэс — адбор канкрэтнай кропкі рэальнага жыцця, з якой бяруць прыклады агульных паняццяў, а не адпраўной кропкі для шырэйшага руху да абагульнення. Якія параметры сацыяльных светаў, утвораных рознымі катэгорыямі людзей і рознымі структураванымі сферамі грамадскіх адносінаў, адлюстроўваюць дакладную прыроду рэальнага маштабу? У гэтым сэнсе сегментацыя складаных грамадстваў адбываецца без дапамогі апрыёрных дапушчэнняў і межаў, але гэтым шляхам можна збудаваць абагульненне больш метафарычнае, чым доказнае, абагульненне, заснаванае проста на аналогіі. Інакш кажучы, мне здаецца, што ў мэтах эксперыменту праблему маштабу нам трэба абмяркоўваць не толькі як праблему маштабу даследаванай рэальнасці, але таксама пераменнага маштабу даследавання. Натуральна і справядліва, што недзялімасць асобных індывідаў у дачыненні да правілаў буйнамаштабных сістэм павінна паставіць праблему маштабу ў цэнтр дыскусіі. Тут у адрозненне ад звышпростага функцыяналізму важна падкрэсліць ролю грамадскіх супярэчнасцяў як генератара сацыяльных перамен; іншымі словамі, падкрэсліць тлумачальную каштоўнасць адрозненняў паміж перашкодамі, якія паўстаюць з розных нарматыўных сістэм (скажам, дзяржаўных і сямейных нормамі) і факту, што, у дадатак, любы індывід валодае цэлым спектрам разнастайных адносінаў, якія вызначаюць яго рэакцыі і выбар нарматыўнай сістэмы.

Хоць маштаб як уласцівая характарыстыка рэчаіснасці з'яўляецца ў палеміцы па мікрагісторыі несумненна не вонкавым, а хутчэй тангенцыяльным[7] элементам, рэальная праблема ляжыць усё ж у рашэнні зменшыць маштаб назіранняў дзеля эксперыменту. Уніфікаваны прынцып усіх мікрагістарычных даследаванняў — спадзяванне, што мікраскапічнае даследаванне выявіць фактары, якія раней не назіраліся. Вось некалькі прыкладаў такой інтэнсіўнай працэдуры: рэінтэрпрэтацыя судовага працэсу супраць Галілея як абароны арыстоцелеўскага разумення быцця і эўхарыстыі супраць атамізму, у кантэксце якога сталася б немагчымым ператварэнне віна і хлеба ў кроў і цела[8]; вывучэнне культурнага свету П'ера дэля Франчэска на падставе толькі адной карціны і высвятленні, кім з'яўляюцца яе персанажы[9];

7 Levi G. Un problema di scala // Dieci interventi di Storia Sociale. Turin, 1981, 75—81.

8 Redondi P. Galileo eretico. Turin, 1983. Пераклад Рэйманда Разенталя быў надрукаваны ў Лондане ў 1988 г. пад назвай «Galileo Heretic».

9 Ginzburg C. Indagini su Piero: Il battesimo, Il ciclo di Arezzo, flagellazione di Urbino. Turin, 1981. Пераклад Марціна Райла і Кэйта Соўпера выйшаў у Лон-

даследаванне менталітэту сялян XVII ст. праз раскрыццё матрыманіяльных стратэгій у малых вёсках рэгіёна Кома[10]; характарыстыка агульнай праблемы інавацыі, яе рытмаў і наступстваў на аснове аналізу працэса ўвядзення механічнага ткацкага станка ў асобнай тэкстыльнай вёсцы[11]; спроба зразумець грамадскія законы гандлёвага абмену пры працы на рынку, да гэтага часу дэперсаніфікаванага, абмежаваўшыся выключна вывучэннем пераходу зямлі з рук у рукі ў межах адной вёскі[12].

Спынімся на апошнім прыкладзе. Вялікія спрэчкі разгарнуліся вакол праблемы камерцыялізацыі зямлі. Шырока распаўсюдзілася думка, што ранняе развіццё і частата пераходу зямлі з рук у рукі ў шмат якіх заходнееўрапейскіх краінах і каланіяльнай Амерыцы ёсць прыкметай ранняй прысутнасці капіталізму і індывідуалізму. Два элементы перашкаджаюць больш адэкватна ацаніць гэтую з’яву. Па–першае, многія інтэрпрэтацыі засноўваліся на сукупнасці дадзеных, што рабіла немагчымым даследаваць канкрэтныя факты саміх пераходаў. Па–другое, гісторыкі дэзарыентаваныя сваёй уласнай сучаснай камерцыялізаванай ментальнасцю, якая прывяла іх да інтэрпрэтацыі вялікай колькасці актаў продажу зямлі за грошы як сведчання існавання самарэгуляцыі рынка, па аналогіі з сучаснымі натарыяльнымі справамі. Цікава, ніхто не заўважыў ці не надаў значэння факту, што кошты былі надзвычай розныя, нават з улікам рознай якасці зямлі. У выніку, кошты на зямлю і агульны рынак звычайна суадносіліся з бясспрэчным дапушчэннем, што сілы рынка былі неперсаніфікаваныя. Толькі змяншэнне маштабу назірання да вельмі лакальнага рэгіёна дало магчымасць убачыць, што кошт зямлі мяняўся адпаведна ступені роднасці бакоў, якія заключалі кантракт, прычым розныя кошты прызначаліся на ўчасткі зямлі, аднолькавыя па памерах і якасці. Гэтак удалося паказаць, што рынак складаны, бо ва ўсталяванні ўзроўню коштаў важную ролю адыгрывалі і грамадскія і асабістыя адносіны, а таксама вызначыць расклад і формы пераходу зямлі ў новыя рукі. Дадзены прыклад, па–мойму, надзвычай паказальны ў сэнсе шляху, якім ідзе мікрагісторыя ўвогуле. З’явы, якія раней лічылася важным апісваць і разумець, пры змяненні маштабу назіран-

дане ў 1985 г. пад назвай «The Enigma of Piero: Piero della Francesca: The Baptism, The Arezzo Cycle, The Flagellation».

[10] Merzario R. Il paese stretto: strategie matrimoniali nella diocesi di Como secoli XVI—XVIII. Turin, 1981.

[11] Ramella F. Terra e telai: sistemi di parentela e manifattura nel Biellese dell’Ottocento. Turin, 1984.

[12] Levi G. L’eredita immateriale: carriera di un esorcista nel Piemonte del Seicento. Turin, 1985, у перакладзе Лінды Кохрэйн: Inheriting Power: the Story of an Exorcist. Chicago—London, 1988.

ня набываюць цалкам новыя значэнні. Гэтым метадам можна карыстацца, каб рабіць нашмат шырэйшыя абагульненні, нягледзячы на тое, што першапачатковыя назіранні зроблены ў адносна вузкіх рамках і ў эксперыментальным парадку і іх нельга разглядаць як узорныя.

Апроч таго, што карані мікрагісторыі знаходзяцца ў коле гістарычных даследаванняў, многія яе характарыстыкі дэманструюць цесныя сувязі, якія звязваюць гісторыю з антрапалогіяй — асабліва тое «насычанае апісанне» («thick description»), якое Гірц лічыць плённай перспектывай у антрапалагічнай працы[13]. Замест таго, каб пачынаць з серыі назіранняў і паспрабаваць прымяніць якую–небудзь больш–менш унармаваную тэорыю, гэтая перспектыва пачынае з падбору істотных прыкметаў і спрабуе інтэграваць іх у якую–небудзь ужо вядомую структуру. Насычанае апісанне, такім чынам, служыць для фіксацыі ў пісьмовай форме серыі значных падзей ці фактаў, якія ў іншым выпадку проста зніклі б, але якія можна было б інтэрпрэтаваць змясціўшы ў кантэкст, інакш кажучы, у плынь сацыяльнага дыскурса. Дадзены падыход у выкарыстанні мікраскапічнага даследавання найбольш хуткаплынных падзей мае поспех як сродак дасягнення вынікаў далёкай перспектывы.

Гэты прыём, паводле Гірца, пераймае этнолаг, чые мэты адначасова і надзвычай амбіцыйныя, і вельмі сціплыя. Амбіцыйныя ў тым сэнсе, што правамоцнасць этнолага інтэрпрэтаваць матэрыял практычна неабмежаваная, і асноўным элементам этнаграфічнага даследавання з’яўляецца пераважна інтэрпрэтацыя. Антрапалагічныя працы адлюстроўваюць работу ўяўлення, і ўмельства аўтара тут вымяраецца здольнасцю наладзіць кантакт паміж намі і жыццём іншаземцаў і зафіксаваць падзеі ці грамадскі дыскурс такім чынам, каб мы маглі яго вывучаць. Улада інтэрпрэтатара пры гэтым не паддаецца вызначэнню і вымярэнню, што адкрывае магчымасці фальсіфікацыі[14]. Непазбежна ўводзяцца элементы, якія цяжка ацаніць рацыянальна, пачынаючы ад свайго роду халоднага спачування і да літаратурнага майстэрства пераконваць.

Калі тэорыі адводзіцца сціплае месца, небяспека рэлятывізму ўзрастае, а не мінімізуецца. Для Гірца шукаць законы і агульныя паняцці — занятак, пазбаўлены сэнсу, паколькі культура ўтворана сеткай сімвалаў і вывучэнне іх з’яўляецца не эксперыментальнай навукай, што навобмацак рухаецца ў напрамку да універсальных законаў, а навукай інтэрпрэтатыўнай, якая займаецца пошукам значэння. У чым, у такім разе, роля тэорыі? Паводле Гірца, інтэрпрэтатыўны падыход не павінны дакладна паўтараць тэарэтычныя фармулёўкі. Аднак, зноў цвердзіць да-

[13] Geertz C. Thick Description: Toward an Interpretive Theory of Culture // Interpretation of Cultures, 3—31.

[14] Clifford J. On Ethnographic Authority //Representations I (1983), 122—39.

следчык, «тэрміны, у якіх можна ўвасобіць фармулёўкі, калі не цалкам прыдуманыя, то вельмі блізка да таго... Культурная інтэрпрэтацыя валодае шэрагам характарыстык, якія стрымліваюць яе тэарэтычнае развіццё больш, чым калі» (Geertz, Thick description..., c. 24). Найперш «неабходнасць тэорыі» абгрунтоўваецца патрэбай «трымацца бліжэй да зямлі, а не ператварацца ў матэрыял для навук, больш здольных паддацца ўяўленчай абстракцыі» (с. 24). «Тэарэтычныя фармулёўкі так нізка навісаюць над інтэрпрэтацыямі, якімі яны кіруюць, што асобна ад іх не маюць вялікага сэнсу і не ўяўляюць асаблівага інтарэсу» (с. 25). Такім чынам, тэорыі валодаюць легітымнасцю, але з іх мала карысці, «таму што асноўная задача тэарэтычнай канструкцыі — не кадыфікаваць абстрактныя сістэмы, а даваць максімальна насычанае апісанне, рабіць абагульненні не паміж супярэчлівымі падзеямі і з'явамі, а ўнутры іх» (с. 26). Атрымліваецца нешта падобнае да клінічнага заключэння: пытанне не ў дапасаванасці мінулых падзей да існуючага закона, а ў тым, каб пачынаць працу ад істотных сімвалаў (у выпадку этналогіі гэта сімвалічныя акты), арганізаваных «у нейкіх акрэсленых рамках», што адкрывае магчымасці для даследавання сацыяльнага дыскурсу, каб «адшукаць неяўны сэнс рэчаў». Пытанне, значыць, не ў дасканаленні тэарэтычных інструментаў, здольных абагульняць прадбачанні, а ў арганізацыі тэарэтычнай структуры, «здольнай і далей атрымліваць плён на ніве зручных для абароны інтэрпрэтацый па меры таго, як у сферу нашай увагі трапляюць новыя сацыяльныя з'явы... Тэарэтычныя ідэі ў кожнай навуковай працы не ствараліся цалкам нанова...; яны пераймаліся з іншых даследаванняў, удасканальваліся і прымяняліся ў дачыненні да новых праблем інтэрпрэтацыі» (с. 26—7). «Перад намі паўстае дзве задачы — раскрыць паняційныя структуры, якія стымулююць дзеянні нашага суб'екта, зыходзячы з «вышэй згаданага» сацыяльнага дыскурсу, і збудаваць сістэму аналіза, у кантэксце якой тое, што ёсць агульнае ў гэтых структурах, што належыць ім таму, што яны такія, якія ёсць, будзе вылучацца сярод іншых вызначальных фактараў паводзінаў чалавека. У этнаграфіі тэорыя павінна даць тэрміны, праз якія можа быць выяўлена ўсё тое сімвалічнае дзеянне, якое павінна гаварыць само пра сябе (гэта значыць, пра ролю культуры ў жыцці чалавека)». Такім чынам, тэорыя — гэта сукупнасць вельмі агульных, акадэмічна створаных паняццяў і сістэм паняццяў..., уплеценых у этнаграфію насычанага апісання са спадзевам паказаць простыя, навукова выразныя падзеі» (с. 28). Паняцці таму ўяўляюць сабой халодныя інструменты, запазычаныя з арсеналу акадэмічнай навукі: яны карысныя ў інтэрпрэтацыі і толькі ў гэтай функцыі набываюць канкрэтную рэальнасць і спецыфіку. Тэорыі не нараджаюцца з інтэрпрэтацыі. Тэорыя можа адыграць

толькі невялікую ролю падручнага сродку ў параўнанні з нашмат большай роляй інтэпрэтатара. Сістэмы агульных паняццяў, уласцівых акадэмічнай мове, уключаны ў жывое цела насычанага апісання з імкненнем даць навуковае выяўленне простым падзеям, а не для таго, каб ствараць новыя паняцці і абстрактныя тэарэтычныя сістэмы. Каштоўнасць агульнай тэорыі, значыць, палягае выключна ў тым, што яна з'яўляецца часткай канструкцыі здольнага да пашырэння аб'ёму насычана апісанага матэрыялу, даступна прадстаўленага праз кантэкстуалізацыю, якая служыць для пашырэння сусвету чалавечага дыскурсу.

Мне здаецца, што інтэрпрэтатыўная антрапалогія і мікрагісторыя маюць столькі ж агульнага між сабой, як і гісторыя з антрапалогіяй. Тым не менш, хачу падкрэсліць тут дзве важныя розніцы. Адна паўстае з традыцыйна характэрнай для антрапалогіі прывязанасці выключна да малых маштабаў даследавання. Другая вынікае з таго, што я паспрабую патлумачыць ніжэй і магу вызначыць як свайго роду самаабмежаванне, прысутнае ў разважанні Гірца. Гэтыя дзве розніцы тычацца практычнай рацыянальнасці чалавека і кампетэнцыі абагульнення ў грамадскіх навуках.

Давайце спачатку разгледзім іншы шлях, якім трактуецца рацыянальнасць. Паколькі інтэрпрэтатыўная антрапалогія адмаўляе магчымасць канкрэтнага аналізу кагнітыўных працэсаў, яна прымае рацыянальнасць за дадзенасць, за нешта, што немагчыма апісаць па–за рамкамі дзейнасці, паводзінаў чалавека, разгляданых як шматзначнае, сімвалічнае дзеянне, ці па–за рамкамі інтэрпрэтацыі. Да гэтага моманту можна пагаджацца. Аднак, з гэтых развагаў Гірц робіць максімалісцкія высновы. Адзінае, што можна зрабіць — спачатку паспрабаваць ухапіць і потым пры дапамозе насычанага апісання высветліць верагодныя значэнні дзеянняў. Прыхільнікі гэткага падыходу не лічаць неабходным ставіць пытанне абмежаванняў, магчымасцяў і вымяральнасці самой рацыянальнасці. Любыя такія абмежаванні лічаць хутчэй усталяванымі бясконцай гульнёй інтэрпрэтацый, якія мяняюцца ад ідэалізму да рэлятывізму, і іх па–сутнасці немагчыма вызначыць, замест таго, каб ацаніць іх адносна стандарту нейкага пэўнага паняцця рацыянальнасці чалавека.

Можна пайсці далей і канстатаваць, што канцэпцыя Гірца раскрываецца пэўнымі пазіцыямі, якія ён вывеў з Гайдэгера[15], асабліва адмаўленнем магчымасці татальнага пазнання і спробай сканструяваць герменеўтыку слыхавога ўспрыняцця, г.зн. успрымання паэтычнай мовы — мовы, якая спрабуе вынайсці новыя значэнні[16]. Фактычна, паводле

[15] Heidegger M. Holzwege. Frankfurt, 1950, у перакладзе на італьянскую: Sentieri interotti. Florence, 1968.
[16] Vattimo G. Introduzione a Heidegger. Bari, 1985.

Гірца, чалавек не можа фармуляваць ментальныя сістэмы, не звяртаючыся да таго, што абумоўлена грамадствам, да сімвалічных мадэляў эмоцыі, бо гэтыя мадэлі з'яўляюцца важнымі элементамі, абапіраючыся на якія, індывід пазнае свет. Больш за тое, гэтыя сімвалічныя мадэлі не заўсёды прысутнічаюць у размове чалавека, паколькі маўленне звычайна зводзіць абагульненне да простых сродкаў камунікацыі. Гірц, як і Гайдэгер, знаходзіць гэтыя сімвалічныя мадэлі ў квінтэсенцыі паэтычнай мовы, якая ўвасабляе найперш набыты чалавекам досвед рэальнага свету. Стаўленне Гірца да мовы міфа, рытуалу і мастацтва спецыфічнае: «Для таго, каб прымаць рашэнні, мы павінны ведаць, як мы ўспрымаем рэчы; а для таго, каб ведаць, як мы ўспрымаем рэчы, нам патрэбны сацыяльныя мадэлі адносінаў, што могуць даць толькі рытуал, міф і мастацтва»[17]. Пазіцыя Гірца цалкам зразумелая: бясконцая множнасць сімвалічных магчымасцяў чалавечага розуму дазваляе нам набліжацца да рэальнасці праз шэраг бясконца малых крокаў, ніколі не дасягаючы, аднак, канчатковага пункту. Такі падыход адпавядае анты–гегельянскай тэорыі Гайдэгера, паводле якой суб'ект, што пазнае, не павінны разбураць існаванне іншых у самім сабе, а сапраўдная функцыя думкі як «герменеўтычнага класіфікатара» ў тым, каб даць магчымасць людзям заставацца іншымі. Я лічу гэтую сувязь з Гайдэгерам істотнай для разумення як сілы і тонкасці інтэрпрэтацый, так і адноснай слабасці тлумачэння светаў у інтэрпрэтатыўнай антрапалогіі Гірца. Такім шляхам Гірцу ўдаецца пазбегнуць праблемы рацыянальнасці і яе межаў; межаў, якія адрозніваюцца не проста дыферэнцаваным падыходам да інфармацыі. Розніца паміж «аўтэнтычнай думкай» і думкай вызначаецца прынцыпам «дастатковай разумнасці». У святле гэтага, відаць, этнолаг мусіць добраахвотна спыніць сваё даследаванне на ўзроўні характарыстыкі значэнняў.

З біялагічнага пункту гледжання ўсе людзі, відавочна, валодаюць больш–менш аднолькавым інтэлектам, але гэты інтэлект цалкам залежыць ад культурных рэсурсаў асяроддзя яго функцыянавання. Такі акцэнт на культуру дазваляе пазбегнуць якой бы то ні было тэорыі перавагі цывілізаванага чалавека над прымітыўным. Няма таксама патрэбы ўлічваць думку пра з'яўленне культуры на пэўных канкрэтных этапах эвалюцыі. Культура, вызначаная як здольнасць да сімвалічнага мыслення, ёсць часткай самой прыроды чалавека. Культура з'яўляецца не дадаткам да чалавечага мыслення, а істотнай, прыроджанай і неад'емнай яго часткай. Тым не менш, паводле Гірца, праблему пазбягання «абсалютнага» культурнага рэлятывізму (што робіць магчымым параў-

[17] Geertz C. The Growth of Culture and the Evolution of Mind // Scher J. (ed.). Theories of the Mind. Glencoe, 1962, 713—40; надрукавана таксама ў: Geertz C. Interpretation of Cultures, 55—85.

нанне культур паміж сабой) нельга вырашыць, да яе нельга нават падступіцца. Ён жорстка прытрымліваецца вызначэння функцыі інтэлекту як «пошуку інфармацыі» і бачыць яе ў эмацыйнай апрацоўцы інфармацыі з выкарыстаннем матэрыялу, агульнага для носьбітаў асобнай культуры. «Карацей кажучы, мысленне чалавека, у вузкім сэнсе дырэктыўнага мыслення, залежыць ад маніпуляцыі пэўнымі відамі культурных рэсурсаў такім чынам, каб арганізм ствараў (знаходзіў, выбіраў) патрэбныя вонкавыя стымулы (дзеля дасягнення якой бы то ні было мэты); мысленне — гэта пошук інфармацыі» (с. 79), а значыць, селектыўны збор інфармацыі. Фактычна чалавек увесь час мае патрэбу ў эмацыйных і інтэлектуальных стымулах, і гэтыя самыя стымулы патрабуюць пастаяннага культурнага кантролю, які арганізуе іх у выразны і зразумелы парадак. Адсюль вынікае, што гэта не толькі збор інфармацыі, але і эмацыйная арганізацыя яе. Аднак, працэс не з'яўляецца прыватным, бо значэнне сімвалаў у тым, што яны падзяляюцца ўсімі сябрамі маленькай ці вялікай групы і, такім чынам, звязваюць іх: спачатку думка арганізоўваецца паводле наяўных грамадскіх сімвалічных структур і толькі пасля прысвойваецца індывідам, становіцца прыватнай. Але Гірц не можа выйсці за рамкі гэтых развагаў, паколькі больш грунтоўны аналіз функцыянавання розуму непазбежна закране небяспечныя падтэксты ерархізацыі культур.

Гірц абараняе ролю культурнага рэлятывізму ў разбурэнні этнацэнтрызму, і з гэтым мы можам толькі пагадзіцца. Аднак, ён заходзіць занадта далёка і ідэнтыфікуе культурны рэлятывізм з рэлятывізмам *tout court* [ліслівай агітацыі — заўв. перакладчыка], лічачы ўвесь рэлятывізм небяспечнай тэндэнцыяй разглядаць некаторыя культуры вышэйшымі па рангу ў параўнанні з іншымі. У выкрывальным артыкуле 1984 г. пад назвай «Анты анты–рэлятывізм»[18], ён атаясамляе ўвесь рэлятывізм з «пазіцыяй, у якой культурная разнастайнасць праз прастору і час прыроўніваецца да шэрагу выяўленняў... усталяванай сутнаснай прыроды чалавека, што ляжыць у аснове рэальнасці». У такім поглядзе на штучную дыферэнцыяцыю, якая засланяе сабой глыбіннае падставовае адзінства, Гірц бачыць апору на тэорыі розуму і прыроды чалавека, якія ён не прымае ў тым, што яны непазбежна вядуць да аднаўлення памылковых паняццяў «прымітыўная думка» і «сацыяльнае адхіленне ад нормы», інакш кажучы, да дапушчэння ерархіі перакананняў і форм паводзінаў на падставе розных узроўняў рацыянальнасці. Так, нэа–рацыяналістычная заява аб магчымасці ідэнтыфікацыі фармальных канстантаў (кагнітыўнага агульнага), канстантаў развіцця (кагнітыўных стадый) і аперацыйных канстантаў (кагнітыўных працэсаў) у якой бы то ні было форме толькі адцягвае ўвагу ад ролі паняццяў, якія слушна акцэнтуюць

[18] Geertz C. Anti Anti–Relativism // American Anthropologist 86 (1984), 263—78.

увагу на культурнай разнастайнасці і іншасці. «Будзе вельмі шкада, калі раптам вызначаныя намі адлегласць і месца пачнуць кусацца, мяняць наша разуменне сэнсу і наша ўспрыняцце ўспрыняцця, і нам давядзецца вярнуцца да старых песняў» (с. 276). Гірц абвяшчае сябе не рэлятывістам, а анты анты–рэлятывістам у тым сэнсе, што мы знаходзімся на стадыі, можа пераходнай, на якой магчымы толькі насычанае апісанне і ўдасканальванне сукупнасці значэнняў.

Аднак, я не думаю, што падобнае звядзенне любой рацыяналісцкай спрэчкі да патэнцыйнай супярэчнасці ерархічных канцэпцый культуры лагічнае. На самай справе, цяжка ставіць Гелнэра, Леві–Строса, Нідгама, Ўінча, Гортана і Спэрбера, на якіх спасылаецца Гірц, у адзін шэраг і лічыць усіх іх прыхільнікамі ерархічнага падзелу культур. Чаму кагнітыўныя працэсы ці кагнітыўныя рэальнасці абавязкова вядуць толькі да этнацэнтрызму? Чаму апісанне разумовых працэсаў у фармальных тэрмінах ці канцэпцыя абмежаванасці рацыянальнасці абавязкова супярэчаць неерархічнай характарыстыцы культуры? Чаму фармалізацыя і абагульненне, якія даюць магчымасць параўнання культур, абавязкова цягнуць за сабой разбурэнне іншасці? Натуральна, небяспека існуе, але ці варта сапраўды заставацца паралізаваным ірацыяналісцкай пагрозай рэлятывізму ў адплату за ўнікненне этнацэнтрызму — прывіду, што, прынамсі на сённяшні дзень, ужо больш нагадвае заклінанне? Я схільны думаць, што сама ідэнтыфікацыя формы кагнітыўных працэсаў пакуль яшчэ вымушае прымаць культурную адноснасць, адвяргаючы абсалютны рэлятывізм тых, хто абмяжоўвае нашы магчымасці пазнання рэальнасці і апынаецца ў выніку ў пастцы бясконцай, марнай гульні інтэрпрэтавання і інтэрпрэтацый.

Мне думаецца, адно з галоўных адрозненняў паміж ракурсамі мікрагісторыі і інтэрпрэтатыўнай антрапалогіі ў тым, што апошняя бачыць у грамадскіх знаках і сімвалах гамагеннае значэнне ў той час, як мікрагісторыя імкнецца вызначыць і ацаніць іх у кантэксце множнасці іх сацыяльных увасабленняў. Праблема, такім чынам, не зводзіцца проста да функцыянавання інтэлекту. Існуе яшчэ і небяспека выпусціць з увагі сацыяльна дыферэнцаваную прыроду сімвалічных значэнняў, а следам часткова і такую іх якасць, як няўстойлівасць. З прычыны гэтай пагрозы паўстае праблема вызначэння розных форм функцыянавання розуму чалавека ў кантэксце канкрэтных сітуацый. Аб'ём інфармацыі, неабходны як для арганізацыі і вызначэння культуры, так і для дзеяння, гістарычна зменлівы і сацыяльна неаднародны, а значыць, праблемы акрэслівання не пазбегнуць, бо рамкі грамадства, сімвалічных структур — абстракцыя. У кантэксце зменлівых сацыяльных умоў гэтыя сімвалічныя структуры спараджаюць фрагментарную і дыферэнцава-

ную множнасць выяўленняў, і менавіта яны павінны быць аб'ектам нашага даследавання.

Відавочна, што ў сучасных грамадствах у параўнанні з простымі і старажытнымі як даступны аб'ём інфармацыі, так і магчымасці для эмпірычнага назірання нашмат шырэйшыя і складанейшыя. Тым не менш, галоўная праблема застаецца такой, як яе вельмі трапна сфармуляваў Фуко:[19] выбар з шэрагу магчымых альтэрнатыўных значэнняў, зададзеных пануючай сістэмай класіфікацыі, не кажучы пра адбор інфармацыі, які можна назваць самазахавальнай рэакцыяй, што дазваляе нам надаваць значэнне свету і дзейнічаць эфектыўна. Колькасць і якасць такой інфармацыі, аднак, сацыяльна неаднародныя, і таму, вывучаючы асобны сектар рэчаіснасці, трэба даследаваць множнасць форм абмежаванасці рацыяналізму. Гэтая множнасць існуе як вынік, сярод іншага, ахоўных механізмаў, якія ўключаюцца пры сутыкненні з лішкам інфармацыі; механізмаў, якія прымушаюць скарачаць колькасць інфармацыі для таго, каб даць магчымасць прыняць рашэнне. У прыклад можна прывесці матываванае спрашчэнне і выкарыстанне спрошчаных лозунгаў у час палітычных выбараў; этыялагічныя сістэмы, распаўсюджаныя ў сучаснай медыцынскай практыцы; тэхналогіі пераконвання, якія ўжываюцца ў індустрыі рэкламы.

Мне здаецца, агульнай дыскусіі пра сімвалічнае функцыянаванне на аснове прапанаванага Гірцам вызначэння культуры як бясконцага пошуку інфармацыі недастаткова. Я думаю, неабходна паспрабаваць вымераць і фармалізаваць механізмы абмежаванага рацыяналізму, рамкі якога перасоўваюцца ў залежнасці ад форм доступу да інфармацыі — для таго, каб атрымаць магчымасць выявіць адрозненні, характэрныя для культур індывідаў, груп і грамадстваў розных часоў і рэгіёнаў. Нейкая якасць, прысутная ў важнай, але няпоўнай сістэме Гірца, адмаўляе гэтую мэту.

Залішні аўтабіяграфічны рэлятывізм, які нядаўна з'явіўся на сцэне навукі пад маскай інтэрпрэтатыўнай антрапалогіі, служыць доказам гэтай неадэкватнасці (кніга Рэйнбоў «*Роздум над экспедыцыйнай працай у Марока*» [«*Reflections on Fieldwork in Morocco*»], на мой погляд, — найлепшы прыклад)[20]. Наступны аргумент такі. Сукупнасць насычаных апісанняў не мае мэты параўнання, а застаецца проста сукупнасцю, з якой падзеі і з'явы для вывучэння выбіраюць па нявызначаных дакладна правілах, а таму інтэрпрэтацыя часта застаецца адкрытай, няпэўнай і абмежаванай. Некаторыя праявы такой няпэўнасці ў паслядоўнікаў Гірца бач-

[19] Foucault M. Les Mots et les choses: archéologie des sciences humaines. Paris, 1966.

[20] Rainbow P. Reflections on Fieldwork in Morocco. Berkeley—Los Angeles, 1977.

ныя больш, чым у яго самога. Класічны прыклад, па–мойму, — праца Робэрта Дарнтана «*Вялікае кацінае пабоішча*» («*The Great Cat Massacre*»)[21].

Другі, ужо згаданы аспект, — адмаўленне ад усякай спробы сканструяваць мадэлі і ўсталяваць фармальныя правілы інтэрпрэтатыўнай і камунікатыўнай гульні. Гірц выступае з прапановай эксперыментальнага выкарыстання агульнай, акадэмічнай канцэптуалізацыі толькі для аднаўлення паняццяў у канкрэтных прыкладах насычанага апісання. Такім чынам шэраг паняццяў уплятаецца ў шэраг інтэрпрэтаваных падзей з разлікам, што яны ў сукупнасці будуць працаваць так, што простыя падзеі можна будзе зрабіць навукова яснымі і, наадварот, з насычанасці простых фактаў можна будзе рабіць грунтоўныя і абагульненыя высновы. Плёнам такога метаду часта бывае культурная гісторыя, цалкам пазбаўленая сацыяльнага аналізу, ці з вельмі стэрэатыпным сацыяльным аналізам, выведзеным з інтэнсіўна даследаванай культурнай гісторыі. Дзеянне вывучаецца ўглыб, але без комплекснай, фармальнай рэканцэптуалізацыі закранутых сацыяльных механізмаў, і таму аналіз, бы спалоханы, хутка спыняецца на самым парозе сацыяльнай гісторыі. Так, харызматычнасць і сімвалізм улады ў цырымоніі каранацыі ўсімі індывідамі ў рамках сацыяльна недыферэнцаванага грамадства, верагодна, успрымаецца аднолькава[22]. Ці, напрыклад, бойкі пеўняў маюць аднолькавае універсальнае значэнне для ўсяго грамадства, нават калі формы ставак сацыяльна адрозніваюцца[23].

Мікрагісторыя, з іншага боку, не адмаўляецца ўлічваць сацыяльную дыферэнцыяцыю, як гэта робіць інтэрпрэтатыўная антрапалогія, але ставіць мэтай максімальна фармальнае прачытанне дзеянняў, паводзінаў, грамадскіх структур, роляў і адносінаў. Іншымі словамі, хоць звычаі і выкарыстаныя сімвалы заўсёды полісемічныя, яны ўсё ж маюць на ўвазе больш дакладныя канатацыі, што вырастаюць са зменлівых і дынамічных сацыяльных адрозненняў. Індывіды ўвесь час ствараюць свае ўласныя ідэнтычнасці, і групы самавызначаюцца, кіруючыся канфліктамі і сувязямі, якія, аднак, не з'яўляюцца апрыёрнымі, а вынікаюць з дынамікі, якая ёсць аб'ектам даследавання.

[21] Darnton R. The Great Cat Massacre and other Episodes in French Cultural History. New York, 1984. Глядзі таксама ягоны артыкул «The Symbolic Element in History» у: Journal of Modern History 58 (1986), 218—34 і
Charier R. Text, Symbols, and Frenchness // Journal of Modern History 57 (1985), 682—95, а таксама Levi G. I pericoli del Geertzismo // Quaderni Storia 20 (1985), 269—277.

[22] Geertz C. Local Knowledge: Further Essays in Intepretive Anthropology. New York, 1983, 121—46.

[23] Geertz C. Deep Play: Notes on the Balinese Cockfight // Daedalus 101 (1972), 1—37, перадрукавана ў: Geertz C. Interpretation of Cultures, 412—54.

Цяпер хацелася б спыніцца яшчэ на адным элеменце, звычайным у працы мікрагісторыкаў, — на сувязі з чытачом або праблеме наратыву. Вяртанне наратыву нельга разглядаць проста ў кантэксце выбару паміж якаснай, персаніфікаванай гісторыяй і той квантытатыўнай гісторыяй, якая прэтэндуе на права ўсталёўваць законы, правілы і фармальныя калектыўныя паводзіны. Мікрагісторыя спецыяльна звяртаецца да праблемы камунікацыі і цалкам усведамляе, што само гістарычнае даследаванне нельга цалкам атаясамліваць з паведамленнем яго вынікаў у кнізе. Вось тое асноўнае, што праігнараваў Стоўн у добра вядомым артыкуле[24]. Увогуле ў гісторыі праблемы доказу і ілюстравання сродкамі дэталёвага аповеду пра канкрэтныя акалічнасці цесна звязаны з тэхнікай апісання. Гэта не проста пытанне рыторыкі, паколькі значэнне гістарычнай працы не можа быць зведзена да рыторыкі, гэта праблема сувязі з чытачом, які сам па сабе ніколі не з'яўляецца *tabula rasa*, а таму непазбежна паўстае праблема ўспрымання[25]. Мне здаецца, што асаблівая функцыя наратыву характарызуецца дзвюма ўласцівасцямі. Першая з іх — спроба праз пералік дакладных фактаў паказаць сапраўднае функцыянаванне тых аспектаў грамадства, якія скажаюцца пры абагульненні і колькаснай фармалізацыі, выкарыстаных асобна, паколькі гэтыя прыёмы па–функцыяналісцку акцэнтуюць увагу на ролі сістэм правілаў і механістычных працэсаў у сацыяльнай змене. Інакш кажучы, пры такім падыходзе мы бачым адносіны паміж нарматыўнымі сістэмамі і сістэмамі свабоды дзеяння, утворанымі для індывідаў тымі лакунамі і ўнутранымі канфліктамі, якія прысутнічаюць у кожнай сістэме норм і нарматыўнай сістэме. Другая ўласцівасць — увядзенне ў асноўны масіў наратыву прыёмаў самога даследавання, абмежаванасці дакументаў, тэхнікі пераканання і пабудовы інтэрпрэтацый. Гэты метад выразна адмаўляецца ад традыцыйнай катэгарычнай і аўтарытарнай формы дыскурсу, прынятай гісторыкамі, якія сваёй мэтай абвяшчаюць адлюстраванне рэальнасці. У мікрагісторыі, наадварот, пункт гледжання гісторыка робіцца неад'емнай унутранай часткай яго працы. Працэс даследавання дакладна апісаны, і цяпер абмежаванасць дакументаль-

[24] Stone L. The Revival of Narrative: Reflections on a New Old History // Past and Present 85 (1979), 3—24.

У БГА гэты артыкул быў надрукаваны ў т. 4 (снежань 1997), с. 93—120 (Рэд.).

[25] Згадваецца супярэчнасць паміж Мамільяна (Momigliano A. La retorica della storia e la storia della retorica: sui tropi di Hayden White // Momigliano A. Sui fondamenti della storia antica. Turin, 1984, 464—76) і Ўайтам (White H. Metahistory. Baltimore, 1973), у якой, аднак, Мамільяна перабольшвае супярэчнасць паміж ісцінай і рыторыкай. Як я казаў у тэксце, праблемы доказнай тэорыі важныя ў практычнай гістарыяграфіі і, як канстатуе Ўайт, непрымальныя ў выпадку, калі даследчык спасылаецца на гістарычныя факты.

ных сведчанняў, пабудова гіпотэзаў і лад мыслення больш не з’яўляюцца таямніцай для недалучаных. Чытач уцягнуты ў своеасаблівы дыялог і бярэ ўдзел ва ўсім працэсе выпрацоўкі гістарычнай аргументацыі. (Адна з кніг, якая асвятляе гэты працэс, напісана Гінзбургам і Проспэры)[26]. Такі падыход пераняў Генры Джэймз у сваёй гісторыі «*У клетцы*» («*In the Cage*»)[27], якая падаецца ўдалай метафарай працы гісторыка. У кнізе Джэймз апісвае ўвесь працэс інтэрпрэтацыі рэальнасці аператарам–тэлеграфісткай аднаго з раёнаў Лондана. Матэрыял, з якім яна мае справу на службе, прадстаўлены штодзённымі тэлеграмамі кліентаў–арыстакратаў, тэксты якіх з’яўляюцца абмежаванымі, фрагментарнымі і неадэкватнымі дакументамі. Прыведзены прыклад працэсу спасціжэння сэнсу свету не толькі служыць добрай ілюстрацыяй працы гісторыка, але таксама паказвае, якую ролю ў гэтай справе можа адыграць наратыў.

Падыход мікрагісторыі звязаны з праблемай, як атрымаць доступ да ведання мінулага пры дапамозе розных сведчанняў, знакаў і прыкметаў. Сутнасць гэтага прыёму ў тым, што асобнае прымаецца за адпраўны пункт (асобнае, якое бывае вельмі спецыфічным і індывідуальным і якое нельга трактаваць як тыповую з’яву), і потым яго значэнне выяўляецца ў святле ўласнага спецыфічнага кантэксту.

Кантэкстуалізацыя, аднак, шмат што можа мець на ўвазе. Функцыяналісцкая дактрына кантэксту самая паслядоўная. Найбольш характэрным аспектам яе, відавочна, ёсць засяроджанасць на кантэксце з мэтай патлумачыць сацыяльныя паводзіны. Аб’ектам вывучэння функцыяналізм лічыць не столькі ўласна прычыны ўчынкаў, колькі ўнармаванне формы паводзінаў унутры ўпарадкаванай сістэмы, якая тлумачыць той ці іншы ўчынак, яго функцыі і механізм дзеяння. Мадэль кантэкстуалізацыі Дуркгайма асноўную ўвагу аддае абавязковай прыродзе некаторых нашых абагульненых паняццяў, але кантэкстуалізацыя — гэта функцыяналісцкі элемент, які застаецца ім нават тады, калі робіць акцэнт на апаведнасць інстытута, формы паводзінаў ці паняцця той сістэме, часткай якой ён/яна/яно з’яўляецца. Як адзначае Гелнэр[28], нават Вітгенштайн быў «прыхільнікам і паслядоўнікам» Дуркгайма: і ён «меркаваў, (што) катэгорыі набываюць законную сілу толькі ў якасці частак „формы жыцця“».

Заўважым, што ў адрозненне ад засяроджанасці функцыяналізму на сацыяльнай упарадкаванасці мікрагісторыкі сканцэнтраваліся на су-

[26] Ginzburg C., Prosperi A. Giochi di pazienza: un seminario sul «Beneficio di Cristo». Turin, 1975.

[27] James H. In the Cage. London, 1898.

[28] Gellner E. Concepts and Societies // Wilson B.R. (ed.). Rationality. Oxford, 1970, 18–49, асабліва 24.

пярэчнасцях нарматыўных сістэм, а значыць на фрагментарнасці, канфліктнасці і множнасці пунктаў гледжання, дзякуючы якім усе сістэмы робяцца рухомымі і адкрытымі. Змены адбываюцца праз імгненныя і бясконцыя стратэгіі і выбар, якія дзейнічаюць унутры нестыковак супярэчлівых нарматыўных сістэм. Гэта сапраўдны пераварот перспектывы, і сутнасць яго ў тым, што цяпер акцэнтуюцца найбольш кароткачасовыя і лакальныя дзеянні для таго, каб паказаць разрывы і прасторы, якія застаюцца адкрытымі з–за складаных супярэчнасцяў, прысутных ва ўсіх сістэмах. Вернемся да вышэй прыведзенага прыкладу. Урэшце, разглядаць значэнне пеўнікавых бойкаў у кантэксце ўпарадкаванай сістэмы балінэзійскай культуры больш па–функцыяналісцку, чым на падставе шматлікіх сацыяльна адасобленых значэнняў саміх пеўнікавых бойкаў даваць інтэрпрэтацыю балінэзійскай культуры ўвогуле, з усімі яе супярэчнасцямі[29].

Фактычна, нават калі мы аналізуем шэраг лакальных культур, абсалютна розных, з якіх агульныя, больш–менш абстрактныя правілы можна вывесці толькі ў чыста адвольнай форме, усё ж не выключана, што гэты падыход можа прывесці да надзвычай функцыяналісцкай інтэпрэтацыі, калі прыняць лакальную культуру за нейкае завершанае, аднароднае, упарадкаванае цэлае. Існуюць, такім чынам, два шляхі прачытання сацыяльнага кантэксту: як асяроддзя, што надае значэнне прыватным дэталям, якія здаюцца «дзіўнымі» ці «анамальнымі», выяўляючы іх няяўнае значэнне і адпаведна іх сувязь з сістэмай; і, з іншага боку, як сродку раскрыць сацыяльны кантэкст, у якім відавочна нетыповы ці нязначны факт набывае значэнне, калі выяўляюцца прытоеныя супярэчнасці вонкава уніфікаванай сацыяльнай сістэмы. Змяншэнне маштабу — гэта эксперыментальны прыём, бо ён дапускае, што адлюстраванне кантэксту і яго сувязяў не падлягае сумненню і выяўляе тыя супярэчнасці, якія бачны толькі пры змяненні маштабу суаднясення. Тое ж можа адбыцца і выпадкова пры павелічэнні маштабу, як слушна заўважыў Жак Рэвэль[30]. Выбар на карысць мікраскапічных памераў паўстае як непасрэдны вынік традыцыйнага панавання макра–кантэкстуальнай інтэрпрэтацыі, на фоне якой гэта быў адзіны рэальна магчымы эксперыментатарскі напрамак.

Іншая канцэпцыя кантэкстуалізацыі мае на ўвазе, што культурны кантэкст ёсць працэсам размяшчэння ідэі ў межах, вызначаных доступ-

[29] Geertz, «Deep Play»; гл. спасылку 23.

[30] Revel J. L'histoire au ras du sol, уступ да: Levi G. Le Pouvoir au village. Paris, 1989, i–xxxiii.

[31] Гл.: Pocock J.G.A. The Machiavellian Moment: Florentine Political Thought and the Atlantic Republican Tradition. Princeton, 1975; ён жа, Virtue, Commerce, and History: Essays on Political Thought and History, chiefly in the Eighteenth Century. Cambridge, 1985. Гл. таксама: Skinner Q. Hermeneutics and the Role of History //

нымі мовамі. Тут узгадваецца інтэлектуальная гісторыя англійскіх кантэкстуалістаў[31]. Паводле іх дактрыны, кантэкст абумоўлены наяўнымі мовай і ідыёмамі і выкарыстоўваецца пэўнай групай людзей у пэўнай сітуацыі для арганізацыі, напрыклад, сваёй барацьбы за ўладу. Дадзеная школа мела велізарны ўплыў на саму сацыяльную тэорыю і ініцыявала так шмат дыскусій, што здаецца залішнім паўтараць прыведзеныя аргументы. Аднак, зноў жа, ракурс мікрагісторыі іншы, бо на першае месца ставяцца дзейнасць, формы паводзінаў і інстытуцыі, што ўсталёўваюць рамкі, у якіх ідыёмы могуць быць адэкватна зразуметыя і якія ў іншым выпадку наглуха замыкаліся б на сабе і былі б пазбаўлены ўсякай сувязі з грамадствам — нават у выпадку, калі пад дыскурсам разумеецца дзеянне, а не рэфлексія.

Кантэкстуалізацыя можа мець і трэцяе значэнне: фармальнае, параўнальнае перамяшчэнне падзеі, формы паводзінаў ці паняцця ў шэраг іншых, падобных, хоць яны могуць быць разведзены ў часе ці прасторы. Пры такім падыходзе маецца на ўвазе, што фармалізаваныя і выразныя структуры параўнальныя, і прадугледжваецца не толькі групаванне асобных элементаў, якія маюць адну ці больш агульных рысаў, але і класіфікацыя, заснаваная на падабенстве праз аналогію. Кантэкст уключае не толькі ідэнтыфікацыю шэрагу рэчаў з агульнымі характарыстыкамі, але і на ўзроўні аналогіі — г.зн. там, дзе дакладнае падабенства назіраецца паміж адносінамі, якія звязваюць рэчы, а не паміж самімі рэчамі, зусім неабавязкова аднолькавымі. Падабенства выяўляецца паміж сістэмамі адносінаў, якія складаюцца з розных элементаў. Гэта, так бы мовіць, ідэнтыфікацыя родавага падабенства. (Тут я перш за ўсё маю на ўвазе пазіцыю Нідгама)[32].

Мікрагісторыя прадэманстравала памылковасць і неадпаведнасць агульнапрынятых сацыяльных кантэкстаў: звернемся, напрыклад, да крытычных выказванняў Грыбадзі[33] наконт сацыяльных размежаванняў грамадскіх груп, блізкіх да рабочага класа. Грыбадзі паказвае, што салідарнасць можа засноўвацца не столькі на падабенстве сацыяльнага становішча, колькі на падабенстве становішча ўнутры сістэм адносінаў. Наступны прыклад дае вывучэнне матрыманіяльных правілаў у рэгіёне Кома ў XVII ст.[34] У гэтым даследаванні моцная сацыяльная кантэкстуалізацыя і змяншэнне маштабу выявіла значэнне

New Literary History 7 (1975—6), 209—32; Skinner Q. The Foundations of Modern Political Thought: the Renaissance. Cambridge, 1978.

[32] Needham R. Reconnaissances. Toronto–Buffalo–London, 1980.

[33] Gribaudi M. Mondo operaio e mito operaio: spazi e percorsi socialia Torino nel primo Novecento. Turin, 1987.

[34] Merzario. Il paese stretto. 1981.

фармальных абстрактных матрыманіяльных правілаў як асновы сацыяльнай катэгарызацыі. Добрую ілюстрацыю дае аналіз феоду, зроблены Ага[35].

З прыведзеных развагаў паўстаюць далейшыя праблемы, на якіх трэба коратка спыніцца. Па–першае, праблема апазіцыі паміж ведамі канкрэтнымі і абагульненымі — бясконцая спрэчка ў асяроддзі сацыяльных гісторыкаў. Дастаткова ўзгадаць дэбаты наконт якаснай і колькаснай гісторыі сям'і. У шырэйшым кантэксце гэта быў крызіс, які пахіснуў шырока распаўсюджаную ў 60–я г. веру ў магчымасць квантыфікацыі грамадскіх працэсаў і вывядзенне дакладных законаў сацыяльных паводзінаў. Тут хачу засяродзіцца толькі на адным аспекце, які дапаможа праліць святло на адну важную праблему. Паглядзім, што маецца на ўвазе пад квантытатыўнай гісторыяй ці, хутчэй, прааналізуем характарыстыкі, што хаваюцца ў механістычным разуменні сацыяльнай рэальнасці.

Мікрагісторыя імкнецца не ахвяраваць ведамі пра асобныя элементы на карысць шырэйшаму абагульненню. Фактычна, яна акцэнтуе ўвагу на асобных жыццях асобных людзей і на канкрэтных падзеях. У той жа час, мікрагісторыя спрабуе не адмаўляцца ад усіх форм абстракцыі, паколькі мінімальныя факты і асобныя выпадкі могуць служыць для выяўлення больш агульных з'яваў. У слабой навуцы, дзе ў выпадку немагчымасці эксперыментатарства самога па сабе той аспект эксперыменту, што адказвае за функцыю рэканструкцыі падзей, выключаны, нават найменшыя дысанансы становяцца індыкатарамі значэння, якое можа патэнцыйна дапускаць агульныя параметры. Эдоардо Грэндзі акрэсліў гэтую перспектыву як увагу да «выключнай нормы»[36]. Альтэрнатывай ахвяраванню асобнага на карысць агульнаму ці засяроджанню выключна на унікальнасці асобнага з'яўляецца, такім чынам, неапраўданая індывідуалізацыя. Праблема хутчэй у тым, як выпрацаваць парадыгму, залежную ад ведаў пра асобнае, не адвяргаючы адначасова фармальнага апісання і саміх навуковых ведаў асобнага[37]. Тым не менш, параўнанні паміж колькасцю і якасцю, падзеяй і шэрагам, асобным і агульным прывялі да скажонага погляду на тое, якія з нашых інстру-

[35] Ago R. Un feudo esemplare: immobilismo padronale e astuzia contadina nel Lazio del'700. Rome, 1988.

[36] Grendi E. Microanalisi e storia sociale // Quaderni Storici 7 (1972), 506—20; яго ж, Polanyi: dall'antropologia economica alla microanalisi storica. Milan, 1978.

[37] Ginzburg C. Spie: radici di un paradigma indiziario // Gargani A. (ed.).
Crisi della ragione. Turin, 1979, 59—106, перадрукавана ў: Ginzburg C.
Miti Emblemi Spie: morfologia e storia. Turin, 1986, 158—209. Ангельскі пераклад кнігі быў выдадзены ў Лондане ў 1990 г. пад назвай «Myths, Emblems, Clues».

ментаў фармалізацыі слушныя. Традыцыйна лічылася, што сацыяльная гісторыя сама па сабе здольна прымяняць жорсткія мадэлі да гісторыі і выкарыстоўваць квантытатыўны тып фармалізацыі, у якім паняцце прычыннасці не можа быць аслаблена ўвагай да персанальнага выбару, няпэўнасцяў, індывідуальнай і групавой стратэгіі, што рабілася дзеля вяртання да менш механістычнай перспектывы. З–за панаваўшай доўгі час тэндэнцыі атаясамліваць фармалізацыю з квантыфікацыяй гісторыя парадаксальным чынам адставала ад іншых грамадскіх навук. Здаецца мне, што мікрагісторыя больш цвёрда рухаецца ў бок неквантыфікатыўных галінаў матэматыкі для таго, каб зрабіць свой прадукт і сцверджанні больш рэалістычнымі і менш механістычнымі, пашырыўшы такім чынам поле няпэўнасці, і неабавязкова адвяргаючы фармальныя распрацоўкі. Праблемы накшталт тых, што звязаны з графікамі роднасных супольнасцяў, з рашэннем у няпэўных сітуацыях, з разлікам верагоднасці, з гульнямі і стратэгіяй, — яны пераадолены дзякуючы дэбатам вакол так званай квантытатыўнай гісторыі. Як толькі нехта вырашае мець справу з рознай, больш складанай і рэалістычнай карцінай рацыяналізму грамадскіх дзеячаў і ўлічваць на падставовым узроўні складаную прыроду сацыяльнай з'явы, адразу паўстае неабходнасць развіцця і выкарыстання новых фармальных інструментаў абстракцыі. Гісторыкі атрымліваюць шырока адкрытае поле для даследаванняў.

Такім чынам, агульныя пытанні і пазіцыі, якія характарызуюць мікрагісторыю, наступныя: змяншэнне маштабу; спрэчкі вакол рацыянальнасці; маленькі факт як навуковая парадыгма і асаблівая ўвага да прыватнага (аднак, не ў апазіцыі да грамадскага), да ўспрымання і наратыву; спецыфічнае вызначэнне кантэксту і адмаўленне ад рэлятывізму. Гэтыя элементы шмат у чым падобныя да акрэсленых Жакам Рэвэлем у адным з апошніх артыкулаў па мікрагісторыі, які з'яўляецца на сёння ці не самай паслядоўнай спробай інтэрпрэтацыі дадзенага эксперыментальнага падыходу[38]. Паводле Рэвэля[39], мікрагісторыя — гэта спроба вывучаць сацыяльнае не як аб'ект, схаваны пад покрывам уласцівых якасцяў, а як сукупнасць рухомых узаемадачыненняў паміж канфігурацыямі, якія ўвесь час змяняюцца. Ён лічыць мікрагісторыю адказам на відавочную абмежаванасць тых інтэрпрэтацый сацыяльнай гісторыі, якія ў сваім пошуку правілаў ствараюць небяспеку спрашчэння індыкатараў. Мікрагісторыя паспрабавала супрацьпаставіць больш рухомай кан-

[38] Ginzburg C. Il nome e il come: scambio ineguale e mercato storiografico // Quaderni Storici 14 (1979), 181—90; кароткі маніфест, які амаль выцеснены наступнай працай на ніве практычнай мікрагісторыі.

[39] Revel J. L'histoire au ras du sol // Levi G. Le pouvoir au village, 1989.

цэптуалізацыі менш небяспечную класіфікацыю таго, што ўтварае сацыяльнае і культурнае, а таксама рамкі даследавання, якія адвяргаюць спрашчэнні, дуалістычныя гіпотэзы, палярызацыю, жорсткія тыпалогіі і пошук тыповых характарыстык. «Навошта спрашчаць рэчы, калі іх можна ўскладніць?» (Revel, L'histoire..., c. xxiv) — вось дэвіз, які Рэвэль прапануе для мікрагісторыі. Пад гэтым ён мае на ўвазе, што сапраўдная праблема для гісторыкаў — дасягнуць поспеху ў тым, каб паказаць складанасць рэальнага свету, нават калі патрабуецца прымяненне апісальных тэхналогій і форм разважання, якія з'яўляюцца больш самакрытычнымі і менш катэгарчынымі ў параўнанні з выкарыстоўванымі раней. Праблема таксама ў выбары актуальных сфер даследавання: ідэя разглядаць аб'екты традыцыйнай гісторыі ў адным з лакальных варыянтаў аналагічная ідэі чытання паміж радкамі асобнага дакумента ці паміж фігурамі жывапіснага палатна з мэтай вылучыць значэнні, якія папярэдне не паддаваліся тлумачэнню, або выявіць сапраўдную важнасць таго, што раней вынікала непасрэдна з абставінаў ці з неабходнасці, або вызначыць актыўную ролю індывіда, які раней быў проста пасіўным ці індыферэнтным.

Маючы на ўвазе дэфініцыю Рэвэля, я паспрабаваў зрабіць акцэнт на анты–рэлятывісцкім імпульсе мікрагісторыі і імкненні ў бок фармалізацыі, якая характарызуе ці, на мой погляд, павінна характарызаваць, працу мікрагісторыка. Гэта важна, паколькі паняцці, якімі мы карыстаемся ў гісторыі і сацыяльных навуках, часта недакладныя і ўжываюцца метафарычна. Само паняцце канфігурацыі, напрыклад, на погляд Эліаса, — інтуітыўная формула і здаецца мне тыповым у сэнсе, што яно вельмі экспрэсіўнае, але застаецца алегарычным і не набліжаецца да нечага, што лічу магчымым паказаць у больш фармальным выглядзе. Гэта я і паспрабаваў выкласці ў дадзеным артыкуле.

Не ведаю, ці прыведзеная характарыстыка мікрагісторыі заслугоўвае даверу. Хацелася паказаць групу людзей, якія на працягу 70—80–х г. былі ўцягнутыя ў шматлікія і разнастайныя дэбаты наконт італьянскай сацыяльнай гісторыі. Можа і трэба паўней раскрыць розныя думкі і погляды, што маюць дачыненне да гістарычнай дыскусіі і выходзяць далёка за межы Італіі. Тут жа лічу сваім абавязкам, асвятляючы закранутыя праблемы, паінфармаваць чытача, што мае галоўныя прынцыпы ў вялікай ступені суб'ектыўныя — гэта аўтапартрэт, а не калектыўны партрэт. Я думаю, як я думаю, і не магу іначай, таму папярэджваю пра гэта чытача.

*Пераклад Ірэны Ганецкай*

# Роля гістарычнай свядомасці ў палітыцы*

Тэадор Шнайдэр

## I

Што значыць гістарычны? Што мы маем на ўвазе, калі гаворым пра гістарычны дзень, гістарычнае рашэнне ці гістарычную падзею?

Відавочна, гэтае слова не заўсёды мае аднолькавы сэнс. Для француза 14 ліпеня ёсць гістарычным днём таму, што ён сімвалізуе штурм Бастыліі пад час французскай рэвалюцыі. З іншага боку, мы часта чытаем, што сённяшні ці заўтрашні дзень гістарычны таму, што ў гэты дзень будзе прынята «гістарычнае» рашэнне. У такім кантэксце дадзенае слова можа толькі азначаць, што рашэнне з'яўляецца паваротным момантам з пункту гледжання і мінулага і будучага. Гэтае значэнне меў на ўвазе Арнольд Гелен, калі вызначаў гістарычную свядомасць як здольнасць бачыць эпахальнае значэнне падзеі, што адбываецца цяпер; інакш кажучы, бачыць падзею вачыма будучых генерацыяў. Для Гелена, такім чынам, сутнасць гістарычнай свядомасці палягае не проста на запамінанні і перадачы мінулага, але на тым, як мы бачым цяперашняе[1]. Такім чынам, гістарычная свядомасць выходзіць за межы выключнай цікавасці да таго, што адбылося ў мінулым і стала гісторыяй. Яна таксама прадугледжвае выкарыстанне набытых ведаў у якасці элемента ў фармаванні ідэй і дзеянняў, якія вызначаць будучыню. Гістарычная свядомасць не абмяжоўваецца рэтраспектыўным разважаннем, але робіць высновы з мінулага і прымяняе іх для дасягнення мэтаў,

* Schneider, Theodor. Politisches Handeln aus Historischem Bewusstsein // *Historische Zeitschrift*. 220 (1975), 4—35. Гэтае эсэ ўпершыню прачытана як лекцыя на публічным сходзе Orden Pour le Mérite für Wissenschaften und Künste 29 мая 1974 г. у Боне і было надрукавана ў яго *Reden und Gedenkworte*, vol. XII (Heidelberg: Lambert Schneider, 1976), 65—91. Для публікацыі ў *History and Theory* (Vol.XVII, Nr.4, Beiheft 17, 1—18), адкуль тэкст узяты для нашага перакладу, эсэ было пашырана і забяспечана спасылкамі.

[1] Gehlen A. Urmensch und Spätkultur (Bonn, 1956), 258. Заўвага Токвіля ў *De la Démocratie en Amérique*, Part 4, Chap. 8 — „Le passé n'éclairant plus l'avenir, l'espirit marshe dans les tenèbres" — адлюстроўвае ўсведамленне страты сувязі паміж мінулым і будучым. Р.Казелек цытуе гэтую заўвагу ў сваёй „Historia Magistra Vitae" у *Natur und Geschichte:* Karl Löwith zum 70. Geburtstag (Stuttgart, 1976), 201 і 214.

што знаходзяцца ў будучым. Такі кірунак мыслення прымушае нас бачыць не проста выпадковыя сувязі, але моцную ўзаемазалежнасць паміж палітычнай практыкай і гістарычнай свядомасцю.

Вядома, было б неразумна сцвярджаць, што палітыкі ўсведамляюць увесь свет мінулага, як мы ведаем яго з гісторыі. Тут таксама трэба памятаць пра два значэнні слова гісторыя. Гісторыя можа ўздзейнічаць на нас непасрэдна праз падзеі, якія ўплываюць на наступныя пакаленні, пакідаць за сабой раны і ўяўляць сабой рэальныя ці ўяўныя кульмінацыі. Але таксама на нас уплываюць, па–іншаму і больш апасрэдавана, нашыя веды пра мінулае, г.зн., гісторыя як навука, якая паказвае нам мінулае, апрацаванае ў працэсе мастацкага ўзнаўлення і, нарэшце, пры дапамозе навуковага метаду. Гуга фон Гофманшталь, гаворачы пра „праклятую ўладу нашых таямнічых продкаў унутры нас“ і пра „нагрувашчаныя слаі акумуляванай калектыўнай памяці“, меў на ўвазе першае значэнне паняцця гісторыя[2]. Гэтая калектыўная памяць свядома ці несвядома ўплывае як на рашэнні індывідаў, так і на калектыўныя паводзіны вялікіх грамадскіх сілаў, што дзейнічаюць у гісторыі, г.зн., нацыяў, дзяржаў, станаў і класаў — групаў, якія, паводле нашага меркавання, функцыянуюць як самастойныя арганізмы і вызначаюць сферы дзейнасці асобы, а часам і абмяжоўваюць іх. Спрэчкі наконт таго, як узаемадзейнічаюць індывідуальнае і грамадскае прыняцце рашэнняў, яшчэ не скончыліся, але без ваганняў можна сказаць, што існуе базавы гістарычны вопыт, які відавочна ўплывае на ментальнасць групаў. Такі вопыт можа прыводзіць да супярэчлівых ацэнак ці да працяглых антаганізмаў унутры нацыі.

Французская рэвалюцыя з яе важнымі доўгатрывалымі наступствамі — выдатны прыклад такога роду. Супярэчлівае стаўленне да французскай рэвалюцыі не змяняе факту, што яна была і застаецца агульным базавым гістарычным вопытам і для апалагетаў і для апанентаў, і што гэтая рэвалюцыя ўплывала і працягвае ўплываць на палітыку. У гісторыі кожнай нацыі ёсць такі вопыт. Ён можа доўга жыць у нацыянальнай свядомасці, можа паступова забывацца і выцясняцца іншым вопытам, можа быць прыглушаны. Немагчыма прадбачыць, як ён будзе асіміляваны: тут заўсёды чакаюць сюрпрызы. Падзеі вялікай гістарычнай значнасці могуць хутка забывацца, у той час як іншыя, што сучаснікі лічаць неістотнымі, працягваюць заставацца ў памяці. Такім чынам, сучаснікі разумеюць і ацэньваюць гістарычныя падзеі часам няслушна. Еўрапейцы разглядалі 1918–19 г. ў кантэксце перамогі нацыянальнай дэмакратыі. Дадзены аспект быў несумненна важным тады, але такі

[2] Hofmannstal H. Ansprache gehalten am Abend des 10. Mai 1902 im Hause des Grafen Karl Lanckoroński // Gesammelte Werke, Prosa, vol. II (1959), 27.

погляд ігнаруе дзве падзеі, што, як мы бачым сёння, засведчылі надыход новай эпохі, а менавіта расейскую рэвалюцыю і канец еўрапейскай гегемоніі. Пасляваенны погляд на 1918–19 г. прывёў проста да катастрафічнага нежадання кантынентальных еўрапейскіх дзяржаваў — спачатку Францыі, пазней і больш відавочна Нямеччыны — прызнаць гэтую змену. Такім чынам, няслушная інтэрпрэтацыя гістарычных падзей можа прывесці да палітычнай катастрофы.

Калі сапраўды гістарычная свядомасць (ці тое, што мы часам можам больш дакладна назваць гістарычнай несвядомасцю) абумоўлена падзеямі ў мінулым, то аднолькава справядліва і тое, што гісторыя, узятая як сукупнасць ведаў пра мінулае, захаваных праз час і апрацаваных навуковымі метадамі, фармуе гістарычную свядомасць, толькі па–іншаму. Сучасная навуковая думка адкрыла сферу несвядомага і навучыла нас лічыцца з тым, што завецца калектыўнай памяццю. Але рацыяналізм, прапанаваны гэтым навуковым метадам, таксама прымушае разглядаць гістарычныя падзеі, не кажучы пра іх ананімнасць і складанасць, як прадукты дзеянняў і прычынных сувязяў, даступных для разумення, разбураць легенды і міфы, і, па словах Макса Вэбера, спрыяць дэмістыфікацыі свету. Такую крытычную функцыю гістарычная навука працягвае выконваць і сёння: яна павялічвае нашы веды, але ў той жа час змяншае ананімную ўладу мінулага[3]. Непасрэдны абавязак гісторыі — вызваляць наш погляд на мінулае ад прымхаў і скажэнняў і, такім чынам, паўней выясняць яе з усімі велічнымі і фальшывымі каштоўнасцямі, дабром, а таксама ўсёй шкоднасцю і злом, якія людзі зрабілі адзін аднаму. Толькі такі антрапалагічны погляд на гісторыю, што ўлічвае ўсе разнастайныя гістарычныя мутацыі чалавецтва, усе як пастаянныя, так і зменлівыя элементы чалавечай натуры, грамадства і культуры, можа сёння служыць падмуркам для вывучэння гісторыі і захавання ці абуджэння гістарычнай свядомасці там, дзе яна згублена.

З усімі гэтымі акалічнасцямі сутыкнешся нават тады, калі вывучэнне гісторыі лічыш толькі прыемным захапленнем антыкварыятам. Фрыдрых Ніцшэ пераканальна паказаў, што цікавасць да антыкварыя-

[3] Plumb J.H. Die Zukunft der Geschichte (München, 1971), моцна выяўляе гэта. Плюмб, які бачыць розніцу паміж мінулым і гісторыяй як вырашальны фактар сучаснай свядомасці, піша (104 і наступная): „Гісторыкі слушна спяшаюцца разбурыць тое мінулае, да якога грамадства так часта звярталася ў пошуках самасцвярджэння ці апраўдання, ці і таго і другога. Гэта крытычная, дэструкцыйная роля ўсё яшчэ важная; ілюзіі наконт мінулага яшчэ існуюць у вялікай колькасці, нават сярод прафесіяналаў. Але змены ў самім грамадстве вызвалілі гісторыка, як і астатніх членаў грамадства, ад апантанасці мінулым“.

ту — галоўны элемент захаплення гісторыяй. Але ці толькі адзін гэты элемент здольны ўплываць на палітыку ва ўсіх яе формах? Колькі чалавек разважае наконт гісторыі, столькі існуюць два дыяметральна супрацьлеглых погляды, якія практычна сталі догмамі. Адзін трактуе гісторыю ў кантэксце выказвання Цыцэрона: *historia magistra vitae*[4]. Другі пастулюе, што вывучэнне гісторыі не служыць ніякай мэце і не дае ніякіх урокаў цяперашняму. Гегель, несумненна верачы, што незалежна ад дзеянняў людзей у гісторыі паступова ўсталюецца ўсведамленне свабоды, сфармуляваў гэты другі погляд у наступным шырока вядомым выказванні: «Вопыт і гісторыя, аднак, паказваюць, што нацыі і ўрады ніколі нічому не вучацца ў гісторыі, і што ў сваіх дзеяннях яны ніколі не звяртаюць увагі на ўрокі, якія магла б прапанаваць гісторыя»[5]. Калі паглядзець на ўсё сказанае за апошняе стагоддзе пра рухальную сілу гісторыі, яе палітычную непрыдатнасць і палітычную аўру, негатыўныя аргументы і па колькасці, і па пераканальнай сіле прыкладна настолькі ж моцныя, як і пазітыўныя. Я не хачу спрашчаць сабе задачу, ігнаруючы пярэчанні маёй пазіцыі, і таму згадаю тут некаторыя аргументы, прыведзеныя супраць немагчымасці выкарыстання гісторыі ў жыцці і дзеяннях людзей.

Найперш я хачу спыніцца на дэфармаванай свядомасці, якая лічыць, што ўсе намаганні чалавецтва ў гісторыі марныя, што найлепшыя з чалавечых памкненняў тармозяцца сілай абсалютнага эгаізму, што ўсе змены захлынаюцца ў інэртнасці, і што велізарныя ахвяры чалавечага жыцця і матэрыяльных даброт маюць вынікам мінімальныя паляпшэнні. Сярод сучасных гісторыкаў прадстаўніком такога песімістычнага погляду быў Якаб Буркхарт. У раздзеле яго *Weltgeschichtliche Betrachtungen* („Сусветна–гістарычных назіранняў“), прысвечаным гістарычным крызісам, ён піша пра амаль татальнае рас-

[4] Поўную цытату можна знайсці ў *Cicero, De oratore libri tres,* ed. A.S.Williams (Oxford, 1892), II, 36, p.245: „Historia vero testis temporum, lux vertatis, vita memoriae, magistra vitae, nuntia vetustatis, qua voce alia nisi oratoris immoralitati comendatur?“ Р. Казелек цытуе гэты ўрывак ў сваім артыкуле „Historia Magistra Vitae“, 198.

[5] Hegel G.W.F. Vorlesungen über die Philosophie der Weltgeschichte, vol.I: Einleitung: Die Vernuntf in der Geschichte, ed. G.Lasson; 5th ed., ed. Hoffmeister (Hamburg, 1955). Глядзі „Besondere Einleitung: die verschiedenen Arten der Geschichtsbetrachtung“. Важнае тлумачэнне, якое ідзе за цытаваным вышэй сказам: „Кожная нацыя існуе ў такіх індывідуальных умовах, што яна павінна і будзе прымаць рашэнні на аснове свайго быцця, і толькі нехта з вялікім і моцным характарам вырашыць слушна. Нацыі жывуць у такіх індывідуальных абставінах, што ранейшыя абставіны не адпавядаюць поўнасцю пазнейшым, таму што ўмовы цалкам змяніліся“.

чараванне, якое звычайна спадарожнічае ўздымам рэвалюцыяў. «Цяпер людзі цярпліва пераносяць самыя гнюсныя ўрады і церпяць рэчы, якія зусім нядаўна прымусілі б іх узняцца са зброяй у руках». Іншы аргумент супраць гісторыі такі. Яе памяць у захаванні сапраўды каштоўнага капрызная і непрадказальная. Фальшывае можа жыць доўга, сапраўднае ж можа быць забыта. Але нярэдка адрозніць адно ад другога цяжка, бо адно можа ператварацца ў другое. «Звычайны лёс новых ісцінаў: пачынаюць як ерасі і сканчаюць як забабоны». Конрад Лорэнц цытуе гэты сказ Томаса Хакслея[6].

Але найбольш красамоўны аргумент супраць гісторыі сфармуляваў Фрыдрых Ніцшэ. Ніхто ніколі не выказаў яго магутней. У раздзеле сваёй *Thoughts Out of Season* („Несваечасовыя думкі") пад загалоўкам «Аб карыснасці і недахопах гісторыі для жыцця» ён некалькі разоў звяртае ўвагу на разбуральныя для жыцця наступствы, якія былі вынікам лішку гістарычнай свядомасці ў выпадках, калі такі лішак дамінаваў і ў сістэме адукацыі, і ў грамадскай думцы. Дапускаючы, што існуе сіла ажыўляць мінулае і бачыць бягучыя падзеі ў свеце гісторыі, якая складае аснову чалавечай прыроды, Ніцшэ таксама заяўляе, што лішак гісторыі можа разбураць нашу чалавечую прыроду: «Пры пэўным узроўні слепаты мыслення і гістарычнай свядомасці жыццёвы імпульс у індывідзе, у нацыі ці ў культуры будзе цярпець і нарэшце памрэ».

Цяжка пераацаніць тое, як доўга быў актуальны гэты погляд Ніцшэ. Калі ён толькі сфармуляваў яго, быў, несумненна, самотным ваяром, а тыя, хто атакаваў яго (гісторыкі, якія атрымлівалі асалоду ад залатога веку гістарызму), лічылі, што знаходзяцца ў поўнай бяспецы. Але пазней апаненты пачалі ставіць такое ж кляймо, хоць некаторыя з іх самі былі прадуктамі гістарызму. Ніхто не адчуваў крызісу гістарызму так глыбока, як філосаф гісторыі Эрнст Трольч. Праблему гістарызму ён бачыў у рэлятывізацыі ўсіх каштоўнасцяў і змагаўся з гэтай праблемай усё сваё творчае жыццё. «Гісторыя, — пісаў Трольч, — прымушае нас падыходзіць да тэрмінаў, памятаючы пра перманентную і аўтарытарную сістэму каштоўнасцяў, якая падобна, аднак, падарвана і канчаткова разбурана патокам самой гісторыі»[7]. Трольч выказаў гэта ў сярэдзіне дваццатых гадоў, разважаючы над тым, як глыбока паўплываў на яго вопыт I сусветнай вайны і пасляваенных сацыяльных і палітычных зрушэнняў.

[6] Lorenz K. Die Rückseite des Spiegels: Versuch einer Naturgeschichte menschlichen (Munich, 1973), 315.

[7] Эрнст Трольч у параграфе, названым „Этыка і філасофія гісторыі" (Ethik und Geschichtsphilosophie") у *Der Historismus und seine Überwindung* (Berlin, 1924; reprint, 1966), 3. Падрабязней па гэтай праблеме глядзі Troeltsch E. *Der Historismus und seine probleme,* T.I (Tübingen, 1922).

Застаецца толькі чакаць, што, сутыкнуўшыся з куды больш небяспечнымі працэсамі, гэтая пазіцыя будзе даведзена да яшчэ большай скрайнасці. Сярод яркіх прадстаўнікоў дадзенай плыні можна назваць Карла Лёвіта і Поля дэ Валеры[8]. Заўважым, аднак, што іх пазіцыя карэнным чынам адрозніваецца ад пазіцыі Ніцшэ. Ідучы следам за Бэнэдэто Крочэ, Лёвіт[9] гаворыць пра лёс сучаснага чалавека ў гісторыі як пра «апошнюю рэлігію інтэлігенцыі» і лічыць гэты лёс «глухой алеяй», бо ён прытупляе ўспрыманне людзьмі «пастаянства асноўных чалавечых патрэб і пачуццяў, моцы і слабасці». За абвінавачаннямі такога кшталту стаіць папрок заходнееўрапейскіх аўтараў і вучоных у бок гістарызму. Рэлятывізуючы каштоўнасці, сцвярджалі яны, гістарызм прывёў Нямеччыну ў прорву нігілістычных тэндэнцыяў, а менавіта яны сталіся прычынай адмаўлення немцаў ад нормаў натуральнага права, якое змацоўвала і ўнутраную палітыку, і грамадскае жыццё дзяржавы, і стасункі паміж дзяржавамі. Калі б усё было сапраўды так (я не думаю, што тут можна пагадзіцца без ніякіх агаворак), то мы атрымалі б яшчэ адну негатыўную ацэнку ўплыву гістарызму як перабольшанай формы гістарычнай свядомасці на палітычныя адносіны.

Апаненты, якія лічаць гісторыю непрыдатным падмуркам для палітычнай практыкі, прыводзяць яшчэ адзін аргумент: гісторыю можна павярнуць і прыстасаваць для любых магчымых мэтаў, нават дыяметральна супрацьлеглых. Паколькі карціна, якую дае гісторыя, ёсць суб'ектыўнай інтэрпрэтацыяй аб'ектыўных фактаў, сцвярджаюць яны, то мы можам зрабіць з гісторыі што заўгодна, і апеляцыя да гісторыі можа быць выкарыстана дзеля апраўдання любой палітычнай мэты. Тут я не кажу пра свядомае маніпуляванне і фальсіфікацыю гісторыі дзеля забеспячэння сумніўнага лагічнага абгрунтавання самых ганебных палітычных мэтаў. Таталітарныя рэжымы даюць нам бясконцыя прыклады такога кшталту. Нават у выпадках, дзе апеляцыя да гісторыі спантанная і мае на ўвазе поўную яе падтрымку, вынікі могуць даць менавіта

[8] Пра апошнія даследаванні Поля Валеры глядзі H.Angermeier, *Geschichte oder Gegenwart: Reflexionen über das Verhältnis von Zeit und Geist* (München, 1974), 105 і наступныя. Ангермаер быў першым, хто сур'ёзна звярнуў увагу на ролю Валеры як „магчыма самага вялікага ворага гісторыі ў сучаснасці".

[9] Löwith K. Mensch und Geschichte, у Gessamelte Abhandlungen (Stutthart, 1960), 152 і наступныя. Цытаты ў гэтым тэксце ўзятыя са с. 160—161. Гэтае эсэ, народжанае спрэчкамі паміж Лёвітам і Хайдэгерам, прадстаўляе самы важны даробак у нарматыўны і антрапалагічны погляд на гісторыю. З гэтага пункту гледжання толькі тое „існаванне, што ўжо не мае пэўнага месца ў татальнасці таго, што адбываецца дзякуючы прыродзе і таму засноўваецца цалкам на самім сабе і на сваім вымярэнні ў часе" можа называцца „гістарычным існаваннем (гістарычнай экзістэнцыяй)".

той інструмент, які неабходны для вырашэння канфліктаў паміж народамі і дзяржавамі. Гістарычныя аргументы ўмела выкарыстоўваліся на працягу нашага стагоддзя, напрыклад, для вызначэння франка–нямецкіх адносінаў як крывавай міжусобіцы.

Прымхлівы погляд, што Прусія ёсць «коранем зла ў Нямеччыне», як сказаў Чэрчыль яшчэ на Тэгеранскай канферэнцыі ў 1943 г.[10], адлюстраваны ў афіцыйных мемарандумах заходніх дзяржаўных дзеячаў, пачынаючы ад добра вядомага нямецкага мемарандума сэра Айры Кроў 1907 г.[11] да ноты Маршала Фроча (студзень 1919)[12] і Статута 46 Савета Саюзнага Кантроля, які загадваў зліквідаваць Прусію. Ва ўсіх гэтых выпадках прысутнічала гістарычная аргументацыя. Такім чынам, якой бы ні была праблема (нямецкая знешняя палітыка, прычыны I сусветнай вайны ці палітыка агрэсіі Гітлера), яе разглядаюць як яшчэ адно звяно ў паслядоўным ланцугу падзеяў, што з'яўляюцца сведчаннем адной і той асноўнай гістарчынай сілы, і значнасць праблемы без усялякай меры перабольшваецца.

Падобныя скажэнні знаходзім, калі аналізуем нямецкія заявы (нават некаторыя заявы Бісмарка) наконт стасункаў Нямеччыны з Францыяй. У якасці класічнага прыкладу можна ўзяць заяву, зробленную пад час Рэйнскага канфлікту 1840–41 г. Гельмутам фон Мольтке, які пазней узначаліў прускі штаб і меў добрыя працы.

Мольтке напісаў сваё эсэ «Die westliche Grenzfrage» („Праблема заходняй мяжы“) у адказ на французскія тэрытарыяльныя прэтэнзіі на захад ад Рэйна[13].

Ігнаруючы вопыт двух тысячагоддзяў цеснай нацыянальнай блізкасці, Мольтке абвінавачвае французаў у тым, што яны адмаўляюцца прыняць іх, немцаў, слушную пазіцыю, што яны схільныя да насілля і што пагарджаюць цвярозым разважаннем, розумам, справядлівасцю і шчырасцю. «Вывучэнне гісторыі квітнее як у Францыі, так і ў Нямеччыне. Французам адкрыты тысячы шляхоў і сцежак разумець, але яны настолькі кіруюцца сляпымі пачуццямі, што наўмысна трымаюцца ілюзіі

[10] Teheran, Yalta, Potsdam: Die sowjetischen Protokolle von den Kriegskonferenzen der „Grossen Drei“, ed. A.Fisher (Cologne, 1968), 84.

[11] Перадрукавана ў *British Documents on the Origins of the War 1889 to 1914, vol.III*: The Testing of the Entente 1904–1906 (1928), 397 і наступныя.

[12] Нота ад 10 студзеня 1919 г. да паўнамоцных прадстаўнікоў саюзных і асацыяваных дзяржаваў перадрукавана ў *Documents relatives aux négotiations concernant les garanties de sécurité contre une aggression de l'Allemagne* (1924). Самы важны ўрывак гаворыць: „L'Allemagne de 1914 était le résultat d'un travail soutenu de 150 ans, commencé par Frédéric II, méthodiquement continué par ses successeurs et qui avait abouti à prussianiser l'Allemagne“.

[13] Moltke H. Gesammelte Schriften und Denkwürdigkeiten, vol.II: Vermischte Schriften (Berlin, 1892), 171 і наступныя.

і адмаўляюцца бачыць праўду, нават ясную, як дзень». Тут Мольтке апелюе да вывучэння гісторыі таму, што яна вучыць бачыць праўду, але толькі ў той меры, наколькі ён сам зацікаўлены, і адзіная ісціна, якую французам трэба прызнаць, — ягоны погляд на рэйнскую спрэчку. Палітычны канфлікт вакол дзяржаўнай мяжы інтэрпрэтуецца як канфлікт вакол гістарычнай праўды. Такое некарэктнае прымяненне гісторыі ў барацьбе паміж дзяржавамі часта паўтаралася ў Еўропе XIX ст., і не толькі XIX ст. Калі б і дзе б такая мадэль ні выкарыстоўвалася, вынікі былі тыя ж: гісторыі надаваўся статус «нацыянальнай» дысцыпліны, і яе ўздымалі як зброю ў абароне нацыянальных інтарэсаў. У выніку гісторыю ўцягваюць у вір нацыянальных і нацыяналістычных жарсцяў. Як навука, яна расплочваецца сваёй аб'ектыўнасцю ў пошуку адзінай ісціны і становіцца простым рупарам шматлікіх ісцінаў. Гэта смяротны грэх, які найбольш шкодны для гісторыі як навукі, і мы не можам з чыстым сумленнем сцвярджаць, што ўжо пазбавіліся яго.

Але існуе шэраг іншых прычынаў, прынамсі цяпер яшчэ больш відавочных, чаму наша гістарычная свядомасць зацерлася ці нават апынулася пад пагрозай поўнай страты. Па–першае, назіраюцца парушэнні палітычнай традыцыі, і ў Нямеччыне яны адчуваюцца магчыма больш, чым у іншых краінах. Далей, адбываецца трансфармацыя ўсіх нашых палітычных і грамадскіх абставінаў.

Палітычна свет яшчэ мяняецца і яшчэ не дасягнуў стану стабільнасці, але няма сумнення, што палітычнае сузор'е, якое развіваецца, будзе радыкальна адрозніваццa ад аналагічнага ў XIX ст. Нарэшце, умовы нашага жыцця знаходзяцца цяпер у стане відавочнага рэвалюцыйнага працэсу, напрыклад, урбанізацыі грамадства ў індустрыяльных краінах, узрастання мабільнасці насельніцтва і змены функцыяў сям'і і ўсіх сацыяльных груповак, якія ўтварыліся ў ранейшых сацыяльных умовах. Наша палітычная свядомасць прыніжае мысленне ў катэгорыях традыцыі. Наадварот, палітыка і кіраванне зарыентаваныя на ідэю планавання, прыкладаюцца рацыяналістычныя намаганні ўсталяваць свае нормы, як тое адбываецца з тэхналогіяй, стаўшай вядучай сілай ва ўсіх сферах. Навошта ў гэтай сітуацыі гістарычная свядомасць? Для каго яна ўяўляе хоць якую–небудзь каштоўнасць? І ўсё ж трэба ўсвядоміць, што гэта не ёсць праблемай выключна нашага часу, бо з'явілася яна на першай асноўнай фазе індустрыялізацыі. Дзіўная рэч, канешне, што менавіта ў той перыяд гістарычная навука і адчуванне гісторыі дасягнулі свайго піку. 1850–я г. бачылі, як у Нямеччыне адбыўся першы вялікі штуршок індустрыялізацыі, тады ж, у 1850–я г. кульмінацыі дасягае нямецкая гістарыяграфія. У палітычнай думцы таго часу гістарычныя аргументы, сімвалы і традыцыі мелі не меншую вагу, чым эканамічная мэтазгоднасць. Без усялякіх

агаворак і з неадольным пафасам сярэднявечныя канцэпцыі кайзера і райха былі выкарыстаны ў ідэі нацыянальнай дзяржавы, якая карэнным чынам адрознівалася ад дзяржавы Сярэднявечча.

Растлумачыць гэтую з’яву можна. Гістарычная думка выконвала кампенсуючую функцыю, аднаўляючы фактычную страту гісторыі перабольшваннем гістарычнай свядомасці. У той час, калі сярэднявечныя гарады і іх незлічоныя гістарычныя помнікі знікалі ў выніку першай хвалі урбаністычнай экспансіі і індустрыялізацыі, вучоныя вышуквалі найбольш аддаленыя і цяжкадаступныя дакументы старажытнай гісторыі. Больш важную выснову з гэтага працэсу бурных пераменаў зрабіў Якаб Буркхардт. Зваротны перыяд, што пачаўся, як і рэвалюцыйная эра, з 1789 г., — думаў Буркхардт, мусіў стварыць супрацьвагу сучаснасці, калі яна ўвогуле здолее захаваць ментальную раўнавагу. «Толькі раздумваючы над мінулым, можна знайсці маштаб для вымярэння хуткасці і сілы руху, у якім жывем мы самі»[14]. Такое разуменне гісторыі як прылады для вымярэння часу і руху ў цяперашнім, што падвяргаецца любой паскоранай змене, можа і сёння служыць апраўданнем для гісторыі. Нам застаецца толькі развіць ідэю Буркхардта яшчэ на крок далей: роля гісторыі не абмяжоўваецца функцыяй рэгістрацыі сучасных перамен, яна можа таксама служыць компасам, які дапамагае нам пракладваць шлях у будучыню. Як навука, гісторыя займаецца пераменамі, а не стабільнасцю.

## II

Палітыка, якая бярэ пачатак у гістарычнай свядомасці, ніколі не з’яўляецца выключна дзеяннем індывідаў. На гістарычную свядомасць заўсёды глыбока ўплываюць нацыянальныя, сацыяльныя і палітычныя групы, у асяроддзі якіх яна фармуецца. Памяць гэтых групаў можа быць моцнай, нават гіпертрафаванай, або яна можа цягнуцца павольна, кульгаючы, далёка адстаючы ад рэальнасці гістарычных падзей. Стагоддзямі гішпанцы адмаўляліся прызнаваць, што яны страцілі становішча сусветнай дзяржавы. Нядаўна французы і немцы зрабілі тое ж самае. Прыклад усіх трох паказвае, да якой ступені неадпаведны гістарычны традыцыяналізм можа дэзарыентаваць палітыку нацыі. Англічане, з іншага боку, нягледзячы на вялікую традыцыйную сілу іх палітычных формаў, рэагавалі на перамены ў свеце з вялікай гнуткасцю. Францыя і Англія даюць вельмі розныя прыклады таго, як прынцыпы, выведзеныя з мінулага, дапамагаюць перажыць змены ў нацыянальным лідарстве. Гістарычная свядомасць можа падказаць актыўным палітыкам патрэбу

[14] Burckhardt J. Weltgeschichtische Betrachtungen, Einleitung 2, y: Werke, IV. Darmstadt, 1956.

ў пераменах, а можа прымусіць іх яшчэ больш заўзята чапляцца за старое, баючыся згубіць свае пазіцыі. Часам законы, народжаныя пэўнымі гістарычнымі сітуацыямі, аказваюцца абсалютна непрыдатнымі ва ўмовах змены. Вось прыклады такога кшталту: ізаляцыянізм Злучаных Штатаў, ангельская ідэя балансу ўлады, французскія прэтэнзіі на гегемонію ў Еўропе, месіянства немцаў.

Нацыі дэманструюць надзвычай разнастайныя адносіны да сваёй гісторыі, і яны адводзяць ёй (як навуцы і як інтэлектуальнай сіле) розныя месцы ў сваёй інтэлектуальнай гаспадарцы. У XIX ст., вялікай эры гістарыяграфіі, у Францыі і ў Нямеччыне гісторыя выконвала розныя ролі. У Францыі яна была часткай літаратуры, але магчыма самым важным было тое, што яна мела цесную сувязь з палітыкай. Большасць французскіх гісторыкаў таго часу (Гізо, Токвіль, Цьер) знаходзіліся на пасадах міністраў, часта ў вырашальных сітуацыях, і іх гістарыяграфічныя працы нельга аддзяліць ад іх палітычнай дзейнасці. З'яўляючыся гісторыкамі, яны пісалі як палітыкі; з'яўляючыся палітыкамі, яны дзейнічалі як гісторыкі. Нямецкая гістарыяграфія, нягледзячы на ўплыў моцных палітычных імпульсаў, ніколі не мела актыўнай ролі ў прыняцці палітычных рашэнняў. Франкфурцкую Нацыянальную Асамблею можна лічыць выключэннем, але яе поспех быў вельмі сумніўны. Гісторыя ў Нямеччыне заставалася акадэмічнай. Як занятак сярэдняга класу, яна была адасоблена ад палітычнай адказнасці ў дзяржаве, дзе лідарства традыцыйна належала бюракратыі і арыстакратыі. Уплыў, які мелі гісторыкі, не ішоў далей парадаў князям і прамоваў у парламентах. Яны ніколі непасрэдна не ўплывалі на саму палітыку.

Калі можна лічыць індывідаў прадстаўнікамі большых аб'яднанняў (напрыклад, нацыянальных і сацыяльных груп) ці папярэдніх пакаленняў, узятых у гістарычнай змене, тады шляхам аналізу некаторых рэпрэзентатыўных асобаў з ліку актыўных палітычных дзеячаў мы здолеем вылучыць розныя ўзроўні гістарычнай свядомасці. Цяпер паспрабуем зрабіць гэта, памятаючы, што дадзеныя нататкі не ёсць дасканалым ці сістэматызаваным аглядам. Для аналізу выбярэм усяго некалькіх палітыкаў розных эпох і перакананняў. Адзіным крытэрыем адбору будзе ўмова, што палітык аддаваў увагу сваім адносінам да гісторыі і ў нейкай форме выказваў свае думкі па гэтай праблеме.

Ота фон Бісмарк будзе ў нас прадстаўляць пазіцыю, што гісторыя ўвасабляе *лёс* дзяржаваў і асобаў[15]. Гэты погляд вырастае з рэлігійных

[15] Пра дзве ранейшыя працы па поглядах Бісмарка на гісторыю глядзі H.Wolff, *Geschichtsauffassung und Politik in Bismarcks Bewusstsein,* München, 1926, і V.Gitermann, Die geschichtphilosophischen Anschauungen Bismarcks // Archiv für Socialwissenschaft und Sozialpolitik, 51 (1924).

перакананняў, але таксама адлюстроўвае ідэі даўно ўсталяванага грамадскага класу, які адчувае свае карані ў кантынуітэце доўгай традыцыі і бачыць пагрозу гэтаму кантынуітэту толькі з боку звышнатуральнага ўмяшання, а не з боку іманентных зрухаў у гісторыі. Элемент непрадбачанага ў гісторыі не паралізуе волю да дзеяння, а наадварот, узмацняе яе да такой ступені, што яна гатовая выкарыстаць сілу, каб падтрымліваць традыцыйнае разуменне дзяржавы. Ніколі нельга быць упэўненым у поспеху такой спробы. Гісторыя як увасабленне эвалюцыйнага працэсу ў свеце заўсёды мацнейшая за чалавека, мацнейшая нават тады, калі гэты чалавек — дзяржаўны дзеяч. Праз усё сваё жыццё, ад маладых гадоў да старасці, Бісмарк пранёс перакананне, што гісторыю нельга рабіць. У палітыцы, казаў ён, мы вучым, «што мы можам быць такімі разумнымі, як найразумнейшыя людзі свету, і ўсё ж у любы момант, набліжаючыся да наступнага, можам аказацца ў становішчы дзіцяці, якое намацвае шлях у цемры»[16]. Канец гісторыі адкрыты: яна рэальнасць палітычнага жыцця як такога і без філасофскага покрыву, рэальнасць, аднолькавая і ў мінулым, і ў цяперашнім. Гэтая пазіцыя, нягледзячы на волю да дзеяння і на тое, што не кідаецца ў бок ад рэвалюцыйных рашэнняў, застаецца надзвычай кансерватыўным поглядам на гісторыю і палітыку.

Ленін, заснавальнік камуністычнай Расіі і вучань Маркса, разглядаў тэорыю Маркса пераважна як імператыў да рэвалюцыйнага дзеяння.

Паводле Леніна, гісторыя ёсць рэалізацыяй непазбежнага працэсу, у якім мінулае, цяперашняе і будучае з'яўляюцца не чым іншым, як стадыямі развіцця, існаванне якіх можна навукова даказаць. Ленін думаў, што вера ў непазбежнасць такога развіцця можа паралізаваць рэвалюцыйнае дзеянне. За гэты грэх ён асуджаў усіх эканамістаў і рэвізіяністаў, і ў сваіх дзеяннях часта выходзіў за межы артадаксальнага гістарычнага матэрыялізму. Леніну не ўдалося пазбегнуць сюрпрызаў і нечаканасцяў, але ён заўсёды быў здольны ўключыць іх у сваю тэорыю прадвызначанага развіцця сусветнага рэвалюцыйнага руху. Яго гістарычная свядомасць была прадуктам радыкальнага звышспрошчанага погляду на гісторыю як сусветна–гістарычную барацьбу паміж рабамі і рабаўладальнікамі. Гэтая перспектыва выхавала ў ім пачуццё знаходжання на водападзеле сусветнай гісторыі, і ў 1921 г., у 4–ю гадавіну кастрычніцкай рэвалюцыі, Ленін выказаў гэтае адчуванне словамі, якія ўражваюць сваёй саманадзейнасцю і дзёрзкасцю[17]. Упершыню за стагоддзі і тысячагоддзі, заявіў Ленін, надзея, што рабы ўсіх нацыяў

[16] Ліст ад 20 ліпеня 1864 г., Gessamelte Werke, Freidrichsruh edn., vol.XIV, Part II, 672.

[17] Lenin V. Werke, XXXIII (Нямецкі пераклад па чацвёртым расійскім выданні, 1963, 29—37), с.889 і наступныя.

могуць паўстаць са зброяй у руках супраць рабаўладальнікаў усіх нацыяў, ператварылася з блытанай і бяссільнай мары ў ясна вызначаную праграму. Гэтая праграма атрымала канкрэтную форму актыўнай барацьбы прыгнечаных мільёнаў пад кіраўніцтвам пралетарыяту. Яна прывяла да першай перамогі пралетарыяту, да першай перамогі на шляху да знішчальнай вайны, да першай перамогі саюза рабочых усіх нацый над саюзам буржуазіі розных нацый. Паводле Леніна, гістарычная свядомасць — сінонім сусветнай рэвалюцыі. Парадокс, аднак, у тым, што задача гэтай рэвалюцыі — вызваленне ад гісторыі.

Гэтая прамова Леніна дэманструе схему, на якой грунтуецца камуністычная канцэпцыя гісторыі. З часам яна, канешне, будзе дапаўняцца іншымі элементамі, асабліва нацыянальнымі, але асноўны змест гэтай канцэпцыі застаецца нязменным. Вывучэнне гісторыі ніколі не бывае проста тэарэтычным, а, наадварот, само па сабе ёсць практыкай, што адкрыта абвяшчае сваю прыхільнасць да ўсталявання прадвызначанай і таму прадказальнай мэты рэвалюцыі, як і яе прамежкавых пунктаў. У гэтым працэсе любое паглыбленне ў гісторыю працуе на канчатковую мэту і адначасова служыць сродкам яе дасягнення. Не далей як у 1973 г. член савецкай Акадэміі навук сказаў, што гісторыя не толькі пацвердзіла слушнасць сацыялістычнага развіцця, але таксама як навука была самым аўтарытэтным прапагандыстам слушнасці абранага Савецкім Саюзам і іншымі сацыялістычнымі краінамі шляху[18].

Нацыянальнае вызваленне і гісторыя як яго інструмент былі лозунгамі руху нацыянальнага лібералізму і ліберальнай дэмакратыі ў XIX і пачатку XX ст. Гэты рух пачынаўся як рух нацыянальнага абуджэння, як рысарджымэнта; і, азіраючыся назад на нацыянальнае мінулае і адкрываючы раннюю нацыянальную гісторыю, ён спрабаваў знайсці апраўданне будучыні нацыі. Нацыя пачынала аднаўляцца са свайго мінулага. Цягам амаль паўтараста гадоў гэты рух спараджаў выдатных дзеячаў амаль у кожнай еўрапейскай краіне. За прыклад можна ўзяць Томаша Масарыка, першага прэзідэнта Чэхаславацкай рэспублікі, які лічыў нацыянальнае абуджэнне галоўным прынцыпам, агульным для ўсяго чалавецтва, прынцыпам, які не супярэчыць гуманітарнаму, касмапалітычнаму і інтэрнацыянальнаму памкненням. «Гісторыя паказвае, — казаў Масарык у кароткім эсэ, напісаным пад час І сусветнай вайны[19], — што ў Еўропе развіваюцца нацыянальныя дзяржавы. Гісторыя

[18] Куропятник Г.К., Безруков А.В. Против реакционной идеологии // Вестник Академии наук СССР, 1973, 11, 102–104. Я ўдзячны Гюнтэру Шцёклю за тое, што ён звярнуў маю ўвагу на гэтае выказванне.

[19] Masaryk T.G. Das Problem der kleinen Völker in der europäischen Krisis, перакл. J.Reichmann (Prague, 1922), 25.

спрыяе не толькі вялікім, але таксама сярэднім і малым нацыянальным дзяржавам. Гісторыя спрыяе ўсім асобам і індывідуалізму як прынцыпу. Нацыі — натуральныя супольнасці падобных між сабой індывідаў, а дзяржавы, як больш штучныя ўтварэнні, усё больш і больш павінны адлюстроўваць нацыянальныя рэаліі». Пачынаючы з Гердэра, перыядычна гучала тэза наконт супярэчнасці нацыянальнага прынцыпу гуманітарным мэтам. Асабліва вылучаецца тут італьянец Джузэпэ Мадзіні. Цяпер дзяржаўны дзеяч невялікай нацыі сцвярджаў, што гісторыя прадстаўляе шлях і нацыянальнай, і сусветнай дэмакратыі, і ў якасці прыкладу на карысць сваёй тэорыі ён звяртаўся да гусітаў са сваёй чэшскай гісторыі як асабліва дарэчных сведкаў.

Калі маладыя нацыі ў гістарычнай памяці чэрпалі сілу для стварэння сваіх дзяржаў, то старыя нацыі, накшталт Францыі, нягледзячы на ўсе нягоды свайго мінулага, у велічы сваёй гісторыі знаходзілі пацвярджэнне сваёй трываласці. Шарль дэ Голь бачыў вечную, непарушную Францыю і ператварыў гэтую ідэю ў галоўны прынцып сваіх рашэнняў у часы крызісаў 1940–45 і 1958–62 г.

Гісторыя Францыі, як бачыў яе генерал дэ Голь, ёсць увасабленнем у рэальнасці французскай нацыі такой, якая яна ёсць цяпер, у ідэі Францыі, якая існуе па–за часам. Дэ Голь адкрывае апошні том сваіх мемуараў[20] словамі: «Францыя паўстае з пачаткам часу. Яна жыве. Вякі клічуць яе». Французская нацыя ўзгадавала незлічоныя пакаленні. «Яна ўзгадавала некалькі пакаленняў цяпер і народзіць нашмат больш. ... Калі ёй наканавана выжыць, то гэты саюз людзей павінен захавацца, на гэтай тэрыторыі і ў гэтым свеце, непарыўны кантынуум яе мінулага, цяперашняга і будучага. Вось таму дзяржаве, адказнай за кіраванне французскай нацыяй, даверана яе мінулае, клопат сённяшняга дня і яе надзеі на будучыню». Тон дэ Голя адрозніваецца ад тона прадстаўнікоў нацыянальнага абуджэння. Тут нацыю не трэба ствараць. Гэта жывая рэальнасць, якая існавала заўсёды. Спадзеючыся забяспечыць яе будучыню, дэ Голь звяртаецца да мінулага мовай амаль містычнай. Гістарычная свядомасць практычна падмяняе палітычныя рэаліі.

Тое, што Масарык і дэ Голь па–рознаму выкарыстоўвалі гісторыю дзеля падтрымкі нацыянальнага прынцыпу, падводзіць да пытанняў: ці такое звязванне гісторыі і нацыянальнага не ўцягвае і гісторыю і палітыку ў невырашальную супярэчнасць? Да якой ступені гістарычная свядомасць паспрыяла сучаснаму і да якой ступені была перашкодай?

[20] de Gaulle Ch. Memoiren der Hoffnung: Die Wiedergeburt 1958—1962 (Vienna, 1971), 9. А.Нічке разглядае тую ж праблему ў сваім эсэ „Leistungen der Geschichtswissenschaft“ у: Geschichte heute: Positionen — Tendenzen — Probleme, ed. G.Schulz (Göttingen, 1973), 58—59.

Ці не даў нам саюз нацыяў, незалежна ад таго, на якой аснове ён сфармаваны, такую новую Еўропу, якая патрэбна, нават калі мы не мелі гістарычных мадэляў яе фармавання? Разглядаючы гэтае пытанне, можна ўбачыць, што чым бліжэй мы падыходзім да сённяшняга дня, тым больш складанай становіцца функцыя гісторыі ў прыняцці палітычных рашэнняў. Галоўнай прычынай ускладнення з'яўляецца тое, што міжнародная палітыка сёння праводзіцца ва ўмовах пагрозы атамнага знішчэння, і яе нельга параўнаць з палітыкай ніякага з папярэдніх перыядаў. Ці можа гісторыя і яе веданне і надалей уяўляць сабой якую–небудзь каштоўнасць як дарадца, які дапамог бы нам адолець прорву паміж сёння і ўчора?

У дадзеным кантэксце я б хацеў разгледзець дзейнасць актыўнага сучаснага палітыка Гэнры Кісінджэра, бо ён уключыўся ў актыўнае палітычнае жыццё, распрацаваўшы спачатку вычарпальны тэарэтычны падыход да палітыкі і аб'яднаўшы на першы погляд несумяшчальнае: міжнародныя адносіны ў мінулым і ў атамную эру. Яшчэ і цяпер зарана ацэньваць практычнае прымяненне гэтай тэарэтычнай пазіцыі ў дзейнасці Кісінджэра–палітыка. Тут нас цікавіць іншае, у прыватнасці асноўная праблема, узнятая Кісінджэрам — якое значэнне можа мець гісторыя для палітыкі ў ядзерную эпоху? У сваёй ранняй працы па перыяду Метэрніха Кісінджэр піша: «Ніякія важныя высновы ў вывучэнні знешняй палітыкі — вывучэнні дзяржаў, якія дзейнічаюць як адзінкі — немагчымыя без усведамлення гістарычнага кантэксту»[21]. Тэза, выказаная ў *Nuclear Weapons and Foreign Policy* («Ядзерная зброя і знешняя палітыка»), напісанай некалькімі гадамі пазней, здаецца, супярэчыць гэтаму погляду.

Разбуральны патэнцыял сучаснага ўзбраення, пісаў Кісінджэр, ставіць дзяржаўных дзеячаў перад праблемай, характэрнай выключна для нашага часу: «Абсалютная бяспека больш немагчымая»[22].

Уяўная супярэчнасць паміж гэтымі дзвюма тэзамі знікае, калі зразумець, што Кісінджэр гаворыць толькі пра дзяржавы, якія з'яўляюцца суб'ектамі міжнароднай палітыкі. Пад дзяржавамі ён разумее дзяржавы мінулага і сучаснага, у тым ліку сённяшнія супердзяржавы, чыё паходжанне і існаванне гістарычна абумоўлена. Сузор'е, у якім яны знаходзяцца, нагадвае сузор'е еўрапейскіх дзяржаў з часоў французскай

[21] Kissinger H. A World Restored: Metternich, Castlereagh and the Problems of Peace 1812—1822 (London, 1957), 331.

[22] Kissinger H. Kernwaffen und auswärtige Politik (München, 1959; 2nd ed., 1974), 115. Першым аўтарам, які даследаваў кранутую тут мной праблему, быў Стэфан Граўбард: Stephen Graubard, Kissinger, Portrait of a Mind (New York, 1973); параўнай таксама: M.Kalb and B.Kalb, Kissinger (1974).

рэвалюцыі, у якім кансерватыўныя дзяржавы супрацьстаяць рэвалюцыйным. Паводле Кісінджэра, гэтае супрацьстаянне існавала з часоў Напалеона. Задача палітыка — ўмацоўваць раўнавагу паміж супрацьлеглымі сіламі. Калі дзяржавы будуць і далей захоўваць свой характар як гістарычна сфармаваныя адзінкі, то нават у свеце, дзе дамінуе рацыяналізм тэхнакратыі, у мінулым яны могуць знайсці сабе рэкамендацыі, але не могуць скапіяваць іх. «Гісторыя вучыць аналогіі, а не тоеснасці»[23]. Кропкі параўнання застаюцца, але яны набываюць велізарныя памеры. Кісінджэр мяркуе, што розніцу паміж татальнай і абмежаванай вайной, вызначаную Клаўзэвіцам, можна прымяніць і да атамнай вайны[24]. Масіраваны атамны адказ не з'яўляецца рэальнай пагрозай, таму што разам са знішчэннем ворага ён азначаў бы самазнішчэнне. У выніку Кісінджэр распрацоўвае канцэпцыю абмежаванай атамнай вайны, канцэпцыю, якая, відавочна, шмат чым абавязана гістарычным прыкладам, за адзіным выняткам: Кісінджэр аперуе паняццямі ядзернай стратэгіі. Галоўнае ў Кісінджэраўскім злучэнні гістарычнай і тэхналагічнай стратэгіі — выжыванне чалавецтва. Ён цалкам усведамляе гэта і несправядліва абвінавачваць яго ў „этычнай слабасці", меркаванне, якое Вайцзэкер перадаў іншым прыхільнікам „халоднакроўнай сучаснай стратэгіі"[25]. У кожным разе, трэба памятаць, што Кісінджэр лічыў выжыванне чалавецтва і прадухіленне сусветнага атамнага спусташэння магчымым толькі „пры ўмове выкарыстання гістарычных сродкаў", варыяцыя на тэму шырока вядомага выказвання Клаўзэвіца пра вайну.

Ва ўсіх пяці разгледжаных прыкладах агульнае тое, што кожная з прадстаўленых гэтымі асобамі палітычных пазіцый у вызначэнні сваёй палітыкі і фармулёўцы аргументацыі звяртаецца да гісторыі, хоць функцыі, адведзеныя ёй, ва ўсіх моцна адрозніваюцца. Будучыню можна бачыць у кантэксце фіксаванай рэвалюцыйнай мэты; яна можа быць адкрытым полем, у якім можа прымацца любая колькасць рашэнняў; ці яна можа быць аб'ектам законаў тэхналагічнай рацыянальнасці. Але ў кожным разе, будучыню нельга аддзяліць ад мінулага, якое стварыла яе. Актыўна аспрэчваецца палажэнне, што сінтэз паміж гістарычным

[23] Kissinger, A World Restored, 331.

[24] У *Kernwaffen und auswärtige Politik, 291,* Кісінджэр называе Клаўзэвіца „першым сапраўды *сучасным* вайсковым тэарэтыкам" і вывучае яго ўплыў на Леніна і асабліва Мао (290 і наступныя).

[25] Weizsäcker C.F. Der ungesicherte Friede (Göttingen, 1969), 111. Вайцзэкер відавочна тут не меў на ўвазе Кісінджэра. Палітыка Кісінджэра нашмат больш адпавядае паняццю Вайцзэкера „узгодненая біпалярнасць". На гэты конт параўнай таксама: C.F.von Weizsacker, Gedanken über unsere Zunkuft (Göttingen, 2nd ed., 1968).

мінулым і тэхналагічным будучым немагчымы. Яшчэ ў 1961 г. Гельмут Шэльскі прапанаваў мадэль тэхналагічнай дзяржавы[26], у якой больш не будзе ні ўрада як такога, ні выяўлення дэмакратычнай волі. Палітычныя рашэнні будуць не больш чым выбарам паміж палітычнымі дакументамі, а зместам палітычнай дзейнасці ў асноўным будуць канфлікты паміж экспертамі. У такім поглядзе цікавасць да гісторыі ёсць не чым іншым, як „метафізічным імкненнем да мінулага“ (слова „настальгія“ тады яшчэ не было модным). „Гістарычная рэальнасць больш не кіруецца гістарычнымі ідэямі, але законамі, уласцівымі рэканструкцыі свету сродкамі тэхналогіі, узятымі з прыродазнаўчых і грамадскіх навук“. У той час як Шэльскі абвяшчае свой погляд аб'ектыўным, іншыя лічылі яго выяўленнем бязмежнай надзеі на будучыню. Але ці магчыма яшчэ адчуваць такую бязмежную надзею сёння? У мінулым быў толькі страх сусветнай атамнай катастрофы, які падказваў надзею ў тэхналагічным прагрэсе. Сёння гэты страх ужо канцэнтруецца не толькі на праблеме ядзернага ўзбраення, але і на іншых працэсах, звязаных з тэхналагічным прагрэсам і індустрыяльным ростам. Сярод гэтых праблем наступныя: пагроза голаду шмат у якіх частках свету, асабліва ў краінах з хуткім ростам насельніцтва і мінімальнай эканамічнай базай; энергетычны крызіс; разбурэнне навакольнага асяроддзя — умовы для падтрымання чалавечага жыцця і яго якасці.

Гэтыя праблемы другарадныя ў параўнанні з галоўнай, якая абмяркоўваецца тут. Яна існуе незалежна ад таго, маюць спадарожныя праблемы нейкае дачыненне да аднаўлення гістарычнай свядомасці ці не. Тэхналагічны прагрэс вядзе да „новага самаадчужэння чалавека“, карыстаючыся словамі Шэльскага. Існуе пагроза яго выхаду за рамкі, устаноўленыя патрэбамі чалавечага жыцця і воляй чалавецтва да выжывання. Гэта значыць, што будучыня зноў становіцца сферай, у якой людзі як такія мусяць прымаць рашэнні, а не сферай, якую можна пакінуць ейным недахопам ды аўтаматызму тэхналагічнай цывілізацыі. Гэта значыць таксама, што ў нас ёсць магчымасць перадолець прорвы паміж мінулым, цяперашнім і будучым і аднавіць кантынуум, які, падобна, быў разарваны наданнем волі чыста тэхналагічным меркаванням. Магчыма такое змяненне ў свядомасці магло б аднавіць усведамленне чалавечай гісторыі як велізарнага рэзервуара, поўнага мадэляў жыцця, у якіх людзі працавалі і існавалі тысячагоддзі. Я не прапаную палёт ва ўтопію ідэалізаванага мінулага. Я заклікаю да аднаўлення кантынууму ў чалавечай гісторыі. Калі б гэты кантынуум быў часткай нашай свядо-

[26] Schelsky H. Der Mensch in der wissenschaftlichen Zivilisation, Arbeitsgemeinschaft für Forschung des Landes Nordrhein–Westfalen, Geisteswissenschaften, Heft 69 (Cologne and Opladen, 1961).

масці, то дзеючыя палітыкі маглі б абаперціся ў прыняцці рашэнняў на планаванне і памяць.

## III

Калі паглядзець на згаданыя вышэй палітычныя персаналіі і месца, адведзенае рознымі інтэрпрэтацыямі гістарычнай свядомасці ў канцэпцыях палітыкі, мы ўбачым відавочны і неаспрэчны кансэнсус сярод іх у поглядах на адносіны паміж палітыкай і гістарычнай свядомасцю. У Нямеччыне існуе шэраг фактараў, якія ставяць гэты кансэнсус пад сумненне: разрывы кантынуітэту ў гісторыі і традыцыі; некарэктнае выкарыстанне гісторыі, асабліва ў нацысцкай Нямеччыне, у якіх заўгодна мэтах; потым, пазней, радыкальны паварот да тэхналагічнай будучыні. У час, калі навуковыя дысцыпліны ацэньваліся і цяпер яшчэ ацэньваюцца на падставе магчымасці іх прымянення да грамадскіх і іншых патрэб (і ацэнкі такога кшталту, канешне, несправядлівыя ў дачыненні да імпульсу вольнага даследавання), „гістарызм“ лёгка спісаць з рахунку як бясплённае сузіранне гістарычных з’яў і як занятак для задавальнення ўласнай цікавасці ў іх вывучэнні. Ральф Дарэндорф[27] моцна сфармуляваў гэты погляд, сказаўшы, што вывучэнне гісторыі аказалася, у значным сэнсе, бясплённым. Яно не кажа, заяўляе Дарэндорф, што нам трэба рабіць, каб пазбегнуць памылак мінулага ці пераканацца ў тым, што рашэнні ў будучым будуць слушнымі. Конрад Адэнаўэр патрабаваў ад гісторыі нашмат больш. У першым томе сваіх мемуараў[28] ён дзівіцца гісторыку, які адмовіўся быць пракокам, здольным прадбачыць будучыя падзеі. Адэнаўэр адчуваў, што гісторык, асабліва спецыяліст па сучаснай гісторыі, павінен прынамсі спрабаваць, абапіраючыся на аналогіі з нядаўняга мінулага і нават з сучаснага, вызначыць, у якім накірунку могуць развівацца падзеі. У сваіх працах і выкладанні гісторык мусіць звяртаць увагу на тое, што верагодна адбудзецца і нават папярэджваць сваіх слухачоў пра тое, што набліжаецца.

За гэтымі процілеглымі меркаваннямі стаіць шэраг непаразуменняў адносна ролі, якую гістарычная свядомасць можа і не можа выконваць у палітыцы. У аснову чакання, што гісторык можа прадказваць будучыя падзеі, можа быць пакладзена адна з дзвюх пасылак: курс гісторыі цалкам прадвызначаны гістарычным *telos* або гісторыя паўтараецца. Гэтае апошняе дапушчэнне часта дапаўняецца поглядам, што прырода чалавека застаецца нязменнай і ўяўляе сапраўдную рухальную сілу

[27] Dahrendorf R. Gesellschaft und Demokratie in Deutschland (München, 1965), 33.
[28] Adenauer K. Erinnerungen 1945—1953 (Stuttgart, 1965), 13.

ў гісторыі. Кожная з тэзаў мела паслядоўнікаў у мінулым, але ніводная з іх, за магчымым выключэннем апошняй, не можа быць даказана эмпірычна, а значыць усе яны, такім чынам, застаюцца гіпатэтычнымі па сваім характары. Тэндэнцыя бачыць курс гісторыі як цалкам прадвызначаны пачала з'яўляцца сярод пазітывістаў XIX ст. Марксізм пераняў гэтую тэндэнцыю. Паралель з асноўнымі палажэннямі прыродазнаўчых навук відавочная. Калі мы лічым гісторыю цалкам дэтэрмінаванай, то пазбаўляем яе персаналістычных элементаў. Індывіды — усяго інструменты гістарычнага працэсу, а сам працэс паўстае адно з комплексу структураў, г.зн., са звышасабовых абставінаў і ўмоваў. Тое, што мы называем выпадкам, больш не выконвае ніякай ролі ў гісторыі. У слова „выпадак“ я ўкладваю значэнне, прапанаванае адным вучоным[29]. У святле тэорыі верагоднасці выпадак азначае блізкую да нуля верагоднасць таго, што адна падзея, як супрацьлегласць любой колькасці іншых, будзе мець месца. Цяпер, калі прыродазнаўства займаецца магчымасцямі ўзаемадзеяння закона выпадку (а біялогія аперуе менавіта гэтымі паняццямі на вышэйшых узроўнях даследавання, напрыклад, у дачыненні да пачатку жыцця), становіцца ясней, чым калі раней, што ў гісторыі, зразуметай як прадукт чалавечай дзейнасці, выпадак, ці, як яго назваў у адной са сваіх апошніх публікацый Карл Якаб Буркхарт[30], нечаканае, можа лёгка адыграць надзвычай важную ролю. Гэтай верагоднасцю, але не ёй адной, тлумачыцца факт, што галоўны пласт гісторыі, г.зн. самі падзеі, гэтак цяжка катэгарызаваць. Падзеі спантанныя і хаатычныя. Аднойчы пачаўшыся, яны могуць быць спыненыя, яны не адпавядаюць перыядычным прылівам і адлівам. „Выпадак“ і „супадзенне“, г.зн., разрывы ў ланцугу прычыны і выніку, здаецца, могуць мяняць іх ходу. Гэта не тычыцца працяглых падзеяў — *de la longue duree*, паводле французскай гістарыяграфіі. Што да такіх павольных у параўнанні з чалавечым жыццём зменаў, сітуацыя іншая — у адносінах, у падставовых формах грамадскага жыцця і ў эканамічных цыклах[31]. У гэтай сферы гісторыя можа прапанаваць рэкамендацыі, скіраваныя ў будучыню. Яшчэ ў першай палове XIX ст. Алексіс дэ Токвіль прадказаў уздым эгалітарнай дэмакратыі; а ў наш час Карл Яспэрс адзначыў сінхранізацыю асноўных паваротных пунктаў у высокай культуры, што вядзе да ўніфікацыі гісто-

[29] Eigen H., Winkler R. Ludus vitalis, у: Mannheimer Forum: Ein Panorama der Naturwissenschaften (1973—74), 96.

[30] Burckhardt K. J. Entdeckung des Unerwarteten, у: Geschichte zwischen Gestern und Morgen (München, 1974).

[31] Менавіта гэтае адрозненне прыводзіць добра вядомае выказванне з працы Якаба Буркхарта *Weltgeschichtliche Betrachtungen* да высновы, што гісторыя робіць нас не столькі разумнымі (наступны раз), колькі мудрымі (назаўсёды).

рыі чалавецтва. Той хто дзейнічае, зыходзячы з гістарычнай свядомасці, вымушаны думаць у вялікіх маштабах гэтых эпахальных тэндэнцыяў. Больш за тое, у фармаванні палітычных матэрыяў, у кантэксце якіх прымаюцца рашэнні, даводзіцца памятаць пра іх гістарычную якасць. Гістарычны элемент часта адзіны эмпірычны матэрыял, з якім працуе палітык. Мы не можам залежаць ад яго ў вызначэнні мэтаў, але ён можа дапамагчы вызначыць кірунак і метады дзеянняў. Прававая сістэма краіны можа быць эфектыўнай толькі тады, калі яна сыходзіць з грамадскага ладу, які атрымаўся ў выніку гістарычнай эвалюцыі. Гэта неабходна рабіць нават — і асабліва — тады, калі гэты лад падлягае змяненню. Адрозненні, што існуюць у асноўных праблемах сацыяльнай арганізацыі, напрыклад розныя пазіцыі не–белых мяншыняў у Лацінскай і Паўночнай Амерыцы, можна зразумець толькі гістарычна. Аналізу сучаснай сітуацыі недастаткова для забеспячэння эфектыўнай палітыкі.

Дзейнічаць, зыходзячы з гістарычнай свядомасці, — азначае таксама бачыць сваё мінулае такім, якое яно ёсць, не ідэалізуючы і не асуджаючы, але ўлічваючы яго ва ўсёй славе і ганьбе, як тое, што папярэднічала нашаму ўласнаму існаванню. Там, дзе гістарычная эвалюцыя перанесла вялікі разрыў, кантынуітэт, звычайна, можна аднавіць, калі будзе рашучы паварот ад эпізоду ў мінулым, які выклікаў разрыў. Калі ў Нямеччыне дваццаць пяць гадоў таму зноў прыкладаліся намаганні па стварэнні дэмакратычнай дзяржавы, мы былі абавязаны ўлічваць наступствы паразы нямецкай гісторыі пад час нацысцкага перыяду, не толькі наступствы ганарыстасці і той катастрофы, да якой яна прывяла, але таксама недахопы і інстытуцыйную слабасць, што вырашыла лёс нашай першай спробы дэмакратызацыі. Для таго, каб спаткаць традыцыю свабоды, нам давялося больш заглыбіцца ў гістарычныя пласты. У прамове ў Бундэстагу 12 верасня 1949 г.[32], у дзень абрання прэзідэнтам Федэратыўнай Рэспублікі Нямеччыны, Тэадор Гойс звярнуўся да таго моманту, разважаючы на тэму забыцця і памяці словамі, што паказваюць, як пачуццё гістарычнай свядомасці мацавала яго палітычную і маральную адказнасць. „Лёс быў ласкавы да нас як да індывідаў, падараваўшы здольнасць забываць. Як бы мог жыць кожны з нас, калі б увесь спазнаны боль, расчараванне і шкадаванне заўсёды жылі ў нас ва ўсёй сіле? І лёс быў ласкавы да нацыяў таксама, калі дараваў ім тую ж здольнасць забываць. Але баюся, што некаторыя немцы вельмі хочуць злоўжыць гэтай ласкай і забыць занадта хутка. Нам давядзецца сутыкацца з сіламі, якія прывялі нас у тое становішча, у якім знаходзімся. Я не кажу гэта з нянавісці ці помсты. Я спадзяюся, што мы ўсё ж здолеем адрадзіць з разгубленасці нашых душ адзінства людзей“.

[32] Heuss T. Die grossen Reden: Der Staatsmann (Tübingen, 1965), 92—92.

Я б хацеў скончыць іншай думкай, якая мае дачыненне да задачаў, паўстаўшых перад намі сёння. Тымі, каго хвалюе страта гістарычнай свядомасці, хто адчувае, што гэтая занепакоенасць вынікае не проста з захаплення антыкварыятам. Наша трывога — за будучыню. Калі гістарычная свядомасць адмаўляецца і не ўлічваецца ў нашым інтэлектуальным планаванні, яна не проста памрэ. Яна расквітнее ненармальным спосабам і створыць свой асаблівы свет, у якім будуць квітнець легенды, і гістарычная праўда будзе разбурана фальшывымі карцінамі мінулага. Мы ў палітычна адказных пазіцыях не можам дазволіць гісторыі змарнець і памерці такім чынам, але нададзім ёй статус, якога яна заслугоўвае як сучасная навуковая дысцыпліна з крытычнай сілай і як фактар у палітычнай адукацыі. Існуе такая рэч, як палітычная дзейнасць на падмурку гістарычнай свядомасці, але існуе таксама, адчуваю, такая рэч, як палітычная дзейнасць для гістарычнай свядомасці. Выкананне гэтай задачы ляжыць на ўсіх, хто мае пачуццё адказнасці за ўмацаванне гонару і годнасці існавання чалавецтва ў будучым.

Кёльнскі універсітэт

*З ангельскай пераклала Ірэна Ганецкая*

# Жаночая гісторыя*

## Джоан Скот

*Гісторыя, якую можна было б напісаць пра жаночыя даследаванні, належыць таксама да руху; гэта не метамова, яна будзе дзейнічаць і як кансерватыўны, і як правакацыйны момант ... Тэарэтычна нейтральнай інтэрпрэтацыі гісторыі жаночых даследаванняў не існуе. Гісторыя займее ў ёй актыўную ролю*[1].

Жак Дэрыда, 1984.

Жаночая гісторыя вылучылася ў асобную галіну галоўным чынам за апошнія дваццаць гадоў. Нягледзячы на велізарную дыспрапорцыю выдаткаваных сродкаў, інстытуцыйнай рэпрэзентаванасці і месца ў навучальных планах, невысокі статус ва універсітэтах і прафесійных асацыяцыях, цяпер жаночая гісторыя як усталяваная ў многіх частках свету практыка ўжо не ставіцца пад сумненне. Інтэрнацыянальны характар руху жаночай гісторыі відавочны — у артыкулах і кнігах, у самаідэнтыфікацыі гісторыкаў, якіх можна сустрэць на міжнародных канферэнцыях і ў нефармальных перадачах, якія перадаюць навуковыя навіны (хоць, пэўна, толькі ў Злучаных Штатах яна дасягнула такой ступені прыкметнай і ўплывовай прысутнасці ў акадэмічнай навуцы).

Я свядома ўжываю тэрмін «рух», каб адрозніць цяперашнюю з'яву ад ранейшых асобных спробаў асобных аўтараў пісаць пра жанчын у мінулым, каб прапанаваць нешта накшталт эвалюцыі якасці, звязанай з міжнацыянальнай і міждысцыплінарнай камунікацыяй прадстаўнікоў жаночай гісторыі, і звярнуць увагу на яе сувязь з палітыкай.

Сувязь паміж жаночай гісторыяй і палітыкай адначасова і відавочная, і складаная. У адным з традыцыйных поглядаў на паходжанне гэтай галіны за пачатак бярэцца палітыка фемінізму — перыяд 1960 х г., калі феміністкаму руху спатрэбілася гісторыя, якая б дала гераіняў, абгрунтавала жаночае прадстаўніцтва, вытлумачыла прыгнёт, а таксама стымулявала імкненне дзейнічаць. Кажуць, што акадэмічныя феміністы адказалі на патрэбу «яе–гісторыі» («herstory») тым, што скіравалі

* Scott, Joan. Women's History // New Perspectives on Historical Writing. Ed. Peter Burke. Oxford, 1992. P.42—66.

[1] «Women in the Beehive: A seminar with Jacques Derrida», стэнаграма навукова–даследчыцкага семінару Пэмброўкскага цэнтра з удзелам Дэрыды, у: *Subjects/ Objects* (Spring 1984), 17.

свае даследаванні на большыя палітычныя праблемы. Значыць, па першым часе сувязь паміж палітыкай і навукай была непасрэднай. Пазней, недзе ў другой палове 1970 х, жаночая гісторыя адасабляецца ад палітыкі. Пашырыўся спектр яе праблемаў за кошт вывучэння ўсіх сфераў жыцця жанчын у мінулым, дасягнуўшы, такім чынам, сваёй уласнай інерцыі. Мноства манаграфій і артыкулаў, выяўленне ўнутраных супярэчнасцяў, няспынных дыскусіяў і прызнаных у навуковым асяроддзі аўтарытэтаў былі відавочнымі прыкметамі новай галіны навукі, здавалася, часткова легітымізаванай яе аддаленасцю ад палітычнай барацьбы. Нарэшце, паварот да гендэра ў 1980–х быў пэўным разрывам з палітыкай, што і паспрыяла канчатковаму станаўленню гэтай галіны, паколькі гендэр уяўляецца нейтральным тэрмінам, пазбаўленым кан'юнктурнай ідэалагічнай мэты. У такім асвятленні фармаванне жаночай гісторыі як галіны навукі ўключае эвалюцыйны пераход ад фемінізму да жанчын і да гендэра; г.зн. ад палітыкі — да спецыялізаванай гісторыі і аналізу.

Несумненна, падобныя трактаванні могуць значна адрозніваццa, у залежнасці ад аўтара. У некаторых версіях эвалюцыя ацэньваецца станоўча, як вызваленне гісторыі і ад вузкіх інтарэсаў палітыкі, сканцэнтраванай выключна на жанчынах, і ад па–філасофску наіўных дапушчэнняў. У іншых яна ацэньваецца негатыўна, і «адыход» у акадэмізм (не кажучы пра паварот да гендэра і тэорыі) уважаецца за прыкмету дэпалітызацыі. «Што будзе з фемінізмам, калі жаночы рух памрэ?» — спыталася нядаўна Элен Шоўолтэр. «Ён ператворыцца ў жаночыя даследаванні — яшчэ адну акадэмічную дысцыпліну»[2]. Нягледзячы на такія сэнсавыя адрозненні, гэтая версія, аднак, падзяляецца многімі феміністамі і іх апанентамі, быццам несумненна менавіта так усё і было.

А я б хацела запярэчыць. Гэтая версія вымагае пэўнай крытыкі, бо яна не толькі занадта простая, — яна неадэкватна рэпрэзентуе гістарычны шлях жаночай гісторыі і яе адносіны як да палітыкі, так і да гістарычнай навукі. Гісторыя гэтай галіны патрабуе не прасталінейнай, а больш складанай трактоўкі з улікам змены пазіцыяў не толькі жаночай гісторыі, але і феміністкага руху, і ўсёй гістарычнай навукі. Жаночая гісторыя несумненна звязана са з'яўленнем фемінізму, які па ранейшаму прысутны і ў акадэмічнай навуцы, і ў грамадстве наогул, хоць умовы яго арганізацыі і існавання змяніліся. Многія з тых, хто ўжывае тэрмін гендэр, па сутнасці, называюць сябе феміністкімі гісторыкамі. Гэта не толькі палітычная адданасць, але і тэарэтычная перспектыва, якая вядзе іх да разгляду гендэра як найлепшага шляху канцэптуалізацыі палітыкі. Многія з такіх аўтараў жаночай гісторыі лічаць, што яны

[2] Цыт. па: Winkler, K. Women's Studies After Two Decades: Debatesover Politics, New Directions for Research // *The Chronicle of Higher Education* (September 28, 1988), A6.

занятыя вялікай палітыкай, калі аспрэчваюць агульнапрынятыя аўтарытэты ў прафесіі ў цэлым, ва універсітэце, ды намагаюцца змяніць спосаб пісання гісторыі. І ў вялікай ступені сённяшняя жаночая гісторыя, нават аперуючы паняццем гендэр, звернута да сучасных праблемаў фемінісцкай палітыкі (у ЗША сярод такіх — дабрабыт, догляд за дзецьмі і права на аборт). Сапраўды, ёсць аднолькавыя падставы сцвярджаць, што развіццё жаночай гісторыі моцна звязана з «ростам сілы і легітымізацыі фемінізму як палітычнага руху»[3], канстатуючы, што дыстанцыя паміж акадэмічнай працай і палітыкай існавала і расла. Але ўважаць жаночую гісторыю проста адлюстраваннем умацавання пазіцый фемінісцкай палітыкі па за акадэмічнай навукай таксама памылкова. Гэтую галіну трэба ўспрымаць як дынамічную сферу даследаванняў у палітыцы інтэлектуальнай вытворчасці, а не пастуляваць простую карэляцыю.

Слова «палітыка» выкарыстоўваецца сёння ў некалькіх сэнсах. Першае, найбольш тыповае значэнне — гэта дзейнасць саміх урадаў, іншых ўладных структураў (або такая ж дзейнасць, скіраваная на іх), якую складаюць апеляцыя да калектыўнай ідэнтычнасці, мабілізацыя рэсурсаў, стратэгічны разлік і тактычны манеўр. Тэрмін «палітыка» ўжываецца таксама для азначэння адносінаў улады ў самым шырокім сэнсе, а таксама стратэгіі, скіраванай на іх дасягненне ці барацьбу за іх[4]. Трэцяе значэнне слова «палітыка» яшчэ шырэйшае — гэта практыка, якая аднаўляе ці адмаўляе тое, што часам называюць «ідэалогіяй», тыя сістэмы веры і практыкі, якія ўсталёўваюць індывідуальную і калектыўную тоеснасць, якая фармуе адносіны паміж індывідамі і калектывамі ды іх светамі, што прымаюцца за натуральныя, нарматыўныя ці відавочныя[5]. Гэтыя дэфініцыі суадносяцца з рознымі відамі дзеянняў і рознымі сферамі дзейнасці. Я ж выкарыстоўваю слова «палітыка» для таго, каб ахапіць гэта ўсё разам, маючы на ўвазе, што дэфініцыйныя і прасторавыя межы расплывістыя і што непазбежна кожнае з азначэнняў мае мноства нюансаў. Маё прадстаўленне жаночай гісторыі і залежыць ад гэтых шматлікіх нюансаў; гэта заўсёды аповед пра палітыку.

[3] Fraser, N. and Nicholson, L. «Social Criticism Without Philosophy», ненадрукаваны рукапіс, 1987, 29.

[4] «Палітыка ў глыбокім сэнсе, як сукупнасць чалавечых адносінаў у іх рэальнай сацыяльнай структуры, у іх здольнасці стварыць свет». Barthes, R. Mythologies (Paris, 1957), 230. Гл. таксама: Foucault, M. The History of Sexuality. Vol. I. (An Introduction) (New York, 1980), 92—102.

[5] Spivak, G.C. The Politics of Interpretation // Mitchell, W.J.T. The Politics of Interpretation (Chicago, 1983), 347—66; Poovey, M. Uneven Developments: The Ideological Work of Gender in mid–Victorian England (Chicago, 1988). Гл. таксама: Althusser, L. and Balibar, E. Reading Capital. (tr. Brewster, B.). (London, 1979), 314 («ideology» у гласарыі).

## «Прафесіяналізм» *versus* «палітыка»

У апошнія дзесяцігоддзі фемінізм быў інтэрнацыянальным рухам, аднак яму ўласцівы рэгіянальныя і нацыянальныя асаблівасці. Думаю, каб зрабіць некалькі агульных заўвагаў, варта сканцэнтравацца на тым, што я ведаю найлепш — на Злучаных Штатах.

У ЗША фемінізм адрадзіўся ў 1960–х г. часткова пад уплывам руху за грамадзянскія правы і дзяржаўнай палітыкі, скіраванай на тое, каб жанчыны займелі ў грамадстве адпаведную эканамічную вагу, у тым ліку сярод прафесіяналаў практыкаў у акадэмічнай навуцы. Ён самавыяўляўся пераважна ў кантэксце рыторыкі роўнасці. З часам фемінізм аформіў калектыўную тоеснасць жанчын, суб'ектаў жаночага полу з асобным інтарэсам — пакласці канец іх падпарадкаванню, ігнараванню і бяспраўю, дасягнуўшы роўнасці і кантролю над сваім целам і жыццём.

У 1961 г., паводле запавету Эстэр Пэтэрсан, кіраўнічкі Жаночага бюро ў Дэпартаменце працы, прэзідэнт Кэнэдзі стварыў камісію па становішчы жанчын. У дакладзе гэтай камісіі ў 1963 г. быў засведчаны факт, што амерыканскія жанчыны пазбаўлены роўных правоў і магчымасцяў, і рэкамендавана стварэнне такіх камісій у кожным штаце. У 1964 г., калі, паводле Акту грамадзянскіх правоў, была створана Камісія па роўных магчымасцях працаўладкавання (EEOC), у яе кампетэнцыю ўключылі праблему дыскрымінацыі па прыкмеце полу (па ініцыятыве юрыста апанента з мэтай дыскрэдытаваць Раздзел VII Акта). У 1966 г. дэлегаты трэцяга сходу Нацыянальнай канферэнцыі камісій амерыканскіх штатаў па становішчы жанчын прагаласавалі супраць рэзалюцыі, якая заклікала EEOC узмацніць барацьбу з дыскрымінацыяй па прыкмеце полу гэтак жа сур'ёзна, як і з расавай. Жанчыны, што прапанавалі адкінутую папраўку, потым сабраліся і дамовіліся пра сваю далейшую дзейнасць і сфармавалі Нацыянальную арганізацыю жанчын[6]. Прыкладна ў той самы час маладыя жанчыны з руху «Студэнты за дэмакратычнае грамадства і грамадзянскія правы» пачалі выказваць незадавальненне, патрабуючы прызнання ролі жанчын як актыўных (і роўных) удзельнікаў палітычных рухаў за сацыяльныя змены[7]. У свеце традыцыйнай палітыкі жанчыны сталі пазнавальнай групай (і гэта ўпершыню з часоў руху за выбарчае права на мяжы стагоддзяў).

На працягу 1960–х г. каледжы, аспірантуры і фундацыі сталі заахвочваць жанчын атрымліваць доктарскія ступені гуманітарных навук,

[6] Freeman, J. Women on the Move: Roots of Revolt // Rossi, A.S. and Calderwood, A. (eds.) Academic Women on the Move (New York, 1973), 1—37. Гл. таксама эсэ Эліс Росі і Кэй Клотцбургер у тым жа выданні.

[7] Evans, S. Personal Politics (New York, 1979).

прапануючы стыпендыі і добрую вербальную падтрымку. «Відавочна, — каментаваў адзін аўтар, — жанчыны ўяўляюць сабой галоўны незапатрабаваны рэсурс для каледжаў і універсітэтаў у іхнай патрэбе ў добрых выкладчыках і даследчыках»[8]. Калі хто — ад прэзідэнтаў каледжаў да феміністкіх акадэмічных вучоных — і прызнаваў, што існавалі «прымхі наконт жанчын у прафесіях з вышэйшай адукацыяй», то яны хутчэй згаджаліся, што такія перашкоды знікнуць, калі жанчыны будуць атрымліваць вышэйшую адукацыю[9]. У святле пазнейшых тэарэтычных дыскусіяў цікава, што прадстаўніцтва жанчын тут дапускалася; як свядомыя суб'екты з правам свабоднага выбару, жанчыны заклікаліся да авалодвання раней недаступнымі або маладаступнымі прафесіямі.

У сферах, адкрытых для прытоку жанчын, фемінізм хутка стаў патрабаваць для іх большых магчымасцяў і асуджаць няроўнасць, якая яшчэ існавала. Феміністкі ў акадэмічнай навуцы сцвярджалі, што забабоны супраць жанчын не знікаюць нават тады, калі яны атрымліваюць дыпломы, і арганізаваліся, каб патрабаваць поўнай роўнасці правоў адпаведна сваім ступеням. У асацыяцыях акадэмічных дысцыплін жанчыны наладжвалі закрытыя пасяджэнні для таго, каб дамагацца сваіх патрабаванняў (у тым ліку большага прадстаўніцтва ў асацыяцыях і вучоных радах, роўных з мужчынамі заробкаў, адсутнасці дыскрымінацыі пры найме на працу і прасоўванні па службовай лесвіцы). Новая калектыўная тоеснасць жанчын акадэмічнай навукі клала ў аснову сваёй аргументацыі супольны вопыт дыскрымінацыі паводле полавай прыкметы і тое, што жанчыны–гісторыкі як група маюць свае асаблівыя патрэбы і інтарэсы, якія не могуць быць улічаны ў агульнай катэгорыі гісторыкаў. Пастулюючы, што жанчыны гісторыкі адрозніваюцца ад гісторыкаў мужчынскага полу, і што іх гендэр уплывае на іх прафесійныя магчымасці, феміністкі паставілі пад сумненне універсальныя і унітарныя паняцці, якія звычайна ўсталёўваюцца прафесіяналамі, за што і былі абвінавачаны ў «палітызацыі» папярэдне непалітычнай арганізацыі.

У 1969 г. толькі створаная Каардынацыйная камісія па жанчынах у гістарычнай прафесіі на рабочым сходзе Амерыканскай гістарычнай асацыяцыі (*American Historical Association*, далей — *AHA* — ***Рэд.***) у нервовай, надзвычай напружанай атмасферы прапанавала рэзалюцыю па паляпшэнні становішча жанчын. Звычайна ахопленыя дыскусіямі на тэмы прававой і арганізацыйнай палітыкі, гэтыя сходы ўяўлялі сабой

[8] Цыт. па: Keeney, B. President of Brown University // *Pembroke Alumnae* 27:4 (October 1962). 1.

[9] Keeney, ibid, 8—9; Bernard, J. Academic Women (Cleveland, 1966); Pollard, L.A. Women on College and University Faculties: A Historical Survey and a Study of their Present Academic Status (New York, 1977), асабліва 296.

узор паразумення і прыстойнасці. Нязгода, калі да такой і даходзіла, магла быць запісаная на рахунак розніцы ў асабістых меркаваннях, густах і нават палітычных перакананнях, інстытуцыйнага ці рэгіянальнага першынства, але ніколі не насіла фундаментальнага характару. Ніводная платформа, у якой можна было ўбачыць асобны «інтарэс», па сутнасці не разыходзілася з агульнымі інтарэсамі. Сваім тонам, авантурнасцю і патрабаваннем прадстаўляць калектыўны орган, правы якога сістэматычна парушаюцца, жанчыны ставілі пад сумненне метады і сэнс «звычайнай працы». Сапраўды, яны настойвалі на тым, што звычайная праца сама па сабе ёсць формай палітыкі, бо яна ігнаруе, а значыць навечна кансервуе сістэматычнае выключэнне (паводле гендэра і расы) кваліфікаваных прафесіяналаў. Гэтая атака на моцную ўладу мела прынамсі два вынікі: па першае, яна дамаглася ад *AHA* саступкі ў форме спецыяльнай камісіі для разгляду ўзнятых пытанняў (у 1970 г. камісія абнародавала даклад, у якім прызнаваўся  ніжэйшы статус жанчын і рэкамендаваўся шэраг захадаў па выпраўленні становішча, у тым ліку стварэнне пастаяннай камісіі па жанчынах), па–другое, яна прывяла да крытыкі жаночага кіраўніцтва як непрафесійнага.

Супрацьпастаўленне «прафесіяналізму» і «палітыкі» штучнае і з'яўляецца часткай самавызначэння прафесіі як кваліфікаванай практыкі на аснове падзелу шырокіх ведаў, набытых шляхам адукацыі. Існуюць два розныя, але неаддзельныя аспекты вызначэння прафесіі. Адзін мае на ўвазе прыроду прадстаўленых ведаў, у нашым выпадку таго, што лічыцца гісторыяй. Другі ўключае функцыі захавальніка, які ўсталёўвае і забяспечвае выкананне прынятых стандартаў членамі прафесійнага цэху, у дадзеным выпадку гісторыкамі. Для прафесійных гісторыкаў XX ст. гісторыя — гэта веды пра мінулае, атрыманыя ў выніку незацікаўленага, старонняга даследавання (зацікаўленасць і заангажаванасць ёсць антытэзамі прафесіяналізму) і універсальна даступныя кожнаму, хто авалодаў методыкай навуковай працы[10]. Асновай доступу, такім чынам, ёсць гэтае майстэрства, валоданне якім разглядаецца як нешта відавочнае для тых, хто ўжо з'яўляецца прафесіяналам, і якое толькі імі (прафесіяналамі) можа быць ацэнена. Майстэрства не можа быць справай стратэгіі ці ўлады, але толькі адукацыі і падрыхтоўкі. Членства ў цэху гістарычнай прафесіі ўскладвае адказнасць на асобы, якія сталі захавальнікамі той галіны ведаў, што з'яўляецца іх парафіяй. Такім чынам, апякунства і майстэрства — аснова аўтаноміі і паўнамоцтваў вызначаць, што лічыць ведамі, і вырашаць, хто валодае імі, а хто не.

[10] Novick, P. That Noble Dream: the «Objectivity Question» and the American Historical profession (New York, 1988).

Аднак, прафесіі і прафесійныя арганізацыі структураваны ерархічна; уключэнне і выключэнне з членства залежыць ад прынятага стылю і стандартаў працы. «Майстэрства» і «дасканаласць» могуць быць і пэўнымі ацэнкамі здольнасцяў, і прыхаваным апраўданнем неаб'ектыўнасці; на самай справе, ацэнка здольнасці часта спалучаецца з ацэнкай сацыяльнай сутнасці індывіда, якая не мае адносінаў да прафесійнай кампетэнтнасці[11]. Як раздзяліць гэтыя ацэнкі, калі такое ўвогуле магчыма, — справа не толькі стратэгіі, але і эпістэмалогіі. За супярэчнасцямі паміж «палітыкай» і «прафесіяналізмам» стаіць эпістэмалагічная праблема.

Гадамі ў АНА недаставала жанчын, чорных, яўрэяў, каталікоў і «асобаў неджэнтэльменаў»[12]. На гэта час ад часу звярталі ўвагу, пратэставалі, і некаторыя гісторыкі прыкладалі спецыяльныя намаганні, каб ліквідаваць дыскрымінацыю, але рыторыка і стыль пратэсту адрозніваліся ад тых, што былі ў 1969 г. Раней ці адмаўляючыся наведваць сходы, што праводзіліся ў сегрэгаваных гатэлях, ці настойваючы на ўключэнні жанчын у прафесійныя шэрагі, тыя пратэстваўшыя гісторыкі сцвярджалі, што дыскрымінацыя паводле расавай, рэлігійнай, этнічнай прыкметах ці полу перашкаджае прызнанню іншых кваліфікаваных калегаў. Прымаючы азначэнне, чым павінна быць прафесія, яны сцвярджалі, што для палітыкі ў ёй няма месца; іх дзеянне, абвяшчалі яны, скіравана на рэалізацыю сапраўды прафесійных ідэалаў. Сэнс пратэстаў 1969 г. і пазней, наадварот, палягаў у тым, што прафесійныя цэхі былі палітычнымі арганізацыямі (у розных значэннях слова «палітычны»), аднак з прыстойнымі паводзінамі іх членаў, і ў прызнанні таго, што толькі калектыўнае дзеянне можа змяніць пануючыя ўладныя адносіны. Цягам 1970–х г. жанчыны ў АНА і іншых прафесійных асацыяцыях звязалі сваю лакальную барацьбу за прызнанне і роўнае прадстаўніцтва з агульнанацыянальнымі жаночымі акцыямі, асабліва з барацьбой за канстытуцыйную папраўку аб роўных правах (ERA), сцвярджаючы, што прафесійныя асацыяцыі як цэлае і заснаваны на такіх пытаннях дзяржаўнай значнасці. Думку, быццам ERA не мае дачынення да АНА, яны адвяргалі на той падставе, што маўчанне ёсць не нейтралітэтам, а саўдзелам у дыскрымінацыі. Унутры арганізацыяў сакральныя паняцці накшталт «навуковая дасканаласць» і «якасць розуму» крытыкаваліся як зручныя абгорткі дыскрымінацыі, што павінны быць замененыя больш канструктыўнымі колькаснымі велічынямі. Згодна з гэтай нарматыўнай пазіцы-

[11] Па гэтай праблеме гл.: Dietz, M.G. Context is All: Feminizm and Theories of Citizenship; Conway, J.K. Politics, Pedagogy, and Gender; Scott, J.W. History and Difference // *Daedalus* (1987), адпаведна 1—24, 137—52, 93—118.

[12] Beale, H.K. The Professional Historian: His Theory and His Practice // *Pacific Historical Review* 22 (August 1953), 235.

яй, прафесійныя стандарты бесстароннасці і незацікаўленасці адвяргаліся (ці так толькі здавалася) партыкулярнымі інтарэсамі.

Паводле іншага погляду на гэтую праблему, жаночы выклік трактуецца як справа прафесійнай рэдэфініцыі, бо прысутнасць арганізаваных жанчын паставіла пад сумненне ўяўленне пра унітарнасць самой гістарычнай прафесіі. Сцвярджаючы, што існуе калектыўная тоеснасць жанчын гісторыкаў (у адрозненне ад мужчын), і прымаючы, што і сярод мужчын гісторыкаў існуе расавы падзел, феміністкі задавалі пытанне, ці магчымыя наогул бесстаронніяя ацэнкі прафесіяналізму (маючы на ўвазе, што гэта не больш, чым гегеманісцкі жэст суб'ектыўнай пазіцыі)? Яны не адмаўлялі прафесійных стандартаў; на самай справе яны працягвалі абараняць патрэбу ў адукацыі і ацэнцы якасці прафесіяналізму (устанавіўшы, сярод іншага, прыз за выдатную працу па жаночай гісторыі). І хоць кожны можа лёгка прывесці прыклад тэндэнцыйнасці жаночых гісторыкаў, гэта не будзе характарызаваць ні галіну наогул, ні самога фемінізму (і раней, і цяпер). Нават тыя, хто трымаецца такой тэндэнцыйнасці, не апраўдваюць наўмыснага грэбавання фактамі ці абмежавання інфармацыі на карысць нейкай «справы»[13]. Большая частка жаночых гісторыкаў не адмаўляецца ад пошуку майстэрства і ведаў, што надзвычай важна для прафесіі. Сапраўды, яны прынялі акадэмічныя законы, якія і робяць магчымай камунікацыю гісторыкаў[14]. І ў выніку яны атрымалі прызнанне як вучоныя, дамагліся ста-

[13] Гэтая праблема паўставала па–рознаму, апошні раз у сувязі са справай Сіарз (Sears). У працэсе дыскрымінацыі паводле полу судовая справа ўзбуджаная супраць Sears Roebuck and Company (гандаль у розніцу), дзве жанчыны–гісторыкі Разалінд Роўзенбэрг і Эліс Кэслер–Гэрыс выступалі па розныя бакі. Інцыдэнт выклікаў вялікія дэбаты гісторыкаў па пытанні заангажаванасці жаночнай гісторыі ў палітыку і палітычных задачаў феміністкіх гісторыкаў. Гучалі закіды ў здрадзе веры на адрас абодвух бакоў, але апошнія (і шмат у чым самыя помслівыя) выступы Сэнфарда Левінсана і Томаса Гаскела ў абарону Роўзенбэрг сцвярджаюць, што Кэслер–Гэрыс свядома скажае гісторыю ў інтарэсах палітыкі, а Роўзэнбэрг адважна бароніць «праўду». Іх нарыс пабудаваны на проціпастаўленні «палітыкі» і «праўды», «ідэалогіі» і «гісторыі», што надае яму з выгляду аб'ектыўны і бесстаронні тон і дазваляе, у той жа час, замоўчваць усе складаныя эпістэмалагічныя праблемы, звязаныя з гэтым пытаннем. Глядзі: Academic Freedom and Expert Witnessing: Historians and Sears Case // *Texas Law Review* 66:7 (October 1988), 301—31. Па справе Sears глядзі таксама: Milkman, R. Women's History and the Sears Case // *Feminist Studies* 12 (Summer 1986), 375—400; Scott, J.W. The Sears Case // Scott J. Gender and the Politics of History (New York, 1988), 167—77.

[14] Somikava, E. and Smith, E.A. Theorizing the Wrighting of History or , 'I can't think why it should be so dull, for a great deal of it must be invention' // *Journal of Social History* 22:1 (Fall 1988), 149—61.

тусу прафесіяналаў у гісторыі. У той жа час, аднак, яны аспрэчвалі і адвяргалі тыя правілы, ставячы пад пытанне склад самой дысцыпліны і ўмовы вытворчасці ведаў[15]. Іх прысутнасць аспрэчвала прыроду і вагу адзінага і непарушнага цела прафесійных стандартаў і права толькі белага мужчыны рэпрэзентаваць гісторыка.

Па сутнасці, гісторыкі–феміністы сцвярджалі, што няма супярэчнасці паміж «прафесіяналізмам» і «палітыкай», ставячы надзвычай вострыя пытанні наконт ерархіі, падстаў і дапушчэнняў, якія пакладзены ў аснову гістарычнай навукі: Чые стандарты, чыё вызначэнне «прафесіяналізму» дзейнічаюць? Чый кансэнсус яны рэпрэзентуюць? Як дасягнуты гэты кансэнсус? Якія погляды, непадобныя на агульнапрынятыя, выключаны ці падпарадкаваны? Чыёй перспектывай вызначаецца, што лічыць добрай гісторыяй і гісторыяй наогул?

## «Гісторыя» *versus* «ідэалогія»

Фармаванне жаночай гісторыі як галіны даследавання суправаджалася феміністкімі кампаніямі за паляпшэнне прафесійнага статусу і было звязана з пашырэннем межаў гісторыі. Але гэта не аднамерны працэс простага дадавання таго, што раней абміналася. Наадварот, у аснове жаночай гісторыі закладзена глыбокая дыхатамія, якая насцярожвае, бо гэта адначасова і бяскрыўднае дапаўненне да традыцыйнай гісторыі, і радыкальная падмена.

Гэтая двухбаковая вастрыня праблемы бачна шмат у якіх дэкларацыях прыхільнікаў новай субдысцыпліны пачатку 1970–х г., але найлепш яна выказана Вірджыніяй Вулф у 1929 г. У *A Room of One's Own* Вулф, як і многія яе сучаснікі пасля надання выбарчага права жанчынам у Англіі і Злучаных Штатах, звяртаецца да праблемы жаночай гісторыі[16]. Яна разважае пра неадэкватнасць існуючай гісторыі, гісторыі, якую трэба перапісаць, бо тая «часта здаецца крыху дзіўнай, нерэальнай, аднабокай», значыць — няпоўнай, недакладнай, незавершанай. Не патрабуючы перапісвання гісторыі, Вулф спрабуе прапанаваць як бы іншае рашэнне: «Чаму...

[15] Аб патэнцыяле жаночай гісторыі ў трансфармацыі гісторыі глядзі: Gordon, A., Buhle, M.J., Dye, N.S. The Problem of Women's History // Carroll (ed.). Liberating Women's History (Urbana, 1976); Davis, N.Z. Women's History in Transition: The European Case // *Feminist Studies* 3 (1976), 83—103; Kelly, J. Women, History and Theory (Chicago, 1984); Degler, C. What the Women's Movement has done to American History // *Soundings* 64 (Winter 1981) 419.

[16] Сярод іх былі: Pinchbeck, I. Women Workers and the Industrial Revolution 1750—1850 (London, 1930); Beard, M. On Understanding Women (New York, 1931); idem., America Through Women's Eyes (New York, 1934).

не зрабіць дадатак да гісторыі? Даўшы яму, зразумела, які небудзь непрыкметны назоў, каб жанчыны маглі фігураваць там, не парушаючы звычайнага парадку?» Здаецца, быццам прапанова наконт дадатку стала кампрамісам, але гэта не так. За далікатным сарказмам каментароў наконт «непрыкметнага назову» і неабходнасці не парушыць старога ладу стаіць складаны праект (Вулф называе яго занадта смелым для сябе), які, хоць яна і спрабуе абмежаваць звязаныя з гэтым праблемы, выклікае супярэчлівы падтэкст[17]. Жанчыны тут і дадаюцца да гісторыі, і яны ж ёсць падставай перапісаць яе; яны ўносяць нешта праз меру, і яны ж неабходныя для завяршэння; яны і лішнія, і абавязкова патрэбныя.

Слова «дадатак» у Вулф выклікае аналогію з аналізам Жака Дэрыды, які дапаможа мне разгледзець адносіны жаночай гісторыі да гісторыі наогул. У праекце дэканструкцыі заходняй метафізікі Дэрыда згадвае пэўныя «маркеры», якія працівяцца і дэзарганізуюць бінарныя процілегласці «без увядзення трэцяга тэрміну» або дыялектычнага вырашэння. Падрыўны характар такіх процілегласцяў абумоўлены немагчымасцю іх развязання: яны адначасна нясуць такія процілеглыя значэнні, якія немагчыма нават класіфікаваць асобна. Дадатак — адна з падобных «невырашальнасцяў». Па–французску, як і па–ангельску, гэта азначае і дапаўненне, і замену. Нешта дададзенае, лішняе, па–над і па–за тым, што ўжо цалкам існуе; гэта таксама замяшчэнне таго, што адсутнічае, прапушчана, чаго не хапае, якое вымагае, такім чынам, завершанасці ці паўнаты. «Дадатак — не плюс і не мінус, не вонкавае і не дапаўненне ўнутранага, не выпадковая характарыстыка, і не сутнасць»[18]. Гэта, словамі Барбары Джонсан, «непатрэбнае і неабходнае, небяспечнае і выратавальнае». «На ўзроўні вызначальнага і вызначанага немагчыма заўважыць розніцу паміж лішкам і недахопам, кампенсацыяй і разлажэннем»[19].

Я не лічу, што ў кантэксце супярэчлівай логікі дадатку можна прааналізаваць падвойнасць жаночай гісторыі і яе патэнцыйна крытычную палітычную сілу, сілу, якая кідае выклік і дэстабілізуе ўсталяваныя асновы дысцыпліны, але не прапануе сінтэзу або простага развязання. Дыскамфорт, звязаны з такой дэстабілізацыяй, прывёў не толькі да супраціву «традыцыйных» гісторыкаў, але і да жадання вырашыць праблему за кошт гісторыкаў, якія даследуюць жанчын. Няма простага выйсця, ёсць толькі пастаянная ўвага да кантэкстаў і значэнняў, у якіх фармулююцца падрыўныя палітычныя стратэгіі. Менавіта ў такіх аналітыч-

[17] Wolf, V. A Room of One's Own (New York, 1929), 47.

[18] Derrida, J. Positions, tr. A.Bass (Chicago, 1981), 43. Гл. таксама: Derrida, J. Of Grammatology, tr. G.C.Spivak (Baltimore, 1974) 141—64.

[19] Уступ Барбары Джонсан да яе перакладу працы Дэрыды: Derrida, J. Disseminations (Chicago, 1981), xiii.

ных рамках можна лепш зразумець спрэчкі на тэму ўлады і ведаў, якія і характарызуюць працэс фармавання дадзенай галіны гістарычнай навукі.

Большая частка прадстаўнікоў жаночай гісторыі імкнулася нейкім чынам уключыць жанчын у аб’ект вывучэння, прадмет наратыву. Прымалася за аксіёму, што чалавек як універсальны аб’ект гістарычнай навукі мог бы ўключаць жанчын, гарантаваць сведчанні і інтэрпрэтацыі разнастайнай дзейнасці і вопыту жанчын у мінулым. Аднак, у сучаснай заходняй гістарыяграфіі яе аб’ект найчасцей увасабляўся ў белага мужчыну, жаночая гісторыя непазбежна сутыкалася (словамі амерыканскага тэарэтыка права Марты Мінаў) з «дылемай адрознасці»[20]. Гэтая дылема паўстае таму, што адрознасць узнікае «праз саму структуру нашай мовы, якая ўкладвае ... неканстатаваныя пункты параўнання ў катэгорыі, што хаваюць іх перспектыву і памылкова вызначаюць натуральную сувязь са светам»[21]. «Універсальнае» азначае параўнальнасць з асобным ці адзінкавым, белых мужчын — з тымі, хто не белы ці не мужчына, мужчын — з жанчынамі. Але гэтыя параўнанні найчасцей канстатуюцца і разумеюцца як натуральныя катэгорыі, асобныя сутнасці, а не паняцці адносінаў. Такім чынам, каб жаночая гісторыя была сур’ёзнай, трэба ўздымацца супраць дэфініцыяў гісторыі і яе фактараў, ужо прызнаных за «ісцінныя» ці, прынамсі, за дастатковыя для адлюстравання таго, што адбылося (ці таго, што мела значэнне) у мінулым. І трэба змагацца з стандартамі, замацаванымі параўнаннямі, ніколі не выказанымі, і пунктамі гледжання, ніколі не фармуляванымі[22].

Жаночая гісторыя, калі мець на ўвазе мадыфікацыю «гісторыі», старанна даследуе, як усталявалася значэнне самога агульнага паняцця. Яна ставіць пад сумненне адносны прыярытэт, нададзены «*яго*–гісторыі» («his–story»), у адрозненне ад *яе* гісторыі («her story»), паказваючы ерархічнасць, прыхаваную шмат у якіх гістарычных сведчаннях. Яна кідае выклік і патрабаванню звычайнай гісторыі пазнаць усё, і завершанасці, і самапрысутнасці аб’екта гісторыі — універсальнага Чалавека. Хоць гісторыкі жанчын не задаюць падобных пытанняў непасрэдна, яны самі ставяцца іх працамі: у выніку якіх працэсаў дзейнасць мужчын стала лічыцца нормай і рэпрэзентаваць гісторыю чалавецтва ўвогуле, а дзейнасць жанчын або не заўважалася, або лічылася менш значнай, неістотнай? Якія неканстатаваныя параўнанні заключаны ў такіх

[20] Minow, M. The Supreme Court 1986 Term: Foreword: Justice Engendered // *Harvard Law Review* 101. № 1. (November 1987), 9—95.

[21] Ibid., 13.

[22] Па праблеме рэпрэзентацыі гісторыі гл.: Spivak, G.C. Can the Subaltern Speak? // Nelson, C. and Grossberg, L. Marxism and the International Culture (Urbana, 1988), 271—313.

паняццях як «гісторыя» і «гісторык»? Чыя перспектыва адводзіць мужчынам ролю галоўных дзейных асобаў гісторыі? Як на ўсталяваную практыку гісторыі ўплывае аналіз падзеяў і дзеянняў з пункту гледжання іншых суб’ектаў, напрыклад, жанчын? Якія адносіны гісторыка да прадмета, пра які яна/ён піша?

Паводле Мішэля дэ Сэрто праблема ў наступным:

> «Калі асаблівасць месца, у якім ствараецца кожны дыскурс, важная, то тым больш яна мае значэнне для дыскурсу гістарыяграфічнага, які ставіць вынаходніка аб’екта гісторыі перад пытаннем: гісторыя жанчын, чорных, яўрэяў, культурных меншыняў ці інш.? У гэтай сферы кожны можа або сцвярджаць, што персанальны статус аўтара не мае значэння (у дачыненні да аб’ектыўнасці яго ці яе працы), або што толькі ён ці яна санкцыянуе ці пазбаўляе законнай сілы дыскурс (у адпаведнасці з тым, ці належыць ён/яна «яму» — [дыскурсу]). Але гэтыя дэбаты ўздымаюць замоўчаную эпістэмалогіяй праблему, а менавіта праблему ўплыву адносінаў суб’ект суб’ект (жанчыны і мужчыны, чорныя і белыя і г.д.) на выкарыстанне відавочна «нейтральных» метадаў і ў арганізацыі дыскурсаў, напэўна, не ў меншай меры навуковых. Напрыклад, ці вынікае з факта дыферэнцыяцыі полаў, што жанчына стварае іншую ў параўнанні з мужчынам гістарыяграфію? Я не адказваю на гэтае пытанне, але сцвярджаю, што яно ставіць месца суб’екта пад сумненне і патрабуе трактаваць яго не так, як эпістэмалогія, якая канструюе «ісціну» працы на аснове неадпаведнасці прамоўцы»[23].

Пазіцыя дэ Сэрто тут не ў тым, што толькі жанчыны могуць пісаць жаночую гісторыю, а што жаночая гісторыя пакідае адкрытымі пытанні майстэрства і аб’ектыўнасці, на якіх стаіць прафесіяналізм. Уяўна сціплая прапанова дапоўніць гісторыю інфармацыяй пра жанчын мае на ўвазе не толькі тое, што гісторыя, якой яна ёсць цяпер, няпоўная, але таксама і тое, што гісторык авалодвае мінулым толькі часткова. І, што яшчэ больш турбуе, адкрывае для крытыкі саму прыроду гісторыі як цэнтральнага прадмета эпістэмалогіі[24].

Абмеркаванне гэтых вострых філасофскіх праблемаў памылкова перамясцілася ў асноўным у іншую плоскасць. Так званыя «традыцыйныя» гісторыкі ўзняліся на абарону сваёй прэрагатывы ахоўнікаў дысцыпліны (і ў сэнсе панавання ў гістарычнай навуцы), правакуючы проціпастаўленне «гісторыі» (ведаў, атрыманых у выніку нейтральнага даследавання) і «ідэалогіі» (ведаў, скажоных дзеля нейкай мэты). «Ідэалогія» па сваёй прырод-

[23] Certeau de, M. History: Science and Fiction // Heterologies: Discourse on the Other (Minneapolis, 1986), 217—18.

[24] Hawkesworth, M. Knower, Knowing, Known... // *Signs* (Spring 1989), 533—557.

зе кваліфікуецца як зараза, таму яна дыскрэдытуе інтэлектуальную працу. Ярлык «ідэалагічны» азначае, што погляды апанента непрымальныя, а прынятым поглядам надае статус неабвержнага закону, ці «ісціны»[25].

Норман Гэмпсан ніколі не пагадзіўся б з тым, што, назваўшы кнігу пра жанчын Францыі XIX ст. «утробнай гісторыяй», ён проціпаставіў яе фалічнай гісторыі; на самай справе, ён меў на ўвазе толькі апазіцыю да «сапраўднай» гісторыі. А недарэчны напад Рычарда Коба супраць Сімона дэ Бевуа ў рэцэнзіі на тую ж кнігу цвердзіў, што феміністы не могуць быць добрымі гісторыкамі. Дзесяць загадаў жаночай гісторыі Лоўрэнса Стоўна былі нашмат больш прымальнымі для гэтай субдысцыпліны, але яны звярталі ўвагу на небяспеку «скажальнага сведчання» з мэтай «падтрымання сучаснай феміністкай ідэалогіі», як быццам паняцце сведчання ёсць ясным і пэўным, не маючым больш ніякіх праблемаў наконт пазіцыі, пункту погляду і інтэрпрэтацыі гісторыкаў. Падобна, адмаўляючыся ад гэтых палажэнняў, Робэрт Фінлей абвінаваціў Наталі Дэйвіс у ігнараванні «суверэннасці крыніцаў» і ў парушэнні прынцыпу «суду дакументаў» з мэтай феміністкага прачытання гісторыі Марціна Гера[26]. Наўрад ці трэба казаць, што спробы феміністаў выкрыць «мужчынскую прадузятасць» ці «прамужчынскую ідэалогію», якой прасякнута ўся гістарычная творчасць, часта сустракаліся з насмешкамі або абвінавачаннем у ідэалагічнай рыторыцы[27].

Няроўныя вагавыя суадносіны ў межах дысцыпліны рабілі «ідэалогію» небяспечнай для тых, хто імкнуўся да прафесійнага статусу і легітымнасці. Як гэта, так і ўнутраныя правілы дысцыпліны стрымалі многіх гісторыкаў–жанчын перад зваротам да самых радыкальных эпістэмалагічных падтэкстаў сваіх прац; замест таго яны рабілі акцэнт на жанчынах як дадатковым аб’екце гісторыі, не кранаючы метадалагічных аспектаў навукі. (Тады мы імкнуліся заявіць пра сябе як законапа-

[25] «Ідэалагічны поспех дасягаецца, калі толькі погляды апанентаў лічацца ідэалогіяй; пануючы погляд — ісціна». Minow, M. Justice Engendered // *Harvard Law Review* 101 (November 1987), 67.

[26] Hampson, N. The Big Store // *London Review of Books* (21 January — 3 February 1982), 18; Cobb, R. The Discreet Charm of Bourgeoisie // *New York Review of Books* (December 17, 1981), 59; Stone, L. Only Women // *New York Review of Books* (April 11, 1985), 21—7; Finlay, R. The Refashioning of Martin Guerre; Davis, N.Z. On the Lame // *American Historical Review* 93:3 (June 1988), адпаведна 553—71, 572—603.

[27] Далучанасць заходняга лібералізму да змагання за гендэрныя і расавыя правы дэманструе нешта такое, што феміністы добра ведаюць: супраціў ліберальнай асобы (мужчыны) папрокам у непаўнавартасці, асабліва калі гэтыя папрокі самі выяўлены праз гендэр». Weed, E. Coming to Terms: Feminism, Theory, Politics (*Introduction*) (New York, 1988), 6.

слухмяныя грамадзяне, а не як падрыўныя элементы.) Жаночая гісторыя ёсць новай галіной даследавання, як і вывучэнне міжнародных дачыненняў, — казала я, напрыклад, абараняючы новыя жаночыя курсы перад універсітэцкай вучонай камісіяй у 1975[28]. Часткова гэта была тактычная хітрасць (палітычны ход) — паспрабаваць у спецыфічным кантэксце аддзяліць жаночыя даследаванні ад празмеранй звязанасці з феміністычнага рухам. Часткова зыходзіла з пераканання, што дастатковая колькасць інфармацыі пра жанчын у мінулым няўхільна прывядзе да інтэграцыі іх у стандартную гісторыю. Гэтая апошняя матывацыя стымулявалася прыкладам сацыяльнай гісторыі з яе ўвагай да калектыўных ідэнтычнасцяў  вялікага шэрагу сацыяльных групаў.

Існаванне адносна новай сацыяльнай гісторыі стала важным фактарам выяўлення і пашырэння жаночай гісторыі; сувязь новай тэмы з новым комплексам падыходаў умацавала прэтэнзію на значнасць ці, прынамсі, на легітымнасць даследаванняў жанчын. Апелюючы да некаторых прафесійных паняццяў аб’ектыўнага навуковага аналізу, сацыяльная гісторыя плюралізавала аб’ект гістарычнага даследавання, надаючы статус такіх аб’ектаў сацыяльным групам накшталт сялянаў, рабочых, настаўнікаў і рабоў. У гэтым кантэксце прадстаўнікі гісторыі жанчын маглі гаварыць пра рэальнасць жыццёвага досведу жанчын ды сцвярджаць пра яго несумненны інтарэс і значнасць. Увёўшы жанчын у палітычныя арганізацыі і на рабочыя месцы, у новыя сферы і інстытуцыі, яны абвясцілі іх вартымі даследавання. Адны прадстаўнікі жаночай гісторыі імкнуліся прадэманстраваць падабенства жаночага і мужчынскага фактараў, іншыя акцэнтавалі ўвагу на жаночай непадобнасці; абодва падыходы разглядалі «жанчын» як нязменную сацыяльную катэгорыю, асобную тоеснасць, вядомы феномен — гэта былі біялагічна жаночыя істоты, якія ўваходзілі ў розныя кантэксты ды ролі і выходзілі з іх, вопыт якіх мяняўся, але сутнаснае быццё — як жанчын — не[29].

[28] Урачыстая заява Джоан Скот у універсітэце Паўночнай Караліны. Вучоная камісія Чэпл Гіла, травень 1975 года, цыт. па: Dean, P. Women on the Hill: A History of Women at the University of North Carolina (Chapel Hill, 1987), 23.

[29] Я не збіраюся ставіць пад пытанне разнастайнасць падыходаў у жаночай гісторыі ды розніцу інтэрпрэтацыйных і тэарэтычных пазіцый. Унутры жаночай гісторыі былі і ёсць вялікія разыходжанні паміж марксісцкімі і ліберальнымі феміністамі, тымі, хто выкарыстоўвае дасягненні розных псіхааналітычных школаў і г.д. Мая справа тут паказаць не адрозненні, а іх агульную платформу — вывучэнне жанчын як аб’екта, з жаночай тоеснасцю, а таксама іх адносіны да гістарычнай навукі ў цэлым. Я бачу разыходжанні паўсюдна. Гл.: Scott, J.W. Women’s History: The Modern period // *Past and Present* 101 (1983), 141—57; idem., Gender: A Useful Category of Historical Analysis // *American Historical Review* 91:5 (December 1986), 1053—75.

Такім чынам, сацыяльныя гісторыкі (а сярод іх і я) задакументавалі ўплыў індустрыялізацыі на жанчын, на групу, супольную ідэнтычнасць якой мы дапускаем. (Тады мы не так часта задаваліся пытаннем наконт гістарычнай шматзначнасці самога паняцця «жанчыны», як яно змянялася, як у працэсе індустрыялізацыі, напрыклад, слова «работніца» ў адрозненне ад «рабочы» прывяло да новага сацыяльнага разумення таго, што значыць быць жанчынай[30].) Іншыя звярнуліся да жаночай культуры як відавочнага, рэальнага прадукту сацыяльнага і гістарычнага вопыту жанчын, схіляючыся да меркавання, што «жанчыны» — катэгорыя гамагенная[31]. У выніку, катэгорыя «жанчыны» заіснавала як сацыяльная тоеснасць асобна ад яе гістарычна лакалізаваных канцэптуальных суадносінаў з катэгорыяй «мужчыны»[32]. Гісторыя жанчын менш часу прысвячала дакументаванню жаночага пераследу, і значна больш займалася сцвярджэннем асаблівасці «жаночай культуры», ствараючы такім чынам гістарычную традыцыю, да якой у пошуку прыкладаў жаночага фактару, доказаў іх здольнасці тварыць гісторыю маглі б апеляваць феміністы[33].

Дакументалізацыя гістарычнай рэальнасці жанчын стымулявала дыскурс іх калектыўнай тоеснасці, што і зрабіла жаночы рух магчымым у 1970 х г. Вынікам гэтага дыскурсу стаў супольны жаночы вопыт, які, улічваючы сацыяльныя адрозненні, выявіў агульны назоўнік сэксуальнасці, а таксама звязаныя з ёй патрэбы і інтарэсы. Уздым свядомасці звязваўся з адкрыццём «сапраўднай» сутнасці жанчын, іх абуджэннем,

[30] Па гісторыі працы жанчын гл.: Tilly, L.A. and Scott, J.W. Women, Work and Family (New York, 1978; 1987); Kessler–Harris, A. Out of Work: A History of Wage–Earning Women in the United States (New York, 1982); Dublin, T. Women at Work: The Transformation of Work and Community in Lowell, Massachusetts, 1826—60 (New York, 1979); Alexander, S. Women's Work in Nineteenth–Century London: A Study of the Years 1829—50 // Mitchell, J. and Oakley A. (eds). The Rights and Wrongs of Women (London, 1976); Cooper, P.A. Once a Cigar Maker: Men, Women, and Work Culture in American Cigar Factories, 1900—1919 (Urbana, 1987).

[31] Kerber, L. Separate Spheres, Female Worlds, Woman's Place: The Rethoric of Women's History // *Journal of American History* 75:1 (June1988), 9—39.

[32] Гэта не азначае, што жаночыя гісторыкі не пісалі пра жанчын у дачыненні да мужчын — як пра жонак, каханак, маці, дочак, работніц, пацыентаў, etc. Гэта азначае, што яны мелі тэндэнцыю ігнараваць канцэптуальнае пытанне — што паняцце «жанчыны» не мае сутнаснай дэфініцыі, а толькі кантэкстуальную (якая заўжды аспрэчваецца ў яе ідэалізацыі і актуалізацыі), якая можа быць сфармуляванай толькі ў процiпастаўленні паняццю «мужчыны». На гэты конт, гл.: Riley, D. «Am I that Name?» Feminism and the Category of «women» in History (London and Minneapolis, 1988).

[33] Гл., напрыклад, сімпозіум па «Жаночай культуры» і палітыцы ў: *Feminist Studies* 6 (1980), 26—64.

дасягненнем аўтаномнасці, індывідуальнасці і, такім чынам, з эмансіпацыяй. Жаночы рух прызнаваў існаванне жанчын як асобнай, адрознай сацыяльнай катэгорыі, члены якой мелі патрэбу толькі ў мабілізацыі (а не бачанні неспалучальнай сукупнасці біялагічна падобных людзей, сутнасць якіх залежала ад руху). Такім чынам, жаночая гісторыя сцвердзіла рэальнасць катэгорыі «жанчыны», даказала яе існаванне, уласцівыя ёй патрэбы, інтарэсы і характарыстыкі, даўшы і ёй гісторыю.

Значыць, з'яўленне жаночай гісторыі спалучалася з кшталтаваннем катэгорыі «жанчыны» як палітычнай сутнасці; прыгнёт жанчын і недахопы іх бачання гістарычнай перспектывы спісваліся на рахунак мужчынскай прадузятасці. «Мужчыны», як і «жанчыны», разглядаліся як група з аднароднымі інтарэсамі, а іх супрацiў патрабаванням роўнасці тлумачыўся наўмысным жаданнем абараніць сваю ўладу і рэсурсы, якія забяспечвалі панаванне. Увага да разнастайнасці, класавых, расавых, культурных адрозненняў саступала месца варыяцыям на тэму патрыярхальнасці, але, тым не менш, фіксавала супярэчнасць мужчына/жанчына. Канцэптуальным асновам «патрыярхальнасці», шляхам, якімі полавае адрозненне ператваралася ў культурныя веды, аддавалася ўвагі менш, чым уплыву сістэмаў мужчынскага панавання над жанчынай і супраціву мужчын жанчынам. Антаганізм паміж мужчынамі і жанчынамі быў у цэнтры палітыкі і гісторыі, і гэта мела некалькі наступстваў: ён зрабіў магчымай шырокую мабілізацыю і, у той жа час, ускосна сцвердзіў асноўную прыроду бінарнай супярэчнасці паміж мужчынскім і жаночым пачаткамі. Здавалася, што няпэўнасць жаночай гісторыі павінна вырашыцца гэтым просталінейным процiпастаўленнем дзвюх групаў з законнымі і супярэчлівымі інтарэсамі.

Парадокс у тым, што, хоць канфлікт падобнага кшталту азначаў анафему тым, хто разумеў прафесіі як уніфікаваныя супольнасці, гэта было прымальна як характарыстыка гісторыі. (Часткова так было таму, што сама галіна мянялася, яе фокусы змяняліся, дагматы ўдасканальваліся і таксама змяняліся.) Сапраўды, можна сказаць, што як гістарычная ініцыятыва жаночая гісторыя дасягнула пэўнай легітымнасці, пакольki яна сцвердзіла існаванне асобнай прыроды, асобнага жаночага вопыту, паколькі, значыць, яна кансалідавала калектыўную тоеснасць жанчын. Эфект быў падвойны: забеспячэнне месца жаночай гісторыі ў рамках навуковай дысцыпліны і сцвярджэнне яе адрознення ад гісторыі традыцыйнай. Ліберальныя плюралісты, якім хацелася верыць у гістарычныя інтарэсы многіх тэм, цярпелі і жаночую гісторыю (часткова таму, што ціск з боку феміністкіх гісторыкаў і студэнтаў зрабіў яе вартай цярпення), але яна заставалася па–за галоўнымі праблемамі дысцыпліны, і яе правакацыйны выклік застаўся, відаць, у іншай плоскасці.

## «Палітыка» versus «тэорыя»

Перашкоды і абмежаванні для жаночай гісторыі ніколі не былі непераадольнымі, але ў канцы 1970–х г. яе відавочна сталі падточваць струменьчыкі — часткова знутры самой дысцыпліны, часткова з боку палітычнага руху. У выніку пад сумненнем апынулася жыццяздольнасць катэгорыі «жанчыны», а «адрозненне» стала праблемай, якую належала даследаваць. Акцэнт на адрозненне, засведчыўшы першапачаткова адносныя значэнні гендэрных катэгорыяў, высветліў пэўныя неадназначнасці, якія заўжды хаваліся ў жаночай гісторыі. Ён надаў першачарговае значэнне пытанням пра сувязь паміж уладай і ведамі ды паказаў узаемазвязанасць тэорыі і палітыкі.

Мэтай даследчыкаў жаночай гісторыі, хоць яны і ўвялі асобную тоеснасць жанчын, было інтэграваць жанчын у традыцыйную гісторыю. І ў 1970–х — пачатку 1980–х г. намаганні па такой інтэграцыі фінансаваліся ўрадам і прыватнымі фундацыямі (і першыя, і другія былі зацікаўлены не толькі ў гісторыі, але таксама ў асвятленні сучаснай палітыкі ў дачыненні да жанчын). Інтэграцыя мела на ўвазе не толькі тое, што жанчыны могуць увайсці ў традыцыйную гісторыю, але і тое, што іх прысутнасць патрабуе карэктавання наратыву. Тут дзейнічаў супярэчлівы падтэкст статусу жаночай гісторыі як дадатковай. Жаночая гісторыя — з яе кампіляцыямі дадзеных пра жанчын у мінулым, з яе настойваннем на тым, што з улікам жанчын прынятая перыядызацыя не спрацоўвае, з яе канстатаваннем уплыву жанчын на падзеі і ўдзел у грамадскім жыцці, з яе сцвярджэннем, што прыватнае жыццё мае грамадскае, палітычнае вымярэнне — азначала фундаментальную недастатковасць традыцыйнай гісторыі: яе прадмет не быў універсальным, а гісторыкі, якія гэта сцвярджалі, больш не маглі пастуляваць паўнаты гістарычнай рэканструкцыі. Усё гэта выявіў праект інтэграцыі.

Высветлілася, што пачатай з такім энтузіязмам і аптымізмам інтэграцыі цяжка дасягнуць, і гэта найбольш з–за супраціву гісторыкаў, а не з прычыны прадузятасці і даўніх прымхаў, хоць і апошняга несумненна хапала[34]. У пэўнай ступені і самыя прадстаўнікі гісторыі жанчын лічылі ўпісанне жанчын у традыцыйную гісторыю цяжкай справай, а задача перапісвання гісторыі вымагала рэканцэптуалізацыі, да чаго яны ад пачатку не былі гатовыя. Патрабавалася менавіта асэнсаванне розніцы і таго, як яе канструкцыя радзяляе адносіны паміж індывідамі і сацыяльнымі групамі.

[34] Aiken, S.H., et. al. Trying Transformations: Curriculum Integration and the Problem of Resistance // *Signs* 12:2 (Winter 1987), 255—75. Гл. таксама ў тым жа выданні: Anderson, M.L. Changing the Curriculum in Higher Education, 222—254.

«Гендэр» — вось тэрмін, які сталі выкарыстоўваць у тэарэтычных развагах на тэму полавай рознасці. У Злучаных Штатах гэты тэрмін быў запазычаны з граматыкі (у значэнні «умоўнасці», «дамоўленасці» [людзей] ці «правілаў лінгвістычнага выкарыстання») ды з сацыялагічнага даследавання сацыяльных роляў, прыпісваных жанчынам і мужчынам. Хоць сацыялагічнае выкарыстанне «гендэру» можа мець функцыяналісцкія ці сутнасныя адценні, феміністы абралі акцэнт на сацыяльныя канатацыі гендэру — у адрозненне ад фізічных канатацыяў полу[35]. Яны падкрэслілі і адносны аспект гендэру: немагчыма зразумець жанчын інакш, як у параўнанні з мужчынамі, гэтаксама і мужчын нельга зразумець без параўнання з жанчынамі. Да таго ж, паколькі гендэр быў вызначаны ў дачыненні да сацыяльнага і культурнага кантэкстаў, можна было разважаць у рамках розных гендэрных сістэм і іх адносінаў да іншых катэгорый, такіх, як раса, клас або этнас, а таксама ўлічваць змены.

Катэгорыя гендэру, упершыню выкарыстаная для аналізу міжполавых адрозненняў, пашырылася на праблему рознасцяў у самім адрозненым. Палітыка 1980–х г. выявіла некаторыя залежнасці, якія паставілі пад сумненне унітарнасць значэння тэрміну «жанчыны». Сапраўды, тэрмін «жанчыны» наўрад ці можна выкарыстоўваць нязменна: каляровыя жанчыны, яўрэйкі, жанчыны–лесбіянкі, бедныя работніцы, адзінокія маці — вось толькі нямногія ўведзеныя катэгорыі. Усе яны аспрэчваюць гегемонію сярэдняга класа гетэрасэксуальных белых на паняцце «жанчыны», сцвярджаючы, што фундаментальныя адрозненні вопыту робяць немагчымым патрабаваць іх адзінай тоеснасці[36]. Падзел

[35] Гл. Rubin., G. The Traffic in Women: Notes on the Political Economy of Sex // Reiter, R.R (ed.). Towards an Anthropology of Women (New York, 1975). Гл. таксама: Scott, J.W. Gender: A Useful Category of Historical Analysis // *American Historical Review* 91:5 (December 1986); Haraway, D. Geschlecty, Gender, Genre: Sexualpolitik eines Wortes // Hauser, K. (ed.). Viele Orte überall? Feminismus in Bewegung (Festschrift für Frigga Haug), 22—41.

[36] Lauretis de, T. Feminist Studies: Issues, Terms, and Contexts; Moraga, C. From a Long Line of Vendidas: Chicanas and Feminism; Martin, B. and Mohanty, C.T. Feminist Politics: What's Home Got to Do with It? // Lauretis de, T. (ed.). Feminist Studies/Critical Studies (Bloomington, 1986), адпаведна 1—19, 173—190, 191—212. Гл. таксама: The Combahee River Collective, «A Black Feminist Statement» // Hull, G.T., Scott, P.B. and Smith, B. (eds). But Some of Us are Brave: Black Women's Studies (New York, 1982); Smith, B. (ed.). Home Girls; A Black Women's Anthology (New York, 1983). Гл. таксама: Smith, B. Towards a Black Feminist Criticism; McDowell, D.E. New Directions for Black Feminist Criticism; Zimmerman, B. What has Never Been; An Overview of Lesbian Feminist Criticism // Showalter, E. (ed.). The New Feminist Literary Criticism: Essays on Women, Literature, Theory (New York, 1985), 168—224; Hoffman, N. White Women, Black Women: Inventing an

універсальнага паняцця «жанчыны» паводле расы, этнасу, класа і сэксуальнасці быў прыглушаны сур'ёзнымі палітычнымі рознагалоссямі ў жаночым руху па шырокім спектры праблемаў — ад Палесціны да парнаграфіі[37]. Усё больш выразныя, моцныя рознагалоссі сярод жанчын падрывалі магчымасць уніфікаванай палітыкі і паказвалі, што супольнасць жаночых інтарэсаў не відавочная, што яна ёсць прадметам спрэчак і дыскусій. У выніку патрабаванні прызнаць вопыт і гісторыі розных катэгорый жанчын вычарпалі логіку дадатковасці, на гэты раз у дачыненні да універсальнай катэгорыі «жанчыны», логіку дастатковасці нейкай агульнай жаночай гісторыі і здольнасці любога гісторыка жанчыны ахапіць усё.

Пытанне адрозненняў у адрозненым выклікала дыскусію пра тое, якім чынам і ці трэба наогул рабіць акцэнт на гендэр як катэгорыю даследавання. Аднаму з гэтых акцэнтаў прысвечана праца ў галіне сацыяльных навук пра гендэрныя сістэмы ці структуры; у ёй разглядаецца фіксаваная процілегласць мужчын і жанчын і асобных палавых роляў, якая нязменна функцыянуе ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Улічваецца таксама карэляцыя паміж сацыяльнымі катэгорыямі мужчын і жанчын і падпарадкаванымі ім тоеснасцямі мужчын і жанчын, а іх розніца выводзіцца з усталяваных сацыяльных характарыстык, такіх як клас ці раса. Гэтая праца пашырае фокус жаночай гісторыі на праблемы дачыненняў мужчыны/жанчыны і пытанні ўсведамлення гендэру, працэсаў, якія ўсталёўваюць гендэрныя інстытуцыі, а таксама адрозненні, сфармаваныя пад уплывам расы, класа, этнасу і сэксуальнасці ў працэсе фармавання гістарычнага вопыту жанчын. Падыход сацыяльных навук да гендэру не толькі плюралізаваў катэгорыю «жанчыны» і стварыў разнастайнае мноства гісторыяў і калектыўных тоеснасцяў, але паставіў шэраг невырашальных на першы погляд праблемаў, якія вынікаюць з прызнання адрозненняў сярод жанчын. Калі гэтак шмат адрозненняў класа-

Adequate Pedagogy // *Women's Studies Newsletter* 5 (Spring 1977), 21—4; Wallace, M. A Black Feminist's Search for Sisterhood // *Village Voice*. July 28, 1975, p. 7; Lauretis de, T. Displacing Hegemonic Discourses: Reflectons on Feminist Theory in the 1980s // *Inscriptions* 3/4 (1988), 127—41.

[37] Часткова падзел адбыўся з прычыны правалу папраўкі аб роўных правах у Канстытуцыю ЗША, кампаніі, якая забяспечыла аб'яднаны фронт сярод розных групаў феміністаў. Гэтая кампанія сама паказала, наколькі глыбокімі былі адрозненні паміж феміністамі і антыфеміністамі; аспрэчвалася кожная заўвага наконт унутранай жаночай салідарнасці. Некаторыя з адрозненняў прыпісвалі «фальшывай свядомасці», але не цалкам. Пра кампанію па папраўцы аб роўных правах гл.: Berry, M.F. Why ERA Failed (Bloomington, 1986); Mansbridge, J. Why We Lost the ERA (Chicago, 1986); Mathews, D.G. and Hart de, J.S. ERA and the Politics of Cultural Conflict: North Carolina (New York, 1989).

вых, расавых, этнічных і полавых, што тады складае агульную глебу, на якой феміністы могуць арганізаваць паслядоўнае калектыўнае дзеянне? Што канцэптуальна яднае жаночую гісторыю ці жаночыя навучальныя курсы, сярод якіх, здаецца, шырока распаўсюджаны розныя жаночыя гісторыі? Гэтыя дзве праблемы ўзаемазвязаныя: ці існуе агульная тоеснаць жанчын, і ці існуе іх агульная гісторыя, якую можна напісаць?

Пытанні гендэру некаторыя феміністы паспрабавалі даследаваць з дапамогай надзвычай розных літаратурных і філасофскіх падыходаў, аб'яднаных пад шыльдай постструктуралізму. Імі акцэнт змяшчаецца з канстатацыі бінарнай процілегласці мужчын і жанчын на пытанне самога яе ўсталявання; з прызнання папярэдняга існавання тоеснасці «жанчын» на даследаванне працэсаў яе фармавання; ад надавання першасных значэнняў катэгорыям накшталт «мужчыны» і «жанчыны» на высвятленне таго, як іх значэнне замацоўваецца. Гэты аналіз прымаецца за прадмет постструктуралізму — вывучэнне практыкі і кантэксту, у якім утвараюцца значэнні полавых адрозненняў. Ён часта выкарыстоўвае псіхааналітычную тэорыю для выяўлення складанасці і нестабільнасці любой падпарадкаванай ідэнтыфікацыі. Мужчынскасць і жаноцкасць прымаюцца тут за падпарадкаваныя пазіцыі, і неабавязкова толькі ў межах біялагічнага падзелу на мужчын і жанчын[38].

Самае істотнае — у шляхах, якімі феміністы асвойваюць постструктуралізм для разумення розніцы. Розніца тут залягае ў аснове лінгвістычных тэорыяў сігніфікацыі. Прымаецца, што ўсе значэнні ўтвораныя дыферэнцыяльна, праз процілегласці і супярэчнасці, і ерархічна, праз прысваенне першынства аднаму тэрміну, і падпарадкавання — іншаму. Узаемазвязанасць асіметрычных адносінаў важна ўлічваць, бо яна мае на ўвазе змену як нешта большае за прызнанне права падпарадкаванай групы на рэсурсы грамадства, большае за праблему размеркавання справядлівасці. Калі вызначэнне Мужчыны палягае на падпарадкаванні Жанчыны, тады змяненне статусу Жанчыны патрабуе (і выклікае) змены ў нашым разуменні Мужчыны (просты кумулятыўны плюралізм не працуе). Радыкальная пагроза з боку жаночай гісторыі затоена менавіта ў падобным выкліку, кінутым гісторыі традыцыйнай; нельга проста дадаваць жанчын без фундаментальнага перагляду ўсіх паняццяў, стандартаў і ўяўленняў пра аб'ектыўную, нейтральную і універсальную гісторыю, таму што ў традыцыйны погляд на гісторыю ўжо ў яе вызначэнні ўваходзіла выключэнне жанчын.

Прыхільнікі постструктуралізму сцвярджаюць, што ўладу неабходна разглядаць у святле дыскурсіўных працэсаў, якія спараджаюць роз-

[38] Гл. Butler, J. Gender Trouble: Feminism and the Subversion of Identity (New York, 1989).

насць. Як ўзнікае, легітымізуецца і пашыраецца веданне рознасці? Як і ў якіх паняццях фармуюцца тоеснасці? Феміністкія гісторыкі знаходзяць адказы на гэтыя пытанні, і асабліва кантэкстуальныя прыклады, але яны не проста ствараюць асобныя гісторыі. Напэўна, у палітыцы і акадэмічнай працы агульная глеба — гэта тое, на чым феміністы ажыццяўляюць даследаванне рознасці, працівячыся выключэнню, дамінаванню ці маргіналізацыі, што вынікаюць з сістэмаў дыферэнцыявання.

У адрозненне ад сацыяльных навук, якія прымаюць тоеснасць і вопыт жанчын за дадзенасць, постструктуралісцкі падыход для мабілізацыі палітычных рухаў рэлятывізуе тоеснасць і пазбаўляе яе падмурка сутнаснага «вопыту», як і базавых элементаў, у большасці стандартных дэфініцыяў палітыкі. Выкарыстоўваючы постструктуралісцкі аналіз, феміністы праз праблематызацыю паняццяў тоеснасці і вопыту прапанавалі дынамічныя інтэрпрэтацыі гендэру, якія падкрэсліваюць барацьбу, ідэалагічныя супярэчнасці і складанасці змены адносінаў падпарадкавання. Часта іх працам уласцівы большая гістарычная варыятыўнасць і кантэкстуальная спецыфіка паняццяў самога гендэра, чым працам прыхільнікаў канцэптуалізацыі сацыяльных навук. Але даследчыкі, якія знаходзяцца пад уплывам постструктуралізму, часам сутыкаюцца з тымі ж праблемамі, што і прыхільнікі падыходаў сацыяльных навук. Калі, паводле сцвярджэння Дэніс Рылей, катэгорыі «жанчыны», жаночая тоеснасць і вопыт нестабільныя, бо яны гістарычна зменлівыя, то дзе ж тады глеба для палітычнай мабілізацыі? Як пісаць супольную жаночую гісторыю без фіксаванага, агульнага азначэння таго, што такое жанчыны? Рылей адказвае, і я лічу слушна, што можна асэнсоўваць і арганізоўваць палітыку з нестабільнымі катэгорыямі, і на справе так яно і адбываецца, а як канкрэтна — трэба абмяркоўваць. Іронія ж у тым, што замест прызнання падабенства праблемаў, паўстаўшых перад феміністкімі гісторыкамі ў 1980 х г. і вынікшых з нашай патрэбы асэнсаваць палітыку па новаму, узнялася непрымірымая дыскусія вакол карысці постструктуралізму для фемінізму, якая нараджае небяспечны антаганізм паміж «тэорыяй» і «палітыкай».

Феміністы, настроеныя варожа да постструктуралізму, агульнай крытыкай дэнансавалі «тэорыю» і навесілі ёй ярлык нечага абстрактнага, элітнага і мужчынскага. Яны абвясцілі сваю пазіцыю канкрэтнай, практычнай і феміністкай, а, значыць — палітычна слушнай. У гэтым проціпастаўленні ўсё, што ёсць тэарэтычнага ў фемінізме, пераназвана «палітыкай», таму што (паводле адной з найноўшых ідэй) яго разуменне вынікае «проста з адлюстравання нашага ўласнага, г.зн. жаночага, вопыту, з супярэчнасцяў, якія мы адчуваем паміж рознымі спосабамі таго, як мы былі прадстаўленыя нават самім сабе, з несправядлівасцяў,

якія мы так доўга цярпелі»[39]. Змясціўшы праблему ў рамкі жорсткай бінарнай процілегласці, гэтая фармулёўка выключае магчымую карысць разнастайных тэарэтычных падыходаў да феміністкай гісторыі і феміністкай палітыкі, як і магчымасць разумення тэорыі і палітыкі ў іх непарыўнай сувязі.

Я лічу, што «тэорыя» і «палітыка» супрацьпастаўлены надумана, — каб прадухіліць дыскусіі, якія мы павінны разгарнуць вакол таго, *якая* тэорыя самая плённая для фемінізму, абраўшы толькі адну тэорыю як «палітыку». (На мове тых, хто выкарыстоўвае гэтую дыхатамію, «палітыка» сапраўды азначае добрую тэорыю; «тэорыя» — значыць кепская палітыка[40].) «Добрая» тэорыя разглядае «жанчын» і іх «вопыт» як відавочныя факты, якія ёсць крыніцай калектыўнай тоеснасці і дзеяння. У выніку (згодна з рэакцыяй, процілеглай рэакцыі гісторыі на жаночую гісторыю) той, хто карыстаецца гэтым супрацьпастаўленнем, прымае «палітыку» як нарматыўную пазіцыю, як нейкі этычны індыкатар на легітымнасць фемінізму і жаночай гісторыі. Прадстаўнікі гісторыі жанчын, якія адкідаюць «тэорыю» ў імя палітыкі, дзіўным чынам сыходзяцца з тымі традыцыйнымі гісторыкамі, хто лічыць постструктуралізм (і жаночую гісторыю) простай антытэзай прынцыпам і дактрынам сваёй дысцыпліны[41]. І першыя, і другія бароняць паняцце «вопыт», адмаўляючыся праблематызаваць яго; проціпастаўляючы «тэорыю» і «палітыку», яны закрываюць «вопыт» ад уважлівага крытычнага даследавання і ахоў-

[39] Newton, J. History as Usual?: Feminism and the 'New Historicism' // *Cultural Critique* 9 (1988), 93.

[40] Проціпастаўленне «тэорыі» і «палітыкі» таксама мае на ўвазе процілегласць ідэалізму і матэрыялізму, якая памылкова ставіць актуальныя на сёння філасофскія праблемы. Пра слабыя месцы проціпастаўлення ідэалізму/матэрыялізму гл.: Scott, J. A Reply to Criticism // *International Labor and Working Class History* 32 (Fall 1987), 39—45. Проціпастаўленне «тэорыі» і «палітыкі» ўскосна мае дачыненне і да пытання чалавечага фактару, пра які шмат гавораць гісторыкі. Постструктуралісцкая тэорыя не адмаўляе, што людзі дзейнічаюць, ці што яны ў нейкай ступені кантралююць свае дзеянні; яна хутчэй крытыкуе ліберальную тэорыю індывіда, паводле якой індывіды цалкам аўтаномныя, рацыянальныя, самастваральныя суб'екты. Праблема не ў фактары *per se*, а ў межах ліберальнай тэорыі фактару.

[41] Уражвае іронія. Гісторыкі жанчын, якія прынялі паняцці універсальнасці дысцыпліны (дадаўшы універсальную катэгорыю «жанчыны» да ўжо існаваўшай катэгорыі «мужчыны») і майстэрства (прызнаючы, што гісторыкі могуць дасягнуць адстароненага ці поўнага ведання мінулага), тым не менш, характарызуюць сваю пазіцыю як «палітычную» — тэрмін, які сведчыць пра дэструктыўныя адносіны да дысцыпліны. Я думаю, гэта яшчэ адзін прыклад логікі дадатковасці; жаночыя гісторыкі (незалежна ад іх эпістэмалагічнай пазіцыі) і цалкам не належаць прафесіі, і не знаходзяцца па–за ёй.

ваюць яго як базісны і беспраблемны грунт палітыкі і гістарычнага тлумачэння[42].

Паняцце вопыту аказалася праблематычным для гісторыкаў і запатрабавала крытычнага разбору. Постструктуралізм паставіў пытанне, ці ёсць у вопыта статус па за лінгвістычнай умоўнасцю (або культурнай канструкцыяй), а праца жаночых гісторыкаў плюралізавала і ўскладніла шляхі, якімі гісторыкі ўзгоднена звярталіся да вопыту. У дадатак (што тут для мяне самае важнае) разрозненасць феміністкага палітычнага руху ў 1980 х г. зрабіла немагчымым адзінае вызначэнне жаночага вопыту. Як заўжды, перад тэорыяй паўсталі пытанні палітыкі: ці існуе вопыт жанчын, які выходзіць за межы класа або расы? як расавыя і этнічныя адрозненні ўплываюць на «вопыт жанчын» і вызначэнне жаночых патрэбаў ды інтарэсаў, вакол якіх мы можам арганізавацца, ці пра якія мы пішам? як мы можам вызначыць, чым гэты «вопыт» ёсць цяпер, або быў у мінулым? Без пэўнага тэарэтычнага асэнсавання вопыту гісторыкі не могуць адказаць на гэтыя пытанні; без пэўнага тэарэтычнага разумення адносінаў жаночай гісторыі да гісторыі наогул лёгка страціць патэнцыйна крытычны і дэстабілізацыйны эфект фемінізму, а таксама магчымасць радыкальнай трансфармацыі ведаў, якія і складаюць гісторыю і палітыку, якімі мы займаемся.

З постструктуралізмам звязаныя дылемы для феміністкіх гісторыкаў. Думаю, што тыя, хто сцвярджае, быццам структуралізм не мае нічога агульнага з рэальнасцю, ці што яго засяроджанасць на тэкстах выключае сацыяльныя структуры, выпускаюць з поля зроку пытанне тэорыі. Я перакананая, што ён не дае гісторыкам гатовых адказаў на шэраг пытанняў, якія сам і ўздымае: як звяртацца да «вопыту» без безумоўна прынятых сутнасных паняццяў? як характарызаваць палітычную мабілізацыю, не апелюючы да сутнасных агістарычных тоеснасцяў? як паказваць чалавечы фактар, адначасова прызнаючы яго лінгвістычныя і культурныя характарыстыкі? як уключаць уяўленне і падсвядомасць у вывучэнне сацыяльных паводзінаў? як вызначыць адрозненні і паставіць у цэнтр палітычнага аналізу працэсы дыферэнцыяцыі, не парываючы з незвязанымі рознымі ацэнкамі і з перакрывальнымі катэгорыямі (накшталт «класа» ці «прыгнечаных»)? як прызнаваць непаўнату чыёйсьці гісторыі (а на справе — ўсіх гісторый), і ўсё ж прадстаўляць яе аўтарытэтна і ўпэўнена? Гэтыя праблемы не вырашыць, ухіляючыся ад «тэорыі» ці абвяшчаючы яе антытэзай «палітыцы»; яны патрабуюць настойлівай і сінхроннай дыскусіі (і тэарэтычнай, і палітычнай адначасова),

[42] Гл.: Toews, J. Intellectual History After the Linguistic Turn: The Autonomy of Meaning and the Irreducibility of Experience // *American Historical Review* 92 (October 1987), 879—907.

бо ўрэшце гэта праблемы тых, хто піша жаночую гісторыю, незалежна ад падыходу.

Гэта агульныя праблемы, таму што яны вынікаюць з логікі дадатковасці, уласцівай жаночай гісторыі і надаючай ёй крытычную сілу. Паколькі феміністкія гісторыкі спрабавалі стварыць новы інтэлектуальны прадукт, яны непазбежна звярталіся да пытання пра адэкватнасць не толькі субстанцыі існуючай гісторыі, але таксама яе канцэптуальных асноў і эпістэмалагічных пасылаў. У гэтым яны знайшлі падтрымку гісторыкаў і іншых гуманітарыяў, якія займаюцца праблемамі прычыннасці і тлумачэння, дзеючага фактару і дэтэрмінаванасці, хоць да цяперашняга часу феміністаў найчасцей і не лічаць роўнымі партнёрамі ў такіх дэбатах[43]. Нават у гэтых крытычных дыскурсах іх пазіцыя заставалася дадатковай: вось адначасова канкрэтны прыклад агульнай з'явы *і* радыкальны каментар да (не)дастатковасці як паняццяў, так і практыкі. Дадатковае становішча — гэта стан перманентнай няпэўнасці і патэнцыйнай дэстабілізацыі. Яно ўвесь час патрабуе ўвагі да адносінаў падпарадкавання, пэўнай пільнасці перад спробамі актуалізаваць адну з процілеглых пазіцый. Жаночыя гісторыкі зноў і зноў пратэстуюць супраць спробаў зрабіць іх проста чужымі; яны таксама не прымаюць аргументы, што іх працу нельга кваліфікаваць як гісторыю. З гэтай прычыны іх прафесійнае жыццё і праца непазбежна палітычныя. Урэшце, немагчыма аддзяліць палітыку — адносіны падпарадкавання, сістэмы веры і практыкі — ад ведаў і працэсаў, якія іх спараджаюць; таму жаночая гісторыя непазбежна палітызаваная.

У гэтым матэрыяле я звярнулася да логікі дадатковасці, якая дапамагла мне зразумець і прааналізаваць неад'емную палітычную прыроду галіны жаночай гісторыі; я лічу, што гэта тая «тэорыя», якая дапаможа нам зразумець палітыку нашай практыкі.

*З ангельскай пераклала Ірэна Ганецкая*

[43] Прыклад такога ігнаравання ролі феміністак у гістарыяграфічных дыскусіях можна знайсці ў матэрыялах спецыяльнага форуму па гісторыі і крытычнай тэорыі ў: *American Historical Review* 94 (June 1989). Ніводзін з артыкулаў не прызнае ўплыву феміністкай гісторыі (ці афрыканскай, ці гісторыі геяў і лесбіянак) на эпістэмалагічныя праблемы, якія паўсталі перад навукай. Гл.: Harlan, D. Intellectual History and the Return of Literature; Hollinger, D. The Return of the Prodigal: The Persistence of Historical Knowing; Megill, A. Recounting the Past: 'Description', Explanation, and Narrative in Historiography // *American Historical Review* 94 (June 1989), адпаведна 581—609, 610—21, 627—53.

# Іменны паказнік